УДК 882.6-8(082)
ББК 84(4Бен)6
П68

Укладальнік
*Ірэна Бутовіч*

Мастак
*Валерый Шкаруба*

Вершы да карцін
*Міколы Мятліцкага*

ISBN 985-02-0517-2

*Мікола Маляўка*

**АТАМНЫЯ ВУЛКАНЫ**

На зямлю маю, напэўна,
Бог спагадным вокам глянуў —
І на ёй, крынічнай, спеўнай,
Не было здаўна вулканаў.

Клаў народ жыццё на плаху,
Ды прайшла вайны навала —
І стыхійнай смерці страху
Мы не ведалі, бывала.

Там, дзе красавала ніва,
Там, дзе дыхаў луг духмяны,
Самі мы ўзвялі рупліва
Станцый атамных вулканы.

Гаспадарылі як дзеці,
Бы рэактар выбуховы —
Гэта ж тая печ надзейная,
У якой палаюць дровы.

І вулкан жыццё захмарыў,
І цяпер яшчэ, патухшы,
Ён нявечыць нашы мары,
Нашы сэрцы, нашы душы.

Расцяклася скрозь імкліва
Лава страшнай небяспекі —
Апаліла нашы нівы,
Атруціла нашы рэкі.

На зямлю маю, напэўна,
Чорт нядобрым вокам глянуў —
І павіс над ёю, спеўнай,
Вырак атамных вулканаў.

## *Генадзь Бураўкін*

* * *

Той чарнобыльскай ноччу,
Як у жудасным сне,
Напамінам прарочым
Скаланула мяне —
Бліскавіцай урану
Можна свет спапяліць.
І пякельнаю ранай
Мне Чарнобыль баліць.

Больш не радуюць кветкі
І не клічуць грыбы.
Не магу я быць гэткім,
Як да гэтага быў.
Роздум змрочным тыранам
Будзе роспач цвяліць.
Незагойнаю ранай
Мне Чарнобыль баліць.

Што пакіну я ўнуку?
Што я сыну скажу?
На людзей і навуку
Я іначай гляджу.
І віной дараванай
Гора не адбяліць.
Невылечнаю ранай
Мне Чарнобыль баліць.

Як ва ўсім разабрацца
Нам без жудасных сноў,
Каб агонь радыяцый
Не ўзвіхурыўся зноў,
Каб не слалі праклёну
Нам ні лось, ні мядзведзь?..
Будзе, будзе да скону
Мне Чарнобыль балець...

*Максім Лужанін*

## ЧАРНОБЫЛЬСКІ ВЕЦЕР

Вёска.
Золак.
Зор скупая жменька.
Сама раз турботы пачынаць.
Анікім-кагенька, анічым-чагенька,
Не чутно ні вераб'я, ні певуна.

Можа, пад нядзельку позна спаць палеглі,
Ціха і ў суседзяў на двары.
Дзе ж ты, дзядзька Лаўрык, дзе ж вы, цётка Тэкля?
Было ўсюды поўна вас аб той пары.

Дзверы незамкнуты. Выйшлі ненадоўга:
Можа, дзе бяруць баравікі,
Ці каровы пасвіць выпала радоўка,
Ці ў царкву на споведзь клікнулі грахі?

Пэўна, заблудзіў я, не туды прыехаў,—
Мне павінен ціўкнуць голас хоць адзін...
З вокнаў хат гарбатых вецер гоніць рэха
Пад крыжы.
За вёску.
З палыну ў палын.

## *Васіль Зуёнак*

* * *

З кратэраў —
Як з картатэк,
Дзе стагоддзі планеты
Зафіксаваны,
Аднойчы выбухне
І наш, дваццаты, век,
Д'яблам
Яшчэ пры жыцці
Кананізаваны.

Калі гэта будзе? —
Праз тысячу год
Ці мільён —
Не сказаў Настрадамус,
Не вылічыў Глоба...
Адно толькі пэўна:
Між полымя і грымот,
Як праклён,
Прамаўчыць землятрусна Чарнобыль.

Гарбачоўскага кратэра
Мёртвы пагляд
Не раскратае
Д'ябальскіх знакаў сакрэтных,—
Толькі атамны вецер, прасторы і часу распад,
Як было да стварэння свету,
І дзеці —
Заплачуць — з дваццатага веку —
Над Прыпяццю дзеці...

*Уладзімір Паўлаў*

## МУЗЕЙ ІВАНА МЕЛЕЖА

Глінішча. Мокры сняжок
З дробным дажджом перамешаны.
Веснічкі. Новы дамок,
Зрублены ў памяць пра Мележа.

Мы адкрываем музей —
Жыццяпіс з творчасцю сплаўлены.
Свет і шырэй і вузей
Будзе тут вам, Іван Паўлавіч.

Першымі ў двор і ў дамок
Госці здалёку запрошаны.
Мабыць, аднекуль дымок
Слёзкі збірае гарошыну.

...Дзіўна, аж стуль пра адно
Гэтыя годы ўсе думаю:
Каб вы жылі там,
Акно
Стала якое любімае?

Тое, напэўна, ў якім
Стукалі б сонцу не бавіцца.
Паадчыняўшы ў бакі,
Дыхалі б свежаю раніцай.

Ў тым ці была б навіна,
Новае што б нам даводзіла?..
Цень ваш мільгнуў ля акна,
Што на Чарнобыль выходзіла.

## *Браніслаў Спрынчан*

* * *

В голубом поднебесье
Рассевается мгла,
А дела на Полесье —
Как сажа бела.

Где они, хлеборобы? —
Древний Брагин грустит.
А зловещий Чернобыль
Всё коптит и коптит...

Половодьем озона
Заливая низы,
Жизнью мертвая зона
Пахнет после грозы.

Поднимается жито
В человеческий рост,
Но с высокой орбиты
Наземь валится дрозд.

Лучевая отрава,
Лучевая болезнь.
Но какие здесь травы —
Не пройти, не пролезть.

Их бы выкосить надо,
Их бы высушить в срок,
Но частицы распада
Отравили их сок.

Соловьиная песня
На заре замерла.
Да, дела на Полесье —
Как сажа бела.

*Генадзь Пашкоў*

## СТРАХ

У лагеры
дзеці з Нароўлі,
што сілы павінны набраць,
суніцаў
пунсовыя кроплі
баяцца па лесе збіраць.
А мучыць
не засцярога
ад ёдавых
рыжых дажджоў.
Палохае сэрца малое
машына з чырвоным крыжом.
І купіна гэта глухая —
нібыта ў краплінах крыві,
што з пальцаў малых
выціскаюць
так часта цяпер дактары.

*Уладзімір Скарынкін*

## НАРАЎЛЯНСКІ БЭЗ

Духмяны
раскідзісты бэз
У прыцемку выбег з Нароўлі —
Далей ад бунтоўнай АЭС,
Далей ад злавеснай будоўлі!
Далей ад смяротных дажджоў,
Далей ад пакут і напасцяў...
Чаму ж я ў букеце знайшоў
Так многа пялёсткавых шчасцяў?
Ніколі не суджана быць
Шчасліваю рыбнай старонцы.
Шмат гвалту і бед нарабіць
Паспелі тут цэзій і стронцый.
І бэз,
і чарэшань гурму
Працялі,
як тых дэманстрантаў...
Відаць,
у суквеццях таму
Так многа,
так многа мутантаў.

## *Казімір Камейша*

### У 30-КІЛАМЕТРОВАЙ ЗОНЕ

Смерць прыходзіць сёння не з касою,
Вобраз гэты надта састарэў.
Твар яе у той страшэннай зоне
У абліччах іншых я сустрэў.

Смерць была і яблыкам і грыбам,
Смерць расла на лузе і градзе.
Смерць плыла ў канаве стромкай рыбай
І ласём няслася па бядзе.

У дварышчах, крапівой зарослых,
З ёй гулялі куры і каты.
Сталі смерцю пыл,
дажджы
і росы,
Нашы дахі,
сцены
і платы.

Кажуць, быў ты ціхім, беларус,
Мы ж цяпер зусім як анямелі.
Самі па сабе акамянелі
Хлеба кус
І нават сала брус.

Не, ніхто стагоў тут не стагуе,
Слова не аброніць і слязы.
І малітву цяжкую,
даўгую,
Самі сабе шэпчуць
абразы.

Дрот рукой нябачнай радыяцыя
Ля дарог раз'юшана ірве.
Зона праз лясы, палі
і нацыю,
Праз той страшны радыус плыве.

Радыус той болем толькі мераць.
Валіць лес стамлёная піла.
Зона не праз трыццаць кіламетраў,
А праз сэрца кожнае прайшла.

## *Раіса Баравікова*

* * *

Усцяж дарогі чорныя крыжы,
усцяж дарогі белыя рамонкі.
Пунсовыя адценні на шашы,
то ціхі шэпт, то водгукі гамонкі.
Раптоўны крык...
                    Пунсовага няма!
Прырода нікне, гіне фарбаў безліч,
але вядуць чырвонага каня
для чалавека, што ступае безвач.
Стаю, гляджу ўтрапёна на шашы,
на месцы слупянею, зрок губляю...
Чаму, чаму мне белыя крыжы
ўсё чорныя рамонкі ў твар шпурляюць!

## *Галіна Булыка*

* * *

Ноч звар'яцела з цемрадзі нішчымнай.
Павялі свечкі ў кінутай царкве.
З заплаканай сцяны
сышла жанчына
І рушыла па пояс у траве...

Чыя хаціна?
Ні агню, ні дыму...
Пустыя вёдры выйшлі на парог.
Над ручнікамі з дрэвамі рудымі,
Над хаднікамі
Мёртвы пыл прылёг.

Зваўчэлыя сабакі ўзвылі блізка —
Дух чалавечы незнаёмы ім.
Свяцілася астылая калыска.
Чарнеўся німб над боханам сухім.

І мовіла Марыя, ўзняўшы вочы:
«Які ж быў грэх,
калі такі праклён?»
І да грудзей яе
гарнуўся хлопчык.
І з малаком смактаў атруту ён...

## *Леанід Галубовіч*

* * *

Свой белы верш пра чорную бяду
Пішу не для прыхільнікаў паэзіі —
Пішу я для прыхільнікаў жыцця
І ў тых імя, што так жыццё любілі.

Як быў далёка горад той ад нас,
Ад нашых вёсак, гарадоў і хатаў,
Што нават і не ведалі, што ёсць
Ён на Палессі з назваю Чарнобыль.

І раптам — блізкім стаў ён, як сусед —
Пенсіянер, што не залечыць раны.
Так блізкі, як суніцы ад рукі
У нашым лесе, як вада са студні...

Як светлая дзяўчына, у якой
У клініцы прызналі лейкемію.
А ёй — семнаццаць. У двары — вясна.
І пад акном насвіствае пагодак...

Што розум наш без мудрасці?! Заўжды
Ён небяспечны для ўсяго жывога.
Рука тварца без мудрасці — карае.
І ў гэтым вінен не адзін тварэц,
А ўсе мы, як падсобнікі задумы.

...Не з раніцы да вечара жывём.
Жывём ад чалавека к чалавеку.
Дай Бог дажыць нам ад сябе да ўсіх!
Дай Бог ва ўсіх пазнаць Сябе самога!

*Валянціна Аколава*

## ПЕРАСЯЛЕНЦЫ

Вясны пажар збалелы, нібы нервы:
Чарнобыля аскома — на гады!
І падае на крылы сонца неба.
І Прыпяць адплывае ад рукі:

І ў слове жах падзей: «Пе-ра-ся-лен-цы!»
Мае ж суседзі — з брагінскай зямлі —
Ліфт па-сялянску называюць сенцы.
І носяць на балкон пучок калін.

А пра Буйкі, што вёскай называлі,
Гавораць, як пра Бога на крыжы...
І першацвету ліпавага хвалі
Расквечваюць над Мінскам шэпты: «Жыць...»

І дыялект палескі гасне ў зорах...
А гараджанам — сорам з мовы той,
Што мазалём бацькоў была заўчора,
А сёння называецца святой.

І што, мой век, сказаць у апраўданне
Ты можаш тым, хто сем бядот сустрэў
І пры слязе пякельнага расстання
На далані радзімы не згарэў.

І, Беларусь, імя тваё і славу
Не зачарніў трагедыямі дня...
І болем выспелі ў палыну травы,
І ад Зямлі — дыханне не адняў.

*Віктар Гардзей*

## ЧОРНЫ РОДЖАР

Мора тут няма, і карабелы
Рады бруднай прыпяцкай вадзе,
Але там, дзе віўся ветразь белы,
Чорны Роджар сёння рэй вядзе.

Сасянкі, пагоркі ды балота.
Рэшткі хат украплены ў пейзаж.
Людзі Флінта ў моры Герадота
Узялі жыццё на абардаж.

Белы ветразь мрояў і надзеі
Знік у хвалях, мабыць, назаўжды.
Калыхнуў імглу, што не радзее,
Чорны Роджар смутку і жуды.

Тут фарватэр мелямі багаты
І прапалі бакены ў туман.
Вам здабычу не спажыць, піраты,
Вас чакаюць буры, капітан.

Вецер сціх, ды мала суцяшэння.
Боль цячэ па выспах, па дрыгве.
Чорны Роджар да свайго крушэння
На агні Чарнобыля плыве.

*Алесь Камароўскі*

## ЧАРНОБЫЛЬСКАЯ КАЛЫХАНКА

— Мама, мама,
Там, у зоне,
Засталася лялька Галя...
— Спаць, дачушка,
Трэба сёння...
Ёсць жа лялька ў нас
Другая...

— Мама,
Ёй адной там
Страшна,
Яна просіцца,
Сумуе...
— Спі, дачушка...
Лялька наша
Хату сёння
Там вартуе...

— Ну а заўтра?
Заўтра, мама?
Яна прыйдзе к нам
На святы?
— Не, дачушка,
Бо таксама
Не пакіне нашай хаты...

Маме ў вочы
Горкай солі
Сыпнуў
Успамін аб зоне...
Без любімай лялькі
Сёння
Не заснуць
Маленькай Соні...

*Віталь Гарановіч*

## ПАМЯЦІ НЕМАЎЛЯЦІ

Спіць дзіцятка роднае
Непрабудным сном.
Раніца халодная,
Вусціш за акном.
Ком сцінае горла —
Чорная жуда.
Птушанятка ўмёрла,
Выпаўшы з гнязда.
Выпаўшы з гняздзечка
Роднае сям'і,
Як іскрынка свечкі,
Зернетка зямлі.
Сохне сэрца маці,
Бацькава — гарыць.
У аціхлай хаце
Цяжка гаварыць.
Без грахоў і злосці —
Сонечным святлом —
На дзянёк у госці
Заляцела ў дом.
І, аддаўшы родным
Ручанькі цяпло,
Адыходзіць згодна
Ў вечнае жытло.
Будзь, зямліца, пухам
Дзённа і ўначы,
Да Святога Духа
Дзетку далучы.
Станецца ў дамоўцы
Цёпленька рукам,
Мякенька галоўцы,
Роўненька нагам.
Атам-яд Чарнобыля
Знішчыў немаўля.
Стала непрыгоднай
Для жыцця зямля.

*Вольга Куртаніч*

## ГОРАД

Гэты горад і дождж... Непасрэдная злітнасць.
Я жадаю не меней сысці ў гэты дождж,
Чым бялюткія кроны вясновай эліты,
Што люструе аблокамі іх
неба-Сож.

Гэты горад і дождж.
І мой крок несупынны.
Уздоўж цела сцякае вада, нібы воск.
Мой атручаны горад. Самотны нявіннік.
Перакрэслілі мокрыя ніці
наўскос.

Гэты горад, дзе дождж...
Катадральным саборам
Ты на пляцы Айчыны стаіш да нябёс.
Над табою ляцеў быў
бязлітасны воран,
Супакоіўся.
Попел чарнобыльскі строс...

Гэты горад і дождж...
Гэты воран і Сож...
Чакацьме...
Чаго ж?

## *Кастусь Жук*

### БЯДА

Паляць грудзі мне вогнівам
скруха, адчай —
І штоноч
я крычу ад кашмарнага сну.
Родны край, любы край,
ты мяне прабачай,
Што бяду тваю
сэрцам не захінуў.

Спудна стукае ў скроні —
набатам! —
жуда,
Працінае да болю,
вярэдзіць душу.
Чую:
прашчур варочаецца
на кладах,
Праз магільныя травы
адчуўшы жуду.

Бачу:
ў вёсках сіротна
стаяць жураўлі,
Плачуць зернем
нязжатыя ў зоне жыты,
А камбайны не йдуць і не йдуць на палі...
І не вяжуцца думкі,
што немачны ты
Перад гэтай стыхіяй,
лядашчай, як мор,
Перад гэтай атрутай,
нябачнай зусім.
Тут на гора
не быў і ў вайну недабор,—
Гора й зараз
прайшлося па Белай Русі.

Ад някошаных траў
волка пахнуць лугі,
Па начах — бэры звоняць трывожна ў садах...

Край палескі,
край, сэрцу майму дарагі,
Ты сабою прыкрыў
страшны ядзерны жах.

Знаю: ты ажывеш, запульсуеш...
Але
Ад няпрошаных дум — не схавацца нідзе,—
Будзе моцна балець,
будзе доўга балець
Гэта скрушная памяць
у сэрцах людзей.

*Міхась Пазнякоў*

## КУТОК МАЛЕНСТВА

Заброддзе, Глухі і Усходняе.
Дарогі і блакіт нябёс —
Усё знаёмае і роднае
І незабыўнае,
Да слёз.

Нішто так сэрца не кранае,
Як гэты край найдарагі.
Іду — вось ніва залатая,
Вось першыя духмень-стагі.

Вось па-над плотам спеюць вішні,
Гарыць сланечнік на градзе,
Вось васількі на ўзмежак выйшлі,
Сцяжынка да ракі вядзе.

Куток маленства!
Мне сягоння
Тваёй не вырачы бяды.
Пра стронцый
Навакол гамоняць
І плачуць
Неба і сады...

*Марыя Гудкова*

**КРЫК**

Сыночак, ты адзіны ва ўсім свеце,
Каго, як звар'яцелая, люблю.
І ты ў бальніцы...

Кожнае прыкмеце
Я давяраю і жыццё малю
Аб літасці.

Яшчэ дымяцца трубы
Над горадам,
Дзе нарадзіўся ты.

Сам чалавек
Наблізіўся да згубы
Ад раўнадушша
І ад глухаты.

Няўжо
Ніхто
Табе не дапаможа,
Не зніме боль
З грудзей, ледзь-ледзь жывых?

І калі ёсць,
Усемагутны Божа,
За што караеш
Хлопчыкаў малых?!

*Мікола Трафімчук*

## ДЗВЕ ЭПОХІ

Дачарнобыльская эпоха!..
Пяцігодкі — у тры гады...
Абскакаць захацелася Бога
І героямі стаць назаўжды.

Пасадзілі сады ўверх карэннем
Пасярод пыльных бур, мерзлаты.
Пяцігодка для ўроду... Нядрэнна!
Мала, плён каб сабраць, тры гады.

Мала ў лозунг і колер паверыць,
Нельга невукам верыць, лгунам.
І даўжэла-вышэла з паперы,
З абясцэненых бляшак сцяна.

За сцяной гэтай не ўратавацца
Ад сумлення і стронцыю. Жах!
Як дрыжэла зямля ад авацый —
Так Чарнобыля дол задрыжаў.

З-пад чыноўнікаў крэслы ён выбіў,
Раскалоў, скасабочыў сцяну...
...Паміж крыўдай і праўдаю — выбух.
Між эпохамі — пах палыну.

## *Зінаіда Дудзюк*

### ЧДУ[1]

Чытаю «раёнку» — сляза на вачах
Ад гэтай пачварнай абрэвіятуры.
Плятуцца ў артыкуле словы панура,
Што ўсіх паратуе і вылечыць час.

Чарнобыльскім горам азмрочаны край,
Узровень часовы, таму дапушчальны.
Змірыліся, нібыта ён даравальны,
А смерць і нядужасць не дакарай.

Усё дапушчальна, калі дапускаем:
Разбой і нікчэмнасць, убоства і хлуд.
І горбіцца зябка пад доляю люд,
І ходзіць між намі не мечаны Каін.

На колькі пакутных разлічана год
Часовасць жыцця і часовасць хваробы?
Здаля пагражае часовасць народу,
Гісторыя помніць і гэткі зыход.

Нахабна запоўнілі лёсаў працяг
Атрутныя думкі, атрутныя словы.
Бяда, што і сёння ад крэслаў часовых
Залежыць заўсёднасць зямлі і жыцця.

---

[1] ЧДУ — часова дапушчальны ўзровень радыяцыі.

*Хведар Гурыновіч*

## РОДНЫЯ СОСНЫ

Там, дзе шукаў найлепшы наш празаік
Правобразы для хронікі сваёй,
Палешукі, сумеўшыся, казалі:
— Навошта толькі пакідаць жыллё?

Яны на ўсход маліліся да сонца,
Карэннемураслі ў балота тут.
І не хацелі й чуць пра нейкі стронцый,
Што заляцеў з рэактара ў іх кут.

Былі яны былінцы кожнай рады
На гэтай потам зрошанай зямлі.
Што выганяе іх надоўга радый,
Яшчэ ніяк паверыць не маглі.

Але забіты ўжо крыж-накрыж вокны
І спушчаны сабака з ланцуга.
Змахнуў стары крадком слязіну з вока:
— О Божухна, якая ўсё ж туга...

Выгнаннікі? — Пад плот са стогнам сеў ён,
Дзе прадзяўблася цёплая трава,—
Эх, самая пара гарод засеяць...
І камячок зямлі пацалаваў.

...О край апеты, любы, нешчаслівы,
З вялікаю трывогай у вачах!
Як крапіва ў дварах цвіце шчымліва,
Сабака як скуголіць па начах!

Як апантана ўверх імкнуцца сосны,
З надзеяй узбягаюць на грудкі
І не спускаюць воч са сцежкі роснай...
Ці вернуцца дамоў палешукі?!

## *Мікола Ждановіч*

* * *

Час мяняе звыклыя погляды,
Час гісторыю поўніць датамі.
То казалі: «Усе пад Богам мы»,
Сёння кажам:
«Усе — пад атамам».

Запякаецца боль Чарнобыля,
Як малітва на вуснах веку.
Ды нязменнай усё адно была
Чалавечнасць у Чалавеку.

Непакоем-тугой аб родным
Апякае той боль шточасна.
Боль Чарнобыля — боль народны,
Боль Чарнобыля — мой уласны.

Дык няхай жа у сілу кратную
Ён абернецца неўзабаве.
Вісне бусел над кінутай хатаю...
Жыццё правіць...

## *Змітрок Марозаў*

### ЗОНА

За дротам — хворыя гаі.
Палі і хаты апусцелі.
Чарнобыльскія салаўі
Звіняць, нібыта звар'яцелі.

Мо гэта рэквіем па тых,
Што адляцелі назаўсёды?..
А мо аплакванне жывых,
Смяротна хворае прыроды?

## *Генадзь Мяцеліца*

### КАНЕЦ СВЕТУ

Між зор на небе свеціцца таўро,
Прадбачыць скону горкую гадзіну.
І груганы, як мёртвую дзічыну,
Зямлю дзяўбуць і цэляць у нутро.

На паплавах, павылезшы з вады,
Русалкі брэшуць, выюць, як сабакі,
І валасы ірвуць, паўзуць, як ракі,
І напаўняюць тлумам гарады.

І здранцвянелы лес гудзе, і поле,
Засмяглае, з праваламі маршчын,
Як грудзі у знямоjаных жанчын,
Ўжо страціла надзею лепшай долі.

Вось сонца круг праз вышчарблены край
Дубцамі прамянёў заб'е трывогу.
І як праклён гучыць: падобным Богу
Не стаў ты, чалавек, і страціў Рай...

## *Мікалай Віняцкі*

### САНЕТ

Акрыў яе Чарнобыля пыл горкі,
Зямлю маю — гаротніцу ў імгле,—
Маліў: трывай, ад цэзію не млей,
Як бы ні нылі раны дзейнай коркі...

Каб у вярхах пагляд быў дальназоркім,
Не зведала б тых ёдзістых залеў...—
З крамлёўскае руціны розум тлеў
Валадароў, быць вартых для задворкаў...

Як страціў спеўны срэбразвон сасоннік —
Няўроды хлебныя нясе вясна,
Дубняк з плутонію маркотна сохне...

І хмурацца маршчыніста разоркі...
Каб з ачмурэння выйшла хоць яна —
Пяшчотай, Сонейка, асып узгоркі...

## *Уладзімір Мазго*

### ДЭЗАКТЫВАЦЫЯ

Змываем пыл,
                    якi пускалі нам у вочы
Да лозунгаў і рапартаў ахвочыя,—
З дарог палескіх
                    і уласных твараў,
З жытнёвых ніў
                    і сонечных абшараў.
Свідруе набалелае пытанне:
Ішлі наперад
                    і не бачылі таптання?
Таму што пыл пускалі нам у вочы
Да лозунгаў і рапартаў ахвочыя.
Пісалі
          ці заводзілі раманы,
А моладзь ачмуралі наркаманы.
Не знаді
          ці баяліся пагудкі,
А кодэкс распіналі прастытуткі...
Змываем пыл,
                    якi пускалі нам у вочы
Да лозунгаў і рапартаў ахвочыя...

## *Васіль Жуковіч*

* * *

Бывай, бывай, дваццатае стагоддзе!
Душой збалелай не магу крывіць:
стагоддзе слёзаў горкіх і крыві,
на цяжкі смутак ты душу наводзіш.

Жах войнаў і рэпрэсій ці сыходзіць?
А чорны след чарнобыльскай бяды?..
Мая краіна, пойдзеш ты куды?
Няўжо ты здрадзіш праўдзе і свабодзе?!

Як без паветра, я без іх загіну.
Дай веры мне: не пойдзеш па касцях,
ты болей не заблудзішся, Краіна;

да сонца ўскінеш горды продкаў сцяг,
з туману ірвануўшы на прасцяг,—
цябе даўно чакае шлях адзіны.

## *Сяргей Давідовіч*

### МАЛІТВЫ

Я чую, як моляцца ў розных кутках
Зямлі нашай змучанай розныя людзі.
Іх сэрцаў знявечаных чуецца плач,
Я чую малітвы, малітвы, малітвы:

«...О праведны Божа! Скажы, для чаго
Усіх нас сагналі з уласнай зямліцы?
Чаму замест хлеба даюць працадні
І пухнуць ад голаду нашыя дзеці?
Агульнае ўсё — а нічога няма,
Былі мы людзьмі, а зрабіліся статкам.
Цяпер без дазволу і рот не адкрыць,
Мы нават маліцца не маем дазволу...»

«...О Божа! Няўжо ты заснуў ці аслеп?
Зірні на знявечаных, невінаватых,
Мы ў змрочных бараках жывымі гніём,
Тут кожны з нас гіне як «вораг народа».
Мы штосьці будуем на ўласных касцях,
У чым вінаватыя мы — невядома.
Адчай, безнадзейнасць, пакуты, туга
І смерць наша з намі за дротам калючым...»

«...А вось шматмільённае: — Божа, ратуй
Жыццё наша горкае, нашу зямліцу,
Не дай нашым дзеткам загінуць, згарэць
У полымі жудкім вайны ненавіснай!
Чаму ты разгневаўся, Божа? За што?
Ці ж мала ты гора нам слаў і пакутаў?
Паслухай, як жудасна стогне зямля,
Як маці рыдаюць і плачуць сіроты...»

«...Адзіны сыночак, крывінка мая,
Далёка ад роднага дому загінуў.
Што мы там згубілі, шукалі там што?
Якую ідэю мы там баранілі?
А што беларускі юнак і душман
Маглі падзяліць між сабой? Невядома...
Ці будзе нарэшце злачынствам канец?
Ты, Божа, і сам не адкажаш на гэта...»

«...На гэтай зямлі пакідаем усё —
Дзяцінства, юнацтва, каханне, надзеі,
І вечную роспач, і вечны наш боль,
І цёплыя ложкі, і магілкі родных...
Зямля, што заўсёды, спрадвеку была
Сагрэтая працай, палітая потам,
Якая карміла і продкаў, і нас,—
Ужо не зямля нашых продкаў, а зона.
Жывыя і мёртвыя — хто мы цяпер?
Мы — выбуху цені, ахвяры сістэмы.
Мы зніклі — ні нас, ні жыцця тут няма,
Як помнік злачынству — ёсць мёртвая зона.
О, злітуйся, Божа магутны, скажы,
Няўжо й радыяцыі нам не хапала?..»

# З дарог зоны

*Рыгор Барадулін*

## ПЕРШЫ СНЕГ

Снег ніяк не ўпадзе. Адзін сняжок быў упаў, дык радыяцыя павялічылася ў 7 разоў. Лепш, каб ён не падаў пакуль...

*З ліста Уладзіміра Верамейчыка ад 12 снежня 1986 года з Ведрыча*

Першы снег дырэктару школы
(Ёй аддаў 23 гады)
Не такі пяшчотны і кволы,
Не такі чаканы, вясёлы,
Як ён сеяўся заўсягды.
Падае першы снег на долы,
Белымі слязьмі на клады.

Вучні хочуць гуляць у снежкі,
Рэху горача ад уцех.
На дырэктарскіх дум узмежкі
Выпадаць сабраўся без спешкі
З неба маннай спадманнай снег.
Смутак зырыць з-пад кожнай стрэшкі,
Брэх якоча, смялее смех.

Мендзялееўская табліца
Зразумелай робіцца ўсім.
Першакласнік і выпускніца
Элементы ведаюць, сніцца
Сцяты атам, мірны зусім,
І прарока Іллі калясніца
Забаўкаю здаецца ім.

Прамянець,
Апраменіць,
Праменьчык —
Словы сэнс памянялі свой,
І шпурляе адчай каменьчык
У гарод з буянай травой.
Пазірае на снег Верамейчык
З пасняжэлаю галавой.

## КУДЫ ВЕЦЕР ВЕЕ

Тучка по небу плывет...
*А. С. Пушкін*

Хмарка небам праплывае,
Незямная чараўніца,
Палавее палавая,
Прагнучы распрамяніцца.

Следам,
Як за маладухай,
Шаферамі верталёты.
Вухам слухай,
Нюхам нюхай,
Чым закончацца залёты.

А такія заляцанні
Пазначаюцца на карце,
Дзе пральецца,
Дзе прыстане,—
Ўсе дазіметры на варце.

Расстраляюць маладую,
Толькі не туды скіруе.
І, канаючы, шкадуе
Хмарка ўсю зямлю сырую.

Сплanаваная памылка
Небакрай журбой аздобіла,
Не бабылка-чарнабылка —
Гэта хмарка
Ад Чарнобыля.

## НА ТЫМ СВЕЦЕ ВУГАЛЬКАМІ

Гэты сумны жарт
Асвечаны вякамі:
Разбярэмся
На тым свеце вугалькамі...
Паквітаемся з даўгамі,
Разбярэмся,
Толькі трэба
Дроў бярозавых бярэмца.

А сягоння
І на гэтым свеце собіла,
Не гаворачы сякераю
З беразнякамі,
Беларусам
Разабрацца вугалькамі,
Вугалькамі, што з рэактара,
З Чарнобыля...

## ЯК У КАЗЦЫ

Казка робіцца явай сёння:
Бабка любая ў зоне,
Тупаць не захацеўшы пехаць,
Можна ў госці ехаць
На печы,
Можна ў космас ляцець
На печы,
Як на ракеце,
І гасцяваць у Сусвеце,
Пакуль здароўе трывае.
Бо ад Перуна ў сакрэце
Паліць печку сваю
Радыеактыўнымі дрывамі.
А дзеці і ўнукі
Лахі пад пахі —
І папкі —

І абтрэслі рукі
Ад радыеактыўнай бабкі.
А бабка
Радыё слухае,
Як яно лье з паслугаю
На патэльні маны
Ялей,
Дзе пякуцца абяцанак бліны.
Бабка жыве, як у казцы:
Чым далей, тым страшней.
І яшчэ даплочваюць бабцы
Трыццаць такіх нявінных
Рублёў дамавінных...

## АПАКАЛІПСІС

Бог пройдзе басанож Нябесным Поплавам,
Пярун прытоіцца за хмарным тынам.
Планета галаву пасыпле попелам
Радыеактыўным...

## МАЛІТВА НАСТУПНАСЦІ

Хай свеціцца імя Твае,
Беларусь,
У стронцыі, цэзіі, ліціі!
Як і ва ўсе вякі,
Душу быць ласкавай змусь,
Дазволь слязам,
Ужо радыеактыўным,
Ліцца.
Хай свяціцца імя Твае,
У палыновым вянку,
Гаратніца.
Хай цвіце твой дзядоўнік
Калючы, таму што безабаронны.

У цябе на слыху перагукваюцца
*Радыяцыя і Радаўніца.*
Чакаючы ў гнёзды буслоў,
Дагніваюць на ліпах бароны.
Хай свя́ціцца імя Твае,
Маці Сумная!
Хмару радыеактыўную
Хусцінай ад Бога
Ты на самыя вочы насунула —
Не чуеш, не бачыш
Нічога.

## ЖАЛОБА

Пасля чарнобыльскае навалы
На Беларусь прыпала
210 — з 300 —
Хірасім.
Хапіла ўсім.
Атам
Зрабіў Беларусь удавою.
А ва ўдавы
Не зачыняюцца хлявы,
Павыпушчана гавяда.
Статак пасвіць бяда.
А ва ўдавы
Някошаныя паплавы
І пожні някошаныя,
Госці запрошаныя
З ласкі бяды.
На Дзяды.
Маўклівы кат
Не мыліць пятлі.
На нашай зямлі
Ці паўторыцца наш працяг?
Ці ў жарстве захаваецца след?
Як стронцый трашчыць
У нашых касцях,
Ці чуе свет?

*Мікола Мятліцкі*

## ПЕРАПЁЛКА

У краі маім, дзе маркоцце сну,
Дзе ветру у росах золка,
Жыта шукае якую вясну
І не знаходзіць ніяк
Перапёлка.

То смутна кінецца ў бок адзін,
То ў бок другі скіруе лёт —
Толькі быльнёг,
Толькі палын,
Толькі калючы іржавы дрот.

Сядзе змарнела на куст лазы,
Так не знайшоўшы нічога.
Скоціцца зыркая іскра слязы
З вочка яе малога.

Выбліснe яра над вёскай зара,
Ўзрушыцца голас грому.
Так і лятае,
Сваё «жаць пара»
Не абраніўшы нікому.

## ВЕЧНЫ СКАРБНІК

*Светлай памяці*
*Аляксандра Максімавіча*
*Зелянкоўскага*

У хаце, каўтаючы соль слязы,
Памяць сцены сагрэе.
Смерці расстайна рыпяць палазы.
У шыбіны б'ецца завея.

Толькі ў нямоце скрутных гадзін
Сутнасці значыцца вектар:
З рэчамі ў хаце адзін на адзін
Скарбнік — музейны дырэктар.

Знакі прасветлай жывой даўніны
З немасцю скутай зоны
Вывезе дбайнік сівы — чыгуны,
Ступы, начоўкі, іконы...

Тут пад вільготным магільным тхлом
Звычнага побыту рэчы
Дыхаюць жарка нязбытым цяплом,
Клопатам чалавечым.

Колькі прайшлося варожых зграй,
Больш, як калоў у тыне.
Ды ўпершыню прадзедаў край
Вечнай пустэчай стыне.

Журыцца, плача голас завей
Над чалавечым следам.
Сёння зямля ўся — адзіны музей
Нашых трагедый і бедаў.

Сам ён вяртаўся з поля вайны
Ў сцены бацькоўскай хаты...
Куфры, услоны, сталы, чыгуны —
Новай бяды экспанаты.

Кажуць яны, паланёныя мглой,
Ў ядзернай крутаверці:
Сталася хата твая нежылой,
Адваяваная ў смерці.

Ў далечах часу — бы Калізей
Ў тысячагоддзяў тумане —
Хойніцкі краязнаўчы музей
Сведкам трагедыі ўстане.

Суха каўтнуўшы шчымотны боль,
Там, на славянскім вечы,
Скажуць пра нас за тамы ўсе больш
Звычныя хаты рэчы.

Смутна сціраюць слязу рукавы.
Ў вёсцы, што стала пустыняй,
Горка схіляецца скарбнік сівы
Па-над матулінай скрыняй.

## 16 ВЕРАСНЯ 1999 ГОДА

Промень бліскае злы,
Дзікаросаў цыбатыя краты.
Едуць свету пасль
Пазірнуць на пустэльныя хаты.

Гулам зоны дарог
Адзываецца памяць жывая.
Вось ён, смерці парог,
Вока горкай слязы не хавае.

Гэта вёска мая
Ў травах дзікіх устала прывідам.
Боль глытаючы, я
Стану вашым на вуліцах гідам.

Хмар дажджыстых імжу
Праганю, як ліхое напасце.
Слёзы ўцёршы, скажу
Пра пагаслае ў хацінах шчасце.

У адбітках святла
Восень іншая ступіць сцягою:
Гэта вёска была
Гаманкой, працавітай — другою.

Не ачэзла старой,
Дзе жудота ды вусціш спакою.
Гэтай самай парой
Бульбу ўвішна капала рукою.

У смузе вечароў,
Рукі ўтомныя склаўшы, бывала,
Звычна з пашы кароў
Каля весніц адкрытых чакала.

Плыў над вулкамі пыл,
Калыхаўся на промнях заходу.
І ставала тут сіл,
Дужай рупнасці ўсім год ад году.

На цыраце стала
Бохан кроіла цёплы на лусты.

Шчыравала, жыла.
І унукаў насіла з капусты.

Гаварыла са мной
Мовай шчасця свайго трапяткога
Той апошняй вясной,
Не сказаўшы прарочага нічога.

Гляньце, блякла дрыжыць
Над хацінамі неба палоска.
Быць хацела і жыць
На планеце і гэтая вёска.

Сёння жудасцю страт
Вочы кожнаму горычна коле.
Вашых лёсаў і хат
Не кранецца хай гэткая доля.

Ні былля, ні лазы,
Ні атрутных вятроў прахалоды,
Ні падобнай слязы
Не спазнаюць хай вашы народы.

Промень бліскае злы,
Дзікаросаў цыбатыя краты.
...Моўчкі крочаць паслы
На падворак мне роднае хаты.

* * *

Хаціна ў палыне
Па вокны, як па вочы.
У кожным тут акне
Пагляд бяды сірочы.

Вятры з усіх бакоў
Ідуць будзіць світанні.
Не постаці бацькоў —
У травах смерці здані.

Быльнёг паміж масніц
Праціснууся, кудлаты.
На покуце сядзіць
Нязваным госцем хаты.

Сціскае сэрца жаль.
Ліст крапівы каляны
На смерці чорны баль
Бядой сюды пазваны.

Дзядоўнік ўцісся ў кут,
Як дзед чужы, старэчы.
Забылася, што тут
Скакаў агонь у печы.

І мама пры агні
Схілялася шторанне,
І грэла ў цішыні
Чало агню дыханне.

У коміне гуло.
Скакалі страшна цені.
Ды цёпла мне было,
Малому, на чарэні.

## Я ДРЭВУ СКАЗАЎ...

Я дрэву сказаў: як самотна табе
Гадамі на месцы нязрушна стаяць,
І гнуцца пад ветрамі хлёстка ў цяжбе,
І ў далечы толькі паглядам крыляць.

І дрэва сказала мне: іншых выгод
Напоўніцу маю без ліку я дзён.
Мне бачыцца сонца адзіны ўзыход,
І захад мне сонца адзіны відзён.

Няхай і прыкута пад небам стаю,
Ды ў глебе радзіннай мае карані.
Любіў бы ты гэтак радзіму сваю,
Не збег бы адгэтуль павек, не мані!

Быў тут бы заўсёдна, не ў свеце кружыў,
Прыняўшы вандроўца здарожаны лёс.
Любіў гарачэй бы і ўзрушней тужыў,
Не зведаў, магчыма б, чарнобыльскіх слёз.

Ты ў свеце, блукаючы, рушыў і сек,
Ля прорвы нябыту паўстаў на краю.
За твой над прыродай учынены здзек
Я ў атамным пекле сягоння стаю.

То вецер атрутны лісцё калыхне,
То промень пякучы усчнецца сляпіць.
Раз першы за век захацелася мне
Хоць некалькі крокаў ад зоны ступіць.

## ЧУТЫ БОЛЬ

*В. З. Протчанку*

Калі душу вятры астудныя
Скуюць у пошуг ледзяны,
Усцешся, дружа: мы не блудныя
У краю роднага сыны.

І болем мошчаная, вечная
Дарога брагінская мкне,
Вядзе да лёсу чалавечага,
Да промня ў матчыным акне.

І калыхнецца памяць плёсамі,
Смугой падсіненай Дняпра.
І ступіш ты пятою босаю
На ток бацькоўскага двара.

Ў бярозах ранішніх заблудзішся,
Дзе лось-рагач стажок скубе.
На хвілю светлую забудзешся,
Што край бацькоўскі у журбе,

Што пад пярэстымі аблокамі
Па жаркім цэзіі здаўна
Ступае ўзбудлівымі крокамі
Твая жахотніца-вайна,

Нясе аблавы дзеі помныя,
Пагоняй карнаю сіпіць.
Не спапяліць іх яве промнямі,
У новай скруце не ўтапіць.

І зноў глядзіш душой здарожанай
На сцены сшэрхлыя жытла,
Дзе зграя хіжая варожая
Дыханне маці сцерагла.

І боль нясцерпны далеч мацае
Забеглых у Зарэчча дзён,
І ападае радыяцыя
Прад жахам, што з вайны відзён.

Сышлі Чарнобыля ахвярнікі
З былiннай прадзедаў зямлі.
Пустыя хаты. Быццам карнікі,
Рэнтгены вуліцай прайшлі.

Ніхто ў сяле не павітаецца
Кіўком ссівелай галавы,
Пра чуты боль не дапытаецца,
Не ўсцешыцца, што йдзеш жывы.

## ЖУРАЎЛІНЫ РЭКВІЕМ

Жураўлісе чысціць журавель
Зорамі абвеяныя пёркі.

*Анатоль Грачанікаў*

Край палескі, стросшы пыл урану,
Жураўліна крылы распасцёр.
Анатоль Сямёнавіч, як рана
Вам падацца выпала да зор.

На зямлі Прысожжа згубна ціха,
Цэзіем апалены Днядро.
Кінула з-пад неба жураўліха
Бруднае ад стронцыю пяро.

Вось яно у промнях залатое,
Лёгкае, як аблачынкі бель.
Ці ачысціць ласкай пёрка тое
Над журбой Палесся журавель?

І пяро з пакутай чалавечай,
Кропелька нябеснай зіхаты,
Кружачы над ядзернай пустэчай,
На чарнобыль падае густы.

## БРАГІНУ

Сівых вякоў пагляд пахмуры,
Закуты ў лесавую ціш.
На ўскрайку ядзернай віхуры
Ты, поўны мужнасці, стаіш.

Калісь разбой ваярскіх сечаў
Размахам дзідаў і сякір
Твой люд бязлітасна калечыў,
Крывёй сцякаў на выспаў жвір.

Тут не кідалі бегла зброі,
Свабоду кроўна берагли.
Былін харобрыя героі
Сумленна ў роднай спяць зямлі.

Над ратнай мужнасці пуцінай
Самотна трубяць журавы,
Вайны апошняе, Айчыннай
Снуецца дым парахавы.

Па-хлебадарску самавіта
Зноў шчасце працы шанаваў:
Адклаўшы меч, ты сеяў жыта,
Суседзяў брагай частаваў.

Ды неба засцілася хмарай,
Абложна ядзернай гульбой.
Пякельна спусташальным жарам
Дыхнуў Чарнобыль над табой.

Ці светам вусцішна пачута
Бяды жахотная гразьба,
Твая нясцерпная пакута,
Твая славянская журба?!

Як і заўсёды, хлебасольны,
За шчодры стол гасцей завеш.
Душою чысты, духам вольны
Ты, поўны мужнасці, жывеш.

## *Валянцін Лукша*

## АНЁЛ ЧАРНОБЫЛЯ

*Заснавальніку міжнароднага фонду «Жыццё дзяцей Чарнобыля», кавалеру ордэна Францыска Скарыны за № 10, уручанаму яму Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь Аляксандрам Лукашэнкам, грамадзяніну Вялікабрытаніі Віктару Міцы*

1

Як сёння, помню дзень той красавіцкі,
Калі на Беларусь прыйшла бяда...
Хвастаў атрутны дождж,
І навальніца
Хрысціла кожны слуп
І кожны дах.

Пупышкі набрынялі на таполях,
Зяленіва прабілася ў палях.
І прадказаць
Ніхто не браўся долю.
І прадказаць
Ніхто не браўся шлях.

Аркестры рэпетыравалі маршы —
Ў калоны светлы Першамай гукаў.
Маўчалі ўсе,
Вады у рот набраўшы,—
Маскоўскі бог маўчаў,
І наш маўчаў.

На лецішчах маліліся упарта,
Каб важкім быў з далоню агарод...
Ды ў чорны колер фарбавалі карты
На шмат пакутных незлічоных год.

Няхай мае сумленне у прадонне
Абрынецца,
Каб стаць лагодным днём...
Але і сёння
У атрутнай зоне
Каўтаем горыч злыбеды нагбом.

Мне зразумелы брагінцаў высновы
Наконт той зоны
І атруты той:
— Перажылі не гэткі час суровы
І жыць сваёю будзем галавой.
Бо быў такі,
Што з плямаю вядомай...
Той розумам чужым краіну вёў.
Цяпер няма адзінага ў нас дома,
Паменшала дарадцаў і сяброў...

Але і ў гэты час цяжкі,
Раздрайны,
Нас добра чуюць,
Рукі падаюць
Сябры з краін, здалося б,
Вельмі дальніх...
Ды боль ім наш
Ніяк не пракаўтнуць...
Мы вырашыць усё павінны самі,
У небыццё загнаць злавесны цень...

Дзіцячымі святымі галасамі
Аб гэтым просіць нас
Наступны дзень...

2

Ёсць ісціна спрадвечная,
Святая,—
Калі бяда загнаць імкнецца ў дол,
На крыллях дабрадзейных прылятае
Да сумнага гаротніка анёл.
Ён адрасам не можа памыліцца,
Ты толькі вер яму,
Яго чакай,
Бо ведае дакладна Віктар Міцы,
Нібы уласны дом,
Мой родны край.

Ён справу,
Як заўзяты майстра, робіць —

Аддаены служка незямных багоў.
Варушыцца,
Як чорны змей,
Чарнобыль
Ў свядомасці наструненай яго.

Сярод сяброў не знойдзецца зняверцаў —
На ўсіх цяпла і чуласці стае...
І кроплі шчырай дабрыні
Ад сэрца
Ён людзям
Без вагання
Аддае.

## НАД БЕЛАЙ РУССЮ — БЕЛЫ БУСЕЛ

Над Белай Руссю —
Белы бусел
З даверам выпрастаў крыло.
А гэта значыць,
Белай Русі
Прасцяг ашчодраны святлом.
Над Белай Руссю —
Белы бусел
Ладуе спраўнае гняздо.
А гэта значыць,
Белай Русі
Жыць, нібы поўны песень дом.
Над Белай Руссю —
Белы бусел
Галубіць прагных птушанят.
А гэта значыць,
Белай Русі
Не ведаць чорных бур і страт.
Над Белай Руссю —
Белы бусел
З буслiхай ў вышыні нябёс.
А гэта значыць,
Белай Русі
Наканаваны шчасны лёс.

## АДЗІНЫ Ў СВЕЦЕ КРАЙ

Якой бы пекнатой ні чаравала
Далёкая дарога позірк мой,
Мне, ведаю,
Заўсёды не ставала б
Святла сваёй Айчыны дарагой.

Яе усмешак не ставала б,
Песень,
Яе гаворкі,
І яе цяпла,
І белага бусла над сінім лесам,
І дабрыні надзейнага крыла.

І ручніка з гасцінным хлебам-соллю,
І пацалунка шчырага радні,
Антонаў пахкіх...
А яшчэ — да болю
Вады халоднай з прывідных крыніц.

Як сонечная скварка на патэльні
Адорвае знаёмым пахам дом.
І дранікі духмяныя ў нядзелю
Са смакам запіваеш малаком.

І...
Так і за жыццё не прыгадаеш,
За што мы любім свой бацькоўскі край...
Таму яго
Адзіным называем
І з іншых не імкнёмся выбіраць.

Хоць нас Чарнобыль і вайна хрысцілі,
Адрынулі ў нябыт мы злыя сны,
Бо маем розум свой
І маем сілы
У злагадзе вітаць прыход вясны.

*Мікола Ляшчун*

## АПОШНЯЯ НОЧ

Пустая хата. Вокны без фіранак.
Гняце душу нямая цішыня.
Нарэшце івалгай разбуджаны світанак
Аблашчыў промнем наступленне дня.

Апошняя у роднай хаце ноч,
А сэрца штосьці веры не прымае.
Усякі боль сцярпеў бы я, апроч
Расстання вечнага з палескім краем.

І я хацеў, сабраўшы мужна волю,
Апошні раз забыцца ў светлым сне,
Але журбу і ў сне я не адолеў.
Яна навек адолела мяне.

* * *

*Міколу Мятліцкаму*

Мой стоены боль ажывае,
Ледзь вочы кранаюць прастор
Майго непаўторнага краю,
Маіх акіянаў і гор.

У казках і песнях апетых,
Любімых, жаданых спакон.
Яны нараджалі паэтаў
Пад позіркам светлых ікон.

І мне, прыгаданы журбою,
Узнікнуў жалобны напеў.
Мы, мама, спявалі з табою,
Як колас пшанічны паспеў.

А сёння душа не спявае
У хойніцкай вёсцы радзіннай.
Ў квітнеючым некалі краі
Зрабілася дзіка й пустынна.

## МАЕ СНЫ

Не да песень, не да весялосці,
Не хмяліць нават чарка віна.
Да бацькоў я прыехаў з горада ў госці
І ўначы вачэй не самкнуў давідна.

А пад саменькі ранак адолела змора.
І прысніўся пякельны і вычварны сон:
На гары я стаю, а наўкол быццам мора,
Толькі ў ім не вада, а барвовы пясок.

Я пясок паімкнуўся адгрэбці барвовы,
Бо і вёску, і родную хату угледзеў,
Але раптам здранцвеў — і ні рухаў, ні мовы,
Толькі вухкала штосьці удалечы недзе.

Скамянела усё, і барвовы пясок,
Як агонь, запаўзаў і у студні, і ў хаты.
Я ў адчаі спрытомнеў і крыкнуў праз сон:
«Там жа людзі! Куды ён, куды ён, пракляты!

Як жа жыцьмуць у вогненным пекле яны?!»
Прачынаюся. Гулка калоціцца сэрца.
О Чарнобыля крыж! О жахлівыя сны!
Спачуваю, каму вас сасніць давядзецца.

* * *

*Брату Івану*

Прачытай мне, як калісьці, вершы
Пра любоў, пра веру, родны край,
А калі зарупіцца, найлепшы
Ты мне верш пра маму прачытай.

Я тады ў маленстве апынуся
І вяскоўцаў памяну былых,
Бо яны па ўсёе Беларусі
Плачуць нема з могілак чужых.

Прачытай мне, братка, лепей вершы
Пра Палессе ўбогую зямлю.
А калі якога не завершыш,
Я яго у песні дапяю.

## НА КІРМАШЫ
## Ў ХОЙНІКАХ

«Купляй кіях, частуйся смела,
Бо агарод мой без нуклідаў!» —
Дзядок тутэйшы дзіўна ўмела,
Як радыёлаг спраўны, выдаў.

«Не першы год я тут таргую,
Як той рэвактар разарваўся,
А я таргую, не сумую,
Хоць нам Чарнобыль той дастаўся!

Насілі ўсё мы на праверку,
Ды так абрыдзела пазней.
Там дзеўка чыркне у паперку
І кажа: «Еш, дзед, як раней!»

Так вось усё мы і ядзім
І прадаём патроху людзям.
На бэры тыя не глядзім.
А мо нічога і не будзе?!»

Ён мне сказаў, нібы спытаў,
Ды больш, відаць, сябе самога:
«Я колькі людзям груш прадаў,
І не памерлі, дзякуй Богу!»

Я слухаў дзеда, анямеўшы,
І жах смяротны ў сэрцы ўзнік:
Як доўга будзем, піўшы, еўшы,
Пражытых весці дзён адлік?!

## ЛІСТ У ГОРАД

Ты снішся мне, мама, з апошняе ночы
Ля нашае студні, ля нашага ганку,
І бацька — на слова у нас неахвочы,
А то ўсё гамоніць, гамоніць да ранку.

Пра наша маленства згадаем у скрусе,
Зажурана трохі ўдваіх памаўчым.
Я слёзы хаваю у зрэбным абрусе.
Ён водарам пахне палескай начы.

Вас лёс абяздоліў, абкраў, апустошыў,
Пакінуў душу без бацькоўскай зямлі.
Вы змалку сялянскую горкую ношу
На бедных нястомна плячах валаклі.

Жыццё згаманілі, як толькі сумелі.
Кацілася плынню няўмольнай яно,
А вы, мае родныя, ўраз пастарэлі,
І песень палескіх у вас не чутно.

Ідзе паляшук па праспекце ў ватоўцы
З паніклай, ссівелай ушчэнт галавой.
Сіротамі сталі ў сталіцы вяскоўцы
І ткуць свой апошні жыццёвы сувой.

* * *

Напнула сутонне крысом
І грудзі тугою пячэ,
Блакітны не мроіцца сон.
Да золку не звёў вачэй
Мне смутак чорных начэй.

Жалобаю, жалем, журбою
Чарнобыльскі сухавей
Калыша вячыстыя хвоі.
Мяне прытуліў да плячэй
Смутак
Чорных
Начэй...

* * *

Мрою дзяцінства ласкавага вёсны,
Рог пастуховы забруджвае сны.
Ткалі нам долю бабуліны кросны,
Плачуць забытыя сёння яны.

Сціхлі музыкі, і песні знямелі,
Высахлі вочы ад слёз назусім,
Гойдае даўняе рэха арэлі,
І не зацепліцца з комінаў дым.

Доля мая — незагойная рана.
З бацькам і маці жыву сіратой...
Больш не страчае падмецены ганак.
Подых чужыніны ў хаце пустой.

*Яўген Хвалей*

## ЧУМАЦКІ ШЛЯХ ПРАЗ ЗОНУ

*Удзельнікам прэзентацыі чарнобыльскай кнігі «Прайсці праз зону» на Палессі ў 1996 годзе*

Дзень чэрвеньскі ў чмяліным звоне
Трымаў з нас кожны у сабе.
Мы ехалі па мёртвай зоне
Чумацкім шляхам у журбе.

Той шлях амаль што не змяніўся —
Ён бег да Прыпяці,
Туды,
Дзе круча,
Над якой узвіўся
Той грыб атрутны,
Грыб руды.

Дзікі ў хмызняк густы шмыгнулі,
Ліса дарогу перайшла.
Нібы да зоны ўсё...
Ды чулі,
Як плакаў-гуў Чумацкі шлях...

Здалося, ён прасіў ратунку:
Калісьці бойкі —
Сёння счах,—
Ён мог да Кіева ўсіх струнка
Панесці на сваіх плячах...

Цяпер —
Да прыпяцкай той кручы,
Да тупіковай кропкі той,
Якая болей свет не лучыць,
А апраменьвае жудой...

## У БАБЧЫНСКАЙ ХАЦЕ

Тут гулялі вяселлі,
Тут спраўлялі радзіны.
«Кут мой родны, адзіны...» —
Шэпчуць вусны ў бяссіллі.

Тут і бацька, і маці
На кладах — маладыя...
У расхрыстанай хаце
Мы стаім паўжывыя.

Зеўраць вокны і дзверы,
Столь праменіць, падлога...
Толькі сэрца не верыць,
Што тут смерць за парогам.

Кропляй згорчана чарка
Ці слязой тваёй з вейкі?
Гэты боль — незвычайны,
Не-ча-ла-ве-чы...

## ЗАБЫТЫ ПАРОМ

*Марыі Міхайлаўне Міцкевіч*

А салаўі
Цёх-цёх у голлі,
Ля самай прыпяцкай вады,
Нібыта ў іх пяршыла ў горле
Ад радыяцыі-жуды.

Паром ляжаў,
Дзе траў не косяць,—
За дзесяць год ледзь ацалеў,—
За нейкіх кіламетраў восем
Ад саркафага,
Быццам леў,
Якога ўсе баяцца ў джунглях...

А тут ляжаў паром між траў,
Высокіх, нашых —
Аж па грудзі,—
Льва сапраўды напамінаў.

А некалі ж на пераправе
Ён лепшым сябрам людзям быў,
Не думаў, не гадаў,
Што ў травах
Яго закончыцца заплыў.

Раняла слёзы чарапаха,
Залёгшы ціха пад карму,
Не знала ў чарапашым страху,
За ўсё паскардзіцца каму?

І толькі вока фотабліца
Вярнула іх у даль гадоў —
Здалося:
Бакен дзесьці блізка,
Ён ім падміргвае ізноў...

## ВЁСКА ПЕЦЬКАЎШЧЫНА

*У гэтай вёсцы Брагінскага раёна да Чарнобыля стаяла 29 хат і жыло 88 жыхароў. Аб гэтым «крычыць» надпіс на адзінокай стэле.*

Над стэлай горкай —
Ціш нямая...
Стаю і бачу вёску я:
Як брат з сястрою —
Пётрык з Маняй —
Ідуць-бягуць да ручая...

Папіць вадзіцы,
Прычасціцца,
А потым — лесам пахадзіць...

Ім, як вяскоўцам, шчэ не сніцца
Смерць вёскі —
Сэрца не баліць...
А недзе хмара градавая
Ў зародку чорным блока спіць.
І вёсачка, хоць і жывая,
Але ўжо на той свет
Глядзіць...

* * *

Падае, падае снег
Белы ў забруджанай зоне...
Чорны, нябачны знутры,
І памірае ў агоніі.

Ім бы, сняжынкам, ляцець,
Быццам анёлам крылатым...
Як пракажоныя,
Пры канцы веку дваццатага...

Рану зацісну ў душы...
Белае — чорнае,
Чорнае — белае...
Гэта ж калі мы маглі
У гэтыя словы паверыць!

Ноччу з'явяцца ў сне
Продкі з Адамам і Евай,
Плюнуць са злосцю на снег,
Пойдуць пад райскія дрэвы.

Нам жа пакінуць праклён:
«Вечна ў смале вам варыцца...»
Будуць над свечкамі ў раі
За нашых нашчадкаў маліцца...

## ЧАРНОБЫЛЬСКІ ЭЦЮД

Апошні траўня дзень...
Гняздо буслова сірацее.
Але бусліны цень
На той сасне без ценю
Яшчэ ў вачах дрыжыць,
Нібы падлёткаў крылы.
І хочацца так жыць,
Хоць свет такі нямілы...

## *Тамара Кручэнка*

* * *

*Н. Р.*

У вёсцы той, бядой кранутай,
Дзе вокны хат — людскія душы,
Мы назіралі, як пакутна
Над комінамі бусел кружыць.
Ён так выпростваў свае крылы,
Нібы закрыць хацеў свет белы,
А вёска ўся была магілай —
Нязвыкла чорнай, апусцелай.
Як шчыраваў ён, родны бусел!
Як ажывіць хацеў ён вёску,
Падкінуць немаўля ў капусту
І стаць малечы бацькам хросным.

* * *

Я прыехала з зоны,
З той палескай бяды
Да азёраў, дзе зоры,
Дзе маленства сады.
Блікі сонца на Мястры,
Нібы з золата невад.
Бераг мой пакручасты,
Дзе так блізка да неба.
Граюць конікі звонка
У мурожнай траве.
Дарагая старонка
Светла ў сэрцы жыве.

* * *

Цётачка з гаворкаю палескай,
Збегла ты ў далёкі стольны Мінск,
Думала: змяніла лёс балесны
На муроў шарэчу, колаў візг.
Думала дажыць без успамінаў
Пра сядзібу, восеньскі свой лес...
А яны гараць агнём рабіны.
І жыццё губляе ўсякі сэнс.

* * *

*Міколу Мятліцкаму*

Боль твой — нічым не загоены...
Сэрца лісточкам дрыжыць.
Едзе аўтобус у Хойнікі.
Як без радзімы пражыць?
Не, ты да скону не згодзішся
З тым, што радзіма была,
Што радыяцыя шкодная
Сцежачкі ўсе замяла.
Едзеш, тугой паланёны,
Ў край самых белых бяроз.
Там, на кладах свайго дома,
Ўжо не саромецца слёз.
Бабчын... Завеі і вёсны,
Першае слова і верш...
Зона... Маўклівая вёска,
Сэрца паэта бярэш...

## ЦЁТКА ЛІДА

Ну, за што такая доля?
Вочы мокрыя ад слёз.
Пераджыць унучку Волю
Непасільны выпаў лёс.

Цётка Ліда, цётка Ліда,—
Палыновы лёс журбы...
«Запісалі ў інваліды!» —
Сэрца ўздрыгне ў міг любы.
Ўсё глядзіш на фотаздымкі
Волі-Волечкі жывой.
Іх прытуліш, іх абдымеш:
«Забяры мяне з сабой!»
Задушы слязіну, цётка,—
Колькі змерала ты вёрст!
Паланянкаю ў калодках
Несла знак на світцы «ОСТ».
Колькі сшыла ўсім абновак,
Зарабляючы на хлеб.
А цяпер знямелі ногі,
І кватэра, быццам склеп.
Гаснуць фарбы краявідаў.
Пахаванне у вачах.
Цётка Ліда... Цётка Ліда...
Снегу вэлюм на плячах...

## ГОРКАЯ СПОВЕДЗЬ

*Настассі Трафімаўне Варгейчык — стрыечнай сястры І. П. Мележа*

Слухаю з болем прытоеным
Роздум ваш, цётка Насця:
«Не, мы не з'едзем.
У Хойніках
Клопаты нашы і шчасце».
Памяць пра брата Івана
Выблісне россыпам зорак.
Ён да герояў раманаў
Мкнуўся на гэты падворак.
Потым загаласіла,
Сэрца рвучы ад жалю:
«Тут пахавала сына.
Ці ж то зямля чужая?..»

Ах, як гарыць каліна
Каля ваконца хаты!
Краю свайго галінка,
Рупнасцю рук багатая,
Тупаеш да змяркання,
Рада мне, бы радзіне.
Колькі ў табе ад Ганны,
Колькі ў табе ад радзімы!
І, як Святога Пісання
Найцудадзейны лісцік,
Мележава пасланне
Ты да грудзей прыціснеш.
Шэпчаш, нібы малітву,
Гэта пісьмо ад брата.
Меддзю ўсцілаюць ліпы
Сцежку праз сад да хаты.

*Ганад Чарказян*

## ЧАРНОБЫЛЬСКАЯ ЦІШЫНЯ

У сне
Ты аддаляешся ад мяне,
Творца Сусвету.
Я ўслед бягу,
Ды Цябе мне дагнаць няўзмогу.
Раніцай, узважваючы
Прывідную сустрэчу гэту,
Я разумею ўрэшце
Праўду Тваю і трывогу.
Ты паказаў мне лясы,
Дзе паміраюць дрэвы,
Ты паказаў мне студні,
Дзе атручаны воды.
Ты паказаў мне коміны,
Дзе не вырастуць дыму ўзвевы.
Ты паказаў мне людзей,
Якія веру страцілі назаўсёды.
Ты паказаў мне сабак,
Якія забыліся брэх свой.
Ты паказаў мне кошак,
Якія на тлустых мышэй
Пазіраюць сонна.
Ты мне паказаў берагі,
Ад якіх адракліся рэкі,
Ты паказаў мне дзённік,
Відаць, апошняга чалавека з зоны,
Які прызнаўся ў дзень выбуху
У каханні сваёй нарачонцы.
Ды яны навечна рассталіся,
А таму што яго не стала.
Каб іншыя выжылі й радаваліся
І дажджу неатручанаму й сонцу.
І каб дачакаліся дня,
Калі плач немаўляці трывала
Заявіць свету,
Што не скарыцца ліху
Чалавек ніколі.
І да пакутаў звыкне,
А зямлю сваю не пакіне,
Куды б ні вялі яго
Пакручастыя сцежкі долі.

Бо толькі пад гэтым небам
Чалавецтва не на чужыне...
Ты паказаў мне людзей,
Якія памяць згубілі.
І, можа, гэта
Найвялікшае іхняе шчасце.
Цяжар успамінаў
Летуценням ня'вечыць крыллі.
Спадман і роспач
Звыкліся дні тыя красці,
Якія, Звышні, Табою
Адпушчаны для веры й памкнення.
Ты паказаў мне людзей,
Якія не згубілі нічога
У пажары тых дзён,
Апрача, няйначай, сумлення.
Ды гэта бадай што
Атрыбут, забыты з былога.
Але яны без сумлення
Падобныя да кары тых дрэўцаў,
Якія не зазелянеюць ніколі
Ні ў садзе, ані ў балоце.
Ты паказаў мне старую,
Якая ела крапіву,
Каб жыгучасцю ейнай сагрэцца,
І не паказаў тых людзей,
Што пакінулі яе на самоце.
І яна іх таксама не ўбачыць,
Яна ўсім грахі даравала.
Навошта ў памяці гадаваць
Бязлюдных людзей —
Адно што з наіўнага жалю.
Ты паказаў мне людзей,
Якім усяго зрабілася мала,
Якія хаты асірацелыя
Рабавалі ды разбіралі.
Ты паказаў мне ўсё,
Каб душы маёй даць палёгку.
Каб мне не плакаць, самотнаму,
Заходзячыся ад спачування.
Каб убачыў тых зблізку,
Хто на мяне пазіраў здалёку.
Тых, што вялі нас
У прадонне светлае без вагання.

Я плакаў, галаву паклаўшы
На невідочныя Твае калені,
І думаў, што не ўпершыню
Бачу Твой воблік высокі.
Ці гэта праменні лагодныя,
Ці радыеактыўныя цені
Сыходзілі сараматліва
На зямлю нашу грэшную,
Каб супакоіць аблокі.

У чарнобыльскай цішыні,
Перапоўнены мальбой і журбою,
Творца Сусвету,
Сам я плачу без слёзаў
Разам з Табою...

## ДАЗВОЛЬ...

А душу маю ўдзень і ўначы
Клопат-допыт
Бяссонна мучае,
Чым магу табе дапамагчы,
Як гаіць
Твае раны пякучыя?

Засланіў цябе
Хмарай цяжкой
Звар'яцелы Чарнобыль
Без літасці.
Адкажы,
Дзе шукаць твой спакой,
З мора гора плысці —
Дзе плыт знайсці?

І куды паляцелі твае
Маладыя буслы
Белакрылыя?
І чаму ён не растае,

Лёд адчаю
З падманнай сілаю?

Хай навала цябе абміне.
Боль твой гоіцца
Светлай шчырасцю.
Беларусь,
Ты дазволь і мне
Быць тваім
Хоць маленькім апірышчам...

*Людміла Рублеўская*

## ЧОРНАЯ БЫЛЬ

Ёсць чорнае сонца.
Малыя ўсе меры,
Каб мерацъ бясконцы пагрозлівы цень.
Хаця не дае мне ў пагрозу паверыць
Кахання зямнога
    зіхоткі прамень.
Ёсць цень —
    і яго перавага ў сусвеце.
Яго адкідалі паважна зубры,
А цень — перамог,
І прапылены вецер
Іх цені ганяе ў гатычным бары.
Цень — пан!
І дубы гэты цень адкідаюць,
І вежы...
    І постаці смелых людзей...
І цені ўсё новыя цені ганяюць,
І меней у свеце высокіх надзей.
І цень пажырае ўжо нават каменні,
І светлую памяць...
    І гасіць усход...
І яснага сонца ўсё меней і меней,
А чорнага сонца
    ўсё болей штогод.
Мой бедны праменьчык!
Святла нам хапае
Пакуль што... Пакуль што...
    Ды наша любоў
Зайздросны карычневы цень адкідае.
І чорнае сонца ўпаўзае у кроў.

## НА ШЛЯХУ ПРОДКАЎ

Беларусь! Душы маёй калыска!
Возера лілейнага святла!
Да сваёй загубы гэтак блізка
Ты яшчэ ніколі не была.

І адвары доктара Скарыны
Праліліся ў чэзлую траву.
Па нябеснай прывіднай сцяжыне
Пакідае доктар Беларусь.
І за ім ідзе да зор Завальня,
Свечку захінае даланёй,
Даганяе човен старадаўні,
Што з Палесся ўзяты вышынёй.
«Нешта Продкаў Шлях аж слепіць вока»,—
Здзівіцца забыты дзецьмі дзед.
І душа старэчая з палёгкай
Адляціць за позіркам услед.
А сцяжына белая танчэе,
І па ёй — як па лязе — у жыцці
Усмешлівы апостал Караткевіч
З вогненнай вадой нясе пацір.
Шлях растаў — і велічныя цені
Па-за нашым позіркам плывуць.
Дождж пайшоў.
Ці смерць, ці благаславенне
Кроплі срэбнавокія нясуць?

## ПЕРАСЯЛЕНЕЦ

З абжытага месца зрывацца цяжэй і цяжэй —
Гады, што карэнні,
з зямлёй замацоўваюць роднасць.
Але забівае ўсе вокны накрыж
Неабходнасць —
За родную хату усё-ткі жыццё даражэй.
Таму — абжывайся, як можаш, на месцы другім,
У садзе зарослым змайструй, як і дома, арэлі...
А можа, ты, прыхадзень, месца чужое заселіш,
І будуць з-за плота паказваць табе кулакі?
...Прыходзяць паштоўкі —
закрэслены адрас стары...
Ты мовіш і мовіш у кожнай размове:
«Там, дома...»
...У садзе, што твой папярэднік садзіў незнаёмы,
Пагаслі, сініцамі сталі твае снегіры.

## *Алесь Камароўскі*

### ЗОНА

*З паэмы «Пагоня»*

І ён
Не адолеў сябе,
Не стрываў,
Нагбом
Да вады прыпаўшы...
Здаецца,
Дыхнула,
Шапнула трава:
«Прапаў чалавек...
Прапаўшы...»
Напіўся...
Адхлынуў...
У нечым чаўне
Рэчку адолеў
Паўсонна...
А ззаду,
Як выстрал у спіну,
Чарнеў
Надпіс аголены:
ЗОНА.

* * *

Боль перасохлы
Гняце
Пад рабро,
Быццам нажом,
Рэззю
Вантробы правінчвае...
Няўжо
У задохлых
У гэтых людзей
Нутро
Да ўсяго прывычнае?
Нёсся бягом
Ля закінутых хат
Між палыну
І бур'яну,
Клікаў багоў,

балеснай чырвані. Пятрок неаднойчы казаў мне штосьці сардэчнае, са слязою, выкалупваючы вадкасць з вока пальцам ці зусім яе не чапаючы, не турбуючыся, што выдае слабіну, але я кожны раз стараўся яго слабіну не заўважаць, позіркам з ім у гэтакі момант не сутыкацца. Калі ж адчуваў, што нашы позіркі міжволі вось-вось сутыкнуцца, тады адводзіў вочы ў іншы бок ці штонебудзь сам пачынаў казаць.

І гэтым разам — пытаюся:

— Дзе ты знайшоў сваю песню?

Яму, бачу, прыемна, што я песню ўпадабаў. Ён прыўзнімае белую галаву, круціць ёю, азіраючыся, ямчэй садзіцца побач са мною і ўспамінае:

— У сорак пятым прывёз з Саксоніі. Там нас, ваеннапалонных, немец загнаў пад зямлю, душ дзвесце тысяч, будавалі ваенны завод. Жывых засталося восем тысяч. Па галовах лічылі амерыканцы, калі знайшлі пад гарою, на волю выводзілі. Быў у мяне зямеля, на нарах побач ляжалі. Ён, бывала, сабе на галаву коўдрачку ўскіне і стогне ціхенька. Усе думалі, што моліцца, а я чуў песню.

— Ты ж быў у Майданаку? А дзе тая Саксонія?

— Быў шмат дзе. Вайна папаганяла. Мяне што губіла і што ратавала? Рыдлёўка. Вайну пачаў сапёрам. На батальён — ніводнага ствала. Немец браў нас у полі, як тых курапатак. А ў палоне: рый, крот, як рыў. Ад страху кожны дзірку ў зямлі шукае, а дзірку трэба рыць. І воўк рые, і лісіца рые, і чалавек — хоць наш, хоць немец. Я ведаў нару лісіную, а цяпер гляджу — у ёй ваўкі жывуць. Гукаў — стары адгукаўся. Яго мы сёння зноў патрывожым. Маладыя ўжо вывеліся, яшчэ цёмныя, пачуюць — не зразумеюць, ваўчыца з малымі асцярожная, а стары адгукаецца. І будзе сімфонія.

Дык мы і ехалі на сімфонію — гукаць ваўкоў.

Ледзь вырвалася з Петрака ўзнёслае, ад малых эмоцый, слоўка — сімфонія, як мне згадалася яшчэ ночачка, пражытая з ім разам, зноў жа і з канём, хоць і не з яго сённяшняй кабылкаю, гадоў, дай Бог памяці, каб не зманіць, дваццаць пяць назад.

Была вясна, я жыў у бакоўцы канторы лясніцтва. З раніцы, пакуль за сцяною і каля канторы збяруцца леснікі ды кліенты, сядзеў за сталом, чытаў і пісаў, а як яны збіраліся, у самы гармідар, ішоў ці да іх, ці на блізкае азярцо, ці праз луг на Сож. А неяк ноччу прачнуўся — хтосьці ў шыбку звякае. Выйшаў на ганак. Цемра —

нічога не бачу. І раптам голас: «Гэта я, Халімонавіч».— «Пятрок? Заходзь у хату». А Петраку якая хата? «Паедзем у Гусарыкі. Там цецерукоў — сімфонія! Ужо і будкі стаяць. Іван, братуха, паставіў, запрашае згуляць наваселле». Івана я ведаў. Ён рабіў лесніком, і я браў у яго дровы. З ім і дзікоў неаднойчы падымалі на лёжках. Кажу: «Вёрст дзесяць з гакам — пакуль дойдзем, сонца ўзыдзе, на ток спознімся». А Пятрок: «Даедзем, калі не дойдзем». Аказалася, што ён прыехаў на кані, не конь — агонь: адвозіў ляснічага дадому ў гарадок і цяпер не хацеў ставіць каня ў канюшню.

І вось мы імчым цёмным, як прорва, лесам.

Што ўспамінаць тое паляванне? Як задумалі, не атрымалася, заняць будкі загадзя, пакуль жаваранак не прачнуўся, не пабудзіў цецерука, мы спазніліся. Цецерукі ўжо балбаталі, хорам абклаўшы вёску з усіх бакоў, і сімфонія, на якую спяшаліся, пачалася без нас. Каня пакінулі, не распрагаючы, у Івана пад вокнамі, а самі адразу з воза за вёску, і паляваць давялося скрадам, на подслух, тры крокі — стой, хоць на адной назе, калі другою не паспеў за зямлю зачапіцца, замры і не дыхай. Ёсць, вядома, у тых падскоках хваляванне і радасць, але самой сімфоніяй аказалася ўсё ж дарога. Гэта як ужо выехалі на поле перад Гусарыкамі, развіднела, а як ехалі лесам, нішто блізкую раніцу не паказвала. Каня Пятрок не гнаў, адно лейцы адпускаў, і па той вольнасці, што ў лейцах, конь чуў яго і сваю волю і нёс на злом галавы. Дарога круцілася лесам ды лесам, яе паміж хваін ды ялін нават відаць не было, дрэвы высокімі ценямі мільгацелі ўздоўж самай абочыны. Я прасіў Петрака, каб каня трымаў, не даваў яму гэтакай волі, сам разаб'ецца аб дрэвы і нас на той свет адправіць, але ж і Пятрок быў завадны, з маіх маленняў рагатаў ды пачынаў, зноў і зноў, песню, захліпаючыся, бо і песня ў калатнечы на языку не затрымлівалася, скатвалася назад у душу. Ён мне крычаў, каб я за яго трымаўся, і я трымаўся аберуч, калоцячыся ў яго за спінаю, але драбіны, абедзве адразу, левую і правую, гэтак моцна сцінаў рукамі, што потым, калі выкацілі на поле і спыніліся, не мог выпусціць з рук — пальцы звяло. Спыніліся ўжо не ад страху, які застаўся на дарозе адзаду,— ад жалю ды болю, убачыўшы і пачуўшы тую, на самым уздыме, сімфонію. Уся вёска разам з ваколіцамі, прылеглымі да яе палеткамі збажыны і падлескамі, як вінаватая перад намі, хавалася ў блакітна-шэрай смузе

раніцы, захопленая раз'ятраным ад неба да неба цецеруковым гулам, у якім чулася і блаславёная радасць жыцця, птушынага і чалавечага, і нейкая першабытна-грозная ўлада. Аддыхваючыся, ціха стаяў конь, стрыгучы вушамі, як не разумеючы, што адбываецца, і маўчалі, не ведаючы, што сказаць, мы з Петраком. Але раптам Пятрок ускочыў на калені, ускінуў лейцы, гукнуў-крыкнуў: «Во-ля!» — і зноў панеслася наша пагоня, цяпер ужо срабрыставохрыстымі ды перламутрава-блакітнымі, з зелянцою, палеткамі, невядома што і каго наганяючы.

Гэтакай шалёна-імклівай дарогі я больш ніколі не перажываў, нават як ездзіў і лётаў на аўто, чыгункаю, самалётамі. Ды і полем тады была не тая язда. Полем мы ляцелі на світанні, калі развіднелая прастора давала рэальнае адчуванне хуткасці і страх не халадзіў душы і сэрца, не было таямніц і загадак язды. Глухой жа цемраю, калі дарогі не бачыш ні ўперадзе, ні адзаду, калі па баках вельмі блізка мільгацяць загадкава-чорныя, выпрастаныя паміж зямлёю і небам, плямы, язда ўяўлялася шмат хутчэйшаю, дзікаю і нікому не падуладнаю, як на той свет...

Цяпер, успомніўшы тую дарогу, я спытаў пра Івана — можа, зноў ехалі да яго?

— Івана ўжо няма,— адказаў Пятрок.

Гэта мяне здзівіла, бо Іван быў маладзейшы за брата, мацак, і жыў у ціхай лесавой глухмені, як у Бога пад кашуляю.

— А што здарылася?

— Рак стачыў,— коратка, без эмоцый і лішніх тлумачэнняў адказаў Пятрок. Плюнуў, смаргануў лейцы, і кабылка пабегла, танцуючы, а я адчуў, што пласцінку размовы трэба змяніць.

— А хто з талакі, якою мы палявалі да чарнобыльшчыны, яшчэ жывы? Няма Івана, няма Віталя, няма Калача, а хто ёсць?

— Ты ды я, ды мы з табою.

— Адны мы засталіся?

— Яшчэ, памятаеш, да нас прыязджаў, кожны раз з ліцэнзіяй на лася, абласны пракурор. Дык гэтай зімою зноў прыкаціў з ліцэнзіяй. Дырэктара няма — ён да мяне, каб пасобіў узяць лася. А я з ім не пайшоў.

— Вы некалі качку не падзялілі?

— Стралялі адразу абодва, а сабака прынёс мне. Пракурор кажа, што качка яго, а я не спрачаўся. Шрот выка-

лупаў з качкі, высыпаў і са свайго патрона — там і там самаробны, мой. А ў яго заводскі. Сабаку я апраўдаў, а качку, кажу, бяры.

— І ён узяў?

— Пакрыўдзіўся.

— Табе тая качка магла дорага каштаваць.

Намёк Пятрок зразумеў. Тады, пасля палявання, ад'язджаючы, пракурор паклікаў яго да сябе і спытаў: «Як ты адкруціўся за свой палон? Пасля вайны ўсіх, хто здаўся немцу, высылалі на казённы харч. Ты ж на нямецкай баландзе пажыў, а на савецкай не разгавеўся. Як удалося?» Спытаўшы, чакаць, што адкажа Пятрок, не захацеў — у машыну і пагазаваў. Абы страху нагнаць.

Лес скончыўся, і мы звярнулі пад ліпы, за якімі сівела жыта. Пятрок саскочыў з воза, абкруціў лейцы вакол дрэва, узяў хатылёк і фуфайку.

— Ну, прыехалі.

Я таксама злез і агледзеўся. Далей, як канчаліся ліпавыя прысады, у два рады стаялі хаты, міжраддзе ляжала шырокае, незатаптанае і незаезджанае, зялёнае, хаты — не гнілякі, але калі прыгледзеўся, то заўважыў, што і жыцця ў хатах не было. Вокны ў бліжэйшай павыбіваныя, праз іх відаць, што падлога ўзарваная, канцы дошак тырчэлі з вокнаў, шыферны дах ад вільчыка да ніжняга раду разабраны, а ў хаце насупраць звалены комін, і ў даху чарнела дзірка, абсыпаная цагляным друзам. Першага моцнага ветру, каб легчы і не падняцца, чакалі платы і варотцы.

Я спытаў у Петрака, куды мы прыехалі, і ён адказаў, што гэта Гусарыкі.

— Як Гусарыкі? З Гусарыкаў выехалі, ехалі-ехалі...

— А тут куды ні паедзеш — Гусарыкі, адны яны, сталіца зоны, а ў Гусарыках, у сталіцы, Пятрок ды Мар'я, астатнія, вёскі і людзі, або ў зямлі, або ветрам змяло.

Дзе пачыналася жыта, узвышаўся грудок, зарослы кусточкамі палыну, маладымі дрэўцамі, пасыпаны жоўтымі слёзкамі дзьмухаўцу. Пятрок падняўся на грудок, кінуў пад ногі фуфайку і хатыль.

— Я табе абяцаў паказаць месца, дзе мая пупавіна закапаная. Сюды і прыехалі,— нечакана разагнаў ён хмаркі і ў маіх вачах.— Гэта ж роднае печышча. Як я нарадзіўся, бабуля схапіла мяне на рукі, а кішачка матляецца, мая з мамай вяровачка, дык яна яе — смаргень, і курам пад печ. Куры яе там, можа, здзяўблі, а хутчэй за ўсё

закапалі. Калі сказалі, што вёску трэба кідаць, некуды перасяляцца, я адказаў: тут мая пупавіна, тут будзе і мой пуп. А Іван: [redacted] — як усе. І стаў перасяленцам. Праз тры гады вярнуўся — хаты няма. Ён да мяне: дзе хата? Кажу: улада забрала. Ён да ўлады, а там адмахнуліся: мы табе за хату сплацілі — якія пытанні? Было, што як людзі выехалі, улада прыборчыкамі кожную хату прасвяціла і чыстыя пабрала сабе, сваякам, сябрам — на дачы, на хлявы. Іванаву харому павезлі першай. Я кажу: жыві ў мяне. А ён гэтак убіваўся, перажываў, што звёў сябе ў магілу.

— Іванава хата стаяла на гэтым печышчы?

— Тут бацькава стаяла. Яе Саветы даўно разабралі, вывезлі, як бацьку раскулачылі. А печ засталася. Мы, дзеці, сямёра хлопцаў, з печы — і ў лес. Другую паставілі. У ёй потым жыў Іван. Печ бацькава, а хата ўжо свая.

— А чыё жыта?

— А жыта маё. Засяваю два пляцы, суседаў і Іванаў. Акрамя мяне, сеяць няма каму, зямля дзічэе.

— Цяпер цябе раскулачаць. Тут ці не больш за гектар, ды дзе жывеш — два з гакам, ды конь, карова, кабаны, авечкі.

— А ўжо кулачаць,— нечакана прызнаўся Пятрок.— Днямі выйшаў за парог — стаяць два міліцыянты і трэці ў касцюмчыку. Трэба, кажуць, вобыск чыніць. А што вы хочаце знайсці? Што трэба, тое пашукаем, як знойдзем — забяром. А я ім кажу: зімою шукалі, забралі ружжо і не вярнулі, цяпер бярыце Мар'ю — у вас у горадзе лякарня, можа, падлечыце, а то яна зусім хворая, ляжыць. Кажуць: ты, стары, жартаўнік.

— А за што яны ў цябе ружжо забралі? — спытаў я.— Без ружжа ў лесе як жыць? Можа, няма на ружжо дакументаў?

— Дакументаў хапае, а ружжа няма. Невядома што тут, кажуць, страляеш. А цяпер забралі бензапілу. Як жа я, пытаюся, дроў адзін напілую? Смяюцца: вось табе, стары, паперка, што *із'ялі*. А што мне паперка? Паперкаю дрэва не спілую! Паехалі.

Вечарэла. Цені ад ліп ляжалі праз грудок доўгія, аж да лесу, ветрык ад жыта абдаваў твары волкай свежасцю. Пятрок разаслаў на грудку фуфайку, вытрас з хатылька ўсё, што ў ім было, а былі і паўлітэрка, і зялёная цыбулька, і сала кавалак. Сеў і мне загадаў сесці. А я падумаў, ці не рана Пятрок патрос хатылёк, яшчэ ж нам трэба ехаць недзе гукаць ваўкоў, намякнуў на гэта, заўважыўшы, што

цені касыя і доўгія, але ён мяне зразумеў на гэты раз не так, як я хацеў: падняўся, пайшоў да кабылы, распрог і пусціў на пашу. Вярнуўшыся, сеў на краёчак фуфайкі, наліў у дзве чаркі, доўгім позіркам уставіўся ў лапічак жыта пад грудком. І тады я спытаў, ці далёка нам яшчэ ехаць.

— А тут і пагукаем,— адказаў Пятрок.

— У вёсцы на печы?

— А ваўкі заўсёды да мяне ў вёску прыходзілі. У лесе я іх шукаў, а ў вёсцы — яны мяне. Як Саветы бацькаву хату растрэслі, сяджу я на печы і плачу. А матка пытаецца, чаго вою — ваўкоў збіраю? І ўся вёска казала, што я не плачу, а вою, як воўк, і каб не выў, ваўкоў не гукаў у вёску.

Пятрок падняў сваю чарку, і я ўжо чакаў, што ён скажа нешта пра бацькава печышча, каб за яго і выпілі, ці пра сваю волю, як яе шукаў, знайшоў ці не знайшоў, якая яна тут, у зоне, а ён раптам — за ваўкоў. Чаму за ваўкоў? Хіба не ты, Пятрок, пытаюся, быў іх першым у лесе страхам? І ці не яны, калі ахоўваў аленяў, былі табе першай бядою? А ён паўтарыў: за ваўкоў. Тады я спытаў: за якіх? Можа, за тых, на каторых я аднойчы выспаўся ў тваёй егерскай хатцы? Ён расчулена паглядзеў мне ў вочы і з усмешкаю дадаў:

— За жывых. Я люблю жывых.

А я ўжо сядзеў з успамінам яшчэ адной ночы.

Была зіма. Мы з ляснічым загулялі ў канторы лясніцтва і надумалі раніцою абкласці ваўкоў, якіх леснікі высачылі. Нам для гэтае справы патрэбныя былі Пятрок і сцяжкі. Мы ведалі, што яны, Пятрок і сцяжкі, у вальеры, але не ведалі, як да вальеры дайсці — ужо ногі не слухаліся. Ляснічы ўклаўся на лаўцы, захроп, а я, маладзейшы, выйшаў на ганак. Ноч была з лёгкім марозікам, церусіў сняжок, лагода лесу адпаведна настройвала душу, а настрой некуды вёў, хацелася ісці ды ісці ці доўга-доўга ехаць да нейкай, можа, не зусім яснай дабрыні і цеплыні, да радасці. Я выйшаў на дарогу, што лесам вяла на асфальтавую шашу, і не ведаў, як быццам, куды іду, проста ішоў, як хацелася, па блакітным, зялёным, сінім пушыстым снезе, пра штосьці светлае думаючы, штосьці наперадзе мроячы. Не заўважыў, як перайшоў асфальтоўку, можа, таму не заўважыў, што яна ляжала не шэрая, як звычайна, а ў іншых, куды весялейшых, колерах і што была зусім ціхая — ніводнай машыны. Апынуўшыся каля

вальернае брамы, сам гэтаму дужа здзівіўся, бо ішоў без усялякіх намераў куды-небудзь прыйсці. Нават не адразу і браму пазнаў. Але пазнаў на ёй замок і завалу, і варотцы побач. Руку між дошчак прасунуў, на тым баку адкінуў зашчапку і пайшоў далей. А далей, праз сотню крокаў, на ўзгорачку стаяла хатка. Пагрукаў у дзверы — зачынена, і ніхто не абзываецца. І ў вокнах цёмна. Успомніў, дзе Пятрок хавае ключ. Рукою за луткай пасоўгаў — знайшоў. Адчыніў дзверы, намацаў выключальнік, але святло не загарэлася. Сцяну ў цемры рукамі абмацаў — дзверы на месцы. Пераступіў парог, зачапіўся за нешта нагою і паваліўся на цёплыя падушкі. Яшчэ падумаў, што ў хаце Пятрок напаліў, каб не замёрзнуць, і на падлозе сушыць падушкі.

Прачнуўся на золку. Лядок на шыбках яшчэ сіні, але жаўцеў. Паглядзеў на акно адным вокам, потым двума, заплюшчыў вочы: дзе я? Пад спінаю — штосьці нязвыкла мяккае, гарбатае. Рукамі пад сабою памацаў: аўчына? Расплюшчыў вочы і жахнуўся: аграмадная аўчарка ляжала на баку побач са мною, прыўзняўшы галаву, глядзела на мяне зялёнымі шклянымі вачыма. Я пасунуўся ад драпежнае пашчы бліжэй да дзвярэй, але каля парога ляжала яшчэ адна, аброслая густой шэрай поўсцю, выскаліўшы жоўтае з сінізною клычча. Ваўкі? Галавой адчыніў дзверы,ываліўся ў сенцы і толькі там, за парогам, прачнуўшыся і ацверазеўшы, зразумеў, што адбываецца, зарагатаў. Тры дні назад сюды з аблавы прывезлі ваўкоў, паскідалі за хатаю з машыны ў снег, ляжалі на марозе, і цяпер Пятрок напаліў грубку, зацягнуў шэрых у хату, паклаў на падлозе аднаго пры адным, чатырох, каб адталі, каб садраць з іх, цёплых, скуру, і гэта яны, ужо мяккія і цёплыя, былі тымі пухавікамі, на якіх я адаспаўся.

А ці была тады аблава?..

Ваўкі ішлі ўздоўж чырвоных сцяжкоў, уздымаючы з-пад сябе снег, пушысты і лёгкі, ішлі адзін за адным, цугам, кладучы глыбокую сінюю баразну...

Я спытаў:

— Як жа так, Пятрок? Яны, жывыя, былі твае першыя ворагі?

І ён мне адказаў нечакана:

— Я тады думаў, што першы вораг аленя — воўк. А потым убачыў, што першы вораг — чалавек. Я аленя бярог ад ваўка, а трэба было берагчы ад чалавека. Воўк ведае законы лесу, яны ў яго ў крыві, і ведае меру, а чалавек не жадае ведаць ні законаў прыроды, ні меры...

Ваўкі ішлі ўздоўж чырвоных, нібы плямы крыві на белым снезе, сцяжкоў, а мы з Петраком стаялі ў крузе, у загоне, і добра бачылі, як прыгожа яны ішлі. Нас шэрыя пачулі даўно, можа, як толькі мы тут з'явіліся, чулі, як абносілі іх лес сцяжкамі. Раскруціць сцяжкі ўдалося хутка, і, пакуль леснікі іх раскручвалі, мы з Петраком трымалі шэрых у крузе, каб не прайшлі там, дзе сцяжкоў яшчэ не было. Круг абнеслі невялікі, зрабілі ўсё хутка, без сумятні, і ваўкам нічога не заставалася, як шукаць разрыў у ланцугу. Калі яны выйшлі на чырвоную лінію, быў самы момант, каб браць, класці на снег, тым больш што ішлі купна, адзін за адным, і добра глядзеліся ў зрэджаным хвойніку, але тут ужо хлопцы марудзілі. Два няўдалыя стрэлы, адзін за адным, толькі павярнулі шэрых назад, у наш бок, і Пятрок стрэліў. Малады воўк, што ішоў другім, следам за мацёрым, выпрастаўся на снезе, але астатнія пайшлі цераз яго, і мацёры, адчуўшы бяду за спінаю і наперадзе, рэзка звярнуў са сцежкі, нырнуў у снегавы пухавік пад чырвоную лінію і паплыў, нібы па вадзе, і ўсе астатнія леглі, як ён, на снег і паплылі той самай, пракладзенай мацёрым, разорай. Снег ад іх разлятаўся ў бакі, курэў над імі белым пылам, і гэта таксама была сімфонія, якая зачароўвала, прымушала нас забыць на сваю недалікатную работу...

Я перапытаў:

— Чаму ты кажаш, што аленяў трэба было берагчы ад чалавека?

— А дзе цяпер нашы алені?

— Ну... зона, радыяцыя.

— І зону, і радыяцыю не чалавек сюды прынёс? Але я і не пра гэта. Калі яшчэ зону не выгарадзілі, пра радыяцыю, як пра бяду, маўчалі, што ўжо тады зрабілі з аленямі?

І тут я замоўк, зразумеў, што ён успомніў, пра што і пра каго падумаў.

Яны з'явіліся ў вальеры надвечар на дзвюх чорных «Волгах», і з імі на сваім старым «казле» прыскочыў дырэктар лясгаса. Гаваркія, ганарыстыя, як сапраўдныя, не раўня мясцоваму дырэктару, гаспадары, яны пазДароўкаліся з Петраком за руку, калі дырэктар назваў яго галоўным егерам, але яму пра іх, адвёўшы ўбок, дырэктар сказаў адно тое, што начальства высокае, са сталіц, заехала на дзянёк адпачыць, і тут ужо ён, Пятрок, павінен пастарацца дагадзіць. Было ў гасцей што і выпіць, і заку-

сіць, іх маладыя шафёры хуценька, з увішнасцю рэстаранных афіцыянтаў, заставілі доўгі, пад хвоямі, стол пітвом і закуссю, а Пятрок развёў вогнішча, зварыў юшку, бо і свежая рыба знайшлася, прынёс з хаты і перамыў посуд, усё зрабіў чын чынам, як добрым гасцям, у хаце, у двух спальных пакоях, заслаў чыстай бялізнаю ложкі, што заўсёды была на гэтакі выпадак, і, ужо як пір гудзеў, падаўся на сена ў пуню. А раніцою, калі, падняўшыся, сядзеў на калодзе каля пуні, здалёк паглядаючы на хату, ці не падняліся і госці, прыйшоў дырэктар і сказаў, што, як госці паснедаюць, трэба пагукаць ваўкоў. Пятрок здзівіўся: якое гуканне раніцай, ды і не на ваўкоў людзі прыехалі? Але дырэктар сказаў і пайшоў. Іншай каманды Петраку не было, і ён застаўся на калодзе. А праз нейкі час пад'ехаў дырэктараў «казёл», у ім сядзеў адзін шафёр. Ён адчыніў дзверцы, пасадзіў Петрака побач з сабою і пагазаваў не да хаткі, дзе ўсе сабраліся, а ў іншы бок. І гэта было дзіўна: калі гукаць ваўкоў, дык навошта далёка ехаць? Але шафёр сказаў, што ёсць каманда, і заехалі ў канец вальеры, аж за вярсту. І там Пятрок пачаў гукаць. Ваўкі не адгукаліся, чуваць быў толькі трэск галля ў блізкім ельніку, ляскат рагоў ды дробны тупат — трывожна ўсхапіліся алені. Яны і павінны былі ўсхапіцца. Пятрок бачыў, як алені павыскоквалі з ельніку, збіліся, спалоханыя, у гурт на прагаліне. Калі даў голас яшчэ раз, табуном кінуліся праз бярэзнік у той бок, дзе стаяла егерская хаціна. Заўсёды, пачуўшы ваўкоў, алені збіраліся на ўзгорку каля хаты, пад вокнамі, пад ганкам, ведаючы, што ён, Пятрок, іх абароніць. Табун заўсёды прыводзіў Пан, стары мудры алень, важак — гэта ўсе ведалі. І цяпер Пятрок бачыў наперадзе табуна магутную рахманую постаць Пана, увенчаную велічнымі, нібы карона, рагамі. Цяпер яму трэба было б ехаць назад, куды пабеглі алені, за імі ўслед, іх і сябе супакоіць, бо прыкра зрабілася, што з раніцы напалохаў ваўчыным духам, але ж, можа, людзі скажуць, што мала гукаў? Хоць і які дурны воўк цяпер адгукнецца? І тут пачуўся блізкі стрэл, за ім — другі, трэці. Апякла думка: ваўкі? Гэтага быць не магло. Але — навошта і хто страляў, калі няма ваўкоў? Толькі гэтак падумаў, і ўжо як прарвала: пачалася шалёная страляніна. Пятрок кінуўся да машыны, але шафёр корпаўся пад капотам — машына, сказаў, не заводзіцца. Тады Пятрок пабег. Шафёр крычаў наўздагон, каб вярнуўся, што паедуць, ды Пятрок яго ўжо не чуў, бег на прагал, дзе

выбітая аленямі сцежка вяла да хаты. Яшчэ ён не бачыў перад сабою ні ўзгорка, ні хаты на ім, а сэрца калацілася не толькі ад таго, што доўга і хутка бег, як даўно не бегаў, але і ад прадчування, што там, куды бег, бяда. Бяду асабліва востра адчуў, убачыўшы дзвюх алянушак, якія імчалі яму насустрач, але звярнулі і схаваліся ў алешнік, ды калі ўжо блізка ад хаты, пад узгоркам, убачыў Пана — стаяў, абсунуты, на каленях, і на фоне пунсовага, на ўзыходзе сонца, неба карона яго пагойдвалася, як вось-вось хацела зваліцца з галавы. Пятрок быў кінуўся да аленя, але спыніў яшчэ адзін запознены стрэл. Падалося, што нехта стрэліў па ім.

У той жа дзень Петрака прывезлі ў раённую бальніцу, і там ён ледзь не месяц адлежаў з сэрцам. Яго наведаў ляснічы, ад якога Пятрок пачуў, як з вальеры на грузавіку вывозілі бітых аленяў, як пад гарою дабівалі Пана, сякерай выломвалі з яго рогі — залатую карону пушчы, як праз колькі дзён тыя ці не тыя, можа, іншыя, але напэўна з той самай каманды, мяснікі расстрэльвалі апошніх, што хаваліся па гушчарах у вальеры, аленяў, і як ноччу мужыкі — хто ж яшчэ мог адпомсціць? — спалілі вальерную агароджу, браму і егерскую хаціну.

Алені, каторыя зберагліся ад пагромаў, выйшлі ў пушчу.

Сонца закацілася за лес. У ліпах над печышчам спявалі дразды і салоўкі. Сівы туманок прыбіўся да падлеску, сеў на лужок і жыта.

Успамін крывавае раніцы ў вальеры перанёс у тую бяду маю душу, ды я і ўвесь быў нібыта там, разам з Петраком, з драздамі і салоўкамі, якіх чуў тут. Я ўжо не думаў, куды і навошта мы з Петраком сёння прыехалі, дзе сядзелі, чаго чакалі, і здрыгануўся, калі нечакана пачуў трывожнае водгулле. Яно мацнела, падымалася ўсё вышэй і вышэй, спачатку як бы толькі ўва мне ўзнікла і нарастала, але ўва мне яму было цесна, яно ўзнялося і нада мною, пайшло па-над лугам, па-над жытам, па-над лесам, задрыжэла, захвалявалася высака і апусцілася, ачахла. Я агледзеўся: што гэта? Пятрок сядзеў да мяне спінаю, разагнуўшыся, адкінуўшы назад плечы і голаў, трымаючы рукі каля рота і цяжка дыхаючы ў далоні. Я пачуў яго напружанае дыханне і зразумеў, што гэтак ён пачынае сваю і не сваю, сваю і ваўчыную, песню, пачаў і нечага яму не хапіла — зрэзаўся.

Я засяродзіўся і чакаў, што зараз, супакоіўшыся, ён зноў пашле голас у пушчу — ваўкам, але пачуў — да сябе:

— Еду я днямі, дзе мы з табой ехалі, а наперадзе, на дарозе пад дубам, стаіць, глядзіць на мяне і на маю кабылку анёлачак. Я — тпр-ру-у, кажу, стой, Воля, з драбін злез, лейцы на драбінах пакінуў, абышоў кабылку, ціха іду, каб і пад нагою не хрупнула, рукі наперад працягваю, а ён стаіць, бачу, калоціцца, не ведаючы, ісці да мяне ці ад мяне. Я бліжэй, бліжэй, толькі б яго ўзяць, а ён — скок за дрэва і стаіць, глядзіць, я зноў да яго, а ён зноў ад мяне, я да яго, ён ад мяне, кідаюся праз пні-калоды — злавіў. Ён як закрычыць галаском цененькім, як дзіця. Я прыціскаю яго да грудзей, а ён калоціцца, сэрца, чую, ледзь не выскача, і маё гэтак калоціцца, яго і маё — аднолькава, адно аб адно, аж за абодва страшна. І такі прыгожанькі, шакаладненькі — ну, казлянятка. Белымі фасолінкамі пасыпаны, а тварык цёмны. Яго гладжу — ён супакойваецца. А калі, думаю, забраць з сабою, Мар'і паказаць? Не, сплачацца без маткі, і матка сплачацца. Яна ж напэўна недзе блізка. Дзіця сваё да мяне паслала і глядзіць, якая ў нас з ім будзе размова. Я прысеў, пусціў яго на дарожку, а ён зноў да мяне, да рук просіцца. Я падняўся і да яго, а ён — ад мяне. І я зразумеў: як стану ва ўвесь рост — ад мяне бяжыць, як прысяду ніжэй — да мяне, бо ва ўвесь рост — я чалавек, ён чалавека баіцца, а як прысяду — быццам не чалавек, маленькі, яму ўжо свой, ён ужо да мяне ідзе, мызкаю мне ў твар і ў грудзі соўгае, абнюхвае, дыханне ў яго цёпленькае-цёпленькае.

— Дык хто гэта быў? Анялок? Ці казляня?

— Алянятка, чысты анёлачак. Але ж і матка недзе блізка. Яна ў яго такая — малое то ад сябе адпусціць, то зноў да свайго боку, пад сябе схавае. Жыць прывучае. Да мяне адпусціла — пазнала, значыць. Яна ж, можа, мяне памятае?

Хліпнула ў горле ў Петрака — замоўк. Я сядзеў у яго за спінаю, ён мяне не бачыў, я не адварочваўся і глядзеў, як плача, далоньмі выціраючы твар.

Сцямнела. Крапчэла пад поўняю ноч. Дразды замоўклі. А салоўкі ўсё спявалі.

— Налі па кроплі,— сказаў Пятрок.

Я наліў. Падаў чарку.

— Ружжо забралі, пілу забралі. Пытаюцца: дзе гармонік? А я свой гармонік у цэлафанавы мех і пад карову, у гной закапаў, каб не знайшлі. Кажу: нямашака. Яны мяне хочуць адсюль, з Гусарыкаў, выжыць, апошняга. А куды я пайду, калі сюды прыходзяць мае алені, мае ваўкі?

Маўчалі, доўга маўчалі. Ці мне падалося, што доўга? Бо цемра, ціхата. Само паветра нібы чакала нейкага зрыву, надрыву, разрыву.

Пятрок зноў прыклаў далоні да твару і адразу моцна, не як першы раз, не з-пад зямлі, а тут адразу, на яе паверхні, не водгуллем, а гулам, да ўсёй пушчы адкрытым і моцным, дыхнуў у глыбіню ночы, і гэта ўжо завыў не чалавек, а воўк. Я пасунуўся на край печышча, каб не замінаць Петраку, і зводдаль яго постаць на ўлонні сіняга, з першымі зоркамі ў небе, з поўняю па-над лесам, магла б здацца мне зданню, знакам, выяваю зоны, калі б не рухалася ў прасторы, то выцягваючыся ўперад, то адхінаючыся назад, выцягваючыся і адхінаючыся, і каб не рукі, якія то хапаліся, нібыта ў шаманстве, за твар, то адрываліся ад яго разам з голасам, ляцелі ўперад, у прастору зямлі і неба. Мне здалося, што ў гэтую хвіліну Пятрок чуе сябе не чалавекам, а воўкам, і ці не ў гэтым, падумалася, была яго апошняя магчымасць здабыць волю, якую так прагна шукаў усё жыццё.

Цяпер голас сарваўся на высокай ноце, і Пятрок сказаў:

— Адгукнецца. Але не адразу. Будзе мяне правяраць. Вытрымаю ці сарвуся? Каб не памыліцца: я — чалавек ці воўк? Хто каго? Калі адгукнецца, я яго сюды прывяду.

Воўк не спяшаў адгукацца.

— А цяпер і яшчэ раз можна,— сказаў Пятрок.

І зноў над пушчаю пакаціўся голас чалавека, падобны да стогну і плачу магутнага звера. Калі ён растварыўся ў пушчы і хвіліна напружанай цішыні ператварыла зямны і нябесны абшар у зону напружанага чакання, зноў ціхім голасам сказаў Пятрок:

— Дык будзем чакаць?

І я адказаў:

— Будзем чакаць.

*Анатоль Казлоў*

## НІШТО

*Апавяданне*

Юрдок не спаў. Ён забыўся ўжо, калі зводзіў, змружваў павекі. Вочы смылелі так, што хацелася пяцярнёй вышкрабці іх, як нешта паганае і брыдкае: тое, што выела нутро, спапяліла душу і не дае забыцця. Забыцця, якога так цяпер прагне спакутаванае цела Юрдока. У галаве, як у патрывожаным вуллі, гудуць, шумяць, блытаюцца думкі. Скачуць яны хутчэй кропляў дажджу па суцішанай гладзі азярца. Бягуць, пераганяюць адна другую, зварочваюцца клубком, ды такім, што нельга знайсці ані пачатку, ані канца.

«Навошта? Навошта ўсё гэта мне спаслана? Дзеля чаго пад скон жыцця павінен я несці гэты гнёткі камень у сваёй душы і на сваіх плячах? Ці ж мала спазнана ў тым, маім мінулым, горкім, што недаспелы яблык, жыцці? Уздыхнуць бы цяпер лягчэй, пабавіць дзянькі на вольным паветры, пад ласкавым сонцам. Не хавацца ў глухім зацішку, не азірацца спуджаным ваўком на кожны шорах за сцяною, кожны трэск галіны ў лесе ці пад сваёю, асабістай нагою».

Не спіць Юрдок. Хвілінамі ён адганяе, адфутбольвае смаліста-цягучыя думкі, прыслухоўваецца да пошуму ветру ў галінах старых дубоў. Здаецца Юрдоку, што адчуваюць яны ягонае збалелае сэрца, супакойваючы, шэпчуць, абнадзейваюць, але ён не можа зразумець мудрасць вечных дрэў, не здольны пакуль убіцца ў глыбіню іх спагады.

Але...

Юрдок уздыхвае старэчым целам пад дванаццацінітовай посцілкай. Цяпер ён не адчувае яе кіславата-прэлы пах. Глыбей нацягвае пад падбародак. Ён чуйна прыслухоўваецца, наставіўшы адно вуха на густую цемру ночы. «Ага, не падалося. Масніцы рыпнулі, і чуцен лёгкі шорах, быццам накрухмаленай прасцінай правялі па падлозе. Няхай бы гэта ноч прамінула спакойнай. Ушчукні ты, няпрошанае,— нячутна шэпча губамі Юрдок.— Дай ты хоць каліўца мне спакою. Улашчыся на адзінюткую ночку. Нельга ж так настырна цягнуць з мяне жылы. Ну лопнуць яны і што? Табе лягчэй стане? Скажы — лягчэй? — на голас Юрдока ніхто не азываецца.— Маўчыш, клятае Ні-

што. Нішто! Хоць і навошта я табе. Ты Нішто. Проста і не зразумела. Страшна і гідліва. Нішто заўсёды было бездухоўным. Так мне здаецца. Яно ёсць, і яго няма. Але ты, Нішто, зноў побач. Я адчуваю цябе нутром, чую вушамі».

«Забойца. Не спіцца? Так-так. Кажаш, што хочаш спакою, то вазьмі яго,— сіпаты голас свідруе мозг Юрдока.— Я ж ведаў, што чакаеш мяне. Разам не так адзінока і скрушна. Разам нам весялей. Не спрачайся, старая порхаўка. Ты баішся мяне, адзіноты, а найболей — людзей. Ага, угадаў! Чую, як гойсае тваё сэрца ў пракураных грудзях. Б'ецца яно аб рэбры, наравіць у скроні вырвацца. Глыбей дышы. Супакоіцца твая зношаная ануча, не так напорліва будзе гнаць па прутах вен і артэрый атручаную кроў. Скажы, навошта хаваешся ад усіх? Ты ж чалавек, і тваё месца сярод іх, сярод такіх жа апустошаных духоўна, абрынутых у грахі, як ты. Аж не. Збег да мяне. Шукаеш паратунку за маёй спінаю. Што, не так? Га?.. Маўчыш? Правільна робіш. Не трэба гнявіць мяне. Там, адкуль ты прыскочыў, усё перавернута з ног на галаву: мана цяпер там праўда. Зайздрасць, нянавісць, пустаслоўе там правяць баль. І гэта яшчэ не канец. Гэта толькі ваш горкі пачатак. Вярніся, забойца, да такіх жа. Там, зірнуўшы ледзь не на кожнага, можна ясна згледзець пячатку зла, парасткі здрадніцтва і нелюбові адзін да аднаго, там кожны гарыць ад сквапнасці, нават у жабрака адбіраюць мыліцу і паўпустую лыжку. Вось-вось, там віхурыць баль пустаты выраджэння. Няхай. Нам гэта на руку...»

«Каму нам?» — спалоханым агеньчыкам мільганула думка ў галаве Юрдока.

«Сіле зла! — пачуў ён здушана-захлёбісты адказ.— Падумай сам: ты ўтварыў забойства, страшнае забойства і збег, пачуўшы мой голас. Я толькі ценем мільгануў перад тваімі вачамі, і вось ты, азіраючыся, хістаючыся і трасучыся, што абколаты наркаман ці падвугольны алкаголік, кінуўся за мною следам. Пабег напрасткі, не выбіраючы дарог, абмінаючы паселішчы і вёскі. Пешшу пабег, шпарчэй за ваўкалака, пасунуўся па маіх слядах. Ты хацеў атрымаць ад мяне збавенне. Баяўся кары за зробленае. Ты гэта маеш! Я нават большае раблю для цябе — забаўляю гутаркай, весялю развагамі, не даю адзічэць у бязлюднай зоне радыяцыі. Я твой выратавальнік і надзея, твая будучыня. Шкада, што пакуль не чую ад цябе слоў удзячнасці. Але ж мне да гэтага не прывыкаць. За дзесяткі стагоддзяў той-сёй і здымаў перада мною шапку. Я ўмею чакаць.

А мо і ў цябе рука пацягнецца да твайго зношанага капелюша? Пацягнецца. Нікуды не дзенешся. Дарогі ў цябе да адступлення няма. Завалена яна табою ж. Тваімі рукамі. Ты спарадзіў тое, што цяпер душыць тваю вантробу. Не адбівайся, слухай...»

Юрдок міжволі, не задумваючыся, вышмаргнуў рукі з-пад посцілкі і шчыльна зацiснуў далонямі вушы. Яму здавалася, што вось так ён зможа абараніцца ад няпрошанага Нішто. Старому думалася: заткну вушы і голас знікне, не праб'ецца да яго, адкоціцца, як пустая бочка з пакатага пагорка. Кожную ноч Юрдок шчыльна заціскаў далонямі вушы, але ж гэта нічагусенькі не давала. Нішто пранікала ў галаву праз вочы, нос, скуру, нават праз ссівелыя валасы. Юрдок чакаў толькі аднаго — світанку. Хутчэй бы зашарэла за плюгавенька-падслепаватым акном ягонага сховішча. Вось тады Нішто адступіць, адыдзе, дасць вольна ўздыхнуць, забыцца на нейкую часінку.

За ноч ён высільваўся так, што раніцай адчуваў сябе разбітым і растаптаным, змэнчаным. Яму не хапала сілы падняцца са свайго лежбішча: грубых і сукаватых дошак, якія стары прыладзіў на пастаўленых у радок чурбанчыках. Нейкі гаспадар у ранейшыя часы збіраўся іх пусціць на дровы. Ды не паспеў. Вось цяпер яны і прыдаліся Юрдоку. Мулкасць такой пасцелі крыху скрашвала сухая трава. Мінулагодняя, зжоўкла-рудая. Юрдок зграбаў яе рукамі. Але нічога, і на такой пасцелі можна бавіць ноч. Тым больш, калі не спіш, а ляжыш прутом. Пад голаў стары знайшоў драную і прамасленую ватоўку. Можна было не сумнявацца, што яна, гэтая збітая ў камякі ватоўка, раней саграавала цела механізатара. Дужа ж цягнула, смярдзела ад яе не выветранай і гадамі саляркай і мазутам. Юрдок звыкся да гэтага паху. Цяпер ужо нават і не адчуваў.

За акном святлела. Стары чуў, як сонна перагукваліся, спрабавалі на звонкасць свае галасы птушкі.

«Бач ты, людзей ужо дзесятак гадоў тут нямашака, а яны раскашуюць сабе, жывуць, плодзяцца, як быццам і не атрутная гэта зямля. Дурненькія вы, мае птушкі,— падумаўшы так, Юрдок спахапіўся на думцы, што і ён не намнога разумнейшы за гэтых птушак у вяршалінах дубоў і сярод іх голля.— Прыгнала, прывяла мяне сюды нябачная сіла. Кінула ў вір галавою. Адным ударам расшчапіла ссохлае палена маёй жыткі».

У хаціне-халупе яшчэ больш пасвятлела. Ніцыя промні сонца лапікам ляглі праз акно на чорныя і шчарбатыя дошкі падлогі. У шчылінах паміж імі купкамі прабівалася хваравіта-бледная, жаўтаватая трава. Юрдок не вырываў яе — навошта. Няхай сабе гадуецца, калі ўжо вытыркнулася на свет.

«Хутка ўжо і дажджлівая, зацяжная восень,— Юрдок уздыхнуў,— а там, глядзіш, і зімою запахне. Скалею я тут адзін, струпехну, што дажджавы грыб, стану порхаўкай.— Такія думкі не пужалі старога. Дзіўна, для яго, Юрдока, які ўвесь час раней імкнуўся жыць, баяўся хвароб, ніколі не думаў пра смерць,— вось такая абыякавасць да далейшага свайго лёсу.— Нямала мною пражыта, а зроблена ўдвая больш. Ды і знасіўся я. А цяпер вось і рукі крывёю памыў.— Юрдок падумаў пра гэта без кроплі спачування і жалю.— Што зроблена, таго не вернеш.— Як ні тужся ранейшае вярнуць, а не зможаш. Не ў маёй гэта сіле. Страху аніякага няма. Дарэмна дакарае мяне Ніштo ў тым, быццам збег я сюды ад кары за здзейсненае. Чысцейшая лухта. Забойства было штуршком да вяртання дамоў, да сваіх мясцін, да маладых гадоў. Тых гадоў, якіх цяпер шапкай не зловіш... Ат, ляжы не ляжы, а падымацца трэба. І каўбух буркоча, нешта ўкінуць у яго трэба. Пакуль жывы, пра жывое думаць варта. Лёгка сашчапіць рукі на грудзях, калі на большае яны не годныя».

* * *

На дварэ было ветрана. Юрдок зашпіліў пінжак на адзіны гузік, астатнія, ён і не заўважыў калі, адляцеліадарваліся. Тры дубы, пасяродку якіх тулілася хаткахалупа, сярдзіта шумелі векавым голлем. Недалёкі ельнік, здавалася, падхопліваў іх стогн і, быццам пругкі мячык, каціў, гнаў у далячынь, у самую гушчэчу.

Юрдок пасунуўся па зарасніку палыну і піжмы, якія хавалі яго з галавою, да саду Пракопа. Там і ўчора стары збіраў апалыя яблыкі — баравінкі і малінаўкі. Падумаўшы пра яблыкі, Юрдок адчуў аскоміну на некалькіх зубах, якія яшчэ трымаліся ў роце. «Нічога, пару штук з'ем, а там і па грыбы сцягаюся».

Юрдок прабіраўся праз высачэзную сцяну разнатраўя, як бацян сярод аеру і асакі. Галава, уткнутая ў звузелыя плечы, пры кожным кроку торгалася ўперад. Калі глядзець на яго са спіны, то здаецца, што іменна галава

дапамагае ісці Юрдоку. Яна прымушае ногі цягнуцца следам. Праўда, яшчэ і рукі, што адгортваюць зараснік, не даюць старому заблытацца і зваліцца тут, у пустой, здзічэлай адзіноце. Не, Юрдок не абяссілены нішчымніцай, усяму віною гады і цяперашнія бяссонныя ночы.

Але... Юрдок ідзе па сваёй вёсцы. Ну, так. Менавіта па сваёй вёсцы. Няхай яна і невялікая. Няхай далекавата ад уезджаных дарог, далекавата ад людных гарадоў, гулу смярдзючых машын. Яна далёкая вёска. Але ж яна яго святы кут, яго і яшчэ некалькіх дзесяткаў людскіх душ. Толькі дзе цяпер тыя людзі? Адзін Юрдок сунецца па сваёй вёсцы. Сады. Толькі сады напамінаюць, што тут жылі людзі.

«От жа зараза, клятыя погані,— шэпча сам сабе Юрдок,— навошта было руйнаваць, закопваць хаты, хлеўчукі ды прыбудовы? Усё ў зямлю закапалі. Навошта? Няхай бы гарбелі пад небам, не гнілі ў зямлі. Гады́ і самі б іх туды ўвагналі. Добра для мяне адно: Палагеіну стопку не зачапілі — майго прыстанішча. Не ўзяў, відаць, зубасты бульдозер дубоў. Пабаяўся векавых дрэў. Не зачапіў, аб'ехаў. Стаіць Палагеіна стопка. Адна-адзінюсенькая, як і я, на ўсю вёску. Я і гэта хатка. Нішто гаворыць, што ён прыгнаў мяне сюды, мо ён і гэтую хатку-халупу мне пакінуў? Спланаваў, дабрадзей. Усё прадумаў...

Ага, вось і сад. Кіслыя яблыкі. Добра ж уляжалыя, а кіслыя. Трэба паглядзець цяпельца. Там яшчэ вуголлі будуць тлець. Сырэц звечара клаў. Два тыдні няма дажджоў, а то залілі б. Нічога, запалкі прыхаваны. Шкада, няма чаго курыць. Аддыхаюць мае грудзі. Чысціцца шлунне пасля столькіх гадоў. Эх, цяпер бы некалькі калівоў самасаду... Кажуць — цяжка жыць без яды. Цяжка-то цяжка, але без папяросіны найцяжэй. Не, я за ўсіх не бяруся, для мяне цяжэй. Няхай звечарэе. Тады раскладу агеньчык. А пакуль трэба схадзіць у лес, мо наткнуся на якую падлётную птушку. Добра, што не паленаваўся з лета, назбіраў птушыных яек. Паўскрынкі яшчэ ёсць... Ці ж думаў я, што так доўга мяне ніхто не зловіць. Клятыя міліцыянты не ведаюць, дзе шукаць. А я ж тутанькі, там, дзе нарадзіўся і вырас. Там, дзе з Варкай пабраўся,— падумаўшы пра гэта, Юрдок зірнуў на свае рукі, выпусціўшы з іх сабраныя яблыкі.— Эх, Варка, Варка, і хто цябе падагнаў пад мой гарачы кулак. Цяпер і дзяцей у мяне, лічы, няма. Адракліся сыны дасюль. Але ж і не гарнуліся яны і раней дужа».

* * *

Ніщто ценем паўзло за Юрдокам. Прыслухоўвалася да кожнай думкі старога. Цешылася. Як жа было не радавацца, не весяліцца! Стагоддзямі Ніщто жыло тут, у гэтай вёсцы, сярод людзей. Спраўляла разам з імі радзіны і вяселлі, уздыхала на хаўтурах і памінках. Жыло разам з імі і дзеля іх. Было заўсёды так: людзі і Ніщто — адно цэлае, непадзельнае. Не, не правы той, хто думаў ці думае, што яно, Ніщто, параджэнне толькі зла. Гэта памылка, глыбокі блуд. Але ж і дзіцём дабрыні яно таксама не было. Ніщто нарадзілася, гадавалася і расло разам з пакаленнямі людзей гэтай вёсачкі. Яны, вяскоўцы, узрасцілі Ніщто. Дабром і злом яго кармілі, спагадай і зайздрасцю, каханнем і нянавісцю, смехам і слязамі. Вяскоўцы вырасцілі яго, і вось на табе — адным днём кінулі ў адзіноце. Кінулі, як прыблуду, як завашыўленую і падраную кашулю, як зачумленага падслепаватага сабаку. Кінулі тое, што гадавалі пакаленнямі. Не, Ніщто на такое не згодна. Яно не можа сысці адсюль, з гэтых мясцін, са зруйнаванай бульдозерамі вёскі. Яно і цяпер у зоне, у радыяцыі ахоўвае вёску, успамінае тых, хто апошнімі тут жыў. Доўгімі начамі і днямі Ніщто порхала над былымі дворышчамі, разам з вятрамі скуголіла ў сухіх быльнягах, галасіла ў падранай кары садоў і дрэў, блыталася ў кустоўях парэчак і смародзіны. Яно тут жыло, абрастаючы крыўдай і адзінотай. Жыло адзінотай да той пары, пакуль не вярнула сюды Юрдока. Сілаю і падманам вярнула Юрдока дамоў.

І вось цяпер даймае яго, неадступна валочыцца за старым. Спаталяе сябе размовамі з Юрдокам. Ніщто ніяк не можа выкарчаваць з сябе глыбокі парастак крыўды на вяскоўцаў, на людзей увогуле. Яно гнётка навалілася на Юрдока, а ён, стары нядайдзіца, не можа зразумець: Ніщто хоча, каб павініўся ён за ўсіх людзей, за жанок і мужчын, за ўсіх, хто жыў тут. «Павініся, Юрдок, і я стану сябрам тваім, дарадцам і памочнікам. Начамі пачну аберагаць твой сон, а не надрываць тваё сэрца. За кіламетры адвяду ад цябе няпрошаных гасцей-навалок. Павініся, старэча. Шчыра і душэўна павініся за тую адзіноту, на якую вымусілі ўсе вы мяне. Улагодзь, Юрдок, я адыходлівае».— Ценем паўзе за старым Ніщто, шэпча яму гэтую просьбу, але ён не чуе. Цяпер у Юрдока іншы клопат, другія турботы. Цяпер не ноч, каб стары прыслухоўваўся да кожнага шолаху ў хацінцы-халупе, да няспынных

абрывістых думак у галаве. Нішто злуе, але не пакідае Юрдока. Ценем вялізнай мятлушкі накрывае плечы старога.

* * *

«Похапкам збеглі мы адсюль. Кінулі-рынулі ўсё, што гадамі нажывалася, і, як у прорву галавою,— у свет белы сіганулі. У чужое, незразумелае, баязліва-страшнаватае жыццё выправіліся. А хто мяне ці маю Варку там чакаў?» — Юрдок касавата зноў зірнуў на свае рукі. У промнях сонца і сапраўды падаліся яны яму чырванаватымі, быццам дрэнна вымытымі пасля крыві. Матлянуўшы галавою, ён адагнаў хвілінную мрою-насланнё. Пастаяў, азіраючыся, а ўбачыўшы шаравата-чорны канец бервяна, якое тарчала з зямлі і паспела па баках абрасці мяккім зеленаватым мохам, прысеў на яго.

«Паслухаўся сыноў, Варку ўгаварыў. Старым жа давалі аднапакаёўкі ў горадзе. На лягчэйшае жыццё паквапіўся. Няхай бы яно спрахла. Адарваўся ад зямліцы, у халодную цагельню ўлез. Вядома ж: дроў не трэба, вады ў студню хадзіць — таксама. Смешна, але прыбіральня і тая абагрэтая. Толькі ж не маё гэта, не наша з Варкаю,— Юрдок машынальна схаваў рукі за спінаю,— чужое ўсё, чужое і брыдкае. Яно не радуе, не лашчыць вока і душу. Што рабіць у той цагельнай кватэры? Тупаеш з ранку да вечара з кутка ў кут, пройдзешся каля пад'езда, перакінешся словам з такімі ж небаракамі, як сам,— і ўсё. А вясною, калі сонца прыгрэла, зямля прыпарваць пачынае, просіць, каб зярнят у яе ўкінулі,— рукі смыляць, што ў карослівага. Здаецца: ваўком завыў бы, а нельга, падумаюць, што звар'яцеў Юрдок, памуцілася ў ягонай галаве. Не, людцы, не ў галаве памуцілася, а душа бунтуе. Зарослыя зеллем соткі мяне клікалі, мае соткі зямлі, якія былі дагледжаны і ўходжаны раней. Яны мяне кожную вясну, уздыхаючы, з надзеяй клікалі. Напачатку з надзеяй і спадзяваннем, а пасля, год ад году, усё цішэў і цішэў іх голас, цішэў, але не сціхаў. І я чуў іх, чуў... Божухна мой, і чым цябе так угнявілі мы, што нейкай атрутнай залою-попелам пасыпаў нашы агароды і надзелы, нашы палі і лясы, стрэхі нашых хат, ваду ў рэках і крыніцах, усе ходжаныя дарогі і сцежкі... Не радавала мяне лёгкае жыццё. Дармавое яно. Не прывык я, стары Юрдок, да такога. Не з мазаля яно, не з поту. Мо і Варку маю з-за нявыказанай злосці згубіў.

Здаецца ж, і чаркі ў рот не браў, а, бач ты, рукі на яе налажыў. Як на духу кажу, што не помню я той чорнай хвіліны, не помню, як не помню і не ведаю часіны стварэння Свету. Але ж яна, мая Варачка, ссінелаю ляжала на канапе. Быццам стомленая пасля лугу, пасля таго, як дзень боўталася з граблямі па купінах асакі. Няўжо ж мае рукі ўчынілі ўсё тое?»

Ніщто слухала думкі старога. Спачатку весела пасміхалася, адкрыта скалілася. Але чым больш дакараў сябе Юрдок, тым большая самота і жаль агортвалі Нішто. Яно чула, як сціскваецца, болем сыходзіць, грукаціць у грудзях сэрца Юрдока. Бачыла Нішто і скупыя слязіны, якія буйной расою каціліся па густым ссівелым шчэцці на шчоках і барадзе старога. Нішто ахапіла шкадаванне. Яно дакарала сябе за бяздумства, за нядобры выбрык, які ўчыніла Юрдоку. Але ж яму было адзінока, а цяпер не. Цяпер яны ўдваіх. Юрдок замяніў для Нішто ўсіх вяскоўцаў. Усіх тых, хто на яго даўно забыўся. Яны забыліся, але Нішто памятае ўсё і ўсіх. А найбольш Юрдока. Проста ён больш кволы, падатлівы, дабрэйшы, адкрыты на спагаду. Ён не перастаў любіць гэту вёску, зямлю, на якой яна стаіць. Юрдок не ачарсцвеў душою. Не змог шматлюдны горад, жорсткі, бездухоўны горад, прыглушыць голас Нішто. Юрдок пачуў голас Нішто і з затуманенай галавою кінуўся дамоў. Сюды, у адзіны дом, які меў і мае. Не важна, што даканалі бульдозеры яго хату, спляжылі дворышча. Цяпер увесь пусты, бур'яністы прастор вёскі — дом Юрдока.

«Не сумуй, супакой сэрца сваё, мой суседзе,— прасіла, нашэптвала Нішто.— Прыйдзе тая ноч, і адкрыю я праўду. Перастанеш сябе дарэмна даймаць. А пакуль яшчэ рана. Баюся, што збяжыш, пакінеш мяне зноў у адзіноце. Страх перад караю трымае цябе, Юрдок. А мо і не? Мо не так усё і я проста памыляюся? Скажы, Юрдок? Прызнайся: я цябе сюды прыцягнула ці пакліч сэрца і душы прывёў? Га, Юрдок?»

Стары не чуў голасу Нішто. Ён уталопіўся позіркам на няроўную, зубчастую шчотку ельніку. Якраз паўз яго цягнулася вясковая вуліца Цёмны Лес. Там некалі жылі бацькі Варкі. Хлопцам шастаў ён паўз іх вокан, а крыху далей, каля студні, мясцілася хата кума Міколы. Ён разам з Кацярынай Гаўросіхай хрысцілі яго сыноў.

«Божа, калі гэта было? Здаецца, што ў мінулым, ранейшым жыцці. Тады сонца грэла ярчэй і цяплей, лета

было ў два разы даўжэйшым, у лясах грыбоў і ягад не перанасіць, а ён не адчуваў свайго цела. Нават не ведаў, з якога боку ў грудзях сэрца, проста не чуў яго, а цяпер вось грукоча, не дае забыцца, што, як гадзіннік, адлічвае яно вянец зімаў і летаў Юрдока. Грукачы, не давай забыцца, што яшчэ жывы, што трэба яшчэ жыць.

Калеюць рукі, быццам зімою, і косці трашчаць, хоць дзёгцем іх змазвай. Выстужана маё цела. А што ж я хацеў? Ужо маладым жарэбчыкам не паскачаш. Гады цяжкой ношкай ляжаць на плячах. Іх не скінеш, не выпрастаеш плечы, вольна не распрамішся. Дзіўна адно: колькі ні ўзірайся назад, за свае плечы, а здаецца, што зусім і не жыў, не было светлай радасці там... Відаць, што не было. Лухта. Усяго прыйшлося хлебануць напоўніцу, паспытаць і салодкага, і горкага. Помніцца — хтосьці гаварыў са старых,— тады мяне гэта не хвалявала,— што пад скон жыцця чалавек не баіцца заставацца адзін, бо жыве не будучым, а мінулым, сваімі ўспамінамі. Чысцейшая праўда, але ж і заставацца сам-насам — скрушна і няўтульна. Ды ўсё ж боязі няма. Мо раней стаміўся я ад пустой гаманы, бязладных дзён. Проста жыў апошнія гады без радасці ў душы і сэрцы, без чакання дзіўнага, без шлакатлівага шчасця, якое быццам кокан агортвае чалавека, што лічыну мятлушкі, ад штодзённай гнятлівай, шэрай будзённасці... Дурнееш ты, Юрдок, дурнееш. Якога шчасця хочаш? Якая радасць павінна саграваць твае грудзі? Ты вярнуўся дамоў. І гэтага хопіць пад самую завязку, пад гарляк».

Юрдок і сам не заўважыў, як прытупаў да хаціны-халупы. Асцярожна, сухой галінаю разгроб учарашні попел на цяпельцы, перавярнуў некалькі тлелых вугельчыкаў, стаўшы на каленцы, дзьмухануў на іх, падсунуў скрутак бяросты, яшчэ падзьмуў. Бяроста, нібы жывая, кругатанулася раз, другі, затрашчала і ўспыхнула пужлівым агеньчыкам.

«Грыбоў збяру пазней,— вырашыў Юрдок,— а пакуль звару пару яек. Вада ў чыгунку яшчэ ёсць. Цяпер няхай закіпіць».

— Падкіну сушняку, хутчэй будзе.— Юрдок не заўважаў, што за апошні час звыкся гаварыць сам з сабою ўголас.

Светла-шызаваты дымок ад агню пацягнуўся над густымі зараснікамі піжмы, палыну і крапівы. Ён лёгкай паласой выбіваўся з-пад магутных дубоў і, як ніцы восеньскі туман, сцяліўся вакол Палагеінай стопкі.

Юрдок і Ніхто прыцішана сядзелі на сукаватай ламачыне каля агню, ласкава пазіралі на вясёлыя языкі полымя, якое лізала закапцелыя, чорныя бакі алюмініевага чыгунка...

* * *

Міліцэйскі «уазік» паціху каціўся па былой вуліцы былой вёскі. Спераду ў кабіне сядзелі вадзіцель і грузкі мужчына ў плямістай форме. На заднім сядзенні туліліся бабуля і чарнявы малады чалавек. Бабуля пільна ўглядалася ў бакавое акенца машыны, на твары бачылася непрыхаваная журба, самотная скруха і непадробны жаль. Яе барада, што асінавы ліст пад ветрам, дробненька трымцела, але вочы, як ні дзіўна, былі сухімі. У іх адчувалася спустошанасць, праглядаліся адчай і бязвер'е. Малады ж чалавек глядзеў уперад праз лабавое шкло абыякава. Яму было сумна пазіраць на гэту пустэчу, на здзічэлыя, месцамі ссохлыя яблыні і слівы, грушы і чарэшні, на кусты вішняку, якія бязладна і бессістэмна распоўзся па ўтравянелай зямлі.

«Нічога добрага я тут не бачыў. Гадаваўся дзікуном сярод такіх жа дзікуноў. Нарадзіўся пры дымнай капцілцы, хоць і быў ужо канец шасцідзесятых гадоў. Да самага войску не ведаў, што такое цягнік. Босым у школу бегаў. Настаўніца Клаўка вучыла чатыры класы ў адной хаце. Чатыры рады парт — чатыры класы... Родная вёска, родны дом... Ха, смешна,— чарнявы малады чалавек шырока ўсміхнуўся, бліснуўшы жоўтымі фіксамі зубоў.— У кожнага там родны дом, дзе яму добра і ўтульна, дзе ўежна і ўлежна. Чаго не хапала бацьку? Далі ж кватэру ў горадзе, мае пенсію неблагую. Дажывай век і радуйся. Усё пад рукамі, ні пра што голаў не баліць. Аж не. Старэчы маразм пагнаў некуды. Другі тыдзень не ведаю спакою, гойсаю з маткай па вобласці, шукаем. Дабраліся нарэшце і да вёскі, да так званай радзімы. Хоць у раёне і казалі, што пуста тут, бульдозерам усё зграрнулі, закапалі. А матку не ўгаварыць, пацягнула сюды. Маўляў, сэрцам яна чуе, што бацька тут. Ну дзе? Дзе той бацька? Старое, быццам малое,— не хочацца крыўдзіць. Добра, хоць хлопцы-міліцыянеры, ахоўнікі зоны, паслухаліся, паспачувалі матцы і далі машыну. А калі б не? Прыйшлося б тупаць пешшу. Аднаго не ўцямлю: чаго цягнуцца ў гэтую пустэльню? Мёртвае тут усё, акалелае. Дзікунства. Як мог

я некалі гадавацца ў такім месцы? Ні табе гарачай вады, ні тратуараў. Пры дажджах — гразь па калена, а ў спёку пыл, што не прадыхнуць. Адно праўда: народжанага ў балоце на паляну не выцягнеш стала жыць. Хоць сабе і смярдзіць тванню і раскай у тым балоце, але для ўсіх убогіх яно роднае і адзіна дарагое. Цьфу ты, сялянская дурнота, вясковы ідыятызм, дэбільнасць прыроджаная. Мудоўская філасофія і слюнцяйства праглядваюцца ў галашэннях па трухлелых, гнілаватых дамах і хацінах. Не, тая іх жытка не для мяне. Хай яны, бацькі, жывуць мінулым, жывуць успамінамі пра агароды і зямлю, пра ціхія летнія надвячоркі і пругкі ранішні переразвон кос на лугавінах. Гэта іхняя повязь, іх вязьмо з жыццём... Хто б мне сказаў: ну чаго, за чым я пруся ў гэтую радыяцыю? Хіба што цешуся мёртвай зонай? Няпраўда. Няма ніякіх адчуванняў. Сумна. Проста і даходліва — сумна»,— чарнявы працягла ўздыхнуў, ёрзнуўшы на сядзенні.

«Мой ты Юрдочак, дарагі чалавеча мой, і куды, за чым цябе панеслі твае ногі? Не сказаўшы і слова, насупраць ночы з дому пайшоў. Нічога ж благога і нялюдскага я табе не зрабіла, нічым не ўкрыўдзіла. Як дзіцёнка малога глядзела, дагаджала, а ты збёг.— Варка не адрывала позірку ад акенца.— Вось і я, Юрдочак, дзякуючы табе, пабуду на роднай зямельцы, пагляджу на былое сваё котлішча. Хоць і цяжка цяперака пазнаць, дзе мясцілася яно раней. Усё наўкола аднолькавае і падобнае. Перавярнулася жыццё наша навыварат, стала ўсё з ног на галаву, перакулілася навыварат. Няма вёскі, няма двароў, людзі раскіданы па свеце, але ў маёй галаве і цяперака ўсё стаіць так, як раней тут было. Начамі ў сне я хаджу паўсюль, з кожным суседам нагаварваюся ўдосталь. Раней намнога часцей прыносілі мяне дамоў сны, а цяперака рэдка ўжо дапінаю сюды... Эх, Юрдок, што ж цябе піхнула кінуць мяне і шыбаваць у няведамае? Хоць ба ж сэрца не падманула, стрэліся з табою на нашай зямлі, каля нашых лясоў».

— Зірні-ка, Васіль, на дубы,— парушыў маўчанне вадзіцель, звяртаючыся да сябра-калегі, грузнаватага мужчыны.— Здаецца, што курадыміць там штосьці. Бачыш лёгкую павалоку дыму над травамі?

— Ыгы,— азваўся той.— Спыні машыну, туды не пад'едзеш. Пройдземся пешшу.

* * *

Юрдок, прыгрэўшыся каля цяпельца, драмаў. Нішто таксама пасопвала, прыгарнуўшыся ценем да старога. Булькала вада ў чыгунку, плёскаючы пырскамі на добра ўгарэлыя сухія дубцы і ярка-чырвоныя галіны. Векавыя дубы, здаецца, сцішылі пошум ветру ў сваіх вершалінах. Здаецца, што ўсё і ўсе навокал баяліся патрывожыць сон Юрдока і Нішто.

Юрдоку снілася параная бульба ў глінянай місцы і паўнюткі гладыш кіслага малака. Ён працягваў малодшаму чарняваму сынку лусту адкроенага, яшчэ гарачаватага хлеба, які Варка нядаўна выняла з печы. Жонка стаяла тут жа, каля стала, з талеркай у руках, на якой ляжалі буйна нарэзаныя кавалкі сала. Варка глядзела на яго і малога сына і нечаму, вядомаму адной ёй, лагодна ўсміхалася.

А Нішто бачыла, як скуголіць яно зноў адзінока ў высахлых галінах дрэў і кустоў, як нудзіцца ў самоце пад страхой развалюхі-стопкі, як беспрытульна лунае начамі над мёртвай, пахаванай у зямлі вёскай. Быццам і не было доўгіх размоў з Юрдокам пасля спустошанага, маўклівага дзесяцігоддзя. Усяго адзінага-адзінюткага тыдня гаманы, які для старога здаўся месяцамі. Нішто хацела аднаго, каб толькі Юрдок не ўспомніў, не ўзгадаў, што не падымаў ён сваіх рук на Варку, не губіў яе, нават пальцам не крануў. Жонка там, сярод людзей, то няхай Юрдок будзе адзінай радасцю для Нішто...

Варка з сынам і двое міліцыянераў стаялі пад дубамі, каля цяпельца, якое ўжо дагарала. Яны стаялі і моўчкі глядзелі на задрамаўшага старога і чыгунок з кіпенем, у якім варылася некалькі гладкіх, пабялелых каменьчыкаў. Яны не бачылі толькі Нішто, якое сіратлівым дзіцём прыгарнулася да Юрдока.

## *Барыс Пятровіч*

### ВІНА

*Апавяданне*

«Што ж ты нарабіў, хлопец, што нарабіў...» — прамовіў стары Змітрык і роспачна апусціў галаву.

«Які ж я хлопец! — хацеў сказаць дзед Базыль.— Я такі ж стары, як і ты... вы...» — ды не паспеў. Стары знік ў цвеце яблыні, растаў, як дым ад павеву ветрыку, нібыта і не было яго, нібыта прымроіўся. «А вось жа толькі быў тут,— падумаў дзед Базыль,— і не спаў і вочы не змружваў нават, і дзень цяперака...»

Ён сядзеў перад расчыненым у сад вакном. Ён любіў сядзець гэтак першацёплымі вясновымі дзянькамі, а сёння быў якраз такі дзень. Ён глядзеў на яблыню, і гэта цвет ейны сабраўся ў твар дзеда Змітрыка і прамовіў тыя словы, якія сам ён думаў пра сябе: «Што ты нарабіў, хлопец, што нарабіў...» І ў семдзесят пяць дзед Базыль пачуваў сябе маладым, дваццацігадовым. Гады давалі пра сябе знак толькі тады, калі ўставаў ён і ногі не слухаліся яго. Дробнымі крокамі дыбаў ён да ложка і верыў, і не верыў, што жыццё пражытае ўжо, а ён быццам бы і не жыў яшчэ...

Ранкам да яго зайшоў дырэктар школы — рухавы чалавек сярэдняга веку, з чужых, прыезджых пасля Чарнобыля і аселых у Бароўцы людзей. Жвава павітаўся за руку і спытаў-папрасіў:

— Базыль Піліпавіч, дык, можа б, вы ўсё ж прыйшлі дзевятага мая да нас у школу, га? І дзеці, і настаўнікі — усе мы просім...

— Я ж казаў вучням вашым — не магу... Ніякі з мяне выступальнік. І раней, а што ўжо цяпераka... Не, няма мне чым хваліцца.

— Ну не скажыце... У вас медалёў баявых вунь колькі! І ордэн маеце. Вы ж і партызанілі ў нашых краях, і да Кёнігсберга дайшлі... Дык мо прыйшлі б?

— Не, сынок, не магу. Гады не тыя — па школах хадзіць...

— Я разумею. Не турбаваў бы, але вы ў нас адзін засталіся. На ўсё наваколле, на ўвесь сельсавет — няма больш ветэранаў. Памерлі вашыя сябры баявыя... Дык

перад памяццю іх...— і дырэктар пачаў казаць нешта пра абавязак, а потым пра выхаванне падрастаючага пакалення на традыцыях...

Але дзед Базыль слухаў яго ўпаўвуха. «Партызаніў тут, кажаш,— думаў ён сваё,— напартызаніў, было...»

— Дык дамовіліся, прыйдзеце,— дырэктар злавіў дзеда на маўчанні, на сваіх думках і, не даючы апамятацца, дадаў: — Ну і добра...

«Умееш угаворваць,— пасміхнуўся пра сябе дзед Базыль,— не быў бы дырэктар...» — а ўголас сказаў:

— Не, сынок, не спяшайся... Кажу ж: каб змог — прыйшоў бы, прытэпаў бы неяк...

— Дык мы вас падвязём! Вы падумайце. Час яшчэ ёсць.

На тым і развіталіся. Дырэктар пайшоў — лёгка, весела, нібы падбрыкваючы, можа, нават і песню напяваючы; пайшоў, пакінуўшы дзеда сам-насам са сваімі думкамі. З тымі думкамі, якія раней ён усяляк стараўся не трымаць у галаве: тужлівымі, трывожнымі, балючымі...

«Чаму я не з'ехаў адсюль? Чаму вярнуўся пасля вайны на вечную пакуту? Не бачыў бы, не ведаў бы, і не балела б... Запрашаў жа старшына Раз'ездаў на Урал. Дзяўчаты прыгажэнныя, казаў, рыбалка, паляванне... Сястра ў яго харошая — картачку паказваў. Чаму не паехаў з ім па дэмабілізацыі? Навошта пацягнуўся сюды? Тут жа нішто не трымала. Ніхто не чакаў... Можна было з'ехаць і пазней — завербавацца на Сахалін ці ў Калінінградскую вобласць, у Карэлію ці потым у Казахстан... Колькі тады з'ехала з Бароўкі! Уга... Якая моладзь! І дзе яны цяпераka? Што з імі сталася? З Казахстана ды Карэліі многія павярталіся. Ні грошай не зарабіўшы, ні жытла там не прыдбаўшы. А на Сахаліне ды ў Калінінградскай вобласці прыжыліся. Абруселі. Прыязджалі раней з дзецьмі — не пазнаць, гарадскімі пасталі. А цяпераka і дзеці іхнія ўжо не ездзяць. Мо яшчэ і Чарнобыля баяцца...»

Не паслухаў Базыль старшыну Раз'ездава, не паехаў да яго на Урал. Дамоў вярнуўся. Каб віну загладзіць? Ды не, не думаў ён тады пра віну. Сярод агульнае радасці перамогі вяртаўся ён дамоў героем: уся грудзіна ў медалях... А прыехаў хай і з разбітага, разбомбленага, але сытага Кёнігсберга, выйшаў з лесу на луг перад Бароўкаю і жахнуўся: няма вёскі. На ўсю шыр на месцы яе —

пустка. Голае поле з папялішчамі ды комінамі ад печаў. Садоў да вайны лічы не было, дзе-нідзе перад хатамі раслі хіба ліпы ці клёны, а на полі — грушы-дзічкі. Толькі па іх, па аднабока абгарэлых, счарнелых дрэвах, і можна было здагадацца здалёк, што была тут вёска і дзе чыё селішча стаяла.

Бароўцы, што з лесу перабраліся на папялішчы, жылі яшчэ ў зямлянках. Сёй-той паспеў толькі будан які зляпіць над зямлёю. Ды і каму адбудоўвацца было: мужчын у вёсцы па пальцах пералічыш. Старэйшых немцы спалілі, астатнія, хто выжыў, з вайны толькі-толькі вяртацца пачыналі. А жанчыны... Мала ў якой на руках было менш за трое дзяцей. Пракарміць бы іх, а ўжо будавацца — потым...

Вось тады, на ўскрайку лесу, і скаланула яго ў першы раз усур'ёз думка: а ці ж не я гэта ва ўсім вінаваты?.. Прамільгнула думка тая жахлівая, але не пусціў ён яе ў сэрца, загнаў далёка-далёка ў падсвядомасць, бо дужа страшная была яна... Ды і прыглушыла яе, зусім патушыла пачуццё іншае: радасці, што нарэшце ён дома, што перамаглі ў такой вайне, што сонца бачыць, а не парыць косці дзе-небудзь у Прусіі... А цяпер — адбудуемся, жывы будзем, не памром...

Але думка тая трывожная трапятнулася, ды не забылася: заціхла — да пары да часу...

Захацелася паліць: нясцерпна, перасмягла, як у вайну. Прымятая з бакоў бляшанка з тытунём ляжала побач на падваконні. Дзед Базыль узяў яе дрогкімі рукамі, падчапіў накрыўку збалела-чорным пазногцем і расчыніў. Сыпануў шчапоць, другую, трэцюю на паперчыну, скруціў, а ў роце перасохла: змацаваць самакрутку няма як, няма чым... Сяк-так склеіў, прыпаліў. Зацягнуўся глыбока-глыбока, адставіў руку і ўгледзеўся ў цыгарку, усю ў дробных газетных літарках. «Як у вайну»,— зноў падумаў. Пенсіі на лавачныя цыгарэты не хапае — якая там пенсія, слёзы. «Але,— адразу ж падумалася,— дзякуй Богу, што хоць тую своечасова плоцяць». Пенсіі на хлеб ледзьве стае, дык вось і садзяць бароўскія дзяды кожны сабе граду тытуню, каб хоць самасад быў. Ды і не толькі дзяды, але ўжо і маладзейшыя курцы «плантацыі» сабе завялі. «Калі так далей пойдзе, дык хутка і лён пачнём на кашулі сеяць»,— жартуюць. Натуральная гаспадарка... Якраз учора дзед Базыль напрыканцы саду, там, дзе болей сонца, пасадзіў

расаду пад новы ўраджай: маразоў мо болей не будзе, акрыяе...

Дым расцёкся па сухенькім целе, прабрала трохі, і нібыта палягчэла. Але думкі горкія не мінуліся, не адпускалі. Стаў шукаць сваю віну там, у тых далёка-даўніх падзеях, і не бачыў яе. То быў збег абставін. Лёс... Пачаў шукаць апраўданне сабе ў тым помным учынку і таксама не знаходзіў яго... Патухлі вочы, стомлена апусцілася галава...

Быў пачатак лета, якраз перад Ушэсцем. Іхняя група падрыўнікоў пайшла на заданне пад Васілевічы. Меркавалі ўзарваць цягнік, ды пралічыліся. Нават да чыгункі не змаглі падступіцца, хоць праляжалі на ўзлеску каля яе трое сутак. Ішоў сорак трэці год. Дарога была важная: у адзін бок на Брэст, Варшаву і далей на Берлін, у другі — на Гомель, Бранск і далей на Арол ды Курск. Там недзе праз месяц мелася адбыцца знакамітая бітва, пра якую яны тады і здагадвацца не маглі. Але заўважылі, што ахову чыгункі немцы ўзмацнілі. Паабапал на добрую сотню метраў выразалі і звезлі лес, наставілі дзотаў. Падыходы да дарогі прастрэльваліся навылёт. Гэта пазней, падчас «рэйкавае вайны», партызаны пачалі цэлымі атрадамі нападаць на чыгунку, прарываць нямецкую ахову. А яны ўпяцёх што тады маглі зрабіць: хіба толькі кінуцца да цягніка і загінуць, можа, нават і не дабегшы да тых рэек.

Яны паназіралі, як ідуць у бок фронту цяжкія, добра гружаныя саставы, і вырашылі вярнуцца назад. Міну паставілі на гравійцы, што ў некалькіх кіламетрах ішла амаль паралельна чыгунцы. Чакаць, хто ці што на ёй падарвецца, не сталі. Ператаліліся, амаль не спаўшы, агаладалі. «Даложым, што машына з немцамі падарвалася,— сказаў камандзір групы Мікола Шчучэнка,— трое фашыстаў загінула на месцы». Было тое не ўпершыню, і яны, пераглянуўшыся, моўчкі пагадзіліся. А што — і сапраўды падарвецца ж нехта на гэтай міне, можа, нават і танк. І тады яго на свой рахунак запіша нейкі іншы атрад з бліжэйшых тут. Бывала такое. Але найчасцей узрываліся падводы. Не толькі нямецкія, але і з навакольных вёсак... Ды на тое ж і вайна... І хто тую міну ставіў — невядома. А на іх міне — пойдзе цяпер па ўсіх зводках — узарвалася машына: ідзі правер, калі не верыш... І яны ўсе як адзін будуць сцвярджаць гэта, калі спатрэбіцца,— нават пад пагрозай расстрэлу. Аднак — не трэ-

ба будзе. Так ніводнага разу за вайну і не спыталі ні ў кога...

На шляху да базы атрада доўгай істужкай між двух балотаў выцягнулася Базылёва Бароўка. Можна было абысці яе, але ўсе хлопцы ведалі, што Базыль адсюль родам, што тут жывуць ягоныя бацькі. І яшчэ ведалі, што хоць вёска і вялікая, аднак нямецкага гарнізона тут няма. Ёсць толькі стараста, які і сам партызанам дапамагае (хоць і немцам служыць, калі наязджаюць,— дзеля таго і прызначаны), ды некалькі паліцаяў з мясцовых хлопцаў, якіх партызаны да пары не чапалі, ды і яны партызанаў таксама, калі тыя ў вёску наведваліся. Без злосці пакуль абыходзіліся: трэба ж і на вайне нейкая ўлада, вось яны і былі той уладай. Тут, у далёкай ад вялікіх дарог палескай вёсцы, захоўваліся свае законы нават у часы ўсеагульнага беззаконня...

Світала, калі падрыўнікі падышлі да Бароўкі. Хоць у дарозе Базылю падалося, што ночы і зусім не было: сонца толькі на вобміг схавалася ў нізкіх шызых хмарах і зноў пачало фарбаваць іх у чырвань, вось-вось збіраючыся вызірнуць. Хлопцы засталіся на ўзлеску, а Базыль, не хаваючыся, пайшоў да свае хаты. «Гарэлкі, самагонкі прынясі,— шаптаў яму ўслед Мікола-камандзір,— хоць пляшачку...» У небе заходзіўся ранні жаўрук, раса халадам абмывала боты, навакол стаяла такая ціша — не гаўкалі надакучлівыя сабакі, не рыкалі, не ўсхадзіліся яшчэ каровы — што калі б не адцягвала плячо і не целяпалася паўз клуб вінтоўка, якую ён пабаяўся пакінуць, бо з ёй усё ж смялей, дык і зусім падалося б: няма ніякай вайны і вяртаецца ён дамоў гэтак позна-рана ад дзеўкі з суседняе вёскі...

Бацька і маці ўжо не спалі. Толькі Базыль паказаўся ў двары — маці вызірнула ў акенца, і ён убачыў, як засвяціўся радасцю яе старэчы твар. Базыль з братам Міколам былі познімі дзецьмі, бо і самі бацька з маці пабраліся ў сталым ужо веку. У рэвалюцыю іх першыя сем'і памерлі ад тыфусу: бацька быў на вайне, таму выжыў, а маці адную неяк выхадзіла суседка. Ім было за сорак, калі нарадзіўся Базыль,— паднялі яго з братам, выгадавалі і нейк адразу састарэлі, асунуліся. Бацькоў Базылёвых раўналеткаў называлі яшчэ дзядзькамі ды цёткамі, а ў яго былі — дзед ды баба. Не, ён не саромеўся іх, але побач трохі ніякавеў. Жылі бацькі цяпер з нявесткай, братавай жонкай, гадавалі ўнукаў.

У хаце Базыль не забавіўся. Не хацеў будзіць дзяцей, што соладка спалі. Маці хуценька сабрала харчоў і, праводзячы яго за гароды, нібыта нешта прадчуваючы, залілася слязьмі, загаласіла. Яго гэта нават абурыла-раззлавала: ну што тут такога — прыйду, прыйду яшчэ пры нагодзе... Эх, каб ведаў ён, каб ведаў, што будзе, не паляцеў бы так хутка да хлопцаў, пабыў з бацькамі... Не, каб ведаў, дык абышоў бы тады Бароўку за сто кіламетраў...

Тут жа, на ўзлеску, назіраючы, як прачынаецца вёска, нетаропка паснедалі, выпілі патроху — маці знайшла толькі пляшку самагонкі і то збегала да суседкі, пазычыла, бо сваёй не было. Але ім, стомленым, нявыспаным, хапіла. І далей пайшлі яны амаль не тоячыся. Каго было баяцца: нямецкі гарнізон ёсць толькі ў райцэнтры, а да яго адсюль кіламетраў пятнаццаць. Немцы са свайго логава асабліва не высоўваліся, хіба з нейкімі гаспадарчымі справамі — харчоў сабраць па вёсках: яек, сала, малака, курэй налавіць-настраляць... Гучна гамонячы, хлопцы выйшлі да дарогі — да адзінай, што была на іх шляху, якраз той, што вяла ў райцэнтр. І трэба ж такому здарыцца: ледзь не нос у нос сутыкнуліся з нямецкім абозам: чатыры-пяць падвод па адным-два немцу ці паліцаю на возе...

Колькі хвіляў працягвалася маўклівае супрацьстаянне: вазы спыніліся і хлопцы не варушыліся, замёрлі ад нечаканасці. А потым немцы кінуліся з падвод па адзін бок дарогі, а партызаны — па другі. Нехта стрэліў: адзінокае рэха азвалася ў лесе. Нібыта ў адказ суха трэснула яшчэ некалькі стрэлаў. Базыль зачапіўся за корань, упаў, апамятаўся, адпоўз за хвою, залёг за ёй і раптам пачуў, як над ягонай галавою чыркнула па камлі куля. Амаль адразу ён убачыў і немца, які страляў па ім. Той таксама схаваўся за хвояй па другі бок дарогі ў паўсотні метраў ад яго, толькі не ляжаў, а прысеў на адно калена. Імгненне Базыль глядзеў на немца, але запомніў на ўсё жыццё. То быў нашмат старэйшы за яго чалавек, грузны, круглатвары, у акулярах, відавочна, не з тых, каго бралі на перадавую,— тыповы тылавік, інтэндант нават знешне. Немец, мусіць, быў галоўным у абозе, бо нешта пакрыкваў на іншых і... цэліўся ў Базыля. Базыль затуліўся за дрэва, і калі пырснула зямлёй, упілася ў ігліцу каля яго куля, вызірнуў і сам стрэліў. Амаль не цэлячыся. Прамазаў, аднак немец стаў ужо не такім смелым, схаваўся за дрэва.

Што рабілася вакол, Базыль не бачыў і не чуў. Бачыў, а хутчэй адчуваў толькі таго немца за дарогай, які такса-

ма торгаў затворам карабіна і раз-пораз страляў у бок Базыля.

Колькі так доўжылася — мо хвіліну, мо больш — Базыль не ведаў. Была нейкая гарачлівая спешка, але час нібыта запаволіўся, перапыніўся нават. Стрэліў ён у немца ўсяго, можа, пяць, можа, шэсць разоў. І апошнім стрэлам, сам не разумее як, але патрапіў у яго. Быццам на замаруджаных кадрах убачыў, як ірванула куля мундзір на грудзях у немца, як выпусціў той з рук свой дабрэнны карабін, як, гледзячы на Базыля і нібы гаворачы позіркам: «Навошта? Чаму мяне?..» — пачаў асядаць за хвою. І тут зноў вярнуўся страх, ён падхапіўся і кінуўся ўцякаць туды, куды павінны былі пабегчы хлопцы з ягонае групы.

Праз сотню крокаў Базыль наткнуўся на сваіх. Яны вярталіся на гукі перастрэлкі, каб выручыць, выхапіць яго. «Хлопцы, я немца забіў!!!» — крыкнуў ён і заплакаў...

Разам, здалёк, яны паназіралі, як немцы сабраліся вакол забітага таварыша, як паклалі яго на калёсы, як павярнулі свае падводы назад, да райцэнтра... І не было ў хлопцаў жадання нападаць на тых немцаў, страляць па іх, забіваць іх, бо выглядалі яны зусім не ворагамі, а проста мужчынамі, згорбленымі горам, прысамочанымі смуткам страты свайго сябра.

За той бой і за забітага немца камандаванне атрада ўзнагародзіла Базыля медалём «За баявыя заслугі».

Але гэта было потым. А тады... Тады...

Дзед Базыль абапёрся на падваконне, высунуўся з вакна, вызірнуў на вясковую вуліцу. Вёска, вядома ж, адбудавалася. Цяперака па ёй ніхто і не скажа, што была яна некалі дашчэнту спаленая, што і не было яе, як Хатыні. Галоўная вуліца, праўда, прайшла не па тым месцы, дзе раней, а метраў на сто ніжэй, але нат і той, хто ведае, цяперака таго не заўважыць. Вунь і школа новая, двухпавярховая стаіць на пагорку, крыху паводдаль дарогі... «Ну што я скажу дзецям?.. Буду гаварыць пра подзвігі, пра гераізм, а сам думаць зусім пра іншае... Крывіць душою... Не. Ніколі...» Апошні раз дзед Базыль быў у школе на сустрэчы з ветэранамі гадоў пяць таму. Прамаўлялі іншыя. Ён, можна сказаць, прамаўчаў: сядзеў ды слухаў. І так брыдка было яму... Каб хто ведаў! Выступаў тады Сцяпан Мідзенка, зямля яму пухам. Вайну праседзеў тут, у вёсцы, у партызанах не быў. Калі немцы палілі Бароўку, уцёк з сям'ёю ў лес і там дачакаўся вызвалення. Мабілізавалі, дайшоў у абозе да Берліна. Але язык меў добра

падвешаны ды і «мемуараў» начытаўся за пяцьдзесят гадоў пасля перамогі. Сыпаў як па-пісаным, толькі юбілейныя медалі бразгацелі на пінжаку: «Как ціперь помню,— казаў ён,— наша втарая стралковая рота 131 батальона 45 стралковага палка ордзена Баявога Краснага Знамені дывізіі пад камандаваннем генерал-майора Стральцова Івана Нікадзімавіча стаяла пад месцечкам Ружомбярок, што пад Марцінам у Западных Карпатах...» — і кідаў, кідаў у клас прозвішчы генералаў ды назвы гарадоў, якія ён «брал». «Які Стральцоў, якія Западныя Карпаты... — думаў Базыль, седзячы побач.— Што ты бачыў у сваім абозе, што ты ведаў, якія ты гарады «брал», трапло...» І больш за ўсё злавала ды вярэдзіла яго тое, што Сцяпан, які ўсё жыццё пражыў у вёсцы, перад такімі ж вясковымі дзецьмі стараўся «выступаць» па-руску, хоць і не атрымлівалася ў яго, слоў не хапала, і ён казаў свае на «рюскі» манер.

Базылю, як партызану, адразу па вызваленні «аказалі давер»: накіравалі на перадавую. І вайну скончыў ён у першых акопах. А ордэн атрымаў пад Кёнігсбергам, калі з іхняе роты засталося жывых сямёра... Але геройства ні свайго, ні іншых ён не памятаў. Дакладней, не бачыў ён у тым, што рабіў, як ваяваў, геройства. І што дзецям расказваць, не ведаў. Змагаліся, стаялі насмерць, перамаглі... Што яшчэ? Страшна было, не верце тым, хто кажа, што нястрашна... Пра подзвігі не думалі там, думалі, як выжыць. Хаця, калі трэба было, жыцця свайго дзеля іншых не шкадавалі. І марылі, марылі, як добра жыць будзе пасля перамогі. Вось якраз пра тое, «як добра» стала жыць «пасля перамогі» і да чаго мы, пераможцы, дажыліся сёння, праз пяцьдзесят пяць гадоў, дзед Базыль мог бы пагаварыць, але ці дадуць яму, ці таго ад яго чакаюць?

Вясковая вуліца была ўсцяж пустая, хоць не ноч стаяла, а самы што ні на ёсць дзень — звычайны, не святочны і не выхадны. Так, Бароўка адбудавалася, адрадзілася, каб цяперака зноў... паміраць. Старэюць яе жыхары, старэюць дрэва і камень — старэе і вёска. Маладыя, у пяро ўвайшоўшы, адлятаюць у горад. А тут яшчэ гэты Чарнобыль... На іхняй вуліцы засталіся адныя дзяды ды бабулі. І тое жывыя — праз хату-другую, хто адзін, а хто яшчэ ўдваіх ярмо цягне. Астатнія селішчы стаяць пустыя, развальваюцца паціху-патроху, нікому не патрэбныя. Памірае вёска. Без вайны памірае. Пакутліва, расцягнута

ў часе, развальваецца, парахнее без гаспадароў, гніе... Паступова, запаволена...

А тады... Тады не стала яе ў адзін дзень, за некалькі гадзін...

Забітага немца пахавалі ў райцэнтры праз дзень. А яшчэ праз дзень у бок Бароўкі з горада рушыла калона. Немцы і паліцаі, а ім на падмогу пад'ехалі з Мазыра і Калінкавічаў, колькасцю ў некалькі сотняў чалавек, што для гэтае балотнае мясцовасці, аддаленай ад шляхоў ды гарадоў, было сілаю магутнай, пад'ехалі да вёскі ранараненька. Але Бароўка ўжо не спала, хоць дзень быў святочны — якраз Ушэсце. І паколькі была вёска вялікай, расцягнулася з захаду на ўсход па выспе між балотаў на чатыры кіламетры, незаўважна акружыць яе, напасці раптоўна, знянацку не ўдалося.

Як тое адбывалася, Базыль, вядома ж, не бачыў. Ведае ён толькі з пазнейшых расповядаў вяскоўцаў. Пакуль людзі апамяталіся, немцы паспелі ахапіць сваім карным ланцугом амаль палову вёскі. Тыя, хто жыў на другім, дальнім ад райцэнтра, канцы яе, пахапалі дзяцей, што маглі з адзення, і кінуліся ў лес. Астатніх жыхароў немцы сагналі да клуба. З ганка афіцэр праз перакладчыцу аб'явіў, што ім выпаў гонар паехаць сем'ямі на працу ў Вялікую Германію. Да Васілевічаў пойдуць пешкам, а далей паедуць на цягніку. Старым і нямоглым, хворым і зусім малым можна застацца — іх падвязуць да станцыі на машынах.

Людзі паверылі — ды і куды было падзецца. Старых і хворых засталося чакаць транспарту, цяпер Базыль ведае дакладна, 148 чалавек. Надумалі пад'ехаць і ягоныя бацька ды маці. Нявестка хацела пакінуць з імі малых дзяцей, але нейкі немец не даў ёй гэтага зрабіць: груба адштурхнуў разам з дзецьмі, запхнуў у калону. Усю дарогу праклінала яна таго немца, несучы на руках то адное, то другое знямоглае дзіця. А калі потым даведалася ўсю праўду, дык не раз у думках малілася за яго...

Калона адышла ў бок Васілевічаў усяго некалькі кіламетраў, як немцы пачалі паліць вёску на вачах у тых, хто застаўся чакаць машын. Нібыта спяшаліся, хоць доўгага летняга дня заставалася яшчэ шмат. Калі запалалі першыя хаты, у натоўпе пачаліся гвалт, крык, плач. І тады старых ды хворых пад рулямі кулямётаў загналі ў калгас-

ную стайню. І хоць ніхто яшчэ не здагадваўся, дзеля чаго іх туды папіхаюць, людзі ісці ў цёмнае, змрочнае памяшканне не хацелі...

У атрадзе пра тое, што немцы праводзяць карную аперацыю і паляць Бароўку, дазналіся тым жа ранкам, а камандзір ад разведкі, пэўна ж, ведаў яшчэ з учора. Камандаванне вырашыла нічога не прадпрымаць. Байцы збіраліся ў купкі і абмяркоўвалі гэтую вестку. Крыўдна было Базылю чуць, што шкадуюць хлопцы не вёску, не людзей, якія застаюцца без даху над галавой,— размоў пра гэта і блізка не было, а турбуюцца, што папругі давядзецца зацягваць тужэй: вялікая Бароўка давала атраду ці не палову харчоў, асабліва зімой. Базыль цішком адышоўся да недалёкага бору і залез на высачэзную хвою. Глядзеў у бок вёскі — там, над лесам, падымалася густая паласа дыму, сівога па баках і чорнага-чорнага пасярод. Ён не ведаў, што там адбываецца, ён не ведаў, дзе бацькі, не чуў крыкаў і стогнаў, галашэння і плачу, але слёзы так і цяклі з ягоных вачэй, бо, здавалася, само неба лямантавала ў той дзень.

З тым чорным дымам адляталі душы бацькі, маці, дзеда Змітрыка і яшчэ дзесяткаў блізкіх яму і знаёмых з дзяцінства людзей. Толькі адзін хлопчык уратаваўся з тае стайні, але ад жаху перажытага анямеў (стаў немчыкам, казалі ў вёсцы, і для яго, анямелага ад лютасці немцаў, гучала гэта яшчэ жахлівей) і таму расказаць нікому нічога не мог, а пісаць яшчэ не навучыўся. Так і не навучыўся... Жыве ён і цяпер у вёсцы, старэнькі, ходзіць і навечна наіўна-дзіцячым тварыкам як нямы дакор... Базылю.

«І чаму не бацька, не маці, а дзед Змітрык убачыўся мне сёння? Чаму ні бацька, ні маці ні разочку нават у сне не паўшчувалі мяне? Яны ж там усё ведаюць! Усё... І ведаюць, пэўна ж, пра мае перажыванні. І пра пошукі апраўданняў. Ці мо яны вінаватым мяне не лічаць... Інакш хоць разок ды з'явіліся б... Як жа, дадумаўся зноў: ты — невінаваты...— горка ўсміхнуўся сам сабе дзед Базыль.— Не прыкідвайся. Іншых ты можаш падмануць, а сябе — не. Ты ж чуў тады: немцы аб'явілі, што спалілі Бароўку, менавіта помсцячы за забітага каля яе унтэр-афіцэра. І людзі ўсе пра тое ведаюць. Не здагадваюцца хіба толькі, што гэта ты зрабіў, што ты забіў таго немца... У атрадзе землякоў больш не было, а іншыя неяк стараліся не згадваць той выпадак. Бо адчувалі і сваю віну, што праседзелі ў лесе і не кінуліся нават адбіць тых, каго немцы

гналі ў Германію: ахова там была невялікая. І пабаяліся, не перастрэлі на паўдарозе немцаў ды паліцаяў, што вярталіся з «аперацыі». Не абстралялі нават. Хоць тады ўжо можна было зрабіць гэта беспакарана: вёска ж усё роўна спаленая... Дык не, праседзелі, як мышы пад венікам, дрыжэлі толькі, каб немцы не завярнулі на зваротнай дарозе да іх базы, месцазнаходжанне якой, пэўна ж, ведалі... Але і немцам, мусіць, не трэба былі лішняя рызыка ды лішнія ахвяры: гэта ж не з вяскоўцамі «ваяваць»...»

Тысячы разоў думаў пасля дзед Базыль пра тую сваю перастрэлку. Ці хацеў ён забіваць немца? На спакойную галаву — не... А тады ў гарачцы... Ну сталася так... Няхай бы лепш немец забіў яго. Не было б столькі гора людзям: і тым, што ўцяклі ў лес і засталіся на зіму без жылля, у зямлянках з малымі дзецьмі, і тым, каго звезлі на працу ў Германію... «І чаму я не ўцёк разам з усімі, чаму запоўз за тую хвою? Каб уцёк, было б усё інакш, іначай, не так... Не так!.. Бо гэта ж несправядліва! Так не магло быць! Так нельга! Так не павінна было быць!..» — дзед Базыль заўважыў, што гучна шэпча тое сабе, ледзь не крычыць, і агледзеўся. Не, у хаце больш нікога не было. Толькі ён ды бясслоўны кот. «Нічога ўжо не зменіш,— падумаў ён слаба і стомлена,— нічога. Што было, тое было, што ёсць, тое ёсць...»

Базыль дэмабілізаваўся і вярнуўся ў Бароўку ўвосень сорак пятага. Застаў дома ўжо і тых, каго немцы загналі ў Германію: яны прыехалі да сваіх спаленых котлішчаў улетку. Была тут і братава жонка Валя з дзецьмі. Ён знайшоў іх у зямлянцы, што выкапала яна на месцы свайго селішча, непадалёк ад печы, у якой і гатавала дзецям. Брат Мікола з вайны не прыйшоў. Загінуў без звестак яшчэ напачатку, ці не ў першы месяц яе, недзе пад Магілёвам. Больш нікога ў вёсцы ў Базыля не было. Дзяўчына, якую ён кахаў, да якой бегаў на спатканні, загінула, ён і па сёння не ведае дзе: прапала падчас вайны. І Базыль застаўся жыць з Валяй. Спачатку проста дапамагаў ёй гадаваць дзетак, а потым нейк неўпрыкмет сталі яны мужам ды жонкай. Хоць і казала яму Валя: «Адумайся, навошта я табе. Паглядзі, колькі дзяўчат вакол. Ты малады, харошы, любая за цябе пойдзе...» Не паслухаў ён яе. І да трох братавых дзяцей дадалося яшчэ двое іхніх. Паднялі ўсіх, у свет пусцілі. Так, у вёсцы

з пяцёх ніхто не застаўся. Добра, хоць унукаў на лета прывозяць.

Базыля, як франтавіка ды партызана, паставілі брыгадзірам. Кіраваў ён паляводчай брыгадай. Меў пад началам сорак жанок — удоў у асноўным. Усялякае было. І саромнае: бабы без мужыкоў вар'яцелі... Але ён Валі ні разу не здрадзіў. Не меў ён на гэта права. Не меў... Хоць і здзекаваліся напачатку з яго бабы. Жорстка, крыўдна. Але сцярпеў. А яны потым пераключыліся на Валю: маўляў, прысушыла, вядзьмарка, мужыка.

А Валя так ніколі і не сказала яму, ці кахае яго, ці проста Міколу згадвае: браты, кроў адна і пах адзін. Жылі, дзяцей гадавалі... Заўважала яна, што перажывае ён з-за чагосьці, бачыла, што неспакойна яму. Спачатку на сябе віну брала, а потым зразумела: не, нешта іншае гэта, можа, ваеннае, франтавое... Што насамсправе баліць яму, так да сёння яна і не ведае, не здагадваецца, бо ніколі не казаў ён ёй пра сваю віну-пакуту. Валя не раз прасіла яго: схадзі ў царкву, свечку пастаў, пакайся, палягчэе. Можа, каб была ў іхняй вёсцы царква, дык і схадзіў бы ён. Але ж Божага храма не было і ў райцэнтры. Бліжэйшы быў толькі ў Васілевічах, а туды ехаць спецыяльна трэба, дык ён так і не выбраўся. Не змог, не паехаў, не пакаяўся, не павініўся...

Так і пражыў дзед Базыль сваё жыццё — ціха і непрыкметна, нікому зла не робячы, але нікому асабліва не дапамагаючы. Не вытыркаўся, не лез наперад, рабіў сумленна сваю справу. Не стаў камуністам, хоць прымушалі, як начальніка, рост, казалі, будзе. Пражыў сам-насам са сваёю памяццю, са сваёю віною-пакутаю, са сваёю невыказнаю бядою. Старэйшых ды пагодкаў смерць даўно забрала, маладзейшых пералічыла, а ён усё жыве. Хварэў было, але не памёр. Схуднеў, на старасці высах з думак зусім. Ссушыла яго бяда тая на таран, як толькі душа ў целе трымаецца. На твары толькі нос застаўся ды макраватыя, бліскучыя, як гузікі, вочы. Выйдзе ў лаўку па хлеб — вецер хістае, нібы чараціну. І што яго яшчэ трымае на гэтай грэшнай зямлі? Няўжо віна? Няўжо тое, што так і не павініўся ён перад людзьмі, якія загінулі ці бедавалі з-за яго? Уголас не пакаяўся, не папрасіў прабачэння. Бо да той стайні, на месцы якой стаіць цяпер помнік спаленым фашыстамі аднавяскоўцам, хадзіў ён вініцца не раз.

І па Паску, і на Радаўніцу, і на Ушэсце, і так проста па дарозе ў лаўку зойдзе ды пастаіць — і бацькоў жа ягоных попел недзе там ляжыць... Прасіў у людзей прабачэння, плакаў. Але ціха. Як, зрэшты, і іншыя: не напаказ, а сабе. А гэта, пэўна, недзе там не лічыцца...

Дзед Базыль глядзеў у сад — ужо змяркалася — і бачыў не яблыню ў цвеце, а старога Змітрыка. Стаяў ён сівы і згорблены, нібыта з картачкі сышоў. Такім запомніў Базыль яго ў дзяцінстве, такім памятаў. Дзед Змітрык глядзеў яму вочы ў вочы. І пачуў Базыль голас — глухі і слабы, але настойлівы і загадны: «Схадзі, сынок, у школу, схадзі. І дзеткам пра ўсё раскажы. Праўду раскажы. Хай ведаюць. Хай памятаюць. Хай падумаюць, якая жахлівая тая вайна. Раскажы пра нас, раскажы пра сябе. Перад будучыняй нашай павініся, перад унукамі ды праўнукамі, перад памяццю сваёй... Схадзі...» Разумеў дзед Базыль, што не Змітрык гэта гаворыць, не ягоныя гэта словы... Гэта сам сябе ён пераконвае, а дзед — прыдумка, не болей, каб апраўдаць нерашучасць, каб пераадолець яе ды скінуць нарэшце цяжар з душы... Глядзеў ён на дзеда Змітрыка, глядзеў у ягоныя ясныя вочы і ў думках дзякаваў яму і абяцаў: «Схаджу, абавязкова схаджу... Колькі ж можна так жыць... Колькі ж можна жыць...»

## *Іван Кананові́ч*

# ГОСЦІ З МАЙДАНА

*Апавяданне-быль*

> Майданъ — площадь, место, поприще; торг, базар, или место на нем, где собираются мошенники...
>
> *У. Даль*

## I

На Майдане званілі званы — працяжна, зазыўна і трывожна, як і ў тую красавіцкую ноч на процілеглым беразе Ракі, разбомбленым сатанінскай сілаю. Старая Чарапаха, быццам салдат па трывозе, імгненна ўсхапілася са свайго капаніра, адчуўшы ў душы тужлівы боль. І зноў уявіла сама сабе той металічны град, абрынуты з неба на яе пакаленне.

Насцярожана зірнула ў бок небяспекі. Прыслухалася да звыклага трымцення турбін станцыі і крыху супакоілася. Спакой яна страціла назаўсёды з тае ночы і стала нязменнай вартаўнічай Майдана.

Сонечную пясчаную выспу, аблепленую незлічонымі сародзічамі, гаспадыня Майдана акінула незласлівым і суровым позіркам і сваёй спрадвечнай камп'ютэрнай памяццю беспамылкова вызначыла, каго ў сямействе няма. І для прыліку спыталася:

— А дзе Меншая?

На выспе ўсталявалася цішыня, быццам у вакууме,— ніхто не меў права рыпнуцца. Толькі прыгожа-сціплая сястра свавольніцы вінавата прызналася:

— А яна ў царкву пабегла.

І Старая Чарапаха адчула ў душы палёгку...

А тым часам Меншая, задыхаўшыся ад нядоўгай дарогі, узбегла на каланчу, акінула позіркам бязлюднае наваколле і, як заўжды, зірнула на апусцелы, разрабаваны марадзёрамі падворак Святліцкіх, спадзеючыся ўбачыць там свайго сябрука, якога ведала змалку, шчыра кахала і заўсёды хінулася да яго душой. Нават выразна ўявіла сама сабе, як яны зусім нядаўна разам хадзілі ў школу, бегалі ў лес па ягады, а пасля, змораныя летняй спёкай, плёхаліся да знямогі ў рацэ-купелі каля Грэбелькі.

І яна, ухапіўшы аберуч выслішаны за вякі святымі канапляны канчур, рашуча гайданула звон, імгненна абудзіўшы ціхае, бязлюднае наваколле. А ў самой увесь час

душа трымцела ад таго, што ўначы ёй нядобры сон прыснiўся, быццам яе каханы, Мiкола Святлiцкi, трапiў у бальнiцу. Таму без усялякага дазволу i прыбегла сюды, на каланчу, каб абудзiць чалавечыя душы i паклiкаць на дапамогу. I стала званiць, пакуль у руках хапала сiлы...

Тым часам Старая Чарапаха, утульна ўладкаваўшыся на цёплай пясчанай выспе, лагодна грэлася пад красавiцкiм сонцам. Як заўжды, глядзела на запаволеную плынь ракi, у якой гарэзлiва дурэлi яе малыя ўнукi i праўнукi, думала сваю адвечную думу пра сэнс жыцця i недалёкi канец свету, якi траха не наступiў у тую красавiцкую ноч, калi грымнуў рэактар на процiлеглым беразе Ракi i на яе сямейства абрынулася з неба нечаканая смяротная навала.

З тае пары яна страцiла спакой i сон. Сядзела на выспе ў сваiм капанiры-акопчыку i не дужа вiдушчымi вачыма пiльна ўглядалася ў абрысы станцыi, чуйна i трывожна прыслухоўваючыся ўсёй сваёй iстотай да трымцення турбiн, баючыся, каб каторая з iх, крый Божа, зноў не спынiлася. Пра свой лёс яна не думала — клапацiлася толькi пра нашчадкаў, хаваючы кожнае ночы iх на дне Ракi. Часцяком згадвала людзей, якiх пасля таго выбуху радыяцыя, быццам чума, пагнала ў белы свет як у капейку. I засталiся тут, на Майдане, толькi яны, чарапахi, кволыя рыбы ў рацэ, маўклiвыя птушкi ў лесе ды нахабныя марадзёры, якiя бессаромна нiшчаць паселiшчы, ператвараючы iх у пустку.

Думкi яе i пачуццi сягалi туды, да царквы ў Грэбельцы, адкуль гучалi званы — неспадзяваныя, дзiўныя i трывожныя. Не разумеючы сутнасцi таго, што адбылося, Старая Чарапаха паслала ў вёску разведчыц са строгiм загадам — усё дасканала высветлiць.

Па яе камандзе паслухмяныя разведчыцы iмгненна дапялi да каланчы ў Грэбельцы, спрытна занявол iлi свавольнiцу i памкнулiся з высяў прызямляцца, як нечакана сястра-нявольнiца заенчыла:

— Унё людзi ходзяць.

Па Грэбельцы, ушчэнт знiшчанай радыяцыяй, сапраўды iшлi людзi, трымаючы перад сабой дазiметры. I хада iх нагадвала нейкi сатанiнскi танец, падобны скокам карасёў на гарачай патэльнi. I выразна чутна была iх зразумелая ўсяму свету гамонка.

— Хірасіма, Нагасакі, Хірасіма, Нагасакі.

Чарапахі-разведчыцы, як і іх зняволеная сястра, заслухаліся чутай, знаёмай ім змалку гаманой. Залюбаваліся прыгожа-годнымі людзьмі і ўшчэнт забыліся на строгі загад Старой Чарапахі.

Нявольніца ім і кажа:

— Людцы мае, дак там жа нашыя — Арсен Гарун, Лёша Гетманчук.— І раптоўна змоўкла, сумелася, згадаўшы свой дзіўны сённяшні сон. А пасля гаротна ўсхліпнула: — Міколы Святліцкага сярод іх нямашака — дзе ён дзеўся?

Адважныя разведчыцы разгубіліся і пачалі сарамліва здымаць са сваёй роднай сястры вяровачныя аковы...

Нявольніца на цёплай пясчанай выспе расказала Старой Чарапасе пра свой дзіўны, загадкавы і трывожны сон і пра тое, што яна хвіліну назад пабачыла. І тая, выслухаўшы свавольніцу, паверыла і задумалася — чаму сярод шматлікай дэлегацыі не было яе выхаванца. Раптоўная і нечаканая скруха спавіла яе душу. Апошняга разу Міколу яна, як заўсёды, бачыла ў Грэбельцы. Была нядзеля, вадзіла яна таго дня сваё сямейства ў царкву — адзіны прытулак на Майдане, які не здолелі цалкам разрабаваць марадзёры. Адно абразы пакралі, а мазаіку на сценах і пад купалам не кранулі. Няхай ім і за гэта Бог даруе.

Памаліліся за нябожчыкаў і жывых, каму ў рай высцелена ружамі прамая сцежка, і заглянулі на знаёмы падворак. Мікола сядзеў на парозе сваёй разбуранай цаглянай хаты, як заўсёды, задумлівы, сур'ёзны і шчыры. І загаварыў, як і кожнага разу, спачувальна, лагодна:

— Трымайся, Вечная Царыца Майдана, на цябе ўся надзея, а то, не дай Бог, чалавечы род згіне.

Што яна тады сказала свайму земляку — цяпер добра не памятае, але па сцішаным голасе, благім твары, запаволеных рухах беспамылкова вызначыла, што ён цяжка хварэе. Хацела нагадаць пра гэта, ды пасаромелася.

І во яно як усё павярнулася — яе выхаванка, сасніўшы нядобры сон, нездарма пабегла ў Грэбельку будзіць званамі бязлюднае наваколле.

Старая Чарапаха, стомленая людскімі клопатамі, распарадзілася сабраць сямейны савет і загадала Меншай і разведчыцам збірацца ў дарогу.

## II

Тым днём, як устрывожаная Старая Чарапаха пачала спешна збірацца ў дарогу, каб нешта праведаць пра Міколу і справіцца пра здароўе, яго даўнія сябры Арсен і Лёша прывезлі на бязлюдны Майдан японцаў, каб у чарговы раз пераканаць Божы свет, што іх зямля ўшчэнт атручана радыяцыяй і жывецца тут людзям, як грэшнікам у пекле. Гэта была не першая і не апошняя замежная дэлегацыя з дазіметрамі. Прыезджыя кожнага разу кляліся нечым памагчы. Ды помач тая была як кашаль хваробе. Сёй-той, праўда, з замежжа зрэдзь прысылаў дзіцячы харч, лекі, адзежу. Ды сістэмы ў гэтай справе і саліднай, адчувальнай дапамогі не было, хоць іх сталічны сябар Мікола, які ўжо не першы год узначальваў асацыяцыю па выратаванні Майдана ад наступстваў катастрофы, пластаўся з усіх сіл, просячы ў скупых закардонных багацеяў дапамогі. Дапамога тая цыркала, як малако ў перадойкі,— пацярпелым ад радыяцыі яе не хапала.

Арсен ужо каторы год, з тае самае пары, як рухнуў рэактар на станцыі, працуе старшынёй выканкома, Лёша ўзначальвае адну з буйнейшых будаўнічых фірм, мае свае філіялы ў многіх замежных краінах, усяляк дапамагае жыхарам Майдана ратавацца ад радыяцыі. Дзякуючы яго стараням і завіталі сюды госці з далёкай Японіі і запэўнілі, што паставяць абсталяванне для медыцынскага цэнтра рэабілітацыі ахвяр катастрофы. Будаўніцтва цэнтра завяршалася, і Лёша стараўся як мага хутчэй абсталяваць яго. Таму і запрасіў на Майдан японскіх спецыялістаў, і тыя пакляліся стрымаць сваё слова.

Адправіўшы далёкіх гасцей, зайшлі да Арсена ў кабінет і згадалі пра Міколу Святліцкага, які меўся таксама прыехаць сюды, але па нейкай невядомай прычыне затрымаўся і нічога пра сябе не паведаміў.

— Ты, Лёша, яго там, у горадзе, даўно бачыў? — з несхаванай трывогай у голасе спытаўся Арсен, гартаючы тэлефонны даведнік. Пэўна, меў намер пазваніць свайму сталічнаму сябру.

— З месяц назад бачыліся — скардзіўся на здароўе, ды не мае часу легчы ў бальніцу.

— Усе мы так — трымаемся да апошняга і пра сябе не дбаем,— зазначыў Арсен.— Летась шчытавідку мне рэзалі, ды адчуваю, што неўзабаве зноў давядзецца пад нож класціся.

— Нахапаліся мы, браце Арсен, удосталь гэтай атруты — мяне таксама ў бакі хістае і вяласць ва ўсім целе,— паскардзіўся Лёша.— Не мінуць і мне аперацыі.

У кабінет заглянула сакратарка, звярнулася да Арсена:

— Вам па міжгораду звоняць.

У трубцы выразна чуцен быў усхвалявана-трывожны, даўно знаёмы голас Ірыны, жонкі Міколы Святліцкага. Яе гаворка раз-пораз перапынялася ўсхліпамі. Яна паведаміла, што Мікола ў бальніцы і яму тэрмінова будуць рабіць аперацыю.

— А мы з табой Міколу шукаем,— паклаўшы трубку, гаротна ўздыхнуў Арсен,— ён у руках эскулапаў. Жонка толькі што званіла — перажывае, хвалюецца, плача. Таксама не першая аперацыя — да гэтага былі дзве. Ірыну можна зразумець.

Пачуўшы такую не дужа вясёлую навіну пра свайго сябра дзяцінства, Лёша нервова захадзіў па кабінеце, разважаючы:

— Заўтра я вылятаю ў сталіцу, даведаюся, што там у Міколы і як. Пазваню адтуль.— І, памаўчаўшы задумліва, прапанаваў: — Не павінны мы кідаць яго аднаго, самнасам з хваробай — паедзем туды і будзем разам ратавацца. Бо рана ці позна бальніцы нам з табою не абмінуць.

— Праўду ты кажаш, Лёша,— пагадзіўся Арсен,— трэба нам неадкладна падавацца да Міколы — утрох мы адужаем любую хваробу.

Арсен разгарнуў папку з тэрміновымі паперамі, выняў пісьмо, напісанае няроўным почыркам, растлумачыў:

— Памятаеш таго сухенькага дзядка Яўхіма з-пад Грэбелькі, якога мы тады ў дом састарэлых адправілі? Дык во пісьмо прыслаў — просіць тэрмінова прыехаць, нейкі клопат да мяне мае.

Запамятаў Арсен на ўсё жыццё той дзень, калі адсялялі з той забруджанай радыяцыяй вёскі яе жыхароў. Усё роўна як учора гэта было. Стаіць дзед Яўхім з невялічкім хатулькам сваіх пажыткаў і трымае ў сухенькай, спрацаванай руцэ палатняны вузельчык, у які ўсыпаў на памяць са свайго агарода тры жменькі роднай зямлі. На развітанне тры разы пакланіўся сваёй хаце, неўпрыкмет змахнуў з твару слязінку і цішком сеў у аўтобус.

Пасля не раз сустракаўся з ім у тым доме-інтэрнаце, завёз яму некалькі вуллёў пчол, з якіх ён развёў немалую пасеку, забяспечвае ўсіх яго жыхароў мёдам. Кожнага разу пры сустрэчы частуе.

— А хто яго на Майдане не памятае,— перапыніў плынь Арсенавых думак Лёша.— Давай скокнем да яго, пакуль я час маю...

Старога яны заспелі ў стальмашні, дзе ён старанна габляваў дошку, дапасоўваючы да вулля. Заўважыўшы гасцей, пакінуў свой занятак і даволі рухава засемяніў насустрач. Дзень акурат выдаўся сонечны, лагодны, як і той колішні майскі, калі дзед Яўхім назаўсёды развітаўся са сваёй роднай вёскай, сядзібай і пасекай.

Гаспадар стальмашні запрасіў гасцей прысесці на гладка выструганую новую лаўку, быццам знарок зробленую да іх прыезду, і павёў сцішаным голасам гаворку пра вечнасць і сэнс жыцця, пра свае старэчыя праблемы і клопаты, якія апошнім часам не даюць яму спакою. Гаворачы, расчуліўся да слёз, а пасля і кажа:

— Дзякуй вам, мілыя мае, што прыехалі. Просьба адна да вас у мяне будзе. Слабею я, мае даражэнькія, з кожным гадком. Толькі моцы і засталося адну дошку за дзень пагабляваць ды пасядзець тута, пагрэцца на сонейку.— Стары на хвіліну змаўкае, быццам адпачывае і набіраецца моцы, пасля працягвае: — Нешта мне апошнім часам пачала жонка часта сніцца. Думаю, неўзабаве яна да сябе пакліча. Дак вы, будзьце ласкавы, пахавайце мяне поруч з ёю на родных могілках, дзе мае продкі спачываюць. За гэта і на тым свеце буду за вас Богу маліцца.

— Рана вы, Яўхім Анісімавіч, пра гэта гаворку распачалі: жыць вам ды жыць яшчэ,— супакойвае старога Арсен,— не перасільвайце сябе толькі працай, адпачывайце як мага болей.

— Дак я, мае даражэнькія, не магу сядзець без занятку,— расчулена адказвае ён,— душа прагне работы, а сілы ўжо не стае. От варушуся паволі, і на душы вальней робіцца.

Доўга ён распавядаў пра сябе гасцям, не прамінаючы нагадаць пра сваю просьбу. Пасля прынёс духмянага мёду са сваёй пасекі.

Пакуль яны ласаваліся мёдам, дзед не спыняў гаворкі: то распавядаў пра сваё жыццё, то пра суседзяў, з якімі ён даўно не бачыўся, а пасля пытаецца:

— А дзе гэта ваш трэці сябрук, які некалі пра мяне ў газеце не раз пісаў — от жа здольны чалавек. Даўнавата ў мяне не быў.

— Прыхварэў крыху,— адважна салгаў Арсен, каб неяк супакоіць дзеда.— Як паправіцца, то абавязкова прыедзе.

— Убачыце дзе, перадавайце мой нізкі паклон яму — няхай не мінае старога,— шчыра прамовіў дзед, змахваючы з твару слязу.

Арсен і Лёша развіталіся з дзедам Яўхімам пад вечар, калі сонца скацілася за верхавіны дрэў, паабяцаўшы выканаць усе яго просьбы.

## III

Міжнародны лайнер кампаніі «Майдан» упэўнена і імкліва пакінуў узлётную паласу і скіраваўся на далёкую і загадкавую Японію. Мікола Святліцкі, седзячы ва ўтульным салоне, нязмушана і шчыра вёў гамонку з паслом. Маладая сімпатычная перакладчыца-майданка не надта дакладна даводзіла Міколавы клопаты японцу наконт таго, што катастрофа на Майдане ў некалькі разоў пераўзыходзіць тыя жахі, якія перажыты ў свой час яго суайчыннікамі ў Хірасіме і Нагасакі пасля амерыканскай атамнай бамбёжкі. Пасол і без перакладу добра разумеў довады, думкі і пачуцці свайго субяседніка і абяцаў дапамогу.

На падлёце да Токіо Міколу пачало рабіцца нядобра, як разумеў ён сам сябе, не ад працяглага і пакутлівага палёту, а, пэўна, ад той дозы радыяцыі, якую ён ухапіў у тую красавіцкую ноч падчас аварыі. Падобнае з ім ужо здаралася не раз. Нутро паліла, як аўтагенам, ногі млелі, галава кружылася, цягучая нудота падварочвала пад грудзі. І, наўздзіў, ва ўсім целе была такая незвычайная лёгкасць і бязважкасць, хоць пушынкай па салоне лётай.

Самалёт непрыкметна і мякка прызямліўся, і пасол, заўважыўшы Міколаў стан, з акцэнтам прамовіў:

— Бальніца вам, Мікола-сан, не нузан?

Мікола падзякаваў паслу і давай ратавацца ад сваёй нядужасці лекамі, падараванымі Старой Чарапахай у яго нядаўні прыезд у родную Грэбельку са сваімі сябрамі дзяцінства Арсенам і Лёшам. Тая ім не пашкадавала патаемнага, жыватворнага кораню, які спрадвеку ратуе чалавечы род ад знямогі і заўчаснай смерці.

Ды спрактыкаваны жыццём пасол, які страціў бацькоў пасля атамнай бамбёжкі ў Нагасакі, паглядзеўшы на хваравіта-нядобры Міколаў выгляд, тэрмінова выклікаў брыгаду спрактыкаваных эскулапаў, якія з таго часу і па сённяшні дзень вяртаюць да жыцця абпраменёных радыяцыяй суайчыннікаў. І тыя, завітаўшы талакой у гасці-

ніцу, падмацавалі чароўныя напоі Старой Чарапахі сваёй усходняй мудрасцю. І Мікола зноў адчуў у сабе моц і сілу, быццам нанова нарадзіўся на Божы свет.

Тых майданскіх і японскіх лекаў хапіла толькі для таго, каб правесці перамовы з шырокім колам японскага бізнесу аб пастаўцы абсталявання медыцынскаму цэнтру, якога даўно чакалі Арсен, Лёша і ўсе яго землякі, шчодра апраменены радыяцыяй, як і сам ён.

Абляцеўшы за нядоўгі час многія гарады і пасёлкі, пабываўшы ў Хірасіме і Нагасакі, перамовіўшыся з пацярпелымі ад той жахлівай атамнай бамбёжкі, ён у думках вяртаўся на Майдан і згадаў тое, што не так даўно яму давялося перажыць.

...З тае жахлівае красавіцкай ночы, як выбухнуў чацвёрты энергаблок на Чарнобыльскай станцыі, жыццё адным махам скасавала ўсе яго ранейшыя планы і павяло па пакручастых сцежках забруджанага радыяцыяй Майдана.

Недзе праз тыдзень яго выклікалі ў самую высокую інстанцыю і прапанавалі ўзначаліць асацыяцыю па ліквідацыі наступстваў аварыі. Адмовіцца — азначала пакрывіць душой перад тымі, каго накрыла сваім нябачным смяротным крылом радыяцыя. Шкада было кідаць сваю журналісцкую прафесію, якой ён аддана і натхнёна аддаваў сваю душу — нязмушана і пакутна пісаў, мроячы начамі пра кнігу. І дапісаў яе апошнія старонкі пры сполаху сатанінскай бліскавіцы там, на Майдане, у бацькоўскай хаце, нічога не ведаючы пра здарэнне на станцыі, пакуль у дзверы не пагрукала мудрая Старая Чарапаха і не сказала праўду. І лёс яго, незалежна ад самога сябе, перавярнуўся ўверх дном — куды ні кінь, усюды клін.

Кніга, якой ён аддаў столькі натхнення, каторы год ляжала нерухома ў стале, бо выдаваць яе, як меркавалася раней, не мела сэнсу. Герояў-майданцаў як ветрам змяла радыяцыя і развеяла па белым свеце каго куды.

Перад ім, Міколам, заўсёды паўставала гэта пытанне. І на яго немагчыма было адказаць. Адна спадзяванка цяплілася ў душы, што неўзабаве яго героі кнігі, як і ўсе людзі, нарэшце вернуцца на Майдан і зажывуць тым жыццём, якое ім і не снілася...

Як асэнсаваў Мікола падчас сваёй камандзіроўкі ў Краіну узыходзячага сонца — японцы загадкавы, мудры і спагадлівы народ. Яго тут усюды, асабліва ў Хірасіме і Нагасакі, сустракалі як свайго, роднага, быццам ён разам з імі ў сорак пятым перажыў амерыканскую атамную

бамбёжку. Таму, пэўна, з паслом яны надзвычай чула паразумеліся яшчэ там, на Майдане. А тут — адно ўвага, добразычлівасць і лагода. Усе дамоўленасці, дзеля якіх ён сюды прыляцеў, былі безадкладна ўзгоднены, замацаваны канкрэтнымі тэрмінамі паставак усяго неабходнага для паратунку майданцаў.

У апошні дзень камандзіроўкі, перад адлётам, яго зноў стала блажыць. Прыехаў пасол, акінуў насцярожана-пранікнёным позіркам і занепакоіўся:

— Мікола-сан, вам нездаровіцца.

Праз хвіліну ў нумар шчыльным натоўпам уціснуліся свяцілы ўсходняй медыцыны і беспамылкова паставілі дакладны дыягназ. Без аперацыі не абысціся.

Неўзабаве самалёт пакінуў гасцінны Токіо і лёг курсам на Майдан.

## IV

Старая Чарапаха са сваёй Меншай і бездакорнымі разведчыцамі, абцяжараныя паклажай, сядзелі на пероне і грэліся на лагодным красавіцкім сонцы, чакаючы цягніка. Людзей на Майдане, акрамя Міколы, Арсена, Лёшы і марадзёраў, яны даўно не бачылі і былі здзіўлены такой талацэ — адкуль узялася?

На пероне, занавешаным, застаўленым і ўпрыгожаным усёй Еўропай, Амерыкай і Азіяй, скакалі разняволеныя салодкім жыццём і пустымі доларамі майданкі. Іх скокі пад музыку спрадвечных веселуноў чула наваколле:

Очи черные, очи страстные,
Очи жгучие и прекрасные.
Как люблю я вас...

Старая Чарапаха акінула позіркам прыгожае грамадства і здзівілася — адкуль усё ўзялося? Такога яна тут ніколі не бачыла. Ёй, неўпрыкмет самой сабе, стала прыкра: няўжо гэтыя людзі ўсё самі набылі?

Думкі яе нечакана перапыніла Меншая:

— Бабуля, унё нейкія п'яныя дурніцы нас абазвалі чарапахамі.

— Скажы сёстрам-разведчыцам, няхай разбяруцца з імі.

Тым часам да перона няспешна падплываў цягнік. Чарапашкі, неўпрыкмет для навакольнага грамадства, шчыра разабраліся з крыўдлянкамі, збіўшы іх з высокіх

замежных падноскаў адным ударам лагоднага панцыра. І разняволеныя не войкнулі, нават не паспелі выклікаць сваіх ахоўнікаў і міліцыянтаў — тыя і вокам не павялі на выпадковае здарэнне.

Чарапашыны нашчадкі ўтульна ўлаштаваліся ў купэ і неўзабаве рушылі ў сталіцу Майдана.

V

Людзі Краіны узыходзячага сонца глядзелі ўслед інверсіі, якую пакінуў лайнер з майданцамі ў небе над іх астравамі, і думалі пра тое, каб ён мякка прызямліўся.

Праз некалькі хвілін палёту лайнер абвясціў Усяму Свету і падаў трывожны сігнал, што на яго борце чалавек, якому трэба выжыць. Эфір маўчаў, быццам усе спадарожнікі сувязі і сумесныя касмічныя чаўнакі ў адначассе змоўклі, як іх неспадзявана ўзарвалі непадуладныя талібы ці ваяўнічыя чэчэнцы.

Пілотам, змучаным маўклівым эфірам, нічога не заставалася як заходзіць на пасадку ў густы, беспрасветны туман над Майданам. І яны прызямліліся, як таго пажадалі людзі на процілеглым краі Зямлі.

Міколу з трапа забрала «хуткая» і замчала ў бальніцу. Там яму японскія хірургі, прысланыя паслом, адпаведна ўсходняй медыцыне, зрабілі аперацыю.

Ён, лежачы на Райскім Ложку, уявіў сябе сярод тых, каго ўпершыню ўбачыў. І бачыць іх было дадзена толькі адно імгненне...

Пакуль ішла аперацыя, Старая Чарапаха са сваім шматлікім сямействам сядзела каля аперацыйнай, раз-пораз хрысцілася, чытала малітву і прасіла Бога злітасцівіцца над пакутнікам. І Бог пачуў яе малітву — цяжкая і складаная аперацыя прайшла паспяхова, Мікола пацíху пачаў папраўляцца.

А некалькімі днямі раней былі прааперыраваны яго сябры Арсен і Лёша. І цяпер кожнага дня яны збіраліся ў Міколавай палаце і дзякавалі Богу за яго ласку.

Тым часам Старая Чарапаха, пераканаўшыся, што яе выхаванцам нічога не пагражае, няспешна пакінула сталіцу і паджгала са сваім сямействам на цёплую, пранізаную наскрозь радыяцыяй пясчаную выспу.

Была нядзеля — святы дзень для малення. Незлічонай грамадой падаліся ў цэркаў. І зноў над Майданам загучалі званы — на гэты раз вясёлым, малінавым звонам.

# *Ніна Рыбік*

## ПРАВА НА АДСЯЛЕННЕ

*Апавяданне*

Надзеі не спалася. Жоўтае вока поўні нахабна падглядвала ў дзірачку паміж няшчыльна захінутымі на ноч шторамі, як яна варочаецца з боку на бок, раз-пораз пераварочвае падушку, скідвае з сябе коўдру ці зноў хаваецца пад яе. Надзя паспрабавала пазбыцца ад гэтага позірку, што перашкаджаў заснуць, уткнуўшы твар у Алегава плячо, але муж толькі мармытнуў нешта спрасоння і адвярнуўся да сцяны. Яна зразумела, што змагацца з бяссонніцай — марная справа, і ўстала. Намацала пантофлі, ускінула на плечы халат, выйшла ў калідор. Прыкрыўшы дзверы спальні, шчоўкнула ўключальнікам насценнага бра. І аж адхінулася ў страху: з ярка асветленага люстра ў багатай раме на яе глядзела худая, як шкілет, захінутая ў белае, ускудлачаная жанчына з цёмнымі кругамі пад вачыма. Толькі праз момант яна ўсвядоміла, што гэта яе ўласнае адлюстраванне, і зноў жахнулася: «Божа, якая я стала страшная!» Днём, калі залішне патанеўшая за апошні час талія здавалася нават прывабнай, падкрэсленая скураным прыгожым рэменем, калі цёмныя кругі пад вачамі хавалі дарагія акуляры, а нездаровы колер твару — умела зроблены макіяж, яна не адчувала сябе такой старой і знясіленай. А цяпер, вынырнуўшы з начной цемры ў яркае святло і прыняўшы сваё адлюстраванне за жывую Смерць, спалохалася. Схапілася за грэбень, прыбрала валасы, але жанчыну ў люстэрку гэта мала ўпрыгожыла. «Што зробіш — старасць,— горка ўсміхнулася. Але тут жа не згадзілася: — Хаця якая старасць — сорак гадоў. Маці мяне ў такім узросце толькі нарадзіла».

Патушыла святло, прайшла на кухню, паставіла на пліту чайнік. Задумалася. З чаго ж гэта ўсё пачалося — гэтая знясільваючая бяссонніца, гэтая непраходзячая стомленасць, важкасць ва ўсім целе, гэты нудны, несціхаючы галаўны боль? Мо і праўда радыяцыя пашкодзіла?

Але ж не, тады, у 86-м, і пасля яна заўсёды была энергічная, бадзёрая, прыгожая — на зайздрасць многім, не ў прыклад тым ныцікам, якія з раніцы да вечара стагна-

лі: «Ой, дрэнна ўсё. Ох, трэба ўцякаць. Дальбог, памром мы тут усе». А яна толькі смяялася: «Вядома ж, памром — эліксіру бессмяротнасці яшчэ не вынайшлі. Але не трэба паміраць раней смерці».

Яна нічога не баялася: ездзіла на рэдакцыйнай машыне ў самыя забруджаныя вёскі, пісала агністыя, бадзёрыя рэпартажы не таму, што ёй так загадвалі,— проста яна была ўпэўнена, што слёз і гора людзям і так хапае, трэба іх нечым абнадзеіць, падвесяліць. Не палохала і статыстыка захворванняў, пра якую ёй па сакрэту — не як журналісту раённай газеты, а як лепшай сяброўцы — расказвала Люба, урач раённай бальніцы. Па натуры яна была фаталістка, заўсёды гаварыла: «Чаму быць — таго не мінуць». І, шакіруючы суседзяў і знаёмых, ехала ў лес збіраць грыбы, варыла чарнічнае варэнне і любіла ў выхадны пасядзець з вудай на паўзарослай цінай сажалцы — мела такое нежаночае захапленне. Яе неўтаймаваная энергія, ружовыя шчокі, вочы, што заўсёды іскрыліся смехам, нібы пераконвалі ўсіх: не такая страшная радыяцыя, як яе малююць. Я вось нічога не асцерагаюся, жыву, як жыла,— і нічога. Хваробы падпільноўваюць тых, хто іх баіцца.

У тое паслячарнобыльскае лета сустрэла Надзя і сваё каханне. Не першае, не. Мужа свайго яна моцна любіла, ды так ужо сталася — не заладзілася сямейнае жыццё, разышліся. Яна так і не ўсвядоміла да канца — з-за чаго. Але цяпер і не шкадавала, здавалася, што Коля быў у далёкім сне, як падарунак лёсу, як неад'емная частка шчаслівага юнацтва, якая і адышла разам з ім. Былі ў яе і іншыя мужчыны — і да мужа, і пасля. Але тыя пачуцці, што адчувала яна да іх: жаданне падабацца, быць любімай, зачароўваць іх сабой, прымушаць рабіць дзеля яе глупствы і ўрэшце скарацца перад іх страсцю, унутрана застаючыся няскоранай,— усё гэта не мела нічога агульнага з тым лёгкім вар'яцтвам, што апанавала яе ледзь не з першай сустрэчы з Алегам. Ёй хацелася бачыць яго штохвілінна, не развітвацца ніколі, яна гатова была бегчы на другі канец горада па яго любімыя цыгарэты, лічыла за шчасце мыць яго потныя шкарпэткі і нават грубасць яго ўспрымала са шчаслівай усмешкай. Урэшце яна дамаглася свайго: Алег кінуў жонку з двума дзецьмі і ажаніўся з ёю. Сумленне яе не трывожыла: яна кахае гэтага чалавека, ён кахае яе — дык чаму яна павінна губляць сваё

шчасце? Яна мае на яго такое ж права, як і тая жанчына, што звалася яго жонкай.

А каб не думалі, што Алег спатрэбіўся ёй толькі як прыгожая цацка для старэючай ужо жанчыны, яна нарадзіла ад яго дзіця. Сына. Васілёчка. Ну і што, што ў трыццаць сем? Ну і што, што старэйшы сын ужо студэнт? А каму якая справа? Ёй падабалася шакіраваць грамадскую думку, і яна рабіла гэта з бесшабашным задавальненнем.

Так, у яе ўсё было добра, усё ўдавалася: у рэдакцыі па-ранейшаму яна лічылася «залатым пяром» — самыя важныя, адказныя заданні давалі менавіта ёй. Побач быў Алег, і з яго вачэй ужо амаль прапала тая туга, што не знікала ні днём, ні ноччу ў першыя месяцы, як пабраліся. Цяпер ён заўжды вясёлы, радасны, кожную хвілінку бавіцца з Васільком і пры кожным зручным выпадку дзякуе ёй за сына.

А Васілёк... Толькі цяпер яна адчула, што такое мацярынства, зразумела, чаму так бабулі любяць унукаў. Сярожку яна нарадзіла ў дзевятнаццаць, і адзінае, што запомнілася з таго часу,— гэта пастаяннае неадольнае жаданне выспацца. Тады яе невыказна раздражняла заўсёдная гара мокрых пялюшак, пажабленыя ад бясконцага мыцця іх рукі, паламаныя пазногці. Было зайздросна, што сяброўкі бягуць на танцы, у кіно, напрапалую заляцаюцца да хлопцаў, а яна сядзіць, бы прыкутая да гэтай дзіцячай каляскі, не маючы часу нават збегаць у цырульню.

Цяпер жа ўсё было інакш: пялюшкі, здавалася, мыліся самі па сабе, ды і то праўда, што часта гэты абавязак з задавальненнем браў на сябе Алег. Іх пах, які некалі здаваўся агідным, цяпер выклікаў замілаванне і бязмежную пяшчоту. І ночы ўжо не былі бясконцым выпрабаваннем: Васілёк удаўся спакайнейшым за Сярожку, і яна паспявала выспацца, прыбраць у доме, зварыць смачны абед — хацела, каб Алег заўсёды сюды імкнуўся.

А потым, ужо як Васілёк падрос і стаў хадзіць у дзіцячы садок, а яна вярнулася на работу, пачалося вось гэта — беспрычынная знясільваючая стомленасць, бяссонніца. Яна не гаварыла пра гэта Алегу — больш за ўсё на свеце баялася падацца ў яго вачах старой і хворай. Папрасіла Любу па-сяброўску абследаваць яе — тая ўсё зрабіла і толькі плячамі паціснула: «Нармальна ўсё ў цябе, здаровая». І пажартавала: «Ты, як мужа маладога займела,

занадта шмат увагі стала свайму здароўю надаваць». Надзя сумелася, падумала: можа, гэта і на самай справе нервы? І цяпер старалася не зважаць на галаўны боль, прымушала сябе ехаць на раён, нават калі не хацелася, і старалася не надта пільна ўглядвацца ў люстэрка. Але сённяшняя начная сустрэча з самой сабой прымусіла яе вярнуцца да пытання: «Што ж адбываецца? З чаго гэта пачалося?»

Кубак гарбаты непрыкметна апусцеў. Надзя наліла сабе яшчэ адзін. Будзільнік на стале паказваў дзве гадзіны. Яго мернае ціканне было адзіным, што парушала цішыню спячага дома. Але раптам у суседзяў зверху забразгаў посуд, гучна загаманілі, нешта з грукатам упала, заплакала жанчына: «Пэўна, Пятро зноў дахаты п'яны прывалокся. Бедная Валя, мала ёй гора, дык яшчэ муж — п'янтос».

Падумаўшы пра суседку, Надзя раптам — быццам святло пражэктара выхапіла з цемры забыцця — успомніла першую бяссонную ноч, за якой пайшлі чарадой іншыя, яна ўжо перастала іх лічыць.

...У той вечар стомленая, але задаволеная — удалай была паездка па раёну, шмат цікавых сустрэч, некалькі неардынарных будучых газетных матэрыялаў у журналісцкім блакноце — яна вярталася дамоў. І сустрэла ля пад'езда Валю, якая нерашуча тапталася ля дзвярэй з дарожнай сумкай.

— Куды сабралася, суседка? — весела павіталася яна і сумелася, заўважыўшы сплаканыя Валіны вочы, пастарэчы апушчаныя плечы.

— Ды не сабралася — вяртаюся,— адказала тая бясколерным голасам.— У хату вось не хочацца заходзіць...

І раптам з надзеяй узняла вочы:

— А мо ты да мяне зойдзеш, Надзечка? Хоць на хвілінку... Пасядзім, кавы пап'ём...

Дома Надзю ніхто не чакаў — Алег з Васільком адпачывалі ў санаторыі, і яна згадзілася зайсці да суседкі, з якой да гэтага толькі віталася пры сустрэчах ды перакідвалася некалькімі нязначнымі фразамі. Адчувала — нешта ў жанчыны здарылася, трэба ёй некаму выплакацца, а яна прывыкла выслухоўваць людскія споведзі...

Шчоўкнуў замок, Валя адчыніла дзверы — і адразу спатыкнулася аб раскіданыя ў прыхожай мужчынскія чаравікі. З глыбіні кватэры патыхнула густым перагарам, са спальні чуўся гучны храп.

Валя засаромелася, кінулася прыбіраць абутак, выбачацца. Надзя таксама збянтэжылася, нібы застала чужых людзей за непрыстойным заняткам, хацела было прыдумаць якую прычыну, каб пайсці. Ды суседка раптам кінула чаравік у кут, знясілена прытулілася да сцяны і закрыла вочы.

— Хай гарыць усё гарам...

— Валя, табе што, дрэнна? — устрывожылася Надзя.

— Дрэнна, Надзечка... Так дрэнна, што не выказаць... Не ўцякай, калі можаш, пабудзь са мною...

— Добра-добра,— беручы на сябе ролю гаспадыні, Надзя зачыніла дзверы ў спальню, каб не так быў чуваць гэты надакучлівы храп, зайшла на кухню, расчыніла фортку, паставіла чайнік на пліту.

— А ведаеш, суседка, давай вып'ем па кілішку,— рашуча махнула рукой Валя.— Недзе ў мяне прыхавана пляшка, калі гэты жлукта не знайшоў ды не выжлукціў.

Надзя аж знямела ад нечаканасці: усе ў доме ведалі, што Валя на дух не выносіць п'яніц, асабліва жанчын, нават у кампаніі, калі якая-небудзь залішне гасцінная гаспадыня чапілася, як смала, запрашаючы выпіць, дазваляла сабе толькі прыгубіць чарку, не паддаючыся ні на якія ўгаворы. «Моцна ж, мусіць, яе дастала»,— падумала са здзіўленнем і шкадаваннем.

А Валя тым часам выкарпала са схованкі бутэльку, адкрыла яе, наліла дзве чаркі, дастала са сваёй сумкі хлеб, каўбасу.

— Ну, бяры, суседка. За маю Танечку...— зглынуўшы камяк слёз, рашуча кульнула чарку і захлынулася, закашлялася з непрывычкі, стала запіваць вадой — і расплакалася.

Выпіла сваю чарку і Надзя. Памаўчала хвілін колькі, даўшы сысці першаму патоку слёз, затым спытала:

— Дык што ў цябе здарылася, Валечка?

— Ох, не пытай, Надзя. Ворагу свайму таго не пажадаю. З Мінска я еду. З бальніцы. Танечку маю палажылі. Прызналі рак шчытавідкі. Божачка, як жа мне на свеце цяпер жыць, куды кінуцца, дзе ратунку шукаць? — зноў загаласіла Валя, абхапіўшы галаву рукамі.

— Ну што ты гаворыш — рак! — не дала веры Надзя.— Быць таго не можа! Можа, не разабраліся. Іх жа ў школе кожны год правяраюць, ты ж сама заўсёды каза-

ла — дзякуй Богу, усё добра. Не можа быць, каб так адразу і рак. Мо проста павялічана шчытавідка?

— Ды дзе ж там адразу... Што ж, калі іх кожны раз розныя ўрачы абследуюць — то з Гродна, то з Мінска, то з Магілёва. Прыехалі, праверылі, у паперку напісалі, галачку паставілі — а вы тут хоць падушыцеся, у гэтай радыяцыі. Як цяпер ужо мне сказалі, ёй тры гады назад, яшчэ ў пятым класе, павелічэнне шчытавідкі ставілі, затым вузлавы зоб. Ды хто ў тую картачку глядзеў? Я, дурніца, радуюся, што дзіця ні на што не скардзіцца. Яшчэ і хвалілася: я са сваёй Танечкай, маўляў, і на той першамайскай дэманстрацыі паслячарнобыльскай была, і нікуды яе ў першае лета не вывозіла, пабаялася адну адпраўляць, і ёду таго не піла, ніхто не казаў, а вось як на добрае, дык усё і добра. Вось яно якое добрае... Усё я правільна зразумела, Надзечка, сама да апошняй хвіліны веры не давала, усё думала: можа, памылка якая, можа, чужыя аналізы падсунулі, пераблыталі — усяляк жа бывае... Ды не, усё правільна. Палажылі маю дачушку, сказалі — да аперацыі будуць рыхтаваць... Надзечка, родненькая, ты ж граматная, не тое што я, простая швачка, парай, што рабіць? Куды кінуцца? Дзе каго шукаць? Я ўсё аддам, апошнюю сукенку з плячэй здыму, дзень і ноч за машынкай сядзець буду, толькі б Танечку ўратаваць. Яна ж у мяне адна ўцеха. Як яе не стане, то нашто ж мне тады жыць? Каб за гэтым жлуктам чортавым порткі мыць ды мацюкі яго слухаць? Госпадзі, калі ўжо не мінуць нам гэтай хваробы, то чаго ж ты яе мне не паслаў? Я ж меней бераглася тады, усё піла і ела, яе болей апекавала...

Ап'янеўшая ад гарэлкі, а больш — ад гора, Валя плакала і гаварыла... Надзя, знямелая ад суседчынага гора, моўчкі качала на стале хлебны шарык, і толькі аднаадзіная думка пульсавала ў галаве: «Васілёк... Як там Васілёк?.. Божа, якая яна дурніца,— ягадамі з лесу яго частавала, малачком хатнім. Усім напаказ — глядзіце, маўляў, я нічога не баюся. Каму што даказаць хацела? Каго ў чым пераканаць? Ідыётка — на дзіцяці сваім эксперыменты ставіць надумала...»

Праз нейкі час Надзя сяк-так супакоіла суседку. Валя, выплакаўшыся, напіўшыся гарачае гарбаты і прыняўшы супакойваючае, заснула, скурчыўшыся ў зале на канапе. Надзя накрыла яе пледам і ціхенька пайшла. Дома сама прыняла таблетку, паспрабавала чытаць, але не змагла: суседская Танечка, русявая блакітнавокая дзяўчынка, ста-

яла ў вачах. Усмешлівая, яна заўсёды першай ветліва віталася з суседзямі, гадзінамі магла цярпліва стаяць у чарзе ці прасаваць бялізну, кожнай бабульцы імкнулася паднесці сетку. Усе жанчыны ў доме зайздросцілі Валі, казалі: «Хоць муж і п'янтос, затое дачка ў яе — золата, а не дзіця». І як здаралася паўшчуваць за што-небудзь сваіх падшыванцаў, заўсёды ставілі ў прыклад Танечку: яна і разумніца, і памочніца маміна, і ветлівая, і акуратная, і таварыская. І вось трэба ж такому дзіцяці і такая хвароба!

Уяўленне малявала Танечку на бальнічным ложку — бледную, маркотную. І тут жа паслужліва падсунула іншы малюнак: на ложку побач — Васілёк, з пабрытай нагала галоўкай, перавязаным горлам, тужлівымі вачыма... Ёй захацелася тут жа ўбачыць сына, пераканацца, што ён такі ж ветлівы, як заўсёды, жвавы, гарэзлівы. Ці хоць бы пачуць яго галасок-званочак... Схапілася за тэлефонную трубку і тут толькі ўсвядоміла, што ўжо дванаццатая гадзіна, у санаторыі, пэўна, усе спяць і яна сваім званком толькі наробіць перапалоху.

Гэта была першая ноч са шматлікіх наступных, калі Надзя не змагла заснуць. Яна варочалася з боку на бок, лічыла да сотні, а затым — да тысячы, піла валяр'янку, чытала нейкія нудныя філасофскія развагі пра сэнс жыцця, а сон усё не ішоў. Толькі пад раніцу стомленасць на некалькі хвілін зняла ёй вейкі — і тут жа Надзя з крыкам прахапілася: ёй прысніўся Васілёк. Ён ляжаў у сваім дзіцячым ложачку, на ім была чамусьці апранута Таніна сукенка, і ён гаварыў Таніным ціхім галаском: «Мамачка, мне так усё баліць, так баліць...»

Ледзьве дачакаўшыся сямі гадзін раніцы, Надзя, паўтараючы, як закляцце, адно і тое ж: «Толькі б у іх усё было добра! Толькі б усё было добра!» — набрала нумар санаторыя.

Вахцёрка пачала заспаным голасам незадаволена дапытвацца, хто гэта звоніць так рана і чаму, і толькі магічнае «З газеты!», якім Надзя карысталася ў крайніх выпадках, прымусіла яе пашлэпаць па калідоры, працягваючы нешта бурчэць пад нос.

Алег схапіў трубку літаральна праз хвіліну.

— Што? Што здарылася? З бацькам што-небудзь? — выгукнуў ён устрывожана замест прывітання.

Тут толькі Надзя ўспомніла, што ў Алега хворы бацька, і ўявіла, як гэты ранні званок мог яго напалохаць.

— Ды не, нічога не здарылася. Па вас засумавала,— пастаралася адказаць бадзёра. І задала пытанне, якое ўсю ноч не давала заснуць: — Як там Васілёк?

Алег на тым канцы провада ўздыхнуў з палёгкай:

— Ну, дзякуй Богу...

— Я цябе пытаюся: як Васілёк? — пачала злавацца Надзя.

— Васілёк? Нармальна, як заўсёды. Спіць яшчэ. Гуляем, на катамаране катаемся, купаемся. Загарэў, як шакаладка. Толькі па табе сумуе. Кожны вечар пытае, дзе мама. А чаму ты пытаешся? Ты што, знарок пазваніла ў такую рань, каб спытаць, як Васілёк?

— Знарок. Я вельмі засумавала па вас. Папрашу рэдактара, калі пусціць на тыдзень які, то прыеду.

Алега заўсёды прыводзілі ў захапленне такія яе нечаканыя рашэнні, «вар'яцінкі», як ён казаў. Здаецца, ён захлынуўся радасцю, бо некалькі імгненняў маўчаў, і затым усхвалявана прамовіў:

— Гэта было б здорава... Чакаем!

Рэдактар быў у гуморы і дазволіў узяць ажно два тыдні ў лік водпуску пры ўмове, што яна за гэтыя некалькі дзён створыць запас. Надзя ляскацела машынкай, як шалёная, заваліла адказнага сакратара матэрыяламі і з чыстым сумленнем і амаль спакойнай душой паехала да сваіх мужчын.

Гэта былі, бадай, два самыя шчаслівыя тыдні — яны ўсе разам купаліся, загаралі, блукалі па лесе, збіралі чарніцы і нанізвалі іх на травінку, як пацеркі, а затым лавілі губамі іх сакавітую слодыч, смяяліся, дурэлі. Не думалася ні пра што благое, нават хворая Танечка ўспаміналася хоць і са спачуваннем, але рэдка і атаясамлівалася з вялікім горам, якое тым не менш існуе недзе далёка. Здавалася, што бяда не павінна, ну проста не можа ўварвацца ў іх маленькі сямейны рай, разбурыць яго... Так, з іншымі гэта здараецца, але з імі не павінна, бо яе Васілёк — самы прыгожы, самы лепшы ў свеце, і Алег бясконца любіць яго, а таксама яе — за тое, што падарыла яму сына, і яна — самая шчаслівая жанчына ў свеце, і ўсё гэта не можа, ну проста не мае права разбурыцца, знікнуць...

Бяда напомніла пра сябе адразу пасля вяртання — заплаканымі Валінымі вачыма.

— Зрабілі Тані аперацыю. Казалі, удала. А яна як здань стала, ажно свеціцца. Стараецца ўсміхацца, каб мяне падбадзёрыць, а слёзы з вачэй так і коцяцца.

І зноў трывога ўпілася ў сэрца, як пражаўлены цвік, малюючы выявы адна страшней за другую. Надзя гнала іх ад сябе і днём у вечнай мітусні рэдакцыйных будняў амаль спраўлялася з гэтым пастаянным падсвядомым страхам, хіба толькі хто расказваў пра чарговую ахвяру Чарнобыля: немаўля-калеку, ці жарабя-мутанта, ці памёршае ад раку дзіця... Тады ржавы цвік нібы ўваходзіў яшчэ глыбей, выклікаючы пякучы боль і паралізуючы ўсе думкі, акрамя адной: «Васілёк!.. Толькі б усё было добра».

А ноччу жудасныя сны не давалі ёй закрыць вочы — перад ёй адразу ж паўставала: Васілёк на аперацыйным стале, Васілёк у інваліднай калясцы, Васілёк, прыкуты да ложка... Ад гэтага не было паратунку — яна баялася ночы, баялася засынаць...

Яна перастала хадзіць у лес, закінула на антрэсолі свае вуды, прадукты купляла толькі ў магазіне і то дзеля перастрахоўкі насіла іх правяраць знаёмай у санстанцыю, забараніла малому бавіцца ў пясочніцы, кожны месяц вадзіла яго ў бальніцу здаваць аналізы — і нічым не магла заспакоіцца, ніштo не магло выцягнуць з сэрца гэты ржавы цвік.

...Мо ў пяты раз паставіўшы чайнік на пліту, Надзя выйшла ў калідор, прыадчыніла дзверы ў дзіцячую спальню. Васілёк спаў, выпраставшы па звычцы адну нагу паверх коўдры, а ручку паклаўшы пад шчаку. Чорныя кучаравыя валасы рассыпаліся па падушцы, пухленькія шчочкі ружавелі ў цьмяным месяцавым святле...

Надзя замілавана ўсміхалася: «Сонейка маё... Толькі каб ты не зведаў бяды, толькі б у цябе ўсё было добра».

— Чаго гэта ты не спіш? — яна нават уздрыгнула ад нечаканасці, пачуўшы за спінай заспаны голас Алега.

Муж пацягнуўся вачыма за Надзіным позіркам і таксама ўсміхнуўся з замілаваннем:

— Спіць, як анёлачак... Цудоўны ў нас з табой сынок, праўда, Надзейка?

— Праўда...— удзячна ўткнулася яму тварам у плячо жонка.— Толькі я баюся, Алег,— памаўчаўшы, рашылася ўрэшце выказаць тое, што даўно гняло душу.

— Баішся? Чаго? Ты пра што? — з недаўменнем адхінуўся Алег.

— Радыяцыі баюся. Бачыш, што з Валінай Танькай сталася. Баюся я за Васілька. Алег, давай паедзем кудынебудзь...

— Як паедзем? Куды? — муж усё не мог зразумець, пра што яна.

— Ну, выедзем куды-небудзь у чыстую зону, як людзі выехалі. Будзем там жыць, працаваць. Каб можна было ў лес схадзіць, ягад назбіраць не баючыся — помніш, як у санаторыі... Каб Васілька я магла спакойна ў пясок пусціць пакорпацца... У паходы б хадзілі ўсе разам — з начлегам ля вогнішча... У грыбы, на рыбалку...

— Але ж ты і тут хадзіла — і ў грыбы, і на рыбалку,— недаўменна паціснуў плячамі Алег, зачыняючы дзверы ў дзіцячую спальню, каб не збудзіць сына.— І яшчэ з мяне ўвесь час кпіла, калі я прасіў асцерагацца. Не разумею, што з табой сталася...

— Дурная была,— цяжка ўздыхнула Надзя.— Геройства сваё паказвала, незразумела, каму і навошта. А як паглядзела на Танечку, як яна вяне, бы тая сарваная пралесачка... Страшна... А раптам што з Васільком здарыцца? Я ж гэтага потым сабе ніколі не дарую. А ён — ці даруе ён нам, як вырасце? Добра, як усё будзе добра, а як не?

— Надзя, не панікуй! Людзі і ў чыстай зоне і хварэюць, і паміраюць, і дзяцей-калек нараджаюць. Не спісвай усё на радыяцыю.

— Не трэба мяне пераконваць,— горка ўсміхнулася Надзя.— Я сама яшчэ нядаўна гаварыла тое ж самае. Але, Алег... Калі праз колькі часу ён паглядзіць нам у вочы і скажа: «Вы — дарослыя, разумныя людзі, вы — мае бацькі. Вы ведалі, што радыяцыя — гэта небяспечна. Чаму ж вы мяне не ратавалі?» Ну што, што мы яму на гэта адкажам? Што і ў чыстай зоне людзі паміралі? Ведаеш, я апошнім часам адчуваю сябе злачынцай перад Валяй, бо пераконвала яе, што і тут жыць можна, перад яе ні ў чым не вінаватай дачушкай, якая памірае ад празмернай дурасці дарослых... А больш за ўсё перад сынам — што трымаю яго тут, як заложніка. Давай паедзем, Алег, я вельмі цябе прашу. Я ўжо больш не магу жыць з гэтым пачуццём віны, я вар'яцею.

— Але куды мы паедзем, Надзя? Помніш, я ж прапаноўваў табе, як усе людзі выязджалі,— давай і мы рванём? А ты толькі смяялася і называла мяне баязліўцам. А тады ж і кватэру можна было атрымаць, і на работу

прасцей уладкавацца. А цяпер як паехаць? Жылля нідзе няма, работы няма, усюды беспрацоўе. Кватэру мы сваю не прададзім, хто яе тут купіць... Куды ехаць, Надзя, як?

— Я не ведаю, Алег... Я ведаю, адчуваю толькі адно: нам трэба адсюль ехаць. Разумееш: трэба! Зрэшты, ёсць жа ў нас права на адсяленне, нам яго дзяржава прадаставіла! Што мы, у рэзервацыі жывём, якую нельга пакідаць?! Я хачу адсюль паехаць, мне трэба сына ратаваць, і я паеду!!! — амаль крычала Надзя, забыўшыся, што на двары — ноч, што за тонкай сцяной спяць суседзі, што можа разбудзіць сына.

— Ну добра, добра,— стаў супакойваць яе Алег.— Заўтра пагаворым...

— Я не хачу заўтра! Паабяцай мне, што ты ўсё зробіш, каб паехаць адсюль! Хоць куды — у забітую вёску, у цьмутаракань, у камуналку! Хоць куды!.. Калі не паабяцаеш зараз жа, то я, я...— яна шалёнымі вачамі абвяла навокал, нібы шукаючы, што б такое зрабіць, каб перакanаць мужа ехаць прама цяпер.

— Не крычы — ты разбудзіш Васілька...

Надзя ўрэшце зразумела, што дала залішнюю волю нервам, знясілена апусцілася на табурэтку.

— Прабач, Алег. Я сарвалася. Гэта нервы. Прабач.

— Нічога,— муж мякка абняў яе, прыхінуў да сябе.— Гэта бывае. Выпі чаго-небудзь, супакойся. А заўтра пагаворым, што рабіць. Нешта прыдумаем. А цяпер пайшлі спаць.

...Вялікая калматая хмара закрыла месяц, у акно супакойваючы забарабаніў дробны дождж. Халаднаватае плячо мужа, у якое ўткнулася Надзя, як кволае птушаня, здавалася такім моцным, такім надзейным...

«Ён абавязкова што-небудзь прыдумае, ён абяцаў»,— са спакойнай усмешкай абняла яна мужа і заснула.

Алег тым часам ляжаў з шырока раскрытымі вачыма і думаў, як жа адгаварыць жонку ад гэтай вар'яцкай задумы. Бо пераехаць куды-небудзь няма аніякай магчымасці — ніхто не дасць кватэры, нідзе не знойдзеш работы... Ды і як ён кіне хворага бацьку? А дачок? Яны і так маюць на яго крыўду, лічаць, што не ад маці іх ён пайшоў да другой жанчыны, а іх пакінуў, ім здрадзіў... А калі ён яшчэ паедзе ратавацца ад радыяцыі, пакінуўшы тут сваіх дзяўчынак... Не, пераезд адмяняецца. А Надзю ён як-небудзь угаворыць... Сапраўды, жывуць жа і тут людзі, не ўсе ж хварэюць ды паміраюць, што яна панікуе...

## ПЕРАСЯЛЕНЦЫ

*Цыкл апавяданняў*

### Вольга

Вольга з самага пачатку не хацела ехаць ні ў якое перасяленне. Аж рукамі махала, як хто загаворваў пра гэта:

— Яшчэ чаго! Урэшце я сваю хату займела, гаспадыняй стала — і зноў паеду па чужых кутках туляцца? Не ўжо, выбачайце. Добра мне будзе і ў радыяцыі. Не ўсе ж едуць, і тут людзі застаюцца.

Трынаццаць гадоў Вольга пражыла са свякрухай, зануднай сварлівай бабай, трынаццаць гадоў гадзіла ёй, як паганай скуле, і не пачула ніводнай ухвалы: усё жыццё яна не так, як трэба, мяла хату, палола грады, спавівала дзяцей. Калі перабраліся ў сваю хату — яшчэ нават неатынкаваную, са сцен мох тырчаў,— шчасцю яе не было меж: нарэшце я тут гаспадыня, буду жыць, як захачу!

Праўда, без свякроўкі жылося таксама не вельмі саладка: і дзяцей трэба было глядзець, і гаспадарку весці, і на работу хадзіць, і хату канчаць — без капейкі за душой. Муж, Пятро, ведаў толькі сваю працу, лічыў, што бабскія клопаты — не мужыцкая справа. А яна не вельмі і крыўдавала — сама ўсюды паспявала, хвіліны не пасядзела.

А потым лягчэй крыху стала: дзеці падраслі, толькі меншы Сярожа ў садок яшчэ хадзіў, а большы Толік то і ўвогуле бацьку даганяў, і за ім і Міша цягнуўся. Хату нарэшце да толку давялі, мэблю купілі — усё, як у людзей: сценка, мяккі куток. Нават лазню сваю паставілі. Ужо і з даўгоў вылезлі, і капейчына сякая-такая ў кашальку завялася.

І на табе — радыяцыя. Спачатку, як дзяцей вывозіць пачалі, то Вольга спужалася, як і ўсе. А потым, як дамоў усіх вярнулі, супакоілася: раз дзецям жыць тут дазволена, то, значыць, нічога страшнага.

А гады праз тры пасля аварыі карты нейкія ў газетах надрукавалі. Яна не надта разбіралася, што за карты, але ўсе вакол жахаліся і казалі, што жыць у іх вёсцы цяпер няможна, бо тут больш за пятнаццаць кюры. Якіх такіх кюры, Вольга так і не ўсвядоміла, але зразумела, што гэта не надта добра. Ды адна справа — незразумелыя кюры, а зусім другая — свая хата родная, ужо абжытая...

Але пры сустрэчы ўсе гаварылі толькі пра адно: хто куды выехаў і хто куды збіраецца. А тут і выязджаць быццам дазволілі, грошы за кінутыя селішчы сталі сплачваць. Загарэўся гэтай пераезднай ліхаманкай і Пятро. Не так у чыстую зону імкнуўся, як машыну хацеў купіць.

— Ну чаго ты ўпарцішся? — угаворваў ён кожны вечар Вольгу.— Вунь швагер паехаў з усёй арганізацыяй, разам са сваім Жураўлёвым. Казаў, праз паўгода якога кватэра будзе. Абяцаў і за мяне слоўца закінуць, ён з начальнікам у нядрэнных адносінах. Там кватэру атрымаем, тут хату здадзім, грошы возьмем, машыну купім. Будзем жыць як людзі.

Вольга перш спрачалася, старалася растлумачыць, чаму не хоча пакідаць сваю хату. Потым ужо проста адмахвалася ад мужыка, як ад надакучлівай мухі, і ішла рабіць што-небудзь па гаспадарцы, чым злавала яго невыказна.

Так бы Пятро, мусіць, і не ўгаварыў жонку. Але Толік, большы сын, звязаўся з дурной кампаніяй. Чым ужо яго так прыманілі тыя бэйбусы, яна і сама не ведала, але хлопец ледзь не ўвачавідкі з паслухмянага, працавітага, клапатлівага ператварыўся ў дзёрзкага, лянівага — бы памянялі сына. Яго ўжо было не дапрасіцца зрабіць штонебудзь па гаспадарцы, ён часта павышаў голас нават на яе, маці, не кажучы ўжо пра меншых братоў. Дамоў прыходзіў позна, часам ад яго патыхала папяросным дымам ці гарэлачным перагарам. А скончылася ўсё тым, што яе паклікалі ў міліцыю і сказалі, што Толік у кампаніі са сваімі сябрукамі абрабавалі кіёск на станцыі. У яе і ногі падкасіліся ад такой навіны.

Справу гэтую ўдалося замяць, бо арганізатарам усяго быў сынок вялікай мясцовай шышкі, але Вольга тады цвёрда вырашыла: хлопца трэба ратаваць. Перадумала ўсё і лепшага выйсця, як пераезд, не знайшла. Тут яго гэтая банда ў спакоі не пакіне, пакуль у турму не ўпячэ.

На новым месцы Вользе не спадабалася адразу, хоць і атрымалі яны, як і ўсе, кватэру, уладкаваліся на працу. Але ўсё было тут не так, як дома: інакш гаварылі людзі, па-другому, больш модна і дорага апраналіся, здавалася, нават бэз тут пах інакш — прытарна-салодка, аж галава кружылася. І сонца ў гэтым гарадку не там, дзе трэба, ўзыходзіла, і зоры ноччу на небе не так свяцілі... Калі нехта з пераехаўшых разам землякоў пачынаў хваліць тутэйшыя мясціны: маўляў, усё тут побач — і рэчка, і лес, і агарод,— яна нават сердавала, быццам тым самым земля-

кі ганілі сваё роднае, нібы здраджвалі яму. А ёй дык і дыхалася, здавалася, не так, як дома, не тое што жылося.

Ды і то праўда, што жыццё на новым месцы ў іх неяк адразу не заладзілася. Муж увесь час, калі быў цвярозы, хадзіў злосны, бо пакуль здалі хату, пакуль перавялі грошы на рахунак, пакуль ён шукаў машыну ды прыцэньваўся, правялі рэформу, і ўсё, што ляжала ў іх на ашчадкніжцы, ляснула. Толькі і паспелі што купіць веласіпед — за хату, якую так горка, сваім потам і мазалём, будавалі. Можа, ад гэтага Пятро і стаў моцна піць. А яшчэ дапамагала тое, што цесля быў адмысловы. Як даведаліся мясцовыя, так і пачалі клікаць на «шабашку» — на разрыў цягнулі. А разлічыцца ўсе стараліся пляшкай. Рукі ён меў залатыя, а характар — цялячы: чым плацілі, тое і браў. Здаралася, што і за «дзякуй» мог выхадныя прагарбаціцца ў якога-небудзь начальніка на дачы.

Затое дамоў з такіх «халтур» ледзь прыцягваўся і адразу ж пачынаў чапіцца да Вольгі, да дзяцей з усякай нагоды і без яе. Яна трывала, сціснуўшы зубы, часам плакала ўпотайкі, але выйсця не бачыла. Ды само знайшлося: аднойчы Пятро ледзь прыцягнуўся з чарговай «шабашкі» позна ўвечары і заснуў прама на лавачцы пад пад'ездам. Заснуў — і не прачнуўся. Так Вольга аўдавела.

Ды нездарма кажуць, што бяда адна не ходзіць — другую з сабой водзіць. Сын і тут знайшоў сабе такую ж кампанію, мусіць, ужо паспеў яму стачыць душу гэты шашаль, шукаў ён сабе такіх таварышаў, як сам. Зноў стаў хлопец піць, прападаць начамі, нейкія чужыя рэчы дахаты прыносіць. На ўсе яе пытанні ды ўгаворы толькі адмахваўся: пакінь мяне ў спакоі, я дарослы чалавек. І таму, калі прыйшла павестка ў ваенкамат, Вольга ўзрадавалася: можа, хоць у войску Толік пасталее, адумаецца, жыццю навучыцца. Яму давалі адтэрміноўку: усё ж без бацькі, старэйшы сын у сям'і, кармілец. Але яна папрасіла ваенкома: забярыце! Бо як не пойдзе ў войска, то пойдзе ў турму.

Колькі потым яна адгаласіла, колькі вырвала валасоў на галаве, праклінаючы сябе за тыя словы, тую просьбу! Да самай смерці сабе таго не даруе. Бо з арміі Толік вярнуўся ўсяго праз паўгода. У труне. Камандзір, што яго прывёз, нешта плёў, хаваючы вочы, пра лямпачку, высокае напружанне, нечакана ўключаны рубільнік. Яна і не слухала, і не верыла, адна-адзіная думка не ішла з галавы: «Сама! Сама паслала сына на смерць! Сваімі рукамі!!!» Пахавалі Толіка побач з бацькам у адной абгародцы.

А Вольга, заўсёды такая жвавая, рухавая, не ведаючая стомы, стала як старая баба: сівая, згорбленая, знясіленая. У яе ўвесь час нешта балела, рукі ні за што не браліся, яна развучылася смяяцца. Калі на малочным заводзе, дзе працавала, пачаліся скарачэнні, сама папрасіла дырэктара, каб звольнілі яе,— не мела ўжо сіл цягаць флягі. Перабівалася неяк на дапамогу па беспрацоўю, дзіцячую пенсію. Жыццё здавалася такім беспрасветным, такім суцэльным змрокам без адзінай белай плямкі...

Яна ўсё капалася ў душы, шукала, хто ці што вінаваты ў яе незлічоных бедах. І ўрэшце вырашыла для сябе — пераезд. Каб не гэта, жыла б яна ў сваёй хаце і бяды не знала. А ў хату іх, сястра стрыечная казала, так ніхто і не засяліўся, стаіць да гэтага часу забітая. І калі Вольга вернецца ў калгас ды пойдзе працаваць на ферму, то старшыня, магчыма, і аддасць зноў ёй — прасіў так сястру перадаць.

Гэтая думка падалася Вользе выратавальнай. Яна настолькі завалодала ёю, што і думаць ні пра што не хацелася. Здавалася, вось зойдзе ў сваю хату, удыхне яе родны пах, расчыніць робленыя Пятром дзверы, пакратае на вушняку зарубкі, дзе Толікаў рост мералі, развесіць па сценах свае вышыванкі — і адразу беды яе скончацца... Суседкі яе адгаворвалі: куды ты, дурніца, зноў у радыяцыю пнешся, са сваім здароўем, і дзяцей туды ж цягнеш. Але Вольга нікога не слухала і, як апантаная, вязала ў вузлы хатні скарб, думаючы толькі пра адно: «Дамоў! Хутчэй дамоў! У сваю хату, на свае сцежкі! Там я ачуняю, аджыву...»

## Васіль Іванавіч

Васіль Іванавіч прыкурыў ад патухаючай ужо «беламорыны» другую, моцна зацягнуўся, наліў шклянку гарэлкі, чокнуўся з пляшкай.

— Ну, будзь здароў, Вася! Вось і ўсё. Вось і скончылася твая кар'ера...

Выпіў залпам. Гарэлка апякла нутро, а затым прыемнае цяпло расцяклося па ўсяму целу, запульсавала ў скронях. «Вось і ўсё... Вось і ўсё...»

Мутнаватым ужо позіркам Васіль Іванавіч акінуў кабінет. У промнях заходзячага сонца, што неяк прабілася праз зацягнутае чорнымі хмарамі неба, празрыстым слу-

пам стаяў пыл. «Пэўна, ужо і прыбіральшчыца лічыць залішнім заходзіць у мой кабінет»,— падумаў з горыччу. Маўчалі тэлефоны, ніхто не стукаў у замкнёныя дзверы. Раптам на працягу нейкай гадзіны-другой ён стаў нікому не патрэбным. Васіль Іванавіч заўсёды здзіўляўся, як імкліва ў гэтым гарадку разносяцца навіны. Яшчэ раніцай у яго кабінеце тоўпіліся людзі — бухгалтарка прасіла падпісаць нейкія паперы, прараб патрабаваў цэглу, кладаўшчык плакаўся, што нехта скраў дзесяць лістоў шыферу,— пэўна, сам жа і загнаў. Тэлефон не змаўкаў: «Васіль Іванавіч, на вас адна надзея», «Васіль Іванавіч, чаму так мала рабочых на аб'екце?». А вось на табе — прайшло ўсяго пару гадзін, як яго знялі, а ўжо ўсталявалася мёртвая цішыня. І не толькі ў яго кабінеце, а ва ўсёй канторы. «Затаіліся... Сядзяць, як пацукі, па кабінетах, языкі чэшуць... Радуюцца... А некаторыя, пэўна ж, да пасады прымерваюцца. Вакансія...» Васіль Іванавіч наліў яшчэ шклянку і гэтак жа, не прыкусваючы, выпіў.

Як ён крычаў на яго сёння, гэты начальнік упраўлення! Аж пуза яго раскормленае хадуном хадзіла... «Вы развалілі арганізацыю, вашы падначаленыя не разумеюць, што такое дысцыпліна, галоўны бухгалтар можа ў банк заявіцца на падпітку. А ўсё таму, што вы самі так сябе паводзіце, можна сказаць, падаяце падначаленым уласны прыклад. Ужо ў абед вас не застаць цвярозым! Ваш лад жыцця несумяшчальны з пасадай кіраўніка!»

Шчанюк! Што ён ведае пра яго лад жыцця! Што ён увогуле ведае пра жыццё! Са студэнцкай парты — у райкам камсамола, адтуль — ва ўпраўленне... Кіраўнік... Пастаяў бы ты з людзьмі пад дажджом ці снегам на рыштаваннях, зарабляючы капейкі, пасядзеў бы ў той зоне, хаты б людзям пабудаваў у тых вёсках, якія праз год загадалі адсяляць, то, можа, што-небудзь і зразумеў бы ў маім ладзе жыцця. А то — ён мяне вучыць...

Васіль Іванавіч яшчэ адпіў са шклянкі і загаварыў ужо ўголас, звяртаючыся да ўяўнага суразмоўцы:

— Слухай, пацан, а ты помніш, як ты ўгаворваў мяне прыехаць сюды, узначаліць гэту арганізацыю? Залатыя горы тады абяцаў... Бо ніхто з мясцовых у гэтае балота лезці не хацеў. Усе работы баяліся... А я не пабаяўся. Я што табе сказаў? «Прыеду. Толькі не сам, а са сваімі людзьмі. Жылля мы ў вас не просім — самі для сябе пабудуем». І пабудавалі вунь колькі — і ферм, і школ. А ты кажаш — арганізацыю развaліў. Ды я яе стварыў,

гэтую арганізацыю! Няўжо ты забыў, пацан, як мае хлопцы працавалі — па шаснаццаць гадзін, без выхадных!

Васіль Іванавіч стукнуў кулаком па стале — шклянка, падскочыўшы, жаласліва бразнула. Ён зноў узяў яе ў рукі, пакруціў, хлёбнуў яшчэ...

— П'ю, кажаш? Вядома ж, п'ю. Моцна п'ю. Залішне. Разумею гэта. Але не табе, шчанюк, судзіць мяне за гэта. Не табе! Бо ты сам мне наліваў! Ты і твае сябрукі! О, тады вам шмат трэба было ад мяне... «Васіль Іванавіч, даражэнькі вы наш, як зрабіць кватэру аднаму добраму чалавеку...» «Васіль Іванавіч, я там хацінку на дачы будую, то мо б падкінулі машыну цэглы...» «Васіль Іванавіч, у вас такі цясляр адмысловы, хай бы мне дапамог з рамонтам...»

Усе прасіліся, усе мякка слалі... У дружбе да канца дзён кляліся. А ён, дурань, усім імкнуўся дапамагчы, усе ж такія добрыя, душэўныя людзі... Каб іншы хто, дык даўно б на яго месцы азалаціўся. А з Васілём Іванавічам адзін разлік: скрынку гарэлкі ў машыну — ды на прыроду...

Рэзкі тэлефонны званок нечакана перарваў яго маналог. «Нехта, пэўна, яшчэ не ведае,— крыва ўсміхнуўся Васіль Іванавіч.— Цікава, хто ж?»

Званіла жонка.

— Вася, ты на рабоце? — устрывожана спытала яна.

— Ага. Працую. У поце твару,— ён не сумняваўся, што Тамара ўжо ведае ўсё.

— Вася, ідзі дахаты...

— Што, засумавала? Няма каго пілаваць? Дык там дровы ў хлеўчуку ляжаць...

— Вася, я цябе прашу...

— Ды ідзі ты! — шпурнуў ён трубку і вырваў тэлефон з разеткі — будзе яшчэ яна тут на душу капаць!

Хоць і тое праўда, што адна Тамара імкнулася неяк яго абразуміць. І сварылася, і па-добраму прасіла. Нават разводам пагражала. На развод — ён ведаў — не пададсць, усё ж добра-дрэнна, а трыццаць гадоў разам пражылі. А на ўсе яе ўшчуванні не звяртаў увагі. На тое яна і баба, каб бурчэць. Яму ўсё здавалася, што не такі ўжо і п'яны быў напярэдадні, як нараніцы размалёўвала жонка. «Знарок фарбы згушчае,— думалася яму ў хвіліны ранішняй прачуханкі.— Што, такі ўжо ён горкі п'яніца? Вось захоча — і спыніцца, гэта яму раз плюнуць...»

Што спыніцца не так проста, зразумеў, калі трапіў у бальніцу. Урач, што абследаваў яго, неяк вельмі ж закла-

почала разглядаў рэнтгенаўскія здымкі. І некалькі разоў паўтарыў: «Вам нельга піць. Зусім». Тады яму стала страшна, ён зразумеў, што сапраўды п'е замнога, і паспрабаваў спыніцца.

А затым здавалі вясковую школу — гэты аб'ект забраў столькі сіл і нерваў, што ён паддаўся на ўгаворы дырэктара адзначыць чыста сімвалічна келіхам шампанскага гэтую падзею. Пасля шампанскага пілі каньяк, самагонку, піва, і ён ужо сам не памятае што. Тады яго прывезлі дамоў амаль непрытомнага. А потым пайшло-паехала: некаму пазарэз трэба быў цэмент, некаму — пакой у інтэрнаце, а таму — кран. І ўсе ішлі да Васіля Іванавіча: хто з паўлітэркай, хто з трохлітровікам, а хто і з каністрай — у залежнасці ад таго, што прасілі. І нікому ён не адмаўляў выпіць «за дружбу».

«А цяпер яны ж за маёй спінай смяюцца... Канешне, нашто ім цяпер Васіль Іванавіч? Кватэры атрымалі, палацы пабудавалі, цяпер можна Жураўлёва выспяткам пад зад — хай коціцца...»

У дзверы пастукалі. «Не адкрыю!» — злосна падумаў Васіль Іванавіч, выліваючы з бутэлькі рэшткі. Але ў дзверы працягвалі настойліва барабаніць.

— Вася, адчыні! — пачуўся жончын голас.

Хістаючыся, ён дайшоў да дзвярэй, павярнуў ключ.

— Ну што табе?

Тамара глядзела не з папрокам, не з халодным адчужэннем, як звычайна ў апошнія часы. У яе вачах свяцілася спагада і шкадаванне:

— Пайшлі дамоў, Вася. Не думай нічога. Знялі — і дзякуй Богу. Здаравейшы будзеш. Хадзем. Я вячэру зварыла. Што тут сядзець?

— І то праўда, Тамара, што тут сядзець? — раптам памякчэў Васіль Іванавіч. Ён абвёў развітальным позіркам свой кабінет, узяў са стала адмысловую попельніцу, выкаваную яшчэ там, на Хойнікшчыне, суседам-кавалём і падораную яму на памяць пры развітанні, і, не дастаючы ключоў з замка, прычыніў дзверы.

## Наташа

— Добра табе,— з зайздрасцю гавораць Наташы былыя каляжанкі — дзяўчаты з магазіна, з якімі ў свой час разам працавала.— Выехала ў чыстую зону, уладкавалася, кватэру атрымала...

— Добра,— згоднаківае галавой Наташа і адчувае, бачыць па вачах, што ім не вельмі падабаецца гэты яе згодны ківок, што калі б яна пачала зараз скардзіцца на сваё жыццё, расказваць, як ёй цяжка на чужой старане, то дзяўчат гэта ўзрадавала б куды больш. Не, яны б не паказалі выгляду — спачувальна б ківалі галовамі, давалі шчырыя парады, але ў душы б задаволена адзначылі: «Ну вось, і гэтая плача... Не трэба было ляцець з наседжанага месца няведама за чым. А то думалі, што яны разумнейшыя за ўсіх — ад радыяцыі ўратуюцца...»

Наташа не судзіла прыяцелек, разумела, як цяжка жыць ім тут, у забруджанай зоне, калі штодня смокча за сэрца страх за здароўе — сваё, дзяцей, родных. І як псуе настрой ім кожнае вось такое «добра» — яно як абвінавачванне, як прысуд тым, хто застаўся, збаяўся ламаць жыццё, ехаць з сям'ёй і ўсім скарбам у невядомасць. Усё гэта Наташа разумее, бо сама так жыла пяць гадоў, кідаючыся ад адчаю з-за кожнай дзіцячай хваробы да надзеі — можа, усё абыдзецца? І гэтак жа зайздросціла тым, хто выехаў у чыстыя мясціны: ёй ужо ўяўлялася амаль неверагодным, што недзе можна бегаць басанож па траве, піць сырадой, збіраць грыбы, здавалася, што смачней за смажаных сыраежак нічога ў свеце не існуе. І калі з'явілася магчымасць пераехаць у невялічкі, падобны на іх гарадок, дзе ўсё гэта можна было рабіць не баючыся, яна «запілавала» свайго не вельмі рашучага мужа, які ўсё пабойваўся мяняць уладкаванае жыццё: «Трэба ехаць. Падумай пра дзяцей! Другі раз такі шанц можа і не выпасці. Едзем!»

Яна нават не крывіла душой, расказваючы на роспыты знаёмых, што ў яе ўсё добра. Ну сапраўды, на што скардзіцца? З малюсенькага інтэрнацкага пакойчыка, сырога і халоднага, у які пераязджалі са свайго дыхтоўнага катэджа, усяго толькі праз пару гадоў перабраліся ў трохпакаёвую кватэру. Муж працаваў на той жа пасадзе, што і тут, у Хойніках, і заробак меў нядрэнны. Уладкавалася і яна, хоць і не па спецыяльнасці, але работа была цікавая, ёй падабалася. Ды і ў гэтым жаночым калектыве яе неяк адразу прынялі за сваю, адносіліся спачувальна, дапамагалі, як узнікала такая патрэба. Дзеці ў садок пайшлі, затым у школу. Аднагодкі сябравалі з імі, малышня чарадой бегала — было штосьці ў характарах яе хлапчукоў такое, што вабіла да іх дзяцей. Так што ў параўнанні з тымі перасяленцамі, што да гэтага часу туляюцца па інтэрнатах

без усялякай надзеі на больш-менш прыстойнае жытло, што трапілі пад скарачэнне ці ўвогуле не змаглі знайсці работу, яны і сапраўды ўладкаваліся на новым месцы добра. Грэх скардзіцца.

А пра свае бяссонныя ночы — ці ж раскажаш пра іх каму-небудзь? Ды яшчэ вось так, з ходу, у дзесяціхвіліннай размове ні аб чым? Пра іх нават муж не ведае. А каб уведаў, то, пэўна, чмыхнуў бы незадаволена: «Ты вечна, як няма праблемы, то выдумаеш, абы нервы псаваць. Спі вунь...»

Найчасцей гэта здараецца, калі ёй сняцца яе Уласы. І чым даўжэй жыве яна тут, на новым месцы, тым часцей прыходзіць у сны родная вёска. Ніколі яна не снілася ёй зарослай чарнобылем, з выбітымі вокнамі, раз'яшчанымі дзвярыма, якой, казалі аднавяскоўцы, стала цяпер. Мо таму, што і не бачыла такой? Пасля таго злавеснага красавіка так і не выпала ніколі з'ездзіць на радзіму. Ды, па праўдзе кажучы, і не вельмі рвалася: ёй рабілася страшна ад адной думкі, што вось зойдзе яна на свой панадворак — і не знойдзе ніводнай пратаптанай сцежкі, не ўбачыць у хаце звыклага парадку, не павячэрае салонікамі са свежым малаком... Вёска, родная хата засталіся ў памяці такімі, якімі яна іх ведала,— жывымі, прыветнымі, таму і не хацела бачыць яе іншай, не хацела разбураць у душы той светлы рознакаляровы ўспамін, што застаўся з дзяцінства. Часам думала, што, можа, таму і сніцца ёй вёска так часта — крыўдуе, што не праведала дачка ні разу... Але ў снах з'яўляецца заўсёды такой, якой была ў маленстве, дзявоцтве. То бяжыць яна з сяброўкамі ў Грэбень па грыбы і ўсё цікуе, калі адыдуцца яны крыху ўперад, каб самой матануцца ў той кружок, што на водшыбе, дзе, ведае, яе заўсёды чакае з паўдзесятка, а то больш крамяных баравікоў. Але цяпер шукае, шукае іх — і не знаходзіць. А сяброўкі ўжо галёкаюць недзе далёка, ледзь чутна, і Наташа раптам разумее, што зблудзіла, зайшла не туды, і прахопліваецца ад страху...

То прымроіцца, як з Танькай і Грышкам сустрэлі лася ў Старынцы і, кінуўшы кошыкі з грыбамі, кінуліся наўцёкі. Танька і Грышка далёка ўжо ўперадзе, а яна бяжыць, бяжыць да грэблі па жоўтаму сыпучаму пяску, у якім важка грузнуць ногі, чуе за спінай тупат і адчувае, што зараз зваліцца без сіл,— і прачынаецца, задыхаючыся.

То сасніць, што ідуць яны з дзяўчатамі ў клуб на танцы, і быццам бы да ўсіх ужо прыйшлі хлопцы, а яе

Сяргея ўсё няма і няма. Яна не зводзіць вачэй з уваходу, сэрца заміpae ў чаканні, але тут да яе падыходзіць Вера, лепшая сяброўка, і са смехам гаворыць: «Не ўглядайся, ён сёння да Лены пайшоў». І Наташа прачынаецца ўся ў слязах, доўга лыпае расплюшчанымі вачыма, не могучы зразумець, чаму гэта ў іх клубе раптам паклеілі шпалеры і памянялі занавескі на вокнах. А калі даходзіць да памяці, пачынае зноў плакаць — ціха, бязгучна, каб не збудзіць пахрапваючага побач мужа, каўтаючы слёзы ці выціраючы іх краем накоўдраніка.

Пасля такіх сноў да раніцы ёй не заснуць. Схлынуць слёзы — і яркай рознакаляровай чарадой пойдуць успаміны — дзіцячыя, юнацкія. А за імі прыйдзе і сцісне сэрца жалезнымі абцугамі — не ўздыхнуць — чорная туга. У такія хвіліны яна люта ненавідзіць і гэты гарадок, такі маленькі, зялёны і ўтульны, і гэтую рачулку за паўкроку ад дома, у якой днямі плёхаюцца дзеці, і сваю работу, якая трымае яе, бы на ланцугу, не даючы вырвацца на радзіму...

Як збавення ад гэтых начных пакут, Наташа чакае адпачынку. Ёй здаецца: вось прыедзе дамоў, прытуляць яе да грудзей шурпатыя матуліны рукі, нагаворыцца яна пра ўсё з братам, адкрые самыя патаемныя куточкі душы сястры — і ўсё, і чорная туга разамкне свае абцугі, сыдзе ў пясок.

Хоць і ведае ў глыбіні душы, што так не будзе. Бо дахаты — у тую, сваю, бацькамі робленую, сям'ёй абжытую хату — ёй не прыйсці. А гэтая, казённая, у чужой вёсцы, сярод чужых людзей, у якой цяпер жывуць бацькі пасля таго, як вывезлі іх, усіх жыхароў у адзін дзень і назаўжды, не здолее спатоліць яе душэўную пакуту. І радасць ад сустрэчы з маці знікне ўжо праз некалькі хвілін, як толькі ўбачыць, як пастарэла яна за гэтыя некалькі месяцаў, што не бачыліся, як моцна задыхаецца, прайшоўшы колькі дзесяткаў метраў. А да болю і суму дабавіцца пачуццё віны: яна, дачка, паехала, а яны, бацькі, нямоглыя, бездапаможныя, засталіся. І бацька сваім вечным бурчаннем: «Вось з'ехалі за свет, чаго вам тут не хапала, жылі б, як і людзі жывуць. А то заявіцеся раз у год, як яснае сонейка»,— яшчэ падбавіць жару, што вугельчыкамі пячэ ў грудзях. І колькі ні паўтарай сабе, што ні ў чым яны не вінаватыя, бо не сябе — дзяцей сваіх ратавалі, пра іх думалі, і бацькоў колькі разоў да сябе клікалі жыць, ды яны ўсё не згаджаюцца, а гэтае пачуццё

віны толькі мацнее. З Васілём і Галяй ледзь не да сварак даходзіць: навошта сядзяць тут, калі яшчэ дзецьмі хапанулі свайго ва Уласах, пакуль вывезлі? Хай старыя не разумеюць, але ж яны павінны ведаць, што такое радыяцыя, пра дзяцей сваіх думаць, пра ўнукаў. Брат у такіх выпадках толькі адмоўна круціць галавой, а сястра аднойчы не вытрымала:

— Ты што, надта шчаслівая стала, як паехала? Нешта па тваіх вачах гэтага не відаць.

— Каб былі мы ўсе там разам, то і [redacted] б была шчаслівейшая,— выказала тады запаветнае Наташа.— Маё б сэрца не балела, сюды б не рвалася, і ты б не калацілася так за дзяцей.

— Мусіць, мне ўжо за іх калаціцца ўсё жыццё, дзе б ні жыла,— уздыхнула Галя.— А ты не перажывай, усё роўна нічога не зменіш. Выехала, уладкавалася — то жыві. Глядзі сваю сям'ю, на нас на ўсіх цябе адной не хопіць.

Цвярозы рэалізм быў у тых яе словах, і Наташа разумела, што сястра мае рацыю, нічога яна ні змяніць, ні вярнуць не зможа, хоць усе вочы выплача. І яна старалася жыць, як жывецца, сённяшнім днём: Косцевым футболам, Ігаравай «двойкай», рамонтам у кватэры.

Але час ад часу ёй сніцца родная вёска — і тады прыходзіць горкае ўсведамленне, што няма на свеце куточка, куды б яна магла прыйсці ці прыехаць, выплакаць, выказаць сваю бяду, падсілкавацца жыццёвай сілай ля сваёй бярозкі — той непрыгожай, са скрыўленым ствалом, якая ў гордай адзіноце стаіць воддаль ад густой чарады сяброўак. І куды б яна ні заехала, дзе б ні жыла, колькі б грошай ні мела, усё роўна на ўсё жыццё і яна, заехаўшы далёка, і яе бацькі, і сястра, і брат, што жывуць на Хойнікшчыне і нікуды не хочуць выязджаць, і ўсе аднавяскоўцы застануцца назаўсёды і ўсюды чужымі. Выгнаннікамі. Перасяленцамі. Людзьмі без радзімы.

І тады чорная туга сціскае абцугамі сэрца, не дае заснуць да раніцы і вярэдзіць душу безадказнымі «чаму?», «за што?», «навошта?».

## Дзед Андрэй

Дзед Андрэй прачынаецца рана па даўняй, выпрацаванай за жыццё звычцы. Ледзь толькі завіднеецца, ён адкрывае вочы і адразу бачыць развешаныя на сцяне партрэты

ў зашклёных рамках, абгорнутыя жончынымі вышыванымі ручнікамі. І тады яму на момант здаецца, што ён дома, у сваёй хаце, і Маня вось-вось пакліча яго снедаць ды пабурчыць, што вось, маўляў, які гаспадар, валяецца ў ложку да абеду, нібы работы ля хаты няма.

Але амаль адначасова прыходзіць успамін, што работы і сапраўды няма, бо няма і хаты, якую ён здаў уладам, як пераязджаў з дачкой сюды, у чыстую зону. Усяго і засталося ад хаты, што вось гэтыя партрэты, ды вышыванні, ды саматканыя посцілкі, якімі жонка па сваёй паляшуцкай модзе імкнецца ўпрыгожыць іх гарадскую кватэру.

Дзед Андрэй цяжка, з натугай спускае з рыпучага ложка свае балючыя ногі, прыслухоўваючыся, ці так яны баляць, як ўчора, ці не стаў боль мацнейшым, ці не ўзняўся вышэй. Паволі — спяшацца ўсё адно няма куды — старанна апранаецца. Бярэ свайго нязменнага спадарожніка, які верна чакае ля ложка,— вышмальцаваны за гады да бляску кіёк, і цяжка, марудна, крывячыся ад болю, які раніцай, пакуль не расходзіцца, не разварушыцца, пячэ асабліва моцна, шлэпае на кухню. Не зважаючы на сонную буркатню жонкі: «Паляжаў бы яшчэ, што цэлы дзень рабіць будзеш?», ставіць на пліту чайнік, садзіцца на сваё крэсла паміж халадзільнікам і кухонным сталом і пачынае строіць планы на дзень.

Яму здаецца, што сёння абавязкова — вось толькі крыху аціхнуць ногі — ён сходзіць у цэнтр, пройдзе па магазінах, паглядзіць, што там змянілася, якія цэны сталі. Зойдзе ў рэдакцыю, папросіць напісаць падзяку Уладзі — сацыяльнаму работніку, якая носіць ім з бабай прадукты, лякарствы, даглядае іх, старых. Праведае таварыша, з якім ляжалі разам у бальніцы,— вельмі ж запрашаў, як выпісваўся...

Такія ж планы дзед Андрэй строіў і ўчора, і пазаўчора. Але боль у нагах не сціхае, хоць ён употайкі прымае нават большую дозу лякарства, чым прызначыў урач. І стары ў глыбіні душы адчувае, што, колькі б ён ні марыў пра падарожжа ў цэнтр, сённяшні яго дзень, як і звычайна, пройдзе на лавачцы ля пад'езда. Сюды ён яшчэ сяк-так можа выйсці, добра, што кватэру далі на першым паверсе. Вось тут, на лавачцы, і сядзіць ён амаль цэлы дзень — спачатку, пакуль халаднавата, па адзін бок пад'езда, грэючыся пад сонцам, а пасля, як пачынае прыпякаць, пераходзіць на другі бок, у цянёк. Раніцай праводзіць на працу ўсіх суседзяў, з кожным вітаючыся і жадаючы

ўдалага дня. Калі хто-небудзь не вельмі спяшаецца, то і прыпыніцца ля дзеда Андрэя, перакінецца з ім некалькімі словамі. Але найчасцей гэта бывае вечарам, калі ўсе вяртаюцца з работы, тады, здараецца, хто-небудзь нават прысядзе побач на лавачку, найчасцей адзінокая бібліятэкарка Надзейка, якой не вельмі хочацца вяртацца ў сваю пустую кватэру. Тады яны пагамоняць пра надвор'е, пра здароўе, часам і палітыку зачэпяць. Надзя заўсёды не згаджаецца, калі дзед Андрэй пачынае хваліць прэзідэнта, злуецца, расказвае яму пра цэны, пра курс долара. Але старому яго інваліднай пенсіі на жыццё хапае, яшчэ штосьці бяднае баба і «ў панчоху» ўмудраецца адлажыць — на чорны дзень, на гасцінцы ўнукам, і прыносяць цяпер тую пенсію своечасова, таму дзед Андрэй перакананы, што прэзідэнт вельмі добры, хварэе за людзей і каб яму не перашкаджалі розныя заакіянскія і свае дамарошчаныя ворагі, то жыццё было б проста цудоўным.

Лавачка ля пад'езда замяняе дзеду Андрэю і тэлевізар, які даўно сапсаваўся і пра які ў майстэрні са смехам сказалі, што ён з-за сваёй старажытнасці нават на запчасткі непрыгодны, і газеты, якія ён з-за эканоміі не выпісвае. Тут даведваецца ён пра ўсё, што адбываецца ў іх невялікім гарадку, дзеецца ў краіне і ў свеце. Гэта для яго і дыскусійная трыбуна, і клуб па інтарэсах, калі збіраюцца з суседніх дамоў такія ж пенсіянеры і пачынаюць размовы «за жыццё», і бясплатны кінатэатр — часам, ціхенька седзячы на лавачцы, такія сюжэты з жыцця можна падглядзець, што ого-го!

Але бывае і так, што гэтая лавачка становіцца месцам катавання. Дзякуй Богу, нячаста, бо звычайна яны ходзяць іншай дарогай — яго ганарыстая дачка, прыгажуня ўнучка, самавіты зяць таксама, напэўна, мала прыемнага адчуваюць пры сустрэчы са старым.

Яшчэ здалёк, з-за павароту, дзед Андрэй прыкмячае высокую худую постаць Марыі, дачкі. Тады ён адразу змаўкае, націнаецца, як струна, хваля трывожнага чакання, што нараджаецца недзе ў жываце, уздымаецца вышэй і вышэй, сціскае грудзі, перахоплівае горла, гулка тахкае ў скронях. Каб быў трохі спрытнейшы, ён бы паспеў схавацца ў пад'ездзе, а так дзед Андрэй працягвае сядзець на лавачцы, неадрыўна сочыць вачыма за высокай худой постаццю: ці гляне? ці павітаецца? ці падыдзе, спытае што?

Дачка падыходзіць да старога вельмі рэдка. Калі пачынае распытваць пра справы, пра здароўе, дзед ведае, што

гэта азначае: Марыі патрэбны грошы. Часцей жа яна мінае пад'езд, слізгануўшы па бацьку раўнадушным позіркам і кіўнуўшы яму ў знак прывітання, як выпадковаму знаёмаму. А часам і зусім робіць выгляд, што не заўважае: у тым выпадку, калі напярэдадні не атрымала патрэбнай сумы.

Пасля такіх сустрэч настрой у дзеда Андрэя надоўга псуецца, ён уздымаецца з лавачкі і, цяжка перастаўляючы свае хворыя ногі, чэпае ў кватэру. Там, усеўшыся ў сваё крэсла і абапёршыся барадой на кіёк, зноў і зноў пачынае перабіраць па гадах, па днях сваё жыццё: дзе што ён зрабіў не так? У чым яго віна перад адзінай дачкой, якая цяпер не хоча нават павітацца?

Пасля вайны, калі ён, скалечаны франтавік, узяў у жонкі не вельмі прыгожую бедную, але спакойную і працавітую Соню, яны ўсё пачыналі з драўлянага тапчана ў чужым закутку і аднаго на дваіх салдацкага шыняля. А пасля разжыліся. Андрэй не піў, працаваў у лясгасаўскай канторы спачатку рахункаводам, а затым, як граматных пабольшала, звычайным вартаўніком. Хату сваю пабудавалі, гаспадарку завялі. Вось толькі дзяцей больш раджаць пабаяліся: пасля Марыі Соня доўга хварэла, ледзь адхадзілі яе. І ўрачы наказалі больш не рызыкаваць. Можа, гэтым ён вінаваты? Былі б яшчэ дачка ці сын, можа б, лягчэй было сёння? Ды і Марыя, пэўна ж, дабрэйшай вырасла б.

Ці ў тым іх з Соняй віна, што занадта песцілі Марыйку, сваю адзіную ўцеху,— і бацька, і тым больш маці,— хацелася, каб яна заўсёды адчувала іх любоў і клопат. Дзяўчынкай яна была прыгожай, добра апранутай, а таму крыху фанабэрыстай, заўсёды задзірала нос перад сваімі аднакласніцамі ў засціраных паркалёвых сукенках, з парэпанымі пяткамі ад вечнай — ад халадоў да халадоў — бегатні басанож. У Марыйкі ж заўсёды ўсё было самае лепшае: ёй першай у класе справілі шарсцяную сукенку, сапраўдныя туфлі, паліто з цыгейкавым каўняром. Да вучобы, праўда, яна была не вельмі здатная, ды і ахвоты вялікай не мела, але яе ніхто асабліва не прымушаў: што тая навука — «галоўнае, каб замуж выйшла за добрага чалавека»,— заўсёды прыгаворвала маці, вяртаючыся з бацькоўскіх сходаў, на якіх Марыйку не вельмі-то хвалілі.

Замуж Марыя і сапраўды выйшла ўдала — за спакойнага, працавітага Антося, які прыехаў да іх пасля інстытута па размеркаванню працаваць інжынерам. Марыйка

а яго вяроўкі віла, а муж ва ўсім слухаўся сваю прыгажуню жонку і пеставаў яе гэтак жа, як да таго бацька з маці.

Ды толькі Соня не дачакалася даччынага шчасця, не паспела парадавацца за яе — раптоўна памерла ад сардэчнага прыступу. Андрэй пажурыўся, пабедаваў ды вырашыў, што ўсё ж рана яму пакуль ісці нахлебнікам у даччыную сям'ю. Сышоўся з суседкай Маняй, бабай гаванай, добрай, рукастай, якая пасля мужа, што памёр ад франтавых ран, адна падымала двух сыноў.

Марыйка адразу закруціла носам: яшчэ што надумаў стары — жаніцца на старасці год! Але калі бацька аддаў маладым свой дыхтоўны цагляны дом, а сабе з жонкай купіў іншы — невялічкую, але крэпкую яшчэ драўляную хаціну з добрым, па-гаспадарску ўладкаваным панадворкам, крыху аціхла. Але ўсё роўна пры кожным зручным выпадку нездаволена чмыхала на мачаху, хоць тая і дзяцей глядзець дапамагала, і дзялілася заўсёды апошнім — сама ўсё жыццё марыла пра дачку, ды не даў Бог, а пасля яшчэ і сына забраў, маладзенькі зусім разбіўся на матацыкле.

Можа б, так і дажылі яны да смерці ў роднай старане, у сваёй хаце, калі пасварыўшыся, калі пamірыўшыся. Ды здарылася гэтая чортава аварыя ў Чарнобылі. Што ад іх той Чарнобыль — нейкіх паўсотні кіламетраў. Як сталі людзі хаты здаваць ды з'язджаць у чыстую зону, і дачка ўзнялася: едзем! А Антось што: раз жонка сказала, значыць, трэба ехаць. Пакалясіў ён па гарадах і вёсках, шукаючы прыстанішча. У гэтым вось гарадку знайшоў работу, кватэру далі. Тады і падкацілася да яго дачка ласкавай авечкай: «Тата, паедзем з намі. Там кватэра трохпакаёвая, месца ўсім хопіць. Што ты тут будзеш рабіць — адзін, хворы, хто цябе на старасці дагледзіць?» Падумаў — і сапраўды так. З кім жа яшчэ дажываць свой век, як не з адзінай дачкой, якой заўсёды аддаваў усё, што меў, не з унукамі?

Маня паглядзела на яго сумнымі вачыма, як паведаміў ёй пра гэта, і толькі галавой пакруціла.

— Не, Андрэй, не паеду я з табой. Не ўжывёмся мы з тваёй дачкой у адной хаце. Ды і ты, не ведаю, ці ўжывешся. Але няволіць не стану. Хочаш — едзь. Каб толькі потым не шкадаваў. А я да сына паеду, раз такая справа. Усё ж са сваімі дзецьмі жыць — не з чужымі.

Здаў дзед Андрэй сваю хату, аддаў дачцэ грошы, пераехаў да яе ў кватэру — быццам бы і ўладкаваўся, і ўсё

добра было. Да пары, да часу — пакуль грошы інфляцыя не з'ела. А потым і наладзіла яму яго Марыйка «райскае жыццё»: было тое, што па тры дні есці не варыла,— гэта з яго хворым страўнікам! Толькі і ратавала, што бальніца, у якую час ад часу клаўся, каб падлячыцца. Урэшце не вытрымаў: хоць і сорамна было на ўласнае дзіця скардзіцца, пайшоў у райвыканкам, расказаў тое, у якіх умовах жыве. Там, дзякуй ім, зразумелі, выдзелілі яму, як інваліду вайны, аднапакаёўку, сацыяльнага работніка замацавалі.

А ў жонкі таксама нешта не заладзілася ў сынавай сям'і. Таму, як толькі паклікаў, напісаў, што кватэру далі, прыехала, не збаялася зноўку на новае месца зрывацца. Так і жывуць цяпер удваіх, адно аднаго шкадуючы ды суцяшаючы. Здаецца, нават прывыклі крыху — з суседзямі раззнаёміліся, людзі добрыя, чым трэба, дапамогуць заўсёды. А Уладзя, што прыходзіць па даручэнню сабеса, увогуле стала для іх родным чалавекам — ёй яны і пра клопаты свае раскажуць, і пра беды...

...Вось каб толькі не мільгалася ля пад'езда высокая худая постаць дачкі, не ўздымала ў грудзях гэтую хвалю, што затым сціскае горла, стукае ў скронях і прымушае цэлы дзень сядзець у одуме: што я не так рабіў у сваім жыцці? Дзе памыліўся?

## Алесь

Алесь сніў вяселле. Сваё ўласнае. Ён сядзеў за сталом у новым чорным касцюме і белай кашулі, шыю туга абдымаў гальштук-«матылёк», якога ніколі раней не насіў. Новыя чаравікі моцна ціснулі, хацелася скінуць іх, і гэты вар'яцкі «матылёк», і ўрачысты касцюм. Але ён ведаў, што рабіць гэтага нельга, бо ён на гэтым вяселлі малады, а поплеч з ім яго Танюшка, родная, каханая.

Алесь павярнуў галаву, але Тані не ўбачыў — побач у белым вэлюме сядзела яе маці, Вольга Ігнатаўна, пазмоўніцку падміргвала яму і таямніча шаптала: «Не хвалюйся, так трэба. Таня зараз прыйдзе».

Навокал гудзелі госці, пілі гарэлку і крычалі «горка», нібы не заўважалі, што побач не яго нявеста. Алесь пакутліва думаў, каго ж яму пацалаваць, і вырашыў, што найлепш за ўсё — цешчу: госці будуць задаволены і Таня не пакрыўдзіцца. Калі ён ужо абняў Вольгу Ігнатаўну за плечы, на парозе з'явілася Таня. Была яна ў кароценькім

паркалёвым сарафанчыку ў дробныя кветачкі, а ў руках трымала вялікі букет чырвоных руж. «А дзе ж твой вясельны ўбор?» — хацеў спытаць Алесь, але Таня злосна паглядзела на яго і пачала хвастаць па твары сваім шыкоўным букетам і прыгаворваць: «Прачніся! Зараз жа прачніся!»

Алесь расплюшчыў вочы. Каля ложка стаяла маці і трасла яго за плячо:

— Прачніся, сынок. Сёння яшчэ столькі работы...

Хлопец ускочыў з ложка, страсянуў галавой, нібы праганяючы непрыемны сон. «Прычаўпецца ж такая бязглуздзіца»,— падумаў пра сябе і пабег у ванны пакой, каб змыць сцюдзёнай вадой рэшткі відовішча.

Паснедаў, хуценька сабраўся — клопатаў перад вяселлем і сапраўды было шмат. І галоўны з іх — сустрэць на чыгуначным вакзале Танінага дзядзьку. Апошнія дні дзяўчына толькі пра яго і гаварыла: «Вось прыедзе дзядзя Толя... Як дзядзя Толя скажа... Спытаем у дзядзькі...» — гэта тычылася ўсяго, пра што ён спрабаваў параіцца са сваёй нявестай. У глыбіні душы Алесь нават зараўнаваў Таню да гэтага маскоўскага генерала, ды своечасова «асадзіў» сябе: што тут такога? Бацькі Таня не памятае, замест яго, як сама казала, у яе заўсёды быў дзядзька Толя, мамін брат. Сваіх дзяцей у военачальніка не было, і таму Таня, хрэсніца, была яму як дачка: ён спецыяльна прыязджаў з Масквы, каб правесці яе ў першы клас, пільна сачыў за яе вучобай, на кожны дзень нараджэння дарыў дарагія падарункі, ды і ўвогуле моцна дапамагаў ім з маці.

Заўсёды і ва ўсім Таня раілася з дзядзькам. А вось жаніха сабе выбрала сама. Як гэта адбылося, ні ён, ні яна не здолелі б сёння растлумачыць. Аднойчы вечарам да Алеся, які валяўся на канапе з нейкім пустым дэтэктывам і з дазволу маці ў асалоду лайдачыў, святкуючы першы дзень свайго першага працоўнага адпачынку, зайшоў сябрук Валерык.

— Слухай, выручай,— узмаліўся ён ледзь не з парога.— Такую дзяўчыну зняў — закачаешся. Але калі ні прыйду — яна з сяброўкай. І ў кіно яе цягне, і на дыскатэку — усюды. Хвіліну адным пабыць немагчыма. Пойдзем са мной, пагуляеш вечар з той сяброўкай. З цябе ж не ўбудзе, га? Яна быццам бы таксама нічога сабе...

Не хацелася Алесю развітвацца з канапай, доўга аднекваўся, ды Валерык усё ж угаварыў. Так і пазнаёміліся яны з Таняй.

Хутка Валерык расчараваўся ў сваёй абранніцы, але ім да таго часу не трэба былі ўжо ні ён, ні сяброўка — хацелася штохвілінна быць разам, гаварыць пра ўсё на свеце і з захапленнем адкрываць, што ім падабаюцца адны і тыя ж рэчы, што яны думаюць і нават адчуваюць аднолькава. Алесю падабалася ў Тані ўсё — яе не вельмі прыгожы, але асветлены нейкім унутраным святлом твар, мяккі ціхі голас, звычка задуменна накручваць на палец пасмачку валасоў, ціхі, нібы сарамлівы, смех, яе думкі, словы, рухі.

Здавалася, што Таня якраз і ёсць тая яго біблейская палавінка, якую людзі часам шукаюць усё жыццё, ды так і не знаходзяць. І шлюб уяўляўся лагічным працягам іх узаемаадносін — без Тані ён ужо не мысліў сабе далейшага існавання.

Маці не вельмі ўхваліла сынаў выбар. Таня ёй падабалася: сімпатычная, спакойная, паважлівая. Ды толькі ёй хацелася, каб сын узяў дзяўчыну са сваіх, «чарнобыльцаў», як ахрысцілі іх з першага дня на новым месцы. Бо хоць, здаецца, і прыжыліся яны тут, але ж мясцовыя — яны і ёсць мясцовыя, а яны прыезджыя, «навалач», як кідаў каторы раз нехта ў злосці. Хто яго ведае, як там далей жыццё пойдзе, ці не папракнуць калі чым? Але бацька цыкнуў на яе: «Не мяшайся! Яму жыць, не табе». І маці змоўкла.

А Вольга Ігнатаўна адразу аднеслася да даччынага абранніка вельмі прыязна. Таня казала, што Алесь ёй вельмі спадабаўся. І цяпер засталося прайсці «агледзіны» толькі ў «маскоўскага генерала», як за вочы празваў хлопец Танінага дзядзьку. Ён адносіўся да гэтага мерапрыемства з пэўнай доляй іроніі, але бачыў, як нервуецца перад прыездам дзядзькі Таня, і гэтае ўзбуджэнне перадалося і яму. Злуючыся на сябе і на генерала, ён усё ж скінуў старыя джынсы і футболку, адпрасаваў выхадныя штаны і кашулю, замест зручных шлёпанцаў абуў начышчаныя да бляску туфлі.

— Ну, хоць сёння пад вянец,— агледзеўшы сына, усміхнулася маці.— Ты ўжо ж там глядзі, не ляпні чагонебудзь. Генерал жа ўсё-такі,— прывычна наказала напаследак.

...Цягнік спазняўся, і Таня нервова сціскала Алесеву руку, напружана ўглядваючыся ў той бок, адкуль павінен быў з'явіцца поезд. Нарэшце пачуўся далёкі яшчэ перастук колаў, хрыплы голас прабубнеў з дынаміка, што на першы пуць прыбывае... свіснуў і, запавольваючы рух, праплыў міма цеплавоз...

— Дзядзька Толя! — Таня кінула Алесеву руку і паімчалася насустрач мажному мужчыну з пышнай сівой шавялюрай, што ступіў на перон з вагона.

— Танюшка! — паставіўшы чамадан, ён шырока раскінуў рукі, каб прыняць у абдымкі пляменніцу, і Алесь супакоена ўсміхнуўся: ён любіць Таню, дзядзька любіць Таню, не можа быць, каб яны не паладзілі.

— Гэта і ёсць твой выбраннік? — дзядзька паглядзеў на Алеся пільна, нібы хацеў зазірнуць у самыя патаемныя куточкі яго душы.— Ну, будзем знаёмы,— працягнуў ён руку, якую хлопец моцна паціснуў.— Дзе служыў, у якіх войсках?

— Я не служыў,— яму на момант зрабілася сорамна і крыўдна, хоць ён не ведаў, за што.

— Як так? — дзядзька глянуў на юнака насцярожана.— Ты што, з гэтых «новых», якія «адмазваюцца»?

— Ды не, дзядзя Толя, не,— умяшалася Таня.— Гэта зусім іншая гісторыя. Мы потым табе ўсё растлумачым і раскажам. А пакуль пайшлі дахаты. Там мама чакае, пірагі стынуць...

Яны ўзялі чамаданы: адзін — Алесь, другі — генерал, пайшлі да машыны (хлопец спецыяльна папрасіў суседа аказаць паслугу дзеля такога выпадку), але тая ніякаватасць, што ўзнікла з першага генеральскага пытання, не знікала — не дапамагаў нават вясёлы Танін шчэбет, якім яна імкнулася сцерці напружанасць...

— Ну, я пайду,— паставіўшы ў прыхожай чамаданы, Алесь памкнуўся да дзвярэй.

— Куды гэта ты пойдзеш? — вызвалілася з абдымкаў брата Вольга Ігнатаўна.— А святочны абед?

— Ды не, выбачайце,— хлопец ужо ўзяўся за ручку.— Анатоль Ігнатавіч з дарогі, яму адпачыць трэба. Ды і пагаварыць вам, пэўна, хочацца. А ў мяне яшчэ шмат спраў. Я заўтра раніцай зайду...

— Малады чалавек мае рацыю,— спыніў паспрабаваўшую запярэчыць сястру генерал.— Ранак разумнейшы за вечар. Так што прыходзьце заўтра, працягнем нашае знаёмства.

Спаў Алесь дрэнна, яму зноў мроілася нешта агіднае — ён не помніў што, але прачнуўся з цяжкім сэрцам. «Цікава, гэта ўсім такія глупствы сняцца перад вяселлем ці толькі мне?» — падумаў, разглядаючы ў люстэрку свой змрочны твар.

І тут зазваніў тэлефон. Яму падалося, што голас у Тані быў сплаканы.

— Алесь, прыйдзі да нас...
— Я ўжо збіраюся. А што здарылася? Чаму ты плачаш?
— Я не плачу,— усхліпнула Таня.— Нічога не здарылася. Але трэба пагаварыць...
— Пра што?
— Потым даведаешся...— адказала Таня і паклала трубку.
Сэрца, здавалася, гатова было выскачыць з грудзей, калі ён, пераскокваючы праз дзве прыступкі, узбягаў на пяты паверх. Адкрыла яму Таня — вочы ў яе і сапраўды былі сплаканыя і вінаватыя. Яму захацелася тут жа выцалаваць усе яе слязінкі, аж да тых, што хаваліся на самым донцы, і ўбачыць тую кранальна мілую, сарамлівую ўсмешку, якую ён так любіў. Але дзяўчына мякка, але настойліва вызвалілася з яго рук, адвярнулася:
— Пойдзем у залу...
На канапе ў прыгожым дарагім спартыўным касцюме сядзеў маскоўскі генерал. Вольга Ігнатаўна бразгала посудам на кухні.
— Сядайце, малады чалавек,— прапанаваў генерал.
— Мяне завуць Алесь,— напомніў хлопец. Ён пачынаў заводзіцца — адчуваў, што і Таніны слёзы, і злосны бразгат посуду, і гэтае нечаканае запрашэнне «на размову» — усё гэта звязана з прыездам госця.
— Алесь,— абазвалася Таня, і ён увесь памкнуўся да яе, каб суцешыць, абараніць, сказаць, што любіць яе і нікому, нават самому генералу, не дазволіць крыўдзіць сваю каханую...
— Алесь, ты мяне прабач... Я, вядома, вельмі дрэнна раблю... Я вінаватая перад табой...— голас у Тані дрыжэў і перарываўся.— Даруй мне, Алесь. Але я не змагу выйсці за цябе замуж...
— Што? — Алесь усхапіўся з крэсла.— Ты што, жартуеш? Як гэта — не зможаш? Чаму? Вяселле праз тры дні, запрашэнні разасланы, прадукты закуплены, рэстаран заказаны... Зразумей, Танюшка, мілая, мы не можам адкладваць вяселле...
— Гэта ты зразумей — я не цяпер не магу выйсці за цябе,— Таня ледзь стрымлівала слёзы.— Я ўвогуле адмаўляюся быць тваёй жонкай.
— А ўсе расходы на падрыхтоўку вяселля мы кампенсуем, калі гэта вас так турбуе,— умяшаўся ў размову генерал.

— Якраз гэта мяне турбуе менш за ўсё,— агрызнуўся Алесь і зноў кінуўся да дзяўчыны.— Але чаму, Таня, чаму? Што здарылася? Хто табе што наплёў пра мяне?

— Можна мне ўсё растлумачыць? — зноў падаў голас дзядзька.— Давайце мы дазволім Тані пайсці. Яна ноч не спала, ледзь на нагах трымаецца — трэба сказаць, гэтае рашэнне цяжка ёй далося. І пагаворым, як мужчына з мужчынам...

Ледзь чутна прамовіўшы «даруй», Таня выслізнула з пакоя. Алесь зноў апусціўся на крэсла не ў стане зразумець: усё гэта адбываецца на самай справе ці яму зноў сніцца нейкая дурнота?

— Вы курыце? — вярнуў яго да рэчаіснасці ўсё такі ж роўны і спакойны голас генерала.

— Не,— адказаў міжвольна.— А, зрэшты, магу і закурыць! — яму захацелася раптам зацягнуцца так, каб аж горла задзёрла, ці нават кульнуць шклянку гарэлкі.

— Ну, калі не курыце, то і не варта. Вам і без таго трэба берагчы здароўе...

— Як і ўсім...

— Ды не, вам — асабліва.

— Вы што, паклікалі мяне, каб пра маё здароўе пагаварыць? — узарваўся Алесь.— Не турбуйцеся — не скарджуся.

— І ўсё ж у армію вас не ўзялі...

— Ну дык што? Гэта што — злачынства?

— Не, вядома. Але... Таня казала, што вы прыехалі сюды з зоны Чарнобыльскай АЭС. Так?

— Так. Ну і што?

— Што? — генерал пабарабаніў пальцамі па падлакотніку.— Малады чалавек, вы ведаеце, што такое радыяцыя?

— Пра гэта сёння ўсе ведаюць больш ці менш.

— Вось іменна больш ці менш. А я ведаю пра гэта вельмі добра. Гэтак жа, як і пра тое, што за аварыя адбылася ў Чарнобылі. Я разумею, вы асабіста і вашы блізкія ні ў чым не вінаваты. Вы сталі свайго роду заложнікамі, ахвярамі. Але я не хачу, каб такой жа ахвярай стала мая адзіная пляменніца, яе будучыя дзеці. Яна мне радней, чым дачка, і не магу не думаць пра яе будучыню. А калі яна выйдзе за вас замуж, у яе гэтай будучыні не будзе.

— Што вы хочаце сказаць? — да Алеся паціху стаў даходзіць сэнс сказанага.— Што я і ўсе, хто там жылі ў гэты час,— смяротнікі?

— Ну, не зусім так,— сумеўся генерал.— Гэтага я не гаварыў. І ўвогуле — уплыў малых доз радыяцыі на чалавека яшчэ не вывучаны. Разумееце — не вывучаны! Гэта значыць, што ён можа быць усялякім. І я не хачу, каб у гэтым эксперыменце ўдзельнічаў самы дарагі мне ў свеце чалавек! Вы мужчына, вы любіце Таню, і вы павінны падумаць пра яе будучыню і не прымушаць яе выходзіць за вас. Яна маладая, з цягам часу гэтае захапленне вамі ў яе пройдзе, і яна створыць нармальную здаровую сям'ю.

— Будучага мужа вы, трэба думаць, будзеце выбіраць па аналізах у спецыяльных лабараторыях, ці падыдзе на ролю самца-вытворцы? — крыва ўсміхнуўся Алесь, уздымаючыся.— Я сапраўды кахаю Таню,— прамовіў ён ужо ад дзвярэй.— І шчыра зычу ёй шчасця. Вось толькі каханне — яно ж аналізамі крыві не вызначаецца...

...Ляпнулі дзверы. Рэхам адазваўся звон разбітай талеркі, што выслізнула з рук Вольгі Ігнатаўны. Уздрыгнула ўсім целам і забілася ў падушку, каб не чуваць было яе плачу, Таня. «Нічога, нічога,— барабаніў пальцамі па аконнаму шклу генерал, пазіраючы, як шпаркім крокам, бы ўцякаючы, пераходзіць вуліцу Алесь.— Усё будзе добра. Супакояцца — і ён, і яна. Можа, і дрэнна паступілі з хлопцам, можа, ён і нічога сабе. Але ж чарнобылец... Здароўе — гэта галоўнае, без яго шчасця не будзе. А яго любімая Танюшка павінна быць шчаслівай. Ён усё дзеля гэтага зробіць... Усё!»

*Алег Ждан*

# САЛГАЛІ БОГУ, САЛГАЛІ

*Вясковая трагедыя*

ДЗЕЙНЫЯ АСОБЫ:

Кацярына — 65 год.
Антаніна — 70 год.
Зося — 65 год.
Мар'я — нямая, 50 год.
Сцяпан — яе сын, 28 год.
Грышчук — 28 год.
Зоя — яго жонка, 26 год.
Косцік — шафёр аўталаўкі, 30 год.
Сямёнавіч — брыгадзір, 60 год.
Рыгор — сын Антаніны, 50 год.
Пахомавіч — 80 год.
Мікола — сын Кацярыны, 45 год.
Праскоўя, Ліда, мужчына, малады хлопец.
Ад аўтара — тэкст могуць чытаць два акторы.

*Час дзеяння — пачатак 90-х гадоў XX стагоддзя.*

## ДЗЕЯ ПЕРШАЯ

### Карціна першая

Ноч. Лясная вёска. Крыху пазней — зарыва над лесам.

Ад аўтара. Ходзяць чуткі, што ў Слаўгарадскіх лясах, на Магілёўшчыне, жыве старая бабуля. Лічыць яна сябе зязюляй. Як толькі ўбачыць выпадковага чалавека дзе-небудзь на дарозе, выгляне з-за дрэва і пракукуе. Кажуць, калісьці яна жыла ў адной з бліжэйшых вёсак. Але пакінулі людзі тутэйшыя вёскі. Магчыма, і сёння жыла б старая ў сваёй цёплай хаце, калі б не... Ну, хаця б не тая навальніца. Маланка ўдарыла ў крайнюю хату, і ўспыхнула яна, як стог сена. Па бур'яне, што заглушыў усе двары, агароды, агонь хутка перакінуўся на другую хату, на

трэцюю. Старая толькі глядзела на ўсё гэта, але, мусіць, ужо страціла розум: нічога не выносіла, не галасіла. Ды і чаго галасіць? Галосяць у спадзеўках на дапамогу — склікаюць народ. Палалі адразу абодва бакі вуліцы, і неўзабаве стаяць пасярод вёскі стала невыносна. Старая адбегла за ваколіцу і пазірала адтуль. Гудзела, абрушвалася, узрывалася ўсю ноч. Прагавітыя языкі полымя рваліся ў чорнае неба, нібыта дачакаліся свайго часу, быццам і сапраўды ў кожным дрэве затойваецца агонь. Раніцай вогненная завея знемагла. Яна яшчэ раз-пораз пастрэльвала, дзьмухала попелам, палізвала, быццам спрабавала ці смакавала тое, што не згарэла, але — здаволілася ўжо, нажэрлася, адступала... Нейкі час старая яшчэ блукала ля пажарышчаў, здранцвела паглядала ў далечыню, а пад раніцу накіравалася ў лес. У лесе чалавеку ўтульней, чым у полі, хаця, мажліва, жахлівей.

Начамі старая прыходзіла да колішняй вёскі пагрэцца. Амаль тыдзень захоўвалася пад попелам цяпло.

Лета. Вясковая вуліца. Дзесьці за сцэнай чуваць грузавік. На сцэне старыя жанчыны — Кацярына, Антаніна, Зося, Мар'я. З хаты да грузавіка спяшаюцца людзі, нясуць апошнія клункі, мэблю, хатнія рэчы. Малады хлопец забівае дошкамі вокны. Жанчына ловіць і ніяк не можа злавіць пеўня.

Мужчына. Хрэн з ім, Ліда. Усё роўна есці нельга. *(Затрымліваецца каля хлопца, што забівае вокны.)* Кінь... Няма чаго красці. Мамка!.. Хопіць, пайшлі.

З хаты выходзіць старая, затрымліваецца на ганку. Жанчыны міжвольна падаюцца да яе. Хлопец пачынае забіваць дзверы. Прымярае дошку — доўгая. Прыносіць аднекуль пілу-нажоўку, прыладжваецца пілаваць, але бацька вырывае нажоўку, кідае ўбок, забівае абы-як дзверы сам.

Няма часу прыгажосць наводзіць.

Адна з жанчын, Антаніна, з плачам кідаецца да старой, якая сабралася ў дарогу. За ёй другая, трэцяя. Абдымаюць яе, стаяць нязграбным старэчым гуртам.

Хопіць, бабы!.. Васіль, сядай за руль!

Чуваць шум матора. Старая ідзе да машыны, аднак прыпыняецца зноў. Кланяецца хаце, хрысціцца на чатыры бакі. Усе, акрамя чатырох жанчын, пакідаюць сцэну. Чуваць, як машына кранаецца з месца. І тады жанчыны пачынаюць пець — не згаворваючыся, разам — непрыгожа, нема:

Салгалі папу, салгалі,
Брата з сястрой абвянчалі,
Абманілі папа, абманілі,
Брата з сястрой ажанілі...

Праспявалі і гэтак жа разам змоўклі. Шум грузавіка ацiхае. Жанчыны глядзяць услед.

Зося. Шчас убачым. Калі ўправа заверне — значыць, да сябе, у горад, калі ўлева — у стардом матку павёз.

Кацярына. А пыл падняў, пыл! Да неба.

Моўчкі ўглядаюцца ў далечыню.

Зося *(спалохана)*. Улева!

Усе разгублена паўтараюць за ёй: «Улева, улева, улева... Управа!.. Управа, бабы! Аб'езд тамака!»

Ізноў усе разам, а палёгкай: «Ага, управа, аб'езд...»

І з палёгкай жа заспявалі, загаласілі:

Салгалі папу, салгалі,
Брата з сястрой абвянчалі,
Абманілі папа, абманілі,
Брата з сястрой ажанілі...

Шум машыны аціхае.

Антаніна. Ну, вось, цяпер нас чацвёра на ўсю вёску. Гуляй — не хачу. Наступны хто?

Зося. Ты й будзеш. Хто ж яшчэ?

Антаніна. Не, я нікуды не паеду.

Зося. Паедзеш. Аж хвост трубой.

Антаніна. Не, не паеду. Валодзька не заве, а Рыгорка... Жонка ягоная — злыдзень. Яна да мяне як бадлівая карова, а ён маўчыць. Што ні кажа — маўчыць... Стаю на кухні — яна падлогу пад маімі нагамі мые. Адступлюся — ізноў да мяне: хваць-хваць... Што ні зраблю ў хаце — не так. І бульбу не так, і кісель не етак. А ў залю і заходзіць баюся. Тырчу на кухні ўвесь дзень.

Кацярына. А дачка?

Антаніна. Дачцэ самой жыць няма дзе. Семнаццаць метраў, тры чалавекі.

Кацярына. А я паеду. Атрымаю колькі тысячаў за хату і паеду. А мо і без тысячаў паеду. Не хочацца паміраць, ахвота пажыць. Што етыя тысячы?.. Вунь у Карпілаўцы жарабё нарадзілася на шасці нагах.

Антаніна. Не, трэба пачакаць, Каця. Старому чалавеку без грошай — дрэнь. Нікому ён без грошай не патрэбны. Пачакай. Усё ж такі тысяч восем за тваю хату дадуць. На адно свята нявестцы дасі, на другое... Лепей будзе. Толькі адразу ўсе не аддавай.

Зося. Ты, Каця, да сына паедзеш ці да дачкі?

Кацярына. А хто пакліча. Толькі каму я, старая, патрэбна? У дачкі двое дзяцей, у сына трое. А тута й я: добры дзень у хату, ці не нада вам надаўба?

Тым часам Мар'я падыходзіць да пакінутай хаты, углядаецца праз забітыя вокны. І раптам узрушана мыкае, махае рукамі, кліча жанчын. Жанчыны падыходзяць, таксама ўглядаюцца.

Што яна там убачыла? А, вунь што... Дзверы забілі, кветкі пакінулі. І Прасвятую Дзеву Марыю пакінулі. Грэх.

**Антаніна.** А як жа, гарадскі чалавек. У яго артысткі на сцяне вісяць. Без трусоў.

Аднак Мар'я хвалюецца ўсё мацней. «Каў! — мыкае яна.— Каў!..»

Гляньце, Васька! А Божачка, ката зачынілі ў хаце!

Усхвалявана мармычуць: «Дзе ты бачыш?.. Падалося вам... Ай, сапраўды кот. Ох, Матка Боска, істота жывая...» Мар'я бяжыць у сваю хату, прыносіць сякеру. Адбівае дошкі. Уваходзяць у пакінутую хату. Затрымліваюцца на парозе. У хаце — разгром: біты і раскіданы посуд на стале і падлозе, зношаны абутак, вопратка.

**Зося.** Мо прыбраць трохі? Зайсці моташна.

**Антаніна.** А навошта сюды заходзіць?

Аднак бяруцца за работу, падмятаюць, прыбіраюць, паліваюць кветкі.

Гляньце, і самавар пакінулі. Ета ж я ёй на вяселле падарыла.

**Кацярына.** Такі самавар у горадзе не патрэбны. Сорам, а не самавар, пазелянеў ад старасці. Ведаеш, якая ў іх мэбля? Аж блішчыць, а ты — самавар... Ох, дасць ёй нявестка, ох, дасць. Наравецца ўволю... За што ета на нас, бабы? Здаецца, грашылі не болей другіх... Кожную раніцу прачнуся і думаю: мо падалося мне, мо нічога етага не было? Выйду зараз на вуліцу, а тама людзей... Не, нікога.

**Антаніна.** Я так думаю: не можа быць, каб надоўга. Што-небудзь прыдумаюць.

**Кацярына.** Ага, можа, угнаенні якія. Сыпануць з самалёта, і зноўку жыві... Не, мой унучак Віця казаў: на дзевяноста год ета, бабуля. Да таго часу і ўнучак памрэ... *(Усхліпвае.)*

**Антаніна.** А мо і прыдумаюць.

**Кацярына.** Як прыдумаеш, калі такая сіла? Засыпай не засыпай, палівай не палівай... Хаця б аб'явілі: бяда, людзі, бяда!.. Я радыё ўключыла — спявае. Палажыла ўнучыка на посцілку, трусікі з яго зняла, загарай, крывінка мая. Дождждык пайшоў, а я кажу: цёплы, унучак, расці лепей будзеш. Вады ў бочку сабрала, лазню вытапіла, вымыла дажджавой. Такія ў яго валосікі пасля дажджавой...

**Антаніна.** Мае на дэманстрацыю пайшлі ў горадзе. Увесь дзень «ура» крычалі.

**Кацярына.** А ўнучку Галю паслала гарод капаць. Кажу: пакуль моркаўку не пасееш, есці не дам.

Антаніна. Хто ж ведаў? Калі вайна пачалася, таксама была пагода. Думала, ну — шчэ тыдзень, ну, два. Мне семнаццаць тады было. Добра, што пагода, лягчэй салдацікам ваяваць. Сёння ноччу ізноў мне вайна прытрызнілася. Ідуць дзеткі па вуліцы, і ўсе да мяне ў падполле... Ета я ў падполлі з маці-нябожчыцай хавалася, калі бамбілі.

Зося. Хопіць пра вайну, бабы.

Антаніна. Падполле ў нас было добрае, сухое, глыбокае, а мне жудасна: зямлёй пахне, плачу, прашуся ўверх, а тама бу-бух, бу-бух... Выйшлі — сонейка свеціць, так хораша... Як ета цяпер людзі жыць будуць? А калі шчэ рване? Набудавалі станцый у кожным горадзе. Помню, у сорак трэцім, калі ад немцаў вызвалялі...

Зося *(крычыць)*. Хопіць! Хопіць пра вайну!

Усе маўчаць.

Кацярына. І табе — хопіць, Зоська. У цябе аднае — баліць. Усе другія шчаслівыя.

Зося. Што ты на мяне крычыш? Чым я табе вінаватая?

Кацярына. Я крычу?

Зося. Крычыш! *(Плача.)*

Антаніна. Ой, дзеўкі, што ета з намі? Як ачмурэлі ўсе.

Кацярына. Яй-бо, зачынюся, буду ў хаце сядзець.

Антаніна. Пойдзем адсюль. Ета не мы крычым, ета дамавік Праскоўін злуе на нас, выганяе. І яму не соладка: дзе цяпер хату з людзьмі знайсці?.. А іконку я забяру. Чаго ёй тута аднэй? *(Здымае іконку.)*

Выходзяць на двор.

Гляньце, бабы, якое сонейка... Ат, Божачка мой, гляджу не нагляджуся на Тваё хараство. Страшна падумаць, што хараство ёсць, а чалавека няма. Хто на яго будзе глядзець?

Кацярына. Не будзе такога. Чалавек як убачыць край, то й адхіснецца.

Антаніна. Госпадзі Божа, у дзеўках была — як замуж пайсці, замуж пайшла — як дзяцей нарадзіць, дзяцей нарадзіла — як выгадаваці?.. Думала, на пенсію пайду — хаця дзесяць гадкоў, а мае. Трах-тарарах. Усё? Як жыць, калі зямелька атручаная?

Кацярына. Нічога, бабы. Усё ім сплоціцца.

Зося. Каму?.. Ізноў ты пра той свет? А на етым?

**Кацярына.** Мо і на етым. Бог усё бачыць. За ўсімі Ён прасачыць не можа, а як падыдзе чалавек да краю і крыкне... Убачыць, пачуе. Нічога, бабы. Гадкоў праз сто прыедзе сюды мой праўнучак, а тута лес шуміць, вада ў рэчцы чыстая. Грыб падніме, рыбу зловіць — чыстыя... Хатку збудуе, жыць пачне. Дзеткі малыя пабягуць. Дожджык пойдзе — хавацца ад яго не трэба. Выйдзе надвечар: «Эге-гей, бабуля-а-а!» А я й адгукнуся: «Тут я, унучак, тутака!.. Жыві, радуйся!» Вы мяне, бабы, калі што, глыбака не закапывайце.

**Антаніна.** Ты ж у нас маладая.

**Кацярына.** Ну і што? У нас усе ў сям'і маладымі паміралі. Крывяны ціск у нас. Найлепшая для смерці хвароба.

**Антаніна.** А ў нас доўга жывуць. Маці-нябожчыца без рук, без ног пакутавала, а ўсё жыла.

*Чуваць гук матацыкла.*

Гляньце, Іванавіч на сваёй казе, і за ім старшыня.

**Кацярына.** Не, у старшыні «Волга» белая, а ета чорная. Мо да нас? Ох, зараз я ім падкіну.

*Падыходзяць бліжэй да дарогі. Аднак матацыкл і машына імчацца міма. Кацярына закладвае пальцы ў рот і свішча. Рагочуць. Смяецца і Зося. Але смех яе нагадвае рыданне. Пакідае сцэну. Жанчыны глядзяць ёй услед.*

**Антаніна.** На могілкі пайшла. Чаго хадзіць кожны дзень? Сэрца рваць.

**Кацярына.** Гадавіна сёння Паўлікава. Такі быў хлопец. Ідуць, бывала, з маім Колькаю... Госпадзі, Царыца Нябесная, што б ёй за дзень да гэтага памерці? Навошта ёй цяпер жыць? Ні дачкі, ні ўнука... Не, хочаш не хочаш — жыві. Аднаго не зразумею, хто ўсё гэта пачынае? Хаця б аднаго паказалі па тэлевізары — вось ён.

**Антаніна.** Мы етага ніколі не зразумеем. Жанчына такога — каб нарадзіць, выгадаваць, а яго забілі — зразумець не можа.

**Кацярына.** Яны тамака рэжуцца між сабой — ну і хай рэжуцца. Пры чым тут нашыя хлопцы? Калі Афган скончыўся... Дзякуй Божа, пажывём спакойна, а тута... Ізноў трах-тарарах. Я і не чула ніколі пра той Карабах. Мой унучак таксама мог трапіць да іх...

*З хлява выходзіць узрушаная Мар'я. Нешта ажыўлена паказвае на руках, кліча за сабой.*

Што яна?

Антаніна. Здаецца, Зорка яе ў ахвоце. Учора шчэ кідалася.

Накіроўваюцца ў хлеў. Чуваць галасы: «Ну ты, стой! Куды, ля!.. Зорка, Зорачка...» Выходзяць.

Так і ёсць. Дзе ж быка ўзяць? У Катухах быў, калі на мяса не здалі.

Кацярына. Ой, дзесяць кіламетраў.

Антаніна. Дзесяць — не дваццаць. Сама не бегала за дзесяць?

Кацярына. Калі то было.

Чутно, як пад'язджае машына.

Во, магазін едзе.

Аўталаўка спыняецца. З кабіны выскоквае шафёр, ён жа і прадавец, Косцік.

Косцік. Налятай, бабы, падзешавела.

Антаніна. Што прывёз, Косцік?

Косцік. А што ўсягды. Макароны, крупы. Алей.

Кацярына. Ты б нам вінца, Косцік, чарвівачкі. Яна, кажуць, ад радыяцыі дапамагае.

Косцік. Няма вінца, бабы. Самагон трэба ціснуць. Таксама дапамагае.

Бяруць макароны, згушчанае малако.

Кацярына. Што там у горадзе чуваць, Косцік?

Косцік. Чумакоў змыўся. Кватэру кінуў і ў прочкі. Ні пасада не патрэбна, ні партыйны білет.

Кацярына. Што ж, у яго дзеці малыя.

Косцік. А ў мяне вялікія?

Кацярына. І ты едзь.

Косцік. Куды? Каму я патрэбны?.. Начальства ніколі не прападзе: вась-вась і зноў пры пасадзе. А мы...

Кацярына. Шафёраў таксама ўсюды завуць.

Косцік. А жыць дзе? Мне кватэру ў горадзе не дадуць, а ў вёску Танька не хоча. До, гаворыць, напахалася... Яна хацела яшчэ дзяўчынку, але спужалася. Кажуць, хворыя дзеці нараджаюцца.

Антаніна. Во дажылі. Чалавек шчэ не нарадзіўся, а ўжо хворы. Скора бабы адмовяцца раджаць. То й будзе край.

Маўчаць.

У Петрыкава не заязджаў? Як там мая Глашка?

**К о с ц і к.** Жыве. У адведкі цябе запрашала.

**А н т а н і н а.** Няхай сама прыходзіць. Мне семдзесят, ёй шэсцьдзесят пяць, у мяне трыццаць етых... градусаў, у яе трыццаць пяць.

**К о с ц і к.** Не градусаў, а кюры. Ета не самагон.

**А н т а н і н а.** А Фёдараўна як?

**К о с ц і к.** Фёдараўна ў Маскву паехала да дачкі.

**А н т а н і н а.** Во як... Значыцца, болей не ўбачымся.

**К о с ц і к.** І Дуся паехала, не знаю куды. А ў Лебядзянцы ўжо ўвогуле нікога няма. Дзверы толькі — рып-рып.

Чуваць квахтанне курыцы, мыканне Мар'і.

Хто гэта там, Мар'я?

**К а ц я р ы н а.** Ну. Квахтуху пасадзіла.

**К о с ц і к.** І карову шчэ не звяла? Трэба ёй растлумачыць. У малацэ ўся зараза.

**К а ц я р ы н а.** Як тлумачыць глухой? Не разумее. І малако п'е, і масла б'е. Аж зайздрасна. Косцік... Нявеста ў нас завялася, жанішка трэ. Зорка Мар'іна за быкамі. Кідаецца другі дзень.

**К о с ц і к** *(радасна).* Няўжо? А вы — радыяцыя. Калі скаціна, як раней, адчувае... Мо брэшуць усё? Мо няма ніякага страху?

**К а ц я р ы н а.** А жарабя ў Карпілаўцы? У Катухах, чулі, качка вывелася — нага на спіне.

**К о с ц і к.** Ну, я сам ні таго жарабяці, ні той качкі не бачыў. Балбатаць пачалі надта многа. Чуць што — вой, вой!.. У майго дзеда было шэсць пальцаў на назе. Ну і што? Пяць нармальных і адзін маленькі збоку. Жыў сто гадоў. Няхай бы й мне лішні палец.

**А н т а н і н а.** Дык што, Косцік, не чуў пра быка? Пакрыць трэ.

**К о с ц і к.** Што вы, бабы? Добрага быка цяпер...

**А н т а н і н а.** Дак хаця якога. У Катухах быў. Нямецкі.

**К о с ц і к.** Няма немца, на кілбасы пайшоў. Добра, разведаю. Здаецца, у Антонаўцы ё.

**А н т а н і н а.** Разведай, Косцік. Карова невінаватая.

К о с ц і к ад'язджае.

Пойдзем да Зоські. Крый Бог. Нешта яна сёння сама не свая.

## Карціна другая

Вясковыя могілкі. Старыя чорныя крыжы, дзе-нідзе сучасныя помнікі. Бярозкі, асінкі, бур'ян.

З о с я будуе над магілкай шалаш. Спявае:

Ой, сынку ў маткі ночку начаваў,
Ой, сынку матцы сон свой расказаў:
«Ой, маць мая, маць, матухна родна,
Увідзелось мне дрэнна ўва сне:
З-пад правай пашкі сокал вылецеў,
З-пад левай пашкі сакалёначак...»

К а ц я р ы н а і А н т а н і н а набліжаюцца да яе.

К а ц я р ы н а. Што ты робіш, Зоська? Навошта яму шалаш?

З о с я. Яму не трэба, мне трэба. Дажджом залівае. А табе што? Ідзі адсюль, ідзі *(замахваецца галінаю).*

К а ц я р ы н а. Чым я вінаватая перад табою, Зося?

З о с я. Не перада мною, перад ім. Чаму твой Колька жывы, а майго няма? Іх разам забралі, а твой туды не паехаў. Я ўсё знаю. У цябе тысячы былі, а ў мяне не было.

К а ц я р ы н а. Якія тысячы, Зоська? Здурнела ты. Зрок у майго Колькі слабы.

З о с я. За тысячы можна ўсё купіць. І зрок, і слых — такі, каб не паслалі.

К а ц я р ы н а. Што ты вярзеш, Зоська, апомніся!

З о с я *(ізноў замахваецца).* Ідзі, ідзі! Знаю, усё знаю.

К а ц я р ы н а з плачам адыходзіць.

А н т а н і н а. Дарэмна ты на яе, Зоська.

З о с я. І ты ідзі. Я цябе сюды не звала. Тута я цяпер буду жыць. Не хачу з вамі. Пазабівала б вас, паразіткі.

Антаніна разгублена маўчыць, затым паварочваецца, пакідае яе.

*(Злосна пазірае ёй у след і раптам роспачна крычыць.)* А-а-а!.. Ідзі, ідзі, не твая справа. А-а-а!..

Антаніна спыняецца.

Кідаюцца адна да адной. Зося рыдае, Антаніна супакойвае яе, лашчыць рукою па спіне.

Даруйце мне, людзі, даруйце!.. Не хачу я жыць, Тоня, не хачу. Каму, каму маё гора спатрэбілася? За што? Мала я яго напілася-наелася? Не хачу, не хачу...

А н т а н і н а. Нічога, Зося, нічога. Скора ўжо, скора. Тама ўсё не так, усё іначай. Колькі тута смяяўся, столькі тамака плакаць будзеш. Колькі тута народ катаваў, сто-

лькі цябе катаваць будуць. Тама ўсё па справядлівасці. Колькі ўзяў, столькі аддасі.

Зося. Ці ж ёсць ён, той свет?

Антаніна. Ёсць. Павінен быць. А калі няма, то і справядлівасці няма. А таго быць не можа. Самае галоўнае — справядлівасць. Павінны нашыя слёзы камусьці адліцца.

Зося. Каб знаццё, што такое жыццё ўдасца, ці стаў бы пакутаваць? Адзінае шчасце, што матка ягоная, дачка мая, не знае нічога, не ведае, не дажыла, родная.

Антаніна. Знае яна, Зося, усё знае, усё ведае. Даўно ўжо яны стрэціліся. Ім цяпер хораша.

Маўчаць.

Зося. Вы на мяне не крыўдуйце, бабы. Цяжка мне. Іншы раз здаецца — прывыкла, забылася, а другім разам — прачнуся й... Не хачу на Божы свет глядзець. Гадавіна сёння ў Паўліка.

Антаніна. Мы ведаем, не крыўдуем. Ты перад намі не вінаватая. Толькі ж і мы не вінаватыя перад табой. Хіба перад Богам.

Зося *(вызваляецца).* А я і перад Богам не вінаватая. Хіба што мала малілася. То, аднак, не віна. Віна, калі надвечар маліўся, а з раніцы зноўку грашыў.

Антаніна. Перад Богам мы ўсе вінаватыя.

Зося *(крычыць).* Не! Не вінаватая я прад ім!.. Ён вінаваты перада мной!

Антаніна. Даруй ёй, Божа, даруй грэшнай.

Зося. Не трэба мне дараваць!

Маўчаць.

Антаніна. Ну, пойдзем, пойдзем. Потым даробіш. Дзень вялікі. У мяне слоік грэчкі ё, кашу зварым. У Мар'і малака возьмем. Мы старыя, нам радыяцыя не страшная. Я ведаю, ты любіш грэчку...

Абдымае яе, разам накіроўваюцца да вёскі. На краі могілак іх чакае Кацярына.

Зося. Ідзі да нас, Каця. Пойдзем разам. Нешта ў мяне з галавой няправільна. Гудам гудзіць. Увечары гудзіць, раніцай. Хачу адно сказаць, кажу другое. Як ета далей жыць?.. Давайце, бабы, унучыка майго памянём, гадавіна ўсё ж такі. Бутэлька вінца ў мяне ёсць...

Падыходзяць да вёскі.

Кацярына *(углядаецца ў далечыню)*. Нехта ідзе да нас, бабы. Мужчына. Штосьці я такога не ведаю.

Углядаюцца і Антаніна з Зосяй.

Антаніна. Мо не да нас? І я такога не знаю.

Кацярына. Павярнуў за мостам, значыцца, да нас. Мо злодзей? Косцік казаў, у Катухах усё дабро, што людзі пакінулі, вынеслі.

Антаніна. Не, злодзеі цяпер на машынах. На спіне многа не панясеш.

Зося. Я знаю, хто ета. Завіце Мар'ю. Шчасце бабе ідзе.

Кацярына. Няўжо Сцёпка?.. Жывы! Ета ж колькі гадкоў мы яго не бачылі?

Зося. Колькі далі яму, столькі не бачылі.

Антаніна. І праўда, ён. А худы, страхавіты...

Зося. Відаць, тамака не патаўсцееш. Ох, шчасце Мар'і, ох, шчасце.

Мужчына набліжаецца. На ім зношаны пінжак, стаптаныя чаравікі, на галаве кепка з выгнутым казырком. Хударлявы, даўно не голены. Спыняецца, закурвае.

Сцяпан. Здарова, бабы. Ты, цётка Антаніна, і ты, цётка Каця, і ты, Зося. Пазналі?

Жанчыны адказваюць яму радасна, навыперадкі: «Даўно пазналі, Сцёпка! Як ад рэчкі павярнуў, дак і пазналі! Ой, чорны стаў, страшны!»

Затое вы беленькія. Памаладзелі.

Смяюцца.

Кацярына. То мы ад радыяцыі. Ад бэраў маладзеем.

Сцяпан. Матка жывая?

Усе *(разам)*. Жывая, Сцёпка, жывая, што ёй зробіцца? Шчас пазавём.

Сцяпан. Пачакайце. Не адразу. Пакуру трохі. *(Усаджваецца на бервяно, што ляжыць упоперак двара.)* Як яна тут?

Кацярына. А лепей за ўсіх, Сцяпанка. Кароўку даглядае, нас малачком частуе, квахтуху пасадзіла, кураняткі хутка зацвікаюць.

Сцяпан. Пра мяне пыталася?

Кацярына. Як не пытацца?.. Што ж аніводнага ліста не даслаў, Сцёпка? Мы б прачыталі і ей расказалі. Яна лічыць, што цябе недзе забілі. З год паштальёнку страчала, а потым перастала. Ета ж колькі прайшло, чатыры?

Сцяпан. Таксама, як вы, памаладзела?

Кацярына. У хляве яна. Ідзі да яе.

Сцяпан *(пасля доўгага маўчання)*. Не, пачакаю. Я напачатку збіраўся не ехаць да яе. Думаў, адбуду сваё і адразу ў Колбіна. Стрэнусь з Грышчуком і назад. Ці на той свет. Прыехаў, а Колбіна ўжо няма.

Усе маўчаць.

Па-вашаму, можна такое даравацъ?.. Таму і не пісаў.

Зося. А пра яе ты падумаў?

Сцяпан *(ізноў доўга маўчыць)*. Думаў... Таму й прыйшоў. А Грышчук, чутно, у гарадское начальства ўлез? Канечне, што яму зробіцца?.. Добра, мо і стрэцімся шчэ. *(Раздражнёна.)* Што яна не ідзе?

Антаніна. Зорка ў ахвоце з учарашняга. Супакойвае. Ідзі да яе.

Сцяпан. Баюся. *(Маўчыць. Потым злосна.)* Мо і стрэцімся!

Антаніна. Не трэба, Сцёпа. Жыві на волі. Чаго ты дапнешся?

Сцяпан. Душа, цётка Тоня, патрабуе. Нельга даравацъ. Сплю і сню, як сустрэнемся.

Антаніна. Ты шчэ малады, Сцёпа. Ажэнішся, унучыка матцы падкінеш. Будзе яна самая шчаслівая. Хіба ж ета не важнейшае? Трэ і ёй пад канец радасць.

Сцяпан узнімае галаву і бачыць, што крокаў за дзесяць стаіць Мар'я, ягоная маці.

Ад аўтара. Пакінутых вёсак у наваколлі многа — без прытулку не застанешся. Не застанешся і без адзежы — у кожнай хаце валяюцца старыя ватнікі, боты. Аднак, відаць, не па душы былі чужыя вёскі; пашукаўшы ў сенцах, у падполлі і на гарышчы, старая вярталася. Узімку яна прыстасавала для жыцця свой паграбок. Прыцягнула з чужога пажарышча абгарэлы ложак, дошкі, назбірала саломы, склала печачку, вывела праз акно трубу. У паграбку яе меўся запас бульбы, моркаўкі, бурачкоў. У адной з пакінутых хат знайшла соль, запалкі. Навучылася жывіць агеньчык.

А хутка перастала адчуваць адзіноту: па-першае, уплёўся за ёю кот з суседняй вёскі, па-другое, у цёплым паграбку ачуняла невялічкае жабяня. Кот быў разумны, карысны: з апетытам еў буракі і бульбу, ноччу клаўся на ногі — грэў, як добрая грэлка, а жабяня — шлёп-шлёп, больш ніякай карысці ад яго не было. Акрамя таго, по-

бач — могілкі, пажар не дацягнуўся да іх, захаваліся і крыжы, і дрэўцы. Родныя нябожчыкі — дарагі, калі няма жывых.

Да яе прыязджалі: два разы раённае начальства і адзін раз «хуткая дапамога». Гасцей старая сустракала радасна, з іржавымі віламі ў руках: «Не паеду нікуды. Тута буду жыць».

Мар'я нема ўскрыквае, кідаецца да сына.

Жанчыны стаяць моўчкі, плачуць. Мар'я спрабуе нешта выказаць, махае рукамі, мыкае і зноўку абдымае сына, заціхае на ягоных грудзях. Потым яны накіроўваюцца да хаты, і Мар'я ідзе спінаю ўперад, нібыта баючыся адпусціць сынаву шыю.

Кацярына. Сапсаваў сабе хлопец жыццё. Навошта? Што каму даказаў?

Антаніна. Ета Зойка яму сапсавала.

Зося. Не Зойка, а Грышчук. Калі б не ссільнічаў дзеўку, усё было б іначай.

Кацярына. Хто яе сільнічаў? Напілася і дала. Грышчук прыціснуў, яна расступілася. Знаем, як ета бывае, былі калісь і мы маладыя. Што ён, ножыкам паграseverжаў ці наганам?

Антаніна. Як бы ні было, паліць хату — не справа. Няхай — сам, а колькі за яго Мар'я паплакала?

Зося. А па мне — правільна. Еты даруе дзеля маткі, той дзеля дзядзькі, а нахабства ўсё болей. Яно ўжо такую сілу забрала, што блізка не падыходзь, з праўдаю не совайся. Хто сплаціць, калі не сам?

Ізноў чуцен гук матацыкла і машыны.

Кацярына. Зноўку начальства імчыцца. Адведаліся. Мо цяпер да нас? Не, вунь як ляцяць. Пужаецца начальства нашых бэраў. Ну-ка, бабкі, прывітаем іх!

Антаніна і Кацярына выбягаюць на дарогу і — пальцы ў рот. Свіст — рэзкі, аглушальны. Машына, як раней, праскоквае міма, але матацыкл спыняецца.

Сямёнавіч. Што вы, бабы, мяне ганьбіце?

Кацярына. А чаго матляецеся туды-сюды? Ніхто не спыніцца. Вунь Гарбачоў — не такі пан, як вы, а й той — вылезе з машыны, паздароўкаецца... Хто ета паехаў?

Сямёнавіч. Турковіч.

Кацярына. Той самы? Ох, не знала. Здохлую кошку яму на дарогу. Чаго толькі не абяцаў той раз.

Сямёнавіч. Ён, Каця, таксама не ўсё можа. Што ён табе, са сваёй кішэні дасць? Прымуць пастанову і ўсім сплацяць.

Кацярына. А макранскія? Мы што, не такія, горшыя?

Сямёнавіч. Макранскія галадоўку аб'явілі. Танька Глушакова ледзьве не акачурылася, вось і пайшлі без чаргі. Яны там усе елі памалу, а Танька толькі ваду піла. Аб'яўляйце і вы. Цяпер гэта модна, чуць што — лыжку ў кут, міску за парог.

Кацярына. Неахвота людзей смяшыць на старасці.

Сямёнавіч. Потым — у іх сорак кюры, у вас трыццаць.

Кацярына. Мала? Дак я, калі дапнецеся, дадам як след. З каптуром. І бабы што-нішто падкінуць.

Сямёнавіч. Што ты ад мяне хочаш, Каця? Я такі, як ты. І бэраў у мяне, як у цябе... *(Крыху памаўчаў, супакойваючы сябе.)* А хрэн з імі, шэсцьдзесят пражыў, і добра. Мо шчэ гады з тры працягну. Унукаў шкада: ні ў лес, ні на рэчку. Учора Арцёмка пылу ў лапуховыя лісты назбіраў і падкідвае ўгору. Лапух вобзем, а ён: «Чацвёрты блок — бам! Трэці блок — бам!» Самае жахлівае — пыл...

Антаніна. Сямёнавіч, а праўда, што калгасы хутка разгоняць?

Сямёнавіч. А мне ўжо ўсё роўна. Тута і так і гэтак працаваць нельга. Учора трыццаць бычкоў павезлі здаваць — не ўзялі. Вясной казалі — сей жыта, цяпер — заворвай у зямлю. Як на такое глядзець?

Антаніна. А з быкамі што будзе?

Сямёнавіч. Як — што? Павязу ў Расію, прадам. Ёсць там у мяне знаёмы старшыня... Са сваімі здасць. Рускія галадней, усё з'ядуць.

Антаніна. А як жа...

Сямёнавіч. А так. Што мне іх, у зямлю закапаць?

Маўчаць.

Кацярына. Сямёнавіч, у Мар'і карова ў ахвоце. Быка трэба.

Сямёнавіч. Ну, бабы! Гэткія справы, а вы — быка.

Кацярына. Дак жывое, Сямёнавіч, як не паспачуваць. Яна не разумее пра радыяцыю, пра галадоўку.

Сямёнавіч. У Заполлі ёсць бык. Легчаны.

Кацярына. Цьфу, табе б у маладосці дзеўку без... без...

Сямёнавіч. Без чаго?

Кацярына. Сам ведаеш. Без цыцак.

Смяюцца.

Во мужыкі. Толькі б ім парагатаць.

С я м ё н а в і ч. У Будрычах ёсць племянны.

К а ц я р ы н а. О-о... Пакуль дойдзеш, усялякая ахвота прападзе.

С я м ё н а в і ч. Не везці ж да вас быка на машыне?

К а ц я р ы н а. Прывязі, галубок, прывязі. Кароўка маладая, спраўная. Ніякі бык крыўдаваць не будзе.

С я м ё н а в і ч. Ну, бабы, ну, прыдумалі. *(Пазірае на вокны Мар'інай хаты.)* Хто гэта з ёй?

А н т а н і н а. Сцёпка вярнуўся.

С я м ё н а в і ч. Сцёпка?.. Ой-ёй. Нешта будзе.

А н т а н і н а. Ты б заехаў, падказаў Грышчуку. Няхай пераседзіць у падполлі дні са тры, а то... Сам ведаеш. Казаў: трэба стрэціцца.

С я м ё н а в і ч. Заеду. Толькі ж і Грышчук... Во, д'ябал. Ізноў ён, рагаты, навёў. Што Мар'я, радая? Трэба заехаць. Ах ты... Во навіна дак навіна.

На ганак выходзіць С ц я п а н.

Здароў, Сцёпка!

С ц я п а н *(абыякава)*. Бач, як узрадаваўся. Не чакаў?

С я м ё н а в і ч. Не, не чакаў! Аніяк не чакаў!

С ц я п а н. Мо і ты мяне пахаваў?

С я м ё н а в і ч *(пакрыўджана)*. Чаму — пахаваў? Я табе не дзядзька, ты мне не пляменнік. Чаго мне пра цябе клапаціцца? Пахаваў!.. Не чакаў, і ўсё тут. Жыў-здароў?

С ц я п а н. Як бачыш. Сам шчэ каго-небудзь пахаваю.

С я м ё н а в і ч. Ну-ну... Гэта правільна. Калі хто памрэ... А як жа? Усе пад Богам жывём. Што збіраешся?

С ц я п а н. А нічога пакуль што не збіраюся. Адпачыць збіраюся. Пагуляць, гарэлкі папіць. Мо, па-твойму, не заслужыў?

С я м ё н а в і ч. Чаму не заслужыў? Вельмі нават заслужыў. Трэ і пагуляць, і гарэлкі папіць. Што я, не разумею? Сам тры гады сядзеў.

С ц я п а н. А ты за што? Бычка ў калгасе сцягнуў?

С я м ё н а в і ч. Зухаваты быў малады. Ледзь што — на ўвесь газ і...

С ц я п а н. ...і на печку.

С я м ё н а в і ч *(з непаразуменнем)*. Чаму — на печку?

С ц я п а н. А тамака цяплей.

С я м ё н а в і ч. Ну так... На печцы цяплей. Ета так... Ты дзе жыць будзеш? Тута ці...

С ц я п а н. ...ці тамака.

Сямёнавіч *(узважыўшы ягоныя словы).* Ну-ну... Добра. Паеду. *(Кіруецца да матацыкла.)*

Сцяпан. Эй, брыгадзір!.. Як там Грышчук? Прывітанне яму перадай. Хутка сустрэнемся.

Сямёнавіч *(прыпыняецца).* Не чапаў бы ты яго, Сцёпка. Ізноў пасадзяць.

Сцяпан. Які ў яго цяпер дом? Цагляны? Нічога, я дынаміту з паўпуда прывёз.

Прабягае Мар'я, спяшаецца ў паграбок.

Сямёнавіч. Дурань ты, Сцёпка. Я ўсё думаў: чаго ты кінуўся хату паліць? А ты — дурань. Матку пашкадуй.

Сцяпан. А ў цябе якая хата? Драўляная?

Сямёнавіч не адказвае, ад'язджае.

Антаніна. Чаго ты з ім, Сцёпка? Дзядзька ён неблагі.

Сцяпан. Не люблю начальства. Як убачу начальніка, аж трасе. Усіх бы іх... Ці мо цераз аднаго. Акрамя таго — сваяк Грышчуку.

Антаніна. Што ж — сваяк?.. Розум у кожнага свой.

Сцяпан *(аглядаецца, у добрым настроі).* Добра ў вас! Думаў, счарнела ўсё, ачэзла, а нічога, як раней. Мо і праўда брэшуць? Цяпер нікому веры няма, ці хто пужае, ці супакойвае.

Кацярына. І ў нас веры няма. Калі прыехалі з Магілёва і кажуць — нельга, думаем: што яны плятуць?.. І птушкі, і лісце, і траўка... Мо няпраўда ўсё ета? Мо яна, радыяцыя, на карысць людзям? Мо цяпер мы маладзець, а не старэць будзем? *(Смяецца.)* От было б. Усе старэюць, паміраюць, а мы маладзеем, маладзеем...

Мар'я з міскай гуркоў спяшаецца з паграбка ў хату.

Шчаслівая твая матка. Глядзі, Грышчук так, адразу, не напужаецца. А калі і напужаецца... Мо табе і смяяцца, а плакаць — ёй. Да самой смерці плакаць.

Сцяпан. Не, я яго забіваць не буду. Хай жыве. Пабачыцца, аднак, трэба. Трэба!

Антаніна. Не трэба, Сцёпа! Не цвялі Бога, лёс у цябе і без таго няўдалы.

Сцяпан. Чатыры гады марыў пабачыцца. У сне сніў.

Мар'я з ганка, памыкваючы, жэстыкулюе — запрашае ўсіх у хату.

Ну, разгавеемся.

Накіроўваюцца да хаты.

## Карціна трэцяя

Звычайная вясковая хата: злева печ, пасярэдзіне стол, каля сцяны жалезны ложак, шафа, на падваконні кветкі. На стале закуска: бульба, гуркі, яешня. Дзве бутэлькі — гарэлка і віно.

Кацярына. Вой, бабы, і беленькая, і вінцо! Не іначай як верыла, што вернешся, Сцёпка.

Антаніна. А як жа? Маці.

Усаджваюцца.

Ну, вып'емо за стрэчу, за спатканне.

Мар'я пяшчотна ўскудлачвае сынавы валасы. «А-а-а,— мыкае яна.— Ы-ы-ы...» Абдымае яго, цалуе.

Зося. Шчасце звалілася на бабу.

П'юць. Мар'я адразу налівае па другой чарцы і раптам кідаецца да шафы, дастае Сцяпанаў касцюм, святочную белую кашулю.

Сцяпан. А што? Пераапрануся. Абрыдла казённае. *(Кіруецца з адзежаю ў пярэдні пакойчык-кухню.)*

Зося. Шчасце бабе, шчасце.

Кацярына. Так, але крый Божа ад еткага.

Зося. Няхай бы мне еткага. Да смерці перад іконаю на каленях стаяла б.

Маўчаць.

Сцяпан, пераапрануты, уваходзіць. «А-а,— крычаць усе.— Які ты яшчэ малады, Сцёпа! Прыгожы!» Мар'я ізноў не можа стрымаць пачуцці, абдымае і лашчыць сына.

Антаніна. Ну, расказвай, Сцяпан. Як жыў?

Сцяпан. Не хачу ўспамінаць. Вы раскажыце. Што ваша радыяцыя? Зубы не вывальваюцца?

Антаніна. У мяне шчэ да радыяцыі ўсе вываліліся. Ніякай розніцы не адчуваю. Шкрабун во толькі напаў. Лазню вытаплю, вымыюся, а ўсё роўна шкрабуся. Мо ета старая скура злазіць?

Кацярына. А мо і новыя зубы вырастуць?

Зося. Ты, Сцёпа, у Сібіры быў ці дзе?

Сцяпан. Чаму — у Сібіры? У Воршы. На заводзе працаваў. Ад званка да званка — у начную змену. Увечары прывязуць, раніцай адвязуць. Я ўжо й адвык спаць па начах. Як раніцай сонейка ўбачу — вочы заплюшчваюцца, пазяхаю. На сон цягне.

Зося. Нагараваўся?

Сцяпан. Не... Там нядрэнна. Ноччу ў цэху людзей мала, а для мяне гэта галоўнае — нікога не бачыць. Мне

цяпер трэ было б на востраве якім жыць ці ў лесе. Каб нікога навокал, я, матка, і ўсё... А што ж вы, бабы, нічога мне пра Грышчука з Зойкай не раскажаце? Адсядзецца думаеце? Не выйдзе.

Кацярына. А што пра іх гаварыць? Жывуць. Там, у горадзе, бэраў меней, можна жыць.

Сцяпан. Бэры — гэта што?

Кацярына. А д'ябал іх ведае. Мо і тут брэшуць. Мо зямелька наша якому начальству прыйшлася даспадобы? Усё ёсціка — лес, рэчанька... Як так? Дзесяць кіламетраў — жыві, а ў нас нельга. Ніхто праўды не скажа. Мы, Сцёпа, цяпер таксама як у турме, толькі навыварат. Лес калючым дротам абнеслі. У лесе, кажуць, бэраў болей.

Сцяпан. Вы мне бэрамі слых не забівайце. Як Грышчук з Зойкай, пытаюся!

Маўчаць.

Кацярына. Дачка ў іх. Прыгожая дзяўчынка, сінявокая, бялюткая — як Зойка... Не хадзіў бы ты да іх, Сцёпа. Дарогі вашыя разышліся.

Сцяпан. Не, не так. Сышліся. Цяпер адна дарога на ўсіх.

Мар'я зноў ускапілася з-за стала, лезе пад ложак і дастае адтуль стары гармонік. «Ля-ля-ля!..— спявае яна.— Ля-ля-ля!»

Во цуд. Цэлы. Я й забыўся пра яго.

Сцяпан бярэ гармонік, дзьмухае на яго, выцірае пыл, спрабуе галасы і раптам зухавата грае «Тапатуху». Мар'я — без рытму — скача, запрашае, цягне на хату жанчын, аднак ніхто яе не падтрымлівае. Скача яна доўга, пляскае ў далоні, цяжкавата выкідае ў прысядцы ногі. Урэшце, здаволіўшыся, пáдае на сваё месца, цалуе сына.

Зося. Харошая ў цябе матка, Сцёпа. Як яна люлькала цябе, калі нарадзіўся! Усё глядзіць на цябе і глядзіць, люлькае і люлькае. Мы ёй гаворым — паспі, а яна — не. Напачатку малако ў яе ручаём цякло, а потым прапала, дык яна цябе ў Чудзінаўку насіла да жанчыны — раніцай, удзень, увечары. Імжа, слота, а яна нясе. Пяць кіламетраў туды, пяць адтуля.

Сцяпан пільна пазірае на маці, потым кранае далонню яе валасы. У адказ Мар'я, схапіўшы ягоную руку, аддана цалуе яе. «До, мамка, до, хопіць, хопіць...» — збянтэжана гаворыць Сцяпан, але ж Мар'я не аддае руку, прыціскае яе да грудзей.

Сцяпан. Нічога не ведаю пра яе. Яна была нешта расказвала, але ж ці поймеш яе? І вы са мною ў жмуркі

гулялі... Чаму яна глухая? Хто мой бацька? Чаму ва ўсіх тут ёсць радня, а ў нас з ёю няма?

З о с я. То і мы не ўсё ведаем, Сцёпа. Прыблудная яна, твая маці. Прычапілася да нас пасля вайны. Тоня во пайшла ў хлеў, а тамака дзяўчынка ў сене спіць. Яна ўжо ў той час была глухая, але гаварыць умела. Відаць, нездаўна аглухла. Напачатку не разумела, што глухая, крыўдзілася: што вы кпіце з мяне? Бачыць, што рот адкрываемо, а слоў не чуе. Але ж здагадалася, змоўкла. Развучылася гаварыць, забылася.

С ц я п а н. А мне, падаецца, памятаю, як песні спявала.

З о с я. І спявала па-свойму: ля-ля-ля, ля-ля-ля... Так і паднялася ля нас. У адной пажыве, у другой... Каму ў полі ці ў хаце трэба дапамагаць — у таго і жыла. Потым бабулю адну старэнькую даглядала, яна ёй хату пакінула пасля сябе... А пра бацьку твайго ніхто нічога не ведае. Быў год, калі геолагі стаялі ў яе, нафту, ці што, шукалі, потым студзенты. А мо і хто свой з ёй... Ні паўслова не сказала нам.

Маўчаць.

С ц я п а н. Шкада, што яна не памерла.

А н т а н і н а. Грэх табе, Сцёпа, грэх.

С ц я п а н. Рукі яна мне вяжа. Калі б не яна... Я б ужо сваю справу зрабіў. Справядлівасць — вышэй за ўсё.

А н т а н і н а. Ох, Сцёпа, ты яшчэ малады. Доўга жыць. Навошта табе адну пакуту мяняць на другую, горшую.

К а ц я р ы н а. Што ёй твая справядлівасць? Ты паглядзі на яе жыццё. Салодка?.. А справядлівасці на свеце ніколі не было і не будзе. Не па етаму закону жыццё ладзіцца. Што для аднаго паратунак, для другога смерць.

Усе маўчаць.

З о с я. Памянём Паўліка. Усё ж такі гадавіна. Ці помніш ты яго, Сцёпа?

С ц я п а н. Помню.

З о с я. А я пачала ўжо забывацца. Пагляджу на фотакартку — успомню. Вось яна, справядлівасць: дачка памерла, унука забілі, а старая баба жыве.

Чуваць гудзенне машыны.

К а ц я р ы н а *(гледзячы ў акно)*. Што за цуд?.. Аўтобус пад'ехаў. Тоня... Ета ж сынок твой, Рыгорка. Ну, так і ёсць, ён. Забярэ старую.

Антаніна, пляснуўшы ў далоні, кідаецца да дзвярэй, аднак на парозе спыняецца.

Голас Рыгора. Мама!

Кацярына *(гледзячы ў акно).* У хату пайшоў...

Антаніна. Не паеду. *(З плачам.)* Яна мяне са свету зжыве... Яна дайжа не глядзіць на мяне, не гаворыць са мною. Ці то я скажу што, ці спытаю — маўчыць... Што ні прыгатую — есці не хоча... Талеркі памыю — перамывае... Баюся я яе!

Кацярына. От, выйшаў...

Голас Рыгора. Мама!

Антаніна. Няма мяне, сыночак, тута, нямашакі...

Кацярына. Сюды кіруецца. Усё, Тоня, рукі ўгору, здавайся.

Антаніна *(кідаецца па хаце).* Схавайце мяне, бабачкі, схавайце... Не хачу я!

Кацярына *(кпіць з яе).* Лезь пад ложак!

Антаніна і на самай справе бяжыць да ложка, але ж перадумвае і — да печы. Так — адна нага ўнізе, другая ўгары — і застае яе сын. Моўчкі пазірае на такую карціну.

Рыгор. Ізноў ты, мама, дзівосіш.

Антаніна. Няма мяне тута, сыночак, няма.

Рыгор *(пахмурна).* Злазь. Збірайся.

Антаніна *(з плачам).* Не паеду...

Рыгор. Хопіць, мама. У горадзе будзеш дзівосы паказваць.

У адказ Антаніна з намаганнем узлазіць на печ.

Ну што з ёю рабіць? Той раз у падполлі хавалася, барыкаду пабудавала, цяпер — на печы. Трэці раз мне аўтобус не дадуць.

Зося. Што рабіць? Слова скажы ёй па-чалавечы. Тады яна за табой у Амерыку паедзе.

Рыгор. Скончыліся ў мяне словы, Зося. Стары я. *(Заўважае Сцяпана.)* Сцёпка, я да цябе чалавека прывёз. Падабраў па дарозе. Ідзі, чакае за Цішкавай хатай.

Сцяпан. Якога... чалавека?

Рыгор. Пабачыш. У спадніцы.

Сцяпан *(разважае).* Так... Ясна... Пагаворым. *(Ухапіў гармонік, перакінуў рэмень цераз плячо і — з «Тапатухай» — на вуліцу. Але — спыніўся. Кінуў гармонік у траву. Пайшоў.)*

## Карціна чацвёртая

Хата в краю вёскі. Вокны яе таксама забітыя крыж-накрыж дошкамі. У хаце Сцяпана чакае маладая жанчына, З о я. На стале і падлозе біты і пакінуты посуд, раскрытая шафа, жалезны ложак са старым матрацам. На стале парожнія бутэлькі з-пад малака і віна. Са столі звісае электрычны провад з патронам без лямпачкі. Зоя спрабуе навесці нейкі парадак, раз-пораз выглядае ў акно. Нарэшце, убачыўшы Сцяпана, замірае. С ц я п а н, падышоўшы да хаты, трывожна агледаецца. Бачыць, што дзверы адчынены, уваходзіць.

С ц я п а н. Вось ты дзе... *(Ізноў аглядаецца.)* Карціна. Як марадзёры папрацавалі... Чаго прыйшла?

З о я. Пабачыцца з табой захацела.

С ц я п а н. Ну, вось я. Паглядзі напаследкі.

З о я. Чаго — напаследкі? Ад'язджаеш?

С ц я п а н. Я такога не гаварыў.

Зоя маўчыць.

Ну, паглядзела? Як ж табе цяпер?.. Шкада, не знаў, што стрэцімся, пагаліўся б, памыўся. *(Збіраецца пайсці.)*

З о я. Пачакай, Сцёпа. Мне ўсё роўна, які ты... Я пагаварыць з табою прыйшла. Я...

С ц я п а н. Ну?

З о я. Не падганяй мяне. Я хацела табе сказаць... Не, не пра нас з табою. То ўжо справа мінулая.

С ц я п а н. Пра Грышчука?

З о я. Не, Сцёпа... Пра жыццё ўвогуле я хацела... Спазнаць, як ты жыў чатыры гады. Раскажы мне. Не такія ўжо мы чужыя. *(Набліжаецца да Сцяпана.)*

С ц я п а н. Не чужыя? Цікава. Калі тое прыйшло табе ў галаву? Па дарозе?

З о я. А ніколі і не выходзіла.

С ц я п а н. Не, не разумею.

З о я. Мужчына жанчыну ўвогуле зразумець не можа. Жыццё ў нас надта рознае.

С ц я п а н. Але ж Грышчук зразумеў добра?

З о я. Грышчук... Не. Нічога ён не зразумеў.

С ц я п а н. І я не разумею. Загадкамі гаворыш.

З о я. А тут і здагадвацца няма чаго. Я й сама не ведаю, што кажу... *(Падыходзіць яшчэ бліжэй.)* Я, калі даведалася, што вярнуўся... Нешта са мною здарылася. Як стаяла, так і пайшла. Грышчук крычыць: «Зойка!» — а я іду... Што гэта ў цябе? *(Датыкаецца далонню да ягонага твару.)* Раней гэтага шрама не было... І валасы не такія... Раней — не прадзярэшся... Я «вожыкам» цябе звала. Я цябе ўспамінала, Сцёпа...

Сцяпан. Часцяком?

Зоя. Як стане моташна, то і ўспомню. Можна лічыць — кожны дзень.

Сцяпан. Няпраўда. Я і то — не кожны. Скажы лепей — па святах.

Зоя. А ў мяне не было святаў. Я без святаў жыву. Ты нічога, нічога не ведаеш. Я шчаслівая была толькі адзін дзень — на вяселлі.

Сцяпан. Ну, то само сабою. Вяселле! Пярына і коўдра чакаюць маладых! Ці вы без коўдры?

Зоя. Ніхто з нас і не здагадаўся спачатку, што — пажар. Светла стала... Усе загаласілі, хто ў акно, хто ў дзверы лезуць, Грышчук выскачыў з-за стала, і я сяджу, так хораша мне... Пажарная прыехала, усе бегаюць, цябе звязалі, а на мяне рогат напаў. Схапіла тваю каністру і давай паліваць агонь. Вясельнае плацце спаліла. Стаю і адчуваю — шчаслівая. А потым... потым... *(Закрывае твар далонямі, кідаецца Сцяпану на шыю, рыдае.)* Думала — прыйдзеш, калі даведаешся, што вяселле прызначана... Апошнюю ночку на двары прастаяла. Раніцай да ракі пайшла — альбо цябе стрэчу, альбо ўтаплюся.

Сцяпан стаіць моўчкі, але ж уздымаюцца і ягоныя рукі да яе.

Сцяпан. Добра, хопіць... Прайшло тое, прайшло... Што зробіш? Не раві... *(Абдымае, цалуе Зою ў вочы, у губы.)*

Зоя *(паспешліва адхіляецца)*. Сцёпа... Зачыні дзверы... Ты чатыры гады... У цябе даўно не было жанчыны... Табе трэба. Вось і... Маеш права. І я — маю...

Сцяпан адмоўна трасе галавой.

Зачыні, зачыні. Хутчэй! Я так хачу...

Сцяпан падыходзіць да дзвярэй, накідвае кручок. Няўпэўнена паварочваецца да Зоі.

Ну? *(Нервова расшпільвае сукенку).* Хадзем, Сцёпка... Хадзем. *(Замірае ля ложка са зляжалым матрацам.)*

Мар'іна хата. Тыя ж, што і ў прадмінулай сцэне. Антаніна ўсё яшчэ на печы.

Рыгор. Што, мама? За ногі цябе цягнуць ці шчэ як?

Антаніна. Не паеду. Пажыла ў вас зімку. Пакаталі, паздзекаваліся вы з мяне. До! Хопіць.

Рыгор *(з абурэннем)*. Хто цябе катаваў? Я?

Антаніна. Усе катавалі. А ты болей за ўсіх. Маўчыш і маўчыш, як мыла з'еў. Ледзьве дажыла да лета.

Рыгор. Старая, а нічога не разумееш. Я за дзень наматляюся — ні рук, ні ног. А кватэра — кухня і два катухі. Шэсць чалавек таўкуцца. І вы з Танькаю кухню не падзеліце... Трэба ехаць, мама. Я на пашырэнне паперчыну напісаў, мо дадуць на цябе колькі метраў. Камісія з дня на дзень павінна быць, а цябе няма.

Антаніна маўчыць.

Сашка жаніцца надумаў. Дзе яму жыць? Не шкада яго табе?

Антаніна. Нікога мне болей не шкада. Жывіце, як можаце. Я ўсё вам аддала, што было. Грошы аддала, падушкі аддала. Болей у мяне нічога няма. Не паеду. Не дажыву з вамі да новай кватэры.

Рыгор. Дажывеш. А памрэш, пахаваем, хаўтуры справім.

Антаніна. Не паеду.

Усе маўчаць.

Рыгор. Так... Значыцца, да Зінкі паедзеш. Ці да Валодзькі? Разумею... Я для цябе заўсёды быў... Ім — усё, а мне... Араць з трынаццаці гадкоў, касіць, дровы вазіць — усё я. У Зінкі горла баліць ад работы, Валодзька — пяцёрачнік, начальнікам стане, ім вучыцца трэба, а мне... Ім ты на кааперацыў дала па дзве тысячы, а мне — падушкі. І то дзякуй. Іхнія дзеці залатыя, срэбраныя, а мае... Адзіны раз я цябе прашу, а ты... Мне самому ўжо нічога не трэба. Я мо... Сашку шкада. Відаць, наканавана яму душыцца з намі, пакуль... *(Змаўкае.)*

Антаніна. Не... Не паеду.

Рыгор. Ну што ж... Яно, канечне, тута табе лепей. Воля, раскоша... Тута як на курорце. Хочаш — на печы, хочаш — ля печы. Сама сабе гаспадыня. Ладна. Болей зваць цябе я не буду. Цяперака на тым свеце сустрэнемся. Мне, відаць, таксама нядоўга неба капціць. Нічога. Там, мяркую я, хораша, а мо і лепей, чым тута. Метраў тамака многа, усім хопіць — і табе, і мне, і Таньцы. Спакайней будзе. Там ні прапіска, ні пашырэнне не трэба. Ні суп варыць, ні кашу. Будзем тама спяваць і скакаць. Пажывём. Парагочам з таго, што тута было. Успомнім, як ты ад мяне то ў падполлі, то на печы хавалася... Не ўцямлю толькі, будзем мы там адно аднаго знаць ці не будзем?

Самі па сабе, як тута, ці разам?.. Ну, паеду. Мне шчэ ў рэйс сёння ўвечары, у Магілёў. *(Устае з лаўкі, кіруецца да дзвярэй.)*

Антаніна. Сыночак!.. Пачакай, я табе што хацела сказаць... Забыла. Зусім бяспамятная зрабілася... Дапамажы мне злезці. Што ета на мяне найшло, не разумею. Дай руку... *(З цяжкасцю злазіць з печы, абдымае сына.)*

Моўчкі стаяць.

Чаго ты такі стары стаў, сыночак, слабы? І пальцы ў цябе халодныя... *(Дыхае на ягоныя пальцы, расціпае іх.)* Лета, а пальцы халодныя... Грэх мне, грэх... А я думала — ніколі не састарэеш, маладым будзеш і маладым... Ну, давай збірацца. Пачакай, пачакай... Пастой шчэ крыху, пастой. Вось, хараша... Маленькі ты ласкавы быў. Абдымеш за ногі і стаіш...

Тая ж крайняя хата ў вёсцы. Сцяпан у майцы прытуліўся ля акна, нервова падымлівае цыгарэтаю, Зоя — таксама напаўапранутая — расчэсвае валасы.

Зоя. Пакуль дачка не нарадзілася, лічыла — не буду з ім жыць. А нарадзіла — усё змянілася... Калі маленькі чалавечак ля цябе, ля тваіх ног поўзае і люб ён табе, як жыццё... калі бачыш, што нялюбы табе мужчына лашчыць яго і песціць, як сама... Тады ўсё мяняецца. Раптам адчуваеш, што маленькае гэта жыццё — найвялікшае. Што тваё асабістае шчасце мала каштуе ў параўнанні з ягоным... Не знаю, разумееш ты мяне ці не. Вы жанчын пасапраўднаму не разумееце. Мужчына, калі што якое, адразу вінаватых шукае, адпомсціць яму трэба, спагнаць, а жанчына ведае, што вінаватых няма, а — доля альбо нядоля... Вось у нас з табою, Сцёпа — нядоля.

Сцяпан. У мяне такім казкам веры няма.

Зоя. Мо і казкі... Мо праўда твая. Але ж жахліва думаць, што сама сабе жыццё сапсавала, ад шчасця адмовілася. Калі — нядоля, то лягчэй. Бы не так ужо й балюча. І шчэ... Мне ўжо дваццаць два гады было на той час, а кожнай жанчыне замуж неабходна выйсці, таму што...

Сцяпан. ...таму што хочацца?

Зоя маўчыць.

Моцна хацелася?

Зоя. Не, Сцёпа. Добра, скажу табе ўсю праўду... Калі гэта станцыя рванула і пачалі гаварыць, што дзеці будуць нараджацца хворымі... Я вырашыла: трэба выходзіць за-

муж. Чым хутчэй нараджу дзіця, тым лепей, таму што далей будзе яшчэ страшней. Хто першы пакліча, за таго й пайду.

Сцяпан. Вось гэта іншая справа. Жыццёвая. А то — доля, нядоля...

Зоя. Так, Сцёпа. Што ж яшчэ? Калі б не такая доля... *(Раптам узрушана.)* Ты ўсё цукеркамі частаваў, на гармоніку граў... Усе людзі прыціхлі, акрамя цябе. Усе плачуць, а ты граеш. Ізноў жа Лідка Глушакова з Віхураў... Ты і ёй граў!

Сцяпан. Ясна. Усё разлічыла і спланавала.

Зоя. Не, Сцёпа, гэта я цяпер разважаю і разлічваю, сама сябе апраўдваю. А тады я не разважала, я цябе чакала. Нават на дзень нараджэння ты не прыйшоў.

Сцяпан. Не мог я глядзець, як ён скача ля цябе.

Зоя. Ну вось. А ён прыйшоў. Што мне, у хаце сядзець? Цябе, як бога, чакаць?.. Пайшлі мы ў клуб. Віна выпілі. Так, многа. Бутэльку на дваіх, а мо і болей... Мне смешна было: ты прыйдзеш, а я — п'яная. А потым ён пасадзіў мяне на падваконнік — і абдымаць. А я — чалавек. Прываліў да рамы і... Вось і ўсё. Адчула пасля, што цяжарная, і рашылася.

Сцяпан. Лоўка.

Зоя. Так, трэ было мне нарадзіць ад цябе. Нікуды ты ад мяне не дзеўся б. Толькі ж я дурніца дзеравенская, мне неабходна, каб па закону... Ды і маці мая смяялася, усе навокал смяяліся: што ён усё на гармоніку грае? Мо дурны? Ці болей нічога не можа? Людзі магнітафоны носяць, а гэты — гармонік... Цяпер і рада паслухаць, ды позна. *(Набліжаецца да яго, абдымае.)* Цяпер будзем жыць, як атрымліваецца. Будзем з табой ля крыніцы страчацца. *(З горыччу смяецца.)* Пацешым душу і цела і — кожны ў сваю хату.

Сцяпан *(вызваляецца з яе рук)*. Ладна, пра сваё жыццё, бачу, ты ўсё зразумела, а пра маё?

Зоя. Ты шчэ малады, Сцяпан. Мужчына. Для вас час бяжыць не так, як для нас.

Сцяпан. Не, не малады. Там час ідзе іначай. Там...

Зоя. А хочаш, я табе нявесту знайду? Маладую, прыгожую. Не тое што я. Куды мне да яе!

Сцяпан. Прыгледзела? Мо і сваццяй на вяселлі будзеш? А Грышчук — сватам?.. Не, нам на вяселлях лепш не страчацца. Усё бывае. Й ты дарэмна прыехала. Я табе скажу, чаго ты прыбегла, чаго лягла са мной: разлічыцца.

За Грышчука свайго баішся і за сябе. Баішся, што ізноў хату спалю.

Зоя. Не, не баюся. Жыццё маё склалася, і ніякая хата... Ні ты, ні хто іншы... Пабачыць я цябе захацела.

Сцяпан. Мо і ён ведае, навошта ты пайшла да мяне? Падміргнуў ці перахрысціў на дарогу? Даў параду пра гэту хату? Наконт крыніцы намякнуў?

Зоя. Змоўкні!.. Нам усё роўна з ім жыць. Дачка ў нас, разумееш? Дачка! Ты для яе — дзядзька з гармонікам, а ён — бацька! Яна па тры месяцы ў бальніцы ляжыць, у яе горла вось такое, а ты... Дай ты нам жыць!

Сцяпан. Танна хацела адкупіцца. І я, дурань... Не, трэба, трэба з ім стрэціцца.

Зоя. Я... я ўсё роўна не пайшла б за цябе! Ты... ты... *(Спалохана змаўкае.)* Даруй мне, дурніцы. Сцёпа, даруй!

Кідаецца яму на шыю, але Сцяпан адштурхоўвае яе.

Сцяпан. Вось як... Усё ясна.

Зоя *(ізноў спрабуе абняць Сцяпана.)* Даруй мне, Сцёпка, даруй!

Сцяпан. Што — дараваць? Жывіце, мне не шкада. Толькі няхай ён на дарозе не трапляецца. Шчыра кажу: спаў і бачыў, як... Ладна.

Маўчаць.

Зоя. З'ехаў бы ты куды, Сцёпа. Я за цябе ўсё жыццё маліцца буду. А калі грошай няма...

Сцяпан. Усё!.. Хопіць, Зойка. Пагаварылі. І ты не пападайся, і ён.

Чутно — заводзіцца аўтобус. І — песня:

Салгалі папу, салгалі,
Брата з сястрой абвянчалі,
Абманілі папа, абманілі,
Брата з сястрой ажанілі.

Зоя, не развітаўшыся са Сцяпанам, выходзіць з хаты. Аўтобус прыпыняецца.

Рыгор. Ну, ці паспелі? Ой, скажу Грышчуку. Аторва ты, Зойка, вырві-вока. І ты, Сцяпан, малайчына. Усе малайцы!

Антаніна *(са слязьмі ў голасе)*. Бывай, Сцёпка! Паехала я. Паехала...

Зоя накіроўваецца да аўтобуса.

Сцяпан. Зойка... Пачакай.

Зоя *(азіраецца)*. Ненавіджу цябе. Заўсёды ненавідзела, а цяпер...

Сцяпан. Няпраўда!
Зоя. Ненавіджу!

Ізноў чуваць песня пра падманутага папа. Аўтобус ад'язджае. А па вуліцы з гармонікам у руцэ бяжыць Мар'я і тужліва, нема лямантуе: «Сцё-па!.. Сцё-па!..»

Сцяпан. Ну чаго ты лямантуеш, няшчасная? Вось я, тута!

Мар'я ахоплівае яго за шыю, паўтарае: «Сцё-па... Сцё-па...»

## ДЗЕЯ ДРУГАЯ

### Карціна пятая

Працяг мінулай сцэны. Тая ж вуліца. Зося, Кацярына пазіраюць услед аўтобусу.

Зося. Ну вось, утраіх засталіся... Нічога. А калі шчэ Сцёпка з намі жыць будзе... Ажаніць бы яго. Маленькага разам гадаваць.

Кацярына. З кім ажэніш? Усе дзеўкі ад радыяцыі паразбегліся.

Зося. Я так мяркую: хутка назад прыкоцяць. Горка ў прочках.

Кацярына. Ета старому горка. Маладому ўсюды салодка. Я, калі была маладая... Куды ні прыйду — свая. Цяпера і ў сваіх дзяцей чужая. Зірну іншы раз у люстэрка: што тамака за баба старая? Цьфу.

Зося. А мне ўжо ўсё роўна, старая я ці не старая, жывая шчэ ці не. Мне б толькі як-небудзь да смерці дажыць. Нешта я не ўцямлю, як ета жыццё ладзіцца. Навошта? Хто за ўсё адкажа ўрэшце?

Кацярына. Лепей пра то не думаць, Зося. Праўды на зямлі не было і не будзе. Я ўсё жыццё калацілася са страху, бацька-маці, нябожчыкі, калаціліся, і дзецям маім, бачна, калаціцца наканавана. Бацька-маці турмы і вайны баяліся, я атамнай бомбы, а дзецi станцый баяцца будуць.

Зося. Не, я ўжо нічога не баюся. Як Паўліка забілі... Чаго мне цяпер калаціцца?

Кацярына. Народзіць маці дзіця і марыць: вось у яго будзе спраўнае жыццё. Выгадуе — тутака яму і дадуць. Жыве ён і таксама мяркуе: не пашчасціла, вось майму сыну ці дачцэ будзе зусім другое жыццё. Так і ідзе...

З'яўляюцца Сцяпан з Мар'яй.

Сцяпан. Уцякаць адсюль трэба, уцякаць.

Кацярына. Куды, Сцёпа?

Сцяпан. Куды вочы глядзяць. Няпраўда, дзе-нідзе месца знайду. Мне б толькі адзіны раз з Грышчуком стрэцца. Душу адвесці.

Кацярына. Не трэба, Сцёпа.

Зося. А мо і трэба.

Кацярына. Ізноў апынешся ў турме. Мо хопіць?

Сцяпан. Я турмы не баюся. На волі страшней, чым у турме. Там волі чакаеш, а тута няма што чакаць.

Кацярына. А матка, Сцёпа? Другі раз яна цябе не дачакаецца. Грышчука таксама трэба зразумець. Завельмі хліпцеў па ёй, а Зойка... Жанчына. Жыць нам цяжэй, чым мужчынам.

Сцяпан. Во каму хораша: у каго нікога няма. Хочаш на волі, хочаш у турме.

Зося. Не, Сцёпа. Крый Божа. Надта цяжка, калі — нікога. Няма такога: хачу не хачу... Ну, пайду да Паўліка. Чакае ён. *(Пакідае двор.)*

Сцяпан. У цынкавым прывезлі Паўліка?.. А яго, запытацца, за што? Альбо — яе? Што нам гэтыя азербайджаны, армяны?..

Мар'я прыносіць касу з хлява. Нешта тлумачыць сыну.

Ага, ага... Сена на зіму. Ага, ага. Кляпаць. Шчас зробім. *(Прыносіць малаток, бабку, здымае касу з касся.)*

Кацярына. Пайду да Зоські, баюся за яе: гадавіна... Як адчувала яна, як ведала. «Нешта ў мяне сэрца трымціць»,— кажа ўранні. Ваенком прыехаў, а яна з хаты. Ён за ёй, яна ад яго. І вушы закрыла, толькі глядзіць, вачыма плюскае... А калі пахавалі, хаўтуры спраўлялі, ціхая была, не плакала, не галасіла. Схапіла вяроўку і ў лес. І на другі, на трэці дзень спрабавала засіліцца. *(Выходзіць.)*

Сцяпан пачынае кляпаць касу. Ад дарогі, абапіраючыся на крывы кій, з'яўляецца каржакаваты дзед. Доўга назірае за Сцяпанам. Нарэшце Сцяпан заўважае яго.

Сцяпан. Пахомавіч? Здароў, дзед.

Пахомавіч. Чуў, што вярнуўся. Прыйшоў пагледзець... Чатыры гады прайшло ці раней адпусцілі?

Сцяпан. Чатыры, дзед.

Пахомавіч. Хутка. Я думаў, меней. Хутка час прайшоў. Раней чатыры гады — ого, а цяпера — цьфу. Ета, я думаю, таксама радыяцыя. А ты як мяркуеш?

Сцяпан. Аніяк, дзед.

Пахомавіч. Штой-та яна такое? Раней яе не было... І запытаць няма ў каго, усе вучоныя з вёсак збеглі. Ты таксама куды з'едзеш ці застанешся?

Сцяпан. Не вырашыў яшчэ, Пахомавіч.

Пахомавіч. Заставайся. Трэ застацца, матка твая тута. Дрэнна без маладых. Памрэш — ляжы, дзе памёр. Заставайся, будзеш нам хаўтуры спраўляць. А ўсё дабро, што ёсць, тваё.

Сцяпан. Завельмі дабра на аднаго атрымаецца.

Пахомавіч. Прадасі, капейку будзеш мець. Радыяцыя, думаю, хутка выветрыцца. Не можа быць, каб надоўга, пройдзе. Майго бацьку газамі душылі ў германскую, й то прайшло.

Сцяпан. Гэта страшней газаў, дзед.

Пахомавіч. Страшней? Не, не разумею... У вас тутака весела — чатыры бабы, а цяпер ты. Уся весялосць на свеце — ад баб. Ты думаеш, чаго мужыкі да іх лезуць? За *етым*? Не, за весялосцю... Баба — ого!.. А ў нас ужо нікога, ні мужыкоў, ні баб. Усе паехалі, мяне толькі пакінулі, навошта я ім? А я й сам не хачу. Быў я ў іх Магілёве... І гаворка ў іх не тая, і ежа... Начальства патрабуе, каб у стардом ехаў, а я кажу — не паеду. Не хачу. Тутака я ў адну вёску схаджу, у другую... Усё даведаюся, хто памёр, хто жывы. Супу дзе-нідзе з'ем. Не ведаеш, сілаю ў стардом не забіраюць?

Сцяпан. Не, не забіраюць. Як гэта сілаю?

Пахомавіч. А так. На то і сіла. Аднаго туды, другога сюды, схопяць, рукі назад і павезлі. Там я адразу памру, а тут шчэ пажыву... Не чуў, хто ў вас сёння суп гатаваў?

Сцяпан. Усе, пэўна, гатавалі.

Пахомавіч. Ага, усе!.. Гультаяватыя зрабіліся ад радыяцыі бабы, не вараць. Я таксама не вару, а з'есці гарачага хочацца. Да адной старой зайду, да другой... Не крыўдую. Дзе яны?

Сцяпан. На могілкі пайшлі.

Пахомавіч. А-а, да Паўліка, значыцца. На могілках хораша, прытульна. Я таксама хаджу на могілкі, уся радня тама. Так бы і жыў на могілках, а паміраць не хачу, таму

што здаровы. Страшэнна здаровы!.. Касу, калі хочаш, адкляпаю, як малады... А Паўліка на якой вайне забілі?

Сцяпан. На сваёй, у Карабаху.

Пахомавіч. Я й не чуў пра такую. Пра Афган чуў, а пра еты... не. Адно хораша, калі на вайне — пашана. Помнік паставяць дармавы... Ну, пайду да Кацькі, даўнавата ў яе супу не еў. *(Кіруецца да дзвярэй.)* Час пабег — хужэй не бывае. Хаця — каму як. Табе добра: учора пасадзілі — сёння выпусцілі. Я, калі сядзеў... Сяджу-сяджу, а ён стаіць. Ну аніяк, ні туды, ні сюды, як заварожаны.

Сцяпан. А цябе, дзед, за што пасадзілі?

Пахомавіч. Адкуль я знаю? Пасадзілі, і ўсё. Ці ж яны скажуць?.. Як усіх. Я і не пытаўся. Спытай — дабавяць. Нічога, адпусцілі. Калі адпускалі, адзін кажа: ну, дзед, будзеш цяперака сто гадоў жыць. Як у ваду глядзеў. Усе, хто мяне саджаў, перамерлі, а я жывы. І шчэ пажыву, калі ў стардом не завязуць. *(Зноў кіруецца да хаты і зноў прыпыняецца.)* Сцёпка!.. Я сабе на хаўтуры пяць бутэлек «Рускай» прыхаваў. Хопіць? Я, мяркую, хопіць. Каму піць? Некаму. А ты прыходзь, калі пачуеш. Са сваёй бутэлькай прыходзь, а то як не хопіць... Табе талоны на гарэлку дадуць?

Сцяпан. Не, я тут не прапісаны.

Пахомавіч. Я табе дам талон, прыходзь. *(Знікае ў хаце.)*

Сцяпан зноў пачынае кляпаць касу. Дзесьці — чуваць — ідзе машына. Спыняецца. З'яўляецца Грышчук. Але Сцяпан не заўважае яго.

Грышчук. Эй!

Сцяпан падымае галаву, ускопліваецца на ногі. Па-кашачы абыходзіць вакол яго з касой у руцэ.

Сцяпан. Так... так... Прыйшоў.

Грышчук. Усё роўна сустрэнемся. Чым раней, тым лепей.

Сцяпан. Так... Гэта праўда. Лепей. Пабачыцца з табой мне патрэбна. Як не пабачыць лепшага сябра? Столькі не бачыліся. Трэба! Мо апошні раз, га?.. Чаго прыйшоў?

Грышчук. Пагаварыць.

Сцяпан. Смелы ты чалавек. А што, калі я, замест усялякіх размоў... *(Пастуквае пазногцем па лязу касы.)*

Грышчук. Не думаю. Не захочаш туды, дзе быў.

Сцяпан. Захочаш не захочаш... Не так гэта. Важлівей — хвіліна. Не хачу на цябе глядзець у гэтую во хвіліну — і ўсё. А раз не хачу...

Грышчук. Ну што ж, касі.

Сцяпан. Гэтак адразу? Так не бывае. Во калі пагаворым — іншая справа. Ну, гавары. Што хочаш?

Грышчук. Хачу, каб ты зразумеў: усё прайшло, што атрымалася, то й атрымалася.

Сцяпан. Усё?

Грышчук. Не, Сцяпан. У цябе — маці, у мяне — дачка. Усім жыць трэба. І табе трэба, і мне.

Сцяпан. Мне твая дачка — што ёсць яна, што няма. А калі пра нас з табою... Мо каму з нас жыць і неабавязкова.

Грышчук. Я табе растлумачыць хачу. Калі тая станцыя рванула... Ты сам казаў: смяротнікі мы, сканаем гады праз тры... А тут — Зойка. І цябе не зразумець: то ты з ёй да раніцы ходзіш, то на тыдзень, на два знікаеш... Правы ў нас на яе былі аднолькавыя. Я і вырашыў: хаця тры гады, [redacted] мае, [redacted] далей бачна будзе. Сам успомні: зямлю машынамі вывозілі, ні піць, ні есці нельга. Гэта цяпер мы нібыта прызвычаіліся.

Сцяпан. Брэшаш. Калі б не станцыя, яшчэ што прыдумаў. Натура ў цябе такая: схапіць чужое, сказаць — само ўскочыла.

Грышчук. Добра. Не мог я ў той час без яе. Ты са сваім ідыёцкім гармонікам па вёсках бадзяешся, а яна — прыгожая, Сцяпан, самая ў маім жыцці на тую часіну прыгожая — вось яна, поруч. Разводзяць плёткі, нібыта ссільнічаў я яе. Лухта. Я ўвогуле нічога такога не думаў. Ты сам мужчына, ведаеш, як гэта бывае... Ні яна перад табой не вінаватая, ні я. Цяпер разумею: што яна, што другая, а тады — не мог. Чалавек так і жыве: не выбірае, [redacted] — магу альбо не магу.

Сцяпан. Я таксама не мог. Таму і запаліў вас. Таксама нічога такога не думаў.

Грышчук. Вось я і кажу: справа гэта мінулая. А раз так...

Сцяпан. Для цябе — мінулая. Калі набіў страўнік, хутка забываешся — чым. Ты чатыры гады ноччу ў ложак з жонкай клаўся, а я кожную ноч кувалдай махаў.

Грышчук. Цікава, аднак, атрымалася. Ён маю хату спаліў, а вінаваты я... Скінь зло з душы, Сцяпан. Разам вучыліся, разам служылі. Успомні, што я на судзе гаварыў. Каб не я, не чатыры, а ўсе восем...

Сцяпан. Ага, мірыцца прыехаў. Мо й бутэльку прывёз?

Грышчук. Ёсць бутэлька. *(Кіруецца да машыны, прыносіць бутэльку.)* Дзе будзем піць?

Сцяпан. А тутака, на пяньку. *(Ідзе ў хату, прыносіць дзве шклянкі.)*

Грышчук. Маладыя мы былі, дурныя. Сёння цвёрда ведаю, усе бабы аднолькавыя. Дзеці розныя. Я цябе, лічы, кожны дзень успамінаў.

Сцяпан. А я кожную ноч. Як махну кувалдай, дак успомню.

Грышчук. Цяпер, Сцяпан, усё будзе інакш. Я табе дапамагу. Ты толькі павінен зразумець: што было — прайшло, што атрымалася, то й атрымалася. Ты шчэ можаш усё пачаць спачатку. Гэта я не магу — дачка, а ты можаш. Што да жыцця наогул — яно ва ўсіх цяжкае, і ў цябе, і ў мяне.

Сцяпан. Нешта я не разумею, чаго ты прыехаў. Сам ведаеш, не выйдзе добрага.

Грышчук. Хачу найперш даведацца, што збіраешся. Калі на работу ўсталявацца, дапамагу, калі...

Сцяпан. Не, нам лепей далей адзін ад другога.

Грышчук. Так, пра тое і пойдзе гаворка. Я б на тваім месцы куды паехаў. Усё роўна вам перасяляцца. Тысяч дзесяць атрымаеш за сваю хату.

Сцяпан. Баішся, што зноў спалю?

Грышчук. Я другога баюся, калі напраўду. Зойка такая ж дурнаватая і шалёная, як ты. Сёння адно, заўтра другое, а ў нас — дачка. Горла ў яе — вось такое. Нам трэба жыць спакойна, уцяміў?.. Дарэчы, Зойка да цябе не прыходзіла?

Сцяпан *(пасля доўгага маўчання)*. Не.

Грышчук *(з палёгкай)*. Ну, за стрэчу.

Аднак Сцяпан адхіляе сваю шклянку.

Твая справа.

П'юць.

Сцяпан. І куды мне ехаць?

Грышчук. Як мага далей. Гэта радыяцыя... Харошага мала. Я б таксама з'ехаў адсюль, але ж не атрымліваецца пакуль: улез у начальства... А мо і мы з'едзем. Падумай, палічы: дзесяць тысяч — грошы. А калі пагутарыць з кімсьці, то і болей. Усё залежыць, як вымераць, што запісаць.

Сцяпан. Добра, падумаю.

8 Зак. 1132

Грышчук. Падумай, Сцяпан. Грошы ўсім патрэбны. На волі добра, але ж супу не прынясуць... Пажадаеш, нядрэннае месца знайду,— ля Воршы прыкладна. Чысты раён. І сабе, і табе дабра жадаю. Што зробіш, калі так здарылася?.. Досыць ужо і з цябе, і з мяне.

Сцяпан. Грошы адразу ці потым?

Грышчук. Зараз грошай у раёне няма. Цераз паўгода. Хаця... калі пагутарыць як след, растлумачыць... Любое правіла не без выключэнняў.

Сцяпан. Значыцца, за казённыя грошы збіраешся мяне купіць? *(Паказвае вялізную дулю.)* А гэтага не жадаеш?

Грышчук маўчыць.

Грышчук. Так... Дапяў. Паўтарыць трэба.

Збіраецца напоўніць шклянкі, але Сцяпан прыкрывае сваю далонню.

Сцяпан. Бяры сваю бутэльку. Ідзі адсюль.

Грышчук. Пачакай, Сцяпан. Піць ты, я бачу, развучыўся.

Сцяпан. Ідзі.

Маўчаць.

Грышчук. Я табе на самай справе дапамагчы збіраўся, дурань. Як ведаеш... Толькі не думай, што я цябе баюся. Я нікога не баюся.

Скідвае бутэльку з пянька, накіроўваецца да машыны. Сцяпан пазірае ўслед і раптам, схапіўшы касу, кідаецца за ім. Грышчук спрытна паварочваецца, пачынаецца бойка. Каса падае, кожны спрабуе дацягнуцца да яе.

На ганак выбягае Мар'я. Раздаецца яе роспачны, нечалавечы крык. Бойка спыняецца. Мар'я імчыцца да сына. Грышчук заводзіць машыну, ад'язджае. Мар'я ўтрапёна абдымае сына, гладзіць па галаве, спіне.

Ад аўтара. Распачаць гутарку з той старой нялёгка, не дазваляе наблізіцца, а на любое пытанне адказвае аднолькава: «Ку-ку!» Кукаванне яе выдатнае, ад сапраўднай зязюлі не адрозніць ніхто. Аднак калі прапанаваць скібку хлеба ці скрылік сала — возьме з рукі. Жуе дробна, хуценька, як мыша, пазірае насцярожана. Калі скібка малая, злуе: «Што ты мне даў на адзін зуб?» А калі ўвогуле няма гасцінца, пакажа дулю: «Ку-ку!»

Затое, калі ў вашай кішэні знойдзецца што-небудзь асаблівае, напрыклад, цукерка,— паспешліва пакладзе разам з абгорткай у бяззубы рот. «Цукерка! — гаворыць паблажліва. Маленькія — гарошынамі — вочкі пазіраюць асэнсавана, весела.— Смачная!» Цяпер можна пагутарыць. «Хто

ты, бабуля? Дзе жывеш?» — «Я не бабуля. Зязюля. Тутака жыву».— «А ўзімку?» — «Узімку нідзе не жыву. На Пакровы паміраю, на Вялікдзень зноўку жыву. Дай шчэ!»

Доўга чуецца з лесу звонкае і радаснае «ку-ку».

## Карціна шостая

Мар'іна хата. Сцяпан ходзіць узад-уперад. Мар'я ля расчыненай шафы перакладае бялізну. У рукі ёй трапляе дзіцячае адзенне — маленькая кашулька, шапачка. Разглядае іх, усміхаецца. Паказвае Сцяпану — аднак той ніяк не адгукаецца на знаходку. Мар'я рукамі тлумачыць прыналежнасць і прызначэнне рэчаў, вымаўляе: «Ля-ля, ля-ля!..» Рагоча, совае Сцяпану, каб ацаніў, парадаваўся разам з ёй.

Нечакана Сцяпан выхоплівае кашульку, раздражнёна кідае назад у шафу. Выходзіць з хаты. Мар'я ў непаразуменні замірае. Ізноў дастае кашульку, і шчаслівае насланнё вяртаецца да яе. «Ля-ля!.. Ля-ля!..» Разгладжвае, прыкладвае да твару, круціць галавой. Жэстыкулюе, размаўляе сама з сабой. І зноў замірае, спрабуючы дадумацца да нечага не зразумелага ёй.

Выходзіць з хаты. На двары Зося, Кацярына, Сцяпан. Сцяпан, як і ў хаце, нервова ходзіць туды-сюды.

Кацярына. Што ты ўсё ходзіш, Сцёпа? Сядай з намі, раскажы што-небудзь. Альбо на гармоніку зайграй. Няма лепшай музыкі, як пачую — памаладзею.

Сцяпан. Моташна мне, бабы. Не да гармоніка.

Зося. Ну дак скажы, што ў цябе на душы. Разам падумаем. Не такія мы дурніцы, як выглядаем. Жыццё навучыла розуму. Старыя не бываюць дурнымі.

Кацярына. А я, здаецца, наадварот. Маладая была разумная, цяпер зусім ачмурэла. Нічога не памятаю, нічога не знаю. Магазін прыедзе — не знаю, колькі з мяне, колькі мне. Ні памножыць, ні скласці.Штой-та далей будзе?

Сцяпан *(спыняецца, паварочваецца да жанчын тварам)*. Паеду я, бабы.

Кацярына і Зося маўчаць, абдумваючы ягоныя словы.

Кацярына. Куды, Сцёпа?

Сцяпан. Не знаю... Дарога пакажа. Зараз паеду.

Кацярына. Зараз?.. А матка?

Сцяпан. Што — матка? Што вы ўсе — матка? Жыла без мяне — яшчэ пажыве.

Кацярына. Што ты гаворыш, Сцёпка? Бога над табой няма.

Мар'я ўглядаецца ў сынаў твар.

С ц я п а н. Які Бог, калі ў маткі маёй ён слых адабраў, мяне ў турму паслаў?

К а ц я р ы н а. Не адракайся, Сцёпа. Я думаю, занадта многа волі Ён даў чалавеку. Цяпер здолець не можа. Цяпер — тама спытае. Адумайся, Сцяпан.

С ц я п а н. Калі добра ўладкуюся — забяру, а не, значыцца, не.

К а ц я р ы н а. Ну, а як ты ёй еткае скажаш?

С ц я п а н. А я і гаварыць нічога не буду. Сыду, і ўсё. Ёй тут будзе лепей, чым са мной.

І ў гэтую хвіліну раздаецца адчайны крык. Мар'я чапляецца за сына, абдымае, прыціскаецца да яго.

*(Спрабуе вызваліцца.)* Хопіць... Хопіць! Дай ты мне жыць, як я хачу!

Аднак Мар'я вісне на ім, не адпускае.

З о с я. Ніхто, Сцяпан, не жыве так, як хоча. Жывём, як атрымліваецца, як нада. Жыві і ты так.

Нарэшце Мар'я адпускае сына і мітуслівa, у паніцы нешта тлумачыць яму.

Што яна? Не пайму.

С ц я п а н. Са мной просіцца. *(Да маці.)* Ну куды я цябе дзену, куды? *(Гаворыць і жэстыкулюе: тама — рукой у далечыню — грошай няма, хаты — далоні хаткай — няма, спаць тама — далонь пад вуха — няма дзе. Памрэш — рукі на грудзях крыжам — тама!)*

М а р ' я мыкае, плача, ізноў чапляецца за яго. Але зараз жа і адпускае. Паказвае: не, не памру. Грошы ёсць! Многа грошай! Бяжыць у хату.

К а ц я р ы н а. Божа, Божа, паглядзеў бы Ты на нас з вышыні Тваёй.

М а р ' я вяртаецца, у выцягнутай руцэ нясе грошы. Купюры розныя — дзесяткі, пяцёркі, тройкі, рублі. Совае сыну, але Сцяпан адпіхвае руку. Грошы падаюць, рассыпаюцца, Мар'я збірае іх.

Ого, колькі назбірала. Рублёў пяцьсот будзе, а мо й болей, тысяча. Знала, знала, Сцёпка, што вернешся...

С ц я п а н *(да маці)*. Ну, чорт з табой. Пойдзем разам.

К а ц я р ы н а. Шчэ лепей. Куды вы пойдзеце? Дзе і каму вы патрэбныя?

С ц я п а н. Няпраўда, свет вялікі. Знойдзем месца.

Паказвае маці: ідзі, збірайся. М а р ' я бягом імчыць у хату.

Кацярына. А гаспадарка? Грошы за хату? Скора ўсім выплачваць будуць. Што ваша тысяча, на колькі хопіць?

Сцяпан. Не трэба мне нічога. Зараблю...

Кацярына. Зразумела. Вольнаму воля, шалёнаму поле.

Мар'я выскоквае на ганак з зімовым паліто ў руцэ, заве сына. Сцяпан кіруецца да яе.

Сцяпан. Не трэба нічога браць!

З Кацярынінай хаты з'яўляецца Пахомавіч.

Пахомавіч. Ну во, паеў, паспаў... Хораша. Ізноўку можна жыць. Суп у цябе, Каця, найлепшы. Цяпера да заўтра сыты. Пайду.

Кацярына. Куды ты павалачэшся, дзед? Заставайся. Не дойдзеш завідна да сваіх Катухоў.

Пахомавіч. Дайду. Паеў, паспаў... Дайду. Ахвота ўжо да месца. Люблю сваю хатку. Раніцай сонейка ў адно акно свеціць, увечары ў другое. Цвыркун за печкай трымціць, мыша скрабе... Хораша. Я ёй, мышы, скарынку ў цябе ўзяў, хай есць... Цяпера пасля нядзелі прыйду. Заўтра ў Лыхава, потым у Будрычы. Дзе прайду, дзе пад'еду. Цяпера машын многа, калі-нікалі падвязуць... А не, дак во *(паказвае дубец)*, конік мой падвязе. Еты не падманіць, куды я, туды [redacted] ён... *(Выходзіць.)*

Зося. Во, Каця, удваіх застанёмся. Жылі-жылі й — на.

Кацярына. Лепей бы ён не прыязджаў. Загубіць матку. Сцёпа!..

Сцяпан *(у акно)*. Няма часу, бабы, няма.

Кацярына *(падыходзіць да акна)*. Людзі добрыя, і праўда збіраюцца... Нанач гледзячы. Звар'яцелі! Стану на дарозе й не пушчу... Ачуняй, Сцёпка! Што, заўтра дня не будзе?

Сцяпан. Чым хутчэй, тым лепей.

Кацярына *(адыходзіць ад хаты, усаджваецца каля Зосі)*. А мо й знойдуць якое шчасце? Усё ж Сцяпан шчэ малады. Няхай бы Мар'і на старасці пашчасціла.

Зося. На старасці нікому не шчасціць. Старасць для таго і ёсць, каб не шкада з жыццём развітацца.

Кацярына. Няўжо мы такія старыя, Зося? Калі ета ўсё прайшло?

Маўчаць.

Зося. Цяпер Грышчук спакойна жыць будзе. І той, хто Паўліка забіў, таксама спакойна жыве. Што ні дзень —

меней на зямлі справядлівасці. Скора зусім нельга будзе жыць.

Кацярына. Ты, Зося, маўчы пра Грышчука. Пра справядлівасць тожа маўчы. Больш, менш — якая цяпер розніца? Будзе шчэ адзін суд, тама ўсім, каму трэба, сплаціцца.

Зося. А калі не сплаціцца?

Сцяпан выносіць на ганак куфэрак.

Сцяпан. Усё. Болей нам нічога не патрэбна.

Мар'я выносіць клунак. Бярэ ў сенцах вяроўку, кіруецца ў хлеў.

Кацярына. Ета ж яна Зорку хоча з сабою ўзяць. Правільна, малака пап'яце, калі есці нечага будзе.

Сцяпан. Ну! Толькі каровы мне не хапала! *(Даганяе маці, вырывае вяроўку).*

Мар'я мыкае, прыціскае рукі да грудзей, нешта спрабуе тлумачыць. Пабачыўшы, што сын не згаджаецца, закрывае твар далонямі: паказвае, што будзе плакаць.

Ат, д'ябал!.. Няхай бярэ. *(Аддае вяроўку, згодна махае рукой.)*

Мар'я бяжыць па карову.

Кацярына. У горад пойдзеце спярша ці куды?

Сцяпан. Да ўжо, відаць, куды карова захоча...

Мар'я выводзіць з хлява карову.

Ну, бабы, не памінайце ліхам. *(Да маці.)* Пайшлі!

Мар'я б'е паклоны, хрысціцца. Паспешліва развітваецца з жанчынамі. І — адпраўляюцца ў дарогу.

Зося і Кацярына спяваюць:

Салгалі папу, салгалі,
Брата з сястрой абвянчалі...

Змаўкаюць.

Зося. Пайшлі... Проста веры не дамо. Мо вернуцца к вечару? Не, не вернуцца. Дайжа не аглядаюцца. Ідуць і ідуць... Усе ў адзін дзень: і Праскоўя, і Тоня, і Мар'я, во як. Глянь, спыніліся! Вернуцца! Далібог, вернуцца!.. Не, пайшлі.

Галосячы на ўсю моц, заканчваюць песню:

Абманілі папа, абманілі,
Брата з сястрой ажанілі...

Канечне, што тута харошага? Нічога. А Мар'я, га? Як прыблудзілася, так і сышла... Сын! Што тута скажаш? Сын... У мяне ўнучак — нежывы, і то я з ім. Як без яго?

Не, аніяк... Каця, а чаго ета нам дзве печы тапіць? Давай разам жыць. Пераходзь да мяне. А не хочаш, я да цябе перайду. Усё жыццё мы з табою сварыліся, а цяпера памірымся. Чаго нам цяпера сварыцца? Пажывём... *(Накіроўваецца ў сваю хату.)*

Кацярына засмучона чакае яе. Зося з хаты выходзіць з падушкаю, пасцельнай бялізнаю.

Падушак у мяне пуховых шэсць штук. Можна спаць на падушках. І дзве пярыны пуховыя. Думала, Паўліку аддамо, калі ажэніцца... Пяць зім пер'е драла на адну, пяць на другую... І тэлевізар мой прынясём.

Кацярына. Я ўсё баюся сказаць табе, Зося...

Зося. Не хочаш? Крыўдуеш на мяне? А як нам жыць, калі не разам? Хто табе ці мне дапаможа, га? Нікога болей. Я табе дапамагу, ты мне. Хто ж яшчэ? Самы галоўны час цяпер пачынаецца.

Кацярына. Паеду я, Зося.

Зося *(доўга маўчыць).* Куды... паедзеш?

Кацярына. Да сына, Зося. Да Міколкі.

Зося. Не пляці абы-што. Ведаю я твайго сына. Трэба ты яму, як леташні снег.

Кацярына. Тэлеграму прыслаў.

Зося *(маўчыць, разважае).* Тэлеграму?.. Ну, а... калі?

Кацярына. Заўтра, Зося.

Зноў абедзве доўга маўчаць, затым пачынаюць гаварыць, не слухаючы адна адну, адначасова.

Зося. Ну, то іншая справа — тэлеграма. Тэлеграму дарэмна не адбіваюць. Ліст, бывае, дарэмна, а тэлеграму не, яна грошы каштуе. Не люблю я етыя тэлеграмы. Ніколі нічога харошага, а шчэ й распішыся за яе. У пісьме чалавек — пра тое, пра ета, добры дзень, як жывецемаецеся, пра радню, сваякоў, а тэлеграма — выязджай! страчай!.. Альбо ўвогуле такое прышлюць, што болей жыць не трэба...

Кацярына. Я й сама думала: навошта я яму? Тры дзіцяці, шчэ я, надаўба... А вось нада, матка ўсё ж такі. Ці ж я не расціла яго, не гадавала? Ну што ж, што біла? А як было здолець з ім? Я яго паб'ю, а потым плачу. Запыталася той раз: сынок, ці помніш, як я цябе біла? Не, адказвае, не помню. Думаю, проста ўспамінаць не хоча. Затое чалавекам вырас... Хто ж яму радней за родную матку?

Змаўкаюць, хаваюць вочы адна ад адной.

З о с я. Ну, дак я пайду назад. Альбо даць табе падушку? Не трэба? А то бяры, спатрэбіцца ў горадзе. Навошта мне шэсць падушак? У цябе няма, я ведаю. Ты не любіла пер'е драць, а я любіла. Радыё музыку перадае, [illegible] [illegible] — раз, раз. Адно сюды, другое туды, быстра, хуценька. Ты і працаваць не любіла. А хто працаваць не любіць, таму лягчэй жыць... Бяры, бяры, падушка цяпера сто рублёў каштуе. І пярыну магу адну даць. Навошта мне дзве пярыны?.. Мне б якога старога знайсці. Бабам веры няма. Бабы сёння тута, заўтра тамака. Куды пазавуць. Маладая — замуж, старая — да сына. Толькі ж яны, дзяды, доўга не жывуць. Памрэ — зноўку адна. А мо і я скора памру? Прачнуся, [illegible] мяне ўжо тута нямашакі. Я ўжо тама. Хутчэй ба, Госпадзі Ісусе! Нагаравалася, хопіць.

Пад'язджае грузавік.

Ета не па цябе?

Ш а ф ё р. Эй, бабы, дзе тут у вас карова ў ахвоце? Быка прывёз.

З о с я. Каго прывёз? Быка? *(З горыччу смяецца.)*

Ш а ф ё р. Чаго рагочаш? Сямёнавіч загадаў... Давай вывадзі сваю кабету на чыстую любоў. Мне шчэ ў Будрычы ехаць, тама тожа адна ссшалела. Ніякая радыяцыя на вас, баб, не дзейнічае, заездзілі майго быка.

З о с я. Спазніўся ты, дзядзька.

Ш а ф ё р. Прайшла ахвота?

З о с я. Ахвота мо [illegible] не прайшла... Каровы ўжо няма. А ведаеш што? Едзь ты па етай дарозе. Дагоніш.

Ш а ф ё р. Самі павялі шукаць? Няўцерп стала?

З о с я. Ага, няўцерп.

Ш а ф ё р. Даўно пайшлі? Нядаўна? Дагонім... *(Да быка.)* Шчас дагонім, трывай, Трышка!.. Як я яго на машыну, аж раве, прывык, разумее, куды павязу. Трышка — малайчына, ад яго ўжо пяты год — адны цялушкі... Хіба што цяпер радыяцыя з панталыку саб'е. *(Ад'язджае.)*

З о с я. Яшчэ адна коціць, пыл падымае. Нешта яны раз'ездзіліся сёння. Мо шчэ адна станцыя гахнула?.. Хто ж ета? Мо дэпутаты? Іх цяпер — як калісьці ўпаўнаважаных. Пешшу ідзе — чалавек, едзе — упаўнаважаны. Прыгожая машына, новая. Ва ўсіх зараз машыны, а плачуць, скуголяць. Мы не плачам, а яны плачуць.

К а ц я р ы н а. Ета па мяне, Зося.

З о с я. Па цябе?.. А ты казала — заўтра.

Машына спыняецца, выходзіць немалады мужчына, без слоў абдымае Кацярыну.

*(Гледзячы на іх, памалу адступае.)* Ну, добра, добра, здароўкайся... А я пайду. Пайду да Паўліка. Чакае ён мяне, сільна чакае, знаю.

Могілкі.

*(Дабудоўвае шалаш.)* Ну вось, унучак. Удваіх будзем жыць. Ніхто нам замінаць не стане. А я кожны дзень прыходзіць буду. Вінавата я перад табой, як ніхто, вінаватая. Не знайшла грошай, каб даць етым, з ваенкамата. Трэ было хату прадаць. Кацярына знайшла, а я не знайшла. Пражыла б без хаты. Вунь колькі іх цяпера пустых — жыві не хачу. Дожджыкі пойдуць, і цябе чым-нічым накрыю. Тры лісты шыферу ў мяне ёсць, дошкі... Накрыю. А мала — сама лягу пад дождж, каб на цябе не лілося. Будзем з табой успамінаць, як жылі. Харашо жылі, ёсць што ўспомніць. Калі ўсё ўспамінаць, месяц за месяцам, год за годам, якраз на маё жыццё хопіць. Добра будзе. А там і стрэцімся *(ціхенька спявае.)*

Ой, сынку ў маткі ночку начаваў,
Ой, сынку матцы сон свой расказаў...

*(Змаўкае.)* Так мы сённі і не ўспамянулі цябе. У кожнага сваё. У каго радасць, у каго гора, у каго — невядома што... Нічога, ёсць у мяне памянуць, ёсць. Ад самай Пасхі, ад Вялікадня зберагла. *(Адкаркоўвае бутэльку віна, распырсквае над магілкай, выпівае шкляначку і сама. Зноў спявае.)*

Ой, маці мая, маці, матухна родна,
Звідзелось мне дрэнна ўва сне:
З-пад правай пашкі сокал вылецеў,
З-пад левай пашкі сакалёначак...

## Карціна сёмая

К а ц я р ы н а з сынам на двары хаты. Раніца. Кацярына разгублена аглядаецца.

К а ц я р ы н а. Куды ж яна знікла? І на могілках няма. Ох ты, Госпадзі... І ў хаце няма, і ў хляве няма. Мо ў падполлі? *(Апускаецца ў падполле, але зараз жа вяртаецца.)* Няма... Зося! Зося-а-а!.. Сынок, бібікні ты ёй, мо пачуе.

Чуваць настойлівы сігнал машыны.

Зося-а! Зоська-а-а!..

Мікола. Што зробіш, мама. Часу няма!

Кацярына. Не магу я, сынок, не развітаўшыся. *(Плача.)* Столькі мы з ёю за жыццё сварыліся, што цяпер не магу... Вінавата я перад ёй. Як перад Богам вінаватая, а цяпер шчэ вінавацей... Паглядзі ты яе ў Тоні, вунь там, пад ліпай.

Мікола. Забіта хата, мама. Наглуха.

Кацярына. Мо ў акно ўлезла? Яна прыткая.

Мікола. І вокны забітыя.

Кацярына *(садзіцца на бервяно, плача).* Не магу я, сынок, так. Не магу.

Мікола. Нада, мама.

Кацярына. Тута яна, падказвае мая душа, тута. Дзе ж ёй быць?

Мікола. Пяцьсот кіламетраў, мама. З раніцы на работу...

Маўчаць.

Кацярына. Ну што ж... Паедзем. Даруй мне, Царыца Нябесная. Дапамажы ёй.

Мікола забівае дзверы.

Не забівай ты іх, сынок. Мо яна калі зойдзе.

Мікола. Як скажаш, мама. Мне ўсё роўна... Пайшлі?

Накіроўваюцца да машыны.

Кацярына. Ну, бывай, Зоська. Бывай, падружанька. Болей не пабачымся... *(Спявае.)*

Салгалі папу, салгалі,
Брата з сястрой абвянчалі...

*(Змаўкае, чуйна прыслухоўваецца. Ідзе да машыны.)* Зоська-а-а!..

Ад аўтара. На вясну ў тых вёсках, дзе радыеактыўнасць ніжэй, чым пятнаццаць кюры, гэта значыць, дзе, лічыцца, можна жыць, усе ведалі, што ў лесе жыве бабуля-зязюля. І калі з лесу чулася «ку-ку», прыслухоўваліся, нібыта сумняваліся: яна альбо не яна?

Гаварылі, што ўзімку гэтая бабуля жыве ў лісінай нары, летам на дубе. Ёю пужалі малых дзетак, каб не лезлі пад калючы дрот па чарніцы-суніцы: схопіць старая, зацягне ў нару ці на дуб... І, канечне, згаладалая,— з'есць. Яшчэ гаварылі, нібыта старая сапраўды абярнулася зязюляй. А дзеткі, каторыя збіраюць чарніцы-суніцы, таксама абарочваюцца ў маленькіх зязюлек. Зязюль і на самой справе ў гэтых мясцінах развялося занадта многа, дзяцей стала меней. *Абярнуліся.* Таму гэтак сумна кукуюць: клічуць маці ці хаця б каго-небудзь з добрых людзей.

Наступным летам пагаворвалі, што бабуля-зязюля знікла. Памерла, пэўна, дзе-небудзь у нары.

Аднак прыйшла зіма, і нехта бачыў дымок над яе паграбком.

Падоўжы, Госпадзі, яе, зязюліны, дні.

*(Голас Кацярыны.)* Зоська-а-а!..

Чуваць, як закрываюцца-ляпаюць дзверцы, машына кранаецца. Калі гук матора сціхае, на гарышчы хаты паказваецца З о с я. Доўга пазірае ўслед машыне. Затым спускаецца па лесвіцы ўніз. Аднак на сярэдзіне яе затрымліваецца.

З о с я. Трэба мне яе развітанне. Раскрычалася: Зоська! Зоська!.. Хопіць, наразвітвалася за жыццё. Болей не хачу... Зараз пабачым, куды ён павязе яе, улева ці ўправа? У Маскву разганяць таску ці ў стардом? Надта ласкавы быў: як скажаш, мама, як хочаш, мама. Ой, ой!.. А-а, ета ж аб'езд тамака. Управа... Ну, дзякуй Богу, ёсць яшчэ сорам у людзей, ёсць.

Грыміць Гімн Савецкага Саюза.

Радыё не выключыла, буду слухаць усё жыццё. *(Злазіць, кратае дошкі.)* Моцна забіў. *(Перадражнівае.)* «Не забівай ты іх, сыночак. Мо яна калі зойдзе».— «Як скажаш, мама». Чаго я там не бачыла? Транты твае?.. *(Накіроўваецца ў сваю хату, выносіць сякеру, адбівае дошкі. Уваходзіць.)*

Гімн змаўкае.

*(Ізноў з'яўляецца на ганку. І раптам голасна пяе.)*

Салгалі папу, салгалі,
Брата з сястрой абвянчалі...

*(Змаўкае, чуйна прыслухоўваецца.)*

Абманілі папа, абманілі,
Брата з сястрой ажанілі...

Над вёскай і над лесам зарыва. Цішыня.

## *Іван Шамякін*

# ЗОНА ПАВЫШАНАЙ РАДЫЯЦЫІ

*Аповесць*

### Пралог

У гэтым лесе прайшла частка майго маленства і юнацтва, хоць юнацтва дзялілася паміж лесам і горадам, дзе я вучыўся. Лес цягнуў на выхадныя. А можа, не лес? Студэнцкі голад гнаў у бацькоўскі дом, каб захапіць там кавалак сала, галку масла і пяцёрку — дзесятку рублёў.

Не, любіў я лес і незвычайную любоў захаваў на ўсё жыццё. Менавіта да гэтага м а й г о лесу. Недарэмна і ў сівую старасць часам наведваюся туды, за трыста з гакам вёрст: паслухаць нязменны шум дубоў, пакланіцца магілам бацькоў, сясцёр.

Аднак па парадку.

Сын лесніка, я пасвіў каровы. Вучань, прагны чытач, летуценнік, я палюбіў гэтую працу на пераходзе да юнацтва, хоць у маленстве напакутаваўся з-за машкары.

Каб каровы спакойна пасвіліся і я меў час чытаць, я ганяў іх да чыгункі, не ўзіраючы на бацькоўскі строгі наказ: «За чыгунку не ганяць!» Маці вельмі баялася, каб поезд не зарэзаў карову ці карова не зламала нагу на рэйках. З матчынай наіўнасці я пасміхаўся. І нярэдка пераганяў іх за чыгунку. У чыгуначнай прасецы каровы сапраўды спакайней пасвіліся — вецер адганяў камарэчу, ды і трава, мабыць, на сонцы расла смачнейшая. А я любіў ляжаць на гарачым насыпе, удыхаць незвычайны, ні на што не падобны ў тагачасным жыцці, пах металу, мазуту, смалы — ці чым там прапітваліся шпалы? — і слухаць гул дроту на слупах і гудзенне рэек. Так абвастрыўся мой слых, што я чуў шум цягніка, як толькі ён адыходзіў ад станцыі з таго ці другога боку, беспамылкова распазнаваў, які ідзе — таварны ці пасажырскі. Лічыў вагоны ў таварным, запамінаў, што пагружана на адкрытыя платформы. Захлынаўся ад захаплення, калі везлі танкі, гарматы — во мілітарыст! Але шчасцем былі пасажырскія. Я праводзіў іх прагнымі вачамі, сэрца маё ўчашчала свой бег, думкі, узнёсла-высокія, ляцелі следам за апошнім вагонам. І хоць ездзіў я ўжо ў цягніку да Гомеля — але што Гомель! — я зайздросціў тым, хто ў вагонах, хто едзе

ў бязмежную далеч. І я сачыняў уласныя паездкі, далёкія-далёкія, частка з якіх пасля здзейснілася, але той радасці, якая была ў дзіцячых марах, ніводная з самых далёкіх паездак — ажно за акіян! — не дала.

Ах, каб да мяне сённяшняга, сівога і ўмелага сачыніцеля, вярнуўся той юнацкі палёт думак! Здаецца, летуценні і творчы вопыт — уменне занатаваць фантазіі, па-мастацку арганізаваць іх — далі б цудоўны сплаў. Ці толькі так здаецца? Мабыць, трэба яшчэ адно, самае істотнае,— вера ў дзівосы. А веру тую, якая была ў 12—15 гадоў, у 75 вярнуць немагчыма. Якія дзівосы, калі вакол вельмі суровая рэчаіснасць!

...Аднойчы ў летні дзень, вярнуўшыся з лясніцтва, бацька сабраў сямейную нараду. Дастаў са скуранай торбы «Справочник лесника» і — нечакана для нас — план свайго і суседавага абходу. Але што здзівіла, прынамсі мяне — «галоўнага грамацея»: добры тузін кварталаў быў заштрыхаваны чырвоным алоўкам, не бацькавай рукой — умелым чарцёжнікам.

— Во ў гэтыя кварталы з сённяшняга дня — ні нагой.

— А чаму, Пятро? — спытала маці.

— Многа будзеш знаць — рана пастарэеш. Запомніце і засячыце на насах сваіх кірпатых.

Маці была непісьменная, але абход Пятроў знала як свой гарод.

— Дык ета ж Ягаднае!

— Ні ў Ягаднае ні ў Паддубнае — ні нагой!

— А хто ж закон такі палажыў? Ермачыха, ці хто, каб самой ягады сабіраць? Падавіцца ж!

— Курыныя твае мазгі! Ермачыха! Ваенныя занялі тваё Ягаднае. І калі хто паткнецца — будуць страляць.

— Пятро, няўжо праўда?

— А то нас зазра ў лясніцтва сабіралі, і тры камандзіры са шпаламі на пятліцах гаварылі. Усяго і сказаць не магу. Скажу — пад кулю сябе падвяду.

— Ой! — войкнула маці.— Глядзіце ж, дзеці! Асобенна ты, верхалаз! — сказала яна майму малодшаму брату Паўлу.— Цябе так і цягне ў шкоду.

Нагнаў бацька страху. Але чым больш страху — тым больш цікаўнасці!

Даручыўшы каровы Паўлу, які не любіў іх пасвіць, больш любіў цяжкую працу ў гаспадарцы: араць, сеяць, чаго не любіў я, старэйшы, тайна нават ад брата, я падаўся ў разведку. Нямала прачытаўшы кніг, я ведаў

тактыку разведчыкаў. Захоўваў яе — ледзьве не поўз на пузе.

Але разведваць не было чаго: чырвонаармейцы візіравалі лінію, ставілі слупы і цікавасці да мяне асаблівай не праявілі, двое толькі папрасілі схадзіць у няблізкае — вёрст шэсць-сем — сяло і купіць ім папяросы, далі грошы. Папяросы я ім прынёс на другі дзень. Мабыць, багатыя хлопцы былі: «Казбек» курылі; бацька мой, зацяты курэц, ні разу не дазволіў сабе купіць такія папяросы.

Знаёмства дало мне магчымасць добра разведаць памеры ўчастка, які будзе адгароджвацца, як растлумачылі мне новыя сябры, а навошта адгароджвацца — пра гэта адзін пажартаваў: «Пад піянерскі лагер».

Гэта, помню, мяне насмяшыла.

Памеры «піянерскага лагера» ўражвалі: у даўжыню ажно чатыры кварталы, а гэта ж два кіламетры.

У той год я скончыў сем класаў і паехаў паступаць у тэхнікум. Паступіў. Вярнуўся — даведаўся, прагаварыліся леснікі, беручы чарку: у Ягаднае пракладваюць ветку чыгункі. Як тут не зрабіць яшчэ адну разведвальную вылазку? Сігануў і... быў здзіўлены: за нейкі адзін месяц там, дзе візіравалі лінію, стаяў калючы дрот; дрэвы амаль не высякаліся, некаторыя сосны і дубы служылі апорамі, слупамі. Я падкапаўся пад дрот, углыбіўся ў зону, з перасцярогай разведчыка рушыў на шум трактароў і аўтамашын. І тут мяне спыніў суровы: «Стой!»

Дапытваў мяне вайсковец з адной шпалай — маёр. Я марыў пра ваеннае вучылішча і добра вывучыў нядаўна ўведзеныя званні; але на мой пісьмовы запыт з вучылішча адказалі, што мне трэба год расці.

Дапытваў мяне маёр, як шпіёна. Спачатку гэта было цікава, а потым і страх апанаваў — пасадзяць! Маёр, відаць, паверыў, але праверыў: даручыў чырвонаармейцу завесці мяне дадому і перадаць бацьку майму, каб даў мне добрай лупцоўкі. Бацька выцягнуў з штаноў сваю шырокую папругу, але не ўдарыў, ужо гады два папруга не хадзіла па нас з Паўлам; у гэтым была братава заслуга: аднойчы, калі бацька вельмі раз'юшыўся і ўзняў папругу, Павел выхапіў яе і кінуў у печ, якая палілася.

Карацей кажучы, экзекуцыі за сваю разведку я пазбегнуў, але адлаяў мяне бацька моцна.

— Праз цябе, дурака, мяне з лесу могуць пагнаць, бо інструкцыю ж давалі, каб ніхто ні нагой. Сам Букаты, ляснічы, туды носа не паказвае. Ваенны сакрэт! Кнігі чытаеш, а ў галаве пуста.

Больш мяне не цікавіла лясная будоўля. Толькі калі праз год я прыехаў на канікулы, то бачыў, як з ваеннага гарадка прыходзілі да маці камандзірскія жонкі купляць малако, тварог, смятану.

Але што там у іх за калючым дротам, што вазілі праз вялікія вароты кароткія цягнікі — на пяць-шэсць вагонаў,— пра гэта, пэўна, мала хто ведаў, ва ўсялякім разе я, студэнт, кніжнік, фантазёр, мог толькі здагадвацца. Бачыў я ваенныя гарадкі ў самім Гомелі і каля яго, ды астыла мая цяга да вайсковай службы, і гарадок у «нашым лесе» мала цікавіў. Зацікавіў хіба бацькаў расказ у першы мой пасляваенны прыезд дадому — праз пяць гадоў, як мяне «забрылі» ў армію ў год сканчэння тэхнікума. Бацьку далі заданне партызаны: прасачыць, што немцы возяць у гарадок. Выведаў: снарады прывозяць і вывозяць.

А потым партызаны прыйшлі ў асеннюю ноч трэцяга года вайны і загадалі бацьку правесці групу праз чыгунку, падвесці да базы ў тым месцы, дзе калючы дрот бліжэй падыходзіць да артылерыйскіх складоў: у партызан мелася схема з прыкметнымі арыенцірамі на знешнім баку агароджы, якія мог бачыць толькі ляснік. Бацька павёў групу ў пятнаццаць чалавек. Партызаны неслі дзве цяжкія скрынкі.

Ноч, цемра — хоць вока выкалі. Але бацька перавёў групу праз чыгунку, якая тады ўжо ахоўвалася, і падвёў да самага дроту. Бацьку і яшчэ дваім загадалі пасігналіць ліхтарыкам, калі група будзе адыходзіць — каб сабраліся разам. Перакусілі нажніцамі дрот, папаўзлі.

Выбух быў глухі — колькі таго толу, што партызаны прынеслі! — да артсклада не дасталі. Але страляніна была шалёная. Трое партызан так і не прыпаўзлі на сігналы ліхтарыка. Загінулі, схапілі іх немцы ці выбраліся самастойна іншым шляхам? — пра гэта бацька не ведаў; з таго атрада да яго больш не прыходзілі.

Бацька праз усю вайну быў сувязным атрада, які базіраваўся ў суседнім расійскім лясніцтве. Ды хто ў вайну думаў пра межы! Ды і не толькі ў вайну! Леснічоўку немцы спалілі. Новую лясніцтва не магло хутка збудаваць. Пасля вызвалення бацька збудаваў хату бліжэй да людскога жытла — побач з рускім пасёлкам. Праз многа гадоў геадэзісты-картографы дакладна вызначылі лясную мяжу паміж рэспублікамі і раптам з прэтэнзіямі да бацькі: «Дзед! Што ж ты хлеў паставіў на рускай зямлі? Хата — на беларускай, хлеў — на рускай!»

Маці баялася, што прымусяць хлеў знесці. Ніхто з улад слова не сказаў. Толькі кпілі і беларусы, і рускія, што ляснік Шамяка жыве ў дзвюх рэспубліках адначасова.

Пасля вайны сястра мая Ганна скончыла планава-эканамічны тэхнікум і выйшла замуж за хлопца, які пасля службы ў арміі працаваў у ваенным гарадку сталяром. Пасля вайны ці то з-за недахопу вайсковага кантынгенту, ці ў выніку дэмакратызацыі арміі на базе, як яна называлася армейцамі, хутка расла колькасць вольнанаёмных рабочых. А дзе людзям жыць? Ад самай блізкай вёскі, дарэчы рускай, адкуль прыходзілі рабочыя, кіламетраў пяць. Хадзілі за дзесяць. Але праблему трэба было вырашаць. Вырашылі разумна. На бліжэйшай, за кіламетр, вялікай лясной паляне пачалі адводзіць участкі. І дамы пачалі расці, што грыбы. Ды якія дамы — званы! Высякалі стогадовыя сосны і дубы ў зоне базы, прадавалі сваім рабочым за капейкі. Ды і навокал лес. А народ гаспадарлівы, практычны. Выпісваў 20—30 кубоў, а прывозіў усе сорак. Спрацоўвала на поўную сілу старая «мудрасць»: «Хто ў лесе не злодзей, той у доме не гаспадар».

За якія дзесятак гадоў вырас выдатны пасёлак дамоў — не хат! — на сотню, калі не больш, з шырокімі вуліцамі, парослымі мурагом, на якім пасвіліся цяляты, свінні, індыкі. Па нормах паўночнай Беларусі — вялікае сяло! У лесе на паўдарозе ад пасёлка да базы збудавалі школу, аднапавярховую, але глядзелася яна палацам пад векавымі дубамі.

Збудаваў там дом і наш зяць. Выдатны дом на дзве палавіны!

І сястра мая пачала працаваць на ваеннай базе планавіком.

Я здзівіўся: «Галя, што ты там плануеш?»

«Ой, Іван, я ж дала падпіску нікому нічога не казаць».

Я засмяяўся: во яна, ваенная тайна! Брату роднаму, пісьменніку, дэпутату, нельга сказаць!

Натуральна, што зяць, а можа, і сястра, каб падняць, як цяпер кажуць, свой імідж — вунь хто мой брат ці мой швагер! — афішавалі мае візіты, і мяне тут жа запрашалі выступіць то перад салдатамі, то ў школе.

З начальнікамі базы я піў каньяк, але ні разу ў гарадку — або ў хаце сястры, або на далёкай ад базы пасецы суседняга калгаса, старшыня якога Хадынец стаў прататыпам маіх станоўчых герояў — аграрнікаў. Я вырашаў ды-

лему: каму выгадна падтрымліваць сяброўскія адносіны — старшыні з камандаваннем ці палкоўнікам са старшынёй? Была, пэўна, узаемная выгада.

Там загінула мая сястра. На подступах да базы, «в полосе отчуждения» і на самой вялізнай тэрыторыі лес не высякалі, а ён быў спелы ўжо ў час заснавання базы сорак гадоў таму. На магутных соснах галіны адмерлі, струхлелі сухія сукі. І такі сук упаў на Галіну галаву каля самай прахадной, калі яна ішла на працу.

Страціўшы сястру, я доўга не прыязджаў у «бацькаў лес». Не было да каго.

Прыйшла вялікая бяда на землі братніх рэспублік — чарнобыльская. Не адразу — праз год ці нават два — я даведаўся, што ваенны гарадок і пасёлак накрыла радыяцыяй. Дзіўна яна садзілася, радыяцыя: сяло за дзесяць кіламетраў было настолькі чыстае, што ў яго перасялілі брагінцаў. Глупства рабілася нямала. Навошта адсяляць людзей да лесу, у якім нельга сабраць ні грыб ні ягаду? Ды і дровы... дзе ўзяць чыстыя дровы? Базу, пэўна, выселіць было не пад сілу, і адсяленне вольнанаёмных, іх пасёлка вырашалася не адзін месяц. Ваенныя — найбольш кансерватары. Але і яны ўрэшце здаліся вучоным. Высялялі жыхароў пасёлка кіламетраў за трыццаць. Вывезлі ў Гомель сем'і афіцэраў, хоць на ўскраіне горада, што прымыкае да Веткі, радыяцыйны фон не ніжэй, чым на базе. І рабочых, і афіцэраў вазілі на працу. Вахтавы метад. А салдаты заставаліся на базе — іх нукліды не даставалі. Вось так! Такая праява клопату пра людзей. Мне расказвалі сваякі, пісалі, званілі, абураліся. Я пісаў у інстанцыі. Урэшце і салдат пачалі вазіць з гомельскіх казармаў, але не на адзін дзень, а на тыдзень — несці ахову, працаваць на складах.

Наступае ўзрост, калі чалавека цягне пакланіцца магілам бацькоў, наведаць мясціны свайго маленства, юнацтва, маладосці. Пацягнула і мяне. І не толькі мяне — маю жонку, яе сястру. Знайшлі свабоднага маладога шафёра, селі ў сваю «Волгу», якая засталася пасля таго, як я аслеп на адно вока, і паехалі...

Дэпутат Вярхоўнага Савета Саюза ад няшчасных раёнаў — Брагінскага, Хойніцкага, Лоеўскага, Рэчыцкага, я наведваўся ў зону і ў часе адсялення вёсак, ферм і пасля гады тры, калі пустыя селішчы людскія ўяўлялі жахлівы выгляд. Але... Можа, са старасцю пачуцці абвастрыліся? Можа... Але выгляд ні аднаго апусцелага пакінутага

людзьмі кутка роднай зямлі не рабіў на мяне такога прыгнятальнага ўражання, як гэтая мясціна бацькоўскага лесу. Лес той жа — магутныя сосны, дубы, густы арэшнік. Але — дзень ціхі, спякотны, і жывыя дрэвы як бы амярцвелі; лісце на асіне трымцела, што бляха. Звычайна, у пару ягад, грыбоў, лес тут, у паласе, што прымыкае да чыгункі, быў поўны жаночых, дзіцячых галасоў. Мы праехалі па ім чатыры кіламетры — ніводнай жывой душы. Пустэча. Пераехалі чыгунку, тую, каля якой я любіў пасвіць каровы. Раней пераезд тут, каля базы, ахоўваўся, цяпер нават шлагбаум зламалі. Спыніліся за пяцьдзесят метраў ад зялёных варот з чырвонымі зоркамі — праезду на тэрыторыю базы. З вахцёркі выйшаў салдат з аўтаматам, зацікаўлена і здзіўлена паглядзеў на нашу машыну. У даўнія часы, калі б я пад'ехаў на такую адлегласць і спыніўся, мяне тут жа затрымалі б, праверылі б дакументы. Цяпер такая пільнасць не ўваходзіць у абавязкі вартавога, у яго магла быць толькі цікаўнасць, бо машыны тут з'яўляюцца рэдка: на павароце з магістральнай шашы стаіць незвычайны знак са страшнымі словамі: «Зона павышанай радыяцыі».

Едзем далей. І — о Божа! Што гэта? Я менш скалануўся б, каб убачыў чалавечы шкілет, які глядзеў бы на мяне чорнымі ямамі вачніц. Мноствам такіх пустых вачніц — вокан, дзвярэй — глядзела на нас школа, якая некалі звінела дзіцячымі галасамі, а ў зімнія прыцемкі ззяла яркімі агнямі. Неяк там, у Брагіне, Хойніках, мне не траплялася такая смяротна знявечаная школа. Таму ад выгляду гэтай, у якой выступаў, было асабліва балюча. А дзе ж пасёлак? Дзе звонкія хаты, у большасці ярка пафарбаваныя, абгароджаныя прыгожым, паўсюдна пафарбаваным штыкетнікам? Знявечаныя хаты ў зоне стаялі. Тут іх не было. Куды падзеліся? Спалілі? Няма пажарышчаў. Прадалі? Хто купляў прапітанае нуклідамі бярвенне? Але колькі хат засталося, і яны здалёк сведчылі, што тут было ўладжанае селішча. Але яшчэ больш яскрава сведчылі сады. Яблыні свяціліся пераспелымі ранетамі, антонаўкамі, штрыфелямі, малінаўкамі... Кожны гаспадар стараўся здзівіць суседзяў рэдкімі гатункамі. Цяпер плады нікому не патрэбныя. Бярвенні вывезлі, на яблыні ніхто не спакушаўся.

Падворкі зараслі густым і высокім бур'яном, быльнягом.

Едзем далей па густой траве былой вуліцы. І — о! — што гэта? Міраж? З-за саду, з-за купкі маладых бяроз вынырвае дом. Жывы! Угледжаны. Свежапафарбаваны, проста размаляваны: ліштвы, аканіцы — усе колеры вясёлкі, сонцам гарыць франтон. У адчыненым акне калышуцца гардзіны.

Думаю, што касманаўт, які ехаў бы па бязводным Марсе і сустрэў марсіяніна, здзівіўся б менш, чым я, убачыўшы ў лясной пустэчы жывы дом. Ды і не адзін я — старыя бабулі, малады шафёр, ён сам без каманды спыніўся. Мы пастаялі перад гэтым дзівам. Мне здалося, што ў доме мільганула чалавечая постаць, але жанчыны аспрэчылі. Інтэлігенцкая далікатнасць не дазволіла незапрошаным уварвацца ў чужую хату. Але не кожны ведае, што такое пісьменніцкая цікаўнасць. Бліснула думка: «Тут можна знайсці новы сюжэт». А ў старасці яны — ох! — як нялёгка знаходзяцца, сюжэты.

Аб'ехалі спусцелае паселішча, выехалі на асфальт, і я раптам закамандаваў, здзівіўшы вадзіцеля:

— Стоп! — і растлумачыў: — Не, я не магу праехаць міма людзей, якія жывуць у тым доме. Хто яны? Што іх прымусіла застацца тут?

Брамка была зачынена. На мой стук адгукнуўся сабака, але нязлосна, ляніва. Каб не адчыненае акно, можна было б заключыць, што гаспадароў няма дома. Але, адыйшоўшы ці ад'ехаўшы, яны не маглі так бестурботна пакінуць такі ўгледжаны дом. Бязлюддзе? Але і ў зоне марадзёраў, аднак, хапае, замкі і клямкі зрываюць; на барахолцы ніхто не правярае — набрала рэч радыяцыі ці чыстая.

Я загрукаў больш настойліва. Сабака ўзлаваўся на такога назолу, кідаўся на браму, на вароты. І тады пачуўся хрыплаваты голас гаспадара:

— Рэкс! На месца! — і да мяне: — Хто там?

— Праз вароты цяжка растлумачыць — хто. Вы баіцеся? Каго?

— Я баюся? Ха! Я баюся...

— Вы зацікавілі нас.

— Каго — нас?

— Гляньце на машыну — убачыце, які там «нарад міліцыі».

Машыну ён, безумоўна, разгледзеў яшчэ ў першы пад'езд і бачыў, што ў ёй старыя людзі, калі не лічыць шафёра.

Гаспадар адчыніў фортку. Перада мной стаяў невысокага росту хударлявы чалавек, лысы ўжо, у цывільнай сарочцы, але ў накінутым на плечы фрэнчы з пагонамі палкоўніка — у такую спякоту. Пагоны здзівілі, і ў мяне мімаволі вырвалася:

— Ого!

— Што — ого?

— Ваш мундзір...

— Чужога не нашу. Як бачыце, па плячы. Хіба трохі шыракаваты, даўно шыў, на казённых харчах,— ён крыва пасміхнуўся. Каб выклікаць давер да сябе, я назваў сябе — прозвішча, імя, прафесію. Палкоўнік не здзівіўся — паверыў: пэўна, ведаў, што тут, на суседняй вуліцы, жыла мая сястра.

Сказаў не вельмі прыемнае:

— Прызнаюся, я не чытаў нічога вашага, але чуў, кнігу бачыў. Жонка мая захаплялася нейкім опусам у «Раман-газеце».

— Дзякую.

— Каму?

— Жонцы вашай.

— Я ведаў, што вы тутэйшы, мог пацікавіцца. Але прабачце — я тэхнар, хімік. Ды і не да прыгожага пісьменства было.

— Увайсці можна?

— А чаму не? Галіна Кузьмінічна будзе рада. Мы цяпер не часта бачым людзей, на базу ходзім паглядзець на іх, яны нам хлеб прывозяць, мае былыя саслужыўцы.

— Былыя?

— А вы думаеце, у арміі трымаюць такое старыччо? Чатыры гады адстаўнік.

— Таму і мундзір такі новы?

— Мундзір у мяне заўсёды быў новы. Узорны афіцэр!

Палкоўнік адступіў убок, і я пераступіў парог форткі. Ён гучна паклікаў:

— Галіна! Хадзі сюды! Паглядзі, хто заглянуў да нас.

Але жанчына выйшла не адразу, яўна ўбіралася. Якая жанчына выйдзе да гасцей у дамашнім халаце?

Я тым часам разглядваў палкоўніка. Безумоўна, яму было за пяцьдзесят, хоць зморшчыны яшчэ не збрознілі яго твар. Для яго ўзросту мог бы здацца маладжавым, каб не адна адмеціна: правую скроню і шчаку не... не абпаліў, а як бы ўеўся ў яе порах — тры астраўкі сіняга россыпу; блізкасць ад вока адной такой парахавой плямы надавала

самаму воку зусім іншы колер, іншы бляск і як бы касавокасць, хоць у сапраўднасці яе не было.

— Я сваё імя назваў. Хацеў бы ведаць і ваша.

Палкоўнік надзеў фрэнч у рукавы і тады працягнуў руку.

— Што ж, будзем знаёмыя. Павел Паўлавіч,— а прозвішча як праглынуў: — Пятрэнка, Тарэнка?

Я сказаў:

— У мяне брат быў Павел. Загінуў на вайне. Дзе пахаваны — я так і не знайшоў. Колькі пісаў у архіў!

Мы спыніліся на ганку, чысценькім, пафарбаваным у колер квецені сланечніку ці астры.

— Прабачце за лабавое пытанне... Прафесія!.. Што вас заставіла застацца тут? Пратэст?

— Пратэст? — Павел Паўлавіч задумаўся.— Пратэстантам я ніколі не быў. Што гэта? Пратэст? Не, не згаджаюся. Я вам скажу, што мяне прымусіла. Лінія.

— Якая лінія?

— Па якой я ішоў усё жыццё. Не толькі я. І бацькі мае. Скажу гучныя словы: і народ мой.

— Вы беларус?

— Магілёўскі.

— Што ж, па-вашаму, народу, каб ён трымаўся гэтай лініі, не трэба было адсяляцца з зоны? Рызыкаваць дзецьмі?

— Вы прамалінейна зразумелі мой адказ. Лініі бываюць прамыя і крывыя.

— У вас якая?

— У мяне? — Ён на імгненне задумаўся: — Вы заганяеце мяне ў кут. Хто думае, якая ў яго жыццёвая лінія? Я лічыў, што жыву, як жыў мой бацька. І якая ў яго была лінія? Не, у мяне не такая. У мяне, бадай, зігзагападобная. Не. Эліпсоідная. Замкнёная крывая. Цяпер яўна замкнёная. Вы геаметрыю вучылі?

— Даўно.

— Эліпсоідная. Але дзе ў ёй фокусы! І ці аднолькавая адлегласць да фокуса ад гіпербал і парабал жыцця?

— Для мяне гэта залішне мудра. Я заўсёды трымаўся класічнай формулы: «Аркадий, не говори красиво».

— Якая там красата! Мудрагельства старога тэхнара. Трэба ж і мне паказаць свой розум.

З дому выйшла жанчына, апранутая яўна не па пагодзе — дзеля госця: у чорнай сукенцы, у чорных чаравіках. У яе быў маладжавы прыемны твар, па якім цяжка вызна-

чыць узрост, але выдавалі валасы: снежна-белыя, такія бываюць хіба ў семдзесят. Яна, як бы збянтэжыўшыся, павіталася.

Павел Паўлавіч з дзіцячай таямнічасцю, яўна з прадчуваннем жончынага здзіўлення, спытаў, ківаючы на мяне:

— Галя! Адгадай, хто гэта?

Яна блізарука ўгледзелася ў мяне і... назвала маё прозвішча, імя, імя па бацьку. Здагадалася? Бо каго яшчэ з незнаёмых мог так прадстаўляць муж? Ці помніла мой партрэт на вокладцы «Раман-газеты»? Але калі тое было — дваццаць гадоў назад! Ды і тады ўжо было жаданне даць фота сябе маладзейшага, браў грэх на душу, каюся... Дзіўна, што за пэўнай рысай такога жадання не ўзнікае: прымай, чытач, мяне такога, які я ёсць — сівы, азызлы.

— Што ж ты не запрашаеш госця ў хату? — спытала Галіна Кузьмінічна, так яна назвала сябе, калі паціскала маю руку.— На двары сёння душна. А там прахалода. Пабачыце, як жывуць два схімнікі,— яна горка ўсміхнулася.

— У мяне ў машыне дамы.

— А мы і іх запросім,— і пайшла на вуліцу.

Палкоўнік не паўтарыў запрашэння, але мне цікава было глянуць, як жа жывуць гэтыя два дзіўныя чалавекі, і я ўвайшоў у калідорчык, адкуль зазірнуў у веранду, дзе ўсё — стол, крэсла, канапа — ззяла чысцінёй, але адтуль дыхала гарачынёй.

— Тут лазня. Тут у дожджык прыемна пасядзець... Па даху барабаніць...

«Аднаму пасядзець?» — хацелася спытаць мне, але чамусьці пытанне такое здалося бестактоўным, і я змаўчаў, сапраўды, было недарэчным гуллівым жартам спытаць: «З кім пасядзець?» Увайшлі ў дом. І зноў уразіла чысціня і парадак. Невялічкая прыхожая, якая пэўна была і сталоўкай, бо злева праз адчыненыя дзверы віднелася чысценькая кухня. Убачыўшы, што я кінуў туды зацікаўлены позірк, гаспадар растлумачыў:

— Цесна ў нас там. Раней стаяла газавая пліта. А цяпер мусілі скласці дзедаўскую — на дровах. Атручваем паветра нуклідамі... Але было б той бяды, каб мы адны. Дровы з гэтага лесу... а там,— махнуў рукой не на захад — на поўнач,— узровень яшчэ вышэйшы... і адтуль возяць дзесяць, калі не больш, сёл. Знаеце, людзі падсвядома жывуць па маёй тэорыі.

— А якая яна, ваша тэорыя?

— Доўгая песня.

Мы ўвайшлі ў пакой, які ў горадзе, у прыстойных кватэрах, называюць залай. Прасторны пакой. З гарадской мэбляй. З тэлевізарам. Толькі на сценах па-сялянску — мноства фатаграфій; у цэнтральным прасценку — вялікі каляровы партрэт капітана, вельмі падобнага на маці, якую я толькі што ўбачыў. Цяпер праз адчыненае акно чуў яе голас — яна размаўляла каля машыны з маімі жанчынамі.

Нейкае чуццё, асаблівасць якога немагчыма растлумачыць, стрымала мяне ад пытання:

«Сын? Дзе ён цяпер?»

Не, бадай, стрымала іншае: мне здалося, што я нядаўна сустракаўся з гэтым хлопцам. Дзе? Калі?

Пасля ў машыне ўспомніў — дзе.

Я спытаў пра галоўнае:

— Павел Паўлавіч! Бог з ёй, з тэорыяй. Але па сваёй прафесіі мне цікава ведаць, што ж усё-такі прымусіла вас застацца на гэтым, прабачце, папялішчы.

— Песня сапраўды доўгая. І сумная. Але калі маеце час...— і ашаламіў нечаканым пытаннем: — Вы гарэлку п'яце?

— У мікрадозах. У маім узросце...

— А я раней зусім не піў. А цяпер часам цягне. Во і цяпер пацягнула. Каб з вамі. Хваліцца буду, што піў з самім... Маўчу, бачу, што вам гэта не падабаецца. Разумею, што слава — нялёгкая ношка. Дык вып'ем? У вас жа шафёр...

— Хіба так... сімвалічна... За знаёмства...

Палкоўнік умомант выставіў з серванта на стол прыгожы графінчык, поўны празрыстай вадкасці, і нізкія пузатыя, з тоўстага шкла, чаркі.

— Закусваеце? Галя дасць.

Пачаў наліваць, і я ўбачыў, як у яго задрыжэла рука.

«Выпівае адстаўнічок,— падумаў я.— Не, відаць, умерана. Жонка не хавае пітво. Разумная жонка: разумее, што калі хаваць, то і ён будзе хаваць, а схаваць ёсць дзе — і ў двары, і нават у лесе, і ў тайніках будзе браць лішку. А так адкрыта возьме чарку, другую... не больш».

Павел Паўлавіч і тут як бы апраўдаўся:

— Некаторыя вучоныя сцвярджаюць, што гэтая святая вадзіца выводзіць нукліды. Паверым. Трэба ж хоць якое суцяшэнне. Ну, за знаёмства. Творчых поспехаў вам.

— Дзякую. За вас. Каб ніякія бэры...

— Мы адужаем і бэры! На здароўе.

Выпіў ён зусім не прагна, не як алкаголік, якія хапаюць чарку дрыжачымі рукамі і выплёхваюць пойла ў рот, як у цэбар.

Ад машыны ішлі гаспадыня і мая жонка. Павел Паўлавіч не схаваў графінчык і не спяшаўся наліць па другой, пакуль жанчыны гаварылі на двары, пагаварыць было пра што: не было град, жывёлы, але паўгарода было засеяна кветкамі.

У маёй жонкі незнаёма расшырыліся вочы, калі яна ўбачыла, чым мы займаемся праз пятнаццаць мінут знаёмства.

Галіна Кузьмінічна не здзівілася. Больш таго, папракнула мужа:

— Паша, што ж вы без закусі? — і да мяне: — Можа, паабедаеце? Не бойцеся, харч у нас чысты. Прывозім з Гомеля. Калі ён там чысты.

— Я нічога не баюся.

Але мая жонка рашуча запярэчыла:

— Не, не! Што вы! Нам яшчэ наведаць пляменніцу трэба... у Гомелі. І засветла даехаць да Мінска. Не люблю ехаць уначы.

— Ну, вось... А ў двух словах эпапею нашу не раскажаш,— уздыхнуў Павел Паўлавіч.

— Слухай,— пачаў маліць я жонку.— Толькі ты можаш уявіць, як патрэбна мне знаць, што прымусіла людзей застацца ў гэтай ляснoй пустэчы.

— Не, не! Не хітруй. Знаю, што цябе цікавіць кожны новы чалавек. Але ўсіх не праслухаеш. Паехалі. Стары чалавек у машыне. Самлее.

— Шкада,— сказаў палкоўнік,— а я было ўжо настроіўся на споведзь... Сумную... Але што ў наш час вясёлае?

— Паша! А калі даць пісьменніку твае запісы? — спытала Галіна Кузьмінічна.

— Адзінага экземпляра я не вазьму! — рашуча сказаў я.— Я знаю цану рукапісу.

— А хочаце, я перадрукую на машынцы?

— О-о! Глыбока буду ўдзячны.

— Галя працавала ў штабе машыністкай,— растлумачыў Павел Паўлавіч жончыну прапанову.

А ў мяне ажно вочы загарэліся і ўчасцілася сэрца, як у паляўнічага, які ўгледзеў не зайца, на якога паляваў, а лася ці мядзведзя.

— Мець сваю машыністку — гэта шчасце,— сказаў я, ускосна хвалячы сваю жонку, якая надрукавала многія тысячы старонак маіх сачыненняў.

— А пішаце яшчэ? — спытаў Павел Паўлавіч.

— Пішу. Не разумею тых, хто пад старасць спыняецца. Для мяне спыніцца — канец... Заказвай музыку.

— Я разумею вас,— сказала Галіна Кузьмінічна.— І зайздрошчу вам. Вашы мыслі будуць жыць вечна.

— На вечнасць не разлічваю.

— Выпіце яшчэ па чарцы. Я дам вам каўбаскі. Салямі. Імпартная.

Мы выпілі яшчэ па дзве чаркі — бог тройцу любіць, і развіталіся, як добрыя даўнія сябры, толькі што не пацалаваліся. У машыне я спытаў у Машы:

— Прышле?

— Рукапіс? Мне яна спадабалася. Чалавек слова.

— Верны чалавек. Жонка верная.

— Ды ўжо ж верная — застацца тут...

— Ты звярнула ўвагу на партрэт сына? На яе падобны. Мне здалося, што піша ён, каб ушанаваць памяць яго. Не павярнуўся ў мяне язык. Але калі трэба расказаць людзям пра сына — прышлюць...

Ды праз месяц я страціў надзею. Напамінаць не адважыўся. Але яшчэ праз месяц атрымаў бандэроль з адваротным адрасам не базы, не ішла туды пошта — суседняй «чыстай» вёскі.

Чакаючы рукапіс, я трохі баяўся, што атрымаю тысячу старонак. Ветэраны вайны, мемуарысты, падобныя гэтаму палкоўніку, пішуць ненатуральна доўга — па тысячы і дзве старонак, не думаючы, што такі аб'ём не пад сілу ні аднаму выдавецтву, калі нават па зместу матэрыял і варты ўвагі.

Не, прысланы рукапіс быў невялікі — старонак дзвесце. Аўтар лаканічны, але літаратурным талентам не вызначаўся, недарэмна называў сябе тэхнаром. Напрыклад, дыялога ўвогуле не ўжываў, размовы пераказваў.

«Ён сказаў мне, што я павінен» — і гэтак далей.

Рэгістрацыя фактаў — даволі пісьменная, пратакольна дакладная. Найлепшыя старонкі — разважанні афіцэра пра службу сваю, пра таварышаў. І асабліва — пра сына. Не хапала дыялога, а без яго дзея нерухомая, людзі статычныя. Форму захаваў — расказ самога героя.

Карацей кажучы, запісы палкоўніка я белетрызаваў. Законы жанру патрабавалі пэўнага вымыслу. А калі вымысел, то — абагульненне і тыпізацыя. А гэта вымусіла даць герою літаратурнае прозвішча, сугучнае яго сапраўднаму, але новае. А інакш чалавек мог і не прыняць

аўтарскую трактоўку фактаў яго біяграфіі, падзей, людзей, якія ўплывалі на яго жыццёвы лёс. Натуральна, што і прозвішчы гэтых людзей прыйшлося мяняць.

І вось што атрымалася: аповесць пра лёс афіцэра арміі, якую злачынна знішчылі. А можа, гэта не пра аднаго афіцэра, а пра ўвесь афіцэрскі корпус? Біяграфія ў кожнага індывідуальная. А трагедыя агульная — адна ва ўсіх.

## На краі свету

У пагранічнікаў былі людзі, якія валодалі японскай мовай, яны пачулі па радыё і перадалі нам, што набліжаецца тайфун. Я яшчэ не ведаў, што гэта такое, не, ведаў, безумоўна, але чыста тэарэтычна, па школьных падручніках. І ў мяне нават з'явіўся малады азарт: убачыць на свае вочы гэтага «звера»: які ён?

Мы з Галяй і Жэнем прыехалі сюды два месяцы назад, і нам усё было цікава на гэтым самым паўднёвым востраве Курыл; у адзін сонечны выхадны мы кампаніяй ездзілі на крайні мыс Кунашыра і ў бінoклі глядзелі на японскі бераг, на востраў Хакайда. Пачуцці мелі надзвычайныя: гонар — во дзе мы, савецкія! І трохі нават страшна — як далёка ад зямлі! Страх гэты выказалі не афіцэры — іх жонкі. Ці не першая мая Галя? З іх пасмяяліся. Афіцэры былі задаволены: далёка, але пачэсна.

Гарнізон наш — ракетнай часці — размяшчаўся на заходнім беразе вострава, некаторыя, можа, нават і суцешна жартавалі: «Бліжэй да зямлі». Быццам не на Зямлі стаялі — на Марсе. Сапёры яшчэ задоўга да нас высвідравалі ў граніце шахты, склады, бункер каманднага пункта, бадай, больш трывалы, чым бункер Гітлера. А сем'і размяшчаліся далёка не так камфортна: у дашчаных бараках і ў былых хіжынах японскіх рыбакоў, якія здзіўлялі лёгкасцю пабудовы: такія вятры, тайфуны, зіма, няхай з невялікімі маразамі, неглыбокім снегам, але зіма, а ў хіжынах нават добрых пячэй не было, бачылі мы іх — ачажкі, жароўні — у аддаленых ад гарнізона і нікім не занятых паселішчах. Я сам склаў у сваёй хаціне адмысловы камін, каля якога любілі пасядзець афіцэры — пагуляць у карты, а часам і па чарцы ўзяць.

Пра тайфун я пачуў ад сувязістаў і не сцярпеў — падняўся з каманднага бункера на паверхню, хоць добра ведаў, што тайфун можа ісці да нас яшчэ суткі, але стара-

жылы казалі: было, што прыходзіў і праз гадзіну пасля папярэджання. Выходзіць, і акуратныя японцы не маюць дакладнасці ў вымярэнні стыхіі, яе хуткасці.

Абавязкі мае, акрамя дзяжурстваў па гарнізону, не былі строга нармаваны. Сярод ракетчыкаў, сувязістаў я быў адзіны па сваёй прафесіі: афіцыйна — ваентэхнік па ахове зброі, механізмаў ад хімічных пашкоджанняў. Інжынера не было. Я, як кажуць, вышэйшы начальнік — камандзір без войска. Не, і войска было — ажно цэлае аддзяленне, адзінаццаць чалавек. Знясіленыя баявой вучобай салдаты зайздросцілі гэтаму падземнаму аддзяленню: маўляў, на пуп не бяруць. Сапраўды, ракеты мы чысцілі, змазвалі толькі тады, калі прыляталі высокія спецыялісты — інжынеры. А наземных механізмаў — аўтамабіляў, трактароў, цягачоў і іншых машын было нямнога. Ля электратурбіны і генератараў дзяжурыла асобая пастаянная каманда, праўда, пры тэхаглядзе мы ім памагалі. Лічылася, што я і мае людзі спецыялісты па змазцы. Нам зайздросцілі і зняважліва называлі «мазутчыкамі». Я не крыўдаваў: мазутчык дык мазутчык.

Пра галоўны абавязак невялікага падраздзялення знялі хіба афіцэры — запраўка ракет палівам перад баявым пускам. А гэта вельмі нялёгкая і небяспечная працэдура. Кампанент паліва і акісляльніку надзвычай агрэсіўны. Працаваць належала ў гумавых камбінезонах і процівагазах. На вучэбных запраўках мала хто з салдат вытрымліваў паўгадзіны — траціў прытомнасць. Таму частыя трэніроўкі былі кароткія. Хлопцы мае пры вучэбным напаўненні ракеты з менш актыўным палівам па дзве гадзіны адлежваліся. І сам я выбіраўся з шахты ледзь жывы.

Я ішоў па пасёлку, калі ў рэпрадуктары пачуў голас камандзіра палка Касцюкова. Тое, што тычылася службы, па рэпрадуктары, бадай, ніколі не перадавалі, хіба часам выклікалі кагосьці з афіцэраў. Перадавалі цывільныя аб'явы: які кінафільм, калі адыходзіць аўтобус з дзецьмі ў школу ці за пакупкамі ў Галаўніно — гэта для нашых няшчасных жонак, якія марнелі без працы, магазінаў, рынку. Але шчасце такое — паехаць у горад — ім выпадала не часта, разы два ў месяц, хоць да гарадка таго нейкія дваццаць кіламетраў. Некаторыя ездзілі на веласіпедах. Шчаслівыя былі тры жанчыны — жонка нампаліта Гаркуна і дзве яе сяброўкі: нампаліт прывёз на востраў старога «Масквіча». Палкоўнік Касцюкоў, у распараджэнні якога была службовая «Волга», жыў без сям'і: жонка жыла ва

Уладзівастоку, бо трое іх дзяцей вучыліся ў інстытуце і ў старэйшых класах школы.

Палкоўнік бадай ніколі не выступаў па ўнутрыгарнізонным радыё, таму голас яго прымусіў спыніцца ўсіх, хто ішоў, працаваў; узвод, які займаўся страявой на пляцы, застыў.

— Таварышы афіцэры, жонкі! Набліжаецца тайфун! Забярыце з узбярэжжа дзяцей. Пакіньце прыбярэжную паласу і месца адпачынку пад соснамі. Па магчымасці схавайцеся ва ўкрыцці! Страявую падрыхтоўку спыніць! Усім заняць свае месцы!

Я не кінуўся ў склад, дзе пастаянна размяшчаліся мае «мазутчыкі»: у гэтае падзямелле не заляціць ніякі віхор, ніякая хваля не дастане ракетнае і аўтамабільнае паліва і змазкі.

Я адразу падумаў пра Жэню, сына нашага, сямікласніка. Вось ён пэўна ж на беразе, з сябрамі, іх трое неразлучных, хоць Вася Старыкаў і Вітаўс Марцінкавічус на год маладзейшыя за нашага. Кінуўся ў хату. Галі не было. Ці чула яна паведамленне? У гарах — мора брусніц, і жанчыны спаборнічаюць у нарыхтоўцы вітамінаў.

Сігаючы праз пяць усходцаў, выбітых у скале, зляцеў на прыбярэжную паласу — выдатнейшы пляж. Але ён быў пусты. Хмарны дзень. Ды хмары плылі з поўначы і вецер паўночны, а тайфун ідзе з поўдня з Кітайскага мора. І калі прыйдзе? Ці варта хвалявацца?

Але часам ён прыходзіць нечакана. Недарэмна ж так трывожна прагучэў голас камандзіра палка. Я бег да павароткі скалістага берага, дзе ў бухце быў яшчэ лепшы пляж, і жанчыны, і дзеці часцей загаралі там. Дабегшы да павароту берага, я ўбачыў Галю і жонку капітана Квашы Хрысціну. Яны бестурботна гулялі па беразе, ішлі адзетыя, але босыя. Убачыўшы мяне, кінуліся бягом насустрач.

— Што здарылася, Павел? — крыкнула Галя.

— Тайфун!

— Ой! А мы спалохаліся — вайна.

І гэта не было жартам. Тайфун іх не спалохаў, а пра магчымасць вайны гаварылі, думалі пра яе і ваенныя і цывільныя — увесь народ. Ішла вайна ў В'етнаме, амерыканцы высадзілі на паўвостраў паўмільённую армію. Натуральна, што мы трымалі баявую гатоўнасць. Хто не быў у гэты час у арміі, асабліва на Далёкім Усходзе, таму не зразумець, у якой напружанасці жылі і мы, вайскоўцы, і нашы сем'і. Нервы — што напятыя струны. Кожны сігнал

трывогі ўзнімаў не толькі афіцэраў і салдат, але і малых дзяцей, нават ім, першакласнікам, перадавалася насцярожанасць, яны разам з дарослымі дыхалі навальнічным азонам глабальнай небяспекі: гаварылі ж маці, што атамная вайна — канец свету, што ў такой вайне не толькі згіне ўсё жывое — згасне сонца. Мы, афіцэры, каб разрадзіць атмасферу страху, жартавалі, але гэта былі жарты шыбенікаў: у кожнага з нас сэрцы драпалі не кошкі — тыгры. Баяліся мы не за сябе, за жонак сваіх і дзяцей. Здаралася, што нервы не вытрымлівалі. Малады лейтэнант Вася Стрыжоў, толькі з вучылішча, нежанаты яшчэ, зламаўся, звіхнуўся на ідэі, што чакаць нельга, што нам трэба першымі націснуць «атамную кнопку». Ракетчык ведаў, што нашы ракеты сярэдняй далёкасці — хіба што да Токіо, ды і на пульце пуску трайная ці чацвярная страхоўка — мала хто ведаў, на якім камандным пункце — дывізіі, арміі? — галоўная кнопка. Але няшчасны Вася спачатку выказваў сваю ідэю, насцярожыўшы найбольш сур'ёзных і пільных ракетчыкаў, пасля пачаў чарціць схему — як абысці кантрольныя пульты, замкнуць на пуск. Калі прыляцелі ўрачы забраць Стрыжова, ён на поўны голас раскрыў сваю хваробу, крычаў камандзіру палка, нампаліту, усім, хто быў у штабе:

— Дурні вы! Дурні! Не разумееце. Вы ўсе згарыце тут у гэтых скалах! І попелу не застанецца. А я мог ратаваць вас. Трэба апярэдзіць іх! Трэба апярэдзіць іх!

Пакуль ён выказваўся глыбакадумна, тэарэтычна, з яго амаль усе кпілі, пачаў чарціць схемы — устрывожыліся, а развітальныя словы яго ашаламілі. І зноў-такі не столькі нас, афіцэраў, колькі жонак. О, нашы жонкі! Ніхто яшчэ не напісаў праўды пра іх жыццё на далёкіх астравах, у Магадане, на Камчатцы, у тундры, тайзе! Думаю, такое жыццё маглі вытрымаць толькі жанчыны рускія. Чаму рускія? Галя — беларуска, Марта Марцінкавічус — літоўка, Хрысціна Кваша — украінка. І так усюды! Некаторыя, нямногія, зрываліся: адна пускалася ў блуд, чаго ў гарнізоне нельга было схаваць і што канчалася разводам і выгнаннем блудніцы; другая пачала маліцца, робячы не меншыя непрыемнасці мужу-камуністу. А чым ім заняцца ў такіх гарнізонах? Гэта яшчэ шчасце, што можна пахадзіць босымі па цёплым пяску каля ласкавага мора. Ласкавае...

— Дзе дзеці? — крыкнуў я.

Галя бывала надзіва спакойная ў самыя крытычныя хвіліны.

— А што здарылася?
— Тайфун!
— Дзе ён, твой тайфун? Пабачыць бы, што за ён.
— О, я бачыла! — сказала Хрысціна.— Гэта непрыемна. Думала, знясе нашу хібару.
— Дзеці палезлі ўгару.
Супакоіўся. Але на хвіліну — не больш. Глянуў на мора і ўбачыў незвычайнае, чаго да таго не бачыў: спакойнае ля берага, на краі далягляду яно як бы распухла, узнялося на дыбкі. Міраж? Падман зроку? Не! Прывідаў я яшчэ ніколі не бачыў!
Схапіў жанчын за рукі.
— Хутчэй угару! Хутчэй!
— Што здарылася?
— Цунамі!
— Што? Якое цунамі? Табе сняцца японскія словы? Ты і ў сне іх вымаўляеш.
Я ездзіў да пагранічнікаў, браў урокі японскай мовы; Галя і ўсе мае сябры жартавалі з мяне, называлі: «Павеці-Павецю-Вятрусі — Павел Паўлавіч Вятрэнка».
Я ўзлаваўся на дурную бабскую бестурботнасць і... мацюкнуўся, чаго ў прысутнасці жонкі і другіх жанчын не рабіў. Тады да іх, пэўна, дайшло, што я не жартую, і яны, не аднімаючы рук, спрытна караскаліся па парослым калючымі кустамі абрыве; сцежкі тут не было.
Ускараскаўшыся, на маю думку, на небяспечную вышыню, я, задыханы, спыніўся, ды і Хрысціна замаліла:
— Дай адпачыць, Павел. Сэрца выскача. Дзе тваё цунамі?
Азірнуўся, і пухліны на моры не ўбачыў, можа, таму, што ўбачыў іншае: па беразе бухты гналі мяч хлопцы, усе трое. І я кінуўся назад. Так разагнаўся па абрыве, што не мог «затармазіць», упаў, разбіў да крыві твар, падрапаў рукі. Я крычаў. Жэня і сябры ўбачылі ці то мяне, ці, хутчэй, жанчын, якія таксама крычалі, махалі рукамі. Хлопцы беглі да нас, не забываючы кідаць наперад мяч, каб дагнаць яго. Кульгаючы і ўжо бадай заспакоены: дзеці — во яны! рукой падаць,— я выйшаў на вузкую паласу прыбярэжнай галькі. І тут мяне накрыў вадзяны вал. Я сёрбнуў салёнай вады, боўтаючыся ў жоўтай каламуці. Вал адхлынуў. Я апынуўся на паверхні і намацаў нагамі камяністае дно. Але дзе дзеці? Дзе дзеці? Азірнуўся. Вось яны! Дзякуй Богу. У хлопцаў спалоханыя твары, але яны шпарка плывуць да берага. Бліжэй да мяне — Жэня. І гэта зусім супакоіла. Не адразу сцяміў, што плыве

не трое — двое. Дзе ж трэці? Плаваць яны навучыліся добра. Хто той трэці, якога няма? Хто? І дзе ён? За Жэнем, адстаючы, плыў Вітаўтас, значыцца, няма Васі Старыкава.

Я падумаў, што за першай хваляй можа хлынуць другая, вышэйшая, яна можа аднесці хлопцаў назад далёка ў мора. Але мора павольна, як бы лянуючыся, адступала, агаляючы камяністае дно, як у час адліву.

Хлопцы сталі на ногі, пабеглі. А я стаяў у вадзе, ашаломлены адсутнасцю Васі. Жэня і Вітаўтас спыніліся, азірнуліся і тут угледзелі, што няма іх сябра — ні ў моры, ні на беразе. Жэня закрычаў:

— Тата! Тата! Вася! Мора знесла Васю. Ратуй яго! Ратуй!

А як ратаваць у такой стыхіі? Не такі я ўжо плывец: нарадзіўся і вырас у бязводнай вёсцы. Ды і дзе шукаць маленькага чалавека ў бязмежнай прасторы? Зацеплілася кволае спадзяванне, што новая хваля вынесе хлопца на бераг. Але новы вал, калі ён будзе вышэйшы, можа змыць і нас. І я закрычаў дзецям, каб лезлі ўгару, бо ідзе цунамі.

— А Вася? Вася?

— Слухайце маю каманду! Яго вынесе новая хваля!

Блізка ад вады былі ўжо Галя і Хрысціна. Галя схапіла Жэню ў абдымкі. Ім я таксама загадаў лезці на гару. Паслухаліся. Я застаўся на беразе.

Праз доўгі час — хвіліны праз тры — мора вярнулася назад, але ўжо не валам — сярэдняй хваляй, як у звычайны ветраны дзень, калі па загаду камандзіра палка забаранялася купанне; непаслухмяных салдат, аматараў вострых адчуванняў, садзілі на гаўптвахту за парушэнне загаду.

Мора прыйшло, але чалавека не вярнула.

Забрала чалавека, праглынула.

Зрабілі спробу знайсці. Узнялі трывогу. На бераг высыпаў увесь гарнізон — ваенныя, жонкі, дзеці. З Аляксеем Старыкавым і яшчэ з двума афіцэрамі — больш вачэй, узброеных біноклямі,— мы выйшлі на маторнай шлюпцы ў мора. Гадзіны тры паласавалі прыбярэжную паласу і ўпоперак і ўдоўж. Ажно пакуль сігнальнай ракетай і сцяжкамі нам не загадалі вярнуцца: набліжаецца тайфун. Хмары змянілі напрамак: апусціліся, імкліва ляцелі з поўдня. Пачарнела мора.

Счарнелы бацька, калі набліжаліся да бухты, на беразе якой стаяў натоўп людзей, заплакаў. Маёр Старыкаў, строгі і да салдат, і да сваіх хатніх, плакаў, як дзіця. І ні

ў кога з нас не знаходзілася слоў, каб суцешыць яго. Якія словы могуць суцешыць, калі чалавек траціць самае дарагое — роднае дзіця!

Тайфун перашкодзіў пошукам цела. Ён бязлітасна выў двое сутак. Сарваў дах з барака. А японскія хіжыны хісталіся, але вытрымлівалі напор ветру сілай у сто кіламетраў у гадзіну. Умелі японцы будаваць.

І ў такі вецер у дзённы час Старыкавы, бацька і маці, не адыходзілі ад мора, толькі глядзелі на яго з вышыні вягары, бо прыбярэжную паласу захліствалі хвалі. А ў вячэрні час мая Галіна і другія жонкі сядзелі ў Старыкавых. Галіна расказвала: Аляксей Пятровіч плакаў у адказ на суцяшэнні, а Марыя Іванаўна — як акамянела, не піла, не ела, сядзела, адлучаная ад усяго зямнога, і глядзела ў далёкую прастору — у мора, пэўна, якое пахавала іх адзінага сынка.

Казалі пасля знаўцы, што мне, астатнім дзецям, Галі і Хрысціне пашанцавала: гэта не было акіянскае цунамі, ад мацерыка не бывае знішчальнай хвалі, гэта была хваля ад землятрусу, які адбыўся кіламетраў за сто ў Ахоцкім моры.

Калі тайфун вытхнуўся і мора супакоілася, двое салдат-аквалангістаў ці не тыдзень ныралі ў мора і блізка ад берага і даволі далёка — шукалі цела. Ды дзе там! Лягчэй знайсці іголку ў стозе сена.

Трагедыя так напалохала Галю, што яна ні на крок не адпускала ад сябе сына. Спачатку на пляж — ані-ні. Ды Жэня ўзбунтаваўся: смерць сябра яго ашаламіла, але бязлітаснае мора не спалохала — у ім столькі спакус! Галя пачала хадзіць за ім на пляж. Але каму ў трынаццаць гадоў хочацца быць пад наглядам маці?! А Галю мора палохала, як сама смерць.

І гэта змяніла лёс нашага сына.

Вырашалі праблему: куды хлопца пасля сёмага класа? Сярэдняя школа была толькі ў Галаўніне ці Паўднёва-Курыльску, яшчэ далей. Туды не вазілі дзяцей штодня, вазілі толькі ў сямігодку пры штабе дывізіі, старэйшыя вучні жылі ў інтэрнаце, іх прывозілі толькі на выхадны.

Галя хацела, каб Жэня пайшоў у школу, а пасля — у медыцынскі інстытут; сама бібліятэчны работнік, Галя лічыла, што ў свеце няма лепшай, больш высакароднай прафесіі, як быць лекарам, лячыць людзей. А Жэня і слухаць не хацеў пра медыцыну, крычаў: «Не хачу я клізмы ставіць! Фу, брыдота якая!» Ён трызніў іншым — ваенным

вучылішчам. Бачыў цяжкую і аднастайную службу бацькаву, бачыў, як маладыя лейтэнанты штодня нудна маршыравалі па пляцы разам з салдатамі,— і ўсё роўна, ніштс яго не расчароўвала, не разбурала вайсковай рамантыкі. І мне гэта вельмі падабалася, я сам пачаў глядзець на сваю «мазутную справу» як бы вачамі свайго сына. Але, змазваю, засцерагаю метал ад карозіі. Метал ракет. Але пры баявой трывозе за лічаныя хвіліны напоўню ракеты баявым палівам.

У мяне ніколі і думкі не ўзнікала, як у таго няшчаснага Стрыжова, што, каб ратаваць сябе, мы павінны ўдарыць першыя. Не і не! Ніхто не мае права выкарыстаць страшэнную зброю! Але наша гатоўнасць, наш атамны шчыт стрымлівае ворага. Амерыканцы не могуць не думаць, што атрымаюць у адказ. Але ўвогуле, як бы мы ні думалі — агрэсіўна, абаронча,— усе мы, ваенныя і не толькі ваенныя, знаходзіліся пад страшным наркозам і па псіхічнаму складу недалёка стаялі ад Стрыжова.

Галя ледзьве не млела ад думкі, што сын пойдзе ў ваеннае вучылішча. А дзе яно? За тысячы кіламетраў! Я супакойваў яе тым, што праз тры гады скончыцца наша знаходжанне на краі свету і мяне перавядуць на вялікую зямлю, буду прасіцца ў Беларускую акругу, і, можа, пашэнціць трапіць у Мінск ці пад Мінск, дзе ёсць вучылішча.

Але Жэня не пераставаў палохаць маці. Пажыўшы каля мора, удыхнуўшы яго стыхію, хлопец ап'янеў, сябры падагравалі, і рэзка памяняў сваё жаданне: не марнець тры гады ў звычайнай школе, а пайсці ў... нахімаўскае вучылішча, маўляў, яно блізка — ва Уладзівастоку, усяго за нейкую тысячу кіламетраў. Сапраўды, нам там здавалася, што Уладзівасток, вялікі савецкі горад,— вось ён, побач, рукой падаць. Гэта дзіўнае адчуванне: свой горад блізка, а чужы, японскі,— Немура, да якога паўсотні кіламетраў, здаваўся ў недасягальнай далечы.

Трагедыя з Васем Старыкавым не астудзіла Жэневага жадання паступіць у нахімаўскае вучылішча, ён ірваўся туды і проста браў нас з маці зморам: калі мы яго павязём ва Уладзівасток? Ідзе лета, набліжаецца новы навучальны год. А ў маці не праходзіла марабоязь, яна стала хваробай, псіхічным комплексам. І я пакутліва шукаў выйсце з гэтай незвычайнай сітуацыі.

Правёўшы з Галяй тайную начную раду, я пераканаў яе згадзіцца на кампрамісны варыянт: уладзіць сына ў сувораўскае вучылішча. І каб лягчэй было яго ўгаварыць,

я выбраў далёкае, але вельмі блізкае нам, беларусам, вучылішча — Мінскае. А каб канчаткова пераканаць, я прыдумаў яшчэ адзін варыянт, выдатны: я спрабую паступіць у ваенна-інжынерную акадэмію; не паступлю ў гэтым годзе, паступлю праз год. Год вытрымаем. А там будзем побач з сынам. Бо колькі ад Масквы да Мінска! Па далёкаўсходніх мерках, што ад Марыніч, дзе нарадзіўся я, да Калажы, адкуль яна, Галя; у адну школу хадзілі. Да таго ж у Мінску мая сястра.

Жэню надзіва лёгка пераканалі. Мінск і яго прывабіў, хлопца, які нарадзіўся ў Чэлябінску, дзе я служыў адразу пасля вучылішча. Чатыры гарнізоны памянялі, пакуль я выслугоўваў трэцюю і чацвёртую зорачкі на пагоны. Нялёгка яны даставаліся, ох нялёгка! Ды не — малыя зоркі яшчэ нічога: малады быў, і Галя — вясковая дзяўчына, без прэтэнзій на раскошу; пад Іркуцкам нейкі час нават жылі ў зямлянцы, як на фронце. Увогуле, па-людску мы яшчэ нідзе не жылі, маю на ўвазе кватэру; тая японская хіжына на Кунашыры, якая хісталася ад ураганнага ветру, была для нас раскошай: асобнае жыллё — самі сабе гаспадары, свая кухня, свая спальня, і сыну куточак адгарадзілі. Я ж умеў усё зрабіць сам і Жэню вучыў, бо добра ведаў — яшчэ ад бацькі свайго,— якая гэта выгода, багацце — мець умелыя рукі. Мяне здзіўлялі і абуралі афіцэры (сустракаліся нават з тэхнічнай адукацыяй), якія не ўмелі адрамантаваць водаправодны кран. Так іх вучылі! Ды хіба толькі афіцэры? А настаўнікі? Іх навучаюць усім навукам, найвышэйшым матэрыям, а мужчына-настаўнік, асабліва ў гарадской школе, не можа прыбіць палічку, а жанчына — пацыраваць свае панчохі. Праўда, кажуць: бяда навучыць. Можа, і навучыць, калі панчохі гэтыя сталі каштаваць ледзьве не чвэрць месячнага акладу.

Аднак мяне пацягнула на «філасофію». Гэта прыкмета старасці, як кажа мой цяперашні сябра старшыня калгаса Хадынец.

Пра сённяшні дзень я яшчэ напішу. «У Бога дзён многа»,— казала мая маці, якая і дагэтуль жыве, урабляе гарод і трымае казу. У Бога пэўна што многа. А ў мяне? Эх, Павел! Не раскісай! Не панікуй! Дамовіўся з самім сабой і з гэтым сшыткам: ніякага ныцця! Крычаць напэўна буду — ад болю. Але мачыць слязьмі старонкі... Выплакалі мы з Галяй свае слёзы. Сушым вочы на радыяцыйным ветры, мы ж — Вятрэнкі.

Усё, хопіць! Вяртаюся з-пад сосен, што шумяць пад маім акном,— на Кунашыр, дзе шумела мора.

Ішло лета. Набліжаліся экзамены ў акадэмію ды набор у сувораўскае. Трэба было паспяшацца з выкананнем нашага праекта. Калі хто думае, што ён лёгкі, то памыляецца. Афіцэр — нявольнік. Жадаючых паступіць у акадэмію хапала, нават вышэйшых па званні. З нашага палка маёр аформіўся — страявік, ракетчык. Ён рабіў ужо другі заход, у яго былі мінулагоднія рэкамендацыі. Толькі мы, хто прайшоў па цернях армейскага жыцця, ведаем, што такое ваенная бюракратыя. Цывільны вольны ехаць куды хоча, стукаць у любыя дзверы, яму нават дазволена і па стале грукнуць, і яго за гэта з кабінета не выставяць. А ў нас — су-бар-ды-нацыя! Без яе нельга. Але жыццё служкам Айчыны яна атручвае ох як моцна!

Мне пашанцавала. Мой камандзір палкоўнік Касцюкоў зразумеў мяне. Я ўзяў яго шчырасцю: расказаў і пра Галіну хваробу, і пра Жэню, і пра свой намер вучыцца, можа, нават не таму, што мне вельмі хочацца стаць ваенным інжынерам вышэйшай кваліфікацыі, а таму, што так вымушае жыццё.

Я аформіў адпачынак, і мы пачалі збірацца ў дарогу — з краю Азіі ў цэнтр Еўропы, дзесяць гадзінных паясоў, паўшарыка трэба праляцець. А гэта нават пры тых самых танных у свеце авіябілетах — тры туды, два назад (не сумняваюся, што Жэню пакінем у Мінску) — улятала ў капеечку, якой у нас не было. А трэба ж яшчэ месяц жыць — у дарозе! Трэба падарункі родным прывезці. Сын, брат — капітан — прыляцеў ажно з Курыл. І — што? З пустым чамаданам? Галя нізашто не пагадзілася на такое лёгкае падарожжа, хоць і рвалася на радзіму, як ніхто з нас, мужчын: пачыналі гаварыць — яе ажно ліхаманіла.

Вымушаны былі пазычаць ва ўсіх афіцэраў, з кім былі ў блізкіх адносінах. Пазычалі нам неахвотна, даведаўшыся, што я збіраюся ў акадэмію. Паступлю — не вярнуся. Як спаганяць? Галю гэта прыніжала і абражала. Яна прапаноўвала ў залог свае каштоўнасці — пярсцёнак, кулон, завушніцы залатыя — падарункі яшчэ з вяселля, бацькоў, сваякоў, мае. У залог ніхто не браў. Купіць гатовы былі. Мусілі пайсці і на гэта. Я нават памяняў, з даплатай, свой швейцарскі гадзіннік на банальную штампоўку. На дарогу да Мінска неяк нашкрэблі. А назад спадзяваліся на бацькоў, маіх і яе, радавых калгаснікаў. Сорамна ў трыццаць шэсць гадоў з залатымі пагонамі

спадзявацца на старых бацькоў. Але што зробіш. Хто яшчэ можа выручыць, не хапаючы за горла? Толькі бацькі з радасцю памогуць — без умоў, без вяртання гэтых грошай. Пра свайго бацьку я нават цынічна разважаў: слынны сталяр, зарабляе не толькі ў калгасе, капейку добрую мае і, аднак, скупы, гэта ведалі і мы, дзеці, і суседзі, а маці з-за гэтага перажывала.

— Такога жмінду не грэх патрэсці,— сказаў я Галі.

Яна жахнулася:

— Як не сорамна, Паша? Я ў сваіх, калі вучылася, дзесятку не адважвалася папрасіць, бо ведала, што дзесятку гэтую маці пазычыць, каб пасля аддаць працай сваёй.

— Бо ведала. А я ведаў, што ў майго Паўла Міхайлавіча мелася панчоха. Навошта яму поўная панчоха? Менш грошай — лягчэй жыць.

Жэня рагатаў з маіх разважанняў. Галя дакарала:

— Чаму ты вучыш сына? Вось так ён будзе тваю панчоху трэсці.

— І правільна! Калі яна будзе ў мяне. Баюся, што яе ніколі не будзе.

У чым, у чым, а ў скупасці папракнуць мяне ў жонкі ніколі не было падстаў. Наадварот. Не, за траты я не віню яе, але траціць яна ўмела, аднак заўсёды разумна, пасялянску ашчадна, не абы на што, і, можа, не заўсёды купляла моднае, але заўсёды практычнае. Канфліктаў, якія здараліся ў многіх сем'ях, у нас ніколі не было. І праз пятнаццаць гадоў мы кахалі адно аднаго шчыра, проста, даверліва. І праз трыццаць з гакам... Цяпер, калі мы засталіся адны, па сутнасці, без людзей, у лесе, як у пустыні. Нам балюча, але нам не сумна. А галоўнае, мы нічога не баімся — ні начальства, ні зладзеяў, ні звяроў, ні радыяцыі; усе страхі ў мінулым. І гэтая адсутнасць, якой бы ні была боязь, дае адчуванне свабоды. Толькі каму яна трэба, такая свабода? Каму ад яе карысць? Не, такая свабода людзям непатрэбна! Манахі-пустэльнікі прыцягвалі ўвагу тым, што маліліся, людзям здавалася, што яны і іх грахі замольваюць. Галя моліцца. Калі ёй ад гэтага лягчэй — калі ласка, я заміраю, не дыхаю, калі чую, як яна становіцца перад партрэтам Жэні ці перад іконай Багародзіцы. Я маліцца не магу. Каму? За што? За якую божую ласку? Прасіць штосьці?.. Прасіць мне няма чаго. Прасіць не сабе — людзям? Гэта яны зробяць самі. І можа, іх пачуе Усявышні. Маёй малітвы не пачуў. Чаму? Да-

лёка я быў? На чужой зямлі? Са зброяй? Але я не забіваў...

Хапае гэтых думак у бяссонныя ночы. Няма чаго заносіць на паперу. Калі я пішу, я жыву! Мінулым? Але, мінулым! Бо толькі там, у маленстве, у маладосці, яно было, жыццё; гэта запозненыя патугі асэнсаваць яго. Менавіта патугі, бо які з мяне філосаф! І менавіта запозненыя, бо цяпер яны бясплодныя. Аднак жа пішу. Што гэта — душэўная патрэба? Жаданне пакінуць пасля сябе хоць які след? Не, не для ўшанавання сваёй асобы. Дзеля таго, каб застаўся хоць маленькі слядок тых, каго я любіў мацней, чым самога сябе, хто заслугоўвае больш, чым я, памяці блізкіх, кроўных. Можа, унукі нашы, народжаныя пляменнікамі, хоць чаму-небудзь навучацца. На нашым салёным і горкім вопыце.

Аднак хопіць «філасофіі». Думаю, шчыра напісаная хроніка нашага з Галяй жыцця-быцця таксама будзе пэўным чынам выяўляць яе, філасофію, зусім не ў іранічным сэнсе. Ёсць пісьменнікі, якія робяць доўгія філасофскія адступленні, як Талстой, а ёсць сачыніцелі, у якіх ніякіх адступленняў, толькі адно — жыццё герояў, як у Чэхава, але мне бліжэй і больш зразумелы апошні, філасофія чэхаўская даходзіць адразу, без натугі і панукі.

У школе я хораша пісаў сачыненні, лепш за мяне хіба Тамара Бажко. Настаўніца наша Яўгенія Анціпаўна выяўляла ў мяне літаратурнае прызванне, а Тамары філалагічную навуковасць! І — о лёс! Што мяне пацягнула ў хімію? У характарыстыцы акадэміі напісана, што я адукаваны спецыяліст па хімічнай і радыяцыйнай абароне. Прафесія, каб яна спрахла! Лічу, што медалістцы Тамары пашанцавала больш: ва універсітэт яна правалілася, не памог і медаль, «рукі» не было. Пайшла ў ветэрынарны і цяпер лечыць кароў, цялят, авечак. Далібог жа я зайздрошчу ёй: яна займаецца жыццёвай справай!

Галя нямала лятала — перакідвалі ж з гарнізона ў гарнізон і кожны раз — за многія тысячы вёрст. І ўсё роўна кожны раз дрыжэла перад палётам. Можа, таму, што ніколі не лятала сама — заўсёды з Жэнем, малым, падлеткам.

З Паўднёва-Курыльска да Уладзівастока тады ляталі яшчэ вінтавыя, не гатовы быў для турбінных лайнераў курыльскі аэрапорт.

Самалёт ішоў нізка над бурным морам, відаць былі ў ілюмінатар белыя грабяні хваляў. Гойдала бязлітасна,

нават загартаваныя пасажыры карысталіся папяровымі мяшкамі.

Боязь мора плюс гайданка давялі нашу няшчасную маму амаль да страты прытомнасці. Сцюардэса паіла яе лекамі. Напалохала нас з Жэнем. Баяліся, як яна вытрымае дзевяць тысяч кіламетраў, калі такая пакутлівая для яе адна тысяча. І яна баялася. Але селі ў Іл-62, узняліся на дзесяць кіламетраў, і Галя, акрыялая за колькі гадзін у аэрапорце, трымалася малайчынай.

— Як ты, мама? — заклапочана спытаў Жэня.

— Нармальна.

— Іншы самалёт.

— Над зямлёй ляцім.

Я пасміхнуўся: быццам зямля ўратуе, адна ўцеха, што астанкі могуць знайсці. Але жорсткі жарт свой пакінуў пры сабе.

У Мінску з аэрапорта, не заехаўшы да маёй сястры, кінуліся ў вучылішча. Нам пашанцавала. Прыняў мяне начальнік, генерал. Выслухаў. І вельмі, мабыць, старога служку кранула, што я ажно з Курыл прывёз сына ў Мінск, па дарозе дзесятак вучылішчаў было. Трохі здзівіўся, звычайна маці жадаюць, каб дзеці былі бліжэй.

— Чаму вы ў такую даль везлі?

— Я ж беларус, таварыш генерал. І маці... Дадому прывезлі.

— Для вас, афіцэра, дом — уся краіна.

— Вялікі. Але ж цягне ў малы — у бацькоўскі куток, на сваю зямлю. Без адчування малой зямлі няма адчування вялікай. Ці, ва ўсялякім разе, яно як бы ўкарочанае. Павінен ведаць чалавек свой выток. Вялікая рака пачынаецца [illegible] маленькага ручайка.

— Гэта праўда. Мяне таксама цягне на Кубань. Мару: пайду ў адстаўку — паеду. Не, на жаль, не паеду. Абжыўся тут. Жыллё, дзеці працуюць, унукі вучацца... Ды і народ беларускі добры, для яго ніхто не чужы, хто жыве, працуе побач.

На другі дзень Жэня праходзіў медкамісію. Праз тыдзень яго імя з'явілася ў загадзе па вучылішчы. Пад дзвярыма камісіі млела Галя. А я, паверыўшы генеральскаму абяцанню, сядзеў з раніцы да вечара ў Ленінцы — штудзіраваў хімію, матэматыку: не дазваляў сабе ў кіно схадзіць, у тэатр. І калі да бацькоў паехалі ў родны Крычаў, павёз з сабой чамадан кніжак, тут ужо больш па гісторыі і філасофіі — больш, чым патрабавала праграма ўступных экзаменаў у акадэмію.

Маці глядзела на мяне, згорбленага над кнігай, уздыхала, а то часам і слёзы выцірала. Чуў, як прасіла Галю: адрываць мяне ад кніг.

— Вочкі паслепіць.

Здаецца, усё вывучыў. Аднак мяне зрэзалі: конкурс у інжынерную акадэмію быў як хіба што ў медінстытут ці ў Маскоўскі фізіка-тэхнічны: тады яшчэ ўсіх прываблівала ядзерная фізіка. Дзівакі! Знайшлі прэстыжную прафесію!

Але кожная эпоха мае свае модныя захапленні і ў жыцці, і ў навуцы. На фінансавыя факультэты ў час маёй вучобы былі недаборы і ў інстытутах, і ў акадэміі. А што робіцца ў наш час? Карацей кажучы, давёзшы сына ў Мінск, мы з Галяй прамым рэйсам паляцелі да Хабараўска, адтуль да Паўднёва-Курыльска. За дарогу мая спадарожніца верная зблажэла. Жонкі афіцэраў, у каго не хапала такту, здзіўляліся:

— Дзе ж гэта ты так адпачывала?

І пусцілі плётку, што там, у далёкай Еўропе, яна зрабіла аборт. Дурні! Яна хацела другое дзіця, бо канчалася актыўнае жыццё: яшчэ пяць якіх гадоў — і выкінь мару пра дзіця. Я, дурань, не хацеў: абзавядзешся дзецьмі, забывайся на вучобу, заставайся «мазутчыкам». А вельмі хацелася расці. Цяпер толькі задаю сабе пытанне: а навошта?

Цяпер адно дзіця, бадай, узаконена, як у Кітаі тым. Тады цывільныя дазвалялі сабе раскошу мець двух, трох, а то і больш. Каб жыллё не лімітавала, то добра б рос народ беларускай зямлі. Афіцэры, маючы цыганскае жыццё — сёння тут, заўтра там,— і адно дзіцятка заводзілі не адразу. Абкрадвалі саміх сябе. Ах, як абкрадвалі! Не адзін пасля каяўся, як мы з Галяй.

Яна, жонка мая, змарнела не толькі ў дарозе, яна марнела і там, на Кунашыры. Яна стагнала ад адной думкі, што цэлы год не ўбачыць сына. І пазваніць нельга. Адны пісьмы. А Жэня пісаў іх лаканічна: заўсёды ўсё добра, жыву, вучуся.

А на самай справе, не ўсё было добра. Сястра мая напісала: уцякаў Жэня з сувораўскага, шукалі яго, як дэзерціра. Добра, што гэтае пісьмо першы прачытаў я і, вядома ж, Галі не паказаў. Акрамя душэўных пакут, былі і матэрыяльныя нястачы. Нядрэнны па тым часе меў я аклад, але былі мы ў даўгах, што ў шаўках. Жонкі крэдытораў не саромеліся перад чарговай паездкай у Паўднёва-Курыльск ці ў Галаўніно прыйсці і спытаць, ці не

можам мы вярнуць даўжок. Аддавалі апошняе. А самі сядзелі на нішчымніцы. Я яшчэ мог на дзяжурстве ў салдацкай сталоўцы пасёрбаць капусты ці супу пярловага. А Галя ў нейкія дні сядзела на хлебе і несалодкім чаі. Я жыў са страхам: не захварэла б на сухоты. А зіма і на самым паўднёвым востраве доўгай грады была няласкавая: няспынныя вятры, дажджы, за шчасце лічылі, калі марозіла, ішоў снег, падобны на наш, нагадваў роднае. Яму радаваліся дарослыя, а дзеці — асабліва. А мора шумела няспынна. І Галя баялася яго. Калі і вясна прыйшла і сонца прыгрэла, рэдка спускалася яна на прыбярэжны пясок, рэдка загарала, а купацца — не зацягнуць.

— Я ненавіджу яго, мора. Яно бязлітаснае.

А што не бязлітаснае? Людзі больш бязлітасныя! Літасцівы Бог? Але не верылі мы ў яго. Цяпер Галя верыць...

## Акадэмія радасці

Галя ажыла, расквітнела, калі ў наступным чэрвені мы селі ў самалёт, які меўся адвезці нас на Зямлю, так усе казалі — без слова вялікая, проста — Зямля, але мелася на ўвазе — з вялікай літары. І яе не ўкалыхала. А ў далёкай дарозе ад Уладзівастока да Масквы яна паводзіла сябе, што малая, якая ўпершыню ляцела: на Зямлі яе ўсё захапляла.

— Паша! Паша! Паглядзі! Якая гэта рака? Лена? Паша! Пад намі Байкал!

— Ты ж баішся над вадой ляцець.

— Над якой вадой? На той, што на зямлі, я не баюся.

— А мора не на зямлі — на небе?

Яна шчасліва смяялася.

А я халадзеў ад думкі, што калі зноў зрэжуць на экзаменах у акадэмію, то тады хоць не вязі яе назад — не перажыве. І вырашыў: не павязу, няхай жыве ў маёй сястры ў Мінску, побач з сынам. Цяжка было ўсведамляць, што разлуку са мной яна перажыве лягчэй, чым з Жэнем. Што ж, папакутваю год адзін. Жывуць жа халасцякі. Аднак сэрца рэзаў боль, што не буду бачыць сваю Галю цэлы год. Як мы зжыліся — як адно цэлае! Недарэмна кажуць: з любай ці любым рай і ў будане.

Зноў з аэрадрома кінуліся ў вучылішча, так не цярпелася Галі ўбачыць сына. Добра, што нас сустрэлі швагер і сястра, забралі рэчы і падвезлі нас да манументальнага гмаха на вуліцы Максіма Горкага.

Божа, як ён вырас, наш сын! Здалёк, у форме, я не пазнаў яго. А Галя сэрцам, мабыць, учула — ён! — і пабегла насустрач па доўгім калідоры.

Афіцэры, выкладчыкі, выхавацелі да такіх кранальных сцэн тут прывыклі. У сувязі з такой падзеяй — прылётам бацькоў ажно з Курыл — Жэню далі звальненне на цэлыя два дні.

На кватэры сястры Галя не магла наглядзецца на сына, у яе нават слоў не было, тыя, якія казала раней, малому, не падыходзілі, а новых, адпаведных узросту яго, яна не знаходзіла: перад ёй быў не хлопчык — мужчына.

А я, калі мы засталіся адны, спытаў у яго:

— А што гэта ты за фартэль выкінуў у снежні? Нам Маня пісала, ды маці я не паказаў, хапала ў яе перажыванняў. Ёй там нялёгка жылося.

— Не будзем успамінаць, тата. Што было — сплыло. Мне доўга калолі вочы, на кожным камсамольскім сходзе.

— А ўсё ж?

— Мяне пакрыўдзілі.

— Прывыкай, у арміі часта крыўдзяць.

— Але чаму? Чаму? — узлаваўся Жэня.— Самая вялікая, самая гуманная армія ў свеце!

— Крыўдзяць людзей усюды. На гражданцы — не менш.

— Але чаму да гэтага трэба прывыкаць? Здзіўляеш ты мяне, тата. Гэта ж талстоўства нейкае. Заехалі ляшча ў адну шчаку — падстаўляй другую, так? Ты можаш так?

— Не, і я не магу так. І я бунтаваў.

— Ну, вось, бачыш, і ты не можаш, а мяне вучыш.

— Я не вучу быць талстоўцам. Але я вучу спасцігнуць усю складанасць армейскага жыцця. Калі хто з цывільных думае, што ўсё наша жыццё — «раз-два», «направа», «налева», «марш», то вельмі ж памыляецца. Мала ёсць прафесій, дзе чалавек зносіў бы столькі нагрузак, і фізічных, і маральных. І калі ты выбраў гэтую дарогу — будзь гатовы да ўсяго. Да крыўд таксама. Не расчараваўся за год?

— Быў расчараваўся. Ад таго і зрыў быў — не вярнуўся са звальнення. Хацеў да вас ляцець. Але як? Без дакументаў? Першы пагранічнік схапіў бы за каршэнь: куды захацеў — на Кунашыр! Адумаўся. І цвёрда засвоіў: перш чым што зрабіць, чалавек павінен падумаць. Людзі мала думаюць.

Я засмяяўся.

— Ты робішся філосафам. У палітработнікі не хочаш? У палітвучылішча?

— Не. Не хачу. Прабач, бацька. Па-мойму, яны вымушаны гаварыць многа няпраўды ці паўпраўды. Я не магу так.

— Чытай. Думай. Але не рабіся падобным да тых, хто ставіць пад сумненне каштоўнасці, што заваяваны рэвалюцыяй, народам. Цяпер многа такіх развялося. Розныя дэсідэнты збіваюць моладзь з панталыку. Не слухай.

— Дзе нам слухаць! У тых тоўстых сценах? Дык праз іх крык аб дапамозе не пранікае. Але я табе скажу, бацька: слухаць, па-мойму, трэба ўсё, але мець свой розум. Свая галава — самы надзейны дарадца.

Наіўна, але сур'ёзна. Словы сынавы мне спадабаліся. Сапраўды, гэта разважанні не юнака, не вучня дзевятага класа — сталага мужчыны. Паспрабаваў успомніць: я так з кім-небудзь гаварыў нават пасля дзесятага класа, калі паступаў у ваеннае вучылішча?

Жэню адпусцілі на канікулы, і мы паехалі ў Крычаў да маіх бацькоў, і ён там прагна акунуўся ў вольнае жыццё — грыбы, ягады, рыбалка, але ўвечары і танцы ўжо, дзяўчаты, першыя захапленні. Галі чамусьці вельмі хацелася, каб ён выбраў сабе сяброўку са сваіх, як я выбраў яе з суседняй вёскі, са сваёй школы; пакуль я вучыўся ў ваенным, а яна ў Магілёўскім культпрасветным — перапісваліся. Скончылі вучобу ў адзін год, і я, прыехаўшы на пабыўку, павёз яе ў далёкі гарнізон — ажно ў Таджыкістан. У Галі нават тэорыя была, я смяяўся з яе: свае — з адной вёскі, адной школы, хутчэй і мацней родняцца, і роднасць гэта самая трывалая. Наіўна. Быццам свае — з адной вёскі, з адной школы — самыя моцныя пары. О, колькі гэтых «родных» жывуць, як кот з сабакам.

Жэня гойсаў па лузе, па лесе, да глыбокай ночы танцаваў ці, можа, ужо ціскаў маладыя «грушкі». Галя адняла ў матак, маёй і сваёй, гароды — не вылазіла з межаў. А я апантана грыз падручнікі — так, што маці, гледзячы на мяне, зноў выцірала слёзы. Я ведаў, што маю апошні шанц: яшчэ адзін правал на мяжы ўзроставага цэнзу — і дзверы акадэміі наглуха зачыняцца перада мной. Ды і ўсе вышэйшыя навучальныя ўстановы. І мая вышыня — маёр. Вышэй з сярэдняй адукацыяй не ўзнімуся. А калі паступаў у вучылішча, то марыў... пасмейцеся з мяне! — марыў пра залатыя зоркі генерала. А чаму смяяцца? І чаму саромецца прызнацца пра такую мару?

Па-першае, як казаў мой бацька: не Багі гаршкі лепяць. А яшчэ даўно-даўно мудры палкаводзец сказаў: кожны салдат носіць у ранцы маршальскі жэзл. Маршальскі! А генеральскі — то пэўна! Каб падтрымліваць сваю ўпэўненасць, я і сваім абвясціў за святочным абедам нібыта ў жарт, але гэта быў сур'ёзны жарт:

— Гадоў праз пятнаццаць — дваццаць на гэтай лаве, за гэтым сталом вы ўбачыце генерала.

— Доўга мне, сын, чакаць,— сказаў бацька.

А маці насмяшыла ўсіх, сумна сказаўшы:

— Навошта мне той генерал? Мне сын трэба, а не генерал.

Я таксама тады пасмяяўся з мамінай наіўнасці. А цяпер успамінаю яе словы і пераконваюся ў іх мудрасці. Мы гонім сваіх дзяцей да вышэйшых ступеняў вучонага, ваеннага. А навошта? Навошта табе гэта, працаўнік. Але якое значэнне, кім ён будзе: сталяром, трактарыстам, прапаршчыкам! Што мяне прымусіла ўладжваць Жэню ў сувораўскае? Курылы? Што школа далёка? Але ж вучыліся дзеці іншых афіцэраў, жылі ў інтэрнаце, дзяўчаты — усе. Чаму згадзілася Галя? Паездзіўшы па горных і таежных гарнізонах, яна зазнала ўсю слодыч вайсковага жыцця. Навошта ж ты пажадала такое адзінаму сыну? Знаю: прачытаеш — і горкім будзе табе гэты папрок. Але я не цябе папракаю, Галя, не! Сябе! Бо мая гэта была ідэя: уладзіць Жэню на ўсё гатовенькае. Выходзіць, зняць клопат з сябе? Не, мела значэнне мода: многія афіцэры марылі пра такую кар'еру сынам сваім — праз сувораўскае. Усе імкнуліся ў генералы. Хадзіў анекдот, што адстаўны палкоўнік, узяўшы добрую чарку, плакаў і праклінаў усё высокае начальства, што не далі яму даслужыцца да генерала. О, як гэта прываблівала — генерал! Цяпер я сумна смяюся з такога жадання свайго і ўсіх іншых!

Урэшце мне пашанцавала: акадэмія! Усе ўступныя экзамены здаў на «выдатна», і мяне залічылі слухачом акадэміі. Я магу апраўдаць сябе тым, што акадэмія рыхтавала інжынераў высокага класа; такі інжынер — усюды інжынер! Не тое што агульнавайсковыя палкоўнікі і генералы: ішлі ў адстаўку і маглі рабіць хіба што камендантамі інтэрнатаў, кіраўнікамі жэкаў не жадаюць іх браць.

Радаваўся не столькі я, колькі Галя. І не столькі таму, што не трэба было больш ехаць на край свету — на Курылы. Уяўляю, колькі яна пакутавала ад адной думкі, што мусіць зноў адляцець ад сына на дзесяць тысяч вёрст.

А Масква — Мінск — і самалётам не трэба ляцець, які яна ўсё ж не любіла, а сесці ў поезд, паспаць ноч — і ты ў сына, засумавала — вярнулася да мужа. Адзін ужо і як можна хутчэй, пазычыўшы грошы ў бацькі, я злятаў на Кунашыр — разлічыўся, развітаўся. Мне зайздросцілі. Аднак праводзілі ў Маскву, як касманаўта: сам камандзір палка вечарынку наладзіў, добрае слова сказаў, жанчыны кветкі ўручылі. Шчаслівым зайздросцяць. Але часта шчаслівых не любяць.

А я сапраўды быў шчаслівы. Не толькі ў тое лета. Усе пяць гадоў вучобы. У акадэмічным інтэрнаце мне далі маленькі пакойчык; з казённа-інтэрнацкага Галя зрабіла яго па-хатняму ўтульным, свойскім, пісьмовы стол купіла для мяне, кніжную паліцу: займайся, Павел, на здароўе. І я хадзіў на заняткі, як у храм. У акадэміі ўзаемаадносіны слухачоў і выкладчыкаў іншыя, чым у часцях камандзіраў і падначаленых,— інтэлігенцкія, таварыскія, нямала выкладчыкаў былі не вышэйшыя па званні, чым некаторыя слухачы, а такія прадметы, як руская мова, англійская мова, псіхалогія, логіка, увогуле выкладалі цывільныя дактары, кандыдаты; мовазнаўцы — амаль усе жанчыны.

Калі ў мяне надыходзілі напружаныя дні — экзамены, залікі, пісьмовыя тэарэтычныя працы, Галя ехала ў Мінск да Жэні. Ды і так яна ездзіла туды бадай жа штомесяц і жыла там па тыдню-два. Невядома, з кім яна праводзіла больш часу — з мужам ці паблізу ад сына, сувораўца не заўсёды выпускалі на спатканне з маці. Адна справа, калі бацькі прыехалі з Курыл, іншая — калі маці прыязджае з Масквы часцей, чым наведваліся бацькі з Барысава і Маладзечна.

У Маскве вольны час мы не трацілі марна — жылі інтэлектуальным, культурным жыццём: не прапусцілі ніводнай тэатральнай прэм'еры, абышлі, некаторыя не па адным разе, усе музеі. Галя захаплялася:

— Божа! Каб нам у культвучылішчы ўсё гэта паказалі, якія мы былі б масавікі! А то, што мы бачылі ў Магілёве!

Паступіла на завочнае аддзяленне інстытута культуры, Маскоўскага. Радасна, захоплена «грызлі граніт навукі» абодва. Сапраўды, радасна. Больш такой радасці не было.

Галя марыла, што ў гарнізоне, куды мяне пашлюць пасля акадэміі, яна будзе чытаць афіцэрам і салдатам лекцыі па гісторыі сусветнай культуры. Я, прызнаюся, скептычна глядзеў на такія планы яе: хто будзе слухаць

такія лекцыі — пасля пад завязку загружанага вучэбнага дня? Але я не расчароўваў яе. Я стараўся зрабіць іншае: заслужыць права застацца ў акадэміі — выкладчыкам. Ведаў: мара амаль недасягальная, ажыццявіць яе можна, маючы моцную і цвёрдую руку. Такой рукі ў мяне не было. Прафесары любілі мяне за стараннасць. Але хто з іх пачаў бы рыхтаваць сабе канкурэнта! Вучоны клан, у ваенных акадэміях асабліва, зліты так, што чужы выціскаецца з яго непрыкметна, арганічна, як чужароднае цела з жывога арганізма. Упраўленне кадраў прадстаўляла такога прэтэндэнта на чарговае званне, давала любы пост у лепшай акрузе ці ў групе войск, але — каб далей ад акадэміі. Тут нават геніі без патрэбы. Я гэта ведаў. Але чаму не памарыць? «Мечты, мечты, где ваша сладость?» Соладка памарыць — гэта ж незвычайная імітацыя шчасця. А можа, і стымул для дасягнення гэтага шчасця. Чалавек ператвараецца ў сухога прагматыка, калі траціць жаданне марыць. Яно само па сабе знікае — з гадамі ці ад жорсткага вопыту, ад udараў лёсу. Як у мяне зараз. Пра што я магу марыць? Што я жадаю? Анічога! Адно хіба, прагматычнае і мізэрнае: каб мяне не чапалі, каб мне далі жыць, як я хачу і дзе хачу. Дзе мы хочам: я не магу аддзяляць Галю, бо іншага жыцця ў яе не можа быць, як са мной, у гэтым злашчасным, але чартоўскі прыгожым лесе, пад гэтымі кашлатымі дубамі і гонкімі соснамі... І побач... Цяпер хіба я пра адно мару, як мы памром, будзем паміраць... Я не веру, што гэта здарыцца хутка, хоць я, як, можа, мала хто, знаю, што такое радыяцыя. Але менавіта таму, што я знаю многа, я не веру ў блізкую смерць. Так што дарэмна высяляльнікі ўсіх рангаў называюць нас самазабойцамі. Не, мы не самазабойцы! Мы тыя, хто лагічна працягвае сваё жыццё пад тым жа напружаннем, пад якім яно было бадай увесь час, у той жа «зоне». Я напісаў у «м ё р т в а й з о н е» і выкрасліў слова «мёртвай». Не, яна не мёртвая, гэтая зона. Але яна — з о н а.

Я не магу паскардзіцца на сваю армейскую службу, мне зайздросцілі — прафесіі маёй, росту ў званнях: мала не даслужыўся да генерала, аднак не плачу, што не атрымаў вялікую зорку. Я служыў у зоне. А ў зоне ўсе роўныя. Цяпер толькі я разумею, як мала значылі мае зоркі. З'явілася б на маіх пагонах маршальская зорка — і яна нічога не значыла б. Жыў бы я ў Маскве, а не ў лесе. Ну і што? Хіба Масква не лес? Ды не, лес павінен абразіцца,

што я параўноўваю яго з гіганцкім сметнікам! Я ў зоне, але я вольны. Гэта незвычайная небывалая за ўсю гісторыю чалавецтва з'ява: быць у зоне і жыць вольным. Я пачынаю разумець мудрасць Запарожскай Сечы, куды нельга было браць жонак, малых дзяцей. Казакі жылі ў «вольнай зоне». Пасля Сечы «вольныя зоны» былі хіба ў абарыгенаў Афрыкі ці Малайзіі. У нас «вольная зона» была хіба ў «таежным тупіку». Некалі, прачытаўшы нарыс Пяскова, я асудзіў старавера, які загнаў сям'ю ў такі тупік. Цяпер я разумею яго і не асуджаю. Але ў мяне няма таго шчасця, якое меў старавер і яго дзеці: яны верылі ў Бога і мала зналі, як пабудаваны свет, не зналі «цудаў» цывілізацыі. А я занадта многа знаю — пра ракеты, пра атамныя і вадародныя бомбы, пра радыяцыю. Дапусцім, у людзей хопіць розуму не кінуць бомбу. Але з мноства станцый, збудаваных у Еўропе, адна можа калі-небудзь узарвацца, як Чарнобыльская, і тады, калі не ўвесь кантынент, то частка яго, можа, самая цывілізаваная, ператворыцца ў зону — у такую ж, у якой жывём мы з Галяй. Адсяляцца не будзе куды. Смешнае гэта адсяленне: людзі ляснога пасёлка адселены за трыццаць кіламетраў у вялікую вёску побач з ваенным аэрадромам, на складах якога, магчыма, ляжаць і ядзерныя галоўкі. Праўда, некаторыя нацыянальныя мудрацы суцяшаюць сябе тым, што дывізія, па раздзелу, дасталася Расіі і хутка будзе выведзена. Наіўныя людзі! Думаюць, што,ывеўшы ўсе дывізіі, мы апынёмся ў большай бяспецы. Ці не заплачам мы ад гэтага гадоў праз пяць — дзесяць? Ніхто ж там, за бугром, свае дывізіі не распускае. Яны таксама жывуць у зоне. Усе ў зоне! І падобна, што людзям падабаецца такое жыццё. Хіба не парадокс?!

Мы дамовіліся з Жэнем, што пасля сувораўскага ён пойдзе ў ваенна-тэхнічнае — па бацькавых слядах. Але не я ўплываў на яго. Ды і ўгаворы маці наўрад ці маглі перадужаць высокапатрыятычны ўплыў выкладчыкаў, сяброў. Не параіўшыся з бацькамі, не сказаўшы нічога цётцы, праехаўшы міма Масквы, сын наш апынуўся ў Разанскім паветрана-дэсантным. Мора і неба — дзве хваробы, на якія хварэюць у семнаццаць — дваццаць гадоў.

Галя баялася мора і ратавалася ад яго — не сама ратавалася, сына ратавала. А пра неба мы і не думалі: у суворaўскім не той профіль, каб рэкамендавалі ў лётнае вучылішча. Мабыць, мы забыліся, што ў моду — у арміі таксама мода — уваходзілі паветраныя дэсантнікі.

Я, магчыма, прыняў бы спакойна сынаў выбар; у арміі ўсюды рызыка, нават у маёй прафесіі — інжынера-«мазутчыка»: увесь час лазіш па снарадах і ракетах, а некаторыя з іх начынены не толькі порахам, трацілам, ядзернай узрыўчаткай, але і гептылам і яшчэ больш страшнымі хімікатамі. Але незадоўга да Жэневага паступлення ў дэсантнікі я меў няшчасце быць сведкам трагічнага эпізоду. У часе стажыроўкі слухачоў акадэміі ў дэсантнай дывізіі пры вучэбнай масавай высадцы ў аднаго салдата не раскрыўся парашут. Гэта здарылася так блізка ад нас, што мы ўбачылі сплюшчаны труп юнака: у яго былі паламаны ногі, разбіты таз, але ўцалела галава, і мяне ўразілі яго вочы, шырока расплюшчаныя, поўныя жудасці: усвядоміў там, у паветры, што ратунку няма.

Здарэнне тое не давала мне спаць не адну ноч. Галя была ў Маскве, і я расказаў ёй, яна жахнулася. І натуральна, атрымаўшы ад Жэні тэлеграму, што ён у Разані ў дэсантным, мы з Галяй адначасова падумалі пра гэты нядаўні эпізод, хоць, як змовіўшыся, слова не сказалі пра яго, зрабілі выгляд, што не помнілі. Ведалі, што жаданне сынава не зменім: залічанага — не адклічаш, тым больш без яго згоды.

Прыйшлося маці змяніць маршрут паездак. Разань — бліжэй, але там не было сваякоў, а гасцініца дарагая, і не заўсёды туды можна трапіць. Я знайшоў сярод слухачоў разанца, там жылі яго бацькі, але цесна жылі, і Галя толькі начавала ў іх, а ўдзень, у асенні дождж, у зімовую сцюжу, блукала па горадзе блізка ад вучылішча, каб хоць на паўгадзіны ўбачыць сына. Жэня прасіў маці:

— Мама, з мяне смяюцца: «Ідзі, сыночак, мамачка прыехала». Ні да кога так часта не ездзяць. Як да пяцікласніка. А ты паглядзі, які я! Дэсантнік!

Хлопец вырас на галаву вышэйшы за мяне. Атлет. Гімнаст. Дзюдаіст ці самбіст. Далоняй цагліны перабіваў. Жалезныя пруты гнуў. Але для маці ён усё роўна заставаўся малым.

А я, адышоўшы ад страшнага прывіду, ганарыўся сынам. Пры сустрэчы спрабаваў настроіць яго: вучыся выдатна, каб атрымаў права адразу пасля вучылішча паступаць у акадэмію. Ведаў, што такое права існавала, але, па сутнасці, тэарэтычна. Да прыкладу, у інжынернай акадэміі ніводнага лейтэнанта не было, слухачы — не ніжэй капітана. А да капітана трэба яшчэ даслужыцца, не адзін пуд салдацкай кашы з'есці. Ды і сам Жэня хмыкнуў з маёй парады:

— А навошта вучыцца? Пакуль не пасівеюць вусы, як у цябе? А жыць калі? Хіба ў цябе жыццё?

— У мяне шчаслівае жыццё, сын. Толькі ў акадэміі я адчуў увесь смак яго. Мы з мамай жывём, як арыстакраты, як князі і графы ў дзевятнаццатым стагоддзі. Толькі што свайго выезду не маем. Але некаторыя маюць — сынкі генералаў.

Жэня іранічна пасміхнуўся.

— А то ж бачу я: маці наша падобна на графіню.

— Маці наша дзекабрыстка: за мной і табой яна паедзе на край свету. Толькі ёй будзе цяжэй, чым Валконскай і Трубяцкой: ёй прыйдзецца неўзабаве вырашаць складаную задачу: за кім ехаць? За табой — у групу войск? Ці за мной — на таежную ракетную базу?

Дажылі і да гэтага. Вучобу мы скончылі ў адзін год, у адзін месяц. І нас накіравалі ў розныя канцы вялікай Радзімы: Жэню — у Грузію, а мяне, прэтэндэнта на выкладчыцкае месца, ашчаслівілі прысваеннем звання маёра і зусім блізкім месцам службы, радуйся, «прафесар»,— я апынуўся ў Кандалакшы. Расчараваны, я сумна пажартаваў Галі:

— Як ты цяпер будзеш лятаць? Вялікія перапады тэмператур. Вытрымаеш?

Але самае дзіўнае, што Галя не засмуцілася, яна радавалася і за сына, і за мужа, і Кандалакша пасля пяці гадоў Масквы яе зусім не палохала. Ва ўсялякім разе, трагедыі для яе не было, як для некаторых іншых жонак. На выпускным вечары жонка падпалкоўніка Цвяткова, які спадзяваўся на месца калі не ў Генштабе, то ва ўпраўленні міністэрства ці, у крайнім выпадку, паўпрэдам на ваенным заводзе, падвыпіла і горка плакала, што мужа — яе мужа, такога разумнага, адукаванага! — заганяюць ажно на Новую Зямлю. Такія сюрпрызы кадравікі шмат каму падносілі.

Галя супакойвала Цвяткову.

— Не бойцеся, жыць усюды можна. Мы на Курылах жылі, на Кунашыры. Хораша жылі.

— Дык гэта ж побач з Японіяй,— размазала нафарбаваныя вейкі жанчына.

Галя пасля смяялася.

— Хацела я адказаць ёй: «Ды ўжо ж! Мы ў Токіо ў тэатр ездзілі».

Па дарозе дадому я спытаў у жонкі:

— Ты праўда думаеш, што мы там хораша жылі?

— А з табой мне ўсюды хораша,— прыціснулася Галя да майго пляча; у сорак гадоў, як у мядовы месяц.

— То ж і мне з табой усюды хораша, ці на Кунашыры, ці ў Кандалакшы.

— Каб яшчэ Жэня быў недалёка,— уздыхнула Галя.

— Радуйся, што ён будзе ў Грузіі. Вінаградны рай!

## Ля Белага мора

Ехалі мы ў Кандалакшу поездам, спакойна, з немалым багажом — абжыліся ў Маскве. Кніжную паліцу і сервант не везлі — прадалі, а ложак, канапу, стол і крэслы везлі: такой мэблі нідзе не дадуць, а мы прывыклі да камфорту, а ён псуе людзей, ваенных — асабліва. Ваенны, маёр ён ці палкоўнік, павінен ехаць з адным чамаданам.

Намесніка начальніка базы сустрэлі ветліва, але абразліва, што яўна чыталася ў вачах і палкоўніка Корсуна, начальніка базы, і палкоўніка Краснеўскага, нампаліта, і ніжэйшых сошак: «А навошта ты нам патрэбны, акадэмічны хлюст?»

І адпаведна ўладзілі з жыллём: пакой у бараку з фанернымі перагародкамі — на агульнай кухні, туалет — на вуліцы. Заспакоілі — часова. На другі ж дзень — не я, Галя даведалася, што ёсць трохпакаёвая кватэра ў афіцэрскім новым доме. Каму яе пакідалі? Новаму начальніку? Але з'явіцца новы начальнік — выедзе гэты, месца яму тут няма. Галя трымалася, але бачыў я, што ёй хочацца плакаць. Аднак калі, абураны, я выказаў намер паскардзіцца камандуючаму акругі, яна мяне адгаварыла:

— Навошта табе пачынаць з канфліктаў? Не ў тваім гэта характары.

Сапраўды, амаль за дваццаць гадоў, лічачы вучылішча і акадэмію, знаходжання ў войску я ні з кім сур'ёзна не канфліктаваў.

Але тут мне прыйшлося літаральна праз дзень-два ўступіць з Корсунам і Краснеўскім у сур'ёзны канфлікт.

База — вялізны склад: гара зброі — ад рэвальвераў да гармат, тысячы тон боепрыпасаў. Усё гэта не дагледжана так, як патрабуе інжынерная навука. Няхай гармата з паржавелым затворам сама не выстраліць, а снарады і ракеты «зямля — зямля», «зямля — паветра», з'едзеныя ржой, могуць, крый Божа, і самаўзарвацца. Якая можа быць бяда! Страшна падумаць. Не толькі сам склад узляціць у пакет-

ра — гідрастанцыя на Ніве, да якой нейкіх пяць кіламетраў, рабочы пасёлак.

Занядбаны ўсе ахоўныя меры: сігналізацыя, пульты засланак не рамантаваліся не адзін год. Пажарная ахова — на ўзроўні цывільнай раённай, не лепшай.

Зрабіўшы пільную інспекцыю, я далажыў Корсуну вусна. Ды ён падрыхтаваўся да размовы. Я зразумеў, што хтось з афіцэраў, маіх падначаленых, якія паказвалі аб'ект, раней далажыў яму пра маю рэакцыю, маё абурэнне тым, што робіцца на базе.

Колькі чалавек, начальнікаў складоў, інжынераў, Корсун пакараў: загадам абвясціў вымову, другіх загадам абавязаў на працягу двух тыдняў ліквідаваць усе недахопы. Я мог толькі здзіўляцца, чаму гэта не рабілася раней.

У адзін з выхадных у мой і Галі гонар была наладжана вячэра. Яна ашаламіла мяне не менш, чым стан складоў. Афіцэры штаба хлабысталі гарэлку шклянкамі. Антон Пятровіч паказваў прыклад. Да таго ўжо я неаднойчы прыкмячаў, што пад вечар начальнік базы «на ўзводзе». Нягледзячы на настойлівы да непрыстойнасці прымус, я не піў.

— Не ламайся, Вятрэнка. Святых у арміі няма і не можа быць. Усе мы грэшныя. І Кандалакша — не Масква. І гэтыя таежныя катакомбы — не акадэмія. Тут не тое што выпіць захочацца, у зімовыя дні — выць па-воўчы хочацца.

Галя не ў пакоі, дзе праз перагародку ўсё чуваць, а на вуліцы пад соснамі шаптала:

— Паша! Як яны п'юць! Калі яны так часта напіваюцца, то гэта ж жах.

Парадак на складах наводзіўся вельмі павольна. Не мог я адзін пачысціць, змазаць тысячы снарадаў. Патрэбны людзі, салдаты. А іх не давалі, бо сапраўды не хапала, на такіх базах іх заўсёды не хапае, і яны, як кажуць, не лепшай якасці, бадай інваліды.

Я добра разумеў, што за два тыдні будзе мала што зроблена. Напамінаючы Корсуну ледзьве не штодня аб яго загадзе, я чакаў не тыдзень-два — месяцы тры. Потым, пасля страшнага выпадку, калі ў парахавым складзе апынуліся п'яныя салдаты (пілі афіцэры, пілі радавыя), я напісаў гнеўна-патрабавальны рапарт начальніку і выступіў на штабным партсходзе.

Гэта спалохала Корсуна і Краснеўскага, і яны вырашылі ад мяне пазбавіцца: напісалі ва ўпраўленне міністэрства, што ім прыслалі з акадэміі псіхічнахворага чала-

века, алкаголіка. А гэта такое ЧП, што далажылі начальніку ўпраўлення. Не ведаю дакладна, але магу здагадацца, што малады генерал, параўнаўча нядаўні выпускнік той жа акадэміі, якую скончыў я, усумніўся і запрасіў з акадэміі маё дасье: усе характарыстыкі, адзнакі, медыцынскія абследаванні. Яны былі бездакорныя. Лепшы слухач, выдатнік, кандыдат у аспірантуру (пасля ён сам сказаў, што дарогу мне пераступіў сынок аднаго туза, ваеннага ці цывільнага — не ўдакладніў) і раптам — алкаголік, з псіхічнымі звіхамі.

Перагнулі палку, перайгралі саміх сябе, загубіў алкаголь не мяне, цвярэзніка, а іх, добрых выпівох. Хоць якога чорта загубіў! Корсун не ведаю, дзе апынуўся, а Краснеўскі ў Заходняй групе войск даслужыўся да генерала. І, пісалі мне аднакашнікі, збудаваў пад Масквой палац, а пайшоўшы ў адстаўку, узначаліў нейкую фірму, стаў капіталістам. Наш палітычны выхавацель!

Начальнік упраўлення прыслаў да нас прадстаўнічую камісію, чалавек пятнаццаць, на чале са сваім намеснікам Стротчанкам. Мяне камісія не спалохала. Галю спалохала.

— Зноў заганяць на Курылы,— сумна ўздыхнула яна. Даліся ёй тыя Курылы! Кандалакша пасля іх — Еўропа! Корсун камісіі не ўзрадаваўся. Я здагадаўся, калі пачуў ад штабіста, як ён цыкнуў на Краснеўскага, калі той прапанаваў даць камісіі «беламорскую вячэру з кандалакшскай губой».

— Ніякіх вячэр, пакуль не высветлім, што за гусакі нас будуць правяраць. Я знаю гэтага Стротчанку. Сухар. Службіст. Фармаліст.

Пагаварыўшы з Корсунам, Стротчанка больш як дзве гадзіны гаварыў са мной сам-насам. Галя прасіла мяне не валіць на сваё начальства, але я, як кажуць, пайшоў «ва-банк». Пра непрабудныя п'янкі змаўчаў. Але пра стан складоў выклаў усё, давёўшы, што з такой колькасцю боепрыпасаў, парахавых, трацілавых, з ракетным палівам, нельга жартаваць.

Стротчанка сапраўды правяраў з вайсковай уедлівасцю, не фармальна, як часам робяць гэта іншыя інспектары. Сам у мінулым начальнік падобнай базы, ён бачыў тое, што я з далікатнасці прысутнасці Корсуна стараўся стаіць. За тры месяцы, пры супраціўленні начальнікаў складоў, мне нямала ўдалося зрабіць. Але Стротчанка, увогуле чалавек кантактны, гаманкі, пасля кожнага інспекцыйнага сеанса рабіўся ўсё больш змрочны, маўклі-

вы, адчужаны не толькі да начальніка базы, нампаліта, але і да мяне. І аднойчы не вытрымаў, выпаліў, на маю думку, недазволенае ў такім ранзе,— сурова спытаў:

— Палкоўнік Корсун! Вы чыё заданне выконвалі?

— Як чыё? Ваша, міністэрства.

— А мне пачынае здавацца, што вы служыце амерыканцам з мэтай узарваць Кольскі паўвостраў.

Корсун збялеў.

— Таварыш палкоўнік!..

— Дзякуй Богу, што мы жывём у іншы час. Гадоў дваццаць назад вы за такую службу далёка апынуліся б. Ох, далёка!

«Беламорская вячэра» не адбылася. За ўсе дзесяць дзён работы інспекцыі.

Данясенне камісія не пісала. Але Стротчанка перад ад'ездам сабраў афіцэраў і «адкрыў агонь» не па Корсуну — па мне, што ■ за такі час не данёс камандаванню акругі, ва ўпраўленне міністэрства.

— Я трымаў субардынацыю, пісаў начальніку базы.

— Кіньце, Вятрэнка! Вы не такі наіўны чалавек! Таіць злачынства і трымаць субардынацыю!.. У акадэміі вы былі выдатнікам. А там была і такая дысцыпліна, як агульная і ваенная юрыспрудэнцыя. Ды і ў статутах нашых добра напісана, калі трэба трымацца субардынацыі.

— Калі разышліся малодшыя афіцэры, то вяжыце мяне. Але абраза ў прысутнасці падначаленых...

— Не кіпіце, палкоўнік. Вязаць вас ніхто не будзе. Але прамыць мазгі трэба. А то яны ў вас праспіртаваліся.

Не я, хтосьці іншы — «дабрадзеяў» хапае! — данёс і пра п'янкі.

У Кандалакшы на вакзале Стротчанка раптам прапанаваў выпіць шампанскага і сам купіў ажно пяць пляшак, як бы ў дакор, што на базе яго ні разу не пачаставалі. Не ведаю, як Корсун, а я моцна здзівіўся, бо не мог зразумець сэнс жэста. Што ж, прызванне начальства — здзіўляць. Яно неаднойчы здзіўляла.

Прайшоў месяц, ішоў другі — а вынік камісіі адзін, зусім нечаканы: адклікалі нампаліта. Пасля я сцяміў: Краснеўскі схітраваў — праз сяброў у Галоўупраўленні сам перавёўся, і не на Курылы — у Германію, у Берлін.

У першыя тыдні Корсун быў бязлітасны да падначаленых — афіцэраў, салдат, але падкрэслена ветлівы, карэктны са мной. А потым, мабыць, упэўніўшыся, што навальнічную хмару пранесла, на падпітку наскочыў на мяне, назваў даносчыкам. Я абурыўся:

— Хто з нас даносчык? Я не пісаў ні радка. А вы напісалі, што я алкаголік — ха-ха! — і шызафрэнік. І камісія прыехала правяраць не вас — мяне. Вы яе выклікалі. Як кажуць, агонь на сябе.

Скіс палкоўнік. Не думаў, пэўна, што мне паказалі іх з Краснеўскім данос. Між іншым, копію яго мне паказаў не Стротчанка, а яго ад'ютант, малады капітан, наш зямляк — беларус. Пэўна, я спадабаўся яму.

А неўзабаве і гром грымнуў: прыехаў начальнік штаба акругі з загадам аб вызваленні Корсуна і аб назначэнні мяне выконваючым абавязкі начальніка базы.

І я гэтым «чва» прабыў больш як год. Прызнаюся, хацелася, каб прызначылі пастаянным начальнікам базы. Што ганебнага ў такім жаданні? Для таго я скончыў і вучылішча, і акадэмію, каб служыць і, натуральна, узвышацца па службе. Я навёў на базе ўзорны парадак. Двойчы за год прыязджалі камісіі, не такія вялікія, але прыдзірлівыя. Ды, акрамя дробязей, і тыя не на складах — па агульнай гаспадарцы, па страявой вывучцы салдат, нічога больш не знайшлі.

Такая павышаная ўвага нервавала і мяне, і Галю. Але вынікі праверак мацавалі ўпэўненасць аб адмене «чва» і з'яўленні загада аб назначэнні пастаянным.

Не дачакаўся. Прыслалі новага начальніка, падпалкоўніка Сімакова. А мне падсаладзілі пілюлю — прысвоілі чарговае званне. Урэшце, разважылі мы з Галяй, званне, па сутнасці, раней тэрміну,— прызнанне маёй кампетэнцыі і заслуг, а гэта, можа, важней за пасаду.

Сімакоў — малады чалавек, гадоў на сем маладзейшы за мяне і малавопытны начальнік, да акадэміі быў страявіком, інжынернай практыкі не меў, боепрыпасаў не ведаў. Недасведчаным можа здацца: а што тут за складанасць камандаваць, няхай і вялікім складам, дзе амаль без руху (рэдка часці папаўняюць свой боепрыпас — на вучэбныя стрэльбы, пускі) ляжаць снарады, ракеты, міны, розныя віды пораху і іншай узрыўчаткі? Няхай ляжаць. О не! Гэта надзвычай цяжкая, адказная і... нервовая праца. Горы смяротнай зброі стаяць перад вачамі; не даюць спакойна спаць. Корсун ці Краснеўскі (хто з іх ініцыятар?) добра ведалі, калі пісалі пра маю псіхічную ненармальнасць, што нярэдка ў начальнікаў складоў, паграбоў, баз з'яўляюцца псіхічныя комплексы.

Сімакоў, безумоўна, атрымаўшы дакладную характарыстыку на мяне, ведаючы мой вопыт, баяўся, што ўрэшце

і ў штабе акругі, і ў міністэрстве даведаюцца, хто сапраўдны камандзір гэтай своеасаблівай часці, дзе не так шмат людзей (іх заўсёды не хапала), але занадта шмат небяспечнага грузу. І ён стараўся ўсё вырашыць і зрабіць сам, унікаў ва ўсе дробязі, не даючы часу заняцца галоўным. Ён нібыта з удзячнасцю слухаў мае парады, але рабіў па-свойму. Лічыў, што дэманструе давер, і часта пасылаў мяне ў камандзіроўкі ва ўсе куткі Саюза, але толькі не ў Маскву. І я мусіў выконваць заданні, якія лёгка зрабіў бы любы лейтэнант з тэхнічнай адукацыяй. Гэта мяне прыніжала, злавала.

Галю палохала мая нервовасць.

Урэшце я не вытрымаў і пагаварыў з Сімаковым, як кажуць, па душах. Ён здзівіўся, расстроіўся, прызнаў некаторыя свае памылкі. Праявіў сыноўскую прыязнь, павагу.

— Павел Паўлавіч, вы маглі сказаць усё гэта раней. Мы ж разумныя людзі. І я ўлічыў бы, зразумейце, я вырас у сям'і ваеннага, мой бацька быў страявы камандзір. І тагачасныя псіхалагічныя нормы маглі ўесціся, што ржа. Цяпер жа іншы час, іншая армія... і мы іншыя — інтэлектуалы. Да таго ж у нас незвычайна спецыфічная часць. Вулкан, які дрэмле. Але яго маўчанне прымушае нас не тое што не драмаць — дыхаць стоена. І скажу вам шчыра: ваша жаданне прасіць пераводу мяне расстроіла. Не пішыце. І ўсё кажыце мне, і мы з вамі будзем лепшымі сябрамі.

Можа, і праўда мы сталі сябрамі. Але гэта тое сяброўства, якое прыгнятае. Бывае ж такое: сябруеш з чалавекам, але адчуванне ў цябе накшталт таго, калі моцныя боты ці чаравікі ціснуць. Тое, што Сімакоў стараўся дагадзіць мне, саступіць, у камандзіроўкі пачаў пасылаць у самыя прыемныя, нават у Маскву,— сапраўды ціснула. А галоўную рысу ў сваім характары — усіх падмяняць сваёй нястомнай дзейнасцю, нават маладых лейтэнантаў,— не мог змяніць, паламаць і часам рабіў гэта так, што рабілася няёмка і за яго, і за сябе: за сябе — бо не ведаеш, што адказаць яму на гэта.

А гэта — дзіўная мешаніна інтэлігентнасці з ваеннай амбіцыёзнасцю, жаданнем даказаць: я добры, але не забывайце, што камандую вамі я, я слухаю вас, але свой розум маю. А розуму было далёка не палата, больш вайсковай вывучкі. Дзіўна, што і жонка яго Мая Віктараўна — як копія мужа. Яна набілася ў сяброўкі да Галі, і Галя з радасцю прыняла гэтае сяброўства, бо, хоць яна

і рабіла ў клубе, жаночых адносін у добрым сэнсе яўна не хапала. Жонкі лейтэнантаў і капітанаў занадта маладыя і прыгняталі своеасаблівай субардынацыяй — узроставай; Галя сябравала з імі, але душэўнага задавальнення не мела.

Мая Віктараўна таксама была маладзейшая, але «па званні» як бы роўная. Прыцягнула Галю і тое, што ў Сімаковых былі дзеці — двое хлопцаў-гарэз, васьмі і пяці гадоў. З-за дзяцей Галя наведвалася да іх. Ды і жылі мы ў адным доме: выконваючы абавязкі начальніка, я плюнуў на сціпласць і перасяліў сябе з барака ў жылы дом, выкарыстаўшы ад'езд маёра Падабеда. У людзей логіка дзіўная: яны не любяць тых начальнікаў, хто хапае звыш таго, што ім належыць, але яны трацяць павагу і да таго, хто не выкарыстоўвае сваіх прывілей,— маўляў, іграе ў праведніка, бессярэбраніка. Увогуле Мая Віктараўна была кампанейская жанчына, медсястра па адукацыі, яна лячыла ўвесь жаночы гарнізон, хоць і санчасць мела ажно двух урачоў, мужчын. Верылі больш ёй. Але, як кажуць у народзе, муж і жонка — адна сатана. Мая Віктараўна, сапраўды, была копіяй мужа па мешаніне паўінтэлігентнасці з чыста вайсковымі начальніцкімі амбіцыямі і націскам на людзей. І Галя хутка застагнала ад яе націску. Паскардзілася:

— Ох, каб ты ведаў, як я стамілася ад Майкі.

Я зрабіў выгляд, што не зразумеў: было лета, горача нават у Кандалакшы, і я сядзеў у адной майцы.

— Якой майкі?

— Павел, не прытварайся.

— А я падумаў, што цябе мая майка раздражняе.

— Твая, твая. Якой ты кажаш кампліменты.

— Ці не раўнуеш ты?

— Ды ўжо лепш прыраўнаваць. Жывыя эмоцыі. А ад яе — атупенне. Дыскамфорт. Ты праўду некалі сказаў пра яго: ціснe, як бот. Так і яна: ціснe, а скінуць не можаш, як новыя чаравікі на танцах. Я прыходзіла з клуба дадому і злосна шыбала іх пад ложак.

— То шыбні.

— І шыбнула б, каб не пашкодзіла тваім адносінам з ім.

— Мы залішне мірна жывём. Не заплеснець бы!

— Ты толькі асцерагаешся. А я ўжо адчуваю, што пакрываюся раскай, як старая копанка.

Было ад чаго заплеснець: на нашу базу як бы забыліся, нават інспекцыі не прыязджаюць. А галоўнае: нашы скла-

ды не аднаўляюцца. У часці паступаюць новыя ракеты, снарады для новых мінамётаў — не знаць гэтага мы не маглі,— і ўсё ідзе міма базы. Нават штат афіцэраў скарацілі. І салдат-чысцільшчыкаў. Ніякага руху. У нас ляжалі міны часоў Айчыннай вайны. Чаму? Рассакрэчаная база? Але ці ёсць яны абсалютна тайныя, калі пачалі лятаць спутнікі? Неба можна зачыніць, космас не заслоніш, не закрыеш. Ракетныя шахты яшчэ неяк маскіруюцца. А склады з чыгуначнымі пад'ездамі — хто іх замаскіруе? Баюся, што амерыканцы маюць тапаграфічныя карты многіх нашых раёнаў больш дакладныя, чым наш Генштаб.

А Жэня служыў у Грузіі. Служыў, калі меркаваць па яго пісьмах, шчасліва, задаволена.

«Мама! Тут рай зямны»,— пісаў ён.

Мы наведалі той рай. З вялікім намаганнем выбіў пуцёўкі ў ваенны санаторый Цхалтуба. Мне лячыць радыкуліт, якога ў мяне, на шчасце, не было, а Галі — рэўматызм ног, ногі ў яе сапраўды балелі. Але не лячыла яна іх там, бо ледзьве не штодня ездзіла ў Кутаісі, дзе размяшчаўся дэсантны полк. Адвяла душу пабыўкамі ў сына. Жэня пазнаёміў яе са сваёй нявестай — армянкай Наірай.

Мне дзяўчына не спадабалася, здалася архаічна-ўсходняй. А маці радавалася: армянка, грузінка — абы хутчэй ажаніўся. Аднойчы Жэня прыехаў да нас. Правёўшы маці да ванны, я гуляў з сынам па алеі ў цяні кіпарысаў. Я распытваў яго пра службу, папярэдзіўшы:

— Толькі ты не адказвай мне: усё нармальна. У камандзіра ўзвода ў такіх войсках не можа быць усё нармальна. Каму-каму, а мне гэта вядома, хоць на базах спецыфіка зусім іншая. Але і там у лейтэнантаў не абыходзіцца без канфліктаў, стрэсаў.

Лейтэнант Яўгеній Вятрэнка даўгавата памаўчаў, і я зразумеў, што сваім папярэджаннем пацэліў у дзесятку, як кажуць вайскоўцы. Жэня думаў, што адказаць бацьку, каб і праўдзіва, даверліва, і не спалохала мяне.

— Што ж, бацька, я скажу табе шчыра. Не ў тое вучылішча я патрапіў, відаць. Без боязі я скакаў у вучылішчы. Маю «налёт» больш як сто пяцьдзесят скачкоў. Ас! Такога хоць без парашута спіхні — ён не павінен спалохацца. А я раптам адчуў: баюся скакаць. Разумееш? Ганебнае адчуванне. Калі б перад самым скачком памералі

пульс, ціск, мяне напэўна адхілілі б ад трэніровак. А я павінен вучыць маладых, паказваць прыклад зацяжнога скачка, дакладнага прызямлення. Усё нармальна. Але потым я тыдзень хварэю. Добра, што паветраная трэніроўка не штодзённая. Скачам з інтэрваламі. Што параіш, бацька?

Прызнанне сынава спалохала мяне. Я, інжынер, нічога падобнага ні разу не перажыў. Але на лекцыях па псіхалогіі нам казалі пра такую боязь лётчыкаў, парашутыстаў, падводнікаў, нават танкістаў — боязь жалезнай камеры.

Ні разу яшчэ ў размове з сынам я не быў у стане такой бездапаможнасці, хоць яшчэ ў школе, у сёмым-восьмым класе, ён ашаламляў мяне нечаканымі пытаннямі і, між іншым, часцей не з галіны сусвету, прыроды, грамадскіх адносін, а менавіта чалавечых пачуццяў.

Што я мог параіць?

— Пакажыся доктару.

Жэня здзівіўся маёй наіўнасці.

— Ды ты што, бацька! Нават не ваенны, а цывільны ўрач не пакіне такую скаргу без вынікаў: пагаварыў і — забыўся. І мяне тут жа адхіляць ад палётаў, скачкоў. І куды я? У каптэнармусы? Анучы лічыць? Ці зусім звольняць.

— І звальняйся.

— А што я ўмею?

— Навучышся. У твае гады — тысяча прафесій! Я табе адкрыю тайну, якая цябе здзівіць не менш, чым твая мяне. Я расчараваўся ў армейскай службе. І трымаюся за яе па той жа інерцыі, ад боязі перамен. У нас недынамічныя характары. Мы статысты... Не рэвалюцыянеры.

— Мы — статысты,— задумліва згадзіўся Жэня і — як страпянуўся: — А ўвогуле я табе нагаварыў глупства. Усё будзе ў ажуры. Скакаў і буду скакаць! Не кажы маме.

Маці я і без папярэджання не сказаў бы. А вось начальству яго... такая думка неадчэпна свідравала мозг увесь час знаходжання побач з яго паветрана-дэсантным палком. Я нават пазнаёміўся з яго камандзірамі — палка, батальёна, роты. Але не сказаў. Не мог паламаць сынава жыццё. Бо не мог я ведаць, дзе яго шчасце! Калі адсылаў у суvoраўскае, то верыў: адзіна надзейная прафесія — ваенная.

Божа! Як я караю зараз сябе! Як караю — за сваю нейтральнасць! Але каб ведаў, што ў канцы таго ж года мы пачнём ваяваць...

Чатыры гады праслужыў я ў Кандалакшы — без руху, без павышэння. Забыліся на базу, і на мяне забыліся. Відаць, знайшлося б нямала такіх, што былі б задаволены такой службай: спакойна, зацішна, у бытавым плане ўладжана, на вучэнні ў дождж і снег не трэба выязджаць, інспектары не тузаюць. А я адчуў, што сапраўды пачынаю закісаць.

Можа, і статыст. Але і статысту часам хочацца хоць якіх перамен у жыцці.

І я напісаў рапарт, як называлі гэты дакумент у царскай арміі. Я прасіўся ў любую групу войск. Хацелася ўдыхнуць еўрапейскага паветра. Я ж нікуды не выязджаў, турыстам мяне не пускалі — невыязны, шмат чаго знаю пра зброю.

Не адказвала ўпраўленне кадраў бадай жа паўгода: думалі з вайсковай «аператыўнасцю». Нарэшце прыйшоў загад, які ўзрадаваў нас з Галяй. Я пераводзіўся на падобную базу... Але куды? У Беларусь, на поўдзень Гомельшчыны. Лічы — дадому. Як тут не парадавацца?

## Свой дом

База такая ж, але далёка не падобная: разы ў два большая, з механізаванымі складамі навейшых боепрыпасаў — не ваеннай старызны, як у Кандалакшы. Адметнасць была і ў іншым; нягледзячы на навейшую зброю, на базе працавалі вольнанаёмныя, сталыя дзядзькі і цёткі, якія ўмелі чысціць снарады, міны, выяўляць небяспечны брак значна лепш, чым рабілі гэта бестурботныя салдаты — учарашнія школьнікі.

Адным словам, я трапіў у атмасферу амаль цывільнага калектыву, бо менавіта з вольнанаёмнымі я меў справу; салдатамі, асабліва тымі, якія неслі ахову, камандавалі іншыя афіцэры.

Цывільныя прымалі прысягу — аб невыдаванні ваеннай тайны і працавалі з поўнай аддачай, бо ад колькасці і якасці працы залежаў іх заробак — рабілі здзельна, як на будоўлі.

Рабочыя, у пераважнай большасці, жылі тут жа, побач з ваенным гарадком, як называла базу навакольнае насельніцтва. За кіламетр, на вялікай лясной паляне, вырас даволі вялікі пасёлак добрых дамоў: лёгка ж будавацца, жывучы ў лесе. Да таго ж база актыўна памагала тым, хто

жадаў асесці тут: збудуюцца — нікуды не паедуць, пастаянны састаў. А галоўнае, у міністэрства і камандавання не балела галава: не трэба будаваць казённае жыллё, якое было самай балючай праблемай. Грошай у Міністэрства абароны не хапала: не шкадавалі на зброю, але эканомілі на людзях — на ўмовах іх жыцця. Жыллё, жыллё — невырашальная праблема, крыніца многіх канфліктаў паміж людзьмі. Але на гэтай базе і жыллёвая праблема не была такой балючай. Мне адразу далі двухпакаёвую кватэру з такімі цывілізаванымі выгодамі, якія мы з Галяй мелі хіба ў акадэміі, ды і то не ўсе: кухня там была агульная.

Галя была на сёмым небе: дома, у Беларусі,— і такая ўладжанасць, і службовая, і бытавая. Маглі б лічыць сябе шчаслівымі, каб не наша інтэрнацыянальная дапамога Афганістану. У любы час там можа апынуцца полк, у якім служыць Жэня.

Я не мог не бачыць, які страх перажывае мая жонка. Яна ажно схуднела, пастарэла. Калі ўспаміналі сына, а ўспаміналі часта, як і раней, з дня яго з'яўлення на свет, Галя прымхліва абыходзіла тэму афганскай вайны, быццам самі словы хавалі смяротную пагрозу: скажаш іх — і яны ўзарвуцца. Толькі з калегамі па службе мог я гаварыць пра інтэрнацыянальны абавязак; у кабінеце начальніка базы Молчана нават вісела карта Афганістана, і палкоўнік любіў паказаць сваю дасведчанасць пра становішча там, дзе не было ні франтоў, ні тылу, дэманстраваў стратэгічны талент. Аляксей Мікалаевіч быў па-бабску гаваркі, шумны, але нязлосны, людзей любіў і дараваў ім шмат якія грахі, толькі дай яму «выпусціць порах» — пашуміць, пакрычыць.

«Во я даў яму жару»,— часам задаволена па-хлапечы хваліўся ён. Але што ўмеў, то гэта добра карміць салдат, чаго-чаго, а бульбы, гародніны, яблыкаў заўсёды хапала.

Мяне ён прыняў гасцінна, узрадавана; яўна не баяўся канкурэнта з акадэмічнай адукацыяй. Больш таго, непрыкметна перадаў узначальванне базай. А сам бясконца ездзіў — у Гомель, у Мінск, у Маскву, у свой раён і проста ў калгасы. Усё начальства вакол — яго знаёмыя, сябры. П'яным я яго ні разу не бачыў, але афіцэры сцвярджалі, што застоллі палкоўнік любіць. Вып'е — на гармоніку іграе, спявае. Я сам пераканаўся ў гэтым, калі аднойчы ён запрасіў мяне з сабой «пакаштаваць мядку» — на пасеку суседняга калгаса.

Старшыня калгаса Іван Хадынец у нечым быў падобны на Молчана: такі ж весяльчак, рагатун, хлебасол. На той «мядовай папойцы» ў прасторным пакоі пры імшаніку сабралася начальства ўсіх рангаў: намеснік міністра, старшыня аблвыканкома, раённых чалавек пяць і мы, трое ваенных: Молчан, нампаліт маёр Ткач і я. Пажондная кампанія, як кажуць палякі. Не таюся: было прыемна і карысна.

У Кандалакшы, дзе сувязь з мясцовым начальствам, насельніцтвам была слабая, я адарваўся ад жыцця цывільных, мяне звязваў з імі толькі летні адпачынак у бацькоў у Крычаве ды пісьмы брата Антона, агранома, у якога, памойму, згінуў талент пісьменніка: пісьмы яго былі на дзесяць старонак з пераказам многіх вясковых прыгод, вясёлых і сумных.

Атмасфера такой таварыскасці — лепшае, што можа быць у арміі. Ды хіба толькі ў арміі! Маё самалюбства купалася ў цёплых хвалях поўнага даверу з боку Молчана: рабі як знаеш. І я ледзьве не начаваў на складах, бо яны папаўняліся боепрыпасам, які ■ не вывучаў. І начальнікі складоў, участкаў, камандзіры падраздзяленняў па ўсіх справах звярталіся да мяне, і мне гэта было маслам па сэрцу.

Галя таксама пасябравала з жонкай Молчана Фаінай Рыгораўнай, жанчынай простай, гаваркой, як муж: былую работніцу Іванаўскага тэкстыльнага камбіната не сапсавала прыналежнасць да афіцэрскай касты, «высокае званне» палкоўнічыхі. І гэта Галі падабалася. Ёй усё тут падабалася: людзі, лес, паветра. Было б тое шчасце, якога доўга чакалі, каб не Афганістан. Хоць і гэты страх прыціх: ішоў чацвёрты год вайны, а Жэня пісаў з Кутаісі і зноў запрашаў нас у Цхалтуба, і мы збіраліся туды. За паўгода да лета я пачаў выбіваць пуцёўкі.

Я палюбіў Молчана. Але ў Галі было больш крытычнасці: не сама, ёй адкрылі тайну работніцы базы — ад народа нічога стаіць нельга. Галя спытала ў мяне:

— Ты знаеш, які дзялок твой Молчан?

— Асаблівай дзелавітасці я не бачу.

— У справах базы. А ў сваіх... Вялікі камерсант! Колькі ён прадае лесу! Гэтае багацце ніхто не лічыць на вашых базах. І не толькі лесу. Гоніць на бок цэмент, жалеза. Кладзе ў сваю кішэню тысячы.

— Гэта ж крымінал.

— Ён добра ўмее ладзіць з начальствам. Таму нічога не баіцца. Не ўздумай ты пачаць вайну, як з Корсунам. Пажыві хоць пад старасць спакойна.

— Ты робіш мяне старым.

Прыгледзеўся я да Молчана — праўду сказала Галя, праўду ведаюць людзі. Актыўнічае палкоўнік. Лётае з краю ў край. Але ў большасці не па службе — па асабістых справах. Нажываецца палкоўнік.

Людзей, падобных да мяне, выхаваных на сацыялістычных прынцыпах, абурала такая сквапнасць, такая камерцыйнасць. Мы з пагардай глядзелі нават на бабуль, якія прадавалі кветкі. Каўказцы з мандарынамі і вінаградам уяўляліся ледзьве не класавымі ворагамі.

А між тым, як разумею цяпер, «працэс пайшоў» яшчэ з лёгкай рукі Генсека, які меў асабістых машын ажно сорак чатыры штукі і столькі ж ордэнаў. За ім кінуліся медуновы, рашыдавы, ішковы, пазней далучыліся сакратары гаркомаў, генералы і палкоўнікі. Асабліва ў групах войск — за мяжой, дзе большая прастора для самай хітрай камерцыі і дзе было чым адкупіцца ад інспектараў Мінабароны: грузілі «мерседэс» у закрыты фургон... Аднаму, хадзілі чуткі, нават разабраную дачу ў вагоны пагрузілі. А сабраць яе — сіла бясплатная — салдаты.

Во калі з'явіўся страшны вірус, ад якога захварэла дзяржава і... развалілася. А разам з дзяржавай — і армія.

Можа, і мяне зачапіў гэты мікроб? Не, ініцыятарам быў не я. Галя. Яна больш канкрэтна ўзняла тэму адстаўкі.

— Ну, яшчэ пяць, максімум сем гадоў, калі прысвояць палкоўніка. Але ці прысвояць? А потым куды? З базы выселяць. Дзе дадуць кватэру? Спадзяешся хутка атрымаць яе? Ляснік Ворчык прадае ў пасёлку дабрэнны зруб. Кажуць, трэці. Умеюць жа людзі! Да зруба — набор піламатэрыялаў. Будзем мець свой дом.

— Прыватніца ты!

— Я — прыватніца. Свой дом, Паша! На маю думку, толькі той сапраўдны чалавек, хто мае свой дом. А мне тут падабаецца. Лес які! Казка! Да гарадоў блізка. Будзем жыць, як багі. Жэня ажэніцца, унукі пойдуць. Да сябе іх забяром. Падумай.

— Не буду думаць.

— Чаму?

— Бо ты мяне пераканала.

Літаральна на другі дзень адбылася здзелка. Ворчык — мужычок скнарны. Галя гатова была плаціць любую цану.

А я таргаваўся, і не таму, што шкадаваў грошай, а проста любіў гэты спектакль — гандлёвую змову. Ды мне добра памог Молчан. Начальнік базы загарэўся, калі я яму выказаў свой пражэкт: купляй! Узрадаваўся, што адзін з першых у чарзе на кватэру ў горадзе адпадае. Ці пацешыўся, што і я, праведнік, падхапіў той жа мікроб — прыватнаўласніцкі?

Молчан пагаварыў з ляснічым, Чыжам, з якім вёў вялікі гешэфт: хоць у зоне базы ён быў гаспадаром лесу, а яго там, пераспелага, было тысячы кубоў, але высечку і вываз афармляла лясніцтва.

Магу здагадвацца, як ляснічы ціскануў на лесніка, які прадаваў трэці зруб, маючы нарад на адзін, не больш,— з санітарнай прачысткі, якую сам рабіў. А валіў карабельныя сосны!

Божа мой! Хто толькі і што толькі не краў у той вялікай дзяржаве! І, аднак, той крадзеж у параўнанні з сучасным — дробязь. А таму тады народ жыў, хоць і небагата, але жыў. А цяпер?

Купіўшы зруб, я пачаў жыць зусім новым жыццём, можа, нават больш напоўненым, чым у акадэміі. Я ўспомніў прафесію свайго бацькі, цесляра, сталяра. Выходзіць, рукі мае даўно прасілі такой працы. На базе я з нецярпеннем чакаў канца рабочага дня, нават абедзеннага перапынку, каб хутчэй дабрацца да гэбля, пілы, тапара. Асабліва любіў габляваць, а пасля выразаць адмысловыя аканіцы, ліштвы, шалёўку над брамкай, варотамі. Рэдка наймаў кагось з суседзяў: калі трэба было зрабіць працу, звязаную з грузам,— наставіць кроквы, накрыць дах. Між іншым, дах у мяне адмысловы — з цынкавых скрынак з-пад патронаў, мне гэтую ідэю падказаў наш інжынер па будаўніцтву. Салдат браў разы два і то па настойлівай прапанове Молчана.

Лепшым памочнікам маім была Галя. Яна хутка навучылася і габляваць, і выразаць, і рабіла гэта па-жаночаму больш тонка.

На нашу працу прыходзілі падзівіцца не толькі суседзі — пасяльчане, афіцэры базы, іх жонкі, салдаты, але прыязджалі з суседніх вёсак, а таксама грыбнікі і ягаднікі, якія злазілі з цягніка на нашым раз'ездзе.

Ухваленне выказвалася, як правіла, аднымі і тымі ж словамі:

— Во ета падпалкоўнік!

А яшчэ — добрымі парадамі ўсіх тых, хто меў дачыненне да будаўніцтва.

У гэтай працы мы з Галяй маглі б мець сапраўднае шчасце, каб... не Афганістан. Як ён азмрочваў наша жыццё! Можа, у працы мы забываліся. А ўвечары перад тэлевізарам... Галя нават баялася глядзець праграму навін, бо яна абавязкова нагадвала вайну, калі не прамымі паведамленнямі, то разважаннямі журналістаў.

У Галі апусціліся рукі, калі Жэня як быццам весела і легкадумна паведаміў, што знаходзіцца недалёка ад «горада хлебнага».

Галя адразу не зразумела.

— А дзе гэта хлебны горад?

— Ташкент — горад хлебны. Бібліятэкар!

Яна збялела.

— Паша! Дык гэта ж дарога туды... Пераваяка...

— Не палохайся. Авіядэсантны полк за дзве гадзіны перакінуў бы сябе з Кутаісі ў Кабул. Навошта ім пераваяка? Ты знаеш, што такое расквартараваць полк?..

Я суцяшаў жонку, і сам мала верыў у свае перакананні.

Галя штодня пісала сыну па новым адрасе. Жэня адказваў бестурботна, весела. Прызнаўся, што з Арменіяй парваў, хоча парадніцца з Узбекістанам.

«Мама, шукаю табе ў нявесткі ўзбечку ці таджычку, апошнія мне падабаюцца больш — індускае адгалінаванне. Кінуў вока на адну студэнтку інстытута ўсходніх моў, пішу ёй вершы, але выманіць на спатканне ніяк не магу. Разведаў, дзе інтэрнат, і хачу ўварвацца туды. Ды баюся: паб'юць мяне мусульмане». Жэнева весялосць не супакойвала нават мяне. Але аддзелку дома я не кідаў: адна праца адганяе змрочныя думкі.

Ішла зіма. Яна мусіла знізіць інтэнсіўнасць будаўніцтва. І была яна, «зіма трывогі нашай», такі раман якраз чытала Галя; яна праглытвала іх дзесяткамі: мне не да раманаў было, ды і не любіў я сучаснай літаратуры, мае куміры — Тургенеў і Чэхаў, іх перачытваў, калі маразы не давалі аддзелваць дом, вымушалі ў выхадныя сядзець у гарадку — у кватэры ці кабінеце. З Галяй мы спрачаліся, бадай сварыліся наконт Дастаеўскага: яна жыла яго змрочнымі вобразамі, я не прызнаваў іх. Душа мая і розум не прымалі песімістычнага погляду на людзей, на жыццё. Аптыміст, жыццялюб, я прызнаваў толькі элегічны смутак — чэхаўскі.

Вясна ажывіла маю працу ў доме. Я паставіў мэту: да Дня Перамогі перабрацца ў свой дом. Ад нецярплівага

жадання хутчэй паскорыць гэтую падзею — свой дом! — я гатовы быў працаваць не толькі ўдзень, але і ўначы.

Падвёў электрычнасць, асвятліў двухсоткамі каля дома і ў доме і габляваў, габляваў, прыбіваў, канапаціў. Неаднойчы Галя прыходзіла з гарадка ледзьве не апоўначы, добра што кіламетровая лясная алея ад прахадной да пасёлка асвятлялася, як гарадскі праспект.

У канцы красавіка прыйшла тэлеграма з двух слоў: «Лячу. Жэня». Яе перадавалі ў штаб тэлефанаграмай з паштовага аддзялення. Машыністка штаба Тамара аднесла яе на кватэру Галі. А тая, не маючы пропуска на склады, шукала мяне па ўнутраным тэлефоне. Мне перадалі:

— Вас тэрмінова патрабуюць дадому.

«Патрабуюць». Як я спалохаўся! За каго? За Галю? За Жэню? Схапіў каля складской прахадной чужы мапед (на іх прыязджалі рабочыя з пасёлка) і паляцеў у жылую зону.

Галя ўбачыла мяне з акна трэцяга паверха, кінулася насустрач з белым аркушам паперы ў руцэ, які на лесвіцы ўявіўся мне чорным. Не, не той выраз на Галіным твары. Не тыя вочы, не тыя вусны, не трагічныя — шчаслівыя.

— Жэня ляціць!

Задыханы, я прытуліўся да сцяны, хапаючы прагна паветра. Раптоўны пераход ад прадчування бяды да радасці не менш небяспечны, чым ад радасці да ліха.

— Жэнечка ляціць, Паша.

— Калі?

— Не піша. Лячу — і ўсё.

— Ну, шалапут! Чаму не напісаць — калі, на чым. Да Гомеля я ўзяў бы машыну, і мы сустрэлі б яго ў аэрапорце ці на вакзале.

— Можа, яшчэ адну тэлеграму адаб'е,— зусім паваскову і з вялікім перакана314 сказала ўсцешаная маці.

А ў мяне адразу ўзнікла ідэя: па прыездзе сына зрабіць наваселле. Ідэальна было б у дзень прыезду!

— Галя! Мы сустрэнем яго ў сваёй хаце!

— Не гатова ж.

— Будзе гатова. Калі ён дасць нам хаця б два дні.

— Ах, Паша. Фантазёр ты!

— Ды не, Галя, я рэаліст. А што не гатова? Вокны зашклёны, падлога насцелена, грубкі складзены. Налічнікі не прыбіты? Прыб'ём! Пліта не пастаўлена? Стаіць у хля-

ве. Балоны ў суседзяў ёсць запоўненыя. Вунь у Мальцава ажно тры стаяць. Не трацЬ часу — ідзі прыбірай. А я вазьму салдат. Ніколі не браў, а тут вазьму. Сын прылятае! Прычына!

Пра салдат я сказаў Молчану. Ён нагадаў, што інспектары маюць завядзёнку прыязджаць перад святамі. Інспектары ведаюць, што перад святамі ўсюды наводзяць парадак. А парадак у часцях іх зоны — плюс іх рабоце. Інспектары робяцца злыя, што сабакі, калі едуць, ведаючы, што «песенька камандзіра спетая». Молчан трымаўся гранітна. У Молчана інспектары былі ў кішэні.

— Але чорт з імі, з інспектарамі! Сын едзе! І я разумею тваё жаданне сустрэць сына ў сваім доме. Зайздрошчу табе. Можаш узяць рабочых, сталяроў, яны больш памогуць, чым салдаты.

Узяў трох лепшых майстроў з намерам добра заплаціць ім, але, даведаўшыся, з якой нагоды спешка, добрыя дзядзькі — суседзі па пасёлку — ад аплаты адмовіліся.

— Пакліч нас у госці, Паўлавіч,— і гэта будзе лепшая плата.

Жэня прыехаў праз тры дні цягнікам з Масквы, сышоў на нашай лясной станцыі в палове шостай раніцы, за чатыры кіламетры ад гарадка; на нашым раз'ездзе скорыя не спыняліся. Пазваніў дзяжурнаму па часці, той — мне. З Кутаісі ён неаднойчы выклікаў нас на перагаворы ў штаб: «Перадайце Вятрэнкам: праз гадзіну буду званіць». Тэхніка ў нас была на ўзроўні фантастыкі: унутраны тэлефон з мноствам кнопак, а выхадаў на горад было тры-чатыры, службовыя, кватэрныя — толькі ў Молчана і нампаліта.

Гадзіны паўтары трэба было чакаць, пакуль падымуць салдат, выйдуць на працу вольнанаёмныя шафёры. Але дзе там! Галя і слухаць не хацела. Яна гатова была бегчы на станцыю па шпалах. Свой транспарт у мяне таксама фантастычны: матацыкл, праўда, з каляскай. Асфальт быў выведзены ў другім кірунку на магістральную шашу. А да станцыі — лясная дарога, а лес — дубняк, алешнік з мноствам лужын, у якія садзіліся вялікія грузавыя машыны.

Пакуль я выводзіў з будана свайго «казла», Галя стаяла на ранішняй прахалодзе і ажно дрыжала ўся.

— Паша! Толькі асцярожна. Асабліва на аб'ездах. Ты ж ліхач!

— Знайшла ліхача! Стары складскі пацук. (Між іншым, пра пацукоў. На складзе боепрыпасаў, нават калі блізка былі прадуктовыя склады, я ні разу не бачыў ніводнага пацука. Чулі «дух смерці».)

Даў Галі абяцанне ехаць асцярожна. Але ліхачыў. Хіба можна ехаць ціха, каб сустрэць сына, якога не бачыў два гады? Я знайшоў Жэню не ў маленькай пустой пасажырскай зале, а ў дзяжурнага тэлефаніста. Калі ўвайшоў туды, у іх выцягнуліся твары — і ў чыгуначніка і ў старшага лейтэнанта з блакітнымі пятліцамі і залатымі пагонамі. А потым Жэня зарагатаў.

— Бацька! Ты на чым ехаў? На матацыкле? Няўжо на базе няма «газіка»?

— Ёсць. Але колькі прайшло б часу, пакуль бы я арганізаваў яго. Маці самлела б.

— Як жа нам цалавацца? Я ж пры парадзе.

Аднак доўга не выпускаў з абдымкаў.

У дарозе перакідваліся словамі. Як падпалкоўніку сказаць старшаму лейтэнанту: ці не пагражае яму Афганістан? Але бацькоўскія пачуцці вышэй і глыбей за ўсе іншыя; ад іх, бацькоўскіх і сыноўскіх, вырастае ўся гама пачуццяў, погляду чалавека, грамадзяніна, салдата.

— Чаму вас перабазіравалі?

— Бліжэй да пажару.

— Прыйдзецца тушыць?

— Бацька, ты думаеш, яго можна патушыць? Чым больш там нас будзе, тым мацней ён будзе разгарацца. Цяпер гэта вучню зразумела.

— Невясёлае ў цябе пераканание. І многія так думаюць?

— Тры гады назад мы рваліся туды. Цяпер... Хіба, можа, камандзір дывізіі — за ордэнамі і званнем.

— Не кажы маці, што ёсць пагроза трапіць туды. Яна не спіць з таго часу, як ты апынуўся ў «горадзе хлебным».

— Як ты сказаў: у хлебным?

— Ты ж сам так напісаў. Ды і адрас.

— Адрас... «Мой адрас — не дом і не вуліца...»

— Скакаць не баішся?

— Не, не баюся. Была паласа — прайшла. Нічога не баюся. Ас!

Маці чакала нас на прахадной. Убачыла — кінулася насустрач. Спынілася, схапілася за галаву.

— О Божа! Я так і знала!

— Што? — заглушыў каля яе матор.

— Паглядзі, як ты заляпаў Жэню!

Што сам я захлёпаўся з ног да галавы — гэта яе не турбавала.

— Гэта яму не Узбекістан. Адмыецца. Вады ў нас хапае.

Абнімаючы сына, яна плакала і смяялася. За снеданнем не зводзіла вачэй. Хлопец ажно збянтэжыўся.

— Мама! Не глядзі на мяне так.

Але калі і спаць лёг — у поездзе амаль не спаў,— маці раз-пораз на дыбачках, як прыходзяць да немаўляці, набліжалася да яго ложка. А спаў ён прыгожа, цмокаючы губамі — як цалаваў кагось.

Я знарок арганізаваў аўтобус, каб Галя разам з іншымі жонкамі з'ездзіла ў райцэнтр за пакупкамі: трэба ж госця частаваць!

А я, узяўшы дзённы адпачынак, даводзіў да ладу дом. На Першага мая — наваселле! Абавязкова! Абвясціў у штабе. Молчана запрасіў загадзя; ведаў яго любоў да застолляў: запрошаны будзе дабрэйшы. А мне вельмі патрэбна будзе салдацкая дапамога; упершыню за ўсе гады службы адкінуў сваю цнатлівасць, якая, не ў прыклад такім, як Корсун і Молчан, рабіла маё армейскае жыццё пурытанскім.

Не пасаромеўся нават выкарыстаць гарнізонную кухню, халадзільнікі: прыгатавалі халодныя закускі з мяса бычка, якога я прывёз ад Івана Хадынца, запрасіўшы на сваё надзвычайнае свята і старшыню калгаса. Усё астатняе Галя гатавала ў сваім доме, на новай пліце, памагалі суседкі на сваіх плітах; людзі ганарыліся, што побач з імі будзе жыць падпалкоўнік, за паўтара года будаўніцтва добра пазналі нас з Галяй. Ухваленне іх было кароткае і выразнае:

— Простыя, як мы.

Напярэдадні свята пад вечар я прывёз сталы, посуд з афіцэрскай гасцёўні: сервізы там стаялі для высокага начальства, інспектараў.

Галя сустрэла мяне, расчырванелая ад пліты, памаладзелая. Але не ад гэтага незвычайна, як калісь у маладосці, ззялі яе вочы.

Я пажартаваў:

— Што ты блішчыш сёння, як намаслены блінец?

— Ой, Паша, што я табе скажу! Цьфу, цьфу, каб толькі не сурочыць. Гэта было б такое шчасце!

— Што здарылася?

Яна наблізілася, прашаптала:

— Жэня палажыў вока на Людачку. Няхай бы сышліся... Я іх паслала запрасіць ляснічага. Каб былі разам... Няхай гуляюць па лесе. Няхай гуляюць...

Людачка — суседская дачка, рабіла настаўніцай у школе. Дзяўчына нам падабалася. Прыгожая: невысокага росту, пульхненькая, з прывабным тварам, чырванашчокая, з вясёлымі вачамі, ды і сама рагатуння, смех яе звінеў з бацькоўскага падворка і радаваў, што добрая музыка, мяне, калі [redacted] габляваў і выразаў ліштвы. І добрая: увесь час прапаноўвала сваю дапамогу.

— Цётка Галя, што вам памагчы? Дзядзька Павел...— Мяне цешыла, што яна называла мяне дзядзькам, а не падпалкоўнікам, як іншыя.

Мой намеснік па складах хмурны капітан Стрыжак, у якога надзіва сварлівая жонка, убачыўшы Люду, аблізнуўся, што кот на сала, і трапна вызначыў:

— Цёпленькая пампушачка.

Мы з Галяй пасля так і называлі яе ў жарт: пампушачка.

Наваселле было — гай шумеў. Дзень першамайскі выдаўся сонечны, цёплы. Бярозы толькі што пырснулі маладымі жаўтаватымі лісточкамі. Дубы за гародам, на краі бору, стаялі яшчэ голыя. Вуліца накрылася зялёным дыванам травы, машыны ў гэты тупік заходзілі рэдка, толькі каровы праходзілі, ад чаго трава расла лепш.

Танцавалі на вуліцы. Танцавалі не толькі тыя, хто ў хаце сядзеў за сталамі, танцавала амаль уся моладзь пасёлка і нямала салдат, сяржантаў, на баяне іграў прапаршчык. Галя танцавала з Молчанам, а я з леснічыхай. Але бачыў я, што не цікавіць Галю ні партнёр, ні я: танцуй з кім хочаш, стары атопак. Яна і ў крузе, і калі стаяла ды глядзела, як танцуюць маладыя, бачыла толькі адну пару — Жэню і Люду.

Калі ў чарговы раз селі за сталы прадоўжыць баляванне, апошнімі ўвайшлі ў цесна застаўлены пакой яны — Люда і Жэня. І Людзіна маці, гаваркая цётка Маша, захоплена выгукнула:

— Людачка! Жэнечка! Якая ж вы парачка! Пабраліся б вы, дзеткі!

— А я згодзен,— сур'ёзна адказаў Жэня.

— А ты, Люда? Слова за табой! — крычалі іншыя жанчыны ды і мужчыны, каторыя былі ўжо пад градусам.

А Люда запунсавела, што ружа, апусціла вочы, але як бы ў знак згоды ўзяла суджанага за руку.

— Люда! Парадуй грамаду.
— Во будзе свята!
Люда звонка засмяялася.
— Калі жаніх згодзен, то і я згодна.
Застольнікі заляскалі ў далоні, радасна загаманілі:
— Заручыны! Заручыны!
А дзве маці праслязіліся — Галя і Маша.
Тут жа жартаўніка Хадынца зрабілі сватам, павязалі ручнік.
І добра выпілі за заручыны.
Праблема ўзнікла з рэгістрацыяй шлюбу: у Яўгена заставаўся адзін тыдзень адпачынку. Далі тэлеграму ў яго полк: «Жанюся, прашу прадоўжыць адпачынак пятнаццатага мая».
На трэці дзень, пасля таго як Молчан, я і Хадынец з'ездзілі да старшыні райвыканкома і дамовіліся, што ЗАГС зарэгіструе шлюб неадкладна, як толькі маладыя з'явяцца, прыйшла кароткая тэлеграма ад камандзіра палка: «Отпуск разрешаю».
Вяселле згулялі больш сціплае, чым наваселле і заручыны: менш гасцей, больш — ад нявесты, ад жаніха прыехалі дзве яго цёткі — мая сястра і Галіна, ды мае калегі па базе.
Адвезлі маладых у Гомель у аэрапорт — на ташкенцкі самалёт.
Маці маладой пусціла слязу.
— Калі я цябе ўбачу, дочачка?
Люда смяялася:
— Прылятай у Ташкент, мама. Ты ж нікуды не лятала.
— Бо баюся.
— Да дачкі і зяця не пабаішся.
— Да дачкі не пабаюся.
Галя не плакала. І калі Ту-134 развярнуўся над зялёнымі беларускімі палямі, сказала і мне, і сватам:
— Першы раз правяла Жэню з лёгкай душой. Радуюся, што цяпер побач з ім родны чалавек. Я знаю, якая гэта апора для ваеннага чалавека — добрая верная жонка. А ў Людачцы я ўпэўнена.
Ад пахвалы дачкі праслязілася Марыя — ад радасці, з удзячнасцю пацалавала сваццю.
Доўга не адыходзілі з поля. Я пажартаваў:
— Самалёт ужо над Варонежам, а мы стаім.
— А мы стаім,— уздыхнула сваццця.

Муж яе, лепшы цясляр, засмяяўся.

— Хоць навучышся пісьмы пісаць. Сыну ніводнага не напісала.— Сын іх працаваў у Цюмені.

— Дык за мяне Людачка пісала. Як напіша — плакаць хочацца і смяяцца. Выдумшчыца.

## Вяртанне

Ды нядоўга цягнулася наша заспакоенасць і ўпэўненасць у Жэневым шчасці.

У сярэдзіне лета прыйшло пісьмо — ад Людмілы, з плямамі,— пэўна, ад слёз. У кароткім сумным пісьме яна паведамляла адкрытым тэкстам:

«Жэню пагналі ў Афганістан».

Галя не плакала, не ламала рук. Але за якія тры дні счарнела — страшна глядзець. Часта паўтарала:

— Чула мая душа, чула... Дарэмна ты глушыў мае страхі... І я сама, радавалася... Чаму?

— Не адзін ён ваюе. Можа, сотні тысяч нашых там. Армія. А на ўвесь наш раён пакуль што прыйшла толькі адна цынкавая труна.

— Пакуль што. Пакуль... Я разумею, Паша, я ўсё разумею. Ты глушы мае страхі. Ты! Ты мужны і разумны. Чалавек урэшце да ўсяго прывыкае. Не, да гэтага прывыкнуць нельга! Але я буду жыць. Я буду жыць, пакуль жыве Жэня.

Я мужны. Я разумны. Але каб Галя ведала, які пажар гарэў у маёй душы! Колькі бяссонных начэй я пакутаваў! Я верыў у мудрасць палітыкаў, верыў сцвярджэнню: падсунуліся б пад нашы паўднёвыя межы амерыканцы, нацэлілі б з гор ракеты на Урал, на Сярэднюю Азію, дзе большасць нашых ваенных заводаў...

Вобраз ворага непахісна трымаўся ў маёй свядомасці яшчэ са школьных гадоў, у акадэміі ён атрымаў тэарэтычную базу, філасофскае асэнсаванне. Амерыканцы — галоўны вораг. А ворагу нельга саступаць ні ў чым. Ворага трэба біць. Хіба не для гэтага я так доўга і настойліва асвойваў сакрэтную зброю — хімічную, ядзерную і метады абароны ад яе? Хіба не для змагання з ворагам прайшоў два вучылішчы Жэня? Раз так зарыентаваў яго, так вучыў, то не раскісай, падпалкоўнік, мужна (але, мужна!) перанось любыя павароты ў сваёй і сынавай службе! Хіба я ўпотай не згаджаўся з Галяй, што перадыслакацыя

палка ў Ташкент — тактычная паўза для скачка блакітных берэтаў у Кабул, Гарат, Кандагар. Безумоўна, страх працінаў сэрца, але я таіў яго ад Галі, ад афіцэраў базы. Не да твару афіцэру выдаваць свой страх! Афіцэру патрэбна мужнасць!

Але ўпершыню ўзнікла пытанне: а навошта такая мужнасць? Усе мае перакананні ўшчэнт змяло адно Людзіна слова, бязлітаснае ў сваёй праўдзе — пагналі. Жэню пагналі! Дзеля чаго? Навошта? Забіваць такіх жа маладых афганцаў?

Гэта страшнае перажыванне, калі адчуваеш, як трашчаць, бурацца, ламаюцца, гараць абломкі цытадэляў тваіх, здавалася, непахісных перакананняў, тваёй жыццёвай філасофіі.

І невядома, якімі таемнымі сцежкамі ці шырокімі шляхамі я прыйшоў да думкі: паехаць туды. Добра ведаў, што Жэню нічым не памагу. Матыў такі можна выставіць Галі, магчыма, гэта яе пераканала б, ёй стала б лягчэй ад думкі, што побач з сынам — бацька, навучаны жыццёвым вопытам, а таму, апроч усіх іншых якасцей, больш асцярожны, абачлівы, ён будзе асцерагаць і сына.

Тыдні два я правяраў: ці не спантанны, бяздумны гэты парыў? Не.

Прыйшло пісьмо ад Жэні, можа, самае бестурботнае і вясёлае з усіх, якія ён пісаў. Але ў гэтай весялосці я прачытаў душэўны надрыў.

«Жывём як на курорце. Персікаў поўна. Вінаграду. Шкада, мусульмане не цэнуць віна, але хлопцы знаходзяць, прывозяць з Ташкента, цяпер ужо не толькі «горада хлебнага», але і віннага, нават самагоннага. Кажуць, суседзі нашы — «багі вайны» — наладзілі самагонны апарат. Хацелі пераняць вопыт, але яны, скупярдзяі, трымаюць у сакрэце, быццам гэта машынка «град».

Па «граду» цэнзар прайшоўся алоўкам, але закрэсліў так, што лёгка чыталася. У такім блюзнерскім тоне ўсё пісьмо. Адваротны адрас: Ташкент, але далейшы нумар — не нумар часці, а палявой пошты.

І дзіўна! — яно канчаткова пераканала мяне: ехаць!

Сказаў Галі. Яна захлынулася — ад чаго? — і глядзела на мяне вачамі, якіх я не бачыў за ўсё наша сумеснае жыццё. Што ў іх было? Страх? Не толькі. Найбольш удзячнасць за маю трывогу за сына. Але сказала яна пра страх:

— Баюся я, Паша.

— За каго? За мяне?
— І за цябе.
— Не бойся. Пры маім званні, пры маёй прафесіі інжынера я буду пры штабе ці пры базе боепрыпасаў. Але я дамоўлюся, каб быць блізка да Жэні. Я дамоўлюся. Любы сухар зразумее маё жаданне.
Сказаў Молчану — той здзівіўся і пачаў шчыра адгаворваць:
— Не раю, Павел Паўлавіч. Што ты дакажаш гэтым — свой патрыятызм? І што гэта табе дасць? Ордэн? Званне?
— У мяне сын там.
— Разумею твой бацькоўскі парыў. Але чым ты паможаш сыну? Не ты будзеш яго камандзірам.
— Я пастараюся быць бліжэй.
— Гэта яму можа нашкодзіць, а не памагчы.
— Аляксей Мікалаевіч, не адгаворвай. Я жонку пераканаў. І падтрымай, калі я напішу рапарт.
Але пісаць нічога не трэба было. І чакаць доўга не давялося. Молчан пазваніў у штаб акругі знаёмаму генералу. І той — о, дзівосы! — схапіўся за маё жаданне, як за незвычайную знаходку. А што, можа, і праўда — незвычайная? Падпалкоўнік добраахвотна просіцца ў Афганістан! Плюс камандаванню акругі: во якіх людзей мы выхавалі!
— Няхай паслязаўтра будзе ў Мінску.
Мяне гэта ўзрадавала: не трэба доўгіх развітанняў, доўгіх Галіных пакут.
Штабнікі базы ў той жа дзень правялі мяне. Пілі без меры, як адчуваючы сваю віну перада мной. Напэўна, некаторых грызла сумленне.
На другі дзень Галя правяла мяне на машыне да Гомеля, я ад'язджаў начным цягніком. Здзівіла: ніводнай слязінкі, надзіва спакойная, быццам еду не на вайну — на курорт. Сказала, як казала тады, калі я зрэдку адзін ехаў у Разань у вучылішча:
— Пацалуй там Жэню за мяне. І Люду, калі ўбачыш яе ў Ташкенце.
У Мінску набралася група з дзевяці чалавек, усе добраахвотнікі, але ўсе ніжэйшыя па званню: прапаршчык, лейтэнанты, старэйшы — капітан, якога, як высветлілася, трэба было аддаваць пад суд; па яго віне загінуў салдат. Яго «ратавалі» Афганістанам. Мяне назначылі старшым групы.

Тры дні таўкліся ў аддзелах штаба: білеты на самалёт, дарожныя грошы, сухі паёк, новае абмундзіраванне — як на парад адсылалі; партупеі скрыпелі.

І — Ташкент. Нас сустрэў капітан. Размясціў тут жа на тэрыторыі аэрапорта ў спецыяльна збудаваным доме. Там было ўжо чалавек дваццаць: хто вяртаўся пасля лячэння, адпачынку, хто — самая панурая частка, маладыя лейтэнанты — накіроўваўся ў часці, хто — са службовай камандзіроўкі, пераважна асабісты, кадэбісты, міліцыянеры.

Здзівіла, што людзі гэтыя «загараюць» ужо тыдзень, хоць самалёты на Кабул адыходзілі штодня і не па адным. Але ляцелі там першачарговыя. Хто? Здаецца, ва ўсіх аднолькавыя правы і аднолькавыя абавязкі.

Здзівіла і іншае: ад бяздзеяння і спякоты п'янствавалі навічкі, абстрэленыя паводзілі сябе больш стрымана, манахамі не былі, але выпівалі ўмерана, як разумеючы, што ў бліжэйшы час іх чакае сур'ёзная праца.

Свабоду нашу абмяжоўвала адно: няведанне дня і часу адлёту. Але я з'ездзіў у няблізкі ваенны гарнізон, дзе жыла Люда. Яна спалохалася і ўзрадавалася бадай, калі пачула, што я лячу ў Афганістан і абавязкова буду ў палку, у якім Жэня. Тут жа пачала пісаць пісьмо і збіраць яму пасылку.

Люда зблажэла, схуднела, пацямнела, што ўзбечка. Пасля яна штодня прыязджала ў аэрапорт і прывозіла каструлю чабурэкаў — на ўсю каманду. Яна магла пасмяяцца з жартаў і заляцанняў лейтэнантаў, але часта магла і заплакаць без асаблівай прычыны. І слёзы яе пяклі маё сэрца. У тыя пяць дзён яна зрабілася для мяне такой жа роднай, дарагой, як сын, яна стала дачкой у поўным сэнсе. Я пасля ўяўляў, як яна плакала, калі прыехала, а нас няма.

На шосты дзень вераснёўскай ташкенцкай спякоты нас, усю групу, якая вырасла чалавек да сарака, пасадзілі ў аўтобус і адвезлі на далёкі ваенны аэрадром, дзе сярод серабрыстых імклівых МіГаў стаяў няўклюдны тоўсты транспартнік Ан. Мы сядзелі ў ім хто на чым — на кароткіх лаўках, на скрынках, цюках, на жалезнай рабрыстай падлозе, якая ў паветры хутка астыла, ды ўвогуле дзесьці над Гіндукушам некаторыя пачалі распакоўваць шынялі: трапілі, што з экватара на полюс.

У Кабуле ў штабе арміі мяне аднаго — відаць, далажылі яму: падпалкоўнік — прыняў камандуючы, генерал-лейтэнант... Сядзеў насуплены, з запалёнымі вачамі, за руку

не павітаўся, сесці не прапанаваў. Глянуў у дакументы, мацюкнуўся.

— Каго яны мне шлюць, тылавыя пацукі? Мне боепрыпасы трэба, а не спецыяліст па іх захаванні. Бог мой! І па абароне ад хімічнай і ядзернай зброі. Дзякуй Богу, атамныя бомбы на нас яшчэ не кідаюць. Іпрытам не паліваюць.

Але, пэўна, дачытаўся, што я добраахвотнік, узняў галаву, зусім па-іншаму — зацікаўлена, цёпла — паглядзеў, падняўся, абышоў стол, працягнуў руку і нават папрасіў прабачэння — за што? — і спытаў зусім па-цывільнаму:

— Што вас прымусіла?

Вочы генерала напоўніліся яшчэ большым цяплом, ён разумеў мае бацькоўскія пачуцці, калі я сказаў, што ў мяне сын тут.

— Дзе?

Я назваў нумар авіядэсантнага палка.

— Мы яго раскідалі па батальёну ў дывізіі, брыгады, палкі. Авіядэсантнікі ў нас — ударная сіла. Ён хто ў вас?

— Камандзір роты. Старшы лейтэнант.

Выклікаў ад'ютанта, капітана, даручыў яму высветліць, дзе рота Вятрэнкі Яўгенія Паўлавіча.

Папрасіў чай. Засыпаў пытаннямі: як там, на Радзіме? Што ў Беларусі? Ён служыў у Барысаве, калі быў яшчэ лейтэнантам. Увайшоў палкоўнік Кашкін, мой аднакурснік па акадэміі. Мы абняліся.

— Ты тут, Радзівон? — здзівіўся я, ведаючы, што Кашкін быў у Генеральным штабе.

— Я ў камандзіроўцы.

— Яны прылятаюць вучыць мяне ваяваць,— іранічна пасміхнуўся генерал.

— Не вучыць. Памагаць.

— Што б мы рабілі без вашай дапамогі!

— Каб я не ведаў, што вы гумарыст, таварыш генерал, то мог бы пакрыўдзіцца.

— За што? Я скажу больш: многія з вас ляцяць сюды за чарговым званнем і ордэнамі.

— Я ў вас трэці раз. І не маю ні звання, ні ордэна,— як паскардзіўся палкоўнік.

— Вы, Радзівон Іванавіч, выключэнне. Вы сапраўды памочнік...— мне пачулася ў словах генерала іронія.

Ад'ютант прынёс звесткі, дзе Жэня.

— У Папова. Гэта недалёка, кіламетраў сто. Сына вашага знайшлі. А вас куды, падпалкоўнік? На полк вы

не прыгодны — не страявік. Радыяцыя нам не пагражае...

— Таварыш генерал, увядзіце ў арміі адзінку начальніка аддзела па мініраванні. Мы аформім... У вас гэта слабае месца — карты мініравання. Схемы мінных палёў — школьная самадзейнасць: хто што ўмее. А нам жа прыйдзецца размініраваць, калі скончым вайну,— сказаў Кашкін.

— А вы спадзяецеся яе скончыць? — крыва пасміхнуўся генерал.

— Э-э, таварыш генерал! Вы робіцеся песімістам. Пад вашым камандаваннем яшчэ гадзік...

— Яшчэ два — і ўхнем... Так? «Дубинушка сама пойдет». Пацягнеце міннае дзела? — спытаў камандуючы ў мяне.

— Па мінах — сабаку з'еў. Па картах — не дагрыз. Але ў акадэміі вучылі і гэта. Вучылі ўсё — што трэба і што не трэба.

— Што ж, Кашкін, лічы, што ты аказаў мне сур'ёзную і канкрэтную дапамогу. Запісвай у свой актыў. Звання я табе не гарантую, ордэн — гарантую, гэта — у маіх руках.

Назначэнне не адразу спадабалася: далёка ад Жэні, пры штабе арміі, у Кабуле... Але, рэаліст, я разважыў: месца ў паветрана-дэсантным батальёне інжынеру-падпалкоўніку няма, ды і ў палку наўрад ці знайшлося б. Я думаў, калі ляцеў, пра гэта і меў на ўвазе прапанаваць сябе ў камандзіры сапёраў. Але міны, бадай, лепш. Міны — пярэдні край. А пасада армейская дае магчымасць ехаць у любую часць і быць там, колькі мне спатрэбіцца.

— Вы, канешне, ірвяцеся пабачыць сына? — спытаў генерал.

— Яшчэ як ірвуся!

— Што ж, заўтра я дам вам «бэтээры». На «газіку» рызыкоўна. Вайна без фронту, маджахеды ўсюды — дзе іх не чакаеш.

— Партызанская вайна.

— Калі не горш. Такую вайну мелі амерыканцы ў В'етнаме. Тады мы здзекаваліся, а цяпер разумеем... тых, хто ваяваў тут.

Уладзілі мяне ў армейскай гасцініцы; службы штаба арміі займалі казармы былой каралеўскай гвардыі, прыстойны гарадок, дзе колькі будынкаў еўрапейскага тыпу, толькі, бадай, больш багата абстаўленыя: у самім штабе,

у гасцініцы, у афіцэрскай казарме — выдатныя дываны. Такая раскоша мяне абурыла. Кашкін, з якім мы за сустрэчу пілі віскі, смяяўся.

— Ты ідэаліст, Павел. Мы тут трывала і надоўга. Чым лепш людзі абжывуцца, тым больш упэўнена будуць адчуваць сябе. Мы скрозь пальцы глядзім на тое, каб гэтыя дываны, серабро вывозілі ў Саюз, сем'ям. Так было ў Германіі пасля перамогі. Ды і цяпер там не толькі генералы, палкоўнікі — маёры, капітаны жывуць, дай Бог нам з табой.

— Тут мы яшчэ нікога не перамаглі.

— Пераможам! — упэўненасць генштабіста была надзвычайная: ён не ваяваў — ён рабіў інспекцыйныя прагулкі і, безумоўна, вывозіў дабро, самалётамі гнаў у Маскву — для сябе і начальства свайго.

Генерал, які камандуе арміяй, яўна такой упэўненасці не мае. Яго пытанне Кашкіну: «А вы спадзяецеся яе скончыць?» — не выходзіла ў мяне з галавы і набывала трагічны сэнс — можа, ад выпітага віскі і пераможнага разглагольствавання генштабіста.

Адсылаць мяне ў полк, дзе быў Жэня, не спяшаліся. Я сядзеў як на іголках. Справы па арганізацыі аддзела па размініраванні ішлі марудна.

Генерал здзівіўся, калі я назваў сваю службу не па мініраванні, а па размініраванні.

— Мініраваць усе ўмеюць. Любы сяржант — прафесар. Размініраваць без схем мінных палёў ніхто не здолее.

Генералу спадабалася такая «мірная назва» новай армейскай службы, хоць неўзабаве — як толькі Кашкін выляцеў у Маскву — у міністэрстве назву «зарэзалі». Умоўнасць — як што назваць, але без начальства нельга. Як перамагаць лепш маджахедаў — ніхто з высокіх і мудрых не ведаў, а дробнай апекай — колькі сухароў салдату палажыць — займаліся людзі з вялікімі зоркамі на пагонах.

Полк Жэнеў знаходзіўся на поўначы, на перавале Саланг — на дарозе, што звязвала Саюз з Кабулам і па якой ішоў увесь наземны паток грузаў. Гэта было бадай самае гарачае месца, бо перарэзаць дарогу камандзіры маджахедаў і ў сне марылі. І пераразалі. На перавале ішлі жорсткія баі. Маджахедаў выбівалі. А інакш — задыхнуліся б, як у процівагазе, у якім перацiснулі патрубак. Па паветры не перавязеш танкі, пушкі, «бэтээры». Штодня туды, на перавал, і далей — у Саюз, ішлі калоны машын

у суправаджэнні баявых часцей. Ехалі афіцэры штаба. З любым з іх мог паехаць і я. Генерал адцягваў маю паездку. Чаму? Асцерагаў мяне? Я прасіў дазволіць мне паехаць.

— Пачакай. Заўтра паедзем разам.

Але заўтра перанеслася на паслязаўтра.

Урэшце мы вылецелі на верталёце. Пілоты добра ведалі маршрут — дзе менш рызыкі. І ўсё роўна над гарамі нас двойчы абстралялі. Праўда, не «стынгерамі» — буйнакаліберным кулямётамі, прымусілі лезці ў воблакі.

Штаб палка размяшчаўся ля падножжа гары ў прыгожай даліне з персікавымі садамі, вінаграднікамі.

— Можна падумаць: рай зямны. А жывуць — бядней не прыдумаць. За што ваююць? — сказаў маёр Стрыгалёў.

— За што — не кожны з гэтых людзей ведае,— адказаў генерал.— А супраць каго — чужаземных захопнікаў ды яшчэ няверных,— пра гэта ведае кожны непісьменны хлопчык і кожны белабароды аксакал.

Генерал неаднойчы здзіўляў мяне неаспрэчнай логікай поглядаў на тое, што ён вымушаны быў рабіць; ён адкрыта выяўляў сімпатыі да афганцаў; сапраўдны інтэрнацыяналіст і... палітык!

Калі камандзір палка палкоўнік Кошалеў сказаў, што батальён капітана Вятрэнкі на заданні — выбівае маджахедаў з нейкай цясніны, я адчуў страх, які да таго не перажываў, хіба на кароткае імгненне пасля нявестчынага пісьма, што «Жэню пагналі ў Афганістан».

Генерал прабыў у штабе гадзіны дзве і паляцеў далей, пажадаўшы мне шчаслівай сустрэчы з сынам. Я застаўся. І не было ў маім жыцці больш пакутлівых гадзін, чым тыя, якія прайшлі да сустрэчы з сынам. Я, здаецца, быў адключаны ад усяго зямнога. Абедаў з афіцэрамі, гутарыў, адказваў на іх пытанні — як там на Радзіме? — а ў самога перад вачамі стаяла нейкая жахлівая змрочная цясніна, як у фільме жахаў, напоўненая не людзьмі — пачварамі, і маленькія людзі на чале з Жэнем, якія павінны выбіць пачвар з цясніны. Куды выбіць — у даліну, на гару? На тую гару, на якой праз вузкае акно дома, дзе размяшчаўся штаб, віднелася белая шапка снегу. Як жа далёка іх трэба гнаць, пачвар, каб памарозіць там, на вяршыні! Усіх жахлівых уяўленняў я ўжо і не помню, бо і дагэтуль у галаве — кашмар, ды ён не толькі ад таго чакання — ад усяго, што адбылося пасля.

Пад вечар Кошалеў сказаў мне, пагутарыўшы перад гэтым па палявым тэлефоне:

— Вярнуліся. Праз паўгадзіны сын ваш будзе тут.
Я падскочыў з месца — ад шчасця, якога не меў дагэтуль. «Жывы Жэня! Жывы!»
Я рваўся кінуцца яму насустрач. Але з якога боку ён падыдзе? На чым? Ды і Кошалеў, відаць, разумеючы мой стан, маё нецярпенне, пачаў расказваць пра Жэню:
— Добры камандзір ваш Яўгеній. Надзейны. З такімі людзьмі і ваяваць прыемна.
— Прыемна ваяваць? — здзівіўся я.
Палкоўнік засмяяўся.
— З такімі людзьмі — нават ваяваць... А ўвогуле, у вайне мала прыемнага. Хоць, скажу вам, некаторыя ўцягнуліся. Ды і сам я... Азарт з'яўляецца. Гульня... Смяротная. Але небяспека заводзіць людзей на самыя высокія эмацыянальныя абароты. Ёсць афіцэры, каторых я гвалтам адсылаю ў адпачынак. Дадому! Яны як бы чакаюць чагосьці незвычайнага. Чаго? Перамогі? Але ж тут яна будзе без салютаў. Калі будзе...
Яшчэ адзін — з сярэдніх камандзіраў, які, як і генерал, сумняваецца ў перамозе. Во ўлезлі! А я, стратэг і патрыёт, лічыў, што ўвод войска сюды — вельмі правільная мера: «Каб не мы, то прыйшлі б амерыканцы». Карцела задаць гэтае пытанне генералу, але неяк не знайшоў зручнага моманту. Спытаў у Кошалева:
— Калі быў кароль — навошта ім, амерыканцам? А калі мы зрабілі рэвалюцыю... Натуральна, што яны не могуць аддаць такі кавалак. Дзесяць гадоў ваяваць будзем...
— Колькі?
— А чаму вы здзіўляецеся? Лічыце, шэсць ужо ваюем.
Загурчэў матор «бэтээра».
— Ваш сын.
Як не разарвалася маё сэрца! Я адступіў у кут, у цень; сонца схавалася за горы.
Я пазнаў крокі сына. Ён не бег на даклад начальству — ішоў не спяшаючыся, цяжкавата ступаючы. Такі Жэня быў яшчэ ў школе: да дошкі ішоў перавальваючыся, што матэматычку выводзіла з сябе, на бацькоўскіх сходах яна называла гэтую яго паходку «ігрой дрэннага акцёра».
Пастукаў. Адчыніў дзверы. На парозе ўскінуў руку да каскі і сказаў не па-ваеннаму: «Таварыш палкоўнік! Заданне выканана»,— а неяк цывільна.
— Выбілі, Аляксей Іванавіч. Іх нямнога было. Паўсотні. Дрэнна навучаныя. Галадранцы. Іх бадай ашаламіла,

што мы скочылі з неба... Чатырнаццаць здаліся... Моляцца алаху.

І, адчуўшы прысутнасць другога чалавека, павярнуўся да мяне. Якія ў яго сталі вочы! Пэўна, я здаўся яму прывідам.

— Нашы страты?

— А-а? Нашы? Трое параненых,— і дзіўным шэптам: — Бацька! Ты? І ты тут?

— І я тут, сын. Здарова, Жэня,— я падышоў, абняў яго. Плечы яго ўздрыгвалі. Я чамусьці спалохаўся, што ён плача тут, перад сваім палкоўнікам. Хоць што ганебнага ў такой слабасці — нечакана сустрэць бацьку ля падножжа Гіндукуша? Не, адхіліўся ад мяне — вочы сухія. Углядзеўся ў мой твар, як бы не верачы, што перад ім родны бацька.

— Ты! Навошта?

— Што — навошта?

— Навошта ты тут?

— Я такі ж ваенны...

— Навошта тут такі інжынер?

— Такі інжынер усюды трэба.

— Ну і ну! Даваяваліся!

Гэта яго дзіўна вымаўленае «Даваяваліся!» стрымала мяне ад прызнання, што я сам папрасіўся ў гэтае пекла. Пабаяўся, што Жэня калі не скажа, то падумае: «Ну і дурань ты, бацька». Крыўдна было б здагадацца, што ён так падумаў. А калі сказаў бы... то што засталося б ад майго высокага парыву! Лёгка раніць бацькоўскае сэрца. Лёгка растаптаць лепшыя пачуцці.

Кошалеў заказаў вячэру на чацвярых, прысутнічаў нампаліт. І гарэлку. Жэня, выпіўшы, на вялікай ноце расказваў пра бой. Сваіх байцоў называў: «Мае арлы».

— Я з групай высадзіўся з верталёта на плато. Маджахеды не чакалі нас адтуль — з неба. Мы расстрэльвалі іх, што курапатак. А калі яны пачалі адыходзіць, я каля цясніны на раўніну выкінуў парашутыстаў. І яны апынуліся ў мяшку. Больш пайшло часу, каб забраць маіх арлоў на верталёты і падняць у лагер.

Кошалеў слухаў, але яшчэ больш пільна сачыў за маёй рэакцыяй.

— Вось так ваюем. На магістральнай дарозе... нашай з Саюза... напады такія часцей. Мы на дарозе, што вядзе ва ўсходнія раёны. Там сітуацыя дзіўная. Туды дабіраюцца не толькі пакістанцы, але і кітайцы. Марксісты-ленінцы,

маць іх! Усё пераблыталася. Але здзіўляе, як яны пераходзяць пераваллы ў пяць тысяч метраў...

Жэня шмат піў — куляў чарку за чаркай. Я сказаў яму пра гэта. Ён не пакрыўдзіўся — здзівіўся.

— Бацька! Тут нельга не піць. Праедзеш, інжынер, па часцях, то ўбачыш, ад чаго людзі п'юць. Ад таго, што не бачаць канца гэтай праклятай вайне. Кажуць, у амерыканцаў з'явілася новая хвароба — «в'етнамскі сіндром». Будзе ён і ў нас — афганскі. Я сённяшні бой да канца жыцця не забуду. А былі ж горшыя... Яны ў вачах стаяць, гэтыя барадатыя маладыя людзі ў лахманах. І, можа, нават галодныя. За што яны гінуць?

— За што мы гінем? — уздыхнуў Кошалеў.

Падабалася, што Жэня мае спачуванне да ворагаў. Але разам з тым я ўсведамляў, якая гэта душэўная трагедыя — з такім спачуваннем бязлітасна забіваць іх.

— Нашы гранатамёты касілі іх. Яны хаваліся за каменнем. Але разрыў на пералёце абсыпаў іх не толькі асколкамі гранаты, але і асколкамі граніту. Самая бязлітасная вайна, бацька, у гарах. Не дай Бог трапіць табе ў такі бой. Не лезь, я прашу цябе...

«Сын мой! Не лезь!» — я павінен прасіць цябе, з гэтым я прыляцеў сюды. Але сказаць гэтага я не магу камандзіру батальёна».

На добрым падпіцці Жэня раз-пораз вяртаўся да майго прыезду, здзіўлены, расчулены і... спалоханы — за мяне.

— Не, ты скажы, бацька, чаму цябе кінулі сюды? Не перакінулі ж сюды ўсю базу. Аднаго цябе?

— Не аднаго.

— Што вымусіла? Будзем мець атамную вайну?

— Ну, да гэтага не дойдзе,— сказаў Кошалеў.

— І я думаю: яшчэ не ўсе ашалелі. Ці там, наверсе, сядзяць псіхі? Мой філосаф масквіч Купцоў сцвярджае: усе палітыкі — параноікі. Гітлер, Сталін... Ці нармальны Гарбачоў? Малады ж...

Дзіўна: мяне, старога зубра, палохалі яшчэ падобныя сынавы разважанні. Дзе! У афганскіх гарах! Што палохала? Прысутнасць маўклівага палітаддзельца? А што ён мог зрабіць баявому камандзіру? Напісаць у палітданясенні? І што зробяць Жэню? Адашлюць у Саюз з паніжэннем у званні, у пасадзе? Божа мой, я і сёння чырванею за тую маю ганебную боязь.

Начальнік палітаддзела маўчаў. А камандзір, здалося мне, правакаваў маладога капітана на крамольныя выказванні. Чаму? Не жадаў жа яму зла. Сам так думаў?

А Жэня пасля чарговага тоста — «За нашых бацькоў!» — здагадаўся:

— Слухай, бацька, а можа, ты сам напрасіўся? — і пільна ўгледзеўся мне ў вочы.

Далібог, ажно збянтэжыў: што адказаць?

— Мяне твая маці не пусціла б. Яна ў сям'і камандуе.

— Гэта праўда. Мама такая,— згадзіўся Жэня.

А я падумаў: «Як дрэнна ты ведаеш, сын, і маці і мяне. Каб зразумець да канца — на што мы здатныя дзеля цябе,— трэба самому стаць бацькам».

Усё ж ён назваў мяне дурнем, расказаўшы пра сяржанта — украінца, які прыехаў у Афганістан добраахвотнікам; звальняцца павінен быў і раптам папрасіўся ў Афганістан: захацелася хлопцу праверыць сябе ў вайне.

— Яго паважаюць, гэтага Кулініча,— кампанейскі хлопец і добры ваяка, майстра парашутнага спорту. Але ўсё роўна называюць дурнем — за добраахвотнасць яго.

Вось так! Можа, і камандуючы падумаў пра мяне гэтак жа, як дэсантнікі пра Кулініча?

Мы засядзеліся да позняй ночы. Батальён Жэнеў базіраваўся недалёка ад штаба палка, але кіламетра на паўтара вышэй, і дарога туды не для начной паездкі. Начавалі.

Раніцою я зведаў гэтую дарожку. Серпанцін над цяснінамі такі вузкі, што, здавалася, колы «бэтээра» віселі над абрывам, і я міжволі адхіляўся ў другі бок, хоць і служыў у Таджыкістане некалі і ездзіў па такіх горных дарогах. Успомніўся адзін надпіс на скале па-персідску: «Падарожнік, ты як сляза на вейцы». Сапраўды, чуць міргнеш — і сарвалася сляза. І на такіх дарогах трэба ваяваць!

Але месца дыслакацыі мне падабалася: на роўным плато, на якім нават расло колькі каржакаватых, абгладжаных вятрамі сосен. З поўначы плато закрыта стромай скалой, з усходу — абрывалася цяснінай, а з поўдня, адкуль узнімалася дарога, была зроблена штучная агароджа з камення. Не цяпер — даўным-даўно: каменне парасло мохам. Некалі, можа, сотні гадоў назад, тут было паселішча ці ваенны лагер. Пра гэта найбольш яскрава сведчылі тры вялікія пячоры ў гары, наўрад ці зробленыя рукамі чалавека, таго, старажытнага, хутчэй, чалавек прыстасаваў прыродныя паглыбленні, як прыстасавалі іх і цяпер: пад баясклад, пад штаб, казарму, хоць частка саставу жыла ў палатках. Тут размяшчалася адна рота, дзве другія займалі пазіцыі і вышэй па дарозе, таксама маючы верталётныя пляцоўкі.

На пляцоўцы стаялі тры верталёты, і гэта надавала базе выгляд абжыты і баявы. Хоць няўцям было, навошта дэсантнікаў базіраваць так высока. Жэня растлумачыў: сіл, каб прыкрыць дарогу на ўсім перавале, не хапае, а пераразаюць яе маджахеды часта, і толькі такія мабільныя часці — «нябесныя ангелы» — могуць з такой жа хуткасцю, з якой маджахеды налятаюць, выбіваць іх з прыдарожных горных сцежак — дзе агнём з верталётаў, дзе высадкай дэсанта, як было ўчора.

Я пражыў у батальёне цэлы тыдзень, забыўшыся на свой «аддзел размініравання», няма яшчэ яго, размініравання; пакуль што ўсюды мініруюць. Камандуючы мяне не прыспешваў, інакш даў бы знаць: з палком у яго сувязь надзейная, а батальён звязаны са штабам палка не толькі па радыё, але і палявым тэлефонам.

На вайне як на вайне.

Недалёка праходзіла ваенная дарога, галоўная дарога з Саюза, па якой ішлі тысячы тон грузаў. А батальён сядзеў на сухарах і кансервах. Самі здабывалі дадатак: палявалі на дзікіх коз. Аднойчы і я схадзіў на паляванне — стары ж мысліве́ц, у маленстве з бацькам хадзіў.

У батальёне выпівалі рэдка і вельмі стрымана: Жэня ведаў меру, і гэта мяне пацешыла. І супакоіла. Увогуле я супакоіўся за тыдзень пражывання побач з сынам. Зніклі тыя страхі, якія не давалі сну ў беларускім лесе. Безумоўна, вайна ёсць вайна — без рызыкі небяспекі не бывае. Але за тыдзень была толькі адна баявая трывога, дзённая,— у верхняй роце. Жэня злятаў туды з групай дэсантнікаў на верталёце. Я хацеў ляцець, але сын катэгарычна адмовіўся ўзяць мяне:

— Інжынеры мне не трэба!

Але — дзіўна — я не чакаў яго ўжо з тым страхам, які перажыў, калі прыляцеў з генералам у полк і даведаўся, што сын на заданні.

І Жэня хутка вярнуўся. Без страт, аднак з трафеямі — з двума палоннымі. Яны былі нават безбародыя, не раслі ў іх бароды — юнакі, дзеці. Са звязанымі рукамі яны мелі вельмі жаласны выгляд. Я па-бацькоўску пашкадаваў іх. Яны дрыжэлі і глыталі сліну, пачуўшы пах смажаніны. Адзін спытаў у афганскага афіцэра, які быў у батальёне за перакладчыка:

— Нас расстраляюць?

— Вас будуць судзіць.

Здзівіліся:

— Судзіць? Завошта?

Расстраляць, выходзіць, лічылі, ёсць за што. А судзіць — за што, гэта ім было няўцям. Горкія дзеці!

Урэшце генерал, відаць, вырашыў, што годзе мне цешыцца з сына, і выклікаў у Кабул.

Пасля я яшчэ двойчы наведаў Жэню. Ездзіў на «бэтээры», лятаў на верталёце.

У лістападзе батальён перадыслацыравалі ў даліну, бліжэй да Кабула: дарога, якую яны ахоўвалі, на вышэйшым перавале стала непраезнай: зіма. І гэтае размяшчэнне ў цёплай даліне, недалёка ад горада, неяк зусім мяне супакоіла, быццам сын апынуўся ў зоне поўнай бяспекі.

Работы ў мяне было нямнога: мінёраў хапала ў дывізіях, палках, батальёнах. А разміраваць... размініравалі рэдка — рэдка дзе. Я сам вучыўся па акадэмічных дапаможніках, якія прывёз Кашкін, як чарціць схемы мінных палёў, і вучыў іншых; перш-наперш «мінёраў» афганскай арміі: ім размініраваць пасля перамогі. Але чым больш я паглыбляўся ў іх справы, тым больш пераконваўся, што Жэня меў рацыю: дарэмна мы заварылі гэтую кашу. Няхай бы разбіраліся самі. І гэта была новая душэўная драма: разлад паміж тэорыяй, якой мяне вучылі, і чужым суровым жыццём, у якім я павінен наводзіць парадак. У Жэні вырвалася неяк:

— Мы ў сябе ніяк не навядзём парадку. Перабудову нейкую задумалі. Ты, бацька, там, дома, дайшоў да сэнсу гэтай перабудовы? Што перабудуем? Куды пойдзем?

Я, прызнаюся, не паспеў пра гэта нават падумаць там, дома, куды вядзе новы Генсек, якога Жэня называе мечаным. Жэня на падпітку жартаваў у прысутнасці свайго нампаліта:

— Уся справа ў тым, хто яго адмеціў — Бог ці чорт.

Хто з афіцэраў майго пакалення мог бы сказаць так пра Генсека! Хоць маглі. Ці мала хадзіла анекдотаў і пра Хрушчова, і пра Брэжнева!

Пры кожнай сустрэчы Жэня мяне трывожыў злосцю на гэтую «несправядлівую вайну». А можа, непакоіла не злосць яго, а тое, што і сам я заражаюся ёй, выходзіць, не я яго пераконваю — ён мяне. Я не быў з ім у баі. Але мяне супакойвалі яго гуманныя адносіны да палонных маджахедаў. А яны, маджахеды, зверствавалі ў дачыненні да нашых...

Камандуючы паклікаў мяне позна ўвечары. І хоць усе штабісты працавалі вечарамі, мяне выклік спалохаў. Я не

пайшоў следам за веставым, збіраўся з духам, хоць пра самае горшае не думаў.

Увайшоў у кабінет і ўбачыў Кошалева. Генерал і палкоўнік падняліся, як толькі я з'явіўся. І я ўсё зразумеў. Прашаптаў:

— Жэня?!

І ў сэрцы маім разарвалася граната. Я прытуліўся да касяка дзвярэй і, пэўна, моцна збялеў.

Кошалеў падскочыў і пад руку, як жанчыну, падвёў мяне да стала, пасадзіў у крэсла, працягнуў шклянку з вадой.

Генерал цяжка ўздыхнуў.

— Мужайся, Вятрэнка, вайна...

Я адхіліў ваду.

— Дзе? Як?

— Мы выкінулі дэсант, каб затрымаць калону з Пакістана. Авіяразведка выявіла яе рух на тэрыторыі «нейтральнага» суседа. Яны ішлі з цяжкай зброяй. Калону сустрэлі...

— Не толькі батальён Жэні...

— Сілы трох батальёнаў... Мы атакавалі іх, як толькі яны перасеклі мяжу... Учора раніцою... Бой ішоў да паўдня. Маджахеды занялі камандную вышыню. Батальён капітана Вятрэнкі штурмаваў яе. Жэня падняў людзей у атаку, і яго скасіла аўтаматнай чаргой... Памёр, як герой.

— Дзе... дзе ён?

— Усіх... а іх семнаццаць... прывезлі ў шпіталь сюды, у Кабул.

— Прыміце маё спачуванне, Павел Паўлавіч.

— Я хачу бачыць яго.

У халодным падвале шпіталя на цэментавай падлозе — страшны рад людзей, якія яшчэ ўчора, жывыя, смяяліся, марылі, спадзяваліся на зварот дадому, да матак, жонак, нявест.

Жэня ляжаў крайні. Першы. Як належыць камандзіру. Я ўпаў на калені. Убачыў на камуфляжным камбінезоне тры невялікія крывавыя плямы — на жываце. Чамусьці падумаў:

«Як мала вылілася крыві».

Я ўпаў на яго рукі, якія нехта абрадна скрыжаваў на грудзях, пацалаваў іх і гучна заплакаў:

— Сынок мой! Сынок! Што я скажу маме? Навошта я ляцеў сюды? Я хацеў уратаваць цябе! Я хацеў...

Мяне паднімалі пад рукі ваенурач і медсястра. Паілі нейкімі кроплямі; запомніўся сухі твар сястры, суровы, са сцятымі вуснамі, і мокры ад слёз у старшага лейтэнанта медслужбы, відаць, нядаўна прыехаў і нямнога яшчэ бачыў смерцяў, а тут адразу столькі, ды яшчэ бацька...

Усё астатняе — як у крывавым тумане.

Дваццаць адну труну (яшчэ чатыры нябожчыкі прыбавіліся з другіх часцей) выставілі ў зале ваеннай камендатуры. Такіх пахаванняў, казалі, было нямнога, так праводзілі ў вечную дарогу на Радзіму толькі афіцэраў. Салдат запайвалі ў свінцовыя труны ў часцях, калі далёка ад Кабула, ці ў цэнтральным шпіталі.

У зале труны былі драўляныя, белыя, з меднымі ручкамі. Стаялі вянкі, ляжалі кветкі. І што запомнілася: было многа нашых жанчын, цывільных. Яны плакалі. Іх жалоба не давала мне стрымаць слёзы; я мала што не аслеп ад слёз.

Гаварылі прамовы.

Я набраўся сілы, каб таксама нешта сказаць, але помню адно: падзякаваў нашым людзям ад імя ўсіх бацькоў.

Я не прысутнічаў, калі Жэню запаялі ў цынкавую труну, і не магу сабе гэтага дараваць, не магу, можа, таму, што ці не тады гэта адбылося, калі ■ быў на памінках, якія камандуючы наладзіў пэўна ж дзеля мяне: захоўваў рытуал хрысціянскага пахавання, хоць ведаў, што там, дома, у гарадах і сёлах рытуал развітання паўторыцца з морам слёз, непрытомнасцю матак, бабуль.

А потым была ганебная валакіта з адсылкай целаў на Радзіму. Інтэнданты да працэдуры гэтай прывыклі і пасталі бюракратамі.

Адразу дваццаць адну труну ні адзін самалёт не мог прыняць. Мне памагалі са штаба, і то дні чатыры чакаў. Страшна дагэтуль падумаць, колькі чакалі другія нябожчыкі.

Мяне прыняў камандуючы, сказаў:

— Павел Паўлавіч, я разумею: псіхалагічна вам нельга вярнуцца сюды. І не трэба! Я афармлю ваша вяртанне на базу. Цягніце сваю няшчасную лямку там.

Суправаджаць труну давалі дваіх салдат. Некаторыя з іх лялалі па некалькі разоў. І мяне спачатку абурыла, што яны цягнуць з сабой скруткі дываноў, брызентавыя вузлы з дублёнкамі ці чым там яшчэ! Хацеў ляцець адзін з труной, без салдат, але мяне адгаварылі і пераканалі,

што салдацкае барахло не павінна абражаць мае пачуцці: так яны ўзнагароджваюць сябе за вельмі непрыемную працу, не кажучы ўжо пра небяспеку, да таго ж часта яны вязуць не свае рэчы — сваіх начальнікаў.

У дзень адлёту кабульскі аэрадром абстрэльвалі з цяжкай артылерыі. І ў нейкі момант мне захацелася, каб снарад накрыў і мяне. Але я тут жа падумаў пра Галю: смерць сына, можа, і перажыве, смерць дваіх нас — яе смерць.

«А мы павінны жыць, Галя! Мы павінны!» — шаптаў я пасля кожнага разрыву снарада.

Не магу апісаць страшнае падарожжа побач з целам сына ў цынкавай труне, бо ўсё неяк змяшалася ў галаве і, здаецца, застаўся адзін гул самалёта. Не помню нават — у Ташкенце ці ў Маскве,— я пагразіў аднаму чыноўніку пісталетам, і мной займалася ваенная камендатура, але, высветліўшы, што я вязу і за што — за абразлівую перагрузку труны — я ўскіпеў, адсталі, нават папрасілі прабачэння.

У Мінску штаб акругі — дзякуй добрым людзям! — даў мне «рафік», і я адпусціў салдат, якія суправаджалі, з наказам: «Наведайце, хлопцы, бацькоў вашых. Абавязкова наведайце».

Ішоў лёгкі снег, калі «рафік» спыніўся перад нашым домам. І ў мяне не было сілы адчыніць дзверцы і выйсці. Але з дома сваіх бацькоў выскачыла Люда. Яна тут! І я ступіў на снег і захлынуўся марозным паветрам, можа, нават пахіснуўся ці змярцвеў, бо нявестка спалохана крыкнула, пэўна здагадаўшыся, з чым я прыехаў:

— Тата!

Я працягнуў да яе рукі.

— Людачка! Я прывёз Жэню... у цынк...

Не скончыў страшных слоў. Люда войкнула і павольна села ў снег. Разам са сваццяй мы ўнеслі яе, непрытомную, у хату. У час клопатаў пра жывую з'явілася Галя, і я не бачыў першай яе рэакцыі. Калі я абняў яе і заплакаў, Галя не плакала. Маці і пасля не плакала, калі мы ўсю ноч сядзелі каля запаянай труны. Яна акамянела. І адно прасіла:

— Паша, каб глянуць разочак на майго сыночка. Як жа я пахаваю яго, не ўбачыўшы?

— Нельга, Галя, нельга. Дзесяць дзён, як Жэня загінуў. Дзесяць дзён!..

— Так доўга вы ляцелі?

— Так доўга.

А ў мяне ліліся слёзы, калі тры старыя жанчыны адпявалі Жэню — чыталі псалмы.

Маці не плакала і на паніхідзе, калі гаварылі прамовы, а ўсе жанчыны рыдалі.

На пахаванне сабраўся ўвесь гарнізон базы, увесь пасёлак, не адзін,— і з таго прыехалі, што каля станцыі, з бліжэйшай вёскі, рускай; Хадынец на аўтобусе людзей прывёз.

Галя нема закрычала, калі на лясных могілках, што з'явіліся пры пасёлку, прыйшла хвіліна апошняга развітання з сынам, якога яна ў труне так і не ўбачыла. А можа, гэта і добра, што ён застаўся ў яе памяці жывы? Такі, якім прыязджаў у маі на пабыўку і нечакана ажаніўся з Людай. Хто часта млеў, дык гэта яна — Люда; яе паілі валяр'янкай, давалі нюхаць нашатыр.

Галя дагэтуль часта паўтарае:

— Для мяне ён жывы, жывы наш сыночак.

...Ішла доўгая пакутлівая зіма нашага няўцешнага гора. Свяціў адзіны агеньчык-надзея, што Люда народзіць нам унука, родную крывіначку, працяг Жэні. Але згас і гэты агеньчык: у лютым, на сёмым месяцы цяжарнасці, Люда нарадзіла мёртвае дзіця.

Ад гэтага новага гора Галя плакала няўцешна і амаль няспынна. Збяруцца ўдваіх са сваццяй Марыяй Антонаўнай і — заліваюцца слязамі, перада мной, перад чужымі людзьмі. Толькі перад Людай трымаліся. Здароўе яе вельмі непакоіла ўсіх нас. Маўклівасць яе палохала: сядзе перад акном, глядзіць на апушаныя снегам сосны і... маўчыць. Нішто яе не цікавіла. Маці і свякроў ледзьве не з лыжкі яе кармілі. А разгаварыць яе мог толькі я. Адчуўшы ў сабе здольнасці псіхіятра, я поўным чынам набыў сэнс жыцця. Сядзеў на службе, хадзіў па складах, пасярод гор смяртэльнай зброі, а думаў толькі пра яе, сваю дачку. І сама па сабе ці ад маіх сеансаў Люда ажыла. Пайшла ў дэкрэт настаўніца першага класа, і Люда вярнулася ў школу, замяніла яе і ўсе свае мацярынскія пачуцці аддавала чужым дзецям. Натуральна, у маладой рана гаілася хутчэй.

Магу заскочыць наперад: праз тры гады Люда выйшла замуж за капітана базы Васільева, жонка якога загінула ў аўтакатастрофе. На двух дзяцей пайшла малых. А праз год нарадзіла дачушку. Галя хоць і не выказвала, але перажыла гэта цяжка. Я супакойваў яе:

— Пажадаем ёй шчасця, маці, яна дачка наша, і я ўдзячны ёй за тое, што яна дала нашаму сыну кароткую радасць.

Галя згадзілася.

Каб яна не заставалася адна ў доме, я ўпрасіў Молчана ўзяць яе сакратар-машыністкай. Праца з людзьмі лячыла яе. Інспектары, некаторыя, казалі Молчану:

— Што ты такую бабулю трымаеш?

У свае сорак сем Галя стала белая-белая; пабялела яна не на пахаванні сына — пазней, як пачула, што Люда нарадзіла мёртвага сынка. У тры дні снег абсыпаў яе галаву.

Мне прысвоілі званне палкоўніка. Не таюся, раней мяне радавалі чарговыя званні, падзеі гэтыя адзначалі як свята. А цяпер... не хацелася нават дзякаваць за віншаванні. Якой дарагой цаной дасталося гэтае званне! І навошта яно мне?!

## Агульная бяда

Вясновы дзень быў незвычайны — па-летняму спякотны. За нейкія тры дні распусціліся дрэвы. У цяпліцы, якую я змайстраваў, успыхнулі полымем цюльпаны. Галя ўсю цяпліцу заняла пад цюльпаны, каб насіць раннія кветкі на Жэневу магілу. Ды і агарод яна ўскопвала не пад цыбулю і гуркі, як мінулы год,— пад кветкі.

Магіла была ўстаўлена цюльпанамі, пралескамі: чырвоныя, белыя, блакітныя. На Жэневай магіле і зімой часта ляжалі жывыя кветкі. Не зважаючы на тое, што тут жа мерзлі, Галя часта ездзіла ў Гомель, купляла там за вялікую цану кветкі, ухутвала іх, як дзіця, каб жывенькія, цёпленькія ад грудзей яе палажыць на магільны курганчык: ад снегу яна яго расчышчала да жоўтага пясочку.

Да могілак было метраў трыста, міма іх мы ішлі на базу. На абед я дадому не хадзіў, а Галя хадзіла. Але хутка прасачыў, што не абедае яна, не займаецца кухняй — у любое надвор'е, у завею і мароз, стаіць ці сядзіць на лавачцы ля магілы. Мяне гэта ўстрывожыла. Я пачаў лячыць яе, як лячыў Люду. Але хутка зразумеў, што Галя — не Люда, матчына гора — не гора маладой жонкі. Адбылося бадай адваротнае: не я ўплываў на яе, а яна на мяне сваёй трагічнай няўцешнасцю. Яна так і сказала мне:

— Паша, не трэба твая псіхатэрапія. Не бойся, нічога са мной не здарыцца, акрамя смерці, а ад смерці не ўратуеш. Ты ж бачыш: я нармальна працую, нармальна стаўлюся да людзей, а яны да мяне. У мяне хіба адно ненармальна: гарыць сэрца, калі гляджу на салдацікаў ці на дзяцей каля школы.

Вясна ажывіла нас. Не трэба было сядзець у хаце. Мы апантана працавалі на агародзе. Як вярталіся з базы, пераапраналіся — і за рыдлёўку. Не, я больш рабіў сякерай і гэблем, Галя — рыдлёўкай, граблямі.

І ў тую спякотную нядзелю мы, па-летняму апранутыя, працавалі на агародзе.

Галя пад уплывам суседкі пачала маліцца Богу, я слова ёй не сказаў, сам пачаў чытаць Евангелле. Але садзіць кветкі ў нядзелю — на магіле сына — за грэх не лічыла.

Дзень той для нас быў незвычайны, памятны: роўна год назад Жэня прыляцеў на пабыўку, вясёлы, жыццярадасны, бы з неба спусціўся. Мы не маглі не памятаць такі дзень. Але ні Галя мне, ні я ёй не нагадалі пра яго, каб не вярэдзіць душы адно аднаму. Вясна сапраўды ажывіла нас. Як пасля цяжкай хваробы. Бачыў, як Галя глядзела на маладое лісце, на кветкі, і радаваўся. І, каб незнарок не крануць балючую струну, нават стараўся менш гаварыць з жонкай, няхай займаецца кветкамі. А я буду выразаць прыгажосць — вільчак над весніцамі; няхай людзі любуюцца!

Толькі калі сонца села за густы лес, мы пайшлі ў дом. Уключылі тэлевізар. Галя не глядзела фільмаў: ні вясёлых, ні трагічных, хіба зрэдку — паводле класічных твораў, такія, як «Война и мир». Але Галя акуратна, можа, больш акуратна, чым я, глядзела навіны, сацыяльна-палітычныя і пазнавальныя праграмы.

Кароткая інфармацыя між іншым: на Чарнобыльскай атамнай станцыі ў мінулую ноч адбылася аварыя, ахвяр няма.

Я скалануўся, напружыўся. Глянуў на жонку. На твары яе нічога не адбілася. Яна не надала інфармацыі значэння; пасля прызналася, што нават не ўяўляла, дзе яна, гэтая станцыя, ведала: дзесьці на Украіне. А я... я, як, можа, ніхто ў наваколлі, разумеў, што такое аварыя на атамным аб'екце — аварыя, пра якую мусілі паведаміць на ўвесь свет; не было яшчэ такіх паведамленняў, хоць аварыі былі — пра іх нам па сакрэце гаварылі ў акадэміі. Я ведаў рэактары ўсіх станцый, ведаў будову атамных і вадарод-

ных бомб і пяць гадоў паглыблена вывучаў сродкі і метады аховы ад ядзернай радыяцыі, хоць, прызнаюся, не вельмі веры́ў, што яны эфектыўныя, гэтыя сродкі, падчас выбуху бомбы. Але мірны рэактар — справа іншая. Тут можа быць невялікая ўцечка нуклідаў. Невялікая то невялікая, але... Колькі ад нас да Чарнобыля кіламетраў? У «Беларускай Савецкай Энцыклапедыі» глянуў карту гэтага раёна. Чарнобыль — на мяжы. А Прыпяць, якога няма на карце, яшчэ бліжэй; быў там на вучэннях акруговых, глядзеў праз Прыпяць-раку на гэты новы горад.

У нас няма ядзерных боегаловак. Але дазіметры на двух складах ёсць: тысячы тон выбуховых рэчываў, некаторыя — у закрытых кантэйнерах. Металічныя абалонкі снарадаў і ракет даюць павышэнне радыяцыі: на складах працуюць салдаты і вольнанаёмныя. Мой абавязак пільна сачыць за радыяцыяй. Як правіла, яна была дапушчальная, але, здаралася, і падскоквала; была такая, што я мусіў выклікаць з Масквы высокую камісію. Акадэмік прыехаў, паўдзесятка прафесараў. Але ніхто з іх не мог выявіць прычыны такога феномена; на ядзерных складах — зразумела, на складах звычайнай зброі — загадка.

Я пачаў апранацца. Галя здзівілася.

— Куды ты?

— Схаджу да Молчана. Ёсць размова.

— Такая пільная, што нельга адкласці да заўтра?

— Можна. Але я буду дрэнна спаць.

— Ну, калі ў цябе з'явілася думка, якая не будзе даваць спаць, то ідзі.

У Молчана былі госці, пілі гарэлку. У яго частыя госці — людзі, з якімі ён рабіў гешэфты. Майму прыходу ўзрадаваліся. Тэлевізар яны не глядзелі. На навіну, якую я пачуў і перадаў ім,— нуль увагі: дзе той Чарнобыль!

— Да нас не дастане! — сказаў нейкі аптыміст, астатнія весела засмяяліся.

Адмовіўшыся ад выпіўкі, здзівіўшы Молчана, я выклікаў начальніка базы ў калідор.

— Я хачу глянуць на дазіметры.

У яго зрабіліся круглыя вочы.

— Ды ты што! Думаеш, сюды даляціць? Павел Паўлавіч! Цябе перавучылі. У цябе атамная манія.

— Я абавязаны глянуць.

— Ты ж маеш допуск. Ідзі. А мяне не адрывай.

Допуск на склады ў начны час быў вельмі строгі. Мелі яго я ды яшчэ, акрамя начальніка, яго намеснік і нампаліт.

Начальніка каравула я не толькі здзівіў, бадай спалохаў, што ў такі час хачу наведаць склады. Ён нават пацягнуў паветра носам: ці не п'яны начальнік складоў?

Сказаць яму прычыну? Не, не варта. Заўтра будзе ведаць увесь гарнізон. І калі трывога падманная, я апынуся ў бясслаўнай кагорце панікёраў. Палкоўнік — панікёр! З'ява! І добры прадмет для здзекаў.

На зняцце пломбаў з дзвярэй трэба было пісаць акт з указаннем прычыны — чаму гэта робіцца ўначы. А мне не хацелася называць прычыну... Начальнік каравула пазваніў Молчану. На добрым падпіцці начальнік мацюкнуў мяне, і гэта абразіла.

— А чаго ты хітруеш? Кажаш, перадало тэлебачанне, а баішся сказаць лейтэнанту.

Сказаў. Малады хлапчына, толькі з вучылішча, бадай спалохаўся:

— І гэта магло дастаць да нас? Загіне чалавецтва.

Не адыходзіў ад мяне ні на крок.

У першым падвале трохсотметровай даўжыні дазіметр паказаў норму — складскую. І лейтэнант палёгкай уздыхнуў. Але ў другім складзе стрэлка дазіметра значна адхілілася ўправа, але чырвонай рысы не дасягнула. Між тым у гэтым складзе раней павышэння не было — склад снарадаў і патронаў.

Чаму такая розніца? Проста: першы склад значна глыбейшы, накрыты тоўстымі бетоннымі плітамі. А тут дазіметр амаль на паверхні — у пакоі за дашчанай перагародкай, у кабінеце начальніка склада.

Лейтэнант убачыў трывогу на маім твары.

— Што?

— Такія адхіленні былі і раней.

Такія, ды не такія. І не тут.

П'янаму Молчану дакладваць пасярод ночы не мела сэнсу. І я вярнуўся дадому, увогуле заспакоены.

Раніцою асаблівых зменаў на сваіх старых дазіметрах не ўбачыў. Між іншым, я шмат разоў пісаў ва ўпраўленне міністэрства, каб далі новыя дазіметры. Дзе там! У акрузе ад мяне адмахваліся, падпарадкоўваліся толькі ў агульнавайсковым плане; у склады інспектары рэдка зазіралі, больш правяралі, як салдаты навучаны страявой.

А між тым, апроч скупых афіцыйных паведамленняў, чуткі пра аварыю, што хвалі ў моцны вецер, пайшлі ў народзе, і былі яны несуцяшальныя. Напярэдадні Першага мая я паехаў у Гомель. Даведаўся, што сапёрны

полк, які там стаяў, кінуты ў раёны, што прымыкаюць да станцыі. Больш даведаўся ў абкоме партыі: там была трывожная мабілізацыйная абстаноўка. Адтуль, з абкома, па парадзе сакратара, пазваніў у штаб акругі: я тут, у Гомелі, і я спецыяліст па ахове ад радыяцыі. Мяне звязалі з намеснікам камандуючага, і генерал загадаў ехаць у Хойнікі: там штаб па аварыі. Пазваніў Молчану і жонцы. Галя цяжка задыхала ў трубку і сумна сказала:

— Асіраціш ты мяне.

— Я ваенны чалавек, Галя.

— Ты ваенны чалавек. Быццам я не ведаю... Але ты напрасіўся сам. Хіба не так?

— Я павінен ведаць, што адбываецца. Гэта больш сур'ёзна, чым мы думаем.

У той дзень у Хойніках было яшчэ няшмат прадстаўнікоў з Масквы і Мінска. Але на другі святочны дзень — Першага мая — пачалі прыязджаць адзін за адным міністры, работнікі ЦК, прыляцеў на верталёце са сваёй світай камандуючы акругі. Паступіла каманда аб высяленні людзей з трыццацікіламетровай зоны. Але гэта — клопат цывільных. А мы, спецыялісты... што павінны мы рабіць? Невялікая пакуль што група атамшчыкаў, ваенных і цывільных, аўтарытэтам у якой быў акадэмік, сапраўды не ведала, як, на чым прымяніць свае веды, бо ніхто не меў дакладнай інфармацыі пра тое, што ж адбываецца на станцыі. Заглушаны рэактар ці працягвае выкідваць мільёны рэнтгенаў у атмасферу? Дзіўна гэта было: адна дзяржава, адны цэнтральныя органы — і такая недасведчанасць. І вымяральная тэхніка дапатопная тут, у Хойніках.

Прапаноўваў злятаць туды — на станцыю. Ёсць жа верталёты! Побач авіядывізія. Паўдня вырашалася гэта пытанне. Да камандуючага дайшлі. На штабным ляцець не дазволілі — ведалі ўсё ж меру небяспекі. Прыслалі Мі-6 з Калінкавічаў.

Тут жа ашаламіла мяне яшчэ адно: цывільныя, абласнога, раённага рангу, ахвотна згадзіліся ляцець, з міністраў ніхто не паляцеў. Ну, Бог з імі! З генералаў штаба ніхто не паляцеў. І старэйшым па званні ў верталёце апынуўся я. Камандаваць мяне ніхто не ўпаўнаважваў. Але пілоты верталёта звярталіся да мяне. А я... я, прабач Галя, цяпер магу прызнацца, я паводзіў сябе па-вар'яцку. Скамандаваў праляцець на невысокай вышыні над жаралом разбуранага рэактара. Вулкан гэты не клекатаў, не

бурліў, але сляпіў яркім малінавым свячэннем люстраной паверхні незразумелага стану — газавага, вадкага, цвёрдага?

Мы тройчы абляцелі станцыю. Бачылі, як падляцелі адзін за адным тры верталёты і скінулі ў жарало мяшкі з пяском. Мы ўжо ведалі, што рэактар спрабуюць затушыць пяском, бетонам, свінцом. Сумнення гэта не выклікала: спецыялісты ведаюць, што робяць. Але да мяне нахіліўся Васіль Барысавіч, акадэмік, і закрычаў, што, на яго думку, такі спосаб мала што дасць, а мільёны лішніх рэнтгенаў выплюхне ў атмасферу.

Потым мы селі ля шашы Чарнобыль — Прыпяць, па якой няспынна рухаліся грузавікі, а побач працавалі людзі. Уласна кажучы, людзі гэтыя і прымусілі мяне даць каманду спусціцца: было спякотна, і амаль усе яны працавалі па пояс распранутыя.

Спусціліся: салдаты!

— Дзе ваш камандзір?

Падскочыў маёр.

— Слухаю, таварыш палкоўнік.

Я ўзлаваўся.

— У вас галава ёсць на плячах?

— А што?

— Дзе вы вучыліся? Толькі ідыёт мог раздзець людзей у такой абстаноўцы! Вы думаеце, яны ад сонца загарэлі? Яны загарэлі ад радыяцыі!

Маёр збялеў.

— Ад радыяцыі?

— І ўвогуле, чым займаюцца людзі?

— Дэзактывацыяй.

— Шмат я бачыў глупстваў у нашай арміі. Але такога...

Але што маёр? А што я сам? Каму мог выказаць сваё абурэнне? У Хойніках я папрасіў сакратара абкома звязаць мяне са Слюньковым, кандыдатам у члены Палітбюро. Ён выслухаў і — ні гу-гу. Напэўна, маю інфармацыю нават ніхто не запісаў: падумаеш, нейкі палкоўнік! Не такія галовы прымаюць рашэнні! Сам Генсек...

Між іншым, ідэя паляцець на верталёце мала што не вылезла мне бокам. Нехта з маскоўскіх свяцілаў, маючы японскі дазіметр, наблізіўся да верталёта і ў паніцы адскочыў. Машына так свяцілася, што дазіметр зашкаліла. На ёй не толькі ляцець нельга, да яе набліжацца небяспечна. Тут жа цывільныя вучоныя прапанавалі: верталёт

пахаваць, закапаць. А сярод бяздзейнага разгубленага начальства знаходзіўся і камандзір авіядывізіі. І ён узняў гвалт: хто прапанаваў ляцець? Быццам мы без яго дазволу ўзялі верталёт. Кожны клапаціўся за свой мундзір, каб на яго не селі ні нукліды, ні гнеў начальства. Намеснік камандуючага акругі генерал-лейтэнант паслухаў, як размаўляю з генерал-маёрам, і зразумеў, што я «возмутитель спокойствия» і магу падкідваць ідэі, якія ўхваляць цывільныя вучоныя. А навошта ваенным падпарадкоўвацца цывільным? Непарадак гэта. І генерал, які ўчора загадаў мне ехаць у Хойнікі, тут жа загадаў вярнуцца ў сваю часць.

— Хапае тут спецыялістаў без вас.

(Пасля я даведаўся, што верталёт гэты сапраўды закапалі.)

Не набыў я ганаровага звання ліквідатара!

Ліквідатарам у шырокім сэнсе, без двукосся, я зрабіўся ў сябе на базе.

Месяц прыборы паводзілі сябе спакойна. А ў пачатку чэрвеня ўзбунтаваліся, стрэлкі папаўзлі да крытычнай адзнакі. Молчан выказаўся супраць таго, каб інфармаваць акругу і міністэрства.

— Не да нас ім цяпер.

— Чаму не да нас? Мы такія ж людзі.

— Над намі не цячэ.

— Нукліды не цякуць, яны пранікаюць праз любы дах.

З самага пачатку я прасіў непасрэднае начальства сваё з упраўлення прыслаць больш дасканалыя дазіметры. Ніякай увагі, нават адказаў не прыслалі. Пэўна, там разважалі, што базам звычайнага ўзбраення прыборы без патрэбы — памераюць без іх, каму трэба.

Я ледзь пераканаў Молчана камандзіраваць мяне ў Маскву. Пачціва не кланяўся — скандаліў, і тры прыборы выбіў; прэпараты для дэзактывацыі, ёд і спецадзенне — для людзей.

У жніўні ўсе дазіметры паказалі рэзкае павелічэнне радыяцыі. Я павёў да іх усіх афіцэраў штаба. Молчан спытаў, калі мы засталіся сам-насам:

— І што нам рабіць у такой сітуацыі?

— Выводзіць людзей.

Ён падскочыў.

— Ты што! Закрыць базу? Не будзем бедаваць, куды мы з табой. Але куды тысячы тон боепрыпасаў?

— Няхай начальства думае.

— А мы з табой хто — пешкі?

— Таму і трэба рапартаваць, каб не апынуцца ў пешках.

Але рапарт мой ён правіў тры дні; Галя перадрукоўвала яго разы чатыры. Самае дзіўнае, што Галя апынулася на яго баку: не трэба панікаваць. Пасля да мяне дайшло: яна не дапускала думкі, што прыйдзецца выязджаць адгэтуль — ад Жэневай магілы, са свайго дома — адзінай уласнасці, якую мы набылі за многія гады вандравання, якая прывязала нас да аднаго месца — да роднай зямлі.

На наш рапарт нават камісію не прыслалі. Нам верылі, але канкрэтна нічога не рабілі. Не, рабілі, нам слалі процьму інструкцый з грыфам «сакрэтна», у якіх наконт радыяцыі паведамляліся сакрэты, якія ў гэтай сітуацыі павінен ведаць кожны школьнік.

Невытлумачальная з'ява — радыяцыя. Не сама па сабе. Працэс асядання нуклідаў. Недалёкая вёска — дзесяць кіламетраў, калгас Хадынца — чыстая, туды нават прыслалі добрую сотню перасяленцаў з Брагінскага раёна, што я лічыў глупствам: палезуць жа людзі ў наш забруджаны лес! Адкуль дровы возьмуць? А Молчана гэта заспакоіла, ён ківаў на раённае начальства: у яго — ніякай трывогі, анекдоты расказваюць пра радыяцыю. Беларускі селянін выпіў атамную гарэлку. І што здарылася? Спаліў штаны — і ўсяе бяды.

Але захрысціліся, калі грымнуў бліжэйшы гром: у суседнім, Веткаўскім раёне выявілі доўгую і шырокую паласу густой забруджанасці — дзесятак кіламетраў. Зазванілі ў званы абласныя, рэспубліканскія ўлады. Следам за імі ўдарыў і я: у нас тыя ж бэры! Але з ваенных першы адгукнуўся той жа Молчан: вывез сям'ю ў Гомель, ды і сам штодня ездзіў начаваць туды, за сорак кіламетраў. Між іншым, толькі тады афіцэры даведаліся, што камандзір наш яшчэ год назад атрымаў у горадзе пристойную кватэру. І Молчан маўчаў. Цяпер ён не карэкціраваў маіх рапартаў: пішы што хочаш. Але я сам не верыў у іх карысць.

Толькі праз паўгода прыйшоў загад камандуючага акругі адсяліць афіцэрскія сем'і. Але куды? У казармы. Тут, у гарадку, яны мелі ўсё ж кватэры. А сем'і вольнанаёмных, пасёлак гэты наш,— куды? У штабе мне растлумачылі: гэта ўжо клопат мясцовых улад. А што гэтым уладам да рабочых базы?

Яшчэ праз колькі месяцаў загадалі выселіцца і самім афіцэрам — «уз'яднацца» з сем'ямі. Служба іх праходзіла

вахтавым спосабам: раніцою прывозілі, увечары адвозілі. А салдаты заставаліся тут, у казармах. Пры двух-трох дзяжурных афіцэрах. Салдаты рабілі што хацелі. Самагонку вазілі з усіх навакольных вёсак, чыстых і забруджаных. На пасты каля складоў, здаралася, станавіліся п'яныя. Аднойчы я выявіў такога — лыка хлопец не вязаў. Я быў ашаломлены. Пра такое нікому не напішаш, бо табе ж, начальніку складоў, дадуць па шыі.

Але не гэта мяне трывожыла і абурала, а тое, што людзей падзялілі на чыстых і нячыстых, як індыйскія касты. Афіцэраў трэба ратаваць, яны — «белыя костачкі», а салдаты — у іх скура загрубелая, шлунак луджаны, печань нуклідаў не баіцца.

Я напісаў адразу на некалькі адрасоў — у ЦК, штаб акругі, у міністэрства. І ... атрымаў: праз месяц Молчан не без зларадиасці прачытаў мне загад аб маёй адстаўцы ў сувязі з узростам, хоць да «палкоўніцкай мяжы» заставалася яшчэ больш як год.

Так я зрабіўся пенсіянерам. Вырошчваю кветкі. Галя, якую таксама адправілі на пенсію, увесь вялікі гарод засаджвае найлепшымі кветкамі, каб насіць на магілу Жэні. Знешне жыццё ў раі — у кветніку. Палівай, прапалвай кветкі, глядзі тэлевізар, упрыгожвай разьбярствам дом і не ведай іншых клопатаў, акрамя смутку і прыступаў сардэчнага болю, калі набліжаюся да могілак ці раблю штосьці з таго, што нагадвае сына. Шкадавалі, што мы так мала былі разам з ім, калі сама складваўся яго характар. А характар у яго быў матчын — добры, мяккі, але настойлівы.

Акрамя сваіх уласных, выкінь з галавы ўсе іншыя праблемы, засланіся чым хочаш ад пакут і болю іншых людзей. Ты — пенсіянер! Але я так не мог. Я жыў сярод людзей, а людзі жылі ў зоне павышанай радыяцыі. Іх трэба ратаваць. А на іх забыліся. Ды што там нейкі пасёлак лясны, нейкі батальён салдат. З'яўлялася адчуванне, што ўся вялікая краіна жыве ў зоне павышанай радыяцыі. Палітычнай. Маральнай. Матэрыяльнай. Ішла гарбачоўская перабудова. Тэлебачанне, газеты апляёўвалі тое, што людзі будавалі сем дзесяткаў гадоў і што ім было дарагім. Здзіўляла мяне, адкуль узялося столькі плевакоў. Я сам настроены быў даволі крытычна супраць ваеннай і грамадскай бюракратыі, бяздушнасці, абыякавасці чыноўнікаў. Раней я рэдка сутыкаўся з такой закасцянелай бюракратыяй. Законапаслухмянасць выхоўвалася ў мяне

яшчэ бацькам. Вучылішча, служба, акадэмія, высокая адказнасць за справу, інжынерная дакладнасць зрабілі з мяне безадказны механізм. Але корсуны і молчаны сыпалі ў яго пясок, і ён не толькі буксаваў — ён загараўся. Мяне абураў непарадак у арміі. Цывільнае жыццё я ведаў слаба, да гэтай базы служыў у гарнізонах, як тыя Курылы, дзе цывільны чалавек здаваўся іншапланецянінам. Тут, працуючы з вольнанаёмнымі, жывучы сярод іх у пасёлку, адкрыў, што і радасці і беды ў нас адны і тыя ж. Афганістан, смерць сына, Чарнобыль узбунтавалі мяне і, як кажуць, завялі на крутыя абароты. Аднак тае крытыкі сацыялізму, савецкай арміі, якая гучала з тэлевізара, я не мог прыняць. Яна была не свая, не гаспадарская і мэтай наладзіць справы лепш. Яна была варожая, накіраваная на разбурэнне.

Я думаў: «Ну, добра, разбурым. А што пабудуем замест? Тое, што адхілілі лепшыя розумы чалавецтва дзвесце — трыста гадоў назад? Дзе там — дзвесце! Дзве тысячы! Ісус Хрыстос выгнаў гандляроў з храма. А яны лезуць у наш храм. Не проста лезуць і таварам — з ламамі, каб разбурыць яго, храм. Ківаюць: ах, як жыве Захад — Амерыка, Еўропа! І ніхто не кажа, што тыя ж шведы ў сваіх законах жыццеўладкавання ўзялі нямала з ідэй вядомых сацыялістаў».

У гарадку мы, афіцэры, абмяркоўвалі падзеі часу, горача спрачаліся. Суседзі па пасёлку — рабочыя, былі больш прагматыкамі, чым тэарэтыкамі: яны мацюкалі Гарбачова, што давёў перабудову да таго, што стала праблемай купіць пляшку гарэлкі. Але з-за гэтага не бедавалі: гналі самагонку, жартуючы, што да натуральнай моцы дадаецца радыяцыя — пераходзіць з бульбы. Таму яна, зараза, такая смачная!

Народ — аптыміст. Папярэджваў я, маючы ўжо некалькі дазіметраў і свой уласны, пісала раённая газета, даючы схему забруджанасці ў раёне, у гэтым лесе па цэзію — да 25 кюры. Небяспечны ўзровень! Але народ, адукаваўшыся па гэтай частцы, не звяртаў увагі на ўсе кюры і бэры: елі капусту, гуркі, бульбу са сваіх гародаў, сала і мяса парсючкоў і бычкоў, гналі самагонку.

Сусед Ермакоў паклікаў мяне з японскім дазіметрам праверыць мяса парсюка, якога закалоў. Свяцілася. Я параіў не есці. Дзе там! Тут жа насмажылі патэльню свежыны і... пасміхаліся, што я не еў яго; выпіў чарку крамнай гарэлкі, закусіў хлебам з гомельскай пякарні,

хоць не вельмі быў упэўнены, што ён не з веткаўскага жыта.

— Доўга будзеце жыць, Паўлавіч.

— Доўга жыць не буду, не тое жыццё. Але ад радыяцыі паміраць не хачу.

— Калі гэта небяспечна, то чаму нас не адсяляюць? У нас жа дзеці.

— Глядзі, накаркаеш. Адселяць. І ў такой хаце жыць не будзеш.

— Націскай, хлопцы, на сала. Яно не набірае бэраў. Наадварот, выводзіць.

— Гарэлка выводзіць, не сала.

— А праўда, Паўлавіч, што радыяцыя застаецца ў бражцы, якую мы цяпер закопваем, свінням не даём?

— А помніш, як у Цімоха бык напіўся бражкі і, п'яны, брыкаў па пасёлку? Думалі, звар'яцеў.

— А потым два дні ляжаў як хворы. Во зараза: быка зваліла!

Рагаталі мужыкі.

Каб яны ведалі, што я працягваю пісаць, ужо ў цывільныя інстанцыі, што людзі жывуць у зоне павышанай радыяцыі, яны, напэўна, пабілі б свайго палкоўніка, асабліва ў п'янай кампаніі. А так паважліва называлі мяне Паўлавіч, завочна — наш палкоўнік і, не пабаюся сказаць, любілі, ішлі, як да папа,— параіцца, выказаць свае крыўды. Не, хутчэй Галя ішла да іх. Чым больш праходзіла часу ад нашага гора, тым мацней нас цягнула да людзей. А нас адлучылі ад калектыву, ад працы. Не скажу, што я моцна перажываў сваю адстаўку — не цяпер, дык праз год яна адбылася б, час няўмольны,— але крыўда грызла: за што дачасна звольнілі? За праўду? За клопат пра дзяцей, нашых дзяцей?

Урэшце адсялілі і салдат, і яны працавалі ў складах вахтавым спосабам. Не рабіць там нельга было, бо боезапас ляжаў некрануты, ніводнага снарада, міны, ніводнай ракеты «зямля — зямля», «зямля — паветра» не вывезлі: не было куды, усюды поўна, а ўзрываць тады не ўзрывалі нават тыя, што праляжалі па дваццаць і больш гадоў. (Чытаў я ў адной сакрэтнай інструкцыі пра склад боезапасаў часоў Айчыннай вайны.) Ды і ў Кандалакшы яны былі. Навошта берaглі іх? Спадзяваліся, што спатрэбяцца?

Я мог радавацца — зменшыў небяспеку для салдат.

Але наведаў неяк базу (у мяне не забралі агульны пропуск, толькі — складскі), пахадзіў паміж апусцелых

казарм, клуба, сталовай, жылых дамоў і не ўтрымаўся — прайшоў да складоў, бо нідзе нікога не было, акрамя малаўважлівага вартавога на прахадной. І — о жах! — каля адчыненых варот не ўбачыў вартавога. Прайшоў у склад, дзе рабілі салдаты, маладыя, новага прызыву, не ведалі мяне, але ніхто не спыніў і ў самых сакрэтных адсеках.

Тыдзень лавіў Молчана; ён з'яўляўся на базу на якія дзве гадзіны. Сказаў яму, як хадзіў па складах. Молчан — дзіўны чалавек: ён рэдка злаваўся, мог моўчкі выслухаць нават непрыемныя заўвагі і... нічога пасля не зрабіць. А тут ускіпеў так, што я баяўся: яго схопіць паралюш.

— А якога чорта ты лазіш, як рэвізор? Хто ты такі? Адстаўной казы барабаншчык! Пісака! Дапісаўся! Я папрашу камандуючага выселіць цябе з пасёлка.

Моцна пакрыўдзіў мяне стары супрацоўнік, з якім з'елі не адзін кацёл кашы. Я, канешне, таксама адказаў без дыпламатыі, па-мужчынску. Але ў мяне доўга дрыжэлі рукі і кроў стукала ў скроні. Паўдня хадзіў па лесе, каб супакоіцца. І ўсё роўна не стаіў ад Галі, што моцна ўсхваляваны. Мусіў расказаць ёй. Яна папракнула:

— А праўда, чаго ты лезеш усюды? Калі ты сунімешся?

— Калі рукі складу.

— О Божа! Што ты за чалавек!

— Ты дагэтуль не знаеш, што я за чалавек?

— Каму ж яшчэ знаць цябе, як не мне!

### Адзіноцтва

Толькі на трэцім годзе пасля аварыі, праз год пасля эвакуацыі салдат, прыехаў старшыня райвыканкома і абвясціў, што пасёлак падлягае высяленню. Молчан заспакоіў мужчын, што ён дамовіўся з уладамі; адселяць недалёка, у межах свайго раёна, і ўсе, хто працуе на базе, захаваюць сваё месца, рабочых будуць вазіць, як возяць афіцэраў, салдат.

Але эвакуацыя не адбылася так, як у першыя дні аварыі, калі людзей адсялялі за дзень-два. Адсяленне цягнулася месяцы тры, асеннія. І што рабілася! Які ажыятаж! Практычныя рабочыя — сяляне перш-наперш — збывалі жывёлу, якая набрала тут... несмяротную, але ўсё ж немалую дозу радыяцыі. Кароў, цялят, свіней вывозілі на

грузавіках базы (Молчан шчодра даваў іх) у Расію — у Клінцы, Старадуб, Бранск; там не было такога кантролю, як у блізкім Гомелі. За ніжэйшую цану ішло ўсё; перабудова даводзіла да голаду.

Потым пачалі збываць дамы. Хто атрымліваў жыллё ў мясцінах адсялення ў трох сёлах па адной трасе, каб лягчэй збіраць рабочых,— той тут жа прадаваў свой дом. І куплялі ахвотна, зноў жа расіяне і ўкраінцы, за сотню кіламетраў гналі звонкія смалістыя бярвенні. На жыллё? На паліва? І нікому не было справы, што разам з дамамі распаўзаецца радыяцыя.

Хацеў я крыкнуць. Молчану сказаў. Той нядобра пасміхнуўся.

— Хочаш падкласці свінню сваім суседзям? Давай-давай. Яны табе дзякуй скажуць. Якую дыверсію яны робяць? У такой радыяцыі, як наша, жыве не адзін мільён. І сам ты, атамшчык, не баішся.

Між тым бадай усе пасялкоўцы атрымалі новае жыллё, а на адстаўнога палкоўніка як забыліся. Спытаў у таго ж Молчана.

— А мяне ты куды дзенеш?

— А чаму я? Ты цяпер пенсіянер. Няхай паклапоціцца райвыканком, ваенкамат.

Заслужыў больш як за трыццаць гадоў вернай службы! Але крыўды не адчуў. Я сапраўды нічога не баяўся. І я думаў: «Калі не выселяць гвалтам, я застануся тут, у сваім доме. Куды ехаць з такога дома?» Ды тут жа з'явілася сумненне. Добра, сябе я магу падставіць пад кулі ў Афганістане, пад радыяцыю тут, дома. А Галю? Не магу я рызыкаваць яе здароўем! У яе яго няшмат засталося — забрала смерць сына. Вунь як збялела! Галава што снегам абсыпана.

Здзіўляла мяне, што Галя не пыталася, куды нас адселяць, дзе нам што дадуць. Не цікавіць яе гэта? Чаму?

А селішча спусташалася. І страшнымі былі не сядзібы, з якіх дамы вывезлі і на якіх журботна-сіратліва выглядалі яблыні, вішні, рабіны і ліпы пад белымі вокнамі. Страшнымі былі дамы, якія засталіся пасля адсялення гаспадароў. Невядома, кім чынам знікалі ў іх рамы, дзверы. Кім і куды вывозіліся? І дамы гэтыя нагадвалі шкілеты з жудаснымі праваламі вачніц, рота, носа. У школе... у вясёлай зялёнай школе пад дубамі і соснамі літаральна за які тыдзень таксама зніклі дзверы і вокны. І гэты вялікі будынак, што нядаўна звінеў галасамі дзяцей, асабліва

жудасна выглядаў. Такое ціхае разбурэнне людскімі рукамі здавалася горшым за тое, якое рабілі выбухі бомб і снарадаў. Халадзеў ад думкі, што ў такі страшны шкілет ператворыцца і мой дом, у якім вокны, дзверы калі не ўсе зроблены мной (штось рабілася ў сталярнай майстэрні базы), то навешваліся, устаўляліся, падганяліся маімі рукамі, аздабляліся ліштвамі з маёй мастацкай разьбой. Гэта — родны кут, які я меў хіба што ў маленстве. Асаблівы сэнс набывалі радкі паэта, якога вучыў у школе: «Мой родны кут, як ты мне мілы».

Сусед Ермакоў прапанаваў:

— Паўлавіч, магу знайсці пакупніка на ваш дом. Што адказаць яму?

— Не, Пракопавіч, свой дом я не прадам!

— Разрабуюць жа.

— Калі вынесуць мяне.

— Цяжка вас зразумець.

— Я сам сябе не разумею.

Ах, каб Галя згадзілася паехаць у Крычаў — да маці, да сястры! Я застаўся б тут адзін. Але нікуды яна без мяне не паедзе!

Шмат было сітуацый, калі жыццё наша звязвалася з ваеннымі сакрэтамі, але я заўсёды знаходзіў форму, каб параіцца з самым блізкім чалавекам. А тут ніяк не адважваўся. Што я ёй скажу? Я застануся, а табе нельга рызыкаваць? Так? Смешна.

Ды жонка апярэдзіла мяне. Галя сказала з той мяккай, але неаспрэчнай катэгарычнасцю, якая мне добра была знаёма:

— Нікуды я адсюль не паеду! Тут магіла нашага сына. Тут я памру. Завяшчаю, каб пахавалі побач з ім.

— Застанёмся адны,— са стоеным задавальненнем, але з хітрай асцярожнасцю запярэчыў я.

— Хіба мала людзей жывуць во так... адны. Жылі схімнікі. На хутарах жылі, ды і цяпер, кажуць... у Заходняй... А «Таежны тупік» помніш? Ад іх за сотні вёрст чалавечай душы не было. А ў нас... база за кіламетр. Ты сам кажаш, што яе за дзесяць гадоў не вывезуць.

Кранула мяне жонка ледзь не да слёз. Я глядзеў на яе ўлюбёна і ўдзячна. Яна ажно збянтэжылася.

— Што ты глядзіш на мяне так? Не ўздумай адгаворваць. Я што надумала...

— Галя, каб ты знала, які камень зняла з маёй душы. Я сам даўно вырашыў: нікуды не ехаць. Але не знаў, як сказаць табе. Баяўся.

— Дрэнна ж ты ведаеш мяне.

— Ды не, здаецца, ведаю.

Так мы засталіся ў зоне павышанай радыяцыі. Дзіўна, кватэры так мне ніхто і не прапанаваў, можа, было дзе ў агульным спісе — які пакой у інтэрнаце.

Але калі выехаў апошні пасялковец і наш дом заставаўся адзін — што кветка на асенняй пустцы, да нас раптам завіталі ваенком Іван Страчкоў, з якім я не раз піў гарэлку, і новая намесніца старшыні райвыканкома, яе я бачыў упершыню.

Павялі наступ абыходным манеўрам:

— Павел Паўлавіч, што вы думаеце рабіць?

— Жыць.

— Тут? У такой радыяцыі?

— А я ўсю дарогу жыву ў радыяцыі.

— Дзе? — здзівіліся кіраўнікі.

— Я не кажу ўжо, што ў складах зброі яна прысутнічала. Але і ва ўсім жыцці.

— Аднак! І вы супраць таго жыцця? — упікнула Святлана Барысаўна.

— Лепшага жыцця, як у сваім доме, мець не буду. Ды іншага жыцця мне ніхто не прапаноўваў.

— За гэта мы камусьці запішам... па партыйнай лініі. Хочаце, дамо вам жыллё ў райцэнтры?

— Мы нікуды не паедзем! — рашуча сказала Галя.

Ваенком цяжка ўздыхнуў.

Кіраўніцтва раёна не адступала:

— Ну, дапусцім вы, Галя, не разумееце, што можаце нажыць у гэтым лясным раі. Я разумею: вам шкада пакідаць такое дабро,— паказала вачамі на сцены дома і мэблю.

Галя перасмыкнулася.

— Я не магу пакінуць магілу сына.

— У вас тут пахаваны сын?

— Афганец,— сказаў ваенком.

Намесніца сцішылася: абудзілася ў ёй матчына?

Ваенком наступаў не так настырна — далікатна:

— Павел Паўлавіч, я ж знаю, што вы лепш за любога з нас, грэшных, ведаеце, што такое... зараза гэтая...

— Пра радыяцыю я не намнога менш ведаю, чым акадэмік Несцярэнка ці Канапля.

— Ну, вось... Дык як жа вас зразумець? Што гэта з вашага боку? Пратэст? Супраць каго і чаго? Дэманстрацыя?

— Не пратэст і не дэманстрацыя. Мы проста так вырашылі: застацца каля магілы сына.

Жанчына, уражаная, відаць, нашым добраахвотным жаданнем ісці на самагубства, змоўкла, як звяла. Такой ваяўнічай гаварунняй пачала, а тут глядзела на нас сумнымі вачамі, як на асуджаных на смерць.

Мы прапанавалі ім абед. Ваенком згадзіўся — любіў чарку. А Святлана Барысаўна ажно збялела:

— Не, не, што вы! Які абед!

Так радыяцыі баялася! Я правёў іх. На вуліцу не выйшаў. Калі зачыніў калітку, пачуў ля машыны яе словы, сказаныя са смуткам і жалем:

— Бог з імі, няхай жывуць, калі ім хочацца тут памерці. Прыпячэ — папросяцца... Усе мы харобрыя.

Больш нас ніхто не турбаваў. Гвалтам ніхто не высяляў. Забыліся? Каму справа да адной сям'і немаладых ужо людзей! Хочацца вам памерці гэтак — памірайце.

Як мы жылі? Каб я запісваў штодзённыя нашы з Галяй справы, размовы, думкі — гэта была б кніга, якой, можа, не было нідзе. Хоць чаго не было ў свеце! Усё было, безліч «таежных тупікоў». І апісваліся яны не такімі пісьменнікамі, як я.

Я напісаў: «Гвалтам ніхто не высяляў». Так, не выводзілі, не вывозілі з міліцыяй. Але камусьці хацелася нас выселіць адгэтуль. Каму? Молчану? Чым мы яму заміналі? Тым, што я ад адзіноты часам заглядваў на базу, гутарыў з афіцэрамі, салдатамі, заглянуў аднойчы і да яго. Пагутарылі мірна, па-сяброўску, ён нават паскардзіўся на начальніка складоў, які замяніў мяне,— часта хварэе, а хвароба не ў печані яго, а ў боязі ехаць сюды. Скарга такая ў пэўным сэнсе была пахвалой мне і поўным прымірэннем з «адстаўным барабаншчыкам».

І, аднак, ужо ўвосень, калі дрэвы асыпалі лісце і доўгімі сталі ночы, нам адключылі электраэнергію. У канцы дня на змярканні раптам патухлі лямпачкі. Здаралася і раней, што святло гасла, і я не ўсхваляваўся: не праз дзесяць — пятнаццаць мінут, то праз гадзіну загарыцца; так было заўсёды. А Галя сказала ўпалым голасам:

— Паша, нас адключылі.

Я разумеў яе страх. Застацца без святла ўвосень, зімою! У нас не было нават газавай лямпы. Ну, лямпу можна купіць. Але без тэлевізара... без сувязі са светам!.. Што ў пустыні. У каменным веку. Раніцою я прайшоў па лініі. Ад нашага дома да школы яна была некранутая. Але

ад школы да базы адна нітка дроту знята. Адна. Усе тры не патрэбны былі. Працавалі свядома, выконваючы заданне. Бо каму трэба дрот? Не медны ж, жалезны, на базе яго тоны. Бязладныя скруткі засталіся ляжаць тут жа ў лесе пры дарозе, будуць іржавець, як іржавее безліч тэхнікі.

Тут не абышлося без Молчана. Мяне калаціла ад гневу, абурэння. Навошта яму пазбаўляць нас з Галяй апошняга — святла?! Тым больш зразумела, што сярод афіцэраў хадзілі чуткі, быццам палкоўніка пераводзяць у Мінск. Уцякае ад радыяцыі.

Кінуўся да яго, але на парозе штаба спыніўся. Навошта? Лаяцца — сэрца сарвеш. Прасіць — прыніжацца.

Выпрасіў у транспартнікаў ліхтар «лятучая мыш» і каністру газы.

З гарой на душы вярнуўся да Ґалі. Што ёй сказаць? Але казаць нічога не трэба было, яна ў двары сустрэла мяне, сумна ўздыхнула.

— Ты вельмі ўсхваляваўся? Не трэба, Паша. Ты не палаяўся з ім?

— Не. Я не пайшоў да яго.

— Правільна.

— Але што рабіць, Галя?

— Будзем жыць.

— Без святла?

— Божа мой! Быццам усё жыццё мы жылі з тэлевізарам. Людзі жылі і без яго. І не горш жылі. А куды мы паедзем? Хто нас чакае, дзе? Бог усклаў на нас крыж, і мы мусім яго несці.

— За якія грахі, Галя?! За якія грахі? — амаль закрычаў я.

— Не трэба, Паша! Ты ж мужны чалавек. Не давай сваім нервам расслабляцца.

На другі дзень я сеў на матацыкл і паехаў шукаць лямпы. Ведаў: у горадзе не знайду. У сельмагах, да якіх цывілізацыя не дайшла. У нас такіх вёсак не знайшоў. Паехаў на Браншчыну. Там, недалёка ад Злынкі, купіў ажно тры «сямілінейкі» і цэлы набор шкла — у запас. Як ні дзіўна, купіў у вёсцы электрыфікаванай.

Але мой поспех з вырашэннем праблемы святла не парадаваў Галю. Яна не выдавала сваіх пачуццяў, але я не мог не бачыць, якія цяжкія яны. Не, яна выдала сябе тым, што колькі разоў у той дзень паўтарыла:

— Нікуды я ад Жэні не паеду. Нікуды!

— Галя, дарагая мая. Канешне ж, не паедзем. Нікуды не паедзем. А радыяцыі нам няма чаго баяцца. Не возьме яна нас! Не возьме!

Дзён колькі мы жылі з лямпамі. Нічога, можна жыць. Падзеі свету? Калі шукаў лямпы, купіў прыёмнік на батарэйках. І мы маглі слухаць, як разбураюць вялікую дзяржаву. Выдзіраюць вокны, дзверы... Ад усенароднай бяды такой перажывалі гэтак жа моцна, як і ад нашага асабістага гора. Але трэба перажыць і гэта.

Часам грызла крыўда на былых супрацоўнікаў: ніхто не загляне. Можа, таму, што зрэдку я заглядваю да іх на базу, дзе камандзіры агульнавайсковай часці, не складской, не ведалі, чым заняцца. Салдат не вучылі. На страявую і палітычную падрыхтоўку забыліся. Не было камандзіра — Молчан займаўся сваімі справамі. Так разварьвалася армія. І за гэта балела маё сэрца.

Але, як кажуць, свет не без добрых людзей. Заглянуў да нас Іван Хадынец, старшыня калгаса, на блізкай пасецы якога мы з Молчанам і раённым начальствам добра-такі зладзіліся.

Бег ад «Волгі» да дома пад дажджом, накрыўшыся ваеннай плашч-накідкай. Скінуў яе ў сенцах. Ускочыў у прыцемкі дома вясёлы, ружовы, круглы, што піражок. І раней за «дзень добры» — пытанне:

— Што вы ў такі дзень без святла седзіце? Эканоміце?

— Нам абрэзалі святло,— сумна паведаміла Галя.

— Хто? — вельмі здзівіўся старшыня.

— Пэўна ж, мой добры сябра,— з невясёлай усмешкай адказаў я.

— Молчан? Во гад! Ну я яго растрыбушу, тарбахвата!

— Што вы яму зробіце?

— Я? Ды во ён дзе ў мяне,— і паказаў кулак.— Заўтра ён сам палезе на слуп падключаць...

— Сарвалі лінію да школы.

— Правядуць новую.

Узрадаваў нас прыезд старшыні; ён надаў нам упэўненасці, аптымізму, калі можна так назваць стан двух добраахвотных адшчапенцаў. Ды не, не адшчапенцы мы! Помняць людзі пра нас! Хадынец і раней наведваўся, запрашаў да сябе ў госці. Ды мы пабаяліся пакідаць дом: марадзёры заглядвалі сюды, ды і некаторыя салдаты не супраць былі сцягнуць, што дрэнна ляжыць, каб выменяць на самагонку: маглі залезці і ў дом; у палкоўніка, лічаць, ёсць што ўзяць. З базы прапілі ўсё, што дрэнна ляжала.

Пасядзелі мы з Хадынцом, пагутарылі па душах, выпілі. Я не вельмі паверыў, што ён правядзе нам святло. Але ён сказаў на развітанне:

— Паеду шукаць Аляксея. Ах, палкоўнік! Пачырванееш ты ў мяне!

— Падключаць? — спытаў я ў Галі.

— Гэты чалавек зробіць,— упэўнена адказала яна.

— А я сумняваюся.

— Вер людзям, Павел.

— Усё жыццё верыў людзям.

— І расчараваўся?

— Не знаю. Але не цягне мяне да іх так, як цягнула. Што гэта, псіхалогія пенсіянера?

На другі дзень Хадынец з'явіўся з раніцы, яшчэ больш вясёлы, ажыўлены.

— Усё, дарагія схімнікі! Ад цывілізацыі вас ніхто не адключыць. Працуе цэлая брыгада. Мае электрыкі. І салдаты. Старую лінію не аднаўляем. Праводзім вам персанальную. Напрасткі. Праз лес. Чашкі мацуем да сосен і дубоў. Не замкне. Падлеску няма. Але я вас моцна здзіўлю. Молчан клянецца, што не аддаваў загад адключыць вам святло. Падазрае, што гэта зрабіў нампаліт яго. Ідэолаг. Падпалкоўнік Акцябрскі! Адно прозвішча чаго вартае! Я ніколі не веры̆ў, што яно ў яго бацькоўскае. Памяняў, гад! Весяльчак, рагатун. А я вам скажу, што я баяўся трохі яго. Мне здаваліся правакацыйнымі яго вясёлыя анекдоты з антысавецкім душком. На храна... прабачце, Галіна Кузьмінічна, мне твае анекдоты! Хочаш паглядзець, як хто рэагуе?

Мяне ашаламіла паведамленне Хадынца. Уладзіміра Акцябрскага я лічыў сваім сябрам, вёў з ім даверлівыя размовы, ён падтрымліваў мяне ў маім канфлікце з Молчанам наконт парадку на базе. Ён па сакрэце сказаў мне, што адмовіўся падпісаць дакладную на маю адстаўку — запрасіла ўпраўленне кадраў. І я верыў яму і дзякаваў.

— Дрэнны я чалавеказнаўца,— сказаў я.

— Такіх, як Акцябрскі, нялёгка пазнаваць. Хамелеон. Ён умеў перафарбуецца.

Пасля абеду электрыкі вывелі лінію на наш агарод, дзе вялі апошнія асеннія кветкі. Паставілі адзін слуп.

Пад вечар загарэлася святло.

Аднак асцярожны Хадынец параіў нам ілюмінацыю не рабіць. І мы адключылі надворны ліхтар, шчыльна зачынілі аканіцы.

Тэлевізар аднавіў нам сувязь са светам, хоць глядзелі мы яго не бясконца — выбарачна: навіны, палітычныя праграмы; фільмы Галя глядзела толькі сур'ёзныя, класічныя, ніякіх камедый. А мяне трагедыі, нават далёкія, гістарычныя, прыгняталі. Лепш не глядзець.

Акрамя сітуацыі са святлом, мы не адчувалі страху, адзіноцтва. Жылі і жывуць людзі па адным. А нас двое, вельмі блізкіх, якія даўно зліліся ў адно. Але ў гэтым зліцці, адзінстве і заключалася немалая складанасць адносін. Няхай бы мы спрачаліся, няхай бы сварыліся. Гэта напаўняе жыццё. А ў нас не было прычыны зрабіць адно аднаму заўвагу. Тэмамі размовы былі хіба тэлевізійныя навіны. Першыя месяцы было нічога, мы бы па-новаму прыціраліся адно да аднаго.

Прыцерліся — мацней нельга.

У мяне яшчэ былі аддушыны: хадзіў на базу, гутарыў з людзьмі, ездзіў на матацыкле ў горад купляць «чыстыя» прадукты.

Галя заставалася ў доме бязвыезна. Я ўяўляў яе становішча. Улетку, калі на могілках быў гушчар, я падслухаў, як яна размаўляла з Жэнем — як з жывым. Дома яна гаварыла перад яго партрэтам штовечар — у спальні, шчыльна зачыніўшы дзверы. Я не перашкаджаў ёй. Перад Маці Божай, ікона якой вісела ў зале, яна малілася ўголас.

Я станавіўся побач з ёй і таксама маліўся без слоў. Галя была ўдзячная мне і за такую малітву: брала маю руку і сціскала яе ў гарачым парыве найвышэйшых пачуццяў.

Калі людзі жывуць сярод людзей і асабліва сярод дзяцей, у іх заўсёды знаходзяцца тэмы для размовы, нават калі яны маўклівыя ці не вельмі добразычліва ставяцца адно да аднаго. Не лічачы тэлевізійных навін, пра якія не хацелася гаварыць, бо радасці яны не прыносілі — расчараванне, боль, страх за дзяцей, за ўсіх дзяцей. Прыемныя тэмы для размовы прынеслі хіба што снегіры і сініцы, якіх мы кармілі, ды наш кот Пястун і сабака Бобік.

Аднойчы тэму для размовы прынеслі ваўкі. У марозную зімовую ноч. Доўга гаўкаў Бобік, надакучліва, надрыўна. Што яго ўстрывожыла так? Ажно заходзіўся ад брэху. Потым жаласна заенчыў, як прасіў паратунку.

Я выйшаў з паляўнічай стрэльбай.

І тады яны завылі, ваўкі, двое, пад самым акном. Дуэтам. Мабыць, воўк і ваўчыца, бо вылі адзін басам, другая фальцэтам. Мяне працяў холад. Чуў я воўчае

выццё. У маленстве. У тайзе. Але тут яно здалося асабліва страшнае. Не думаю, што галодныя. Не маглі яны ў нашым лесе быць галодныя: дзікі, ласі ходзяць, небяспекі не адчуваюць. Дык што ж ім трэба каля адзінокай жылой хаты? Вырашылі напалохаць і выжыць нас? Хто адключэннем святла, хто выццём. І людзі і звяры на нас?

Я ціхенька адчыніў весніцы, убачыў іх — чорныя постаці на белым снезе. Мог стрэліць прыцэльна. Але чамусьці не хацелася забіваць нават драпежніка: яны ў зоне павышанай радыяцыі. Стрэліў у паветра дуплетам. Ох, як яны падскочылі! Скакалі па глыбокім снезе — ажно цахлілі.

Было на вечар размовы. Я смяяўся, расказваючы, як ваўкі ўцякалі. Галя не смяялася; ваўкі спалохалі яе, яна зрабілася прымхлівай і, магчыма, атаясамлівала драпежнікаў з нячыстай сілай, а іхняе выццё з нядобрай весткай.

Можа, я і не заўважыў, што мы гаварылі ўсё менш і менш. Удзень я пілію і калоў дровы. І чытаў — перачытваў усё, што накапілася ў нашай хатняй бібліятэцы. Увечары сядзеў перад тэлевізарам. Галя ішла на могілкі, змятала з Жэневай магілы снег, клала засушаныя кветкі. Вярнуўшыся, поркалася на кухні, стараючыся з небагатага набору прадуктаў зрабіць найлепшы абед. Увечары перад тэлевізарам, не так уважліва, як я, гледзячы і слухаючы, вышывала. Яна хораша вышывала і любіла гэты занятак — занятак жонак афіцэраў далёкіх гарнізонаў. Умела і вязаць. Але вязанне — прыкладны занятак: каму? А ў яе не было каму. Для мяне і сябе яна даўно ўжо, яшчэ ў шчаслівыя дні, звязала і світэры, і шапкі, і рукавіцы, і панчохі. Тады яна вязала для Жэні... Помню, я жартаваў:

«Навошта яму ў Кутаісі такі світэр? Гэта адзенне для Антарктыды».

«Ты не знаеш, з якой вышыні ён скача. А там холадна».

Там — холадна. Але не надзявае ён пад камбінезон матчын світэр — у гэтым я быў упэўнены. Форма! Але Галі не сказаў: няхай вяжа! О, каб яна цяпер вязала для сына, нявесткі, унука! Якая ў нас была б тэма! Ды і не засталіся б мы тут, каб Жэня жыў, лятаў, камандаваў. Далі адстаўку па гадах — паехалі б да яго. Але сказаць пра тое, чаго ніколі ўжо не можа быць,— развярэдзіць яе і сваю хворыя душы, адкрыць плаціну слёз. І я маўчаў.

Мы сядзелі ў доме. На двары выла завіруха. Яшчэ не сцямнела, але, паколькі святло ўключылі, аканіцы зачы-

нілі: не рабіць ілюмінацыю! Хоць хто мог убачыць святло двух заінелых вокнаў? Я чытаў. Галя вышывала. Белая, у акулярах, яна выглядала бабуляй. Але больш трывожыла, што яе круглы і ўсё яшчэ прывабны твар, пасля перажытага, завастрыўся і на ім з'явіліся незнаёмыя рысы, мяняўся вобраз. А ў мяне быў адзін страх: каб яна не захварэла. Не, не толькі за яе баяўся, але і за сябе: хвароба любога з нас паставіць другога ў безвыходнае становішча. Ну, я магу жыць адзін і на матацыкле ездзіць да яе ў бальніцу. А яна? Не наведаць мяне яна не зможа. А дзе жыць у тым жа Гомелі? Здавалася, нямала было знаёмых, сяброў. Але да каго прыедзеш і скажаш: «Я пажыву ў вас»?

Відаць, залішне пільна я паглядзеў на жонку, яна ўбачыла, здзівілася:

— Што ты глядзіш на мяне так?

— Як ты адчуваеш сябе?

— Добра. А што? Пастарэла?

— Ды не. Проста пабялела. Але гэта не старыць цябе.

Яна іранічна пасміхнулася:

— Паша, ты ніколі не ўмеў гаварыць кампліменты.

— Але я ўмеў любіць.

— Умеў.

І — усё. Зноў я паглыбіўся ў кнігу, яна — у вышыванне.

Пасля доўгай паўзы Галя ўздыхнула і сумна сказала:

— Хутка мы з табой развучымся гаварыць.

Пра гэта я думаў сам. Але так сказаць не мог. Што паяльнай лямпай апякла сэрца. Віна, што мы можам развучыцца гаварыць, няма сумнення, ляжала на мне. Але пра што гаварыць? Не пра тэлевізійныя ж навіны кожны вечар.

На другі дзень у час абеду я пачаў расказваць ёй пра сваё маленства, юнацтва, ніколі так падрабязна не расказваў. У ім было нямала вясёлага, і яна ўсміхалася. Потым расказваў пра наша каханне, а гэта і пра яе дзявочае жыццё — так, як уяўляў яго, і што засталося ад яе даўніх-даўніх расказаў.

Галя колькі разоў засмяялася і аспрэчыла мяне. І яшчэ больш аспрэчвала, калі на другі, трэці... пяты дзень я пачаў расказваць пра наша з ёй жыццё. Самому зрабілася цікава. Але найбольшую радасць прынеслі нашы спрэчкі ў ацэнцы падзей, людзей. І слёзы, калі мы гаварылі пра Жэню, набывалі іншы сэнс — не толькі няўцешнага гора, але і той радасці, якую мы перажывалі, калі Жэня быў малы, вучыўся ў школе, пасля ў вучылішчах, адным, другім. Але смутак не адступаў. Галя сказала:

— Мы так мала былі разам. Навошта яму былі гэтыя ваенныя вучылішчы?

Папрок мне — ішоў за бацькам. Але гэтую віну я даўно сам усклаў на сябе, асабліва калі адчуў бясплённасць сваёй службы — чысцільшчык снарадаў і ракет з вялікімі зоркамі на пагонах! Не засталося ніякіх слядоў твайго розуму, ведаў, умення! Інжынер такога рангу на любым заводзе, на любой будоўлі зрабіў бы нешта, што служыла б людзям!

Менавіта тады, калі мы асцярожна, але ўжо не са стоеным смуткам і болем, а адкрыўшы і радасць і боль, гаварылі пра Жэню, Галя сказала:

— Напісаў бы ты гэта.

— Што?

— Усё. Жыццё наша.

«Для каго? — ледзь не вырвалася ў мяне.— Няма дзяцей, няма і не будзе ўнукаў».

Але не сказаў. Ды Галя як прачытала маю думку і сказала:

— Для людзей.

«Хто надрукуе?» — падумаў я, але і пра гэта змаўчаў.

А ідэя — што зерне, кінутае ў цёплую зямлю, пачало расці — і кожным днём рабілася больш прывабнай, напаўняла жыццё новым сэнсам. Пакінуць пасля сябе кнігу! Можа, і надрукуюць, і тады прачытаюць многія людзі. А калі не — няхай прачытае адзін чалавек, два, тры. Ёсць жа ў мяне сястра, пляменнікі.

І ўдзень і ў бяссонныя ночы я выношваў Галіна жаданне. І часам фантазія мая ўзлятала высока. Неяк нават падумалася, што я магу напісаць цэлы раман. «Не Багі гаршкі лепяць». Перачытаў некалькі раманаў, не класікаў — да іх не цягнулася, сярэдніх пісьменнікаў, якіх друкаваў «Новый мир», Галя выпісвала яго колькі гадоў, амаль усе кніжкі раздавала, але з дзесятак нумароў захавалася.

Чытаў і пераконваў сябе: так і я здолею. А сеў пісаць і ў першы ж дзень пераканаўся: не, няпроста гэта, напісаць раман. Тонкая кішка, як кажуць. Людзі не ажывалі пад маім пяром — не гаварылі, не крычалі, не смяяліся, не плакалі. Я мог запісаць толькі факты ўласнай біяграфіі, запісаць статычна, без руху, дынамікі. Ёсць і такія кнігі, чытаў іх — біяграфіі вядомых людзей. Пераканаўся, што мне пад сілу толькі такая форма — статычна-апавядальная. Але чым я вядомы?

Пераканаўшыся ў сваёй літаратурнай няздатнасці, я хацеў спыніць працу, хоць яна падабалася мне, яна

захапляла, як і вусны расказ пра сябе, Галю, Жэню, бацькоў, сваякоў, калег, шчырых і няшчырых. Ды Галя падтрымала мяне. Я сказаў ёй:

— Чытай, але май на ўвазе: раскрытыкуеш — заб'еш у доме сваім Льва Талстога.

Не, яна не крытыкавала. Яна нясмела папрасіла:

— Дазволь, я буду дапісваць тое, пра што ты забыўся. Ці расшыраць, дзе ў цябе вельмі сцісла.

І яна дапісвала і рабіла гэта лепш, чым я. Напрыклад, сцэну, як мора праглынула хлопца, напісала падрабязна, у мяне пра гэта колькі сухіх фраз, каб давесці, чаму Жэня не трапіў у нахімаўскае. І тое, як яна баялася ў самалёце, калі пасля няшчасця на моры ўсёй сям'ёй ляцелі ў Мінск. Над морам баялася. І супакоілася над зямлёй. Сама дзівілася з гэтага свайго адчування.

Якой бы ні была наша творчасць па сваім узроўні (у цэлым напісанае падабалася мне), яна напоўніла наша адзіноцтва працай незвычайнай. Расказ вусны — хуткі бег. А напісанне — павольнае, замаруджанае раскручванне стужкі свайго жыцця. Думаем уначы — пра што напісаць заўтра. Пішаш, Галя чытае. Без слоў узнікла дамоўленасць: ні хваліць, ні асуджаць. Дапісвай тое, што я не напісаў ці што расказаў не так, ці што ты бачыла ў іншым святле: я — у ружовым, ты — у бляклым. У адным мы былі салідарныя: людзей, якія рабілі нам непрыемнасці, не паказваць у чорных фарбах, нікога не ганіць.

— Бог ім суддзя,— казала Галя.

Мне спачатку не падабалася гэтае хрысціянскае ўсёдараванне, талстоўская філасофія. Корсуну ці Молчану я часам — не пляваў — чхаў на лысіны іх. (Корсун быў лысы, а Молчану на што чхнуць — на капу валасоў?) Непрыкметна і тактоўна Галя — не выкрэсліваннем — дапіскамі здымала маю ўзлаванасць. Вусна яна часам узгадвала евангельскае выслоўе:

— Не судзі — ды судзімы не будзеш.

Я з гэтым доўга не згаджаўся. І мы спрачаліся.

І спрэчкі такія падабаліся мне: яны вярталі Галі цікавасць да «высокай матэрыі», непрыкметна мы ўцягваліся ў філасофскія разважанні. І гэта таксама напаўняла жыццё, якое адзін час, да яе слоў «Скора мы з табой развучымся гаварыць», здавалася зусім спустошаным.

Так мы пражылі зіму — у пісьмовым аднаўленні свайго жыцця. А вясной высаджвалі кветкі. Вялізны кветнік — на пятнаццаць сотак зямлі! Вясной пачыналася амаль звычай-

нае жыццё — з большымі сувязямі з людзьмі. Памог Хадынец. Ён прывозіў нам вартавога — свайго цесця — і забіраў нас да сябе ў калгас, не на адзін дзень. Даў нам магчымасць з'ездзіць у Крычаў — да сястры, братоў.

Жывём. І на радыяцыю забываемся. Пакуль што яна літасцівая да нас. Між іншым, яна паменшала — у паветры, а з зямлі тутэйшай мы спажываем адны кветкі. Усё іншае — з зямлі калгаса і з горада. Чыстае, нячыстае? Бог яго ведае. Маю дазіметр, але не правяраю. Дагэтуль здзіўляюся, што за якія дзесяць — пятнаццаць кіламетраў забруджанасць зямлі цэзіем у тры разы меншая за тую, што ў нас. А за дваццаць кіламетраў ад нас, на поўнач — у Веткаўскім раёне,— у два разы большая, там трэць раёна адсялілі.

Што ж, будзем жыць па прыслоўю: «Бог не выдасць — радыяцыя не з'есць».

Пасля гібелі Жэні я песімістычна думаў: якая розніца, калі памерці? А цяпер раблюся аптымістам, цяпер загадваю сабе: трэба жыць!

— Трэба жыць!

### Працяг пралога

На гэтым я заканчваю белетрызацыю запісаў палкоўніка Паўла Вятрэнкі.

Рукапіс мае працяг. Але ў апісанні наступных гадоў свайго ляснога пустэльнага жыцця нямала паўтораў, і з'явілася вяласць успамінаў: стаміўся чалавек.

Ёсць, праўда, надзвычайныя старонкі, запіс сноў яго, палкоўніка, і яшчэ больш Галіны Кузьмінічны; запісвала яна не пратакольна — густа, дэталёва. Але сны я не адважыўся чапаць. Сны любога чалавека — за мяжой рэальнага. Сны такіх пустэльнікаў — тым больш. А я рэаліст, да містыкі не дайшоў яшчэ. А можа, стрымала іншае. Прыгадаў апавяданне амерыканскага пісьменніка, не помню прозвішча. Малады і багаты сачыніцель даў аб'яву, што купляе сны. Прыйшла маладая дзяўчына. Расказала сон — зарабіла дзесяць долараў. Другі, трэці — купіў. І тут адбылося неверагоднае: дзяўчына перастала сніць. У роспачы просіць пісьменніка: «Вярніце мне мае сны!»

Не хачу, каб героі мае, прачытаўшы свае сны, страцілі здольнасць сніць. Няхай і ў снах, як і наяве, жывуць сваім фантастычным жыццём!

*Верасень 1996 г.— студзень 1997 г.*

*Георгій Марчук*

## ГОЛАС І СЛОВА

*Афарызмы*

Нянавісць асляпляе відушчага і дае зрок невідушчаму. З якой студні чэрпаюць сілы нянавісць і зайздрасць?

Самы магутны метад забыцця — змена летазлічэння.

Смерці нельга ні шкадаваць, ні зайздросціць. Ва ўсіх набытыя білеты.

І багацця на ўсіх хапае, і галечы на ўсіх хапае, толькі дабро ў дэфіцыце.

Першыя пытанні, якія чалавек паставіў сам сабе: давядзецца памерці, як бы не памерці, а дзеля чаго жыць, перад тым як памерці.

Меншасць замольвае грахі, а большасць залівае.

Усю сусветную гісторыю можна вытлумачыць і так — гэта пошукі раба розумам, грашамі і зброяй.

Адвечная дылема для чалавека — калі не скарышся Богу, не супрацьстаіш д'яблу.

Патрыятызм — гэта ўпрыгожванне радзімы талентамі і справамі.

Калі грамадства ператварае волю ў разбэшчанасць, яна сыходзіць з грамадства.

Сёння праўда выгадная аднаму, заўтра другому. Сумна ад таго, што няма дня, калі б яна была выгадная ім абодвум.

Чалавеку ўсё ў радасць, а каб ён асэнсаваў цану гэтай радасці, часам засылаецца і гора.

Калі твае пакуты ператвараюцца ў пакуты для іншых — час паміраць.

Я ніколі не шукаю і не чакаю натхнення, любоў да радзімы — маё пастаяннае натхненне.

Пытаеш, дзе радзіма? Дзе пахавана твая маці, там і радзіма.

Для бездухоўнага чалавека не існуе паняццяў радзіма, народ.

Калі ёсць у сэрцы любоў да ўсяго жывога — вось пачатак шчасця.

Трэба знаходзіць сілы і смеласць насіць у сабе мінулае, і яно дапаможа не баяцца смерці.

Удалы чалавек і чорта запражэ ў воз.

Філосаф пра простых людзей кажа так: яны зведалі ўсё і не спазналі нічога ў гэтым свеце — няшчасныя людзі. Звычайны чалавек адзначыць: яны былі, зведалі гора і нястачу, каханне, радасць і сум — шчаслівыя людзі.

Нікому не хочацца быць ні ахвярай, ні катам. Ды ўсё ніяк не атрымоўваецца.

Думкі пра Бога, маці, дзіця, радзіму заўсёды надаюць сілу.

Чалавек моцнай волі?

Чалавек, які можа памерці, калі захоча, і які ніколі не памрэ сам, як бы да гэтага ні прымушалі абставіны.

Шчасце складваецца не з таго, чаго ў нас няма, а з таго, што мы ёсць.

Пытаецеся, што параіць новаму рэдактару газеты? Хай не правакуе ў чытачоў нянавісці адзін да аднаго і не штурхае іх не любіць радзіму. І ён стане славутым.

Пытаеш, якую я спавядаю філасофскую ідэю? Калі адкажу: песімізм — знаёмае. Калі скажу: аптымізм — старое. Адкажу: песімістычны аптымізм.

Пытаеш, як праславіцца? Дапамагай асвеце народа, умацоўвай яго нацыянальную самасвядомасць, вучы любіць і шанаваць сваё, і ён адкрые цябе для сябе і праславіць.

Чым вышэйшы ўзровень культуры таго ці іншага народа, тым больш таленавітых людзей з гэтага народа ведаюць у свеце.

Атэіст — гэта не той, хто не верыць у Бога, а той, хто намагаецца паставіць сябе на яго месца.

Розніца паміж дабром і злом. Дабро мы можам ацаніць самі, а зло часцей за ўсё ацэньваюць на нашым горкім вопыце другія.

Калі шчасця трэба дабівацца — гэта ўжо не шчасце. Шчасце прыходзіць натуральна і непрыкметна, часцяком нечакана, але заўсёды заслужана за турботы шчырыя і справы духоўныя.

Вопыт пакаленняў нічому не вучыць, словы сведак — бяссільныя. Кожны мае прайсці свой шлях цаной страт і набыткаў.

Цэмент і моцны, і выклікае давер, але без слабога і мяккага пяску не абыходзіцца.

На надмагільным помніку маці я напісаў: «Мама, не было дня, каб я не ўзгадваў цябе».

— Бог, мне сумна. І Бог даў чалавеку тэлебачанне.
— Бог, мне сумна. І Бог даў чалавеку камп'ютэр.
— Бог, мне сумна. І Бог даў чалавеку сотавы тэлефон.
Чалавек пераадрасаваў просьбу.

— Мне ўсё роўна сумна, Д'ябал. І Д'ябал прымусіў чалавека за ўсё, што даў Бог, плаціць грошы. Больш просьбаў не было. На іх не хапае часу.

*Галіна Дашкевіч*

## ВЕРАСНІЦА, ЛЮБАВІЧЫ, АЗЯРАНЫ...

### НА ПАЛЕССІ

На Палессі сярод безлічы дзівосаў
Ёсць чаруючыя назвы нашых вёсак:

Верасніца, Любавічы, Азяраны...
Так ласкава, нібы сонейка уранні,
Зіхацяць, пераліваюцца, струменяць
Словы родныя пяшчотна, задуменна.

Любавічы — золак клічуць,
Азяраны — дзень жаданы,
Верасніца — верас сніцца
Ўсім, хто ў край свой закаханы.

Верасніца, Любавічы, Азяраны,
Вы — як кветкі на абрусе саматканым,
Дыяменты роднай мовы беларускай,
Вымаўляю — і пяю не напяюся.

Верасніца, Азяраны, Любавічы,
Хай жа доля толькі шчасце ўсім вам зычыць,
Хай зямелька не шкадуе дараваці
Ураджай штогод, каб бохан быў у хаце.

Верасніца, Любавічы, Азяраны,
Усявышнім вы самім, відаць, названы,
Бо з якою быць душою трэба чыстай, палымянай,
Каб прыдумаць: Верасніца, Любавічы, Азяраны...

## БАБУЛЯ КУЛІНА

Бабуля памірала і казала:
«Глядзіце ж, дзетачкі, адно другога!»
Успамінала Прыстань і Заверб'е,
Развітвалася з Доўгаю Лазою,
З Вінішчамі, Гарой і Крыванівай.
На Прыстані палотны паласкала,
А на Заверб'е бегла на спатканні...
Лаза не раз ад смерці ратавала,
А на Вінішчы з бацькам йшла, бывала,
Хаджаць жакі, нацешыцца ўюнамі.
А на Гары любіла на змярканні
Рамонкі у вяночкі заплятаці.
На Крываніве жыта з маці жала
Ды ў песнях шчырых долечку гукала.
Дванаццаць яна дзетак нарадзіла,
Ды выжылі з іх ўсяго шасцёра:
Рыгор, Даніла, Сідар і Мікола
І дочкі — Кацярыначка і Волька.
Сын Сідар не вярнуўся з Магадана,
Даніла голаў склаў пад Кёнігсбергам...
Бабуля памірала і казала:
«Глядзіце ж, дзетачкі, адно другога!»
На сына меншага свайго старая
Вачамі прасвятлеўшымі глядзела
І прыгаворвала: «Мой залаценькі,
Пытаеш, ці пазнала? Як жа маці
Тваёй сівой галоўкі не пазнае?
Глядзі ж яго, Марусечка, бо немцы
Крыві з яго багата пасмакталі,
Бо у яго, нябогі, каля сэрца
Дасюль сядзяць варожыя асколкі!..
Не трэба плакаць, бо ужо даўно мне
Падацца трэба следам за бацькамі,
За дзеткамі сваімі і за мужам,

Яны даўно ужо мяне чакаюць...
Жывіце доўга, дай вам Бог здароўя,
І сонейка, і хлеба, і да хлеба...
А на магілцы кветак не садзіце,
Хай траўкай маладою зарастае...
Не будзе мець душа мая спакою,
Бо да апошніх дзён сваіх не знаю,
Дзе Сідаркавы косці спачываюць
І дзе ляжыць сыночак мой Данілка...
Бабуля памірала і казала:
«Глядзіце ж, дзетачкі, адно другога!»

* * *

У бацькавым доме, як сонца,
Матуліна ласка мяне саграває бясконца,
Пад роднай гаворкі напеў засынаю,
Дзяўчынкай-гарэзай маленькай сябе адчуваю.

У бацькавым доме, як поўняй,
Усмешкаю кожны куточак напоўнен,
Дзяцінства былога стракатае ўлонне
Мне кветкай Купалля чароўнай ківае сягоння.

У бацькавым доме, паверце,
У кожным куточку пануе бяссмерце,
Тут прадзедаў простае слова — святыня,
Адвечнаю песняй у сэрцах жыве — не астыне.

* * *

На Палессі не гавораць, а спяваюць,
Мову родную да сэрца прытуляюць.
Так дзядуля мой спрадвеку рэзаў бохан,
Як свяцейшы скарб, дарованы ад Бога.

Так бабулечка мая шурпатай жменяй
На сяўбу вясной разгладжвала насенне,

Для яе яно як сонца залатое,
Нібы праўнучка усмешка,— дарагое.

Як унучкаў не пабачу, то нягожа,—
Так гаворыць мне матуля чыста, гожа,
Слоўца к слоўцу, як зярнятка да зярняці,
Вочы ж ясныя, нібыта ў дзіцяці,
Голас срэбраны і серабро на скронях,—
Беларуская палеская Мадонна.

Я да возера іду сцяжынай вузкай,
Тут лілею называюць міла гускай,
А шчупак здаўна завецца тут кажушак,
А прыгожая дзяўчына — харашуха.

* * *

Цётка Палашка і дзядзька Рыгор,
Хатка пахілая, чысценькі двор,
Яблынькі песцяцца дружным радком,
Кветачкі вабяць красой пад акном.
Рукі старыя ад працы гудуць,
Ногі стамлёныя ледзьве ідуць.
Колькі аралі і жалі яны!
Колькі дабра і цяпла аддалі!
Колькі яны абхадзілі палёў,
І сенажацяў, і паплавоў!
Толькі чаму гэтак сэрца баліць?
Некаму ў старасці іх прыхіліць.

* * *

Загінуў родны дзядзька мой Васіль,
На покуці — гітара-успамін.
Я ціха-ціхенька крану струну —
І ўваскрашу хлапечую вясну.

І ўваскрашу у памяці сваёй
Таго, хто незнаёмы быў са мной,
Аб кім я ведаю па маміных слязах
І па бабулі выцвілых вачах.

Я нарадзілася пасля вайны.
Чаму ж яна ўрываецца мне ў сны?
Віхурамі азмрочвае мой лёс,
Снарадамі, што рвуцца да нябёс?

Не знаю я апошні той спачын,
Дзе спіць матулін брат, бабулін сын,
Аплакваць буду, колькі буду жыць,
Усіх, хто без пары ў зямлі ляжыць.

* * *

У маёй у хаце
Цуды-сонцы свецяць.
Што ж гэта за сонцы,
Што гараць бясконца?
Гэта мае дзеці.
У маёй у хаце
Песня не змаўкае.
Чый жа галасочак,
Нібы той званочак?
Гэта мой сыночак
Коціка спявае.
У мяне у хаце
Ліска-весялушка
Хвосцікам віляе,
Хату падмятае.
Што ж гэта за ліска,
Тварык у вяснушках?
То ж мая дачушка.
У маёй у хаце
Песню не стрымаці.
Хто ж яе спявае?
К небу узнімае?
Хто не верыць — верце,
Гэта маё сэрца.

## ЖАНЧЫНА Ў ЧОРНЫМ

Ў маім найласкавейшым краі,
Жытнёвым і зорным,
Часцей і часцей сустракаю
Жанчыну у чорным.

Чарнобыльскай даўняй тугою
Зажураны вочы.
Вядзьмарка-нядоля над ёю
Скуголіць-рагоча.

Мне стронцыю лютая сцюжа
Рве сэрца на часткі.
Каго пахавала ты — мужа?
А можа, дзіцятка?

Сплячіся бяда і праклящце
Ў сумесным хаўрусе.
У чым вінаватыя маці
Маёй Беларусі?

Прырода зямлю аздабляе
Красой бездакорнай,
І ўсё ж, як дакор, выступае
Жанчына у чорным.

## СПОВЕДЗЬ ПАЛЕШУКА

«Сядзець пара мне ўжо ля печы,
Ды не ўтрымаюся, дачушка,
Магілкі родныя ў Зарэччы
Завуць, трывожаць, будзяць душу.
І сад, што пасадзілі з дзедам,
І хата кліча ўдзень і ўночы,
Да Брагіна штомесяц еду...» —
Сказаў — і заблішчалі вочы
Няўцешнай, горкаю слязою,
І задрыжалі раптам рукі...
Я захлынулася тугою,

Завошта нам такія мукі?
Чым правініўся перад Богам
Народ мой шчыры, працавіты?
Мой край засеяны трывогай,
Палынным смерчам апавіты.

* * *

Тут кожны пасталее без прынукі,
Калі не пасівее без пары,
Хавае дзед малодшага унука
У Хільчыцах, пад Туравам старым.

Хавае дзед нявдзейсненыя мары,
Шаснаццаць год хлапчыначка пражыў
І стаў, як маці, атама ахвярай —
Памёр. Недакахаў. Недалюбіў.

Юначыя няздзейсненыя мары,
Як ластаўкі бяскрылыя, ў труне,
Палешукі з пакутаю на тварах
Дзяцей і ўнукаў трацяць на вайне.

Вайне нябачнай, ды не менш жахлівай,
Дзе кулі-невідзімкі ў сэрца б'юць,
Дзе атамным дажджом спавіта ніва,
Дзе атамныя досвіткі ўстаюць.

Калі для вінаватых прыйдзе кара?
Гасподзь магутны, дзе твой правы суд?
Апошнія свае надзеі, мары
Палешукі ў апошні шлях нясуць.

* * *

Радыяцыя сэрцы зашкальвае,
Горам, болем мы ўсе павязаны,
Нехта ўверсе паходню запальвае:
Выжыць мы абавязаны.

Пазіраюць як на смяротнікаў
На палескіх дзяцей цярплівых,
На маю Беларусь гаротную,
На паставы нашы пахілыя.

Ўспомнім постаці гордыя продкаў,
З імі вечнасцю мы павязаны.
Ўспомнім... Прыпяць шуміць паводкай:
Выжыць мы абавязаны.

## МАЛІТВА

Божа, даруй мне маю спакусу
Выкласці шэраг мірскіх ідэй:
Няхай усміхаюцца беларусы,
Няхай усміхаюцца крыху часцей.

Хай шчаслівейшаю будзе іх доля,
Хай прыгажэйшым будзе іх лёс,
Гора зазналі яны даволі
І знемагліся ад горкіх слёз.

Не абкрадалі чужой зямліцы,
Не прыніжалі Тваіх святынь.
Завошта атрута паўсюль клубіцца?
За што ім чарнобыльскі горкі палын?

О Божа, памілуй народ шматпакутны,
Ўратуй беларускіх анёлаў-дзяцей,
Пашлі вызваленне ад цяжкіх путаў
І долю, вартую добрых людзей.

* * *

У Паселічах болей не селяцца,
Не раджаюць і не будуюцца,
Палыновая злая мяцеліца
Вымятае вясковыя вуліцы.

Тут матулі маёй радзіма,
Тут дзяцінства дарогі сцелюцца...
Дзядзька Янка і цётка Ніна
Засталіся адны у селішчы.

Засталіся адны на вуліцы,
Што гула, нібы вулей, некалі.
Хата к хаце спуджана туліцца,
Пеўні болей не кукарэкаюць.

За стракатымі агароджамі
Расцвітаюць сады самотныя,
Кветкі дзеткамі ненароджанымі
Ападаюць на дол, журботныя.

## ПАЛЕСКІЯ СОНЕЙКІ

Дзеці палескія з вёскі Зашыр'е
Спяваюць пад гукі гармоніка.
Коскі ільняныя, вочкі сінія,
Назва ансамбля — «Сонейка».

Людзі любуюцца і здзіўляюцца:
— Глядзі ты, якія здольныя! —
Песні бабуліны лёгка спяваюцца,
Імклівыя і раздольныя.

Песні вясковыя, песні бабуліны
Выклікалі авацыі.
— Дзетачкі,— нехта ўздыхнуў расчулена,—
З зоны ж яны, з радыяцыі.

Песню Палесся разгортвае шырай
Голас дзіцячы тоненькі...
Жывіце свой край цудадзейнай сілай,
Свяціце, душ нашых сонейкі.

## НАВАЛОКІ

— Куды ж мне? — ўздыхнула глыбока.—
Каму я патрэбна, старая?
«Чарнобыльскія навалокі» —
Так нелюдзі нас называюць.

Бабулька жыве самасёлам
У вёсцы былой, пахаванай,
Адна на ўсё наваколле,
Як птушка з крылом паламаным.

Як колас на спаленым полі,
Завяўшая ў лузе каліна...
Адна на ўсё наваколле
У зоне, нібы ў дамавіне.

Сышла з абразоў пазалота
У беднай закінутай хаце.
— Адна ў мяне, дзеткі, турбота —
На роднай зямельцы сканаці.

Стамлёныя пальцы крывыя
Крыж-накрыж прыклала да сэрца.
— Хай лёс ад нядолі вас крые,
А мне, дай Бог, лёгенька ўмерці.

*Ала Канапелька*

## РАЗАМКНІСЯ, СЛЯПАЯ ПУСТЭЧА

* * *

На развалінах дзяржаў і свету,
Божа мілы,
голас дай паэту!

У апошні час зямной юдолі
нашым душам я малю спатолі:

песняю астатняга паэта
хай любоў зямная будзе ўспета!

На кругах
яе высокага свячэння
скончым мы сваё летазлічэнне,

каб наступным жыхарам планеты
свой адлічваць час —
ад песні гэтай,

вырваўшыся з бед глухіх палону...
Наш пачаўся,
можа быць,
з праклёну...

### ПРАЗ НЕБЫТАЎ ПА БЕРАЗЕ НЯБЫТУ...

Праз Небытаў
па беразе нябыту
іду ў свой храм —
дубовы гай.
Зямля яшчэ снягамі апавіта,
а цені веснія ўжо ладзяць грай!

12 Зак. 1132

Не ўсе вядомы родныя магілы,
даўно астылі на зямлі сляды...
Склікае напрадвесні гаю мілы,
як вырай, душы нашыя сюды.

Вось заірдзее снег, прыгрэе сонца,
і першым прыйдзе дзед мой Аляксей:
на свежым зрэзе злічыць кольцы,
чарнявым чубам сумна патрасе.

Да ног яго
 ілбом гарачым,
як горкі вецер, прыпаду,
далей ад воч людскіх паплачу...
— Чакай увесну чараду!

Узыдзе сон-травой
 журба дзялянак,
дзень Аляксея вызваняць званы,
з усходам сонца выйду я на ганак
страчаць радню —
 і вось лятуць яны,

крыло ў крыло,
 вынырваюць з блакіту
і кружаць, узіраюцца ў край мілы...
Вяртаецца мой вырай белакрылы —
у Небытаў
 да берага нябыту.

* * *

Вашы вобразы, як абразы,
нада мною з дзяцінства світалі.
Я не ведаю большай красы,
я не ведаю большага жалю.
О мадонны палескай зямлі,
плешча Прыпяць у вашы далоні!
А вятры, як здзічэлыя коні,
здратавалі лугі і палі.

І дажджы ўпалі мёртвай вадою —
на палеткі, разлогі і лес.
Пасмы горкага пылу між кос
уплятаеце разам з бядою.
І вядзе вас ад краю да краю
Беларусі выгнанніцкі шлях...
Як куваюць зязюлі ў гаях
і салоўкі пяюць — нібы з раю.
Родных,
        вас у мігценні слязы
закахана нябёсы вітаюць.
Вашы вобразы, як абразы,
прада мной неадольна світаюць...

* * *

Па дарозе шырокай
                між палескага гаю
ў запаветны свой край прыязджаю.
Зноў вяртаюцца птушкі з адлёту —
у лясы, на палі, на балоты.
Чым суцешыць цябе,
край, самотны навекі?
Ні ў гульбе, ні ў жальбе
не знаходжу я лекі.
Не знаходжу я словы
для збалелай душы...
Як сівеюць галовы
соснаў
        каля шашы!

Памаўчым каля Хойнік
ды паслухаем вецер,
малады сіні хвойнік
вечарова прывеціць
і чужых, і радзімых —
цішынёю радзімы.

А калі запытаюць,
як тут,
        што ды пачым? —

прамаўчым.
А калі завітаюць
у наступных стагоддзях
на глухія шляхі,

у зарослыя вёскі —
хай прыходзяць,
падсумуюць
набыткі і страты ў «вялікім паходзе»...

Але ўсё ж за якія грахі,
быццам свечкі,
палаюць бярозкі?

## ЗОНА

Я ў зоне нясцерпнага болю:
над краем маім крыж-накрыж маланкі —
ад болю не могуць яны рашчапіцца,
блакітны агонь выкрасаюць.

І падае гэты агонь
на чорныя стужкі дарог,
на сінія рэчкі, азёры
ды на залатыя хлябы
і ў душы людскія ільецца.

Па левую руку — зняможана песня,
па правую руку — зняважана слова...
Мы ў зоне высокага болю,
глухога маўчання.

Ідзём наўпрасткі, наўманкі,
дзень гасне, займаецца ноч.
Але ў святле гэтага болю
відаць! —
і звера, і птушку, і гада.

Вось гэтак хадзіў па зямлі
сто год таму, можа, і болей,

з прарочымі словамі старац сівы —
казалі, з суседняе вёскі.

Збылося прароцтва яго.
Назад адгарнуць немагчыма
старонку — у кнізе стагоддзяў,
якая амаль дачытана.

І нехта ўжо іншы ідзе
і след чалавечы шукае —
па зоне бязмоўя, па краі,
яго зноўку
слова
вядзе.

Спяшаймася, песня і слова!
Замкнуцца не дайце мяжы адчужэння
ад мовы, дараванай Богам:
яе прыніжэнне — Яго паражэнне...

Спяшаймася, слова і песня,
бо надта стаў «добрым» народ беларускі:
яму, апроч шклянкі і сала,—
ні-чо-га! —
сцвярджаюць, не трэба.

А што, калі трэба?!
І болей, чым хлеба,
святла і ратунку, і Божае ласкі,
каб «зонай» не стаць
без зямлі і без неба,
куды перуны толькі ляскаюць.

Пакуль жа над краем
крыж-накрыж маланкі...
Спяшаймася, песня і слова:
прад намі — Чарнобыль,
за намі — прароцтва,
а па-над усім — Летазлічэнне!

## ДЗІЧКА

І ўзышла на вогнішча дзічка...
Асцярожна ступала,
каб незнарок
не зачапіцца каранямі за камяні
і не ўпасці
за некалькі крокаў ад агню...

Хтосьці, зняможаны шляхам,
астуджаны сіверным ветрам да сэрца,
заручаны лёсам
з посахам, плахай,
аднойчы расклаў тут агонь, каб сагрэцца.

Ён, невядомы, ды вечны вандроўнік —
воін, выгнаннік ці сын чый аблуда,
зорнага неба святы малітоўнік
па-над агнём на далонях трымаў,
нібы цуда.

Гэтаю ноччу, прыпаўшы да тайны
і адагрэўшы душу і сэрца,
ён растварыўся ў блакітным світанні —
толькі пакінуў у полі цяпельца.

Дзіўны агонь скрозь стагоддзі свяціўся
ў чорнае ночы разлогах.
Шмат хто маліўся прад ім
ці βініўся
на палыновых палескіх дарогах.

Родны мой краю,
шляхі зарастаюць,
нівы дзічэюць, імшэюць магілы,
птушкі цябе аблятаюць,
краю мой мілы!

Стыне таемны агонь, пракаветны,
небам, людзьмі ён забыты...
— Будзь дальнім зорам,
мой краю,
прыкметны
ў сполахах чорных нябыту!

Ах, як трымае зямелька карэнне...
Гэтакі боль...
Прыкарэла чырвоная гліна...
Сыпаўся цвет белым ліўнем з галінаў —
на чарнабыл,
на глухое каменне.

І ўзышла на вогнішча дзічка!
І стаяла свячэнне
ад зямлі да неба —
празрыста-ружовае,
як сарцавіна
ў дзікіх грушаў...

## ПАЎНОЧНАЯ ЗОРКА

Скрозь смяротную стому
шукаю Паўночную зорку,
там край свету —
і стыне апошні пагляд...
Праз глыбокую цемру
жвіровага ўзгорка
на Паўночную зорку
ўзіраецца — брат...

І жывым, і памерлым
яна асвятляе дарогу —
светач вечнасці
ў нечай нябачнай руцэ.
З ёй і неба радней,
і бліжэй шлях да Бога,
і сляза саланей,
што бяжыць па шчацэ...

## СОН-ТРАВА

Анідзе,
як на дальняй градзе,
быццам неба,
бязмежна цвіце
сон-трава веснавая.
Вечным цягам
спакойна ідзе,
ручаінамі
звоніць, гудзе
зноў вада снегавая.
Пералётная птушка —
не госць
на зямлі,
запаветнай і роднай.
Я таксама была тут
і ёсць
дзікай кветкай,
блакітнай, нязводнай.

Сон-трава
край лясоў мне світае,
сон-трава
і радзіма святая.

* * *

Разамкніся, сляпая пустэча,
расступіся, бяда, як вада.
Мне прызначана верная стрэча,
і чакае мая чарада.
Непазбыўная прага надзеі,
залатая заранка з-за хмар.
Сёння лебедзі ў небе ляцелі,
сёння ясніўся мне светлы твар
Божай Маці
над цёмным раздоллем,
над спалоненым лёсам маім.
Я за выраем рвуся з юдолі —
лебядзіным, святым, залатым.

## ІШОЎ ГАСПОДЗЬ БОГ ПА ЗЯМЛІ

Ішоў Гасподзь Бог па зямлі,
ішоў па лугах і палетках,
і нівы спакоем цвілі,
і шчасцем свяціліся кветкі,—
ішоў Гасподзь Бог па зямлі!

Ішоў Гасподзь Бог па зямлі,
быў свет, як дзіцятка, прыгожы,
і сонца шчэ гнеў не замгліў,
ні плачу, ні слёз, ні магіл...
«Не можа такога быць?» — «Можа! —
ішоў Гасподзь Бог па зямлі».

Ішоў Гасподзь Бог па зямлі,
зрываў залатыя налівы,
вясёлкі расінкі пілі,
і дзумкалі пчолкі ў галлі —
і Бог быў па-божы шчаслівы!

Ішоў Гасподзь Бог па зямлі...

## МАЙ 1986-га

Больш ні слова аб смерці!
Паглядзіце:
вясна
занялася па свеце
і наўкола — яна!
Травы, лісцейкі, кветкі
узышлі, расцвілі,
зелянеюць палеткі,
птушкі гнёзды звілі...
У застрэшшы спяць косы,
а па травах — на смех —
малады гром і босы
асцярожна прабег.
У прыродзе ўсё рада:

мы навек, назаўжды!
То спрадвечная праўда
для травы і вады.
Ясна свецяць суквецці,
прашумеў дождж і сціх...
Я прашу:
хоць на міг —
НЕ!
Ні слоўца аб смерці.

## ДАЛЁКА АД ПЕСЕНЬ І СЛЁЗ

Далёка ад песень і слёз,
дзе ўпалі на долы аблокі,
праз лес абгарэлы,
зрудзелы алёс
блукае агонь адзінокі.

І вецер палескі кранае мне скронь
расстайным крылом галубіным.
Чый гэты нясцерпны агонь —
маланкі ці нетраў глыбінных?

Пячаткаю болю затулены рот:
засвойвай прамудрасць маўчання,
тут хіба гаворыць птушыны народ,
ды звоніць мой бор велічальна,

ды толькі між дрэў зіхатне, прамільгне
блакітны агонь — і нікога!
Зямлі маёй тайна адкрылася мне:
высока — да неба тут,
блізка — да Бога!

Тут мерыцца час па законах агню,
адлічвае леты перыяд распадаў.
І душы паслухаць ляцяць цішыню,
дзе свяцяцца ў росах і вечнасць, і праўда,—
далёка ад песень і слёз...

* * *

Паміж намі — аблокі, нябёсы,
паміж братам і мною — жвіры...
Ходзіць вецер, раскосы і босы,
пад акном, што да ранку гарыць.
Ноч якую ён гэтак блукае?
І каму голас ён падае?
Хай сягоння спакой адшукае
і прыляжа на рукі мае.
Ён бязгoласна ўсхліпне спрасоння
і да шарай гадзіны спачне...
Толькі ведае зорка ў акне,
што ў мяне дзіўны госць быў сягоння.

## НА ДОСВІТКУ

Твой досвітак самы прыгожы на свеце,
дзіцятка, на шчасце займаецца дзень!
Як толькі магу, замаўляю смерць я:
на досвітку не хадзі між людзей...
Па камянях зрошаных,
па ворыве чорным,
па лугах някошаных,
па вадзе вольнай
табе, смерць, не ступаць,
не хадзіць,
не лятаць,
не плыць —
на досвітку!
Скамянеюць ногі — на камені,
урасцеш да грудзей — у ворыве,
твае крылы пакруціць атаваю,
праглынуць цябе воды вольныя —
на досвітку!
Забараняю, замаўляю, перапрошваю!
З-за белага гаю,
з-за сіняга краю
плыве па-над пожняю
сонца высокае...
Наша сонца з табою, дзіцятка!

* * *

Я ўсё забыла: боль і страты...
Сем туманоў, як сем вякоў,
глухой смугой стаяць ля хаты —
яна ў зямлі
на сем вянкоў.

Блакіт і дым — мае адзежы,
як скразнячок — мой лёгкі лёт.
Нікому болей не належу:
забыта памяць — навылёт.

На ўсіх адрынута дарогах,
паратаваць каго змагла?
Любоў вяртаецца да Бога,
мой след зацягвае імгла.

У міг апошні з небакраю
усіх, хто выракся мяне,
з надзеяй позняй аклікаю.
І не пачулі зноў!
Знікаю —
на новы круг душа імкне,
дзе страты, боль і жаль забыты —
за белы воблачак нябыту.

* * *

Усё па вялікаму ліку —
і дзень над зямлёю, і ноч.
А мне не стае вашых воч,
як неба — адзіных, вялікіх.

У свеце так кружыць зямлю,
аж сыплюцца знічкі пад ногі.
Я ўсе замаўляю дарогі
вяртаць да майго вас агню.

Як ведаць,
расшчэплвае атам
не толькі каменне, а й лёс?
Зноў зоры палескіх нябёс
світаюць над нашаю хатай.

Сплываюць у неруш гадзіны,
кароткая летняя ноч...
Каб ведаць маглі, мой адзіны,
як мне не стае вашых воч!

* * *

Мокры снег. Галалёд.
Асцярожна брыдзе, па-старэчы,
за край свету
спакутваны год.
І кладзецца мне неба на плечы.

З белай хмары на правым плячы
снег
трывожны мой след замятае.
З шэрай хмары на левым плячы
туманом
снег і след той з'ядае.

Цяжка несці нябёсы
і страшна ўпусціць:
надта нізкія сёлета хмары...
Да зямлі ім прыпасці
карціць
і спачыць на яе сумным твары.

Уздыхну —
уздыхаюць нябёсы, паўнюткія слёз.
Непамерны цяжар я нясу на край свету.
І калі нас скуе ўсёмагутны мароз,
нехта будзе, як долі, шукаць майго следу.

* * *

Як сонца
ў глыбокія воды
упала,
шумліваю пенай
самкнуліся хвалі
і ўсё праглынулі,
і ўсё пахавалі...
Трывогай
зямлю ахапіла,
як палам.

Бясконцая вечнасць
нязбытным цяжарам
ад краю да краю
акрыла прасторы.
І што да таго,
што гарыць маё гора
маленькім, апошнім,
расстайным пажарам?

Суцішыцца ноч
на зямлі і на небе,
на вейках яе
я застыну расою.
Пракінецца дзесь
залатой паласою
прыгожы
Свет Божы,
якому пакута не трэба.

*Эдуард Акулін*

## А ШЛЯХІ — У ЧАТЫРЫ БАКІ

### РАДЗІМІЧ

Я вольны адвеку
на слова і звычай,
бо родам з Радзімы,
мой прадзед — Радзіміч...

Як бераг над Сожам
акрые туман,
прабрацца мы зможам
у стан зарачан.

Чужацкія воі
не ўсе з палахліўцаў,
ды кінулі вокліч:
«Прынёс чорт радзімцаў!»

Я вольны адвеку
на слова і звычай,
бо родам з Радзімы,
мой прадзед — Радзіміч!

* * *

Ёсць памяць генаў, памяць роду —
У нашых душах дзівасілам
Жыве з пары, калі прырода
Нас гэтым дарам надзяліла.

І я адчуў сягоння крэўна
Сябе лістком на кроне дрэва.
Хоць голле аж трымціць ад ветру,
Ды страх малы — карэнне ў нетрах.

А прыйдзе восень — лісцік згіне.
Ды не засохне роду дрэва...
Як колісь ува мне — у сыне
Вясной прачнецца памяць генаў!

## ДЗЕНЬ

Па нябёс веснавым разліве,
дзе вясло па макушку тоне,
нетаропка дзядок Ярыла
залачоны свой човен гоніць.

Стане вечара бераг блізка —
човен знікне ў трысці аблокаў,
прамянямі апошніх пырскаў
асвятляючы ўсё навокал.

## ЛІПЕНЬ

Калі яшчэ спяць пад павеццю косы
І ў вокнах, як кажа бабуля, «зерае»,—
Ужо бярозка нагою босай
Нясмела пойму туману мерае.

Няма найбольшай асалоды,
Як перабрысці луг папашкі,
Дзе крок ад кветак — густы і цяжкі,
І кожны след твой — як студня з мёдам.

## ВОСЕНЬ

Апалых лісцяў пах.
Туманныя світанкі.
Гугнявы дождж у дах
бубніць бесперастанку —

што змоўкнуў птушак спеў,
што лета ў копы склалі...
Пажары ў кронах дрэў
пажарнікі праспалі.

## ЖЫЦЦЁ

Стаміўся з гадамі Сож
Рукацца з вясковым млынам.
А час, хоць яго трынож,
Імкне за ракой няўпынна.

Бабуліна слова «нёж»
З дзяцінства плыве паромам...
Мялее паволі Сож.
Глыбее туга па дому.

## КРАІНА НАЧЫ

Мы маўчым, мы зацята маўчым.
Нашы душы аблытала плесень...
А на поўдзень — краіна Начы,
І груган — сёння сімвал Палесся.

Ды адчай немагчыма схаваць,
Як душу не ачысціць нідзе...
Мне Радзіму да скону шукаць
Па сцяжыне, што з ночы вядзе.

Беларусь, мая хворая маці,
Са слязою Сажа на шчацэ
У парваным чарнобыльскім плацці
Пачарнелым Сусветам брыдзе...

## МАЛІТВА

Божа літасны, трыадзіны,
Ты літанне маё — пачуй.
Не пакінь у бядзе Радзімы —
уратуй.

Уратуй мой народ пакутны.
Зберажы ад ліхога Край,

Пасяліцца ў душы Іудзе
Мне і сыну майму — не дай.

Барані ад спакусы грэшных.
Абміні сваёй карай злых...
Божа праведны — хай бязмежнай
Будзе ласка ад слоў Тваіх...

## ПЛАЧ

Анёл самотны падаў з неба
Над Беларуссю незаўважна...
Адно крыло — бялей ад снегу.
Другое — чорнае, бы сажа.

Упаў — гучалі трубы громна.
І бачыў гэта ледзь не кожны —
Адно крыло — у водах Нёмна.
Другое — знікла ў плыні Сожа.

О літургіі Херувімы!
Чаму не плачаце — спіцё вы?
Анёл згубіў маю Радзіму.
А без яе — нашто жыццё мне.

## ДУША

Палова чацвёртай ночы,—
палова маёй тугі...
Вяртацца душа не хоча
назад, на «свая кругі».

І целу майму пустому
балесна на сподзе сноў.
— Вярніся, душа, дадому,—
прашу і не чую слоў.

Даруй мне, як скрозь бывала,
за безліч маіх грахоў...

Вярніся — я гэтак мала
яшчэ гадаваў сыноў.

Палова чацвёртай ночы,—
палова маёй тугі...
Не хоча душа, не хоча
пакінуць сваіх вышынь.

## ГЛІНЯНАЯ ІМША

*Светлай памяці*
*прабабулі Вольгі*

Ад пужання, уроку, злёку,
Ад прастуды, каб вогнік знік...
Ты шаптала над глінным глёкам,
Загарнуўшы яго ў ручнік.

Тройчы дзьмула ў яго, а потым
Адганяла ім духаў злых,
Што мяне аблівалі потам,
Адбіралі і зрок, і слых.

Я з таемных тваіх маленняў,
Я з глінянай тваёй імшы
Скраў пярынку твайго агменю,
Скраў святлінку тваёй душы...

Ад пужання, уроку, злёку...
Беражы мяне, беражы.

## КРЫЖ

Вось — зямля. Гэта — неба, а між,
Затаіўшы жалобу сваю,
Пачарнелы, як прадзедаў крыж,
На раскрэсах Радзімы стаю.

А шляхі — у чатыры бакі
Перасохлымі рэкамі мкнуць...
А сляза — на абедзве шчакі.
А бяда — як разлітая ртуць.

* * *

Месячнай цёплай ноччу
Шляхам апошнім, Млечным,
Ціха ў Сусвет пакрочу,
Буду сабе свяціць...
Каб і адтуль, з вышыняў,
Каб і адтуль, здалечы,
Бачыць цябе, Радзіма.
І, як цяпер, любіць.

* * *

Я хацеў бы пісаць, як жыву,—
так, як піша Мікола Купрэеў.
Пра аблокі, што скрозь плывуць
праз душу і, як дым, чарнеюць...

Я хацеў бы пісаць, але
так пішу, як я сам умею.
Бо мой сон, нібы Сож, змялеў,
а на сподзе душы — лілея...

Гэта здрада — мая віна,
хоць пра здраду пісаць нягожа.
А заплачу — гарчэй віна
смутак — згублены калісь нож мой.

І слязіна мая — як кроў,
што падсочана з роду Дрэва,
дзе ўпадзе яна — там Любоў,
там світальных валос залева...

Там Чарнобыль — матулін боль,
што жыцця разарваў аорту...
Там Радзіма — мая Юдоль,
пекла з Богам і вырай з чортам.

## ЧАРНОБЫЛЬСКІ ГОД

### Красавік

На ганкавым бетонным падуменце
забыты ў спешцы некім чаравік...
Як напамін няпомлівай планеце —
дзень 26-ты. Месяц Красавік.

### Май

У Бога ласкі болей не прасіце.
Бог — у душы, а не на небесі...
А двухгаловы бусел у зеніце —
праклён ці сімвал Белае Русі?!

### Брагінскі чэрвень

Па чэзлым полі, па чорным лесе,
па пыльнай дарозе, па чуйнай шчацэ —
слязіна ці слова з нянаскае песні
пра сон Ларэлеі ў палескай рацэ...

### Бараўлянскі ліпень

Да ліп духмяных ліпнуць пчолы...
Здзічэлы рой — салодкі сон.
Такі, як боль пасля ўкола
медбрата з прозвішчам Харон.

### Малінаўскі жнівень

Веткаўцы, свяцілаўцы, чачэрцы,
з Хойнікаў, з Нароўлі, з Астрагляд...
Землякі мае, мы — чарнаверцы.
Веру нашу выдае пагляд.

### Верасень

Не верыцца і ўсё!
Выраі не ведаюць звароту.
Птушкі адлятаюць па чарзе,
а не разам, і не назаўсёды...

### Кастрычнік

Вецер — вольны восеньскі апрычнік —
золата спагнаць спрабуе з дрэў...
Ерэтык дэзактывацыі — Кастрычнік
самахоць у полымі згарэў.

### Лістапад

Без пропускаў, віз і дазволаў
дарога вядзе на клады...
Сяржант з КПП пратаколам
засведчыў: Дзень трэці. Дзяды.

### Снежань

Завеі ў снежні амаль такія,
як калісь Мележ убачыць змог...
Два «марадзёры» ў вазы пустыя
маўкліва грузяць сапрэлы стог.

### Студзень

Тым днём, калі Бог нарадзіўся,
зязюля кувала ў бары...
— Стары ад бажніц заразіўся...
Казалі ж яму — не бяры.

Люты

На Прыпяці — прыдуха.
Амаль як кожны год.
Ляшчы, ўюны і Скруха
умерзла ў мёртвы лёд.

Сакавік

Прамяклых дахаў шыферныя крылы
на ветры з поўдня, колькі ні сушы...
Узняцца ў неба зноў ня хопіць сілы
забытай вёсцы ў прыпяцкай глушы.

## ЧАРНОБЫЛЬСКІ АНЁЛ

З авансцэны вясновага рання
між аблокаў туманных куліс
у пражэктарным сонечным ззянні
ён крыху тэатральна узнік.

Ён маўчаў і глядзеў мне у вочы,
ён прарочыў нязжыты мой лёс.
Я з магілы глыбокае ночы
пад паглядам яго уваскрос.

І на хвалю ступіў асцярожна,
і за ім да нябёсаў наўпрост
брукаванкай астыглаю Сожа
ціха рушыў, амаль як Хрыстос...

## БАЛАДА
## ПРА ВЯСКОВАГА ІКАРА

Вясковы Ікар,
Акулінін Макар —
захмарны шукальнік хлеба...
Мой дальні сваяк —

летуценнік-штукар,
якіх нараджае неба.

Ён крыламі трызніў
з той самай пары,
як здолеў на дах залезці...
І стуль з-пад аблок,
з залатой вышыні
крычаў: — Я чакаю вецер!

Ён вецер чакаў.
І наіўна лічыў
яго ўладаром Сусвету...
Бо мала,— казаў ён,—
адных толькі крыл,
бо крылы — нішто без ветру.

Ды доўга яму
давялося чакаць.
Прайшло паўжыцця — не меней.
Хадзіць развучыўся, бо марыў лятаць,
як птах у глыбокім небе...

І ўсё ж прычакаў...
Небывалы Вятрун
у сне скалануў вёску.
Ды толькі нічога амаль не крануў —
так — вышчарбіў плот дошкай...

І знік нечакана,
пакінуўшы пыл,
адзін на адзін з ноччу...
Назаўтра ж убачылі дзіўнае з дзіў —
суседзяў-сяльчан вочы.

На месцы, дзе калісь
«Ікараў дом»
(назваў нехта п'яны здуру)
сто год прастаяў,— зараз пуста было —
застаўся адзін падмурак...

Шукалі тры дні.
Толькі клёпку знайшлі
ад даху жытла Макара.

Ды бачылі: недзе высока плылі
абрысам сялібы хмары...

І нехта прамовіў:
— Святы быў Макар,
насіў за спіною крылы...
І вырас на колішнім котлішчы храм —
Храм Ветру нябеснай Сілы.

## БАЛАДА ПРА ЗАТОПЛЕНАЕ ВЯДРО

— Ну, глянь ты, куды мяне зноў завяла —
з гадамі дзяцінець Памяць...
Стаю на абрыве крутым Жарала,
лаўлю на «жыўца» з сябрамі.

Тут «з шосцікам дно» —
гэта значыць ніхто
не змераў глыбінь віру.
Ды раптам з абрыву — у прорву вядро
і я ўслед за ім — гірай...

Я плаваць умеў,
яшчэ лепей ныраў,
ды д'яблавым «чорным вокам»
не марна той вір з рыбакоў хтось празваў,
і я ў ім — «блыха з падскокам»...

Крычалі сябры,
вар'яцела вада,
і я вар'яцеў ад страху.
Ды не за сябе — шкадаваў вядра,
бо новае — толькі з «мага»...

Казала ж бабуля:
дайніцу бяры,
з іржой — ды для рыбы пойдзе...
А я не паслухаў. Крычалі сябры:
— Такога вядра не знойдзеш!

Мяне адкачалі пасля рыбакі.
Кіпела са злосці «вока»...
А я з таго дня Жарало ракі
абходзіў заўжды бокам.

Калі б — не дзяцінства,
калі б — не вядро,
калі б — не сляпое вока...
Калі б... А па-іншаму й быць не магло.
Магло — без «блыхі з падскокам»...

## ІСКРЫПКА

Так колісь цябе
называў мой дзед.
Іскрынка душы —
незаплеснелы хлеб.
Скарынка самоты.
Скарбонка для слёз.
Іскрыпка — скрыдло
незаплямленых кроз.
Драўляны жаўрук,
што прывык да пляча.
Пяшчотніца рук
скрыпача-крывіча.
Жарсцінка-усхліпачка,
стоены крык...
— За што ты, іскрыпачка,
любіш так смык?

## ЖУРАВЕЛЬ

Ты глядзіш улюбёна ў неба.
Ці цалуеш вядром ваду...
Што табе ад жыцця патрэбна?
Хто тваю зразумеў бяду?
Вышай стрэх цэлы дзень кружляеш,
толькі хочацца — вышай хмар.

Журавель, ты штоноч лятаеш
у палоне нязбытных мар.
Укапаны ў дзірван навечна,
Ты стаміўся з нудоты піць...
Журавель, паглядзі, старэча,
з райскіх даляў твой брат ляціць.

## ЧОВЕН

Чуллівы рачной пяшчотай
аблашчаны лавай хваль
ён мроіць чаіным лётам
закаханы ў чужадаль
човен — адчайны адужнік ветру
начны прытулак ліпнёвых пчол
павек пасцелю віровых нетраў
не зменіць човен на мулкі дол
ён звечара знічак повен
а ранкам слязьмі лінёў
човен — сонца жалобны промень
човен — чорны рачны манах
палюбоўнік паўночны поўні
брат радзіміцкіх трун-карстаг.

## ПАЧЫНА

Плыткі човен з ракой лучыла.
Мазалямі смылела ў снах...
Падпаветны прамень — Пачына,
недасяжна-віровы страх.
Ты — драўляны плыўнік для лодкі.
Ты — крыло для маёй душы...
Пах аеравы, дух салодкі,
вадамер залатых вышынь.
Стан твой тонкі — амаль дзявочы.
Строй твой — ясеневы, густы.
Помніш поўню купальскай ночы,

што разбіла на яскі ты?
Не вяслом, а пачынай лёгкай
праўлю човен свайго жыцця...
Ці уздых, ці узмах высокі —
прага новага — адкрыцця!

## ЛІВЕНЬ

Летні лівень спаймаў дзяўчо
у палон неспатольных ліній.
Па-мастацку абвёў плячо,
грудзі, клубы, бутон юргіні...
На ружовых пялёстках вуш
запаліў завушніцаў зоркі.
Лівень — ён не лянівец-муж —
лашчыць з ранку да адвячорку...
Выцалоўвае кожны рух.
Выпрабоўвае ўсё на спотык...
Лівень — Вішну з мільёнам рук —
далікатны, як першадотык.
Лівень — знаўца найрайскіх зон
і гатовы разбіцца вобзем
за прызнанне, што толькі ён —
Дон Жуан да апошняй кроплі.

## УСЛОН

Ты стаяў ля стала спакон,
наструніўшы ў падлогу ногі.
Самы першы мой конь — услон,
што катаў мяне да знямогі.
На шырокай тваёй спіне
месца цэлай сям'і хапала.
На Пакровы — бліжэй к зіме
абрастаў свежыною з салам...
За суседскі вясельны стол
запрашоны быў званым госцем.
А хаўтуры-жалоба ў дом —

падстаўляў пад труну ты косці.
Я даўно гарадскі піжон...
Раз у год наязджаю ў вёску.
Толькі муляць дасюль, услон,
маю памяць тваіх дзве дошкі.

## ГУЖЫ

Гожая назва у іх — гужы...
Скажаш — і засмяешся.
Нібы з лаўжоў прыпаўзлі вужы,
леглі ў разорах грэцца...
Гуж у руках — падмануты муж.
Гуж разарваны — сварка.
Стомлены, потны ад працы гуж —
бульба, дакопкі, чарка.
Гожая назва — спрабуй, кажы —
рот без зубоў здаецца...
Памяць дзяцінства майго — гужы.
Памяць — яна не рвецца.

*Міхась Башлакоў*

# ТАМ, ЗА СОЖАМ, ТАМ, ЗА ПЛЁСАМ...

* * *

Я шукаю Радзіму.
Радзімы няма.
Я гукаю народ.
А вакол цішыня.
Толькі мёртвай пустыні
Шапочуць пяскі,
Засыпаюць мой голас,
Каб не ўскрэслі радкі.
За барханамі болю
Пад страхою начы
Нема выюць ваўкі,
Свае шчэрацъ клыкі.
Па сыпучых пясках,
Нібы кроў па бінтах,
З сыкам гады паўзуць,
Абуджаючы страх.
Чорнай песняй
Ахутваюць сон
Крумкачы...
Не пакінь мяне, Божа,
У гэтай начы...
Там, на золку,
За гаем,
Між балотнай травы,
У юнацтве курлычуць
Мае журавы...
Ціш-ш-шы-ня-я...
Ціш-ш-шы-ня-я...
З сыкам гады паўзуць.
Як балюча,
Як сціснула мне,
Не дыхнуць...
Не паўзіце на сэрца,
Не студзіце мне кроў...
Дзе мае аднаверцы?
Дзе на свеце любоў?

Цемра пашчай ваўчынай.
Крылаў прывідных шум.
Ліпне страх павуцінай,
Аплятае душу...
Я шукаю Радзіму,
Шукаю свой дзень.
Не пакінь мяне, Божа,
У гэтай бядзе...
Там, на золку,
За гаем,
Між балотнай травы,
Там, над Сожам...
Вярнуцца б
У шчаслівыя дні...
Не пакінь мяне, Божа,
Ад сябе не гані...
Я шукаю Радзіму,
Шукаю народ.
Я брыду пілігрымам
Між зыбучых балот.
Дзень і ноч.
Ноч і дзень.
Так заўсёды было.
І Чарнобыля цень
Мне халодзіць чало.
О, як цяжка ісці
Да Радзімы сваёй...
Вецер стогне ў трысці
Над вадой,
Над бядой,
Над пралітай крывёй...
Не пакінь мяне, Божа,
На гэтых шляхах...
Там, далёка,
Над Сожам,
У світальных гаях
Так шчымліва курлычуць
Мае жураўлі...
Памажы ты мне, Божа,
На гэтай зямлі...

* * *

Я жыў ля Любенскага возера,
Я быў шчаслівы, малады.
І за лістком барвовай восені
Плылі, як ветразі, гады...

Любіў блукаць я на змярканні,
Сядзець на стомленым чаўне.
Гарэла вогнішча ў тумане
На той далёкай старане...

Цыгане пелі свае песні
Гартанна, звонка над вадой.
І зорка падала за лесам
Пякучай светлаю слязой...

Іржалі коні за дарогай,
Свяціліся ў дамах агні.
Да самай ночы доўга-доўга
Цыгане пелі ўдаліні...

Я сёння часта ўспамінаю:
Лісток трапечацца ў акне.
І ў цемры зыбкай дагарае
Касцёр на дальняй старане...

* * *

Помню, у маленстве, бы ў далёкім сне,
Брала з сабой маці у сабор мяне.
З абразоў святыя строга так глядзелі.
Нада мной анёлы сумныя ляцелі.
«Памажы мне, Божа»,— я шаптаў малітву.
«Памажы мне, Божа»,— я шапчу, пабіты,
У жыццёвых бурах праз гады даўгія.
Слухаю ў саборы зноўку літургію.
Пасівелы, стомлены, стоена нямею.
Праляцелі дні мае ў снегавых завеях.
Што зрабіў на свеце? Што зраблю, не знаю.
«Памажы мне, Божа»,— неба заклінаю.

Памажы мне, Божа, дай пражыць мне светла.
За акном лютуюць, нема выюць ветры.
Помню, у маленстве, бы ў далёкім сне,
Брала з сабой маці у сабор мяне...

* * *

Ступлю на родны свой парог —
Насустрач маці.
Пытаецца: «Ну што, сынок,
Стаміўся, мабыць?»

А у самой сляза з вачэй
Цячэ паволі.
Душу самотай апячэ,
Агорне болем.

За плечы ціхенька крану
Сівую маці,
Яе ласкава прыхіну:
«Не трэба плакаць...»

Слязу змахне яна рукой
І пасвятлее.
І ўся — і тварам, і душой —
Памаладзее...

* * *

Помніцца, сена вазілі
З маці на белым кані.
Колы рыпелі і нылі,
Беглі юнацкія дні.

Ціхай вадою сплывалі
За Церуху і лугі.
Помніцца, сена складалі,
Сена складалі ў стагі.

13 Зак. 1132

Ўсё праляцела з гадамі...
Ды толькі памяць кране:
Тут, недзе тут, за стагамі,
Тыя далёкія дні...

* * *

Я паеду заўтра ў Церуху,
У мясцінах любых пабываю,
Па знаёмых сцежках паблукаю,
Пагляджу на родную страху.

І хаця памерлі ўсе суседзі,
Аднагодкі з'ехалі кудысьці,
Пастаю, паслухаю, як вецер
Плача ад самоты ў жоўтым лісці.

І хаця не стрэну я знаёмых,
Паблукаю, пахаджу ля дома
Па сцяжынках выцвілага лета...
Я ўсё роўна ў Церуху паеду...

* * *

У чарнобыльскай зоне
Вёскі хаваюць...
Як нябожчыкам,
Долы капаюць.
Ды ніхто іх
Не адпявае,
Не галосіць
Над імі
Ніхто...
Восень,
Ціхая восень...
Трушчыць хаты
Бульдозер,
Сады і прысады...

Засыпае зямлёй
Свежы дол...
Не галосіць ніхто...
Толькі чорны крумкач
Недзе крача...
Можа, я хоць
Паплачу...
Паплачу...
Паплачу...

* * *

Усё вакол здзічэла.
Буяюць травы ў рост.
Сляды замуравелі
На гэты весь пагост.

Ніхто сюды не прыйдзе,
Ніхто не пасядзіць...
На нас вы, продкі, ў крыўдзе...
Але за што вініць?

Няма вакол нікога
На многа-многа вёрст.
І мёртвая дарога
На гэты весь пагост.

Пакінулі магілы
Мы вашы назаўжды...
За дротам крыж пахілы
Стаіць як знак бяды...

І толькі цвет шыпшыны,
І толькі шум бяроз...
Прыйдзі, мая Айчына,
На гэты весь пагост...

## ПЛАЧ ІЕРАМІІ

Зерне сохне, калі без раллі.
Без спагады і раны не гояцца.
Горка плачу аб гэтай зямлі,
Вечным смуткам душа мая поўніцца.

Край багаты ваш стане пустым.
Абязлюдзеюць вашы хаціны.
Зарастуць і здзічэюць сады.
Вецер плач разнясе па пустыні.

Статкам дойным не пасвіцца тут.
Па сялібах блукаць воўчым зграям.
Ад нясцерпных, бясконцых пакут
Знемагае душа, знемагае...

Вашы дочкі і вашы сыны
Будуць сыпаць на голаў праклёны,
Хоць не будзе ў тым вашай віны.
Стане ваша зямля пракажонай...

Ад яе адвярнуцца усе,
Хоць была не абдзелена лёсам...
Скруху чорны крумкач прынясе,
І жахнуцца ад гора нябёсы...

Травы спелыя вам не касіць,
Бур'яном парасце ваша поле...
Па зямлі вам сваёй галасіць
І ўначы прачынацца ад болю...

## ДЗЯЎЧЫНКА З ВЯДЗЕРЦАМ ДУХМЯНЫХ СУНІЦ

Спынюся, стамлёны, на скрыжаванні,
Разгублены крыху ад хвалявання.
Стаю і гадаю: «Купіць — не купіць...»
Дзяўчынка з вядзерцам духмяных суніц.
Суніцы ж так пахнуць дзяцінствам і лесам,
Далёкім маім незабыўным Палессем,

Зязюльчыным ранкам гаючых крыніц...
Дзяўчынка з вядзерцам духмяных суніц.

Там сцежкі мае зараслі ўсе травою,
Слядоў не відаць за густой лебядою.
Паехаць бы зноўку, хоць трохі пабыць...
Дзяўчынка з вядзерцам духмяных суніц.

Нібы адбылося з мінулым спатканне.
Гляджу на дзяўчынку з замілаваннем.
Яна ж чырванее, яна ўся гарыць,
Дзяўчынка з вядзерцам духмяных суніц...

* * *

Сокал аклікнуў,
Сокал з вышы паднябеснай.
Сумна мне стала:
Не сакаліны узрост.
Кліча, гукае,
Кліча мяне ўсё Палессе...
Дзякаваць Богу,
Не на пагост...

* * *

Ах, гэта музыка нязваная
Душу агорне незнарок.
І песня ціхая, туманная,
Як човен, выплыве здалёк.

І паплыве ў далеч сінюю
Да белых сонных берагоў...
Ці гэта песня лебядзіная?
Ці мо апошняя любоў?

Жыццё, як лёс, неспадзяванае.
Трымціць напятая струна.

Калі ж апошняя, то самая
Найзапаветная яна...

Ах, гэта музыка чароўная,
Ах, гэта песня для душы,
Нібыта поўня ў срэбным чоўне,
Раптоўна выплыве з цішы...

* * *

«Пусціце мяне
На магілу да сына...
У Афганістане
Сынок мой загінуў...
Там Ліхаўня наша,
Тут побач,
За гаем...
Ён сёння мяне,
Мой сыночак,
Чакае...
Мой Васечка, Вася,
Такі быў харошы...» —
Жанчына салдату
Працягвае грошы.
«Пускать мне не велено —
Мёртвая зона!..»
Жанчына счарнела,
Нібы ад праклёну...
«Я хутка,
Я зараз,
Зусім ненадоўга...»
«Пусці яе,—
Просіць з-за дроту дарога,—
Штодня на магілку хадзіла,
Я знаю...
Праплакала вочы,
Таму і сівая...»
Жанчына прыпала,
Цалуе дарогу,
І плача,
І шэпча:
«Ды я ненадоўга...»

* * *

Там, за Сожам, там, за плёсам,
Ходзіць восень, ходзіць боса...

Чорна хмара, цёмна поле.
Ці то воля, ці няволя?..

Дождждык сеецца на пожні.
Ці то крыж, ці знак дарожны?..

Ці то вецер горка плача,
Ці крумкач над доляй крача?..

Ці крычаць над шляхам гусі
Аб самотнай Беларусі?..

Там, за Сожам, там, за плёсам...

* * *

Не схіляйся, колас,
Рана яшчэ жаці.
«Ці шчаслівая доля?» —
Пытаецца маці.

Доля — нібы ў полі
Вецер завывае...
Ды ў яго ёсць воля.
Я ж і той не маю.

У яго ёсць крылы.
Мне ж іх паабсеклі.
З доляю шчаслівай
Не бяда і ў пекле.

А калі без долі,
А калі без волі —
Нібы жытні колас,
Што схіліўся ў полі...

* * *

*Памяці брата Валянціна*

Аклікну. Нікога у цёмным бары.
Адклікнецца толькі мне шум баравы.
Ды сокал высока. Ды чорны крумкач
Пракрача мне побач: «Над доляй не плач».
А я і не плачу, адплакаў даўно,
На травах мядовых настою віно.
Я вып'ю п'янкога, я вып'ю віна
І песню таксама да самага дна
За долю, за волю Айчыны сваёй.
Пракрача крумкач: «На дарозе не стой».
Пракрача крумкач на ўвесь бор векавы:
«Айчыны тваёй я нап'юся крыві...»
Ах, чорны крумкач, ты дарэмна крычыш.
Ўжо вострацца дзіды, куюцца мячы.
І мужных асілкаў уздымецца раць.
Крыві табе, чорны крумкач, не спытаць.
За нашу Айчыну устанем сцяной,
У сечы крывавай заслонім сабой.
Я вольнага ветру яшчэ папрашу,
Каб ён ўскалыхнуў баравую душу.
І бор векавы зашуміць, загудзе,
І чорны крумкач са стралой упадзе.
Я зноўку аклікну шырокі абсяг,
І песняй адклікнецца выстылы шлях...

## ЗЯЛЁНАЯ ВОСЕНЬ

*Рыгору Андрэяўцу*

То сеецца дождждык, па лісці сячэ,
То сонца асвеціць сцюдзёныя росы.
Не лета ужо. І не восень яшчэ.
Няма больш цяпла. І далёка марозы.

Зялёная восень у госці прыйшла,
Калі маладосць заблудзілася недзе,

А старасць яшчэ ля чужога двара,
А старасць на шэрым кані яшчэ едзе.

То жоўты лісток, то зялёны лісток...
Вось так і душа мая колеру рознага —
То светлы радок, то самотны радок,
То змрочны і стылы, калі восень позняя.

Зялёная восень стаіць на двары.
Як пахне грыбамі у ранішнім лесе!
Як пахне ігліцай у мокрым бары!
Зялёная восень прыйшла на Палессе.

І хай павуцінка мне скроні кране,
Я гляну ў люстэрка — а можа, здалося?
Нібы маладосць, за акном прамільгне
Зялёная восень, зялёная восень...

* * *

*Сыну Андрэю*

Завечарэла. Дымкай зацягнула.
Чакаю я цягнік на Церуху.
Жыццё, як хуткі поезд, прамільгнула.
Калі і як? Паверыць не магу.

Што я паспеў на гэтым свеце белым?
Дзесятак вершаў нейкіх напісаў.
Чаму ж так рана сёння звечарэла?
Шчыміць душа... І просіцца сляза.

Ссамотнеў я па дарагіх мясцінах.
Я на радзіме так даўно не быў.
Спынюся каля роднае хаціны.
Я помню ўсё. Нічога не забыў.

Я помню дні маленства залатыя,
Пах бульбы і цяпло начных кастроў.
Мурожнымі сцяжынаміляснымі
Блукае рэха даўніх тых гадоў.

І хоць ніхто мяне там не чакае,
І хоць чужы агеньчык там гарыць,
У Церуху да бэзавага мая
Асенні мой цягнік загрукаціць...

* * *

Я памалюся снегу беламу,
Я памалюся небу сіняму,
Каб шчэ душа мая збалелая
Не халадзела шэрым інеем.

А каб спявала па-вясноваму,
Вясёлкай майскаю ірдзелася...
Шчэ рана песні падсумоўваць,
Калі галоўная не спелася.

Няхай смяецца і самоціцца,
Наскрозь вятрамі прадзімаецца —
Скупой слязой аднойчы скоціцца,
Ды толькі хай не праклінаецца...

* * *

Адзінокай свечкай стыне
На крыжы глухіх шляхоў
Храм Марыі-Магдаліны
Між заснежаных палёў.

І нідзе вакол нікога,
Толькі зябне маладзік.
Ды ў царкве прад лікам строгім
Вецер моліцца адзін...

А ўначы, пад ветру ўсхліпы,
Па няходжаных шляхах
Рушаць мёртвыя сялібы
І пагосты на крыжах...

Продкаў стомленыя цені
Будуць крочыць напрасткі...
На апошняе маленне
Сыдуцца ўсе ў храм пусты...

І з малітвай пра Айчыну,
Пра пакутны горкі лёс
Храм Марыі-Магдаліны
Узнясецца, як Хрыстос...

*Павел Вераб'ёў*

## ЖЫЦЦЁ ПРЫПЫНІЛА КРОК

### СОН

Такая ноч цвыркоча за акном!
Здаецца, што ні сцежка, то да храма.
Спавітая безабаронным сном,
Спіць па-дзіцячы
Стомленая мама.

І раптам крык,
І мама ўся ў слязах.
— Святла, святла!
Хутчэй жа, запаліце!..
Саслізгвае па бледным твары жах.
І мама ціха-ціха просіць:
— Спіце.

Глядзіць бяздонне чорнае з акон.
— Ну што цябе так, мама, напужала?
— Ты спі, сынок, то мне прысніўся сон.
А што за сон —
Нічога не сказала.

### АДСЯЛЕННЕ

Пастарэлі вясковыя хаты.
Захліпнуўся гармонік начны.
Адзінока мы крочым з братам.
Глухамань.
Хоць крычы не крычы.

Толькі ў сажалцы выюць лягушкі.
Несуцешна ім несці журбу.
Будзе вецер няўрымслівы гушкаць
Над рачулкай плакун-вярбу.

І вярба адзінока аплача
Нашу здраду пакутную,

Нас.
Позна плакаць і позна іначыць
І ў заступнікі клікаць час.

Гэту рану і час не залечыць.
Гэты грэх не замоліць сам Бог.
На твае, мой народзе, плечы
Леглі зноў кіламетры трывог.

Хмараў змрочных навісне крыло.
Над сялібаю цень прамільгне.
І тужлівае гэта святло
Не сагрэе ніколі мяне.

* * *

Жыццё прыпыніла крок:
Звычайны імгненны прыпынак.
Кружляе адмерлы лісток
Ззалелым каштанам адрынуты.

Замружаны жоўты ліхтар.
Сутулы прахожы хворы.
Забытых няспраўджаных мар
Успыхне зляжалы порах.

Асляплены небакрай
Відушчасць вяртае марудна.
Жыццё, як апошні трамвай,
Зазвоніць у ночы бязлюднай.

## ДРЭВЫ

Апошні клунак лёг у грузавік.
Мы ад'язджаем.
Дрэвы застаюцца.
— Кранай.
Матор зрываецца на крык.
І яблыкі ілбамі ў шыбы б'юцца.

Але маўчыць журботнае акно.
Ім прападаць без пробліску надзеі.
Хто сам хоць дрэва пасадзіў адно,
Мяне, напэўна, добра зразумее.

Забраў бы іх, але ж узрост такі,
Што не прыжыцца ім на новай глебе.
О, зварухніцеся, сканалыя вякі,
Ці ж думаць вам,
Што будзе смерць — у хлебе.

Што будзем мы калісь шукаць шляхі,
Каб родную хутчэй пакінуць хату?
Замест любові
Судныя грахі
І як праклён стагоддзя —
«Мірны атам».

Патрэбных слоў не адшукаць ніяк.
І выйсця не відаць з самападману.
Я — здраднік?
Цісне здрадлівы камяк.
І вочы боязна мне ўзняць на маму.

Яна паверыла.
— Хачу хутчэй туды,
Дзе ўжо ніякі вораг не разлучыць...
Мы марым, што ўцякаем ад бяды.
Хутчэй, хутчэй...
Трагедыі насустрач.

* * *

«Калі пакінуць хочаш след,
Жыць мусіш доўга у Расіі...»
Ад дактароў і ад планет
Ніколі веку не прасіў я.

І груз нясплочанага доўгу
Усё цяжэй, цяжэй гняце.

Я згодны, што ж, жывіце доўга,
Але не болей за дзяцей.

Закамянелыя сляды
Мае
На выпаленай глебе.
Хачу вярнуцца я туды,
Дзе ісціна ў любві і хлебе.

Ды жытні клін згарэў датла,
І гоні шчэрацца каменнем.
Штодня ўсё болей, болей зла,
А хлеба — меней.

Туды, дзе спорныя дажджы
Лятуць на лёгкіх аблачынках,
Вярнуцца, Божа, памажы...
Памог бы, толькі немагчыма.

* * *

Я вырас тут і вось амаль крадком
Іду туды, адкуль навечна выбыў.
Паглядам сумным змераў бацькаў дом
Мяне цераз запыленыя шыбы.

Тут хтось жыве, халодны і чужы.
Жыве сабе і гэтага не знае.
Яго таксама радуюць дажджы,
Яго таксама нешта засмучае.

І можа стацца, тут ён не з дабра,
Як ні было б, але табе — не вораг.
Не выкажа маўклівая зара
Пакуль яшчэ нязведанага гора.

Гарыць святло адчужана ў акне.
І невыносна-цяжка не заплакаць.
Раней тут ведаў кожнага сабаку,
А хто сягоння ведае мяне?

Праз сілу мужнасць у камяк збяру,
І прамільгне мой цень па сценах дома.
Спадарыня прамовіць спадару:
— Глянь, хто там ходзіць?
— Нейкі невядомы...

## КРЫНІЦА

Журба чысцей крынічнае вады
І саладзей мядовага настою.
Гады. Не выстудзілі халады
Струмень, на волю пушчаны гарою.

І я пайшоў у свет ад той гары
Паўз цень духмяны пыльных сельскіх вулак.
Ёсць двор і ўсё, што вартае, ў двары.
Але ніяк не знойдзены прытулак.

Задумлівы агеньчык па начах —
Расплата за дарэмную адвагу.
Журчыць крынічка.
Смутак не ачах.
І ўсё мацней сціскае горла смага.

## ЗА СЦЯНОЙ ПАМІРАЕ ДЗІЦЯ

Зможаная стрэлка адпаўзае
За мяжу дарма сатлелых сутак.
Невыказна
Сэрца смокча смутак:
За сцяной дзіцятка памірае.

Пах нясцерпны пахавальных кветак
Хай вам Бог дае ані не ведаць.
Жудаснасць глядзіць вачмі суседа:
— Што ты, што ты!
Бог не даў нам дзетак.

Бог не даў. Сусед, але не знаю.
Ноч, ты не рабі з мяне вар'ята.
Божа мой, у чым я вінаваты?!
За сцяной дзіцятка памірае.

* * *

Зняменне, не мовіць ні слова.
Заплеччу — кайданны шлях:
Вярыгі ілжывых высноваў
І — выхавальнік страх.

Па пэўнай скроены мерцы,
Вядома ж, сялянскі заквас:
Я верыў у факелы сэрцаў,
Што недзе згараюць для нас.

За вёскай маўклівай і шэрай
Шумяць асака і аер.
Я вельмі шкадую, што верыў,
Ды веру яшчэ і цяпер.

А вера вярэдзіць і перчыць,
І голы кароль, як сакол.
Адчайна
Згарае сэрца
І воскам сцякае на дол.

Хай лепей палае розум,
І лягуць мурамі глыжы.
За ўсё адрыдалі бярозы
Ля хаты,
Дзе больш мне не жыць.

## ДАМОЎ

Чырвона-белы аўтобус,
Мэтаімкнёны, як сцяг.
Любы блакітны глобус,
Быць табе колькі ў гасцях

У ледзянога Сусвету
Між скрыжаванняў планет?
Госцем да мамы еду,
Еду нібы на крайсвет.

Мчыцца дарога ў бязмежжа,
Хоць і не бог які шлях.
Вецер наводмах рэжа
Фарам начным па вачах.

Доўга падсветленай скрусе
У прадчуванні млець.
Боязна — не вярнуцца.
Страх — не паспець на крайсвет.

## СПЕЦЗБОРАВЕЦ

Нагружаны дакорам,
Рахмана цягнеш воз.
Пад сэрцам крыўда
Морам
Бушуе да нябёс.

Адчайна б'юцца хвалі.
Напяліся гужы.
Другіх заўзята хваляць,
А ты — не заслужыў.

Жыццё іспыт адважыць
Чарговы —
Палігон...
Шчакою мокрай ляжа
На выцерты пагон

Сынок,
А жонка — роўма.
І раніца ў журбе.
Ты едзеш выпрабоўваць,
Альбо
Вязуць цябе?

## ЧАЛАВЕК НАД АБРЫВАМ

Чалавек стаяў над абрывам
У самоце колькі гадзін!
Чалавек глядзеў, як на дзіва,
На парад блакітных ільдзін.

Ён стаяў нерухома, як помнік,
Што жывы, выдаваў толькі ўздых.
Гэтым мігам ён, пэўна, не помніў
Аб шчаслівых хвілінах зямных.

Зведаў ён і свята і слоту.
Верыў ён уласнаму сэрцу.
Чалавек стаяў перад узлётам?
Чалавек стаяў перад смерцю?

* * *

Утравелая сцяжына,
Палінялы вербалоз.
Асцюкамі успаміны
Уядаюцца да слёз.

Не зрабіць былым былое
Доўгай ростані гадам.
Сніцца дым юнацкіх мрояў
На кладзішчы землякам.

Я пакуль яшчэ ступаю
Сцежкай выспелай травы.
Боль, пяшчота ахінаюць:
Ўсё нармальна, я жывы.

Я сюды не плакаць крочу,
Хоць і плакаць ёсць па чым.
Знойдзеш тысячы прычын
Выплакаць дазвання вочы.

Да жуды, да слепаты...
Перамены і нязменнасць.

Дзядзька Ян парэзаў вены
І паехаў на клады.

Непітушчая сям'я,
Сам амаль што непітушчы.
Па палетках і гаях
За сялом блукаюць душы,

Як калісьці жабракі,
Паляць ціхае цяпельца,
П'юць далонямі з ракі,
Прывячаюць пагарэльцаў.

І гаротнікаў, і ўсіх,
Хто свайго цяпла не мае.
Колькі ў нас кастроў такіх,
Што гараць і не згараюць.

Падыду, павечарую
Ля цяпельца за сялом.
Вып'ю чарку, пагасцюю,
Перш чым стаць гаспадаром.

## СПАТКАННЕ З ДОМАМ

Я зноў гляджу на сцішаную вёску,
Ступаю на такі знаёмы шлях,
Што сэрца, нібы зробленае з воску,
Мякчэе, ачарсцвелае,
Ў грудзях.

І маці не ўстрымаць шчаслівых слоў...
Жыву я на зямлі, а не на небе,
Мяне турбуе згода землякоў,
Жыццё чыё — у бульбе, хлебе.

Яны жывуць. Не плачуць аб пражытым.
Агонь надзеі ні ў адным не згас.
Які б ні страх, а ўсё-ткі сеюць жыта.
Спрадвеку жыта ратавала нас.

І я ля іх, душой адратаваны,
Гляджу на свет смялей і весялей,
Бо ёсць каму загойваць нашы раны,
Жывуць і боль і вера у людзей.

Ніштo не затуманіць мой напрамак,
Не абарве вятроў дарожны спеў.
І будзе грэць уздых трывожны мамы:
«Ах, мой сынок, і шапкі не надзеў...»

* * *

Ну, як ты там, сцяжыначка мая,
Хто крочыць сёння па тваёй ігліцы?
Ці ты вядзеш каго да ручая
Апошняй чысцінёю прычасціцца?

Няхай бяда, валун на сэрцы хай,
А ёсць куток, дзе ты заўжды любімы.
Ты дацягніся думкай да Радзімы
І з каменя надзею выкрасай.

О, колькі будзе гэтых валуноў,
Нам багну гаціць выпала якую!
Ратуй, сцяжынка, душы землякоў,
Ты іх,
Яны цябе ўратуюць.

## СУМЁТЫ

Як да людзей прайсці,
Ну хто параіць?
Ля веснічак паўсюль — снягі, снягі...
На сэрцы ані змроку, ні тугі,
А толькі смокча боль па родным краі.

Сумёты гэтак велічна ляглі!
Як Шлісельбург,

Глядзяць сурова хаты.
Дым слупянее,
Ён невінаваты,
Што гэткі люты холад на зямлі.

* * *

*Памяці*
*Міхася Стральцова*

Ах, як раптоўна зноў захаладала.
Народ няспелы, а туман, туман.
Сумуе човен ціха ля прычала,
Ланцуг іржавы стомленым металам
Рыпіць, нібы пахілены паркан.

І ў задуменні ты стаіш на кручы.
Глядзіш на лес і на сівую плынь:
Пагляд ажын, блакітны і калючы,
Цябе ўсяго і ўсё, з чым ты заручаны,
Засмоктвае няўмольна далячынь.

І ты ўзляціш над берагамі Сожа,
Над краем болю, шчасця і журбы,
І сотні душ адратаваць паможаш,
Хаця цябе нішто ўжо не трывожыць —
Ні роспач явы, ні надзея варажбы...

* * *

*Рыгору Барадуліну*

Твой светлы сум навек завекаваў
Над кручамі збалелага Прапойска.
Тут легла калісь кіеўскае войска,
Бо аніхто яго сюды не зваў.

З тых дзён другі мы сплочваем аброк,
Сваты аброк адданасці і дружбы.

І як бы ў абцугі ні сціскваў змрок,
Не пойдзем мы ў яго святла выслужваць.

Так, мы нявартыя паслугачы.
І часу ўжо няма чакаць дабротаў.
Прыедзь, давай над Сожам памаўчым.
Павер, яму таксама адзінотна.

Бо помніць самы чысты ў свеце Сож
Пакутніка Стральцова Міхаіла;
І бачыць ён паўсюдна паўздарож
Прапойшчыны ўтравелыя магілы.

Ад болю пракаветны дуб самлеў.
І жудасна мне ад яго аблічча...
Я прыпазніўся.
Дзякуй, ты паспеў.
А Сычын амярцвелы крыччу кліча.

* * *

Гэтак пышна зацвілі чарэшні,
Так шыкоўна вішні зацвілі.
Я не знаю, хто з нас болей грэшны
Перад болем мамы і зямлі?

Вераб'і вярнуліся ў падстрэшша,
Уздыхнулі весялей сады.
Як разважыць, хто з нас болей грэшны:
Я — табе ці, можа быць, мне — ты?

Нам ужо не высветліць супольна.
Не вярнуць адчэплены вагон.
Вольны ты, а я цяпер нявольнік.
Да каго прыйсці мне на паклон?

Хто разважыць шчыра і бясспрэчна
Спрэчку, запазнёную на лёс?
Бачыць смутна мне і недарэчна
Першацвет, што вынішчыў мароз.

Пачарнелі вішні і чарэшні.
Не ўбярог кастроў ласкавы дым.
Я яшчэ, напэўна, буду грэшным.
Ты не будзеш.
Спынімся на тым.

* * *

Час бязлітасна надзеі зжаў.
Менш дарог, а больш і больш абочын.
Помніш, я калісьці пагражаў,
Што з'яўлюся вам між чорнай ночы?

Праз пятнаццаць год ад ста пагроз
Спраўдзіў я адзіную пагрозу.
Чорнай ноччу
Чорт мяне прынес,
І ніхто мае не ўгледзеў слёзы.

Ад цяпла з-пад вашае страхі
Пацішэла ў сумным сэрцы сцюжа.
Мір вам, мір вам,
А мае грахі
Паспрабую сам я неяк здужаць.

А не я, тады мяне яны
Зноў пагоняць, нібы ліст, па свеце.
Чуеш, стопудовыя званы
Разгайдаў над лёсам маім вецер.

Выбачайце, любыя, ізноў
Вас не патрывожу,
Дарагія...
Між начы, пужаючы ваўкоў,
Людская душа па-воўчы вые.

* * *

Часам боль не закалышацца,
Памяць пеніцца ў крыві.
Не цяпер, калісь напішацца,
Ты, галоўнае, жыві.

Бачыш, поле не ўзаранае
Выдзімае сухавей.
Вершы — гэта рэч складаная,
А пражыць — яшчэ цяжэй.

Пажартуй, калі жартуецца,
Не віхляй на віражы.
Слова, што сказаў, пачуецца,
Ты, галоўнае, скажы.

За дубовымі засоўкамі
Ісціне не вечна быць.
Не бядуй, што словы горкія,
Нам не трэба саладзіць.

*Алесь Пісьмянкоў*

# НАД СРЭБРАМ ВОСЕНЬСКАЙ ТРАВЫ

## PER ASPERA AD ASTRA

Пад абцасам няўмольнага часу
Тут крышыцца нават каменне.
Гэта, пэўна, яшчэ не параза —
Я толькі шукаю найменне.

Вецер гасіць мой стомлены голас,
Твой голас губляецца ў цемры.
Стылых зорак дрыготкая кволасць,
І церні пад небам вячэрнім.

* * *

Вечнасці паром...
*Віктар Стрыжак*

Я ўсё яшчэ жыву,
Цалую вусны любай,
Я ўсё яшчэ плыву
Без вас, Стрыжак і Рубін.

Мяне вітае гром,
Вясна частуе сокам,
А памяці паром
Плыве да Налібокаў.

А памяці паром
Начуе ў ціхай Заспе,
Цяпельца за Дняпром
Да раніцы не гасне.

Нябыту халадок.
Высокія аблокі.
Прыпомніўся радок
І б'е, як токам.

* * *

Над срэбрам восеньскай травы,
Над стынню шэрай голай пожні
Гуляе вецер нажавы
І вырай журыцца апошні.

Датлеў бярозавы агонь,
І да зімы ўсяго паўкрока.
І мой Пегас, як бацькаў конь,
Ўздыхнуў працяжна і глыбока.

* * *

Крыху акрыяўшы ад страты,
Спазнаўшы сіроцкае ліха,
У мройлівы час лістапада
Сумую на станцыі ціхай.

Да горкай прыпаўшы таполі,
Зноў слухаю вецер панылы.
Якая пакутная доля,
Якая цяжкая бяскрыласць!

І як сіратліва навокал!
Як вусцішна ў лесе і ў полі!
Мне тут яшчэ так адзінока
Не бывала ніколі.

* * *

Прачнуўся з жахам, безгалосы,—
Прапала музыка ў душы.
Не чую музыкі ў бярозах,
Не чую музыкі ў нябёсах,
А вы мне кажаце:
«Пішы».

Сам Бог маўчыць, падцяўшы вусны,
Відаць, я многа награшыў...
Не шэпча д'ябал слоў спакусных,
А вы мне кажаце:
«Пішы».
Гляджу з трывогай на дарогу.
Па ёй брыдуць глухія дні.
Я не прашу у Бога многа:
Вярні ім музыку,
вярні!

## РАБІНА НАД ВІРАМ

Малюнак знаёмы,
Балючы і шчыры:
Рабіна на строме,
Рабіна над вірам.

Застыла ў здранцвенні
Ўдавою пакорнай
У яркім адзенні
Над безданню чорнай.

Адкуль гэта юрасць
У бабіным леце:
З сівога фальклору
Ці з новых трагедый?

У стылым блакіце
Зноў журыцца вырай...
Спыніце, спыніце
Рабіну над вірам!

* * *

Бяжым... Імчым...
Метро... Аўто...
Трава маўчыць
Аб чым?
Шапоча дождж
Пра што?
І я, і ён, і ты,
І тая з тым,
І з тою той...
Папутнікі
Куды?
Пакутнікі
За што?

## ДАР

У сны мае пачаў часцей
Заходзіць дзед Варфаламей.

Заходзіць дзед, прыносіць скрынку
І дастае са скрынкі скрыпку,
І кажа ціха:
— Вось... Бяры...
Цябе Бог выбраў для ігры.
Бяры, бяры, не будзе лішняй,
Яна ў мяне з часоў Францішка...
А я кажу Варфаламею,
Што не збіраюся ў Арфеі,
Што месца скрыпачцы ў музеі,
Калі вазьму — не зразумеюць.
А ён за мною следам ходзіць,
А ён сваё, сваё даводзіць:
— Маёй душы не знаць спачыну,
Пакуль я скрыпку не пакіну:
Я зберагаў яе для сына,
Ды сын у Прусіі загінуў...
Вазьмі, вазьмі... Так, хлопча, трэба.
Так я хачу, так хоча неба.

І я — узяў...
І тут жа ўскочыў,
Сном ашаломлены прарочым.

Навошта ўзяў? І што я ўмею,
Унук вясковага Арфея?

* * *

У маленстве —
белы снег.
У юнацтве —
чысты смех.
У маленства —
нядзеля.
У юнацтва —
надзея.
Чыста было
ад снегу.
Светла было
ад смеху.
Дзе снег,
нядзеля?
Дзе смех
падзелі?

* * *

Усход ружовы —
Гарыць зара.
Маліцца слову
Прыйшла пара.

Маліцца нашча,
Як Нестар колісь,
Прарокі нашы
Купала, Колас...

Малітвай строгай
І чыстай самай,
Як моліць Бога
У вёсцы мама.

Малюся слову,
А ў горніх высях
Маўчаць сурова
Стральцоў і Пысін.

* * *

Ты кажаш:
«Пята Ахілесава»,
А я чую:
«Пята Алесева».
Вазьмі ў мяне поле,
вазьмі ў мяне лес,
І я загіну,
як той Ахілес,
Не ўвайшоўшы ні ў міфы,
ні ў кнігі,
Я сканаю па-нашаму,
ціха,
Як жораў
у меліярацыю.
Як зямляк
у эміграцыі.
...Вось такая у нас бяда.
Вось такая у нас пята.

* * *

Забываў —
не выпала.
І паліў —
не выпаліць.

Ані ў Бога —
вымаліць,
Ані ў д'ябла —
выманіць.
А баліць —
не выбаліць,
А баліць —
не вымавіць.

## НА СКАВЫШЫ

І Прапойск, і Нясвіж
Працінае скавыш.
І сцюдзёна, і золка.
Ой, мароз, не марозь,
Пагары, мая зорка.
І не сцішыш скавыш,
І не выпусціш крыж,
І дарога пад горку...
Ой, мароз, не марозь,
Пасвяці, мая зорка!

* * *

Дарога на строму
Нялёгкая дужа.
Як ранняю стому
Адужаць мне, дружа?

Унізе крыніца
З апалай лістотай,
На строме капліца
Гарыць пазалотай.

Як з духам паніклым
Дайсці да вячэрні,
Дзе моліцца звыкла
Здарожаны вернік?

* * *

Спавядацца бяжым да прыроды,
Ачышчацца бяжым ад маны.
Мы апошнія з нашага роду,
Каму сняцца
вясковыя сны.

Каго мучыць няўтольная смага
Па водару сонечных хат!
Мы з табой пералётныя птахі,
Якім
не вярнуцца назад.

Нам паліць з успамінаў цяпельца,
Нам да скону ўспамінамі жыць:
Тым азерцам,
што плешчацца ў сэрцы,
Той рачулкай,
што з сэрцам бяжыць...

## НЕ КРЫЎДУЙЦЕ НА ПЕЎНЯ

«На Прыгожай зноў усю ноч гарланіў певень».

*З размовы ў чарзе*

Не крыўдуйце на пеўня —
гарлапана з Прыгожай.
Як і вы,
ён маркоціцца, пэўна,
як і вы,
ўспамінае ён, можа,
Іванаўку альбо Цітаўку,
ці Іванаўну,
ці Мікітаўну
з вёскі, Богам забытай,
той, дзе вокны забіты.
Як і я,
як і вы,
ён таксама жывы...
Не крыўдуйце на пеўня.



14 Зак. 1132

* * *

На самым дне маёй самоты...
А што на самым дне?
Віно не лечыць адзіноты,
Хоць кажуць, ісціна ў віне.

І толькі чуецца мне востра
Мая часовасць на зямлі,
І толькі бачыцца мне востраў,
Дзе вы ні разу не былі.

## ПРА ЗОРКІ

И звезда с звездою говорит.
*М. Лермонтов*

Палітыкі разважаюць пра «зорныя войны».
*З газет*

Продкі газет не чыталі —
Продкі чыталі па зорках.
Наіўна свой шлях вызначалі
Па іхняй гаворцы.
Начамі ў пячоры іх чорныя
Заходзілі зорныя сны.
Веру — парою зорнаю
Прыдумалі жорны яны.
Веру — парою зорнаю,
Калі я і сам не сплю,
Прашчур мой непакорлівы
Ціха шапнуў: «Люблю!..»
Продкі газет не чыталі —
Продкі чыталі па зорках.
Наіўна свой шлях вызначалі
Па іхняй гаворцы.
Святло ліючы непагаснае,
Зоркі не веялі згубаю:
Не страшна было, не страшна
Зоркаю, зорачкай яснай
Называць сваю лю́бую.

## ВОЧЫ ЛЕТАПІСЦА

*Спроба партрэта*

Трывогаю лоб узараны.
Глыбока запалыя вочы.
Нібыта жывыя дзве раны
Ці вогнішчы два сярод ночы.
Вочы такія
Не зробяць ліхога,
Вочы такія
Ніколі не схлусяць,
Вочы такія
Страчаў я ў святога
У хатах маёй Беларусі.
Боль стагоддзяў у іх увабраны
І пакуты зямлі векавыя...
Не вочы,
А раны,
Незагойныя раны жывыя.

* * *

Зялёныя травы пажухлымі сталі,
І цёмнаю
  светлая стала вада,
І дзікія гусі
  расстайна крычалі,
Нібыта іх гнала якая бяда.
Іх крык усю ноч
  над зямлёю насіла,
І сын мой маленькі
  не змружыў павек,
Ён раптам ціхенька
  спытаўся пра крылы:
— Тата,
  дзе крылы падзеў чалавек?
Я доўга маўчаў вінавата,
Пакуль не прыдумаў
  банальны адказ...
А гусі расстайна крычалі над хатай,
Кружылі і клікалі нас.

## *Віктар Шніп*

## ДЫМ НАД АЙЧЫНАЙ

* * *

Ёсць на Валожыншчыне чорная трава —
З Чарнобыля занесена вятрамі.
І ў лесе плача, як чыясь душа, сава
Самотнымі, як гэты свет, слязамі.

І чуеш ты, як чорная трава расце
І дом твой запаўняючы сабою,
Яна крыжамі па-на ўсіх кладах цвіце
І пылам узлятае над зямлёю.

І ты жывеш, бо знаеш — трэба сёння жыць,
Бо й заўтра чорная трава не згіне,
Як дымны снег, што на сухой траве ляжыць,
Як цень ляжыць на белае Айчыне.

Ёсць на Валожыншчыне чорная трава —
З Чарнобыля занесена вятрамі.
Не плач, мая душа, як бедная сава,
Бо не трава ўладар, а Бог над намі.

* * *

*Міколу Мятліцкаму*

Не прыйсці да бацькоўскае хаты,
Не прыйсці да бацькоўскіх магіл.
Стала смерць на нязменную варту,
Смерцю стаў вольны вецер і пыл.

Як тут сыну не плакаць па маці!
Як не бачыць свой край у журбе!
Хто душу і ў «змаганнях» не страціў,
Толькі той разумее цябе.

Век ісці не закончаць праз сэрца
Землякі з непамернай бядой.
Хто над болем людскім насмяецца,
Той адкажа за смех галавой.

На бяду мы заўсёды багаты.
Не было толькі век у нас сіл —
Не прыйсці да бацькоўскае хаты,
Не прыйсці да бацькоўскіх магіл.

## БАЛАДА АПОШНЯГА РЫЦАРА, ЯКІ ТРАПІЎ У ЧАРНОБЫЛЬСКУЮ ЗОНУ

Апошні рыцар Беларусі сумнай
Праз поле едзе на кані сівым.
Тупая дзіда, без шчыта, задумны,
Сто раз паранены, але жывы.
Смяротны вецер гойсае па полі,
Якое ад чужынцаў ратаваў.
Душа крычыць ад незямнога болю,
Ад дум зямных цяжэе галава.
Заплакаць час — ды рыцары
не плачуць.
Жыццё нячутна, быццам быў памор
І ўсе памерлі, толькі цені скачуць
І крылле крыжам воран распасцёр.
Крыжасты цень плыве па жоўтых травах,
І ў травах гады моляцца, каб жыць,
Ты зведаў сорам, і ты зведаў славу,
Цябе спазналі дзіды і нажы.
Тут і цяпер змагацца ты гатовы:
— Выходзь, зладзей, за гора адказаць!
Крычыш, лятуць над мёртвым краем словы.
Як на вар'ята, прывіды глядзяць,
Што ў норах пазашыліся лісіных.
— Тут можна сеяць хлеб і багацець!
Рыпяць у свет бязмозгія машыны.
Спрачацца з імі — трэба звар'яцець.

І дзіду ты мацней усё сціскаеш:
— Выходзь за гора адказаць, зладзей!
Ці знойдзеш ты яго?
Сам Бог не знае.
Смяротны вецер голадна гудзе...

* * *

і цемра як вечная багна
змяшана з крывёю і сажай
і дрэвы імкнуцца да зор
нібы да ратунку сляпыя

за ветрам ганяецца ведзьма
а кот не ловіць мышэй
і пуста ў полі і ў куфры
і коміны выюць на ветах

вандроўнік ля вогнішча кленчыць
ён ведае крык адзіноты
а цемра як вечная багна
а дрэвы імкнуцца да зор

## ЧАКАННЕ

слізгае па асфальце змяя
усё перад ёй расступаецца
кожны хоча жыць
толькі бяздомны сабака
ідзе ўслед за змяёю
і хоча сабака схапіць змяю
але баіцца яе
і хоча змяя ўцячы
але не спяшаецца
і ты стаіш як пытальнік
чым гэта ўсё скончыцца

## У ЧАРНОБЫЛЬСКАЙ ЗОНЕ

разбітая цэгла чырвоная
чырвоная чырвоная як полымя
там дзе сцежкі жаўцелі
трава трава трава трава
і няма крыжа на магіле
і няма травы на магіле
і толькі адурэлы вецер
на аслупянелай асіне
гайдае абрывак вяроўкі
абрывак вяроўкі абрывак вяроўкі
на якой апускалі труну
а крыж спалілі салдаты
салдаты салдаты салдаты
а побач каменныя помнікі
помнікі помнікі помнікі
стаяць у адзічэлай траве
у якой жывуць адзічэлыя каты
якія баяцца мышэй
і падае долу абрывак вяроўкі
абрывак вяроўкі абрывак

* * *

шукаю выйсця з шэрай вуліцы
чытаю шыльды на мёртвых дамах
людзі даўно перасяліліся
а я застаўся як іх памяць
пра той апошні дзень
мой цень таксама паспеў пераехаць
і я не ведаю куды
шукаю выйсця з шэрай вуліцы
а знаходжу платы
ля якіх ляжыць разбітае шкло і цэгла
шкло і цэгла ад незбудаваных палацаў

* * *

Вада ў рацэ чарней за ноч і сажу —
Раку пакінулі русалкі ўчора.
Над ёй павук сваіх цянёт не вяжа,
Лавіць павук не будзе болей зоры.
А Вадзяны на беразе сядзіць збялелы,
Сябе в дратоў калючых вызваляе.
А смерць ужо над ім лятае смела,
Галодны воран Судны Час чакае.
Іду дамоў няспешнаю хадою,
І на душы, як і на свеце, шэра.
А човен па рацэ плыве труною,
І цень яго чапляецца за бераг.

## БАЛАДА ПУСТЭЧЫ

Ціха дым над Айчынай плыве,
Цень гайнёю бяжыць па траве,
І раздзелена поле дарогай,
І не бачна нідзе анікога.
Толькі крыж ля дарогі ляжыць,
На крыжы чорны воран сядзіць.
Родны край свой пакінулі людзі
І па свеце бяздомныя блудзяць,
І шукаюць спагады людской,
І знаходзяць магільны спакой.
Дым, як смерць, над Айчынай плыве,
Воўчы вецер у полі раве,
І ў нябёсы ўздымаецца хмара,
Нараджаецца ў цемры пачвара.
І пішчыць згаладалая мыш,
І гніе людам звалены крыж.

## ХАТА

Які ўжо год ніхто тут не жыве,
І толькі вецер стукаецца ў дзверы.
На ганку цёпла маладой траве,
А над травою пыл лятае шэры.
І мне да хаты страшна падысці.
Стаю маўкліва ля гнілога плоту,
Нібыта вінаваты ў нечым і ў жыцці
Сваю віну не замалю ні ўпотай,
Ні пры людзях.
Я ў хаце гасцяваў,
Рыпелі развясёлыя масніцы.
Цяпер на іх даўно расце трава,
І ў хаце цёмна, быццам у цямніцы.
Бывае, прылятаюць галубы,
Па-гаспадарску ў вокны зазіраюць.
А вокны, поўныя людской журбы,
Глядзяць у свет, нібыта смерць чакаюць.

* * *

Ад выбуху чарнобыльскай бяды,
Як цені чорныя, бягуць гады.
Ды кожны дзень, нібы апошні дзень,
Жывём і дзякуем за жыцце Богу.
І ўсё часцей перарывае цень
Людзям жыццёвага святла дарогу.
Здаецца, трэба ж уцякаць хутчэй
Адсюль, каб ратаваць хаця б дзяцей,
Але сядзім, заложнікі бяды,
Бо Тут Айчына, нашы Тут Магілы
І нам яшчэ цвітуць вясной сады,
Хаця для нас нішто падчас няміла.
Мы плачам моўчкі ля магільных пліт,
Спакойна адыходзячы ў нябыт.
І мы ідзём з надзеяю да Бога,
Як вечнасць, доўгая для нас дарога.
І шэпчам мы, збялеўшы ад пакут:
— О, Божа, уратуй наш родны Кут...

**26 КРАСАВІКА**

Ізноў вясна і дождж начны,
Што шумам напаўняе сны,
У горадзе, дзе я чужы.

Спрабую адчыніць вакно,
Не адчыняецца даўно.
Над горадам лятуць крыжы.

Але ніхто не бачыць іх
У гэты дождж, у гэты міг.
І я, нібы вар'ят, крычу.

І расступаецца сцяна,
Як церні, колецца вясна,
І за крыжамі я лячу.

* * *

Тых дзіўных дзён як не было,
Калі мы верылі ў святло,
І раніцу, нібы віно,
Пілі, анёлячы ізноў
Сваю бяскрылую любоў
Да гэтых дзён, да гэтых ніў,
Дзе кожны — больш сябе любіў...
Тых светлых дзён як не было.
Яны, як з вогнішча цяпло,
Вятрамі знесены ў зіму,
Дзе смерць нам дзьме ў сваю сурму...
І сёння, гледзячы ў бязмеж,
Ты па-над горадам плывеш
Туды, дзе нашых дзён святло,
Дзе нас ніколі не было.

## ДЗЯДЫ

Мільёны свечак асвяцілі край,
Каб душы продкаў бачылі ізноў,
Што помнім іх і нашая любоў —
Адзіны існуючы ў свеце рай.

Мы молімся, мы плачам, мы маўчым,
Праз гэтае жыццё свае крыжы
Нясём, нібы ратунак для душы,
І ў вечнасць адлятаем, нібы дым.

Мільёнам свечак цэлы дзень гарэць
І нам глядзець у свет, куды ляцім,
Дзе месца ёсць, было і будзе ўсім,
Дзе нам усіх любіць і разумець.

## *Ніл Гілевіч*

### НЕ ХВАРЭЙ!

*Паэма*

Не хварэй,
О мая Беларусь, не хварэй!
Страшна мне, што твой позірк,
Ласкавы і чысты,
Так прыцьмеў і схмурнеў,
Што калі яго бачу —
Горла спазмы сціскаюць,
І горка я плачу.

Не хварэй,
О мая Беларусь, не хварэй!
Страшна мне,
Што твой голас,
Пявучы і звонкі,
Так асекся, аслаб,
Што калі яго чую —
Супыняецца сэрца
І жыць не хачу я.

Не хварэй,
О мая Беларусь, не хварэй!
Страшна мне,
Што твае шаўкавістыя косы
Так станчэлі,
Няйначай адваляцца скора.
Божа! Дзе мне дзявацца
Ад гэтага гора?..

#### I

Ціхім ліпеньскім днём,
Праз чатыры гады
Ад чарнобыльскай —
Жудкай, жахлівай бяды,
Я прыехаў у край,
Што зрабіўся гаротным,
Зацярушаны
Ядзерным пылам смяротным.

Па асфальтавым,
Бойкім калісь бальшаку
Лёгкі рафік вязе нас
На Прыпяць-раку.
Быў ён бойкім, а зараз...
Памерла шаша:
Каб адна хоць дзе-небудзь
Мільгнула душа!
Ці машына якая,
Ці трактар, ці воз...
Азірнешся наўкол —
І па скуры мароз.

То праз лес,
То праз поле
Наш рафік бяжыць,
Міма вёсак бязлюдных,
Дзе болей не жыць,—
Ні кахаць, ні раджаць,
Ні дзяцей гадаваць,
Ні дамы будаваць,
Ні абед гатаваць...

Еду. Пільна гляджу
З горкай думай пра лёс.
А праз шэры асфальт
Буйны пырнік прарос.
Атлусцелыя зайцы
На ўзбоччах шашы
Не шалопяць, што трэба
Баяцца машын.
Шнурам дзікія свінні
Ідуць на папас —
Не звяртаюць
Ніякай увагі на нас.
Дзве касулі стаяць
У высознай траве.
Дапатопным спакоем
Звяр'ё тут жыве.
Тут даўно не было
Чалавечай нагі.
Захмызелі палеткі.
Здзічэлі лугі.

Так да Прыпяці самай
Нас рафік давёз —
Да маруднае плыні
Пад навіссю лоз.
«Толькі сцежкай, за мной,—
Просіць нас праваднік,—
Каб у вобуй у ваш
Пыл з травы не пранік...»

Я на вышку ўзышоў.
Я гляджу на ЧАЭС —
На трагедыі здань,
На праклянцце-прагрэс.
Дзе ў далёкай смузе
Дол і неба маўчаць —
Карпусы над зямлёй,
Як пачвары, тырчаць.

Страшны лёс, што дасюль
Нас у гурт не з'яднаў,
У абліччах бяды
Бачыў я ўжо і знаў.
Бачыў смерць, што ішла
Вараннём-груганнём,
Каб у неба пусціць
Край наш дымам-агнём.
Бачыў смерць, што дзяцей,
Абдзяліўшы ядой,
Спухлых, сініх ужо,
Клала ўпокат у дол.
Бачыў смерць, што ліла
Яд сівушны ў стакан,
Каб хутчэй беларус,
Абыдлеўшы, здыхаў...
Але ў гэткім абліччы
Праклянцця-бяды
З нас не бачыў ніхто —
Ні ў якія гады.
Ад сяла да сяла,
Па зямлі, па вадзе,
Па крыві, па касцях
Смерць нябачна ідзе.
І нічым не спыніць,
І нічым не стрымаць,

І не знае ніхто,
Як жыццё ратаваць.
Бегчы прэч як мага?
Уцякаць — колькі сіл?
А куды — уцякаць?
За які небасхіл?
За які далягляд
Ты збяжыш-уцячэш,
Калі цэзій з дажджом
Па ўсім краі цячэ?
Дзе той шчыт ці бар'ер,
Каб жыццё затуліць,
Калі пыл-смерцявік
Па ўсім краі ляціць?..

* * *

«Зараз вёску пабачым,—
Сказаў праваднік,—
Скуль мы ўсіх адсялілі
Тады ж, аба дні.
Гэта блізка зусім —
За якой паўвярсты...»
Едзем. Справа сцяной —
Дрот калючы, густы.
Зона гэтая ўся
Абгароджана спрэс,
Каб шакал-марадзёр
Пажывіцца не лез.
Вось вароты — праезд
У сцяне драцяной.
Я зірнуў — і адчуў:
Штосьці стала са мной.
Быццам ток пранізаў.
Пачакайце, браткі!
На бляшаным шчыце —
Бляклы надпіс: «Бранькі».
«Гэта вёска Бранькі?» —
Я спяшу ўдакладніць.
«Так, Бранькі,— уздыхнуў
Мне ў адказ праваднік.—
Я тут часта бываў,
Меў па жонцы радню...»
«Жыхароў... зналі шмат?»

«Ды, бадай, бальшыню».
«А не зналі, часом,
Марка Шчэдрык тут жыў...»
«Знаў! Цікавы быў дзед.
З маім сватам дружыў».
«А дачку яго, Насту?»
«А як жа! Яна
Тут жыла, пры бацьках,
Ну а потым — адна».
«Без сям'і?» — «А ў яе
Мужыка не было.
Быў, вярней. Ды калісь
Гора з ім развяло.
Ён падводнікам быў.
Спіўся ўшчэнт — і труба.
Выбачайце, а вы
Насту зналі хіба?»
«У студэнцтве мы з ёй
Сябравалі крыху...»
Аж знямеў праваднік.
Што за здзіў на слыху?
«Вы і з Настай?» — «А што?»
«Ды нічога, але...
Як такое не мог
Я пачуць ад яе?!
Столькі ў гэтых Браньках
Меўшы з ёю размоў!
Ну скажу, ну скажу —
Як убачымся зноў!..»
«А яна — дзе жыве?»
«У райцэнтры ў сястры».
«А здароўе?» — «На жаль,
Горш і горш з той пары...»

Тут, шаноўны чытач,
Будзеш рад ці не рад,—
Год на сорак дазволь
Мне вярнуцца назад.

II

І ўспыхнула ў памяці
Даўняе лета.
Студэнт-летуценнік,

Я быў закаханы
У Насту —
І верыў, наіўны, што гэта
І ёсць ужо лёс мой —
Шчаслівы, жаданы.

У горад, дзе Наста —
Студэнтка таксама —
У Тэклі старэнькай
Жыла кватаранткай,
Тым летам
Пайшла ад мяне тэлеграма:
«Прыеду ў нядзелю.
Маскоўскім. Уранку».

Я ехаў да Насты
З вялікай трывогай.
Штось сталася:
Колькі ёй пісем адправіў —
Яна ж у адказ мне
Ні слова, нічога!
І нават на песню,
Пасланую ў траўні.

О, тая
Дасюль не забытая песня
У гонар чароўнай
Дзяўчынкі з Палесся!
Я помню, як ехаў,
Як вёрсты мільгалі,
А вусны шапталі
І ўсё паўтаралі:

«Ты — ад роднай зямлі:
Цёплай, ласкавай, ворнай;
Ад вады на зямлі —
І рачной, і азёрнай;
Ад сунічных палян,
Ад бароў сухадолых,
Ад лугоў-мурагоў,
Ад вятрыскаў вясёлых...

Ад зямлі, ад зямлі —
Ты зямная, зямная,

І прыйшла ў мае сны
З ярай квеценню мая,
І таму ў валасах
Светларуса-шаўковых
І ў далонях тваіх
Водар зёлак маёвых.

Ад зямлі, ад зямлі —
Ты і ў снах, і ў малітвах.
Бачу ножкі ў расе —
У травінках наліплых;
Бачу вусны твае —
Іх пылком запыліла,
Як духмяны букет
Ты да твару туліла.

Дык чаму ж, як цябе
Я не бачу, зямную,
Я зусім не зямным —
Зорным сумам сумую?
А таму, што не толькі
Для шара зямнога —
Для сусвету ўсяго
Майго суму замнога!..»

Я верыў у шчасце!
Таму без вагання
Падаўся з вакзала
У ціхі завулак,
Дзе домік у садзе,
Куды на расстанні
Прынёс ёй як сімвал
Букет незабудак...

Вось зараз,
Вось выйдзе,
Адчыніць мне дзверы.
Вось, звязкам зазвякаўшы,
Ключ падбірае...
На крок адступіла,
І нібы не верыць,
І нечым збянтэжана
Тэкля старая.

«Дзень добры!
Даруйце, калі ранавата».
«Дзень добры! Заходзьце».
«А Настачка ўстала?»
«Устала і — знікла.
Не снедаўшы нават.
Паехала Наста.
Куды — не сказала.

Заходзьце ж! З дарогі —
Крыху адпачніце...»
І крэсла для госця
Падсунула міла.
«Вы мне выбачайце,
Вы тут пасядзіце,
Там прымус на кухні
Якраз распаліла...»

У домік у гэты
Заходзіў я часта:
Бывала, так рана
І так нечакана —
Наўмысна — каб трохі
Злавалася Наста,
Што вочы
Яшчэ пазіраюць заспана.

Што вусны
Яшчэ не гатовы спаткацца.
Хоць сэрца:
«Гатовы! Гатовы!» — крычала.
А сёння...
Гатова душа разарвацца.
Чаму — не спаткала?
Чаму — не чакала?

Вярнулася Тэкля,
Зірнула спагадна:
«Яна вам усё
Напісала ў паперку.
Учора. Як толькі
Прыйшла тэлеграма.
Я зараз дастану,
Схавала ў куфэрку...»

І вось я чытаю —
І чую: па твары,
Па сэрцы, па мыслях —
Гарачае нешта.
«Даруй мне, мой слаўны,
Мой добры таварыш:
Мы мусім расстацца.
Не з крыўды, канешна.

Ты кепска не думай.
Так выйшла. Так трэба.
Мне іншая
Суджана доля на свеце.
Я веру:
Душэўная гэта мінтрэга
Цябе не надломіць...
Бывай, мой паэце!»

Як громам прыбіты,
Сядзеў я знямелы.
Што значыць
Страшэнная гэта загадка?
Так трэба?
Ды свет жа зацемрыўся белы!
Над прорвай ішоў я —
І трэснула кладка!

А зрэшты... А зрэшты
Ну што тут не ясна?
Усё — натуральна.
Усё — зразумела.
Ты ў лёс свой шчаслівы
Паверыў заўчасна.
Дзяўчынка з Палесся
Той веры не мела.

Не будзь ёй суддзёю.
Ёй іншая вера
Па міласці Божай
Душу акрыліла.
Пакуль ты тут выеш
Параненым зверам...
Ну што табе вусны
Пакутна скрывіла?

Не будзь ёй суддзёю!
І сам не пакутуй!
О, Божа! Хіба я
Суджу і караю?
Але й спачування
Не трэба банкруту.
Хіба я пакутую?
Я... паміраю.

III

Крочым вёскай. Былой.
Што ні хата, ні двор —
Ні прыкметы жыцця:
Быццам выкасіў мор.
Цішынёй, нематой
Жах усё тут спавіў.
Хоць бы кот дзе прабег
Ці сабака завыў...
Дух пустэчы паўсюль.
Дух магільнага тхла.
Прыпыніліся: «Тут
Наста Шчэдрык жыла».
Хата ўся ў бур'яне.
Аж да самай страхі —
Не вяргіняў кусты —
Лебяды кіяхі.
Хоць за дротам Бранькі
І шнуруе надзор —
Ні вакон, ні дзвярэй:
Зняў і звёз марадзёр.
«Зойдзем?» — «Зойдзем,— кажу.—
Не прыйшлося тады —
Хоць цяпер пагляджу.
На няшчасця сляды...»
А глядзець гэта — страх.
Поўны рэзрух-пагром!
Смецце. Друз. Чарапкі.
Мэблі ўбогае лом.
Неданошаны вобуй.
Рыззё. Рызманы.
Вось — праўдзівы наш лёс,
Без прыўкрас, без маны.
У кутку, сярод смецця

І бітага шкла
«Беларуская мова»
Прытулак знайшла.
Знаны школьны падручнік!
А што ж ён?.. Няўжо
Пераселеным, там —
Не спатрэбіцца ўжо?
Ды напэўна! Калі
Гіне вотчынны край,
Гіне люд, дык і мова
Канае няхай!..

* * *

Зноў пыліцца прасёлак.
Бяжыць краявід.
Зноў сказаў прыпыніцца
Наш ветлівы гід.
«Там вунь вёска была...
Вёска Новы Пакроў.
Невялічкая, праўда:
Шаснаццаць двароў.
Ну, а зараз, як бачыце,
Пуста наўсцяж.
Вёска знікла.
Нязвыкла змяніўся пейзаж...
Не, не звезлі.
Куды ж яе звозіць адсюль?
Закапалі ў зямлю.
Да бярвенца. Усю!
Як нябожчыцу ў дол
Пахавалі навек...
Каб смяротнай бядой
Дух не выйшаў наверх.
Моўчкі едзем далей —
У здранцвенні тупым.
На вясковым дзядзінцы —
Чарговы прыпын.
Каля крамы — натоўпам —
Жанчыны, дзяды.
На абліччах — пячаць
Непапраўнай бяды.
Страху, роспачы,
Крыўды бязмернай пячаць.

Вусны — сцята маўчаць.
Вочы — нема крычаць.
Падышла маладзіца
З двайнёй на руках,—
I галосіць, і просіць,
Сама ў сіняках:
«Памажыце нам, людцы!
Не дайце сканаць!
Месяц чыстых харчоў
Не завозяць да нас!
Ні харчоў, ні лякарстваў —
Нічога няма!..»
«Сціхні! — крыкнуў ёй дзед.—
Што скуголіш дарма?
Колькі ўжо прыязджала
Атвесцьвенных ліц?
Паглядзяць — і паедуць!
А што ім? Баліць?
Абяцанняў насыпяць —
На добры ўспамін.
А прадукты лячэбныя —
Дзеткам сваім!..»
Маладзіца замоўкла.
Маўчыць і натоўп.

Абяцаем.
I з ганьбай
Садзімся ў аўто.

* * *

О, мая Беларусь
На пакутным крыжы!
Гэта бачачы ўсё —
Як мне жыць, адкажы?
Гэта бачачы ўсё,
Гэта знаючы ўсё,
Гэта помнячы ўсё
Кожнай фібрай душы?..

Не хварэй!
О, мая Беларусь, не хварэй!
Страшна мне,
Што твой позірк,

Ласкавы і чысты,
Так прыцьмеў і схмурнеў,
Што калі яго бачу —
Горла спазмы сціскаюць,
I горка я плачу.

Не хварэй!
О, мая Беларусь, не хварэй!
Страшна мне,
Што твой голас,
Пявучы і звонкі,
Так асекся, аслаб,
Што калі яго чую —
Супыняецца сэрца
I жыць не хачу я.

Не хварэй!
О, мая Беларусь, не хварэй!
Страшна мне,
Што твае шаўкавістыя косы
Так станчэлі —
Няйначай адваляцца скора...
Маці!
Як цябе выбавіць
З гэтага гора?

## *Сяргей Законнікаў*

## ЗЯЗЮЛЯ

*Паэма*

*Васілю Быкаву*

### На беразе тым

На беразе тым, што заўсёды мне сніцца,
Куды з ціхім жалем гляджу праз гады,
Я сеў на замшэлы валун ля крыніцы,
Паўнюткай,
як вока,
жывое вады.

Нічога яшчэ не набыў і не страціў,
Абмацваюць далеч
і позірк, і слых.
А ў свеце,
нібы перад святам у хаце,
Так чыста-ўрачыста,
што стойваю дых.

І сонца,
як мама,
цалуе ў макушку,
І вецер,
як тата,
кудлачыць віхры...
А я моўчкі слухаю вешчую птушку —
Кувае зязюля ў далёкім бары.

Куванне яе
дзверы ў храм расхінае,
Дзе трэба ў парозе прыстоіць спярша.
Якая мне выпадзе доля зямная? —
Прад тайнай прароцтва нямее душа.

Над берагам тым,
што трава спавівае,
Аблокі Ушаччыны ў вечнасць ляцяць...
Кувае зязюля мая баравая —
Заведзены Богам гадзіннік жыцця.

«Ку-ку!»

Беларусь накрыла нячыстая сіла,
А дзеці купаюцца ў стаўку...
«Ку-ку!»
Качаюцца весела ў пяску...
«Ку-ку!»
Падстаўляюць галаву вянку...
«Ку-ку!»
Кідаюць чарніцы за шчаку...
«Ку-ку!»
Кланяюцца баравіку...
«Ку-ку!»
Зязюля стараецца, вяшчуе:
«Ку-ку!.. Ку-ку!..»
А смерць за імі цікуе:
«На якім жа гадку?..»
«Ку...»

## Сучасная балада

Суцяшалі яе:
«Памірае апошняй надзея...»
І матуля малілася Богу
І верыла ў цуд.
Дні і ночы ў знясілены,
Зморанны тварык глядзела...
Дагараў, як васковая свечка,
Сынок ад пакут:
«Ой, сынок, мой сыночак,
Я ж цябе насіла — галасіла,
Раджала — памірала,
Гадавала —гаравала...»

Дагарэў.
Паляцеў.
Не дагнала душой беспрытульнай,
Хоць за ім,
Нібы птушка,
Адчайна рванулася ўслед.
І зязюляю шэраю
Стала навечна матуля,
Для яе на пагосце
Сышоўся цяпер белы свет.

«Прыляцела зязюленька
Ды сказала: «Ку-ку!
Падай, падай, мой сыночак,
Хоць правую руку...»

— Ой, мая ты маці,
Рад бы дзве падаці:
Сыра зямля, жоўты пясок —
Не магу я ўстаці...»

Свет імкліва старэе,
А могілкі скрозь — маладзеюць...
І зязюля начуе і днюе
На родным грудку.
У яе ўжо няма
На жыццё аніякай надзеі,
Ды надточвае век
Нашым дзецям
Балючым: «Ку-ку!..»

## Калыханка

Мне часта мроіцца, сніцца адно і тое ж,
Назіраю, быццам з галёркі:
Зямля гайдаецца калыскай пустою
На цвічку самотнае зоркі.

І ўсё, што з маленства здавалася звычным,
Напаўняецца сэнсам новым.
Грымяць над планетай апакаліптычна
Калыханкі ціхія словы:

«Прыляцелі чыжыкі,
Парабілі крыжыкі.
Прыляцелі вароны,
Ударылі ў звоны...»

## У зоне

У бары зязюля кукуе,
Ніхто зязюлю не чуе...
Прыйшла бяда на ўсе часы.
Трава залетавала без касы...

Поле без коласа...
Хаты без людзей...
Печы без агню...
Калодзежы без вады...
Палыном зараслі сляды.
Вось тут і ўспомніш пра Бога,
Глянуўшы ў вочы бяды...
Не курыць, не пыліць дарога,
Дарога — у нікуды.

## Сляза

Ад тых звар'яцелых, выгнанніцкіх дзён
У горле бунтуе камяк...
Дзяўчынка з Палесся на мінскі перон
Не хоча сыходзіць ніяк.

Хатуль, нібы горб... Беларускі багаж...
Ён першы ў яе на вяку.
Як знічка трывожнае неба наўсцяж,
Сляза перасекла шчаку.

Каб нашага гора глыбіні спазнаць
Паміж мітусні, драбязы,
Не трэба ўсе слёзы Айчыны збіраць...
Мне досыць і гэтай слязы.

## Мадонна

Асеннім лістам сэрца затрымцела,
Скульптуру тую абмінуць не мог —
Красы нязнанай маладое цела
Было без галавы,
                    без рук,
                              без ног.

Глядзеў на мармуровую мадонну,
І мурашы прабеглі па спіне.
Такой жа,
            як яна,
                    безабароннай
Ты,
    Беларусь,
            тады здалася мне.

Я шэпт пачуў твой:
«Літасцівы Божа,
Навошта асудзіў мяне на здзек?
Чаму маю душу і цела можа
Нахаба кожны
гвалціць з веку ў век?»

А ён маўчаў, хоць ведаў да драбніцы,
Хто награшыў,
хто вінаваты ў тым,
Што воля Беларусі толькі сніцца,
Што слава разлятаецца як дым.

А Бог маўчаў...
Прад вечнасцю бяссоннай
На доле колкай зорнае жарствы
Сама ў сябе пыталася мадонна:
«Як жыць без рук,
без ног,
без галавы?..»

## Мы

Вецер — з Усходу,
Вецер — з Заходу...
А беларусы чакаюць пагоду.

Дасюль мы лічым сябе народам,
А ў жылах цішыцца рабская кроў.
Жывём, драбнеючы год за годам,—
Нашчадкі воінаў і плугароў.

Усё пры нас,
здаецца, — не зломкі,
Але не спяшаем стаць на крыло.
Ну паляцім,
а хто ж нам саломкі
Падсцеліць,
каб падаць куды было?

Пра вечнасць думаецца з узростам,
Што нашыя жыцці ёй дадалі?
Бо ўсё канчаецца вельмі проста —
Чатыры дошкі і сажань зямлі.

З пратухлай зоны дасюль не выйшлі,
Уеўся ў душы
смурод турмы.
А што прызначыў нам Усявышні —
Відаць,
ніколі не ўведаем мы.

Вецер — з Усходу,
Вецер — з Заходу...
А беларусы чакаюць пагоду.
І ні роду, ні плоду,
Як той камень у воду...

## Галасаванне

Нічога не бачым, нічога не чуем:
Праўда галосіць, а мы «за!» — галасуем,
Воля галосіць, а мы «за!» — галасуем,
Доля галосіць, а мы «за!» — галасуем...
І самі галосім, але «за!» — галасуем.

## Маленькія людзі

«Мы — людзі маленькія, хай думае начальства».

*Абыходкавы выраз*

Маленькія людзі вялікай бяды
Не маюць даўно над галовамі даху.
Іх дом,
што ўрастаў у зямлю праз гады,
Накрыты цяпер не страхою,
а страхам.

Маленькія людзі вялікай бяды
Змірыліся з гэтым,
не рвуцца на волю.
Навошта?
Ім місы пустой баланды
І хлеба счарсцвелага лусты даволі.

Маленькія людзі вялікай бяды
Шануюць не Бога,
а чарку і скварку.

Калі накуляюцца добра,
тады
Ці плачуць цішком,
ці кідаюцца ў сварку.

Маленькія людзі вялікай бяды
Валодаюць зброяй адзінаю — матам.
Усіх пасылаюць туды-растуды,
А іх — пад дубінкі і пад аўтаматы.

Маленькія людзі вялікай бяды
Не думаюць ні пра дзяцей,
ні пра ўнукаў,
І нават з чарнобыльскай даўкай жуды
Не выбрацца ім да святла без прынукі.

Маленькія людзі вялікай бяды,
Няўжо вы заснулі навек,
назаўжды?

## Гняздо

Хоць вякі ў турботах прамінулі,
Ды дарэмна — знаку не відаць...
Беларусь — гаротная зязюля,
Як і ў той,
няма ў цябе гнязда.

Ты суседзям дзетак падкладала,
Выраcталі — ведаў свет пра іх!
А сама пад крылы захінала
Пустадомкаў нашых і чужых.

І яны тутэйшыя нібыта,
Ды даўно плююць Айчыне ў твар,
Бо для іх наш край з усім набыткам —
Сытая кармушка і тавар.

Кожнаму прарабу выраджэння
Не патрэбен Адраджэння гмах.
Ціснуцца ў зацятым ачмурэнні
Ад свайго пад нейчы цёплы дах.

Жабракоў чужына не прытуліць.
Сэнс разумны цвёрда кажа: «До!»
Беларусь — бяздомная зязюля,
Трэба віць табе сваё гняздо.

## Крыж

Мова дадзена Богам,
Слова было найперш...
Прэч ад мяне, знямога!
Духам не падай, верш!

З верай у лёс народа
Кроч праз глухі натоўп.
Ён няўцямна заўсёды
Праўду пад рэбры тоўк.

Пад крыжам гнуцца радкі і строфы,
Іду за імі і я — на Галгофу.

Шлях знаёмы,
не новы...
Грукаюць малаткі.
І ў дзяржаўную мову
Можна загнаць цвікі.

Можна,
ды што пакінеш
Дзецям
ты — беларус?
Мусіш і ў дамавіне
Несці праклёну груз.

Хутка змяце,
як вецер,
Семя пустое
час.
Будуць усе на свеце,
Толькі не будзе нас.

На Герастрата славе
Ви́сака не ўзляціш,
А на сабе паставіш
Самы апошні крыж.

## Беларуская песня

Ляцела зязюля
Цераз нашы сёлы:
— Чаму вы, мужыкі,
Хмурны, невясёлы?

Досыць, досыць гараваць
Часінаю весняй.
Паслухайце мяне,
Я прынесла песню:

Яшчэ не прысталі гарачыя коні,
Яшчэ не загусла адважная кроў.
Збірае сыноў беларускіх Пагоня
І Сцяг,
што пад Грунвальдам вёў ваяроў.

Зноў над доляю і над воляю
Кружаць хцівыя крумкачы...
Ды няўжо бяду не адолеем,
Крывічы мае,
крывічы?

Святыні і мову не ўдасца запляміць,
Хай ведаюць гэта усе хіжакі.
Гартуе наш дух неўміручая Памяць,
За намі — вякі
і прад намі — вякі.

Зноў над доляю і над воляю
Кружаць хцівыя крумкачы...
Ды няўжо бяду не адолеем,
Крывічы мае,
крывічы?

І прыйдзе той час,
сціхнуць спрэчкі і сваркі,
Мы дружнай сям'ёю засцелем абрус,
Каб высака ўзняць крышталёвыя чаркі
За веліч і славу тваю,
Беларусь.

15 Зак. 1132

Зноў над доляю і над воляю
Кружаць хцівыя крумкачы...
Ды няўжо бяду не адолеем,
Крывічы мае,
крывічы?

## У бары пад Брагінам

Маўкліва ля сосен стаім,
У плечы галовы ўгнулі...
Ляжаць на імху баравым
Дзве мёртвыя птушкі — зязюлі.

І сэрцы раструшчвае жах,
Сляза выпальвае вочы.
Скалела вяшчунні ляжаць,
Што людзям жыццё прарочаць.

Дакуль будзем піць талакой
Бяздонны кубак атруты
На горкай зямлі,
да якой
Пакутамі мы прыкуты?

Змахнула слязу далонь
(Каб з ёю і гора — разам...),
Пытанні раздзёўбваюць скронь,
Ды толькі няма адказу.

Маўкліва ля сосен стаім,
У плечы галовы ўгнулі...
Ляжаць на імху баравым
Дзве мёртвыя птушкі — зязюлі.

## Пакаянне

Рэха самай крывавай,
вялікай вайны
Не заціхла дасюль,
адгукаецца...

Каб з душы скінуць камень
былое віны,

Немцы едуць
За нацыю каяцца.

Прымірэння бальшак
і цяпер — не прамы,
Ды на ім людзі ўсё ж сустракаюцца.
Талакою будуюць бальніцы,
дамы...

Потам і мазалём
Немцы каюцца.

Хочуць нам памагчы
і малы,
і стары,
Бо спагада з бядой не звыкаецца.
Шлюць сюды не падачку,
ад сэрца дары —
Маркай крэўнай сваёй
Немцы каюцца.

І ў Германіі поўна адгэтуль гасцей,
Бо між намі адлегласць сціскаецца.
Лечыць,
песціць яна
беларускіх дзяцей —
Ласкай і дабрынёй
Немцы каюцца.

А свае прыкарытнікі нават бяду
Скарыстаць для нажывы спяшаюцца.
Колькі год
са скарбонкі журботнай
крадуць,
На катэджы крадуць
і на дачы крадуць,

На ваяжы крадуць,
на гулянкі крадуць...
Людзям хлусяць
і зноўку крадуць
і крадуць...
І ніколі,
відаць,
не пакаюцца.

## Свечка

Свечку тваёй душы
У Госпада папрасіла
І ў цнатлівай цішы
Зацепліла Еўфрасіння.

Свечку тваёй душы
Сусвет тады не адрынуў.
Полымя ўзварушыў,
Панёс праз вякі Скарына.

Свечку тваёй душы,
Калі ўжо яна згасала,
Засцерагчы спяшыў
Радком і крывёй Купала.

З цемрадзі і глушы
Ісці да святла далёка.
Свечку тваёй душы
Дасюль пільнуюць прарокі.

Іхняй няма віны,
Што люд глухі да навукі.
Аб Беларусі сны
Не сняць прадажныя ўнукі.

Грэх і смерць — спарышы,
Таму і прыйшла расплата:
Бацьку сын задушыў,
І брат забівае брата.

Стронцый наскрозь прашыў
Грудзі зямелькі гаротнай...
Шмат ты, люд, награшыў,
Не саграшы беззваротна:

Толькі не патушы
Свечку сваёй душы!

## На беразе гэтым

На беразе тым, дзе туман васільковы
Калышацца ў жыце, яшчэ маладым,
Былі і сумленне, і шчырыя словы...
Усё засталося на беразе тым.

На беразе гэтым — часіна распаду.
Зямлю запалонілі зноў чужакі:
Паланій і літый, рутэній і радый
Смяротны свой баль
                    будуць правіць вякі.

На беразе гэтым — нязбытнае гора,
Прычына бясконцых, нязлічаных страт.
Хварэе народ,
                бо не сёння,
                        не ўчора
Душы беларускай пачаўся распад.

І доўжыцца, доўжыцца
                    гнюснае ліха,
А зараз стаілася ў новым рыўку:
Манкурцтва і здрада, нянавісць і пыха,
Як змеі,
        спляліся ў пачварным клубку.

Трывожнаму сэрцу да скону нудзіцца
Над доляй Айчыны балеснай маёй...
На беразе тым шчасце меў нарадзіцца,
На беразе гэтым я стану зямлёй.

А покуль ёсць сілы — усё я трываю
І верую ў розум,
                у вечны працяг...
Кувай жа,
        зязюля мая баравая,—
Заведзены Богам
                гадзіннік жыцця.

## *Мікола Мятліцкі*

# НЯХОДЖАНАЕ ПОЛЕ

*Паэма*

* * *

Вясна змарыла сонцам... Рыжы сноп
У шызай дымцы хвойніку шторанак
Праменна рос, як блікамі маланак —
Па шклінах сек. Нібыта сотні коп
У горада світальным наваколлі
Ірдзеліся на бачным воку полі.
Ноч адступала шэрай нематой.
Аслеплена праменнай зіхатой
Было акно дзевятага паверха.
Чубы вярбін унізе, круглаверха
Убраныя у першы клейкі ліст,
Аціхлыя, у росах залацелі.
Туга сцінала жылы стомна ў целе,
Калі шатры іх бачыла... Уніз
Слязінкі з воч сарваліся-зляцелі.

Каторы дзень аціхла на балконе
У зводніц-дум у моташным палоне
Яна, прысеўшы зноў на табурэт,
Чакала сонца, бляск зары вітала.
І промнем першым сонца ёй вяртала
Той, страчаны, жыцця шматпомны свет:
Лясную вёску, што пад сценкай хвой
Была й дасюль гулліваю, жывой.
Суседзяў крокі, неўгамоннасць спраў,
Пярэсты статак, буйнаросы выган.
Вось голасна хаціны будзіць цыган —
Не ўсіх кароў пастух з сяла сабраў!
Як і заўжды, ўзіраецца падслепа
З-за квортачкі Аўдзеішына Сцепа:
«А Божухна! Чаго ўжэ так зарана?!»
Нарэшце дбала чарада сабрана
І, топчучы астуджаны пясок,
Імкне праз выган з рыкам у лясок,
Які (ўжо колькі ўсцешна ні ківае)
Заўжды ўваччу цямрэча абрывае.

І рыжы, яры ўсхопіцца агонь.
Зноў расплывецца ўдушна ў слёз сырэчы
Прывід жыцця... І ўскрык нечалавечы
З грудзей пакутных вырвецца. І скронь
Затахкае скразным нясходным жарам.
І задаўга пад санцапёкам жарым
Яна, аб камень студзячы далонь,
Сцінае шкельца нітрагліцэрыны,
Пакуль не спудзіць одум голас сына.

* * *

— Паехалі, Андрэй! — у раз каторы
Адрывісты, слязой працяты, хворы,
Чакальна сцішны голас просіць сына.
Нібыта сёння збыцца ўраз павінна
Усё, аб чым турбуецца душа.
Ў маўчанцы зацяжной яна спярша
Падыме вочы, на нявестку гляне.
Таго хапае, каб сышла дазвання
Надзеі блёстка: аж сапе ад злосці.
І так заўжды. Ды міг пякучай млосці,
Нібы скарынку чэрствую, каўтне.
І ўжо ў бунтоўнай дзёрзкай весялосці
Сама за сына скажа:
«Матка, не!»
Як верабей з гнязда ў часіну буры,
Ён выскачыць, насуплены і хмуры.
На вешалцы ў прыхожай, дзе ніхто
Не замінае, хопіць паліто
І грукне уваходнымі дзвярамі,
Аж шыбы закалоцяцца у раме.
І вось за ўзрушнасць сынаву адплата:
Нявестка зыркне холадна-зацята
І павядзе, сярдзіта павядзе...
Захвошча, быццам пугай па вадзе,
Што вось няўдзякі поўная старая
З дня ў дзень адно і тое ж паўтарае
І рушыць гэтым звычны супакой.
А Мокіш той у далечы такой.
Андрэй штодня нервуецца, згарае,
А матцы што? — усхопліва рукой
Сатрэ прытвора пушчаныя слёзы.
І пошуг крыўды жаркі, стогалосы,

Астудзіць чутым холадам сцяна.
І слова не прамовіўшы, яна
Падасца важка у пакойчык дальні.
Там дзень сядзіць
Ды чуе гул вакзальны...

* * *

Цягнік грукоча ўтомна. У купэ
Над ёй кабета мажная сапе,
Да ночы шчабятуха балбатала,
Што едзе к матцы старцаваць — па сала!
Не соладка жывецца. Жытка — здзек,
Бо жлукціць зранння ейны чалавек,
Павынес з хаты што было якое.
І гора не уласнае — людское
Трывогу збіла ў некалькі хвілін.
І ёй спакойней бачыцца ўжо сын:
Як, пыхкаючы ў клетчыне-кватэры,
Запіску той бярэ — і злосны, шэры,
Што верабей ашэрхлы на страсе,
Рукой пад носам жончыным трасе.
Крычыць у ноч: «Ты гэтага жадала?!
Капейку лічыш, жмінда! Вечна мала!»
У суцемак пакоя ад акна
Драпежніцай кідаецца яна:
«Казала я, не пры яе сюды —
Цяжкія тхлу старому гарады!»
Каўтнуўшы ком нясходны ўдушша болю,
Дала цяпер гняўлівым думкам волю,
Дваім у цемрадзь беглую вяла:
«Я не прасіла вас! Мяне з сяла
Ўгаворамі падацца ў рай скарылі!
Наперабой салодка гаварылі!
Паверыла, дурніцаю была!
Нібыта з лёсу іншых я не знала,
Што «раю» там хвалёнага замала.
Вунь Сцепа — з тыдзжань ў дочкі пабыла,
Калі яшчэ сяло жывым стаяла.
А потым віхрам з гораду прымчала,
Забрала хату, што ўжо прадала...
А тут адно абое: матка, едзь!
Спачатку нейк удзержалася ледзь,
Дак гора от, агульная бяда,

Нібы варону, скінула з гнязда.
Сабрала клункі ды як уявіла,
Што на чужыне будзе скрутна-міла,
То холадам працяла да касцей.
Памру, рашыла, ля сваіх дзяцей...

Яна рукою галаву падперла,
У змрок глядзела: «От жа, не памерла!
Ўваскрэсла от! Бальніцай замарылі!
Як галубкі сядзелі, дні лічылі,
Прасілі Бога, жытку кеб прадліў.
Адзін разлік іх радасцю цвяліў:
Кватэру от чарнобыльцам расшыраць.
Нявестка й тая сакатала шчыра.
Ўсяліліся. Мінуўся год, другі,
І ўжо глядзіць, бы з ёю варагі:
Не так ступіла і не так зрабіла.
Сталічны рай, ды жыць у ім няміла.
Дак от, пакіньце нудзіць галаву —
Сама сабой і ў пекле дажыву!..

Цяпер вясна і большае цяпла.
Якая жытка там? Пайшла — прыйшла.
Цяплу, жывому сонцу кожны рад.
За хатаю ўскапаю пару град.
Адно шкада, што побачкі нікога.
Нагаварыцца здолею [illegible] да Бога!»

І ўжо віхураць думкі іншай сілы:
«А ён, сынок... ад бацькавай магілы
Адрокся, пазабыў. Крыўдуе Хведзя,
У сны брыдзе, пытае: «Што не едзе?»
А я яму ўсё тое ж: «Ён заняты!» —
«А ты чаго сядзіш капой?!» — суняты
Балесны одум крыкам праведніцы.
Выходзіць скора... Водсветам дзянніцы
Узята неба. «На пагоду ета!»
Паклажу ёй рухавая кабета
Дала у рукі, муркае, як котка:
— Дак праўду ўжэ ж скажы, куды ты, цётка? —
Не верыць слову, чорная варона,
Стрыжэ вачмі на клункі падазрона,—
Бы ўпрочкі мчыш! — прычэпа сакатала.
— Не нудзь душу! Я шчасця паспытала!..

— А я сваю от колькі ні заву,
Пярэчыць мне: у Заспе дажыву!
На рукі глянеш — чорныя, як сажа.
Адмыла б хоць у ванне!
— Праўду кажа
Твая матуля. Дзеўка, не грашы:
Адмыеш рукі — не адмыць душы!

* * *

Далёкі хвойнік змрочліва шарэў.
Ноч напаўзала. Ветрыку павеў,
Астатні раз ускубшы Сцепы дзічку,
Зляцеў за стрэхі, ацішэла згас.
Аўдоля, меўшы даўнішнюю звычку,
Зірк кінула на ходзікі. І ўраз
Душа яе самотаю зайшлася:
Няма іх там — жыве яна ў бясчассі.

Натомленая, села ўскрай стала,
Дастала з клунка гожую ікону,
На той жа цвік у рамку залачону
Узвысіла лік Божы. І святла
Дабавіў сценам мучанік Хрыстос.
А сэрца — здрыганулася да слёз.

У раз які вось так зірне яна,
Бы ходзікі на вышыні акна
Ў прасценку быць павінны. Толькі знак
Застаўся на пабелцы пацьмянелай.
Шчыруе ўсяк між яблынь успацела,
Апранутая ў доўгі андарак
(Знайшла ў рыззі старэчым на гарышчы),
Патрушаны удушным тытунём.
Між быльнягу, дзе вераб'ёў ігрышча,
Як пудзіла, капае грады днём.
Глухія хаты. А за імі — поле:
Быллё, палын, кусцістая лаза.
Нагорнецца журлівая сляза.
Распраміцца, дыхне цяжэй Аўдоля
Ды зноў рыдлёўку торкае ў дзірван.
Рыштунак землярообчы скрозь сабран —
З усіх хацін — абшарана ваколле!

У хаце ўсё — сякера і піла.
Як мае быць, усё паздабыла
Упраўная руплівіца Аўдоля.

* * *

Наўпрост па рослым полі, дзе здаўна
Была дарога, сцежчыну яна
У быльнягу сухотным пратарыла.
Ішла ў Стралічаў. Ў краме гаварыла
Тым, хто пазнаў: «Вярнулася ў райвон!
Да вот дамоў к сабе на колькі дзён!»
— А мы, Аўдоля, Богам беражоны,
От тутака сядзім, на ўскраі зоны.
З'ядае радыяцыя здароўе.
На вуліцы глушэча, бескароўе.
Дужэйшыя разбегліся даўно —
І следу на дарозе не відно.
Буханкі хлеба несла праз сяло,
Дзе шчэ жыццё астатнікаў гуло.
Старыя з лаўкі скмецілі яе,
Калі ішла сцягою з глыбі сада.
Хаўрусніцы. Калісь адна брыгада.
Ківалі-звалі. Ціха прыстае,
Глядзіць няцямна, як не пазнае,
Нібы сустрэчы гэтай і не рада.
— Авохці мне. Аўдоля! Ета ты? —
Старэчы бас, паўнюткі глухаты,
Яе вітаў.— То ж я, Пятрова Тэкля!
І вочы глыбачэзныя аж пеклі,
Глядзелі ў твар. Падслепыя краты,
Адась і Волесь, зухі-кавалеры,
Ёй адчынялі ў хату Тэклі дзверы,
Пыталіся за чаркаю: — Як ты?
— Да от жыву, вярнулася...— яна
Сказала ўсё, што тузала здаўна,—
І што, і як, і тут яна чаму.
— Давай ка мне, Аўдоля, на зіму,—
Умлеўна просіць згарачэлы Волесь.—
Маіх сватоў павыставіла калісь.
Чаму не йшла — і сёння не пайму!
— Дай ты ў мой бок не соладка глядзеў!
Сівенькі Волесь быццам маладзеў:
— А што глядзець? Ты іншага абрала!

Табе зямлі хацелася! Замала
Турбот было, ярма на ўсе гады.
Дак радуйся. Абрэзалі. Тады
Усіх звяло ў адно абагульненне.
Яно прыйшло — ад катаргі збавенне.
Яму — хвала! Я й сёння малады!
А ўжо калі ты прагнеш так зямлі —
Уся твая. Пустэчыя палі.
Бяры і пляж. На ёй хоць лежма ляж.
Адно узрост шаноўны свой уваж,
Ўжэ недалёка. Лічаныя дні.
За мной сягоння, дзеўка, адпачні!
— Да кеб ты спрах! — злуецца жартам тая,
А ў вочы глянь — вясна жыцця світае...

Хаўрусніцы прывецілі сяброўку,
Расчуленыя, скокнулі дамоўку,
Прынеслі ёй цыбулі па вянку,
Павесілі усцешнай на руку.
— Шчэ й бульбы дам. Якраз на гэтым тыжню,
Кума, адкрыць упраўлюся капец.
Падкіне лісапетаю хлапец.
— То дзякуй бо... Граду ў бадыллі выжну,
За дзень-другі і ўпраўлюся ў гародзе.
А хлопец як абвесціцца — калодзеж
Пачысціць кеб пасобіў, накажы.
Застаяўся дай залілі дажджы.
От хлеба, цукру, солі накупіла.
Сядзець у хаце буду — сэрцу міла.
Цалуе Тэкля сшэрхлую шчаку:
— Усё садзі! Града саграе душу!
Яшчэ табе сказаць я, кумка, мушу —
У хаце быць належна мужыку!
— Да ўжэ ж,— Аўдоля згодліва ківае,—
Зямліца нас заручыць-пахавае.
Яна пайшла. Быльнёг, як нікалі,
Збіваў, хінуў, здаецца, да зямлі.
Ступалі ногі важкія. І ўсё ж
Шпарчэй пагнаў сцягой усчаты дождж,
Уподбег кінуў проста па быллі.

* * *

За тыдзень ледзь падшкрэблася. Жытло
Павеяла абжытым звычным духам.
Аднак пасцель не сталася ёй пухам,
Бо ноччу зводу думкам не было,
Імчаліся, падобна завірухам.

Бы зноўку несла з хаты розны хлам,
Быллё ламала, абмятала сцены,
Дух выганяла дамавінна-тленны,
Збірала шыбы, шкліла зеўру рам
І выступ ганка ладзіла каменны.

З суседскіх абязлюднелых двароў
На селішча сваё нанесла дроў,
Іх пад паветкай сонцам грае сценка.
І грубка ўпраўна дыхае цяплом.
Красуе яра полымя крылом.
Чыгун віруе з бульбаю. І пенка
Угневіцца-пральецца. Так салодка
У грубцы ціўкне спудлівы агонь.
Сядзіць, шчаку паклаўшы на далонь,
За табурэт — з бярэзіны калодка.
У гэтым познім прыхапе гадзін
Агонь у грубцы — весялун адзін.

Прад гвалтам-высяленнем незадоўга
Ёй шыферу прыдбаць паспела Ёўга.
Андрэй наехаў — пераладзіў дах.
І вось цяпер гады прайшлі, а хата
Сярод другіх стаіць малайцавата,
Што згорблена хаваюцца ў садах.

На вуліцы глухотнага сяла
Аўдоля адзінотніцай жыла —
Ні голасу ніводнага навокал!
Зара ўзгарэла, і зара зайшла,
Адбілася зырчаста ў шклінах вокан,
Ды ноч занізка зорыста лягла.

* * *

Ужо замлеў ружовым цветам сад.
Ды пчол няма. Нібы вясне не рад
Іх лёткі гул. Ацішанасць скразная.
Яна галінку крохкую кранае,
І тая, як павінная цвіценнем,
Калышацца на травах смутным ценем
І роніць рой пялёсткаў. Матылёк
(Адкуль узяўся!) завітаў, гулёк,
І вось між шчэці гонкай быльнягу
Шукае шлях. У вейную шугу
Зрывае вецер яблыневы цвет,
Цярусяцца, крыляючы, пялёсткі
І засцяць далеч амярцвелай вёскі,
Сабой віхурна затуляюць свет.
Суседзяў хаты. На падворак Вары
Больш не ступіць — разросся малінняк.
Ля копанкі — лаза, густы хмызняк,
Падалей — вязы статныя у пары
Укрылі голлем селішча Антося.
І паплавец здзічэў, дзе шматгалоссе
Заўжды было мурзатае дзятвы.
Без дроту слуп, нібыта вартавы,
Стаіць пахіла. Стужчына асфальту
Ў аблогы траў і набрыдзі лазы.
Зірнеш — і ў зрэнцы накіпам слязы
Туга ўсплыве. І ластаўчына сальта
Над Бірана бляшанкаю-страхой.
Рыдай, крычы. У скутасці глухой
Жыццё табе і плачам не адкажа.
Замжэе дзень. І хмар пагрозных сажа
Агорне неба змрочна над сялом.
Раздольна, гулка басавіты гром
Прысуд зямлі бязлюднай агалосіць,
Лісцё шуміць, дарунку ў неба просіць.
А ноч сляпуча сплюшчыцца, тады
Зямля наўсцяж паўнюткая жуды:
Ні вогніка мігцення трапяткога —
Адно звісае цемрыва скразное,
Ні голасу танюткага жывога,
Нібыта згасла ўсё жыццё зямное.
Угрэўшыся ля грубкі, у паўсне
Аўдоля лёс свой роздумна кране.

Была ў бацькоў адзіная дачка.
Пайшла ў замужжа. Пётру, мужыка,
Вайна забрала — паў пад Сталінградам.
Другі з сухотаў злёг пасля вайны —
На могілках тутэйшых бачыць сны.
І колькі год, як жыта, секла градам
Гаротлівую жытку удавы.
Ўпражэшся — не падымеш галавы:
Вязанкай дровы з хвойніку насіла,
Упоравень з мужчынамі касіла,
Дзяцей пяцёра — сірацін пяцёра.
Куды падзецца? Скрозь бяда і гора.
Павыраслі. Вядуць жыццёвы рэй.
Дачкі дзве ў Закаўказзі прэюць летам.
Хлапцы два ў Казахстане дзесь за светам.
У Беларусі меншы сын Андрэй.
Калі было, трымаў падол спадніцы,
А сёння во — прахвесар у сталіцы!

Шугае грубка. Блікаў россып косы —
Ўсцяж па тынкоўцы водсветы агню.
Знадворку гукі рушаць цішыню.
«О Божухна,—ўзлятаюць думкі-восы,—
Каго нясе? За месяц ўпершыню!»
Парыўна сенцаў адчыняюць дзверы —
Увальваюцца міліцыянеры.
Узбудна калыхнуўся хаты морак,
Ліхтар сячэ Аўдолю па вачах.
Агонь і той ад зляканкі зачах.
Бліжэй да ложка мкнецца кіцель шэры:
— Арсен, глядзі ты, баба-самасёлка!
— Да ўжэ ж, глядзіце... з етага пасёлка!
Я тут жыла, ад'ехалася ў госці.
— Не бачылі гадамі, цётка, штосьці!
— Ды, ведама, не бачылі гады.
Пад стол хадзілі пешша вы тагды!
— Туліцца, цётка, ў адзіноце страшка.
Лепш стол накрый, была б закуска, пляшка...
Аўдоля ўжо на іх не чуе зла,
Адно ўздыхае: — Некалі была...
Усё было, як жытцы тое трэба,
І хлеб тут быў, сыночкі, і да хлеба.
Да от Чарнобыль ненасытны зжор!

На момант нейкі ў сціхласці замёр
Вышэйшы, той, што вёў вясёлы рэй,
Спіною прытуліўся да дзвярэй.
Смужэў у бляску грубкі твар ягоны,
Няроўна нейк уздрыгнулі пагоны:
— Начуй сягоння. Заўтра — прэч дадому!
Тут пекла, цётка...
— Ета мне вядома...
Не ў меншым пекле жытку пражыла.
Тут дома я. Дамоў сюды прыйшла.
— Заедзем заўтра, цётухна, з нарадам!
— Не страш... Адсюль не зрушыш і снарадам!
У вас, гняўцы, не тое ў галаве.
Падкіньце хлеба лепш куліткі дзве.
От грошы дам,—яна прыўстала цяжка,—
Шчэ й астанецца... Будзе вам і пляшка!

Назаўтра каля хаты пад абед,
Пусціўшы дыму, зглух матацыклет.
— Ну, баба, нам задачу задала,—
Вышэйшы ўжо казаў без ценю зла.
Другі стаяў, трымаў аберуч сумку:
— Не хвалім, цётка, мы тваю прыдумку —
Унесла ў нашу жытку непакой!
— Не жальцеся... Да ўжэ ж бяды такой.
От лета пералетую, а там
Адсюль падамся, ціша будзе вам.
У выселках патолі не багата:
Ляжу, не сплю, ўсё думаю, як хата?
Каторы год па траўцы не ступала...—
Аўдоля жаласліва наступала.
— Ды што казаць. Ў мяне свая старая.
Зачэпіш словам — стогне, памірае.
Заведама, без клёку ў галаве,
Шчэ нас, дзяцей сваіх, пераживе.
Мы гэтай радыяцыі хапілі,
Што пратачыла ўжо, здаецца, косці.
— Не ўсю яе ў гарэлцы утапілі! —
Другі азваўся ў хмельнай весялосці.
— Дамовімся: жыві сабе сезонна.
Няведама — тут зона ці не зона.
Даўно няма спакою галаве.
Скрозь набрыдзь несусветная плыве.
Тут нечысці-адступніцы — раздолле!

Бадзяецца, павыйшаўшы з турмы.
Спалохана стаілася Аўдоля.
— Не бойся, цётка, недалёка мы!
Ішла ты са Стралічава, наўпрост?
Ці бачыла? Ля Бабчына наш пост!

* * *

Сягоння з самай раніцы Аўдоля
Святочнае адзела, град не поле.
Яшчэ учора начыста ў хаціне
Прыбралася. У квечанай хусціне
Прастуе вулкаю да панскіх верб,
І месяца ледзь кметны бледны серп —
Цікаўны падарожны між нябёс —
Услед глядзіць ёй. Поўна смуты, слёз,
Багата раз часінаю такою
Яна з душой хадзіла трапяткою,
Сябе як помніць, тут усе гады,
Бо гэты шлях ад вёскі на клады.
Мо з тыдні два, як ранак шызакрылы
Устрапянецца, подбегам яна
Ішла і шчыравала ад відна,
Дзе даўнія радзінныя магілы,
На ўсе клады, як макаўка, адна.
Па-над грудочкам кожным бедавала,
Траву-сухотку, пальцы сцяўшы, рвала,
Спярша сваіх — матулі, бацькі, Хведзі,
Затым былі ўжо родзічы, суседзі.
І праўдзе той здзіўлёная была:
Радні ў яе не менш, як паўсяла!
Сядзеў быльнёг у пояс, малады
І ссохлы, не крануты ні разочку.
Павыдзерла па каліўцу-кусточку
І знесла у канаву, за клады.
Стаяла ў драпкай шчэці, як між пекла,
Акацыі тупой сякерай секла,
Падалей несла колкае іх вецце,
Калола рукі ды каўтала вецер.
Умлеўшы ўтомна ў жаркі дзень пагодны,
Пачула голас Хведара лагодны.
Ён з неба плыў, здалося, з-пад аблок,
Казаў усцешна: «Бачу кожны крок.
Скупіла грэх прад небам ты спаўна».

Яна шаптала: «Ці ж мая віна,
Што ў пору тую з роднага жытла
Выгнальным шляхам, Хведарка, сышла?
Усе сышлі, каўтнуўшы горыч слёз.
Ды выйшла: мне вярнуцца выпаў лёс».

...Шчэ не дайшла, а скмеціла: прыстаў
Ля верб аўтобус, грэе рыжы бок,
І постаці віднеюцца здалёк
Ля брамкі, дзе распяцце-крыж Хрыста.
Народу поўна. Сам, здалося, крок
Прыцішыўся і рушыў з асцярогай
Зарослай азаранскаю дарогай.
З гадзіну так няцямная яна
Быллём густым па полі праставала,
Бы ад вачэй вяскоўцаў грэх хавала:
Не знаюць хай, што тут жыве адна.
Яна да іх падыдзе з Азярца,
Нібыта з супрацьлеглага канца
Дабавілася, скажа: ад залвіцы,
Што ў Азярцы. І будзе ўсяк дзівіцца,
І віду не падасць, што тут яна
Вяла парадкі-ўборы дзень пры дні.
Яе пазналі. Гучна ў цішыні
Суседкі зашапталіся: «Аўдоля...
Адкуль яна? Ідзе з чужога поля».
— Да от да вас я, таечкі мае!
Спылілася! На Радаўніцу от.—
Яна рукой са лба уцерла пот.
А Сцепа ўжо Млінцова чарку лье:
— На, памяні, кума, маіх сірот!
І поўныя прачулае спагады,
Паслаўшы ўсцяж магілаў абрусы,
Сягоння, бы ў калішнія часы,
Сядзелі людзі.
— Бачыце, улады
Пра могілкі клапоцяцца. Як след
Дагледжаны, прыбраныя магілы.
А то ірвацца з жыл няма ўжэ сілы!
Хвала яму — упраўны сельсавет!

Яе ніхто з дакорам не пытаў,
Чаму дасюль, як з'ехала, ні разу
У дзень такі тут не была. Адразу
Суціхнуў боль, з грудзей сышоў, растаў.

Ў суладдзі душ душа яе вірыла,
З хаўрусніцамі ўцешна гаварыла,
Слязінка нагарнулася, цякла.
— У горад, кажуць, к сыну падалася.
— Да ўжэ ў цяпле, выгодзе нажылася.
— А нас, Аўдоля, жытка дапякла!
Харомы нашы, глянеш, любата,
Ды ў сценах звонам звоніць пустата.
З таго ўжо дня, як мы адсюль уцеклі,
Гады гібею, як у чорным пекле,
Да ўсё чакаю аднае пары,
Калі сюды от забярэ стары! —
Трубіла ў вуха Сцепа з гучным болем.
Глядзіць удалеч сумная Аўдоля
І бачыць што? Свайму не верыць воку:
Яе Андрэй... так блізка... у паўкроку...
Шыбуе да паседак напрасты:
— Я так і ведаў, во дзе, матка, ты!
— Прымчаўся бо! А я каторы год
Прасіла: «Едзьма!» — Ды маўчанкі лёд.
Андрэй прыстаў наводдаль. Ён задоўга
Паміж магіл чакальна хмура соўгаў,
А матка да машыны ўсё не йшла.
Ужо аўтобус полем да сяла,
Забраўшы хмельна ўгрэтых мужыкоў,
Трусіўся, ехаў. Плач з усіх бакоў
Над могілкамі нёсся — развітанні
З надрывам даўкім тых, хто у чаканні
Сустрэчы гэтай год трымаўся, жыў.
Андрэй пабліз самотліва кружыў.
Блішчэла «Волга» шклінай лабавой,
Ды ў нейкі момант знік гняткі настрой,
Які заняўся ў хаце напачатку,
Калі адкрыў, куды пагнала матку.
Было, дазнаўся, з'ездзіўшы,—ніколі
Яна й нагі не паказала ў Полі,
Адно ў запісцы зманліва сказала
Ды пазваніла з Гомеля, з вакзала,
Пасля яшчэ разы са тры маніла.
Адкуль яна з пустэльні тут званіла?!

Сасмяг, калі знайшоў жытло яе.
Глядзеў праз слёзы. Вока пазнае
Сляды былой маленскае пары.

У куце ложак. І услон стары.
Трохногі стол, ў раймагу ім прыдбаны.
Сядзеў за ім, віхрасты і ціхмяны.
Знянацку сэрца жарка запякло.
Ў акно зірнуў — і не пазнаў жытло:
Сцінала двор былы трава мярцвяча.
Здалося раптам: блізка ценька плача
Яго дзіцячы звонкі галасок.
Бы ён, хлапчук, сцяжынкаю ў лясок
Бяжыць і сёння на сугрэве дзён.
Сябе здаля, малога, чуе ён.

Вунь матка з поля вязанку нясе.
Браты і сёстры на двары. Усе!
Уява прагавітая сабрала
Слухмяна іх на затравелы двор.
Калі ўскружыў жыцця былы віхор,
Ў грудзях раптоўна жару хваля спала.

— Цяпер адны з табою, сыне, тут! —
Прагнала одум матка. След пакут
На твары лёг яе непрыхавана.
Шчэ больш старая ўсохла. Нечакана
Бы самі рукі абнялі за плечы,
Парыў цяпла шчымотны, чалавечы,
Далёкі ўжо ад назірку людзей,
Гарнуў былінку-маці да грудзей.
Яна, на іх зайшоўшыся у плачы,
Пачула сэрца ўзрушны стук гарачы,
Пазнала ўзрыдна — матцы не чужы.
Ішлі ўдваіх. Магільныя крыжы
Іх абступалі горкую пуціну.
Шаптала ўслых яна — і небу й сыну:
— От, Хведар, глянь, з сынком к табе іду.
Запознена, у Бога на віду.

* * *

Ля маткі ў несыходнай цішыні
Андрэй цяпер клапотна бавіў дні.
Званіў ён з запаведніка Наташы,
Казаў адно: «У норме справы нашы!»
Ды зноў шторанак на машыне ён
Імчаў па справах пільных у раён.

Галоўнаю была з яго патрэб
Дабіцца, каб вазілі матцы хлеб.
Абіў парогі ў Хойніках не раз,
Пакуль дамогся, каб паставіць газ.
Дамовіўся, настойлівы заўжды,
Прабіць калонку, каб здабыць вады.
Ківаў хто прахалодна, хто гарача.
Усім казаў:
— Мая тут будзе дача!

Усцешна старшыня райвыканкома
Вучонага заўжды прымаў. Вядома —
Ухвальны факт, спадзеўка напярод:
У зону хутка рынецца народ!
Калі вучоны едзе чалавек —
Ёй не гібець у травах дзікіх век!
Спадзеўна цешыў сэрца роздум гэты,
Калі ўяўляў — азвоняцца газеты,
Напішуць і суладна, і прыстойна,
Як дыхаюць тут цэзіем спакойна.
Ну а яму для лёсу паляпшэння,
Магчыма, блісне хутка й павышэнне.

Аўдоля ўсяк таму пратэставала:
— Жыць буду так, як жытку звекавала!
Мне от ужэ, сынок, такой бяды,
Каб хлеба луста ды глыток вады,
А еты газ... і ў печы пратаплю,
Салоніка з прыгаркаю люблю.
Зародзіць хутка бульба маладая,
Гародчык мой люботна выглядае,
Ўсё ёсцека — цыбулька і часнок.
Не рупся етак клопатна, сынок!
Тут не жыццё двоім нам — Божы рай,
Лепш распраніся, ляж — пазагарай!
«Была б жывою кожная хаціна,
Кеб каждай во да етакага сына!»

Пад вечар нейк, аж каркнулі вароны,
Спыніўся ЗІЛ. Андрэеў друг — вучоны,
Дырэктар запаведніка быў рады
Параду даць, як трэба дбаць пра грады,
Каб цэзій не падцяў раслін карэнне,
Ляжаў глыбока. Аграпаўтарэнне
Назаўтра сын унікліва праводзіў,

Аж палец сам матыкаю пашкодзіў.
Калі ж на грады скіравала вока,
Жахнулася: барознамі глыбока
Кусточкі бульбы скроены, пабіты.
— Вучыся, матка!
Буркнула:
— Ды йдзі ты!

* * *

— Што ж, летуй лета.— Спешліва Андрэй,
Хапіўшы сумку, рушыў да дзвярэй.
Андрэй паехаў. Ледзьве ўгаварыла.
Нявестка вушы сыну прадурыла.
Быў як не свой заўжды пасля званка,
Не браў і скваркі, торкаўся ў газету.
«О ўжэ паслала неба шэльму ету,
Вяроўкі віць гатова з мужыка!»
Ды ў прыхватках дужэючых святла
Злосць на нявестку чутая сышла.
Знаходзіла, што ўсё-ткі сыну пара,
А нервы — то вучонасці ахвяра.
Прыбраўшы міску з лыжкай са стала,
Спяшалася дагледзець агарод:
Жукоў збірала, нішчыла асот.
Адно калі наўкруг, было, глядзела,
Уся душой і целам халадзела.
Цяпер, між лета, ў яблыках сады —
Антосеў сад завалены ападам.
«От Галя колісь млела... Злыдням-гадам
Давала ўзбучку гнеўна заўсягды.
А сёння сцежкі пазаплёў быльнёг —
Чарнобыль сад ад трускі усцярог!
Унь як угнуўся жытнік — аж чырвоны!» —
Аўдоля роніць горка ўздых стамлёны
І знае: тое чуе толькі Бог.

Ля хаты Вары вымахала груша.
Там, у выгнанні, згасла ўжо Варуша,
А груша от — аж глянуць любата.
Прасіць шчапіць хадзіла к Варывону:
«Унукам будзе!» Ні галасу-звону,
Адна над хатай стала глухата.
Усцяж мяжы палын парос сівенны.

Наводшыбе жытло. Васіль Раменны
Шыкоўна там калісь раскашаваў,
Сушыў сянцо ў дзялянках. Яго Маня
Ў лясніцтва бегла вулкаю шторання.
Засілілася — Маню пахаваў.
Ды недалёка смерць аднесла джала.
Дачка дзіця задушаным раджала,
Крывёй сплыла — памерлаю знайшлі.
Мо то й бяду наклікала-назвала,
Суцэльна смерць бытуе на зямлі.

Раз-пораз разгінаецца Аўдоля.
Маркотнае, пустэльнае ваколле.
Куды ні гляне — памяці прамень.
Глядзяцца твары, нібыта ■ іконы.
Залоціцца сухотным сонцам зоны
Над вечнай працаўніцай летні дзень.

Ужо з-за сценкі бору Макіскога
Зірнула сонца збарвянела строга.
Аўдоля ледзьве ўздумала спыніцца:
«Спачыць пара бо, натрудзіла спіну.
Табе гарод калючы будзе сніцца,
Калі заляжаш спаць і ў дамавіну!»

Вячорак нетаропка, палахліва
Насоўваўся агусласцю на хаты,
Як той хлапчук, баяўся спекчы пяты,
Бо ўсцяж раскошна дыбіцца крапіва,
Зіхоту зорак сыпаў драбнаватых.

Аўдоля маладзела бліз калонкі.
Струмень вады, лагодлівы і звонкі,
Сек па руцэ — управіста качала,
Як сын вучыў, жалезную дзяржанку.
Вядро з вадой паставіла на ганку,
Твар мыючы, сваволячы, крычала.
Хто мог пачуць дуросную ляканку?!
Адзіна рэха хрыпла ёй гукала.

У хаце лямпа пырснула святлом.
Усклаўшы рукі чынна над сталом,
Аўдоля ледзь дрыжачымі губамі
Шаптала словы. Тыя быццам самі

Плылі у морак звычліваю плынню,
Душу наскрозь азорвалі святлынню:
«Дай вечнай моцы, Госпад, чалавеку.
Цяжар жыцця, дарованага небам,
Яму ў вятрах скразных трываць адвеку
І гараваць штодня над потным хлебам.
Пасоб сляпому, спаталі калеку.
За вас, суседкі-страдніцы, малюся —
Алена, Вара, Прося і Маруся.
Вам вечны сон ды сшэрхлыя крыжы.
У царстве небным супакойце душы,
Хай згукаў гора больш не чуюць вушы
На той, сыходнай з вечнасцю, мяжы.
І ты, зямля, слязінаю паліта,
Вярні цяпло, радзі жывое жыта,
Як некалі радзіла з году ў год
Няхай растопяць цэзій нашы слёзы.
Ратуй, Гасподзь, сляпцоў няцямных лёсы,
Як ратаваў не раз паміж нягод.
Зямное ліха, незваротна згінь.
Амінь».

*Уладзімір Цалко*

## ЧАРНОБЫЛЬ: УЧОРА, СЯГОННЯ, ЗАЎТРА

На тэрыторыі Беларусі пятнаццаць гадоў назад у выніку буйнейшай у сусветнай гісторыі тэхнагеннай катастрофы на Чарнобыльскай АЭС выпала 70 працэнтаў прадуктаў работы ядзернага рэактара, што ўзарваўся. У пачатковы перыяд па ўсёй плошчы Беларусі распаўсюдзіліся кароткажывучыя радыенукліды, перш за ўсё ёду. Амаль чвэрць тэрыторыі і практычна кожны пяты жыхар Беларусі да сённяшняга дня адчуваюць уздзеянне доўгажывучых радыенуклідаў цэзію, стронцыю і трансуранавых элементаў. Значная калектыўная доза, атрыманая насельніцтвам рэспублікі, негатыўна адбіваецца на яго здароўі. Нанесены ўрон, які ў грашовым выражэнні перавышае 235 мільярдаў долараў, або звыш 30 гадавых бюджэтаў рэспублікі, сур'ёзна тармозіць развіццё эканомікі. Але беларускі народ, кіраўніцтва рэспублікі, органы дзяржаўнага кіравання знайшлі ў сабе сілы супрацьстаяць бядзе, а маштабнасць ажыццёўленых мерапрыемстваў па перадоленню вынікаў аварыі не мае аналагаў у гісторыі.

Дарэчы будзе коратка асвятліць важнейшыя мерапрыемствы, праведзеныя на ранніх этапах аварыі. Агульнае кіраўніцтва імі ў красавіку — маі 1986 года ажыццяўлялася ўрадавай камісіяй Савета Міністраў СССР і Міністэрствам аховы здароўя СССР. Гісторыя сведчыць як аб складанасці прыняцця рашэнняў па праблемах аварыі

ў той перыяд, так і аб марудлівасці, што мела месца, ды аб недастатковай прапрацоўцы нарматыўных актаў.

Урадам Беларусі з 5 мая па 9 снежня 1986 года былі прыняты 32 нарматыўныя дакументы, накіраваныя на правядзенне засцерагальных мерапрыемстваў. Было прынята цяжкае, але неабходнае рашэнне аб эвакуацыі насельніцтва. Толькі на працягу 1986 года з беларускай зоны аварыі было эвакуіравана 24 700 жыхароў са 107 найбольш пацярпелых паселішчаў. Для абмежавання дозы ўнутранага апрамянення былі ўведзены часовыя дапушчальныя ўзроўні забруджання ізатопамі цэзію прадуктаў харчавання і вады.

На найбольш забруджаных тэрыторыях сіламі інжынерных войскаў і грамадзянскай абароны праводзілася масавая дэзактывацыя населеных пунктаў. Толькі за межамі 30-кіламетровай зоны было дэзактывавана каля 500 населеных пунктаў, прычым 60 працэнтаў з іх — два-тры разы. У выніку ўдалося дасягнуць некаторага змякчэння радыяцыйнага становішча. Аднак правядзенне поўнай дэзактывацыі населеных пунктаў, сельскагаспадарчых і прамысловых аб'ектаў для стварэння нармальных умоў жыццядзейнасці аказалася нерэальным з прычыны таго, што неабходныя аб'ёмы работ нашмат перавышалі магчымасці іх выканання. З 1989 года аб'ёмы дэзактывацыйных работ былі скарочаны, а найбольш радыкальнай ахоўнай мерай засталося адсяленне. Трэба адзначыць, што дэзактывацыйныя работы вядуцца і да гэтага часу, аднак яны маюць абмежаваны характар і праводзяцца на найбольш важных з пункту гледжання жыццезабеспячэння аб'ектах і тэрыторыях.

Трохгадовы вопыт работ дыктаваў неабходнасць вырашэння праблем вынікаў чарнобыльскай аварыі на агульнадзяржаўным узроўні. Улічваючы маштабы ўрону і задач, якія трэба было вырашаць, у Беларусі ствараецца ўрадавая камісія, якой даручаецца правядзенне ўсяго комплексу мерапрыемстваў па абароне насельніцтва, пражываючага на забруджанай радыенуклідамі тэрыторыі. Рашэнні камісіі з'явіліся асновай для фарміравання адпаведнага нарматыўна-прававога забеспячэння ва ўмовах, калі ні заканадаўчай базы, ні практыкі яе стварэння ў рэспубліцы не было.

22 сакавіка 1989 года ЦК КПБ і Савет Міністраў СССР прынялі пастанову аб распрацоўцы Дзяржаўнай праграмы пераадолення ў Беларускай ССР вынікаў аварыі на Чарнобыльскай АЭС на 1990—1995 гады і да 2000 года. Такая

праграма была створана, у ліпені 1989 года адобрана адзінаццатай сесіяй Вярхоўнага Савета БССР, але вернута на дапрацоўку. На гэтай жа сесіі рэспубліка была аб'яўлена зонай нацыянальнага экалагічнага бедства. Канчаткова праграма была прынята на дванаццатай сесіі Вярхоўнага Савета ў кастрычніку 1989 года. Яе аснову складалі: ажыццяўленне комплексу мер па максімальнаму зніжэнню дозы радыеактыўнага апрамянення; забеспячэнне захавання здароўя людзей за кошт медыцынскай прафілактыкі, аздараўлення, сацыяльнага забеспячэння і адсялення з населеных пунктаў, якія не адпавядаюць крытэрыям бяспечнага пражывання; стварэнне бяспечных для здароўя чалавека ўмоў жыццядзейнасці ў раёнах, якія падвергліся радыеактыўнаму забруджанню; павышэнне якасці жыцця насельніцтва гэтых раёнаў; навуковае даследаванне праблем, звязаных з радыяцыйным уздзеяннем на чалавека, экасістэмы і інш.

У красавіку 1990 года Вярхоўным Саветам СССР была зацверджана Дзяржаўная саюзна-рэспубліканская праграма неадкладных мер па ліквідацыі вынікаў аварыі на Чарнобыльскай АЭС. Аднак пасля распаду Савецкага Саюза Рэспубліка Беларусь засталася адзін на адзін з усім комплексам чарнобыльскіх праблем.

28 ліпеня 1992 года Прэзідыумам Савета Міністраў была адобрана Дзяржаўная праграма па пераадоленню ў Рэспубліцы Беларусь вынікаў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС на 1993—1995 гады і на перыяд да 2000 года. Да нядаўняга часу дзейнічала зацверджаная Саветам Міністраў Дзяржаўная праграма Рэспублікі Беларусь па мінімізацыі і пераадоленню вынікаў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС на 1996—2000 гады. У 2000 годзе прынята Дзяржаўная праграма па пераадоленню вынікаў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС на 2001—2005 гады і на перыяд да 2010 года. Гэта сведчыць пра тое, што вырашэнне чарнобыльскіх праблем у Беларусі будзе заставацца на агульнадзяржаўным узроўні яшчэ доўгі час. У рэспубліканскім бюджэце расходы на чарнобыльскую праграму складаюць значную частку.

Вярхоўным Саветам Рэспублікі Беларусь у 1991 годзе былі прыняты законы «Аб сацыяльнай абароне грамадзян, пацярпеўшых ад катастрофы на Чарнобыльскай АЭС» і «Аб прававым рэжыме тэрыторый, якія падвергліся радыеактыўнаму забруджанню ў выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС».

Закон Рэспублікі Беларусь «Аб сацыяльнай абароне грамадзян, пацярпеўшых ад катастрофы на Чарнобыльскай АЭС» устанавіў абарону правоў і інтарэсаў грамадзян, якія прымалі ўдзел у ліквідацыі вынікаў катастрофы ці адселены і выехалі на новае месца жыхарства з тэрыторый радыеактыўнага забруджання, дзе і пражываюць у цяперашні час, ■ таксама грамадзян, якія ўдзельнічалі ў ліквідацыі або пацярпелі ад аварый і іх вынікаў на іншых ядзерных аб'ектах грамадзянскага ці ваеннага прызначэння, пацярпелі ў выніку выпрабаванняў, вучэнняў і іншых работ.

Закон «Аб прававым рэжыме тэрыторый, якія падвергліся радыеактыўнаму забруджанню ў выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС» накіраваны на зніжэнне радыяцыйнага ўздзеяння на насельніцтва і экалагічныя сістэмы, ажыццяўленне прыродааднаўленчых і ахоўных мерапрыемстваў, рацыянальнае выкарыстанне прыроднага, гаспадарчага і навуковага патэнцыялу гэтых тэрыторый.

Заканадаўча вызначаны паняцці нацыянальнага радыяцыйнага экалагічнага бедства, тэрыторыі радыеактыўнага забруджання, радыяцыйна небяспечных зямель, зямель адчужэння, зямель абмежаванага гаспадарчага выкарыстання і інш.

У 1998 годзе Нацыянальным сходам быў прыняты Закон Рэспублікі Беларусь «Аб радыяцыйнай бяспецы насельніцтва». Гэты закон накіраваны на ўдасканаленне сістэмы радыяцыйнай бяспекі ў рэспубліцы, яе пераход на прынцыпы і нормы радыяцыйнага кантролю, якія адпавядаюць міжнародным стандартам і рэкамендацыям.

Пастановай Вярхоўнага Савета ў 1991 годзе ў рэспубліцы быў утвораны Дзяржаўны камітэт па праблемах вынікаў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС, які ў 1994 годзе быў пераўтвораны ў Міністэрства па надзвычайных сітуацыях і абароне насельніцтва ад вынікаў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС, у 1995 годзе — у Міністэрства па надзвычайных сітуацыях, а ў 1998 годзе — у Камітэт па праблемах вынікаў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС пры Міністэрстве па надзвычайных сітуацыях Рэспублікі Беларусь (Камчарнобыль). Асноўнымі задачамі Камчарнобыля з'яўляюцца ажыццяўленне дзяржаўнай палітыкі ў галіне абароны насельніцтва ад вынікаў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС, забеспячэнне дзяржаўнага нагляду за аховай і выкарыстаннем тэрыторый, якія падвергліся радыеактыўнаму забруджанню.

Дзякуючы намаганням органаў дзяржаўнага кіравання, вучоных і спецыялістаў шэраг праблем удалося вырашыць. Створана заканадаўчая і нарматыўна-прававая база практычна па ўсіх напрамках дзейнасці па пераадоленню вынікаў аварыі. Ажыццяўляецца вялікі аб'ём ахоўных мер у аграпрамысловым комплексе, што дазваляе трымаць пад кантролем вытворчасць сельскагаспадарчай прадукцыі. Створана і надзейна функцыянуе сістэма радыяцыйнага кантролю і маніторынгу.

У раёнах, забруджаных радыенуклідамі, ажыццяўляецца комплекс мер па павышэнню ўзроўню медыцынскага абслугоўвання, праводзіцца маніторынг стану здароўя насельніцтва. Паглыбленае медыцынскае абследаванне штогод праходзіць больш мільёна чалавек. Дзейнічае сістэма сацыяльнай абароны ўсіх катэгорый пацярпеўшага насельніцтва.

Вялікія намаганні былі накіраваны на зніжэнне радыяцыйнай рызыкі здароўю людзей, стварэнне нармальных умоў жыццядзейнасці як для перасяленцаў, так і для тых, каму давялося працягваць жыць ва ўмовах радыеактыўнага забруджання. Выведзены з гаспадарчага карыстання найбольш забруджаныя землі — 6,7 тысячы квадратных кіламетраў (больш за 3 працэнты тэрыторыі рэспублікі), у тым ліку 2,64 тысячы квадратных кіламетраў сельскагаспадарчых угоддзяў. Адселена з найбольш забруджаных тэрыторый у чыстыя раёны рэспублікі больш за 135 тысяч чалавек. На сённяшні дзень адсяленне жыхароў у асноўным завершана. З пражываючых у зоне наступнага адсялення больш пяці тысяч чалавек выказалі жаданне выехаць каля дзвюх тысяч.

Толькі за перыяд з 1986 года пабудавана 64 836 кватэр, або 4519,4 тысячы квадратных метраў жылля. Адначасова вырашалася задача абуладкавання пасёлкаў для перасяленцаў. За гэты час пабудавана агульнаадукацыйных школ на 44 072 вучнёўскія месцы, дзіцячых дашкольных устаноў — на 18 470 месцаў, амбулаторна-палiклінічных устаноў — на 20 922 наведванні ў змену, бальніц — на 4160 ложкі.

З мэтай забеспячэння чыстым палівам насельніцтва, якое пражывае ў забруджаных радыенуклідамі раёнах, у рэспубліцы пракладзена 1898,26 кіламетра сетак газаправодаў. Для паляпшэння ўмоў пражывання насельніцтва на забруджаных тэрыторыях пабудавана 1847,04 кіламетра сетак водазабеспячэння, праведзена добраўпарадка-

ванне населеных пунктаў, жывёлагадоўчых фермаў, механізаваных двароў і іншых аб'ектаў.

У сувязі з тым, што каля 70 працэнтаў калектыўнай дозы фарміруецца за кошт паступлення радыенуклідаў з прадуктамі харчавання, для пацярпелых тэрыторый першаступеннае значэнне маюць мерапрыемствы, накіраваныя на атрыманне прадукцыі з утрыманнем радыенуклідаў у межах дапушчальных узроўняў. З гэтай мэтай у рэспубліцы ажыццяўляецца комплекс ахоўных мер. Ён уключае вапнаванне кіслых глеб на ўгоддзях са шчыльнасцю забруджання цэзіем-137 вышэй 5 Кі/км$^2$ і стронцыем-90 вышэй 0,3 Кі/км$^2$ (больш чым 40 тысяч гектараў у год); унясенне павышаных доз фосфарных і калійных удабрэнняў на ўсёй забруджанай цэзіем-137 вышэй 1 Кі/км$^2$ плошчы сельскагаспадарчых угоддзяў; унясенне пестыцыдаў пад сельскагаспадарчыя культуры пры шчыльнасці забруджання цэзіем-137 звыш 5 Кі/км$^2$; карэннае паляпшэнне пашаў і сенажацей для жывёлы прыватнага і грамадскага сектара (патрэбнасць складае каля 12 тысяч гектараў для прыватнага і 75 тысяч гектараў для грамадскага сектара); выкарыстанне цэзійзвязваючых сарбентаў (у Беларусі наладжана вытворчасць болюсаў (у асноўным для грамадскага сектара), якая здольна задавальняць поўную патрэбнасць — 30 тысяч тон у год; камбікорму з ферацыянідам (у асноўным для прыватнага сектара) да 5 тысяч тон у год); радыяцыйны кантроль, у які ўваходзяць абследаванне сельгасугоддзяў, кантроль за якасцю прадукцыі па цэзію-137 і стронцыю-90.

У поўнай адпаведнасці з нарматыўнымі дакументамі ажыццяўлялася набыццё гербіцыдаў, спецвопраткі, сродкаў індывідуальнай абароны, а таксама правядзенне дадатковых работ па догляду за адкрытымі ўнутрыгаспадарчымі меліярацыйнымі сістэмамі.

Ажыццяўленне гэтых мер разам з прыроднымі працэсамі самаачышчэння і замацавання радыенуклідаў дазволіла за гады, якія прайшлі пасля аварыі, у шмат разоў зменшыць утрыманне радыенуклідаў у сельскагаспадарчай прадукцыі: цэзію-137 — у дзесяць разоў і стронцыю-90 — у два-тры разы.

Неабходным напрамкам работ па пераадоленню вынікаў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС з'яўляецца забеспячэнне ўтрымання адчужаных і адселеных тэрыторый. Зона адчужэння займае плошчу 170 тысяч гектараў. У мэтах прадухілення пераносу радыенуклідаў на менш забру-

джаныя тэрыторыі, аховы лясоў ад пажараў, вывучэння стану прыродна-раслінных комплексаў і вядзення радыяцыйна-экалагічнага маніторынгу ў ёй створаны Палескі дзяржаўны радыяцыйна-экалагічны запаведнік. Зона адсялення разгрупавана і займае тэрыторыю ў 450 тысяч гектараў у 15 раёнах Гомельскай і Магілёўскай абласцей.

У сувязі са значным забруджаннем радыенуклідамі лясоў рэспублікі (на падведамнай Міністэрству лясной гаспадаркі тэрыторыі забруджана 1719,8 тысячы гектараў, або 25,6 працэнта лясоў) дзяржаўнымі праграмамі прадугледжваўся вялікі аб'ём ахоўных мерапрыемстваў, накіраваных на забеспячэнне радыяцыйнай бяспекі работнікаў лесу і насельніцтва, якое карыстаецца прадукцыяй лесу, прадухіленне пераносу радыенуклідаў на больш чыстыя тэрыторыі.

Адной з асноўных ахоўных мер у лясной гаспадарцы з'яўляецца ахова лесу ад пажараў. З гэтай мэтай створаны супрацьпажарныя разрывы і мінералізаваныя палосы, забяспечваецца догляд за імі, устаноўлена неабходная колькасць супрацьпажарных вышак і ажыццёўлены шэраг іншых мерапрыемстваў.

Для зніжэння знешняй дозавай нагрузкі на насельніцтва ў найбольш забруджаных населеных пунктах працягваюцца дэзактывацыйныя работы ў адпаведнасці з прынятымі крытэрыямі ўмяшання. Працягваецца распрацоўка і ўдасканаленне комплексных тэхналогій, спосабаў і сродкаў дэзактывацыі, а таксама перапрацоўка і захаванне ў могільніках радыеактыўных адходаў.

У адпаведнасці з законамі «Аб сацыяльнай абароне грамадзян, пацярпеўшых ад катастрофы на Чарнобыльскай АЭС» і «Аб прававым рэжыме тэрыторый, якія падвергліся радыеактыўнаму забруджанню ў выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС» у Рэспубліцы Беларусь створана і функцыянуе сістэма радыяцыйна-экалагічнага маніторынгу і радыяцыйнага кантролю. Толькі ва ўстановах аховы здароўя выкарыстоўваецца звыш дзвюх тысяч адзінак радыеметрычнага і спектраметрычнага абсталявання, на якім штогод даследуецца каля 200 тысяч проб прадуктаў харчавання. Пастаянны кантроль сыравіны і харчовай прадукцыі ажыццяўляецца і ў сістэме Міністэрства сельскагаспадарчага харчавання. Тут штогод аналізуецца больш за 11 мільёнаў проб на цэзій-137 і каля 18 тысяч — на стронцый-90.

Практычна завершана работа па вызначэнню статусу населеных пунктаў, што адносяцца да зоны наступнага адсялення і маюць дэмаграфічную перспектыву. Па статусу гэтых населеных пунктаў урадам прыняты пастановы, згодна з якімі іх жыхары маюць права на атрыманне поўнай інфармацыі аб радыяцыйным становішчы і магчымых выніках апрамянення для іх здароўя і на яе аснове самастойна прымаць рашэнні аб перасяленні.

Выкананне неабходнага комплексу работ па пераадоленню вынікаў катастрофы патрабавала адпаведнага інфармацыйнага і кадравага забеспячэння. У ведамствах і арганізацыях, якія ажыццяўляюць радыяцыйны кантроль тэрыторый населеных пунктаў, сельскагаспадарчых угоддзяў і лясных масіваў, падземных і паверхневых вод і іншых аб'ектаў, створаны і вядуцца банкі даных аб стане радыеактыўнага забруджання. У рэспубліцы сфарміравана сістэма радыеэкалагічнай адукацыі, якая ўключае падрыхтоўку не толькі спецыялістаў з вышэйшай адукацыяй, але і дазіметрыстаў і радыеметрыстаў для лабараторый і пастоў радыяцыйнага кантролю. У вучэбныя планы медыцынскіх і сельскагаспадарчых вышэйшых навучальных устаноў уведзены спецыяльныя раздзелы па чарнобыльскіх праблемах. Адкрыты і новыя вышэйшыя навучальныя ўстановы для падрыхтоўкі спецыялістаў па радыяцыйнай медыцыне і радыеэкалогіі: Гомельскі медыцынскі інстытут, Міжнародны экалагічны універсітэт імя А. Сахарава. Разгортваецца сістэма асветніцкай работы з насельніцтвам пацярпелых тэрыторый.

Медыцынскія вынікі чарнобыльскай катастрофы абумоўлены прамым радыяцыйным уздзеяннем і ўзмацняюцца іншымі фактарамі (экалагічнымі, сацыяльнымі і эканамічнымі), што спрыяюць яму. У насельніцтва, якое пражывае на забруджаных тэрыторыях, адзначаецца пагаршэнне здароўя ў параўнанні з агульнарэспубліканскімі паказчыкамі. У першую чаргу гэта датычыцца паталогіі шчытападобнай залозы ў дзяцей, якая дакладна прызнана радыяцыйна-індуцыраванай. Комплекс неспрыяльных фактараў нерадыяцыйнай прыроды адбіўся і на саматычным здароўі. Так сярод насельніцтва павялічылася доля асоб з хранічнымі кампенсаванымі і некампенсаванымі формамі паталогіі і адпаведна зменшылася ўдзельная вага здаровых людзей.

Непасрэдна пасля аварыі ў Беларусі пачаў ажыццяўляцца комплекс мерапрыемстваў па ахове здароўя дзяцей і дарослых.

З мэтай забеспячэння пастаяннага кантролю за станам здароўя больш чым двух мільёнаў чалавек (ліквідатараў, грамадзян, якія пражываюць на забруджаных тэрыторыях і адселеных з іх) у рэспубліцы распрацавана і ўкаранёна ў практыку спецыяльная сістэма медыцынскага забеспячэння пацярпеўшага насельніцтва. Вырашэнне гэтай задачы ажыццяўляецца тэрытарыяльнымі лячэбна-прафілактычнымі ўстановамі, спецыяльнымі выязнымі ўрачэбнымі брыгадамі і медыцынскім персаналам, які працуе на забруджаных тэрыторыях вахтавым метадам, створанымі спецыялізаванымі ўстановамі, а таксама абласнымі, рэспубліканскімі службамі і навукова-даследчымі інстытутамі. Ва ўстановах аховы здароўя выкарыстоўваецца звыш ста лічыльнікаў выпраменьванняў чалавека.

Праведзена перапрафіляванне шэрагу структурных падраздзяленняў лячэбна-прафілактычных устаноў, створаны новыя спецыялізаваныя аддзяленні. У забруджаных раёнах адкрыты кабінеты ультрагукавой дыягностыкі і эндаскапіі, у абласных цэнтрах працуюць імуналагічныя лабараторыі. Для насельніцтва, пацярпеўшага ад чарнобыльскай катастрофы, адкрыты Рэспубліканскі спецыялізаваны дыспансер у г. Мінску, спецыялізаваная клініка ў пасёлку Аксакаўшчына, умацаваны эндакрыналагічныя службы абласцей.

Аказанне кансультацыйнай і спецыялізаванай лячэбнай дапамогі, яе навуковае і метадычнае забеспячэнне ажыццяўляюць Навукова-даследчы інстытут радыяцыйнай медыцыны Міністэрства аховы здароўя і яго філіялы ў Гомелі, Магілёве, Віцебску. На базе Мінскага медыцынскага інстытута і Мінскага гарадскога анкалагічнага дыспансера створаны Рэспубліканскі спецыялізаваны цэнтр анкапаталогіі шчытападобнай залозы, у 9-й клінічнай бальніцы г. Мінска адкрыта аддзяленне па перасадцы касцявога мозгу.

З 1993 года вядзецца Беларускі дзяржаўны рэгістр асоб, якія падвергліся ўздзеянню радыяцыі з прычыны катастрофы на Чарнобыльскай АЭС. У яго занесены даныя аб больш чым 250 тысячах чалавек. Так, у рэспубліцы налічваецца 9985 інвалідаў, у якіх устаноўлена прычынная сувязь захворванняў з вынікамі чарнобыльскай катастрофы, з іх 1835 — дзеці і падлеткі. Штогод міжведамаснымі саветамі па ўстанаўленню прычыннай сувязі захворванняў з вынікамі катастрофы на Чарнобыльскай АЭС разглядаецца каля трох тысяч спраў.

З мэтай забеспячэння органаў аховы здароўя медыцынскімі кадрамі ўкаранёна кантрактная форма прыёму на работу медыцынскіх работнікаў, шырока выкарыстоўваецца мэтавы прыём студэнтаў у медыцынскія інстытуты, адкрыты Гомельскі медыцынскі інстытут.

Умацаванне матэрыяльнай базы аховы здароўя, выкарыстанне сучасных лячэбна-дыягнастычных тэхналогій і арганізацыйныя меры дазволілі практычна цалкам ахапіць дыспансернымі аглядамі як дзяцей, так і дарослых.

Аб'ём і накіраванасць мер па сацыяльнай абароне ўдзельнікаў ліквідацыі вынікаў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС вызначаюцца характарам іх работы і асаблівай ступенню рызыкі, якой яны падвяргаліся з першых дзён катастрофы на самых небяспечных і адказных участках. Пры гэтым першачарговая роля адведзена мерам па зніжэнню адмоўнага ўздзеяння апрамянення на здароўе.

У найбольшым аб'ёме кампенсацыі прадастаўляюцца асобам, якія сталі інвалідамі з прычыны аварыі, у тым ліку дзецям. Да іх адносяцца бясплатнае забеспячэнне лякарствамі і пуцёўкамі на санаторна-курортнае лячэнне і аздараўленне, дадатковы аплатны водпуск, грашовая кампенсацыя за ўрон здароўю і штогадовыя выплаты на аздараўленне, зніжэнне агульнаўстаноўленага пенсіённага ўзросту і пенсіённыя надбаўкі. Шэраг мер накіраваны на паляпшэнне матэрыяльнага становішча дадзенай катэгорыі грамадзян. Сюды ўключаюцца льготы па падаткаабкладанню і атрыманню крэдытаў, забеспячэнню жылой плошчай і атрыманню яе ва ўласнасць, праезду ў грамадскім транспарце і аплаце камунальных паслуг, надбаўкі да стыпендый і інш. Найбольш істотныя з вышэйназваных кампенсацый пасля смерці інвалідаў — удзельнікаў ліквідацыі вынікаў аварыі на Чарнобыльскай АЭС распаўсюджваюцца і на іх сем'і.

Не менш важная задача сацыяльнай абароны і пацярпеўшага насельніцтва. У цяперашні час яна з'яўляецца адной з вастрэйшых сацыяльна-эканамічных праблем, паколькі залежыць не столькі ад заканадаўчага рэгулявання, колькі ад фінансавых магчымасцей дзяржавы.

У мэтах захавання здароўя падрастаючага пакалення ўзрастае роля санаторна-курортнага лячэння і аздараўлення дзяцей і падлеткаў. У адпаведнасці з Законам Рэспублікі Беларусь «Аб сацыяльнай абароне грамадзян, пацярпеўшых ад катастрофы на Чарнобыльскай АЭС» права на бясплатнае аздараўленне і санаторна-курортнае лячэнне

ў рэспубліцы маюць больш за 516 тысяч чалавек, у тым ліку 437 тысяч дзяцей і падлеткаў. У 1999 годзе аздараўленне насельніцтва было арганізавана ў 164 здраўніцах рэспублікі, у тым ліку ў 17 санаторыях Украіны і Расіі. На гэтыя мэты са сродкаў рэспубліканскага бюджэту было выдзелена 9,5 трыльёна рублёў, што дало магчымасць аздаравіць крыху больш за 278 тысяч чалавек, з іх 235 тысяч дзяцей і падлеткаў.

Аднак, нягледзячы на тое, што ўдзельная вага затрат на аздараўленне ў агульным аб'ёме фінансавання на выкананне Закона «Аб сацыяльнай абароне грамадзян, пацярпеўшых ад катастрофы на Чарнобыльскай АЭС» штогод складае да 40 працэнтаў, пакуль адсутнічае магчымасць аздараўлення ўсіх пацярпеўшых грамадзян.

Камітэтам па праблемах вынікаў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС створана і развіваецца сетка рэабілітацыйна-аздараўленчых цэнтраў для дзяцей і падлеткаў, пацярпеўшых ад катастрофы на Чарнобыльскай АЭС. Агульная магутнасць дзеючых дзіцячых цэнтраў — 1500 месцаў, шасці цэнтраў, якія будуюцца,— 1450 месцаў. Цэнтры размешчаны ва ўсіх абласцях рэспублікі. У шасці дзеючых рэабілітацыйна-аздараўленчых цэнтрах Камчарнобыля («Ждановічы», «Пціч», «Лясная паляна», «Світанак», «Сідзельнікі», «Пралеска») на працягу 1999 года прайшлі аздараўленне 20 100 чалавек. Аздараўленне пацярпеўшых ад катастрофы ажыццяўляецца круглы год.

Нельга не адзначыць дапамогу, якую аказваюць Беларусі ў аздараўленні дзяцей краіны Заходняй Еўропы і далёкага замежжа. За апошнія пяць гадоў у 19 краінах за межамі рэспублікі (Германія, Італія, Францыя, Бельгія, Іспанія, Нідэрланды, Польшча, Чэхія, Аўстрыя, Швецыя, Швейцарыя, Ірландыя, Славакія, Балгарыя, Югаславія, Румынія, Вялікабрытанія, Люксембург, Японія) аздаравілася каля 220 тысяч дзяцей (звыш 50 тысяч штогод). Вялікі аб'ём работы ў гэтым плане праводзяць грамадскія арганізацыі.

Трэба прызнаць, што не ўсе мерапрыемствы, якія праводзіліся ў 1996—2000 гадах, прывялі да радыкальнага вырашэння намечаных дзяржаўнай праграмай задач. Такое становішча абумоўлена ў першую чаргу недастатковым фінансаваннем, што пастаянна падаўжае часавы перыяд вырашэння праблем радыяцыйнай абароны насельніцтва рэспублікі.

У прыватнасці, не вырашана поўнасцю задача забеспя-

чэння жыллём грамадзян, пацярпеўшых ад катастрофы на Чарнобыльскай АЭС. Затраты на капітальнае будаўніцтва ў 1996—1999 гадах прафінансаваны ў сярэднім толькі на 60 працэнтаў. Таму мы вымушаны ставіць пытанне аб пераносе незакончанага будаўніцтва на 2001 і наступныя гады.

Не вырашаны ў поўным аб'ёме і задачы забеспячэння ўмоў пражывання насельніцтва, якія б адпавядалі нормам радыяцыйнай бяспекі. Гэта будаўніцтва сетак газа- і водазабеспячэння, каналізацыйных сетак, станцый ачысткі пітной вады. Для вырашэння гэтых задач у пацярпелых раёнах неабходна прабурыць 144 артэзіянскія свідравіны, пракласці 1288 кіламетраў водаправодаў, здаць у эксплуатацыю 42 водазаборныя збудаванні. З мэтай газіфікацыі населеных пунктаў забруджаных раёнаў неабходна пракласці 480 кіламетраў газаправодаў-адводаў і 2780 размеркавальных газаправодных сетак.

Адным з важнейшых напрамкаў дзейнасці па пераадоленню вынікаў катастрофы застаецца ажыццяўленне ахоўных мер, накіраваных на далейшае зніжэнне радыяцыйнай рызыкі. Нягледзячы на ажыццёўлены комплекс мерапрыемстваў і дасягнуты ў шэрагу выпадкаў эфект, некаторыя пароджаныя катастрофай праблемы не толькі не вырашаны, але і абвастрыліся.

Як сведчаць вынікі навуковых даследаванняў, на частцы забруджаных тэрыторый маюць месца павышэнне міграцыйнай рухомасці стронцыю-90, адносны рост утрымання ў глебе амерыцыю-241, распад «гарачых часціц», лакальнае пераразмеркаванне радыенуклідаў і інш., што абумоўлівае павелічэнне пераходу радыенуклідаў з глебы ў расліны і можа прывесці да ўзрастання дозавых нагрузак на насельніцтва.

Па-ранейшаму актуальнай застаецца задача атрымання якасных прадуктаў харчавання. У цэлым па рэспубліцы доля вытворчасці малака з перавышэннем утрымання цэзію-137 (больш як 100 Бк/л) у грамадскім сектары склала толькі 0,2 працэнта, але ў Брагінскім, Нараўлянскім і Чачэрскім раёнах яна была ў межах 6—10 працэнтаў. Перавышэнне дапушчальнага ўзроўню ўтрымання цэзію-137 у мясе сустракаецца радзей, аднак штогадовае вяртанне жывёлы з мясакамбінатаў у 1996—1998 гадах складае некалькі соцень галоў.

Асабліва востра стаіць пытанне аб вытворчасці якасных прадуктаў харчавання ў прыватным сектары. Па даных лабараторнага кантролю санітарна-эпідэміялагіч-

ных станцый, за 1997—1999 гады ў 376 населеных пунктах Беларусі адзначаны выпадкі вытворчасці малака з перавышэннем дапушчальнага ўтрымання цэзію-137. Работы тут яшчэ многа, асабліва з улікам таго, што на Палессі існуе праблема з дэфіцытам ворных угоддзяў, якія можна было б выкарыстаць пад пашы і сенажаці.

Такім чынам, праблема атрымання якасных прадуктаў харчавання яшчэ далёкая ад вырашэння. Нягледзячы на значны аб'ём выкананых работ, патрабуецца нейтралізаваць павышаную кіслотнасць і палепшыць калійны рэжым на палове лугавых угоддзяў і 20 працэнтах ворнай зямлі. Неабходна рэгуляванне воднага рэжыму і паверхневае паляпшэнне забалочаных і малапрадуктыўных паш і сенажацей, дзе пераважна выпасваецца жывёла асабістых падсобных гаспадарак.

Не менш важны і эканамічны аспект праблемы. Нават пры дапушчальным утрыманні радыенуклідаў сельскагаспадарчая прадукцыя ў многіх гаспадарках становіцца неканкурэнтаздольнай.

Неабходна таксама ўлічваць, што ў нашай рэспубліцы нарматывы ўтрымання радыенуклідаў у важнейшых харчовых прадуктах менш жорсткія, чым дзеючыя ў Расіі і на Украіне: па малаку — у два разы, па гавядзіне — у тры. Збліжэнне нарматываў Беларусі з нарматывамі Расіі і Украіны патрабуе дадатковых намаганняў і інвестыцый у дадзены напрамак радыяцыйнай абароны. Кошт ахоўных мер, неабходных для пераходу на больш жорсткія нарматывы, толькі ў вытворчасці самаакупнай сельскагаспадарчай прадукцыі на плошчы 1313 тысяч гектараў радыеактыўна забруджаных зямель ацэньваецца ў эквіваленце 77 мільёнаў долараў ЗША. Фактычна за перыяд з 1996-га па 1998 год штогод інвесціравалася ў комплекс ахоўных сельскагаспадарчых мер на тэрыторыі адзінаццаці найбольш забруджаных раёнаў толькі палова ад патрэбнасці. Трэба адзначыць, што ўкладзеныя ў дадзены напрамак сродкі добра акупаюцца. Практыка апошніх трох гадоў паказала, што капіталаўкладанні ў павышэнне ўрадлівасці глеб акупаюцца на працягу аднаго — трох гадоў з рэнтабельнасцю 20—80 працэнтаў.

У самыя кароткія тэрміны неабходна ажыццявіць меры паераспецыялізацыі найбольш крытычных гаспадарак, пераключэнню іх на новыя напрамкі, такія, як насенняводства, вытворчасць зернебабовых, тэхнічных культур і інш.

Вялікая група насельніцтва падпадае пад дадатковую рызыку зніжэння ўзроўню здароўя. За пасляаварыйны перыяд на забруджаных тэрыторыях зменшылася колькасць абсалютна здаровых дзяцей з 60 да 21 працэнта, а ўдзельная вага дзяцей, якія маюць хранічную паталогію, павялічылася з 10 да 22 працэнтаў. З ліку дзяцей, адселеных з зоны эвакуацыі, у цяперашні час прызнаюцца абсалютна здаровымі толькі 13 працэнтаў. У сярэднім у аднаго дзіцяці дыягнастуюцца два-тры захворванні. На радыеактыўна забруджаных тэрыторыях адзначаецца рост захворванняў вышэй сярэдняга рэспубліканскага ўзроўню па многіх класах хвароб.

Аналіз медыцынскіх вынікаў чарнобыльскай аварыі, іх дынаміка і прагноз сведчаць пра тое, што праблема мінімізацыі гэтых вынікаў і павышэння эфектыўнасці медыцынскай дапамогі асобам, якія падвергліся радыяцыйнаму ўздзеянню, становіцца самай прыярытэтнай на бліжэйшыя гады. Для вырашэння гэтай задачы неабходна далейшае пашырэнне матэрыяльна-тэхнічнай базы аздараўлення і лячэння праз завяршэнне будаўніцтва і рэканструкцыі аб'ектаў аздараўлення і адпачынку, санаторна-курортных устаноў, уключаючы рэабілітацыйна-аздараўленчыя цэнтры, дзеючыя круглы год з арганізацыяй вучэбнага працэсу ў адпаведнасці з прэзідэнцкай праграмай «Дзеці Беларусі».

Выклікаюць асаблівую трывогу дэструктыўныя тэндэнцыі ў сацыяльнай сферы пацярпелых рэгіёнаў. Пасля аварыі адбыліся негатыўныя змяненні ў колькасці і дэмаграфічным складзе насельніцтва, скараціўся інтэлектуальны і прафесійна-тэхнічны патэнцыял, разбураны калектывы, якія мелі шматгадовую гісторыю, зніжаны эканамічныя паказчыкі. Міграцыя аказала негатыўнае ўздзеянне на якасць працоўных рэсурсаў, прывяла да адтоку кваліфікаваных кадраў. Праз два-тры гады пасля аварыі праявілася праблема недахопу спецыялістаў у раёнах, галоўным чынам урачоў, настаўнікаў. У найбольшай ступені недахоп працоўных рэсурсаў адчувае аграрны сектар, дзе існуе дэфіцыт не толькі высокакваліфікаваных спецыялістаў, але і работнікаў масавых прафесій, які запаўняецца ў нейкай меры за кошт асоб пенсіённага ўзросту.

Патрабуюць асаблівай увагі праблемы сацыяльнай адаптацыі і сацыяльна-псіхалагічнай падтрымкі насельніцтва, якое пражывае на забруджанай радыенуклідамі тэрыторыі або перасялена ў іншыя раёны. Гэтыя праблемы найбольш

цяжка паддаюцца вырашэнню, а ў шэрагу выпадкаў і абвастраюцца.

Здавалася б, што праз пятнаццаць гадоў пасля катастрофы пацярпеўшае насельніцтва, ды і ўсе людзі ў пацярпелых рэгіёнах павінны быць добра інфармаваны як аб выніках чарнобыльскай катастрофы, так і аб правілах паводзін ва ўмовах існуючай рызыкі здароўю. Са шкадаваннем вымушаны канстатаваць, што вопыт зносін з людзьмі сведчыць аб неабходнасці ўдасканалення інфармацыйнай работы з насельніцтвам.

Відавочна праяўляюцца недапрацоўкі і промахі, дапушчаныя пры фарміраванні прававой базы ў галіне сацыяльнай абароны. Такім чынам, недастаткова вызначана ступень сацыяльнай абароненасці асоб, эвакуіраваных у 1986 годзе з 30-кіламетровай зоны, не ўрэгуляваны заканадаўча праблемы грамадзян, што пражываюць у дамах, ступень забруджанасці якіх перавышае дапушчальныя ўзроўні, а таксама грамадзян, якія адселены і вярнуліся на ранейшае месца жыхарства, і г. д.

Са стварэннем Саюза Беларусі і Расіі ўстае пытанне адзінага заканадаўства. Размова ў першую чаргу ідзе аб Законе «Аб сацыяльнай абароне грамадзян, пацярпеўшых ад катастрофы на Чарнобыльскай АЭС» і аб уніфікаванай прававой базе для правядзення мерапрыемстваў па медыцынскай і радыяцыйнай абароне пацярпеўшага насельніцтва.

Жыццё пераконвае ў тым, што праз ільготы і кампенсацыі сацыяльныя праблемы насельніцтва ў пацярпелых раёнах не могуць быць вырашаны, тым больш што ў большасці сваёй людзі выязджаць адтуль не маюць намеру. У гэтай сувязі трэба ўсё большыя сілы і сродкі накіроўваць не на выплаты, а на сацыяльную рэабілітацыю населеных пунктаў, стварэнне ў іх належнага ўзроўню жыцця.

Чакае вялікая работа па фарміраванню і рэалізацыі рэгіянальных праграм рэабілітацыі з улікам канкрэтных праблем тэрыторый, уключаючы мэтанакіраваную падтрымку найбольш пацярпелых гаспадарак, якія мяжуюць з землямі адчужэння. Вынікі даследаванняў праблем рэабілітацыі сведчаць пра тое, што іх «лабавое» вырашэнне патрабуе каласальных затрат, таму патрэбен пошук новых шляхоў, не выключаючы пастаноўку пытання аб спыненні сельскагаспадарчай дзейнасці ў зоне з забруджаннем 555—1480 кБк/м$^2$. Аднаўленне ж гаспадарчай дзейнасці

на тэрыторыі зон першачарговага і наступнага адсялення патрабуе глыбокіх навукова-метадычных распрацовак, у якіх былі б вызначаны прыярытэтныя напрамкі работ у канкрэтных рэгіёнах з улікам усяго комплексу сацыяльных і эканамічных фактараў і аптымізацыяй дзеянняў па прынцыпу «эфектыўнасць — затраты».

Гэтыя і многія іншыя задачы складаюць аснову новай Дзяржаўнай праграмы Рэспублікі Беларусь па пераадоленню вынікаў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС на 2001—2005 гады і на перыяд да 2010 года, якая дасць магчымасць мабілізаваць наша грамадства, матэрыяльныя і фінансавыя рэсурсы на далейшае вырашэнне праблем ліквідацыі вынікаў найбольшай ядзернай аварыі ў гісторыі чалавецтва.

## *Анатоль Бароўскі*

# КРЫК У ПУСТЫНІ

*Сяргей Цыцура* — заслужаны энергетык Беларусі, ветэран вайны і працы, горад Рэчыца

Рэдка хто тады вёў нейкія запісы, накідваў у нататнікі свае ўражанні, назіранні... Не да таго было, асабліва ў той цяжкі перыяд катастрофы на Чарнобыльскай АЭС. Работа энергетыка вымушае не сядзець у кабінеце, а імчаць туды, дзе адбылася аварыя, непаладкі, парваліся электрычныя лініі...

Няхай то дождж ці мароз, лівень, завіруха, на гэта ніхто ніколі не звяртаў ніякай увагі — наперад, толькі наперад!..

То ўжо трошкі пазней, калі ўтаймавалася катавасія з Чарнобылем, калі мы прыйшлі ў сябе, ачомаліся збольшага і асэнсавалі свае дзеянні і ўчынкі, навучыліся разумець і глядзець на рэчы нейкімі іншымі вачыма, я пачаў адшукваць кароткія запісы ў сшытках, на настольных календарах, пераглядаць загады і распараджэнні тых дзён... Пераглядаць і асэнсоўваць для таго, каб самому разабрацца шмат у якіх спрэчных пытаннях. Спрэчных і супярэчлівых. Яны мне не даюць спакою і сёння, непакояць, турбуюць...

Усё жыццё мне снілася вайна. Сніліся баі і мае сябры-таварышы, якіх даўно няма на белым свеце, а ў снах я размаўляю з імі, слухаю іх гісторыі і песні, а пасля гэтага імчу з імі ў атаку — насустрач смерці, насустрач ворагу, насустрач смяротным кулям...

Адгрымела чарнобыльская вайна (а яе я інакш і не называю, бо была эвакуацыя, была смерць, былі няпраўда і адначасова гераізм людзей), а неўзабаве з-за таго ж Чарнобыля назаўсёды пакінулі нас сябры-энергетыкі... І яны цяпер, як і салдаты-сябры другой сусветнай, прыходзяць да мяне ў сны, пытаюцца: «Як жа так, Сяргей, чаму ў мірны час людзі загінулі? Ці не марна мы патрацілі свае жыцці на выкананне дурных распараджэнняў і загадаў? Ці і ў вас такое паўтараецца сёння?..»

Я ў сне стараюся нешта ім давесці, пераканаць, што нічога дарэмнага не бывае, але сэрцам адчуваю, што ўсяе праўды ім не кажу. І таму сам сабе раблюся ненавісны,

сорамна мне за хлусню,— усё жыццё вучылі нас гаварыць толькі праўду, чыстую праўду, а ў жыцці мы гаварылі толькі няпраўду, крывілі душой... Прабачце мне, ветэраны, даруйце за двурушнасць — я ж дзіця свайго часу, тых уяўных ідэалаў, што нам падсоўвалі ўвесь час...

Шмат гадоў у мяне за плячыма. Шмат чаго пабачыў на сваім жыццёвым вяку. І таму вярнуцца мне хочацца ў далёкія і блізкія гады, рэабілітавацца перад сваім сумленнем, перад сваімі дзецьмі і ўнукамі... Каб не думалі, што іх бацька і дзед быў сляпы і нічога не разумеў, нічога не рабіў.

Хачу сказаць, што я ўкраінскі беларус. Як такое можа быць? А вельмі проста. З Украіны я. І ўжо доўгі час жыву тут — з 1947 года... Лёс закінуў мяне сюды. І не шкадую, што закінуў.

Хораша заўсёды ўспамінаецца дзяцінства. Як і сёння, бачу жывую маму Праскоўю Дзянісаўну, бацьку Міхаіла Васільевіча. Яны працавалі ў калгасе. У нас была свая хата, мелі агарод і сад.

А голад 1933 года я ніколі не забуду. Бацька казаў, што я вырасту і забудуся пра ўсё. Не, такое ніколі не забудзеш — на тым свеце ўспомніш...

Як жа забыць, як бацька ездзіў у Адэсу. На нейкія рэчы, якія нам былі вельмі неабходны, выменяў дзве сумачкі кукурузы. Галодныя былі самі, не хапала і самім, але калі ледзьве жывы прыйшоў да нас сусед Якаў і папрасіў у бацькі хаця б жменьку кукурузнага зерня, бацька зжаліўся над няшчасным чалавекам — адсыпаў яму колькі прыгаршчаў...

Я і сёння часта задумваюся над яго ўчынкам, адначасова параўноўваючы сённяшняе жыццё, сённяшніх людзей — калі не падзеляцца нават кавалкам хлеба, больш таго, страляюць адзін у аднаго. Тое мне ніяк не зразумела...

А якія пірагі выпякала наша маці! Я і сёння кажу сваёй сястры Марыі Міхайлаўне, што жыве на Украіне, што не навучылася, не ўзяла матулін рэцэпт выпечкі тых дзівосных пірагоў.

А як спявала матуля! Хаця ж спявалі ў нашай вёсцы Пліскі ўсе, але так хораша, як мама, здаецца, не спяваў ніхто...

Як вучыўся ў школе, то пад канец вучобы быў капітанам валейбольнай каманды школы. Дык наша каманда заняла першынство ў спаборніцтвах Украіны. Во была радасць для нас!

Дык я ж не пра тое... Хаця шмат старонак хацелася прысвяціць дзяцінству, і школе, і майму станаўленню як грамадзяніна і чалавека...

Але то неяк пасля, як кажуць, іншым часам, іншым разам...

Вясна 1986 года...

А яна выдалася ранняя, цёплая. 26 і 27 красавіка людзі па-рознаму праводзілі свае выхадныя дні — хто адправіўся ў лес на прыроду, хто працаваў на агародах — пара прыйшла закладваць будучы ўраджай, а мы з унукам Валодзькам адправіліся на дачу, што знаходзілася на беразе Дняпра...

Дзень быў, як усе памятаюць, сонечны, прыгожы. Такі ж і настрой быў у нас. Мо ад таго, што абудзілася зямля, а мы на ёй працавалі з рыдлёўкамі — распранутыя, расхрыстаныя, а мо і ад таго, што на працы ўсё ладзілася і не грызлі нас праблемы і трывогі.

Я займаўся сваім, а Валодзька нешта ладзіў каля паветкі — шпакоўню ўсё збіраўся змайстраваць.

Запомніўся рэзкі перапад надвор'я ў той дзень. Толькі што свяціла сонца, было ціха і лагодна, а праз колькі хвілін усчаўся нечакана магутны вецер, нагнаў у небе чорныя хмары — і яны згрувасціліся над Дняпром, апускаліся ўсё ніжэй і ніжэй...

Аднекуль з таго боку, дзе былі Брагін і Хойнікі, дзе знаходзіліся нашы падраздзяленні, насоўвалася на нас пагрозлівая шэра-чорная хмара... Неба рабілася ўсё больш чорным і неспакойным. Калі то дажджавыя хмары, то чаму не чуваць грому, не жыхаюць маланкі — ужо яны напаміналі пра сябе колькі дзён назад.

Яшчэ можна было падумаць, што недзе там, пад Брагінам ці за ім, загарэўся нейкі мазут ці нафта, і магутнае полымя, якое нельга было адразу патушыць, выкідвала з сябе такія клубы дыму.

Тады ж і ўзвіхурыўся раптоўна вецер — як што магутнае выпхнула яго адтуль. На суседняй хаце знесла дах, павалілася тонкае дрэва на плот...

Тое, што рабілася на вуліцы, магло прымусіць сцяцца любога чалавека.

Вецер ці буран бушаваў колькі хвілінаў, падняўшы ў паветра ўсё, што можна было падняць. І стаяла ўжо суцэльная чорная сцяна перад вачыма...

Гэтак жа нечакана кругаверціца і аціхла. Але яшчэ доўга асядаў на зямлю сухі дождж з пылоты і лісця, старых газет і шыгалля ад хвой...

Валодзька маўкліва прытуліўся да мяне, і я яго абняў рукою. Ён з дзіцячай трывогай назіраў за завірухай, але ні пра што не пытаўся ў мяне.

28 красавіка пачаўся новы працоўны тыдзень...

На працу я прыйшоў, амаль забыўшыся пра той перапад надвор'я на дачы — ці мала што можа выкінуць прырода? Дома, як прыехаў, нічога не паведаміла ні абласная служба пра надвор'е, ні рэспубліканская. Сіноптыкі спакойным голасам прадвяшчалі добрае надвор'е — месцамі з невялікімі ападкамі. Якімі ападкамі? І зімой яны кажуць пра ападкі, і летам пра ападкі, быццам нельга проста сказаць, што «мажліва, выпадзе снег ці чакаецца невялікі дождж...».

Перад тым як павінна адбыцца ў мяне ранішняя нарада, да мяне завіталі рабочыя, што вярнуліся з Кіева — былі там на экскурсіі. Хацелася ім на горад паглядзець, каўбасы ўкраінскай накупіць...

— Сяргей Міхайлавіч, вы нічога не чулі? — папыталіся яны ў мяне.— Да вас нічога сюды не дайшло?

— Нічога не чуў. А што павінна было да мяне дайсці? Я нічога не разумееў, а ўнутраная трывога пашылася ўжо некуды пад свядомасць, адразу ж падумалася, што недзе на нашым участку адбылася нейкая нечаканка і...

— Дачуліся мы, што ў Чарнобылі страшэнная радыяцыя. Увесь Кіеў перапалоханы, усюды пасты міліцыі, усюды з дазіметрамі — ідзе праверка, хто прыязджае з таго Чарнобыля...

— А ад чаго там можа ўзнікнуць высокая радыяцыя? — не верыў я ўсё ж словам рабочых, заўсёды не любіў панікёраў і балаболаў — яшчэ на фронце.— Што вы выдумляеце, хлопцы? Навошта страх на людзей наводзіце?

Тэлефон на стале зазваніў пранізліва і патрабавальна. Я адразу ж узяў слухаўку і паднёс да вуха.

— Сяргей Міхайлавіч, Манько на сувязі...

— Слухаю цябе, Анатоль! Чаму такі голас устрывожаны — што здарылася, дакладвай!

— Усю праўду дакладваць?

— Толькі праўду!

— Чэпэ ў нас. Не ў нас, а ў межах Саюза. Радыё пакуль маўчыць, але вам я вось што скажу — у Брагіне

вельмі высокая радыяцыя. Да нас спачатку дайшлі чуткі, што на станцыі ў Чарнобылі адбылася страшная катастрофа, што загінулі людзі ад выбуху рэактара... У мяне ёсць сувязіст Цярэшчанка, наш мясцовы Кулібін. Дык ён знайшоў закансерваваны дазіметр ДП-5 метэастанцыі, учора нешта пакруціў у ім, наладзіў і замераў радыяцыю...

— І колькі? — крычу я ўжо ў слухаўку, зрываюся, хаця ведаю, што начальнік Брагінскіх электрасетак ніколі хлусіць не будзе.— Што паказаў прыбор?

У слухаўцы маўчанне. Ці то Манько вагаўся — гаварыць ці не, бо мы ж людзі дарослыя, ведаем, што тэлефоны нашы праслухоўваюцца — таму за распаўсюджванне неправераных чуткаў ёсць асобны артыкул, ■ потым, мусіць, махнуў на ўсё рукой, за што я яму вельмі ўдзячны, гэтак жа крыкнуў і мне — каб пачуў дакладна:

— Больш як дзвесце мілірэнтгенаў у гадзіну!

— Вы там не памыліліся са сваім Цярэшчанкам? — мяне пачынае ўжо калаціць дрыготка — такога не можа быць, гэта ж абсурд — гэта ж атамная вайна!

Пасля кароткага маўчання ўжо больш ціха і таму, як я лічыў, шчыра прамовіў:

— Сто разоў правяралі і пераправяралі. Прыбор жа недасканалы, так што радыяцыя можа быць нашмат і заніжана. Не магу сцвярджаць, але яна ў нас у тры-пяць, а можа, і больш разоў большая...

— Не можа быць...

— Усё можа быць, Сяргей Міхайлавіч!

— Дзякую, Анатоль, за аператыўнасць. Асабліва там не лямантуйце, але і ў шапку не спіце. А мы тут будзем думаць, што рабіць. Тады я табе пераразваню.

— Добра. Пакуль мы ведаем толькі ўдвух, правільней, утрох. З Цярэшчанкам.

Я паклаў слухаўку, паглядзеў на саслужыўцаў. Яны запытальна глядзелі на мяне: што скажу, чым абнадзею? Я нічога ім не сказаў, толькі глыбока ўздыхнуў. А яны і самі ўсё зразумелі, моўчкі выйшлі з кабінета.

У маё сэрца сапраўды пачала стукацца трывога. Але пакуль што нясмела, з аглядкай, з недаверам, са спадзяваннем, што гэты абсурд вось-вось развеецца...

Праз нейкі час не вытрымаў — пазваніў Манько. Папрасіў яго звязацца з дазіметрычным пунктам, што знаходзіўся паміж Чарнобыльскай станцыяй і Камарынам. Папрасіў удакладніць у іх узровень радыяцыі. Праз некаторы час Анатоль пазваніў зноў мне і нейкім прыглушаным голасам паведаміў:

— Сяргей Міхайлавіч, яны сказалі, што быццам узровень радыяцыі ў іх у норме... А на станцыі адбыўся пажар... Больш нічога не сказалі.

А праз нейкі час чарнобыльскія электрасеткі папрасілі запітаць іх ад Камарына і не адключаць, і растлумачылі, што на станцыі аварыя. Калі ж мы спыталі, што за аварыя, нам зноў жа незразумела адказалі: «Пажар там быў, пажар...»

Прапала напружанасць у Хойніках, а яны сілкаваліся ад Мазырскага прамысловага вузла. Аказалася, што лінія 330 кВт Чарнобыль — Мазыр адключана, а сам Мазырскі прамысловы вузел апынуўся ў складанай сітуацыі з-за недахопу электраэнергіі.

На вялікае шчасце, кіраўніцтва «Гомельэнерга» і рэчыцкіх электрасетак незадоўга да гэтага правяло рэканструкцыю лініі электраперадач Рэчыца — Лоеў — Брагін 35 кВ перавод на 110 кВ. Гэта і выратавала становішча з забеспячэннем электраэнергіяй Брагінскага і Хойніцкага раёнаў. Калі б гэтага не было, я маю на ўвазе рэканструкцыю, тыя раёны папалі б у вельмі складаную сітуацыю па забеспячэнню электраэнергіяй.

Не давала мне спакою незразумелая сітуацыя — не магу супакоіцца, калі нешта адбылося, а ніхто нічога канкрэтнага не паведамляе. Як у жмуркі гуляюць.

Званю ў Кіеў — дыспетчару, называюся, хто я і адкуль, выказваю ўсё, што я думаю з гэтай нагоды. Мне зноў нешта супакойваючае гавораць, але ніводнага слова праўды. Ну я ім і выклаў...

— А вы не панікуйце! — крыкнулі мне на другім канцы дроту.— Не панікуйце! Ну, адбылася аварыя, невялікая. І фон трошкі падняўся, але хутка ўсё будзе ліквідавана. Кінуты туды лепшыя энергетычныя сілы Саюза...

— Лепшыя сілы? Значыць, там не проста аварыя, а катастрофа?!

— Зноў панікуеце, не хвалюйцеся, усё будзе нармальна...

Кінулі слухаўку, не даслухалі мой апошні довад. Але я ўжо і сам здагадаўся — не, там не аварыя, там іншае. І Анатоль мне не змог зманіць, і — «лепшыя сілы Саюза...»

Я як паміж двума агнямі. Веру адным, веру і другім. Мяне ж прывучылі ўсё жыццё верыць і давяраць. І тут жа падумалася: «Не можа быць вялікай бяды... Каб што здарылася, то абавязкова паведамілі б, расказалі, папярэдзілі...»

А ў суботу медыкі з Камарына, не слухаючы ніякія папярэджванні партыйнага начальства і раённых уладаў, неадкладна вывезлі сваіх дзяцей далей ад тых мясцінаў. А ў эфіры — паўнейшая цішыня і спакой. Абласны штаб грамадзянскай абароны запэўніў асцярожна па радыё, што для панікі няма ніякіх падстаў...

А шостага мая, выступаючы на маскоўскай канферэнцыі, Ізраэль значна занізіў узровень радыяцыі над чацвёртым блокам і на тэрыторыі бліжніх раёнаў. Для чаго ён тое зрабіў? Каго хацеў падмануць?

У нас, на вялікі жаль, свайго дазіметра не было. Я ра-шыў зрабіць яго сам. Але як на тое ўсюды зніклі лічыльнікі Гелера... Так і атрымлівалася — не давяралі поўнасцю чуткам, а самі праверыць не маглі. Абсурд нейкі! Як у кашмарным сне...

Дзеці гулялі ў пяску. Ніхто не ведаў, якую небяспеку нёс цяпер пясок. А першага траўня школьнікі і дарослыя гадзінамі стаялі на плошчы пад няшчадным сонцам, з непакрытымі галовамі,— а ўжо тады чарнобыльскі радыеактыўны попел пасыпаў галовы і дзецям, і дарослым...

Азіраючыся сёння назад, туды, у тыя чорныя хлуслівыя дні, магу смела сцвярджаць: захворванні ў дзяцей рэзка ўзраслі не ад таго, што яны пражываюць у забруджанай зоне, а ад таго, што дзеці ў першыя дні катастрофы атрымалі вялікую дозу радыектыўнага ёду... А пастаяннае пражыванне ў забруджанай зоне давяршыла сваю чорную справу, што распачалася ад хлусні вялікіх мужоў улады...

Былі ж ёдзістыя таблеткі, былі, тое мы ведаем. Па замежных станцыях гучэлі парады, як берагчыся ад радыяцыі, што ўжываць, як паводзіць сябе ў той ці іншай сітуацыі. Нам такіх рэкамендацый афіцыйна ніхто не даваў, ды і тых таблетак ужо нельга было дастаць ні ў адной аптэцы...

А потым тых жа дзяцей, што падставілі свае галовы пад атрутны попел Чарнобыля, павезлі на поўдзень — у Крым і Анапу, пад промні спякотнага сонца. А тое ні ў якім разе нельга было рабіць! Ні ў якім разе!

Мне могуць запярэчыць: мы не ведалі! А пра што тады вы ведалі?! Ці ведалі вы хоць пра што-небудзь?

Мы, дарослыя «дзядзькі», добра гулялі ў грамадзянскую абарону. А калі прыйшла бяда, калі тое трэба было прадэманстраваць на практыцы, то мы, аказваецца, нічога не ўмеем, не ведаем, не навучыліся спраўляцца з такой бядой.

Не было вопыту? Як сказаць... А аварыя на Белакоўскай АЭС? Аварыя на Ленінградскай АЭС з нукліднымі выкідамі і гібеллю людзей... Чаму ніхто не ведаў, чаму той вопыт не быў вывучаны і распаўсюджаны?

Пачатак аварыі на Чарнобыльскай АЭС быў не ў 1986 годзе. Значна раней. У 1982 годзе. З-за памылковага дзеяння персаналу адбыўся выкід радыеактыўных элементаў і абпраменьванне персаналу.

А катастрофа на Паўднёвым Урале ў 1975 годзе? Яна закранула тэрыторыю з насельніцтвам у 270 тысяч чалавек. Але ўсё тое было засакрэчана...

Так што вопыт быў, выпадкі, здарэнні і катастрофы былі.

Дык чаму ж мы не падрыхтаваліся да чарговай катастрофы, ведаючы, што яна абавязкова будзе. І яна адбылася. На Чарнобыльскай АЭС...

А ў ЗША, самай перадавой і багатай краіне, адбылося больш як дзесяць буйных аварый да Чарнобыля. Накшталт чарнобыльскай катастрофы адбылася аварыя ў Грымаль-Айленд у 1979 годзе. Персанал гэтай станцыі дапусціў памылку, але не адбылося пашкоджання рэактара. Упэўнены — калі б персанал Чарнобыльскай АЭС быў дэталёва азнаёмлены з той аварыяй і была праведзена не адзін раз вучэбная трэніроўка,— магчыма, і не было б у нас страшнай чарнобыльскай трагедыі...

У маім нататніку запісаны такі сказ:

«Калі б у першыя дні чарнобыльскай катастрофы нам усім сказалі праўду, і не толькі праўду, а хаця б падказалі, што неабходна берагчыся — не выходзіць на вуліцу, а яшчэ лепей з дзецьмі некуды выехаць далей ад зоны,— то шмат якіх дзяцей мінула б чарнобыльская хвароба... Вось тут менавіта і падыходзіць тое сцвярджэнне, калі хваробу лягчэй папярэдзіць, чым потым яе лячыць...»

Замоўчванне, утойванне праўды, боязь упасці ў вачах сусветнай супольнасці, што наш савецкі лад самы прагрэсіўны і беспамылковы,— і прывялі да таго, што адбыліся вялікія страты. Не толькі матэрыяльныя. Не толькі духоўныя. Страты самага каштоўнага ў жыцці — смерці многіх людзей...

Колькі ж было затрачана сродкаў на тое, каб вывезці нашых дзяцей у іншыя рэспублікі і за мяжу! А дзеці ўсё роўна хварэюць, і хваробы ўзрастаюць. Раней нельга было гаварыць — вялікая ваенная тайна! — пра тое, што Чарно-

быль аказаў адмоўны ўплыў на здароўе нашых дзяцей. Ні ў якім разе нельга было тое гаварыць. І медыкі, адводзячы вочы, неслі несусветніцу, калі абпраменена дзіця ў кабінеце траціла прытомнасць: «Нічога страшнага, гэта ад надвор'я, пройдзе хутка... папіце лякарства...»

Пасля таго як мой унук быў са мной на дачы, здароўе яго пагаршалася з кожным днём. Той дзень з пылотай і нуклідамі дадаў яшчэ адну хваробу ўнуку — астму. Можа, вы мне, медыкі, скажаце, што ён і без таго мог нажыць другую хваробу? Дык я ж вам ніколі не паверу, бо дакладна ведаю, ад чаго ў яго ўсё гэта...

Чацвёртага траўня пачалася эвакуацыя з 30-кіламетровай зоны — з Брагіна і Хойнікаў. Прадпрыемству паступіла каманда — тэрмінова накіраваць брыгады з матэрыяламі і тэхнікай для будаўніцтва электрасетак па забеспячэнню летніх кашараў для жывёлы...

Але і гэта яшчэ не ўсё. У сувязі з масавай эвакуацыяй людзей з забруджанай зоны для забеспячэння неабходных санітарных умоў у месцах перасялення ўзнікла неабходнасць будаваць жыллё, медыцынскія пункты, сталовыя, артэзіянскія свідравіны, пункты дэзактывацыі тэхнікі і людзей...

І ўсё тое патрабавала ўзвядзення дадатковых ліній і КТП. Акрамя гэтага, у зонах адсялення пачалі размяшчацца вайскоўцы і міліцэйскія пасты, а для іх таксама патрабавалася электрычная энергія...

Лепшыя брыгады былі накіраваны ў тое пекла. Дзве былі сфарміраваны з Рэчыцкага раёна электрасетак. Імі кіраваў майстар Анатоль Рогаўцаў. Са Светлагорска — майстар Сцяпан Ходар. З Кастрычніцкага РЭСа — майстар Мікола Кавалевіч. З Лоева — майстар Васіль Пікас...

Трэба было разбіць трасы, скласці праект на месца. Для больш дзейснага ўзаемаразумення паміж брыгадамі і стварэння для людзей бытавых умоў туды тэрмінова былі камандзіраваны галоўны інжынер Міхаіл Міленцьеў і намеснік галоўнага інжынера Генадзь Шуміхін, інжынер службы размеркавальных сетак Уладзімір Грабцэвіч...

Хачу яшчэ сказаць, што актыўна ўключыліся ў гэтую нечаканую задачу Брагінскі раён электрасетак пад кіраўніцтвам начальніка Анатоля Манько, Хойніцкага — Эдуарда Слесарэнкі, служба падстанцыі на чале з майстрам Краўчанкам, служба рэлейнай засцярогі — Валерыя Пішчыкава, служба ЛЭП — Уладзіміра Дайнекі, рамонтнага цэха — Аляксандра Галайкі, служба ізаляцыі — Івана Хараўёва...

У той і наступны год калектыву нашага прадпрыемства давялося шмат вырашаць пытанняў па будаўніцтву энергетычных аб'ектаў і забеспячэнню іх электраэнергіяй.

Гэта сілай і розумам нашых энергетыкаў вырас мост праз Дняпро — Чарнобыль — Славуціч. То дзякуючы ім была пабудавана дамба для затрымання паводкавых разліваў з забруджанай тэрыторыі. (І гэта, як аказалася, нельга было рабіць.) Давалі электраэнергію там, дзе праводзілася дэзактывацыя мясцовасці, дарог, пунктаў, на будоўлі... Нельга і пералічыць, якія спецыяльнасці асвойвалі энергетыкі падчас знаходжання ў зоне!.. Усе выконвалі свой доўг перад людзьмі, перад сваёй радзімай...

Але ніхто з іх не мог уявіць, што ім скажуць пасля, што яны і не былі ў той зоне. Чыноўнікі ад Чарнобыля так скажуць. Тыя ж чыноўнікі, але ўжо ад урада, наставяць столькі рагатак і бар'ераў, што ліквідатару цяжка і даказаць сваё знаходжанне там, тым больш атрымаць пасведчанне ліквідатара.

Хто ж тады, скажыце, задумваўся аб нейкіх паперах, аб камандзіровачных бланках, каб адзначыць іх, як тыя ж мінскія прадстаўнікі. О, яны ведалі, дзе адзначыць і на колькі сутак! Загадзя ведалі, што тое азначала для іх...

Таму сцвярджаю, як перад Богам кажу чыстую праўду: на абслугоўванні ПУСА працавала трынаццаць чалавек. Гэта — Я. Ф. Раманоўскі, Г. А. Напрэеў, Я. Е. Кузьмянкоў, Э. М. Мартыненка, І. М. Гуз, В. А. Кавалёў, І. А. Аксёнаў, Л. Ц. Літвін, А. П. Пархоменка, А. П. Жыляк, В. І. Баганёў, Г. М. Пінчук, Ю. С. Раманоўскі...

З іх пяцёра не жывуць сярод нас, памерлі...

Няма сярод нас Я. Ф. Раманоўскага, Г. І. Напрэева, Я. Е. Кузьмянкова, Э. М. Мартыненкі, І. М. Гуза...

З вялікімі цяжкасцямі далі 20-ты артыкул. Васьмёра, што жывуць сёння, маюць цэлы набор чарнобыльскіх хваробаў...

Ды не, не з-за льготаў, якія аднялі ў іх, крыўда. З-за няпраўды і несправядлівасці. Ды і, у рэшце рэшт, яны паклалі на алтар Будучыні сваё здароўе і жыццё.

Хто ім аддзячыць за тое?! Хто ўспомніць пра іх?

Запісы, запісы... Іх за дзесяць гадоў накапілася шмат. Вельмі шмат. Тут і ў кнігу не ўбярэш усяго, што ў памяці, што ў нататніках. Перад маімі вачыма ўсё было. Не з аповядаў іншых ткалася выснова і мае вывады...

А колькі за сяброўскім сталом, за чаркай горкай, мы ўспаміналі тыя чорныя дні!.. З ветэранамі ўспаміналі Ленінград, дзе мяне цяжка параніла і кантузіла... А з энергетыкамі — пра Чарнобыль. І за што пілі? Каб яшчэ трошкі пратрымацца на зямлі. Каб і вайна, і Чарнобыль больш ніколі не паўтараліся і не ранілі нашыя душы і сэрцы...

Не грэх адзначыць, і ставячы ў заслугу людзям, якія ішлі свядома насустрач смерці,— што ніводзін работнік прадпрыемства ў першыя дні катастрофы не пакінуў сваё рабочае месца. Тым самым кожны з іх сумленна выканаў свой пачэсны доўг — ратаваў будучыню, ратаваў дзяцей, ратаваў нацыю. Ніхто — ніводзін чалавек! — не адмовіўся ад паездкі «туды», у зону,— грузілі і везлі на аб'екты неабходныя матэрыялы і механізмы...

А матэрыялы ішлі і ішлі. Упраўляючы «Гомельэнерга» Пятро Сіліч дняваў і начаваў на рабочым месцы. У любы час я званіў яму на рабочы тэлефон і адразу ж чуў яго прыглушаны голас: «Сіліч слухае...» Намеснік галоўнага інжынера Анатоль Шагураў разрываў тэлефоны Мінска і Масквы, выбіваючы неабходныя матэрыялы, што прызначаліся для будаўніцтва энергааб'ектаў у забруджанай зоне.

Таму дзякуючы іх нястомнай энергіі і клопатам, нават настырнасці, перабояў у дастаўцы абсталявання і матэрыялаў, тым больш прастояў з-за недахопу іх, не было. Заўсёды, як толькі пазваню каму-небудзь з іх і папрашу, што нам трэба тэрмінова для зоны, адразу ж грузілася машына і трымала курс на Рэчыцу...

Пётр Сяргеевіч, у адрозненне ад другіх кіраўнікоў, быў заўсёды сярод рабочых і энергетыкаў. Ён быў там, дзе неабходна было прыняць экстранныя рашэнні без узгаднення з высокім начальствам — ці то па будаўніцтву электрагаспадаркі, ці то па выгрузцы вагонаў з тэхнікай і абсталяваннем...

Вялікія ж чыноўнікі, хаця і прыязджалі, але толку ад іх — як з паршывага казла малака. Прыязджалі ў адзенні, каб потым яго па дарозе і выкінуць. Нават не абедалі ў Хойніках і Брагіне.

І яны, выходзіць, кіравалі ліквідацыяй катастрофы?

Успамінаецца і такое... У першыя дні хранічна не хапала неабходных матэрыялаў. Званю аднойчы Пятру Сяргеевічу, прапаноўваю:

— А што калі ўзяць матэрыялы з дзяржаўнага рэзерву?

Сіліч маўчыць, нейкі час раздумвае, а потым уздыхае:

— Згодзен. Разам і адказваць будзем. Дзейнічай — час не чакае. Як кажуць — пераможцаў потым не судзяць? Мо не засудзяць і нас.

На наступны ж дзень з'явіўся на парозе начальнік грамадзянскай абароны «Гомельэнерга» Якаў Макараў. З парога яшчэ, нават не павітаўшыся, закрычаў:

— Ты што, пад суд захацеў? На што замахнуўся — на дзяржаўны рэзерв! Ды ты ведаеш, што за такое бывае?

Я, каб збіць яго грозны наступ, усміхнуўся, спакойна адказаў:

— Ведаю, Якаў Ягоравіч. Дык я ж для дзяржавы і ўзяў. Не сабе ж на дачу.

— Не сабе? — яшчэ больш распаляўся прадстаўнік грамадзянскай абароны.— Ды я заўтра ж перадаю матэрыялы ў пракуратуру. За парушэнне інструкцыі. Для таго каб браць з рэзерву, неабходны дазвол Масквы. Дзе той дазвол, дзе? Няма яго ў цябе...

Ну што возьмеш з салдафона, ён толькі і жыве па інструкцыі. Мне падалося, што ён і ў прыбіральню па інструкцыі ходзіць, і жонцы тое ж загадвае. І гаворыць па інструкцыі. Жыве і думае нават...

— Ды з'ездзіў бы хоць раз у Брагін, паглядзеў, што там робіцца, як высільваюцца энергетыкі, ратуюць нашае жыццё. І тваё ў тым ліку.

Я яму шмат чаго яшчэ хацеў сказаць, а ён не захацеў мяне слухаць — грымнуў дзвярыма і выскачыў на вуліцу, сеў у машыну і падаўся ў Гомель...

Вось так разумелі і вырашалі, на вялікі жаль, чарнобыльскую трагедыю дзяржаўныя чыноўнікі.

І сёння ў хойніцкіх электрасетках працуе амаль увесь персанал, які прымаў удзел у падтрымцы жыццядзейнасці зоны, ці, як гавораць, удзельнічалі ў ліквідацыі вынікаў катастрофы на ЧАЭС.

У Брагіне працуе майстар Віктар Яшчанка. Пасля расфарміравання Брагінскіх РЭС застаўся працаваць у энерганаглядзе. Працуе з таго часу кантралёрам Брагінскага ўчастка энерганагляду Таццяна Прыходзька.

Напачатку маўчала прэса, нічога не пісала пра трагедыю. Я напісаў артыкул у «Гомельскую праўду» пра мужнасць працаўнікоў электрасетак Брагінскага і Хойніцкага раёнаў. Пісаў, што ніводзін з іх не пакінуў свайго

рабочага месца, хаця іх сем'і былі эвакуіраваны,— называў канкрэтныя прозвішчы, прыводзіў канкрэтныя факты.

Да прыкладу, дзяжурная падстанцыі Дронькі, дэпутат пасялковага Савета Людміла Яшчанка не пакінула працу, дапамагала эвакуіраваць жыхароў вёскі. Хаця падстанцыя аказалася ў зоне эвакуацыі, яна сама засталася на пасту і толькі пасля майго ўказання выехала ў Хойнікі. Адтуль прыязджала на падстанцыю.

Тройчы я рабіў спробы ў газеце «Известия» надрукаваць колькі радкоў пра папраўку здароўя дзяцей — я тады ўжо выдатна разумеў, што абпраменьванне радыеактыўным ёдам для іх бясследна прайсці не можа.

У сваіх допісах я даводзіў, што я ваяваў за тое, каб нашы дзеці і ўнукі раслі здаровымі і шчаслівымі. Звяртаўся я і да ўрада, міністэрства, ведамстваў і прафсаюзаў, каб яны дапамаглі прыраўняць аздараўленне жыхароў чарнобыльскай зоны па аздараўленню да ўдзельнікаў Вялікай Айчыннай вайны, а ўсе ведамасныя санаторыі і прафілакторыі, піянерскія летнікі перадаць для гэтай катэгорыі людзей. І ў дадатак абавязаць саюзныя міністэрствы перасяліць усіх людзей і вырашыць усе пытанні, што звязаны з катастрофай на ЧАЭС.

Маўчала газета. Я тады звярнуўся непасрэдна да рэдактара «Известий» Лапцева. І ён таксама, на вялікі жаль, быў глухі да нашай трагедыі. Я разумею — над ім быў «прэс», яму не дазвалялі. Замоўчванне трагедыі ішло на самым вялікім узроўні...

А як саюзнае міністэрства вырашала пытанне ліквідацыі катастрофы на станцыі? Можна прывесці хаця б адзін прыклад. Міністэрства энергетыкі і электрыфікацыі былога Саюза валодала магутнымі будаўнічымі арганізацыямі і сродкамі, а на патрабаванне калектыву «Белгалоўэнерга» вырашыць станоўча пытанне аб чарнобыльскай трагедыі адказала, што неабходна яшчэ вывучаць пытанне ўплыву радыяцыі на персанал. Ці не блюзнерства гэта, га?

Сёння Беларусь сама павінна спраўляцца са сваёй бядой.

І сёння яшчэ гэтай трагедыі, страшэннай катастрофе стагоддзя, не дадзена праўдзівая і дасканальная ацэнка. Не ведаем толькі чаму.

Той, хто аддаваў загад выводзіць дзяцей на першамайскую дэманстрацыю, ратаваў толькі свой прэстыж і партыйны партфель, не прымаючы адначасова ніякіх дзейсных мер па выратаванню людзей, і мог сваім балабольствам

і папулізмам набраць ачкоў на гэтай жа трагедыі падчас выбарчых кампаній. І сёння тым «актывістам» не хапае мужнасці і смеласці пакінуць арэну ўяўных барацьбітоў за народнае шчасце...

У свой час газета «Звязда» надрукавала карту забруджання радыенуклідамі. Я напачатку абрадаваўся — во, у рэшце рэшт, праўда прабіла сабе дарогу! Сабраў увесь накоплены матэрыял і адправіў адразу ж у рэдакцыю. Прайшоў тыдзень, другі, трэці, я купляў кожны нумар, чакаючы надрукаваны артыкул. А потым мне прысылаюць кароткі адказ, што напісана праўдзіва, але пасля бойкі кулакамі не махаюць... Ды тут жа не кулакамі махаць трэба, а біць у званы, у набат, будзіць народ і гаварыць яму праўду, страшную праўду.

І тут мяне не зразумелі. А калі і зразумелі, то не захацелі друкаваць праўды. Пабаяліся?

На маю думку, грошы, выдзеленыя на ліквідацыю наследкаў катастрофы на ЧАЭС, выкарыстоўваюцца зусім не на засцярогу інтарэсаў людзей і дапамогу ім. Да прыкладу, будаўніцтва мастоў на дарогах Лоеў — Рэчыца, і асабліва Гарошкаў, дзе ў дзень можа прайсці ўсяго некалькі машын,— маглі і пачакаць. А вось шляхаправод у Рэчыцы павінен быць. У горадзе акрамя радыяцыі востра паўстала пытанне экалогіі. Горад задыхаецца ад гару, копаці, машынных выкідаў, ды яшчэ чыгуначнікі закрылі пераезд Рэчыца — Хойнікі. Ім патрэбны быў пачын. А цяпер чыгуначнікі патрабуюць з дзіравага бюджэту горада сродкаў для адкрыцця таго ж пераезда.

Калі ж першая эвакуацыя была больш-менш чоткая, арганізаваная, то другая праходзіла бязладна, стук-грук, абы з рук. Нават вывозілі дровы, што напіталі ў сабе вялікую дозу радыенуклідаў. Людзей ніхто не спыняў, як ніхто і не правяраў, якую «міну замаруджанага дзеяння» вывозілі бежанцы з зоны...

Чарнобыльская трагедыя не даследавана да канца і не ацэнена. З пункту гледжання адмоўнага ўплыву на здароўе людзей.

Упэўнены, што калі б тую станцыю абслугоўвалі энергетыкі Беларусі, то, нават нягледзячы на яе тэхнічныя недахопы, той каласальнай катастрофы ніколі не адбылося б. Жыццём сваім паклясціся магу. Чаму я так перакананы? Ды таму, што найперш віна ў той катастрофе толькі абслугоўваючага персаналу. Ну і што з таго, запярэчыце вы. А тое, што на Украіне нашмат ніжэй і горшая за

нашу дыспетчарская і тэхналагічная дысцыпліна. І не толькі дысцыпліна, а і ўнутранае пачуццё, духоўныя адносіны вышэй да самой працы. Мы ў тым пераканаліся раней, калі назіралі, як суседзі вызначалі, ацэньвалі, аж потым займаліся нават самымі простымі сеткавымі аварыямі...

Нам было смешна і прыкра ад таго, як яны выконвалі тое. Тады ж падумалі: «Не давядзі Бог што-небудзь цяжэйшае — не справяцца...» Як у ваду глядзелі. Як ведалі.

Хай прабачаць мне мае землякі за маю такую ацэнку іх працы. Вымушаюць тое зрабіць крыўда і жыццёвы вопыт. Калі яны людзі сумленныя і разумныя, то не пакрыўдзяцца на мяне.

Мост будуецца заўсёды праз раку, ■ не ўздоўж яе. Тое мы павінны памятаць заўсёды. У якой бы краіне ці дзяржаве ні жылі. Упэўнены ў гэтым павінны быць заўсёды.

Не магу не сказаць і пра апошняе...

Ужо шаснаццаты год пайшоў з тае пары, як мы перажылі пачатак чарнобыльскай вайны.

Падымаючы чарку горкай, давайце абавязкова памянём тых, каго скасіла чарнобыльская радыяцыя, і аддадзім доўг тым людзям, якія жывуць, але пакутуюць ад прамянёвых хваробаў, нажыўшы іх там, у зоне...

І зробім усё неабходнае, каб засцерагчы нашых дзяцей і ўнукаў ад наступстваў той катастрофы, якую перажылі, каб не дапусціць яе паўтарэння.

І будзем жыць з гэтым імкненнем і спадзяваннем...

Вось што я пісаў у тыя дні.

«Министерству энергетики ■ электрификации СССР *Ю. Семенову*
Федерации профсоюзов *Н. Пугачеву*

Уважаемые Юрий Кузьмич и Николай Алексеевич!

Обращаюсь к Вам по чернобыльским делам. В тот период я работал директором Речицкого ПЭС ПО «Гомельэнерга». Предприятие непосредственно прилегало к Чернобыльской АЭС. Два района — Хойникский и Брагинский — оказались в 30-километровой зоне. Предприятие это было известно на весь Союз, сотни делегатов приезжали к нам по обмену опытом работы.

Но вот неожиданно случилась огромная беда. Почему-то нас стали бояться, сторониться, все стали опасаться радиации. Первого мая 1986 года я должен был уйти на пенсию, но пришлось задержаться на несколько месяцев,— как-никак в этом коллективе я проработал четверть века, и оставить в такой трудный час я просто не имел права...

Поэтому я, как мне кажется, имею полное право высказать пусть и нелестные слова в адрес ведомств и нашего родного министерства. Итак... Сокрытие истинного положения, а я имею в виду сокрытие о наличии во время катастрофы выброса радиоактивного йода, а он густо посыпал многострадальную белорусскую землю и пагубно отражается на жителях Беларуси — особенно поражает детский организм...

Я в то время уже отлично владел ситуацией и сразу же забил тревогу о немедленном спасении детей. Я был твердо уверен: когда каждое ведомство проявит немедленную заботу о детишках, то этот вопрос перестанет быть тревожным и непредсказуемым в плане здоровья.

Но, к большому сожалению, моя уверенность разрушилась в первые же дни: не о детях была главная забота, не о них... Все окунулись в бумажную волокиту — начали составлять республиканские программы, всесоюзные, на которые, как всегда, не хватает денег и ума на реализацию — и пятый год все решается, решается, а люди ежедневно пронизываются смертельными радионуклидами...

Много раз я делал попытку через центральные газеты поднять этот вопрос — рассказать правду людям о том, как мы живем вместе с радиацией. По этим вопросам обращался к бывшему редактору «Известий» Лаптеву, но получал, как всегда, бюрократические отписки.

Сегодня, слава Богу, уже открыто заговорили о трагедии и кое-что делается в этом направлении, особенно по оздоровлению детей. Мы все понимаем, что значит послать на оздоровление за границу хотя бы сотню детей (а в оздоровлении нуждаются сотни тысяч).

В пакете требований белорусских энергетиков в адрес правительства и министерства одним из важнейших был пункт о защите персонала от радиации и оздоровлении населения. Пятитысячный коллектив энергетиков Гомельщины поручил подписать и контролировать пакет этих требований.

Но какое же было мое удивление, когда я узнал, что вместо решения этих вопросов Вы, уважаемый Юрий

Кузьмич, подписали мероприятия по обеспечению выполнения требований трудовых коллективов, где написано черным по белому — «совместно с Минздравом организовать... изучение вопроса влияния радиоактивного загрязнения местности на персонал...»

Простите, но это же кощунство перед людьми, которых сегодня называют не иначе как подопытные кролики. И это забота? И это сострадание и милосердие?

Уйдя на пенсию, я возглавил Речицкое отделение энергонадзора и принял на обслуживание Брагинский и Хойникский районы. Я пошел навстречу просьбам и требованиям коллективов этих районов. Но, к сожалению, наше министерство не уделяет нам должного внимания по решению вопросов, связанных с чернобыльской трагедией...

Мы и сегодня ездим на открытых грузовых машинах, которые приобрели в эвакуированных колхозах и совхозах 30-километровой зоны. Даже машины и те «больные» радиацией. А мы ездим на них, глотаем радиоактивную пыль, губим легкие, почки, сердце, но самое страшное и чудовищное, когда эту пыль глотают молодые женщины, которым необходимо рожать детей... А женщины и девушки сидят вместе с нами в открытом кузове.

У меня возникает вопрос: неужели в нашем министерстве не найдутся хотя бы две легкие закрытые машины? Для тех же женщин хотя бы...

Ну неужели этот вопрос никого не волнует?

Я на всех уровнях уже пятый год поднимаю вопрос о строительстве за пределами зоны профилактория для оздоровления энергетиков области. Но — все безрезультатно. К большому сожалению...

Я опять обращаюсь к Вам. И теперь уже вот с какой просьбой. В городе Светлогорске Калининградской области есть профилакторий-санаторий, построенный совместно энергетиками Калининграда и Беларуси. Но этот профилакторий служит для развлечения калининградцев, а для нашего коллектива энергетиков он бы послужил, пока что-нибудь строится, отличным местом для оздоровления.

Поэтому я прошу Вашего вмешательства и решить этот вопрос по возможности следующим образом — отдать его на три месяца (во время школьных каникул в летний период), чтобы там могли отдыхать энергетики из Гомельской и Могилевской областей. Почему именно на летний период? Да потому, что наши дети уже измотаны

и издерганы до предела без родителей и школ. Если же мы говорим о милосердии и сострадании, то его надо проявлять на деле, а не на словах.

Пока я прошу Вас о том, что можно решить без затрат, и одновременно прошу решить вопрос о транспорте.

А для того чтобы никто нас не смог назвать вымогателями, что мы, дескать, прикрываемся Чернобылем,— посылаю Вам снимки. Может, они смогут тронуть Ваше сердце...

С уважением — ветеран Великой Отечественной войны, заслуженный энергетик БССР *Сергей Михайлович Цыцура*».

На жаль, і гэты допіс застаўся без увагі і без адказу. То быў, як я разумею, крык у пустыні. Я гэты артыкул так назваў — «Крык у пустыні». Ставіў я такія пытанні і перад міністэрствам. На іх у вялікіх чыноўнікаў не хапала ні часу, ні жадання. І клопаты «старэйшага брата», і дружба славянскіх народаў, і лозунг, што партыя думае днём і ноччу пра свой народ,— усё на самай справе аказалася фікцыяй, блефам, падманам...

У тым прыйшлося мне пераконвацца і пазней. І не адзін раз.

*Джавані Чаруці*

*Паўнамоцны і Надзвычайны Пасол Італіі ў Рэспубліцы Беларусь (сакавік 1997 — люты 2001)*

## ПАДАРОЖЖА Ў СТРАЧАНЫ СВЕТ

Наведанне раёнаў, найбольш забруджаных у выніку аварыі ў Чарнобылі, арганізаванае Міністэрствам замежных спраў Рэспублікі Беларусь для дыпламатычнага корпуса Мінска ў верасні 1999 года, засталося ў маёй душы незабыўным уражаннем і дазволіла атрымаць лепшае і непасрэднае разуменне жахлівай катастрофы красавіка 1986 года. Ядзерная небяспека, белая смерць, неадчувальная, нябачная, уяўляе сабой штосьці настолькі трывожнае з той прычыны, што яе немагчыма ні ўбачыць, ні пакратаць рукой. Бачыць сваімі вачыма, кранаць рукамі — інстынктыўнае жаданне кожнага чалавека, якое дазваляе яму праз вопыт уласных адчуванняў знаходзіць сапраўдныя і належныя доказы фактычнай рэальнасці рэчаў. Аднак сучасная фізіка парушыла нашу традыцыйную ўпэўненасць і змусіла думаць аб парадоксах субатамнага свету. Але жахотны знешне непрыкметны вораг — радыяцыя, які ўсё паглынае і безнадзейна падрывае, не пакідаючы следу, як самы каварны забойца, змушае нас з асаблівай трывогай усведамляць крохкасць нашага чалавечага бытавання.

Калі аўтобус, у якім мы знаходзіліся, перасякаў эвакуіраваныя зоны Брагінскага раёна, то што мяне ўразіла ў першую чаргу, дык гэта прыгажосць самое прыроды, якая, магчыма, з-за чалавечай адсутнасці на працягу больш дзесятка гадоў якімсьці чынам вярнулася да сваёй амаль першаіснае чысціні. Беларуская прырода — гэта прырода, якая мае сваю самавітую чароўнасць, асабліва для тых, хто прыязджае з Італіі. Італія — краіна гор, узгор'яў і толькі адзінай сапраўднай раўніны, дзе прысутнасць чалавека і ягонай гісторыі адчувальна паўсюд і дзе той жа прыродны пейзаж карпатліва змяняўся і ствараўся чалавечай рукой на працягу многіх гадоў. Беларусь жа, наадварот, краіна раўнін і лясоў, цэнтральная частка адзінай бязмежнай прасторы, якая цягнецца з захаду на ўсход, не сустракаючы на сваім шляху ніводнае перашкоды. Тут адчуваеш сябе сапраўды пагружаным у бязмежжа

прасторы, дзе чалавечая прысутнасць часам ледзь адчувальная. Было незвычайна перасякаць гэтыя прасторы, што выклікала супрацьлеглыя адчуванні. Тут расліннае жыццё перапоўнена моцы, узносіцца пышным буяннем без усялякіх там перашкод і без якога-небудзь кантролю, і дзе любая жывая істота, здавалася, жыве паўнацэнным жыццём. Выклікала асаблівае адчуванне і тое, што пасярод дзівосных прастораў знаходзіліся вёскі, пустэчыя, бязлюдныя і маўклівыя, дзе пакінутыя хаты былі павітыя сушняком, рэзрух пабудоў, разбітыя вокны. Памятаю, у шасцідзесятыя гады дэманстраваўся фільм, які папярэджваў аб рызыцы атамнай вайны. Падводная лодка знаходзілася ў стане пагружэння ў разгар узаемнай атакі, што паслужыла прычынай узнікнення жахлівага радыеактыўнага воблака. Яно апярэзвала ўсю планету, несла паўсюдна смерць. Падводная лодка знаходзілася ў водах паблізу Нью-Йорка заўсёды пагружанай у ваду з мэтай пазбегнуць рызыкі радыеактыўнага забруджання, але праз перыскоп былі бачнымі бязлюдныя і маўклівыя вуліцы вялізнага мегаполіса, які не быў непасрэдна пашкоджаны вайной і таму заставаўся матэрыяльна некранутым у той час, калі ўсе яго жыхары загінулі ў смяртэльнай радыяцыі, працяўшай горад. Але там было ўсяго падманнае ўражанне таго, як выглядае мёртвы горад, таму што без людзей, якія яго пабудавалі. А без іхняй прысутнасці горад сам па сабе нічога не варты. У пакінутых жа вёсках поўдня Беларусі тое ж падманнае, крыху нерэальнае ўражанне стрымлівалася і ў той жа час узмацнялася (акрамя немалаважнага факта, што гэта быў вопыт сапраўдны і непасрэдны) тым, што пакінутыя вёскі, такія пустэльныя і аголеныя, знаходзіліся ў атачэнні прыроды і былі ёй амаль паглынуты. Прырода здавалася яшчэ больш прыгожай і квітнеючай, нягледзячы на тое, што ўтрымлівае ў сабе скрытую небяспеку. Гэтая прыгажосць, якая здавалася абыякавай да сваёй нябачнай бяды, уяўляла сабой сведчанне трывучасці прыроды, здольнай пераадольваць і супраціўляцца, святкаваць перамогу нават над няшчасцем, прычыненым чалавекам, паглынаючы як непатрэбны нарост сляды яго знаходжання. Быццам сам чалавек з'яўляўся ўсяго толькі з'явай мімалётнай і шкоднай, ад прысутнасці якога прырода была так рада пазбавіцца, выкінуўшы са свайго чэрава і ўзнавіўшы затым свой шлях з большаю сілай і жыццядайнасцю. І якое адчуванне пакуты і мукі поўніць цябе, калі

выходзіш з аўтобуса і няхай сабе нават на працягу невялікага адрэзку часу блукаеш па гэтых закінутых месцах, дзе і дасюль яшчэ жывы след чалавечай прысутнасці — мужчын, жанчын і дзяцей, каму давялося ўсё раптоўна-нечакана пакінуць, не маючы нават магчымасці ўзяць з сабой што-небудзь з таго, чым поўніўся звычны іх побыт. Усё было непапраўна заражана і пашкоджана скрытым і нябачным болем, страшным і невылечным. Магчыма, адным з самых кранальных і значных момантаў паездкі сталася наведанне хаты паэта Міколы Мятліцкага, хаты, якая стала сведкай яго нараджэння, сталення, сведкай найбольш важных падзей яго жыцця. Наведанне гэтых мясцін, аддадзеных забыццю часу, без якой-небудзь абароненасці ад непагадзі і капрызаў прыроды, тых пакояў, дзе Мікола Мятліцкі зведаў галоўныя падзеі лёсу, рабіла нас удзельнікамі глыбокіх пачуццяў пакуты і трывогі, якія, магчыма, былі спароджаны такім жорсткім і раптоўным разрывам, роўным адчуванню духоўнай смерці. Таму што спустошанасць, такая рашучая і радыкальная, сувымерна толькі са смерцю, якая крадзе ў нас раптоўна і незваротна ўсё тое, што складала наша жыццё.

Вяртаючыся з гэтых мясцін, я лепш зразумеў пачуцці, зведаныя маімі суайчыннікамі, якія ўжо ў першыя гады пасля катастрофы наведалі гэту зямлю і не засталіся абыякавымі да пакут людзей, што перажылі тую страшную трагедыю. З той пары ўсё большая колькасць людзей і арганізацый імкнецца аблегчыць гэтыя пакуты рознымі відамі дапамогі, аказваючы асаблівую ўвагу клопату аб самай слабай і безабароннай частцы насельніцтва — дзецях. Дзесяткі і дзесяткі асацыяцый, ад вялікіх арганізацый нацыянальнага ўзроўню да невялікіх груп, сфарміраваных часам выключна з мэтай арганізацыі дапамогі, такой, як збор дапамогі для насельніцтва найбольш пацярпеўшых зон або аздараўленне ў Італіі дзяцей, якія маюць патрэбу ў гэтым. Гэты працэс ахапіў усю Італію, ад Трэнціна да Сіцыліі, у буйных гарадах і маленькіх вёсачках. Дадзеная незвычайная сетка ініцыятыў, дарэчы, не зусім добра вядомая нават у нас у краіне, у падтрымку Беларусі, паток дапамогі ў якія працягвае паступаць бесперапынна ўжо на працягу дзесятка гадоў, пастаянна павялічваецца. На жаль, менавіта таму, што дадзеная дапамога з'яўляецца спантанай і, рассеяная па тысячах ручайкоў і каналаў, знаходзіцца па-за рамкамі якога-небудзь кантролю, не

ўяўляецца магчымым прадставіць дакладныя колькасныя даныя. Толькі некаторыя найбольш значныя ініцыятывы, напрыклад медыцынскага характару, у якія ўцягнуты медыцынскія і універсітэцкія цэнтры, сталі больш вядомымі, бо маюць афіцыйныя пагадненні з беларускімі органамі ўлады. Мне не хацелася б прыводзіць назвы асобных з іх, каб не нанесці крыўды мноству іншых ініцыятыў, якія з'яўляюцца не менш таго вартымі. Аднак існуе лічба дакладная і пэўная, якая можа вымераць гэтае велізарнае і шчодрае імкненне італьянскага народа,— гэта колькасць дзяцей, што на працягу 1999 года выязджалі ў Італію з мэтай аздараўлення. На працягу прыведзенага тут года было выдадзена каля 30 000 віз у Італію, дадзеная лічба з'яўляецца паловай агульнай колькасці дзяцей Беларусі (прыблізна 60 000), якія выязджалі для аздараўлення ў памянёным годзе ва ўсе краіны свету. Хацелася б яшчэ раз падкрэсліць, што дадзенае праяўленне велікадушнасці з'яўляецца часта індывідуальным і спантанным, якое не ўзнікла пад якім-небудзь уплывам урада. Са свайго боку Італія пры дапамозе афіцыйных каналаў таксама робіць уклад у аблягчэнне вынікаў катастрофы ў Чарнобылі, напрыклад, пастаўляючы медыцынскае абсталяванне. Я асабіста прысутнічаў на цырымоніі перадачы медыцынскага абсталявання Цэнтру рэабілітацыі ў Ждановічах. Але застаецца цалкам незалежным ад урадавай дапамогі масавы ўклад тысяч італьянскіх сем'яў, якія займаюцца зборам сродкаў для адпраўкі ў Беларусь або бяруць на сябе ўсе расходы па арганізацыі прыёму дзяцей ва ўласных сем'ях і ў спецыяльна прызначаных цэнтрах.

Дзяржаўныя італьянскія структуры ўдзельнічаюць у дадзеным працэсе толькі для забеспячэння неабходных гарантый дзесяткам тысяч непаўналетніх і каб пазбегнуць любой магчымай рызыкі, якая датычыцца фізічнай і маральнай апекі над дзецьмі. І павінен адзначыць, што да гэтай пары падобны кантроль спрыяў развіццю ўсяго працэсу найлепшым і самым надзейным чынам у інтарэсах беларускіх дзяцей.

Вітаючы гэты вялікі парыў чалавечай салідарнасці і той станоўчы эфект, які ён стварае і будзе ствараць у будучым у справе адносін паміж народамі Італіі і Беларусі, я адчуваю сябе маючым права глядзець з верай і аптымізмам у будучыню. Жахотная аварыя ў Чарнобылі прадэманстравала, што такое цяжкае і балеснае здарэнне

можа з'явіцца імпульсам станоўчага развіцця, дзе пераважаюць агульначалавечыя каштоўнасці над усім тым, што б, наадварот, магло прывесці да нашага разрыву і да супрацьдзеяння. Італьянскі і беларускі народы прадэманстравалі сваё ўменне ісці правільнай дарогай і тым самым навучыліся лепш разумець адзін аднаго, адкрылі агульныя гістарычныя, культурныя і рэлігійныя карані, што дазваляе нам сёння знаходзіцца і адчуваць сябе членамі адзінай салідарнай сям'і еўрапейскіх народаў, з'яднаных мноствам глыбокіх і неразрыўных сувязей.

*Віктар Ракаў*
*(1935—2000)*

## ПАД КРЭП-ДЗЕРАЗОЮ, ПАД ЯДЗЕРАМ...

Ну што я, ну што я цяпер павязу
Туды, дзе ляжаць мае прадзеды?
Што там палажу
На крэп-дзеразу,
Пасыпаных густа ядзерам?

Куды б я, куды б я цяпер ні пайшоў —
У Сожавы далі ці ў Проніны,
Далёка наўкола маіх Целяшоў,
Як мінны прысып:
«Забаронена».

Прысесці,
зняць яблык з саду свайго,
Мядку паспытаць на пакошы,
Дзіцятку свавольна прабегчы бягом —
Запомні:
няможна, няможна!

Гэта — урывак з таго верша, які напісаўся адразу ж пасля паведамлення пра тое, што мая Слаўгарадчына, як і астатнія дзве трэці тэрыторыі нашай Беларусі, сапраўды «густа пасыпана ядзерам» пасля знішчальнай катастрофы на чацвёртым блоку Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі ў красавіку 1986 года. Якраз тады, з 25-га на 26-е чысло, недзе каля дванаццаці ночы, да мяне ў Мінск прыехаў з Магілёва брат. Мы яшчэ не спалі, гаварылі-курылі на кухні, як раптам бліз паловы другой той жа ночы адчувальна дзынкнулі шыбы ў акне. Мы моўчкі перазірнуліся, мне падумалася: зноў недзе недалёкае вучэбнае, начное бомбакіданне.

У Целяшы, маёй роднай, адной з самых аддаленых ад райцэнтра вёсцы, у адзіноце пасля смерці бацькі, жыла яшчэ маці. Пасля «рассакрэчвання» выбуху ў Чарнобылі шырока загаварылі пра высяленне людзей з найбольш засыпаных радыенуклідамі населеных пунктаў. Трошкі пазней слаўгарадцы раскажуць, што такое «рассакрэчван-

не» было зроблена для іх напярэдадні святкавання дня 1 Мая, калі жыхары райцэнтра прыбіралі горад, каб ён больш па-святочнаму выглядаў падчас дэманстрацыі працоўных. Нізка над галовамі лятала авіятка, праз рупарузмацняльнік з яе паведамлялася, што, маўляў, і сённяшняга дня на няпэўны час забараняецца хадзіць у лес, збіраць там раннія грыбы, на лугавінах шчаўе, купацца ў прылеглых да горада Сожы і Проні (яны зліваюцца ў самім Слаўгарадзе).

Вымеркаваўшы пару вольных ад працы дзён, упрытык да выхадных, кінуўся на радзіму. У дарозе напісаліся радкі:

Сэрцам адчуў: кліча зямля,
Штосьці ў душы надламілася.
Нешта маё затужыла ў палях,
Нешта ў лугах засклямілася.

Ёсць ад чаго і самому тужыць:
Апраменены край мой дрыжыць.
Мне, непадкупнаму смерду,
Болю хапае і вераду.

Божа мой, Слаўгарад,
Бедны мой род!
Дзе к табе сэрца прытуліцца?
Не скопам ссяляюць — па вуліцах,
Частку на захад,
Частку на ўсход.

Людзі па свету раз'едуцца —
Стане ў ім болей жалю, тугі.
Поле другое, узлесак другі
З часам паклічуць наведацца.

Завяршыў я гэты верш толькі гадоў праз пяць-шэсць, калі ва ўсёй нашай тагачаснай вялікай краіне адбыліся не менш жудасныя, чым чарнобыльская катастрофа, змены ў грамадска-палітычным і сацыяльна-эканамічным ладзе, калі былыя братнія рэспублікі пачалі пераўвасабляцца ў «незалежныя» — кожная са сваім дзяржаўным ладам, сваёй палітыкай, карацей кажучы, сваім норавам. Дапісана была адна страфа:

Думкі мае ўжо ў другіх гарадах.
Слаўгарад стыне пад шатамі.
Ён застаецца на пронных брадах —
Быццам райком апячатаны.

А тады, перад той паездкай да маці, на пісьменніцкіх сходах у Доме літаратара шмат гаварылі, даводзілі, пераконвалі самыя тытулаваныя лектары, нават прафесіянальныя фізікі-ядзершчыкі з кіраўнічай кагорты адпаведных навукова-даследчых устаноў, што выбух на АЭС у сэнсе небяспекі не варты нават выедзенага яйка, што нагнятанне напружанасці вакол яго — гэта злосная адсорбцыя жаданага нашымі ворагамі ад сапраўднага, рэальнага. Такая прапаганда айчынных рэтушораў усеагульнай бяды зрабіла сваю справу. І гэта я адразу адчуў, калі трапіў у асяроддзе змалку мне блізкіх і дарагіх людзей, якія жылі на сваіх, як кажуць, наседжаных месцах, па-ранейшаму не цураліся ні буронкі, ні варанога:

Людзі жылі сабе свету наўздзіў,
Наўздзіў і жыцця было многа:

Елі-пілі, дружылі з агнём,
Радзіны спраўлялі, вечаллі.
А вараннё, а груганнё? —
Ім там рабіць было нечага...

...Зноў узнікаю ў спеве-струне
Пад перастукі красёнцаў,
І — над бядою ў маёй старане
Жарты...
пра цэзій і стронцый.

Але не ўсе жартавалі.

Тым, тытулаваным, што называецца, гастралёрам, якія лакіравалі пад фіміямны бляск народнае гора, смертаносную навалу, што апусцілася на радзімныя прасторы, на галовы людзей, не ў сілах былі процістаяць нават аўтарытэтныя вучоныя-прафесіяналы. У ліку іх быў і тагачасны дырэктар Інстытута ядзернай энергетыкі Акадэміі навук Беларусі ў Соснах Васіль Барысавіч Несцярэнка. Гэта ён пісаў пісьмы ва ўрад, не падзяляючы так званае «мнение ЦК», выказваў аргументаваныя прапановы, што трэба рабіць па абароне і ахове здароўя людзей. Яго падтрымлівалі

многія, але толькі, на жаль, не тагачасныя «правители» рэспублікі. Я сказаў на жаль, бо гэты чалавек яшчэ задоўга да Чарнобыля, працуючы фізікам-ядзершчыкам і атрымаўшы моцнае, так сказаць, прафесійнае апрамяненне, знайшоў спосабы, а лепей сказаць, адкрыў магчымасці для людзей вылечвацца ад згубнага ўздзеяння ядзерных прамянёў. Калі ж надарылася бяда ў Чарнобылі, Васіль Барысавіч адзін з нямногіх аказаўся на верталёце над палаючым рэактарам. «Там мы,— па яго словах,— прилично хватанули». З той каманды на сёння ў жывых ён застаўся адзін: акадэмік Лягасаў пакончыў з сабой, памёр лётчык, штурман таксама. І зноў бальніцы, зноў пошукі шляхоў застацца жыць. І, як вынік, сёння ён знаходзіцца ў групе радыяцыйна ўстойлівых людзей. На той жа час, клапоцячыся аб здароўі ўсяго апраменeнага народа, Васіль Барысавіч нават напісаў Гарбачову, што тут, на месцы, у зоне, адмаўляюцца ад выкарыстання эфектыўных мер. Пісьмо вярнулася на тое самае «месца», за якое клапаціўся вучоны, з рэзалюцыяй: прыняць захады, каб Несцярэнка не пісаў болей у Маскву такіх пісьмаў. І — яго знялі з пасады дырэктара таго акадэмічнага інстытута. Зараз ён дырэктар недзяржаўнага інстытута радыяцыйнай бяспекі «Белрад», утворанага ў 1991 годзе.

Рэкамендацыі Васіля Несцярэнкі, як навучыцца радыяцыйнай самаахове і абароне, яго вынаходніцтвы па стварэнні радыеметраў, дазіметраў і іншых сістэм радыевымяральнай апаратуры, ягоныя методыкі па вывадзе радыенуклідаў з арганізма і яшчэ шмат чаго з ягонага вопыту маюць неацэннае значэнне ў справе аздараўлення людзей, асабліва дзяцей, вылечвання іх ад ядзернага паражэння. Людзі яго гарту яшчэ задоўга да Чарнобыля ўслед за японскімі вучонымі-практыкамі, прытым незалежна ад іх, папярэджвалі аб шкодзе фізкультурна-спартыўных заняткаў у зонах, засыпаных радыяцыйным смеццем. Таму што з практыкаваннямі пачашчаецца дыханне, а значыць, і забор лёгкімі ўнутр большай колькасці гэтага смецця. Таму і з'явіліся ў маім вершы, працытаваным у пачатку артыкула, радкі: «Дзіцятку свавольна прабегчы бягом // Запомні: няможна, няможна!».

І вось мая апошняя па часе, майская гэтага года паездка на Слаўгарадчыну, на бацькоўскія магілы. Паездка і надта жаданая, і ў той жа час вельмі сумна-шчымлівая, горасная нават. Але аб усім па парадку.

...Недзе ў самым патаемным куточку душы, нават для мяне самога дакладна наўрад ці акрэсленым, даўно-даўно,

яшчэ з тых часоў, калі мне здалося, што я пазнаў горад, жыве мая гордасць за тое, што я — вясковец. Сваім сябрам гараджанам я неаднойчы — па нагодзе, вядома,— гаварыў: «У мяне ёсць не толькі «геаграфічны пункт», дзе я нарадзіўся. У мяне ёсць пэўнае месца ў гэтым пункце — з дваром ці дворышчам, з лапічкам зямлі, са шпакоўняй, градой і яблыняй,— дзе я вырас. З далёкіх ці блізкіх дарог я туды магу вярнуцца (і вяртаюся) у любы час, калі мне таго захочацца...»

Сёння ж, асабліва пасля наведвання родных мясцін, мне ўсё часцей і часцей нялёгка думаецца: а ці не занадта самаўпэўненым я быў, выказваючы сябрам нібыта сваю перавагу перад імі? Бо (можа, як прысуд часу за маю былую самаўпэўненасць?) знікае мая вёска «з яснай явы».

Нават пад вар'яцкім нажом бязглуздых чынуш, якія, вядома ж, па сваёй разумовай блізарукасці, дзялілі вясковыя пасяленні на перспектыўныя і неперспектыўныя, мае Целяшы яшчэ неяк трымаліся. Бо былі цэнтрам калгаса з сельсавецкай ды сельпоўскай канторамі. Толькі ж сілы выстаяць далей — няхай не вырасці, хоць бы зберагчы ранейшую колькасць двароў і душ — сёння не хапае. Целяшы на вачах гінуць. Апусцелі вуліцы. Вокны хат, што паабапал іх, у большасці пакрыжаваны аполкамі, ашчэпкамі дошак, трухлявая агароджа падпёрта слупкамі — відаць, ужо чужымі рукамі. Нягледзячы на намаганні былога і новага кіраўніцтва мясцовай гаспадаркі — калгаса «Рассвет» (пабудавана ўнушальная абойма цагляных домікаў-катэджаў для людзей і яшчэ тое-сёе будуецца), з году ў год вёска няўмольна радзее. Мо выязджаюць людзі? Не. Няма каму выязджаць: людзі старэюць тут, як кажуць, на корані. Затое расце другая вёска, што побач,— могільнік, па-нашаму — кладзішча. Ранейшыя межы яго аказаліся цеснымі, цяпер да яго далучана суседняя абложка з самасейнымі сасоначкамі, дубкамі, бярозкамі, іншым кустоўем.

І гэтак па ўсёй тэрыторыі раёна. Як сведчыць мясцовая статыстыка, у мінулым, 1999 годзе ў раёне нарадзілася 200, а памерла 294 чалавекі. Пры гэтым, па прычыне адсутнасці навукова абгрунтаванай сістэмы медыцынскага абследавання людзей і тэрыторыі, ніхто тут пэўна не можа сцвярджаць, ад чаго больш памірае людзей — ад натуральна прыроджанай наканаванасці ці ядзерна-прамянёвага ўздзеяння.

Але вернемся ў вёску. Па яе цэнтральнай вуліцы паклалі асфальт. Гэта «з чарнобыльскіх» фондаў, за «чар-

нобыльскія» грошы. Пяць гадоў пасля аварыі вёску і яе наваколле лічылі «чыстымі», на шостым жа спахапіліся: ледзь не ўвесь раён трэба высяляць. А значыць, мае Целяшы таксама. «Толькі ж куды ўжо нам? — скрушна ківаюць галовамі прыгорбленыя, ■ кіёчкамі дзядкі ды бабулі.— Маладзейшыя... няхай, ■ нам хопіць і таго надлатка з самасейнымі кусцікамі...»

У гаворцы з людзьмі, прыкладна, майго ўзросту і ўжо, так сказаць, са стажам, пажылымі пенсіянерамі, а таксама з моладдзю не было асаблівай радасці ні ў іх, ні ў мяне. На самым пачатку, калі, што называецца, «заўважылі тут радыяцыю», была 50-працэнтная надбаўка да заробку. Зараз жа гэтыя, як яны сёння завуцца, надбаўкі за пражыванне ў забруджанай зоне, якія ў свой час у народзе трапна ахрысцілі «магільнымі» (па-руску — «гробовыми»), знізіліся да зневажальнага ўзроўню. За студзень гэтага года, напрыклад, у залежнасці ад забруджанасці мясцовасці, гэтыя дапамогі ваганіся зусім мізэрна на чалавека ў месяц. Купіць жа за гэтыя надбаўкі па сённяшніх цэнах (а ў Слаўгарадзе і ў Мінску яны аднолькавыя) можна толькі недзе ад 70-ці да 120 грамаў каўбасы. І гэта пры такой жа зневажальнай мізэрнай зарплаце калгаснікаўсялян. Не лепшае становішча з узроўнем жыцця і ў самім райцэнтры.

Пры размове з людзьмі імкнуся перахапіць ініцыятыву, нагадваю пра клопаты нашага Прэзідэнта па аздараўленні людзей, асабліва ў так званых чарнобыльскіх зонах, пра яго дальнабачныя захады па будаўніцтве аздараўленчых комплексаў і... І тут зноў верх бяруць людзі. «Ведаем, ведаем! — у адзін голас усклікаюць і маладыя, і старыя.— Самі газеты чытаем (хоць і адну на ўсіх, затое, што называецца, калектыўная чытка з дружнымі каментарыямі прысутных) дый радыё слухаем. А яшчэ часам і тэлевізар глядзім!»

У большасці населеных пунктаў раёна пры малой колькасці маладых людзей, якія яшчэ нейкім чынам заставаліся тут, ні клубаў, ні бібліятэк. Дзяўчына не можа жаніха па сабе выбраць, хлопец — нявесту. Што ім рабіць? Куды кінуцца? З'ехаць адсюль? А пры сённяшнім раз'яднанні, пры ўсяленскім, так сказаць, раздраі — хто цябе дзе прыме? Каму ты патрэбны? Сваіх няма чым карміць! Пытанні, пытанні, пытанні...

З людскою бядой (і са сваёй таксама!) іду ў райвыканкам. Наведваюся да Валянціны Цітаўны Ігнатавай, загадчыцы аргаддзела, і намесніка старшыні райвыканка-

ма па надзвычайных сітуацыях Валерыя Іванавіча Драздова. Яны тут людзі, што называецца, дзяржаўныя. Ім не менш баліць, чым мне. Думаю, нават больш. Па абавязку службы яны павінны вырашаць усе тыя праблемы, пра якія людзі гаварылі мне. І за гэта ў іх спытаюць уверсе, і спытаюць строга. Як людзі дзяржаўныя, яны разумеюць сітуацыю і валодаюць ёй таксама па-дзяржаўнаму. Калі на самым пачатку, у першыя гады пасля катастрофы, пацярпелым рэгіёнам дапамагаў увесь Саюз, уся вялікая, ды і багатая, краіна, то зараз, у выніку так званага параду суверэнітэтаў, Беларусь засталася адна са сваёй бядой. Дзе ўзяць грошы, калі раён фінансуецца з бюджэту ўсяго толькі на 70 працэнтаў ад патрэбнага? Асабліва невыносна з будаўніцтвам. На дзень майго прыезду ў раён, напрыклад, не завершана ўзвядзенне лазне-аздараўленчага комплексу, пачатае яшчэ ў 1990 годзе. Ні капейкі не выдзелена на іншыя (запланаваныя!) аб'екты гаспадарча-жыллёвага прызначэння. Вось чаму не толькі па прычыне забруджанасці раёна, але і з-за адсутнасці жылля сюды не едуць спецыялісты. Непамерна цяжка ў гэтай сувязі самому старшыні райвыканкама Валерыю Васільевічу Бераставу, бо жыллёвая праблема ляжыць на ягоных плячах.

Падзячнае слова ў адміністрацыі раёна кажуць у адказ урачэбна-медыцынскага корпуса. Медыкі тут працуюць не шкадуючы сябе, па вахтавым метадзе, але і яны найчасцей бяссільныя, бо ў раёне не хапае грошай на лекі, няма нават капельніц, патрэбных раствораў. Няўмольна расце лік анкалагічных захворванняў.

На асаблівым кантролі ў раённай вертыкалі — здароўе дзяцей. Арганізавана бясплатнае харчаванне школьнікаў і навучэнцаў прафесіянальна-тэхнічных вучылішчаў, але і тут не бязвоблачна. Па лініі Дзяржкамчарнобыля, здараецца, нерэгулярна выдзяляюцца сродкі на харчаванне дзяцей, а таму школы пастаянна павінны райспажыўсаюзу за гэта.

Ёсць праблемы з адпраўкай дзяцей у аздараўленчыя лагеры як за мяжу, так і ўнутры краіны. Ажыццяўляецца гэта, як правіла, у вучэбны час, два месяцы якога для кожнага такога школьніка выкрэсліваюцца з вучэбнага працэсу. А гэта адмоўна адбіваецца на іхніх ведах, і пры адсутнасці льгот для такіх выпускнікоў толькі адзінкі з іх праходзяць конкурсы пры паступленні ў вышэйшыя навучальныя ўстановы.

Не меншыя праблемы ў раёне і з адсяленнем людзей з забруджаных зон. Вынікі першага даследавання пасля выбуху на рэактары паказалі, што са 112 населеных пунктаў забруджанасць ад 1 да 5 кюры на квадратны кіламетр мелі ўсяго толькі 10 вёсак, ад 5 да 15 — 78, ад 15 да 40 — 22, ад 40 і вышэй — 2 вёскі. З вызначаных зон адсяленне павінна было быць завершана яшчэ ў 1996 годзе. Але з прычыны нізкай у шэрагу выпадкаў якасці будаўніча-мантажных работ ва ўзводзімых пасёлках, адсутнасці ў іх камунальна-бытавых службаў, прадпрыемстваў гандлёвага і культурнага прызначэння, дрэннага вырашэння пытанняў працаўладкавання гэтая работа была выканана толькі на 70 працэнтаў, таму што пэўная частка людзей адмовілася пераязджаць у так званыя «чыстыя» зоны. Яны засталіся на радзіме. Як правіла, гэта людзі адзінокія, пажылыя, пенсіянеры. А сёння, калі некаторыя з такіх адселеных вёсак падпалі пад «рэабілітацыю», дык, каб зноў пачаць там гаспадарчую дзейнасць, няма патрэбнай колькасці людзей, здольных працаваць. Былыя ж карэнныя жыхары гэтых вёсак вярнуцца назад магчымасці не маюць. Іх жытло разрабавана, так знявечана і шмат дзе яго ўжо не адрамантуеш.

Каб не стамляць чытача пераказам жахлівага з сённяшняга жыцця людзей маёй Слаўгарадчыны, якое насланa на іх галовы, на іх зямлю чарнобыльскай катастрофай, дазволю сабе спыніцца толькі на гэтым, пераказаным, хоць факты з майго блакнота выкарыстаны тут далёка не ўсе. Але хопіць. Я лепш вярнуся з раёна ў свае родныя Целяшы, куды лёцьма ляцеў на самым пачатку чарнобыльскага выбуху. З пераказаных цяжкасцей вёска мая не выключэнне. Як і ўвесь мой Слаўгарадскі раён, яна, відаць, з самага свайго далёкага з'яўлення пасялілася на нешчаслівым месцы. Хоць...

...Я памятаю, як вёска (спачатку) спявала. Кумачовыя сцягі на школе, на сельсавеце, на той, адзінай у калгасе машыне-палутарцы, на якой у вялікія святы «каталі» людзей па расквечанай вуліцы.

Я памятаю, як вёска плакала. Мала якая сям'я не праводзіла са свайго двара мужа ці сына, а то і таго, і другога адразу на вайну.

...Я памятаю, як вёска гарэла. Паліў немец, спешна адступаючы. Малыя, з бяссільнымі мацяркамі, мы глядзелі на пажар з недалёкага лесу, а тушыць не беглі: баяліся — пастраляюць.

...Я памятаю, як вёску вызвалялі. З усходу на захад, уроссып па ўсім полі, ад гіжанскіх бярэзнікаў рашучым крокам ішлі свае, у нашых касках, нашы аўтаматчыкі.

...Я памятаю, як вызваленыя пагарэльцы «пайшлі пад зямлю». Па сямейнай сіле, хто выкапаў сабе зямлянку, абклаўшы яе сцены абгарэлымі кругляками ад былых будынін, а хто проста глыбокую, з верхавым лазам яму — без святла, без апалубкі.

А ў незгарэлай Граськавай хаце адкрылі школу. У невялікім памяшканні — разам чатыры класы пачаткоўцаў. Сядзелі цесна на лаўках, апранутыя, грэючыся адзін ад аднаго. Чыталі ўслед за настаўніцай словы, напісаныя ёй жа на прыстасаванай дошцы. Пісалі хто на чым: на кавалку фанеры, на бяросце, на газетным абрыўку, на шматку лістоўкі, нашай ці нямецкай, паклаўшы ўсё гэта сабе на калені ці на спіну пярэдняга вучня.

Алоўкаў не было. Пісалі самаробнымі драўлянымі стрэмкамі, мачалі іх у самаробнае чарніла — з сажы, і воўчых ягад.

Згаладалыя, бледныя, пад канец непрацяглага вучэбнага дня мы ўжо ледзьве знаходзілі сілы, каб дыхнуць на адубелыя ад холаду ручаняты.

А над усім гэтым такі ж спалатнелы, схуднелы твар Марыі Архіпаўны, нашай першай і па сёння незабыўнай настаўніцы. Па-дзіцячы блытаючыся ў словах, мы часта, звяртаючыся да яе, прамаўлялі яе імя як Мама Архіпаўна. Як прыемна гучыць тая памылка сёння, замешаная на нялёгкім успаміне.

Затым была Перамога. Я назаўсёды запомніў гэтае святое слова, якое, здаецца, побач з сонцам, побач з поўным залатым месяцам доўгія гады свяцілася ў небе над нашым падземным жытлом. Яно высвеціла дарогу назад незабітым на вайне аднавяскоўцам, якія і асвяцілі яе, Перамогу. І бацьку майму ў тым ліку, Апанасу Рыгоравічу, з перабітай рукой на падвязцы. Вярнулася меней, чым пайшло.

Помню ўсіх і ў спёку, і ў марозы
Толькі міг, як водбліск нажавы.
Умаўчалі нам тады бярозы,
Хто з паходу вернецца жывы.
Варажылі маткі, як умелі
(Тады ўсе былі варажбіты),
На сувой пяньковы, на кудзелю
І на ўсіх, што ў покуце, святых.
І адна адной апавядалі

Пра сваю бяду, пра свае сны.
Сніліся не лаўры, не медалі,
Сніліся сыны — не ў дні вайны.
Згадвалі у снах тых перамогу,
На жывых не трацілі надзей:
«Ты знайдзі, знайдзі ў свой край дарогу —
Хай нават калекам — да дзяцей».
Не, не ўсе пачулі загаворы
Жонак, матак і дзяцей, каб жыць.
Васілі, Парфілі, Міканоры...
Дзе вы, хлопцы, на якой мяжы?
Прынялі якія вас паляны?
У чыіх ляглі вы раўчуках?..
Трох Іванаў, трох дзядзькоў Іванаў
З тых дарог і я не прычакаў.

Трох дзядзькоў не дачакаўся я дахаты па бацькавай і матчынай радні — Івана Рыгоравіча, Івана Іларыёнавіча, Івана Фёдаравіча.

Сёння толькі адной маёй памяці не хопіць, каб пераказаць, пераліць у словы ўсю тую навалу, якую змаглі мы — голыя, галодныя — тады перажыць. А перажылі — у гэтым няма сумнення — таму, што даражылі адно адным, ніколі не пакідалі адзін на адзін з бядою, дапамагалі, чым толькі маглі. «Ярусамі», як называлі, упрагаліся ў плугі, па чарзе засявалі прыдворную зямельку. І калгасную таксама. І гэтак усёй вёскай.

Памятаю, ніколі не забуду, як у першы ж год пасля заканчэння вайны я вёз на быку, запрэжаным у вясковыя калёсы, дзядзьку Іллю, мамінага роднага брата, які, будучы мараком Балтфлоту, усю вайну прастаяў у блакадным Ленінградзе. Вёз у сваю вёску, на кароткую пабыўку, з чыгуначнага паўстанка Драніха. Убачыўшы, як упрэжаныя ў плугі вясковыя жанкі здабывалі, так сказаць, «хлеб насущный» і для сябе, і для арміі, для Радзімы, дзядзька, які неаднойчы глядзеў у вочы смерці, горка, наўзрыд плакаў. «А мы, армейцы, былі яшчэ незадаволены такімі мізэрнымі для нас харчовымі пайкамі,— усклікнуў ён праз слёзы.— Нам бы з гэтымі, тылавымі, людзьмі на той час і тым пайком падзяліцца...»

Цяпер такой еднасці душ я ўжо даўно не заўважаю.

З пачатковых класаў наша Марыя Архіпаўна перадала нас у старэйшыя, другім настаўнікам. Ледзь не ўсе яны, акрамя жанчын, франтавікі. Завуч Авяр'ян Апанасавіч Андрэеў, мой класны Сяргей Ягоравіч Лук'янцаў, а яшчэ

старшыня калгаса (таксама франтавік) Васіль Яфімавіч Пазнякоў пасля напісалі мне свае рэкамендацыі ў партыю. Я паважаў, я любіў гэтых людзей яшчэ будучы школьнікам. Я паважаю, я люблю гэтых людзей і сёння, калі іх ужо няма ў жывых... «Совесть — не производная от времени. Она — константа вечности»,— гэта максімы Васіля Карнеевіча Камандзенкі, яшчэ аднаго майго любімага настаўніка (рускай мовы і літаратуры), мне не пазбыцца да канца сваіх дзён.

Вёскі — адна, другая, трэцяя... Кожная з іх хоць у нечым, ды не падобная на суседнюю. Яны, як асобныя, хай і невялічкія, але дзяржавы. І розняцца перш за ўсё норавам, характарам сваіх насельнікаў. Любанца, напрыклад (жыхара, ураджэнца вёскі Любаны), я пазнаю і на другім баку зямнога шара, бо ён, дзе б ні быў, ніколі не скажа зялёны, бяроза, апроч як зілёны, бірёза і г. д. А нажываюцца і ўсталёўваюцца гэтыя якасці, адметнасці, вядома ж, не проста так. Яны, тыя якасці, у кожнай вёсцы ад такіх вось, сваіх уласных аўтарытэтаў, як мае настаўнікі для маіх Целяшоў.

Ды ці толькі настаўнікі, людзі старэйшага пакалення? У тыя суровыя гады маленства мы, нібы губкі, убіралі ў сябе ўсё лепшае, што заўважалі ў сваіх паплечніках. І арганічна не прымалі, асуджалі ўсё горшае, непрыстойнае, непрымальнае. А таму характары людзей аднаго пакалення, сфарміраваныя ў пэўным часе, думаецца, павінны быць блізкімі. Нават у самых аддаленых кутках свету можна пазнаць свайго земляка, вобразна кажучы, нават па тым, як ён маўчыць. З маленства памятаю, як маці мая, Анастасся Рывонаўна, часта, вельмі часта паўтарала: «У чужых краях нават тутэйшы сабака раднёю прыдасца».

...Больш за сотню двароў было ў маіх Целяшах да вайны і пасля яе, пры маёй маладосці. Цяпер палавіна з іх не двары, а дворышчы. З абваленымі хацінамі, з падпёртымі варотамі. Што не ўзялі войны, адолеў жахлівы Чарнобыль. Сапраўды, на нешчаслівым месцы пасяліліся мае Целяшы, хоць завяршыць гэтую гаворку мне хочацца апошняй страфой таго верша, з якога яна пачалася:

Ну што я, ну што я цяпер прывязу
Адтуль, дзе ляжаць мае прадзеды? —
Салёную, горкую з жалем слязу,
З начынкай смяротнаю —
ядзернай...

## *Анатоль Казлоў*

## СПОВЕДЗЬ ВЯРТАННЯ

Доўгі час я адкладваў і адкладваў гэты момант. Баяўся, што, узяўшыся за ручку, не змагу апісаць той стан душы, які не пакідае вось ужо колькі год. Так, з таго дня прайшло нямала год... Сярод глухога лесу, удалечыні ад магістральных дарог, буйных прадпрыемстваў і шматгалосага людскога натоўпу засталася сіраціна-сіраціначкаю мая родная вёсачка Асінаўка, а ў ёй хата з пустымі вокнамі — мой родны дом.

Ад роспачнага болю і самоты нават нельга схавацца і ў снах. Ноч за ноччу напльіваюць яны, вярэдзяць душу і сэрца — не даюць спачыну.

Само сабой прыйшло ўсведамленне, што я страціў самае дарагое і каштоўнае ў жыцці — сваю маленькую радзіму. Той куточак зямлі і тых людзей, [redacted] чым і [redacted] кім ад самага нараджэння абвіты адной пупавінай. І вось Асінаўка пустая.

Пасля высялення заставалася каля дзесятка здзічэлых сабак, якія збегліся сюды з вакольных вёсак Кармапаек, Крываліцка, Драгатыні... Ім сёе-тое перападала ад гаспадарлівых старых бабуль Ганны і Дашы. Яны яшчэ жылі тут, сабраўшыся ў адной хаце — удзвюх не так страшна і адзінока. Не маглі яны пакінуць Асінаўку, бо, можна сказаць, ніколі не пакідалі вёску, не ад'язджалі далей Краснаполля — раённага цэнтра, які знаходзіцца ад вёскі за васемнаццаць кіламетраў.

Асінаўка — другая брыгада былога калгаса імя Жданава (пазней — «Мір»), вёска невялікая, каля трыццаці хат, такіх вёсачак большасць ва ўсходняй Магілёўшчыне. З усіх бакоў некалі была акружана мая Асінаўка, як вока павейкамі,— лесам. Пералівалася тут і прыгожая рэчка Галуба, на якой у мінулым стагоддзі князь Крапоткін зрабіў прыгожае возера... Але ўсё гэта ў мінулым. Яшчэ да страшнага дня чарнобыльскай бяды завіталі і да нас у «госці» меліяратары, выпрамілі рэчку, спусцілі возера, асушылі балацявінкі, павыдзіралі прырэчныя вольхі і вербы. І стала Асінаўка з аднаго боку абдзімацца вятрамі і заносіцца пылам. Старыя дзяды, цяпер нябожчыкі, часта, седзячы каля Цімохавай хаты, якая стаяла ў цэнтры вёскі і дзе ўвесь час збіраліся людзі, каб атрымаць нарад ад

брыгадзіра, пагаворвалі, што «міліярацыя» толькі пачатак нейкай бяды, бо нельга так бяздумна бэсціць тое, што дадзена Богам. Грэх псаваць зямлю, выціскаць з яе сокі. Падыходзіць неспакойны час, дужа турботны. Мужчыны і жанчыны пасміхаліся з іхніх слоў, і толькі мы, дзеці, шчыра верылі дзядам Таўкалу, Петраку, Пракопу. Вера гэтая была ў нас падсвядомай і сардэчнай. Нашы старыя, пабітыя вайною дзяды глядзелі на змены з вышыні сівой сваёй сталасці, а мы, дзеці, як ніхто іншы, унутрана адчувалі шчырасць і занепакоенасць у іх словах. Дзіця, як ні дзіўна, падмануць цяжка, яно інтуітыўна адрознівае праўду ад хлусні, спагаду ад здзеку...

Але, была рэчка і не стала яе. Сышлі невядома куды бабры в прамога, як прут, канала. Знікла вада з Галубы, цяпер бяжыць ручай курыцы па калена...

Адбылося гэта пад вечар. Мы, дзеці, як звычайна ўлетку, бестурботна галёкалі па вёсцы, гулялі ў «дага-нялкі» і раптам заўважылі бабра. Ён, брудны ад пяску і пылу, валокся па нагрэтай сонцам дарозе. Звярок ні на што не звяртаў увагі. Пасля яго на пяску засталася вузкая баразёнка ад пляскатага ў драпінах хваста. Мы ніколі не бачылі такога дзіва і прыціхлі. Бабёр жа, як сляпы, валокся па ўезджанай дарозе. У кожным кроку і руху звярка адчувалася абыякавая безвыходнасць. Тады ўпершыню ўбачыў, як плачуць жывёлы. Ці не ад гэтага ўсумніўся я ў доказах настаўніцы біялогіі, якая на ўроках даводзіла: жывёлы нічога не разумеюць. Не, хочацца сказаць і сёння: яны разумеюць, шмат чаго разумеюць.

На такую незвычайнасць павыходзілі паглядзець з хат і двароў дарослыя. Нехта жартаваў, той-сёй прымерваўся да бабровага футра, і толькі Іван Платонавіч Лісічкін, а па-вясковаму дзед Таўкала, ды Іван Якаўлевіч Громаў знайшлі вялікі кош, у якім восенню перавозяць бульбу з поля, узялі саматканую посцілку і пацяху злавілі звярка. Іван Якаўлевіч Громаў, ці па-вясковаму Генерал-палкоўнік, запрог у калёсы каня, паставіў абвязаны посцілкай кош з бабром і павёз пад Сычын. Туды яшчэ не паспелі дайсці меліяратары. Там яшчэ рэчка Галуба была паўнаводная, з мноствам вiроў. Такі лёс напаткаў аднаго з баброў, а астатнія? Дзе падзеліся астатнія? Ніхто з асінаўцаў не ведаў ды, мабыць, не ведае і да сённяшняга дня. А было ж толькі каля нашай вёскі сем хатак баброў. Ці не з гэтага моманту пачалося высяленне, перасяленне, а мо і знішчэнне ў Асінаўцы і асінаўскай ваколіцы? Здарылася гэта

ў канцы сямідзесятых гадоў. Яшчэ ледзь не дзесяцігоддзе аддзяляла нас ад чорнага чарнобыльскага дня. Пакуль што бестурботна збіралі мае аднавяскоўцы грыбы і ягады ў лесе, пасвілі кароў, сенавалі, садзілі агароды, збіраліся за чаркай на вяселлях і радзінах, праводзілі ў апошні шлях дзядуль і бабуль. Вёска жыла, жыла штодзённымі клопатамі. Ніхто і нішто, здавалася, не зрушыць яе, «не падыме на крыло». Але так толькі здавалася. Не верылі мы, што ёсць страшная і магутная сіла, здольная адным махам перакрэсліць усё! Атам... Так, мы чулі пра яго. Вывучалі ў школе па фізіцы. Але гэта мы, школьнікі. Што ж да старэйшых людзей, то дзіўнае слова даводзілася чуць ім па радыё ці тэлевізары, прачытаць у газеце. Толькі там паўсюль гаварылася пра «мірны атам», «самую экалагічна чыстую электраэнергію».

Сёння ж ад дашкольніка да бабулі — кожны ведае гэтую небяспечную, нябачную, смяротэльную і д'ябальскую сілу...

26 красавіка 1986 года дзень трагедыі беларускага народа, маёй трагедыі і маіх аднавяскоўцаў. А колькі ж такіх Асінавак на ўсёй нашай зямельцы-пакутніцы? Ці палічылі іх, ды і ці палічаць? Не хопіць на руках пальцаў, каб пералічыць толькі раёны, якія «накрыты» цяжкімі чарнобыльскімі воблакамі. Магілёўшчына, Гомельшчына, Міншчына, Брэстчына... Калі чуеш ці чытаеш пра трагедыю нацыі, то ва ўсведамленні ўзнікае нешта аб'ёмнае і расплывістае. Магчыма, што гэта нейкая заканамернасць і абмежаванасць чалавечага ўяўлення. І наадварот, калі трагедыя ўспрымаецца праз канкрэтны куточак зямлі або асабіста знаёмых людзей, то гэта стрэмкай застаецца ў душы і сэрцы на ўсё жыццё.

Боль і трагедыя маіх аднавяскоўцаў — мой боль, боль майго спакутаванага і няшчаснага народа.

Пайшоў другі год з таго дня, як я не быў у Асінаўцы. І вось сёння еду ў маршрутным аўтобусе «Мінск — Краснаполле». На сэрцы дужа неспакойна. У галаве блытаюцца, пераплятаюцца думкі і ўспаміны, а перад унутраным зрокам паўстаюць цэласныя малюнкі, як на фотаздымках, роднай вёскі, постаці людзей, такія драбніцы, на якія, здавалася, ніколі не звяртаў увагі.

Параскідала, паразводзіла бяда ў розныя бакі асінаўцаў. І нікому цяпер не пад сілу сабраць іх разам, пад дахамі родных хат.

Пасля шасці гадзін аўтобус спыніўся ў Чэрыкаве.

І гэтая зямля-«глыбінка» пазначана радыяцыяй. Мала хто раней ведаў, што недзе ёсць вёскі Вепрын, Халмы, Малінаўка, Чудзяны. Цяпер «слава» пра іх шырока разышлася па Беларусі і за яе мяжамі. У названых вёсках радыяцыя ў тры разы большая, чым у трыццацікіламетровай зоне Чарнобыля. Тут, падчас высялення, не было ні аднаго дзіцяці, у якога быў бы гемаглабін прыбліжаны да нормы.

А за дваццаць шэсць кіламетраў ад Чэрыкава другая балючая рана — Слаўгарадчына, адзін з найпрыгажэйшых куткоў Магілёўшчыны. Рэчкі Сож і Проня з лясамі і заліўнымі лугамі таксама пасыпаны попелам Чарнобыля. І сам раённы цэнтр трапіў пад смертаносную руку бяды. Вёскі ж Н. Слабада, Дуброўка, Аляксандраўка, Кліны і іншыя пакуль што не зніклі: часткова жывуць тут людзі, набліжаючы свой апошні дзень.

А куды ехаць? Дзе шукаць шчасця? І ці так лёгка пакінуць абжытыя куткі, дагледжаныя і прыбраныя дворыкі. Тым жа гайшынцам ці клінаўцам як пакінуць берагі Сожа, чаўны і рыбацкія снасці, стромыя берагі? Ледзь не з дзіцячых пялюшак гэтыя людзі каля рэчкі. Дык дзе ж, скажыце, яны змогуць прыжыцца?..

Але вось і праехаў аўтобус чэрыкаўскім мостам цераз Сож. Усяго трыццаць кіламетраў аддзяляе мяне ад Краснаполля, а да пачатку зямель раёна — пятнаццаць. Дарога ўвесь час бяжыць праз лес. Тут, недалёка ад рэчкі Сенна, якая падзяляе Чэрыкаўскі і Краснапольскі раёны, размешчаны адзін з заказнікаў. У ім знайшлі прытулак ласі, казулі, дзікі, лісіцы... але ад каго цяпер іх вартаваць і захоўваць. Ніхто ж на паляванне не ходзіць — уся дзікая жыўнасць свеціцца, зіхаціць ад радыяцыі. Грыбныя і ягадныя мясціны і то абыходзяць людзі бокам; нельга збіраць, нельга есці.

Пры ўездзе ў Краснаполле ўзвышаецца стэла, якую паставілі незадоўга да 1986 года. Цяпер яна — нібы прарочы сімвал: вялізны калючы шар-атам на сімвалічных жалезабетонных снапках каласоў. Архітэктар як быццам знарок уклаў у сваё «тварэнне» злавесны сэнс, пазначыў, што краснапольскія палі будуць шчодра засеяны не толькі зернем, але і нябачнымі атрутнымі часцінкамі цэзію, плутонію, ёду, тэлуру... Да Краснаполля ў аўтобусе даехала тры чалавекі, усе астатнія выйшлі ў Магілёве. Здаецца, нічога ў Краснаполлі не змянілася. Праўда, адчувальна паменшала людзей на вуліцах, не так шмат грузавых машын на перакрыжаванні дарог.

Час быццам спыніўся на маёй Краснапольшчыне. Год змяняецца годам, зіма вясной, адлятаюць у вырай і вяртаюцца птушкі, і толькі бяда, напаткаўшая маіх землякоў, не знікае, не змываецца ні талым снегам, ні шчырымі навальніцамі — бяда не памяншаецца...

Роўная асфальтавая дарога бестурботна бяжыць сярод палёў, паўз бярэзнік і кусты вербалоззя. Зусім няма на ёй стрэчных машын. Новая добрая дарога. Зрабілі насып і паклалі асфальт пасля выбуху на Чарнобыльскай АЭС. Для каго і навошта яе зрабілі, каму цяпер яна патрэбная? Відаць, рэдкім «гасцям», ранейшым жыхарам гэтых мясцін. Параз'ехаўшыся ў розныя бакі, яны хоць зрэдку, раз-два на год, але прыязджаюць на свае ранейшыя котлішчы і дворышчы, да хат з пустымі вокнамі, да сваіх садоў і агародаў, раней дагледжаных і прыгожых. А цяпер тут буяюць піжма, палын ды крапіва. Мурагом зараслі вясковыя дарогі і сцяжыны, перакасіліся брамы, разваліліся, згнілі частакольныя платы. Няма каму паправіць. Рукі гаспадароў і гаспадынь заняты клопатамі недзе далёка на другой зямлі.

Некалькі хвілін — і аўтобус праскочыў калгас «Камінтэрн», адзіную гаспадарку, якая засталася быццам бы чыстай ад радыяцыі. Гэта ж зусім не страшна, калі на іх зямлю, на стрэхі хат трапіла 15—25 кюры на квадратны кіламетр. Жывіце, людцы, бо тут можна жыць. Раджайце дзяцей, карміце іх бульбай, яблыкамі, морквай са сваіх агародаў. Што значыць нейкіх там 15—20. Гэта ж зусім нельга параўнаць з 400, што зарэгістравана ў вёсцы Наваельня, якая ад цэнтральнай сядзібы «Камінтэрна», вёскі Пачаты, знаходзіцца за 6—7 кіламетраў. І яны жывуць, працуюць, вырошчваюць хлеб, гуляюць вяселлі, збіраюцца, каб адзначыць дзень нараджэння. Вельмі часта цяпер адзначаюць, ці, як кажуць мае землякі, спраўляюць дні нараджэнняў. Для іх было так нехарактэрна гэта раней, заўсёды не хапала часу на такія дробязі, а цяпер і час, і магчымасці знаходзяцца. Бо ў кожнага глыбока ў душы, у падсвядомасці жыве думка-згадка: хто яго ведае, а мо і не прыйдзецца ў наступным годзе адзначыць свой дзень з'яўлення на гэты грэшны свет...

Мінуў ледзь не пусты аўтобус і вёску Яшная Буда. І тут яшчэ жывуць людзі. Лапікі агародаў у белай і ружовай квецені бульбы. Невялікія палоскі ячменю і жыта ў лёгкай жаўцізне — спее хлеб. Каля дарогі драўляны крыж, перахоплены саматканым з вышыўкай ручніком.

Тут святая крыніца. Асушваючы мясцовыя балацявінкі, меліяратары збэсцілі яе, засыпалі пяском. Толькі ж будзяне наперакор усім адкапалі, пачысцілі крынічку, абгарадзілі і паставілі крыж. І збіраюцца тут людзі з вёсак, якія яшчэ засталіся, моляцца Богу на Сёмуху і Спаса, просяць збавення і выратавання ад нячутнай і нябачнай бяды, набіраюць у слоікі з сабою дахаты празрыстай святой вады. А мо і дойдуць іх словы-просьбы да Збавіцеля. І не столькі за сябе яны просяць і моляць, колькі за жыццё дзяцей, за ўнукаў і праўнукаў, за народжаных і яшчэ ненароджаных нашчадкаў.

А вось і Наваельня. Зусім нядаўна была яна цэнтрам сельсавета. У 1979 годзе я скончыў тут дзесяцігодку. У той старой школе, у якую штодня хадзіў за сем кіламетраў, некалі вучыліся мае бацькі, а сёстрам пашчасціла сядзець за партамі ў новым двухпавярховым будынку. Разам з маёй маці Марыяй Сямёнаўнай вучыўся і наш вядомы пісьменнік Міхась Стральцоў. Мо таму вельмі любіць яна аповесць былога аднакласніка «Адзін лапаць, адзін чунь». Усе яны тады былі ў лапцях і чунях. Нягледзячы ні на маразы, ні на слоту, мералі паспешлівым крокам дарогу ад дому да школы і назад. Галодныя, халодныя, яны вучыліся...

Пад'язджаеш да сельскага клуба — і вочы міжволі выхопліваюць вялізны надпіс на сцяне «Прашчай, Наваельня! Мы ніколі цябе не забудзем!» І я ніколі цябе не забуду, Наваельня...

Наваельня была не толькі цэнтрам сельсавета, але і цэнтрам калгаса «Ленінскі шлях». Тут шчыльнасць забруджання ад 97 да 137 кюры на квадратны кіламетр. Гэта ў самой вёсцы. А крышку далей, у бок Кармапаек, там, дзе раскінуўся калгасны сад, шчыльнасць забруджання перавышае 400 кюры.

Вось такая жорсткая рэальнасць, ад якой нікуды нам не дзецца. І, як заўсёды, няма вінаватых. Назусім пакінула Наваельню звыш шасцісот жыхароў. Засталіся нікому не патрэбныя гандлёвы цэнтр, будынкі сельскага Савета, школы, аптэка, стацыянар і амбулаторыя ўчастковай бальніцы, пошта, Дом быту.

Я далей не мог ехаць. Нешта затрымлівала тут, не пускала, прыцягвала магнітам. Магчыма, у падсвядомасці ўсплыў успамін, як штодня, у канцы сямідзесятых гадоў, я хадзіў па гэтай, тады не заасфальтаванай, дарозе. Як, адседзеўшы за партай шэсць-сем урокаў, з падцягнутым

галодным жыватом бег дадому. Сталоўкі ў старой драўлянай школе ў тыя часы не было, а каб нешта купіць — не меў грошай. Дзе было ўзяць той дробязі на абаранак ці пульхную булку — адна маці, а нас трое. Зарабляла яна трыццаць — сорак рублёў у месяц. Я — старэйшы. Я — мужчына ў хаце, а меншыя сёстры Валя з Ніначкай яшчэ зусім дзеці, горкія дзеці, якія ўдосталь не паелі цукерак...

Цяпер гучыць гэта нерэальна. Усё ж канец сямідзесятых, гэта не пасляваеннае дзесяцігоддзе. Але... у народзе ёсць мудрае выказванне: жывуць кот і сабака, вось толькі як жывуць?

Не, гэта не крыўда на лёс, на людзей. Хутчэй светлая туга па незваротным, па шчаслівым часе, калі, сабраўшыся разам на вячэру ў сваёй хаце, мы расказвалі матулі пра поспехі ў школе, пра адзнакі, пра тое, што паспелі зрабіць дома, пакуль наша карміцелька была на калгасным полі.

Сем кіламетраў ад Наваельні да Асінаўкі. Сем. Я адзін з вёскі хадзіў у дзесяцігодку, так хацела маці. Бацька ж, Сяргей Гардзеевіч, пры жыцці — ён трагічна загінуў, калі я скончыў чатыры класы,— марыў, каб я стаў бульдазерыстам. Нядрэнныя грошы тады ім плацілі. Ён наважваўся адвезці мяне ў горад Экібастуз да дзядзькі, там было вучылішча. Толькі лёс усё перайначыў на свой лад...

Па маёй просьбе вадзіцель аўтобуса спыніўся каля сельсавета.

Сонца ласкава грэе плечы. Іду паўз сад, так, паўз той лапік зямлі з разгалістымі, дагледжанымі яблынькамі, дзе шчыльнасць радыяцыйнага забруджання перавышае 400 кюры на квадратны кіламетр. І што дзіўна — няма ніякай боязі. Сёлета шмат яблыкаў, на некаторых яблынях вісяць пляцёнкамі. Хочацца сарваць і адкусіць на ўсе зубы сакавітай мякаці, але свядомасць і ўнутраны бар'ер не дазваляюць гэтага зрабіць. Успамінаецца, як у школьныя гады зганяў я тут голад аж да аскоміны. Нікому ўжо не прынясе радасці ўраджай з гэтага саду. Абломяцца галіны, абсыплюцца яблыкі... Калі толькі выпадковы дзік ці казуля забрыдуць сюды першым марозікам і ўдосталь пажыруюць на атрутных пладах. Сад безабаронны. Няма вартаўніка, ніхто не паквапіцца на шчодрае багацце тутэйшай зямлі. «Мёртвая зона»... Міжволі згадваецца стужка рэжысёра Таркоўскага «Сталкер». Такія ж вялікія травы, глухая цішыня, кар'еры з жоўтым пяском, шкілеты ад машын і трактароў, прычэпаў паўз дарогі, паўсюдна раскідана жалезнае начынне. Ну хоць бы дзе рыкнула, зблудзіўшы-

ся, карова ці заржаў конь, якога выпраглі з калёс і які шукае табун. Ціха... На дарозе застаўся толькі след ад аўтобуса. Дзякуй раённаму кіраўніцтву, што пакуль не адмяніла рэйс. У некаторых вёсках засталося па некалькі чалавек, у асноўным старых, ды і часта прыязджаюць да сваіх былых куранёў перасяленцы.

Добрыя цяпер дарогі ў нашай старонцы: асфальтаваныя, укатаныя гравійкі, паўсюль можа праехаць легкавушка без цяжкасцей. Вясной і восенню, у дажджы і слоту не ператвараюцца дарогі ў суцэльнае месіва з калдобінамі-выбоінамі. А напрыканцы сямідзесятых — пачатку васьмідзесятых гадоў была найвялікшая праблема для вяскоўцаў патрапіць у Краснаполле. Аўтобус не хадзіў, не мог праехаць з-за гразі, чакалі, пакуль зямля прасохне пад сонцам ці схопіцца моцнымі маразамі. Малако з малочнатаварных фермаў вазілі ў раённы цэнтр на «Беларусах», трактарам удавалася дабрацца да райцэнтра. На гэтых прычэпах з бітонамі малака дабіраліся хворыя ў бальніцу. І то пасля дазволу старшыні калгаса. Былі такія часы, такія дарогі, а цяпер хоць бокам каціся, ды няма каму.

Шуміць лес, перашэптваецца.

Мінуў Карму Доўгую, вёску на адну вуліцу. Яна славілася на ўсю ваколіцу бойкасцю тутэйшых хлопцаў. Іх задзірлівасці, а таксама згуртаванасці мог пазайздросціць любы чалавек. Не спускалі кармяне нікому крыўды. Іх так і называлі — «шалёныя доўгаўцы».

Дзе яны цяпер? Ці прыжыліся ў новых мясцінах?

А вось і Кармапайкі, цэнтр нашага калгаса. Зграбныя, прыгожыя домікі. Ледзь не ўсе ашаляваныя і пафарбаваныя ў розныя колеры. Паўдзесятка двухпавярховых цагляніка ў, каля дваццаці катэджаў — былая калгасная ўласнасць. Недабудаваны клуб. Горы цэглы зараслі пустазеллем. Як абсерваторыі, узвышаюцца каля машыннага двара і жывёлагадоўчай фермы сіласныя вежы. І тут нікога не бачна. Раней вёскі пусцелі адзін раз у год, на Радаўніцу. Усе, ад малога да старога, ішлі на могілкі, каб пасядзець каля продкаў, узяць чарку, успомніць нябожчыкаў добрым словам...

Зусім нябачна калодзежаў. Там-сям слупкі водаразборных калонак. Пасля аварыі на Чарнобыльскай АЭС іх паставілі па ўсіх вёсках. Каму і навошта яны патрэбныя? Хоць бы кропля вады з іх — адключана электрычнасць.

На двухпавярховы будынак Кармапайкаўскай няпоўнай сярэдняй школы балюча глядзець. Тут быццам пабы-

валі мангола-татарскія орды: разбітыя дзверы, павыдзіраныя вокны з рамамі, паўсюль бітае шкло, горы смецця, друзу і паперы, ушчэнт разламаныя парты, за якімі зусім нядаўна сядзелі дзеткі, ціхмяна ловячы словы настаўнікаў. «Божа мой,— вырываецца з грудзей,— нейкіх пяць гадочкаў мінула з таго дня, як адкрылі школу, як шчасліва бегалі дзеці па свежафарбаваных калідорах, звінеў званок, праводзіліся ўрокі... Усё ў мінулым, непапраўным мінулым... Жорсткасць нашага пачварнага часу... Скупасць на дабрыню і на спагадлівасць нашых сэрцаў... Адкуль? Адкуль такое ў нас зверства і прага да разбурэння? І стаіць школа, як горкі помнік бездухоўнасці, як папрок чалавечай бяздумнасці і абыякавасці да лёсу, да будучыні нашых агульных нашчадкаў.

Ніколі больш не пачуюць гэтыя сцены шматгалоссе дзіцячага смеху. Зарастаюць сцежкі да школы».

Хадзіў па засмечанай і зрабаванай школе, дзе вольна гуляюць скразнякі, і ўспомніў размову з намеснікам рэдактара Краснапольскай раённай газеты Валянцінай Аляксееўнай Мукалавай, якая расказала пра сваю сустрэчу з кармапайкаўцамі яшчэ да высялення:

— Неяк пазваніў у рэдакцыю былы старшыня праўлення калгаса «Мір» Аляксандр Арсеньевіч Латушкін, які ўжо ў той час узначальваў аднайменную гаспадарку ў Дрыбінскім раёне. Ён наракаў на тое, што кармапайкаўцы марудзяць з перасяленнем на Дрыбіншчыну, хоць кватэры ім у вёсцы Міхееўка ўжо выдзелены. Маўляў, падабаецца ім, відаць, атрымліваць у зоне жорсткага радыяцыйнага кантролю дармавыя грошы.

І вось Валянціна Аляксееўна ездзіла на сустрэчу з кармапайкаўцамі.

— У гаспадарцы,— расказвала яна,— на той час, па вядомай чарнобыльскай прычыне, ужо ліквідавалі ўсе фермы, прададзена частка тэхнікі, калгаснікаў абмежавалі ў рабоце. Сякую-такую выконвалі толькі механізатары. Заробкі іх былі ад 119 да 265 рублёў у месяц. Зразумела, што не за іх трымаліся людзі. Яшчэ больш у гэтым упэўнілася, калі пагутарыла з жыхарамі вёскі. Помню, як Зінаіда Рыгораўна Яцутка мне сказала: «Ды мы яшчэ і сваю зарплату аддалі б за тое, каб толькі ў сваёй вёсцы чыста было, каб у сваіх родных мясцінах жыць. Нельга людзей рублём папракаць».

А другая жыхарка вёскі Тамара Мікітаўна Бандарэнка сказала тады В. А. Мукалавай, што людзі не едуць у Мі-

хееўку з-за важкіх прычын. Галоўнае — невядомасць, што і як будзе далей. Жыллё ўжо атрымалі, але ў кожнай кватэры незлічоная колькасць недаробкаў: там дрэнна пафарбавана, няма газу, не добраўпарадкаваныя двары, перабоі з вадой, ды і ў хлявах трэба перарабляць усё, бо зроблена так, што падыдзі да перагародак — і яны заваляцца...

Гэты ўспамін прамільгнуў сам па сабе. Выехалі карма-пайкаўцы ў Міхееўку. Пустыя ўжо дворышчы і Яцуткаў, і Бандарэнкаў. Відаць, выпраўляюць недаробкі будаўнікоў сваімі сіламі. А што зробіш?

Дарога да Асінаўкі была на адзіны мірг вока, што значыць два кіламетры, якія сходжаны з дзіцячых гадоў уздоўж і ўпоперак, вымераны нагамі кожны метр, дзе вядомыя ўсе ўзгорачкі і лагчынкі, кожнае дрэва і куст, уезджаныя сцежкі і віхлястыя аб'езды лужын з застаялаю вадой. Гэта мая дарога дамоў.

Дзень добры, Асінаўка! Нарэшце дайшоў да цябе. Ніколі не думаў, што будзе тут так сумна і роспачна. Дзень добры вам, хаты са сляпымі вокнамі, з расчыненымі дзвярыма і зарослымі палыном і крапівой дворышчамі.

Я прыйшоў да цябе, мая родная вёска, каб сказаць хоць некалькі добрых і цёплых слоў. Прыйшоў, каб вярнуцца ў недалёкае мінулае, калі я, як і іншыя тваё жыхары, быў неад'емнай часцінкай гэтых нешырокіх вуліц, мурожных сцежак. Калі пошум вясенніх садоў супакойваў і абнадзейваў, калі халодная вада з глыбокіх калодзежаў наталяла смагу, абмывала стомленыя пасля касьбы рукі. А цяпер паўсюль пакутліва-ціха, аж да вострай ламаты ў зубах.

Некалі ж ты, мая вёсачка, як і ўся наша шматпакутная Краснапольшчына, славілася багаццем лясоў. Лес паўсюль падступаў да вёсак, і людзі нястомна карысталіся ягоным багаццем. Улетку хадзілі па грыбы і ягады, збіралі іх на зіму. Ды і мы, дзеці, памятаю — з самых малых гадоў, як толькі надыходзіла лета, цэлымі днямі прападалі ў лесе. Гэта быў наш другі дом. Грыбы, ягады, шчаўе на лугавінах — усё неслі дамоў.

А колькі сілы клалі на нарыхтоўку сена! З сёмага-восьмага класа мы, хлапчукі, ішлі ледзь не поплеч з мужчынамі. Праўда, косы ў нас былі не адзінаццаткі, як у дарослых, а сямёрачкі. І пракосы нашы былі танчэйшыя, толькі ж не ўступалі па даўжыні астатнім. Мы адначасова

адпачывалі і рабілі карысць. Нам не прыйшлося зведаць, што такое піянерскія лагеры: дома было цікавей і рукам знаходзіўся занятак. Усё гэта было да Чарнобыля. Зараз жа дзецям і дарослым даўно забаронена дарога ў лес. Апусцелі многія вёсачкі, пакінулі іх людзі. Вёскі — круглыя сіроты...

У лясах саспелі ўжо ягады, выраслі грыбы... ходзяць нікім не пуджаныя дзікі... плодзяцца ваўкі... Тут усё навокал небяспечнае для чалавека, а некалі ж з усяго была карысць. Цяпер толькі і чуеш: «завадоцкая зона», «наваельніцкая» ці «кармапайкаўская» зоны, а я — з «асінаўскай зоны». Такое маленькае гэтае слова, але такое ёмістае і страшнае. Ад яго патыхае небяспекай, само спалучэнне літар удушліва дзейнічае на чалавека, асабліва на таго, хто пражыў пад гэтым словам не дзень, не два — гады, бясконцыя гады. Тут, у зонах, здаецца, і птушкі не спяваюць. Сапраўды, не чуваць іх, як ні прыслухоўвайся, як ні засяроджвайся — адно толькі шапаценне ад ветру высокіх, у чалавечы рост, траў.

Асінаўка — у мінулым стагоддзі цэнтр памесця вядомага роду князёў Крапоткіных. Тут і цяпер яшчэ вяскоўцы, асабліва старэйшага пакалення, называюць некаторыя вакольныя мясціны па размяшчэнні там княжацкай немалой гаспадаркі. Буйнейшыя і лепшыя чарніцы заўсёды раслі на «шкляным заводзе», меў князь Крапоткін такі завод, і вырабы яго, па словах асінаўскіх старажылаў, славіліся і разыходзіліся далёка па свеце. Белыя грузды і рыжыкі плоймамі ўзыходзілі каля «смалакурні», каровы асабліва ўежна пасвіліся на штучнай затоцы ад рэчкі Галуба. Там некалі Крапоткіны разводзілі рыбу. А якое памесце было каля возера! Так, майму пакаленню не прыйшлося яго пабачыць, але з дзяцінства ведалі пра гэта як адзін. І не раз з рыдлёўкай хадзілі шукаць князевых залатых скарбаў. Разбурылі, разабралі на цэглу пабудовы князёў Крапоткіных пасля славутага 1917 года. І сёння ў Асінаўцы ёсць яшчэ хаты, у якіх у падмурку цэгла з князевага памесця. Ні дождж, ні вецер, ні слота, ні сонца не могуць раструшчыць зробленыя ў далёкія дзесяцігоддзі цагліны.

На вясковых могілках, адразу каля ўвахода, за брамкай, ляжыць гранітная пліта. Тут пахаваны перадапошні з асінаўскіх князёў. Літары, высечаныя на камені, сведчаць:

Князь
Дмитрий Николаевич
КРАПОТКИН
родился 19 ноября 1857 года
скончался 24 марта 1902 года

З пакалення ў пакаленне перадаецца, што дванаццаць пар коней везлі надмагільную пліту з Магілёва. І гэта праўдападобна. А яшчэ гаварылі вяскоўцы, што ў князева скляпенне былі пакладзены гармонік у залатой аправе і залаты гадзіннік з брыльянтамі па гарошыне.

Дасталося надмагіллю і склепу з-за гэтых скарбаў. Шмат разоў рабаўнікі, як мясцовыя, так і заезджыя, спрабавалі дабрацца да нябожчыка. Узрывалі гранатамі, хацелі ссунуць гранітную пліту з увахода ў склеп дызелем, але марна. Надзейна закрыты ўваход. Пасунулі пліту на нейкія 25—30 сантыметраў. Але некаторыя старыя шапталіся, што ўсё ж дабіраліся да праху князя праз падкоп. Дзе тут праўда, а дзе чуткі — сказаць цяжка.

Не хочацца думаць, што цяпер, калі вёска, можна сказаць, пустая, знойдуцца новыя вандалы, якія, без боязі за свае ўчынкі, возьмуцца за ганебную, нечалавечую справу. Хто ім перашкодзіць? Няма асінаўцаў, не будзе і сведкаў...

А вось і наша хата. Мая калыска і прытулак. Тут я з'явіўся на свет, калі даспявала жыта, адсюль і пайшоў шукаць толькі сваю дарогу ў жыцці. Куды ні кінь вачыма — усё да болю знаёмае і роднае. А сад! Які наш сад! Гонар для ўсіх асінаўцаў. Больш як стагоддзе яму. Яшчэ прадзед Пракоп Усцінавіч Казлоў прывёз дрэўцы з белага свету, расціў, даглядаў, уходжваў. Рукі дзеда Гардзея Пракопавіча, бацькавы рукі, Сяргея Гардзеевіча, ды і мае далоні памятаюць шурпатыя ствалы і галіны яблынь, груш, сліў, вішань. Усяго больш за паўсотню дрэў. Шмат радасці было ад саду, але ж і шмат клопатаў. А найбольшы — дрэнна радзіла бульба. Толькі ніхто з нас ніколі не падняў руку хоць на адзінае дрэва. Радзеў сад ад частых навальніц. І кожнае зламанае дрэва было горам. Заставаліся пні — іх не выкарчоўвалі. Пакідалі на памяць, на ўспамін, што і тут некалі раскошна квітнела антонаўка.

Як і дзе знайсці тыя словы, каб перадаць стан душы, які кожным разам апаноўвае пры ўспаміне аб сваёй вёсцы, хаце, дворышчы. Мабыць, яны не існуюць. Бо самае

кранальнае і шчымлівае слова, сказанае ўслых, нейкае пустое, ненапоўненае сапраўдным сэнсам, тым болем, які рвецца з грудзей і не можа знайсці выйсця.

І прыходзіць здагадка: няўжо мая зямля праклятая Богам? Так, мы не лепшыя за іншых, але ж і не больш грэшныя.

Пуста і ціха ў нашай хаце, як улетку ў паграбе. Гулка адзываецца кожны крок па рыпучых масніцах. Як непатрэбная недарэчнасць стаіць халодная печ, якая некалі адагравала ад маразоў, на якой я хаваўся ад угневанага бацькі ці маці. Усё ў незваротным мінулым.

Як хочацца знайсці сілы і магчымасці, каб абняць гэтае маленькае роднае гняздзечка на вялізнай зямлі, забраць з сабою, не пакідаць на ўладанне вятрам, мяцеліцам і дажджам. Не пакідаць нікому не патрэбнай сіратой.

*Алесь Марціновіч*

## ПАЛЫНОВАЙ ЗЯМЛІ ДЗІВАСІЛ

*Кніга «Прайсці праз зону» і Дні беларускай літаратуры, прысвечаныя выхаду яе, што прайшлі на Гомельшчыне пяць гадоў назад, як напамінак аб самай страшнай катастрофе XX стагоддзя*

Назвы кніг прыходзяць па-рознаму... Гэтая ж з'явілася нечакана і зусім не за пісьмовым сталом. Тым не менш дакладна вядома нават дата. Усё адбылося 2 чэрвеня 1994 года, калі група беларускіх пісьменнікаў у складзе Міколы Мятліцкага, Івана Канановіча, Барыса Пятровіча, Алеся Рыбака наведала Хойніцкі раён. Спыніліся акурат там, дзе дарога, што асфальтнай стужкай імкнецца наперад, быццам правісае над стромкім берагам Прыпяці. Выйшлі з машыны, падышлі да абрыву. Наперадзе, за некалькі кіламетраў, віднеліся будынкі Чарнобыльскай атамнай станцыі. Асабліва выразна бачыліся каміны. На сэрцы ў кожнага стала вусцішна, неяк трывожна. Стан, які і словамі перадаць цяжка. Тады І. Кананові і сказаў роздумна, звяртаючыся да М. Мятліцкага (гэта ён стаў ініцыятарам паездкі ў свае родныя мясціны, якім лёсам наканавана было стаць чарнобыльскімі): «Мы павінны выдаць кнігу пра Чарнобыль і яго наступствы». М. Мятліцкі думаў пра тое ж самае, бо дадаў: «І назавём яе «Прайсці праз зону»...

Такая кніга праз некаторы час і выйшла ў выдавецтве «Мастацкая літаратура»: проза, паэзія, публіцыстыка. Выданне атрымалася прыгожае, дыхтоўнае. Афармленне зрабіў Уладзімір Гардзеенка, які родам таксама з чарнобыльскіх мясцін. Ён спецыяльна намаляваў некалькі карцін там, дзе трывожна думаецца пра сённяшні дзень, а яшчэ больш трывожней — пра дзень заўтрашні. Куды мы прыйдзем пасля Чарнобыля? Якімі прыйдзем? Які лёс напаткае нашых наступнікаў — дзяцей, унукаў, праўнукаў? Творы У. Гардзеенкі выкарыстаны ў якасці ілюстрацый да кнігі, да якіх Сяргей Давідовіч напісаў вершы. Плюс да ўсяго гэтага — выдатнае паліграфічнае выкананне.

Ну, а што да зместу, мушу засведчыць: такой кнігі пра Чарнобыль у нас яшчэ не было. Укладальнік зборніка

Ірэна Бутовіч па сутнасці падрыхтавала анталогію, у якой знайшлося месца ўсім найбольш значным, напісаным на той час творам пад уражаннем перажытага ў гады, што пачалі сабой адлік пасля чарнобыльскай эры. Усе аўтары гэтых твораў самі пабывалі ў зоне, прайсці праз якую запрашалі і чытача, каб адчуў і зразумеў, якія беды прынёс народу Чарнобыль.

Давялося бываць у тых мясцінах (прытым і неаднойчы) і народнаму пісьменніку Беларусі І. П. Шамякіну (у той час Іван Пятровіч з'яўляўся дэпутатам Вярхоўнага Савета СССР). У выніку шматлікіх паездак І. Шамякін, як вядома, напісаў раман «Злая зорка», урывак з якога змешчаны ў кнізе. А ў дадатак пісьменнік — і аўтар прадмовы «Голас народнай бяды». Піша ён пра тое, як у выніку катастрофы «землі трох брацкіх славянскіх народаў, ускрайкі трох суверэнных сягоння дзяржаў — Беларусі, Расіі і Украіны — апынуліся ў бестэрміновай ядзернай акупацыі, сталіся самотна вядомай на ўвесь свет зонаю адчужэння». Нагадвае, як «менавіта з распаду духоўнасці і зачынаўся, горка выспяваў наш сумна вядомы Чарнобыль, каб потым ужо доўжыцца распадам шчыльна пасеяных радыенуклідаў не толькі за дротам памянёнае зоны, аднак яшчэ багата дзе далып, стракатa запэцкаўшы плямамі і карту Беларусі». А яшчэ — тое, што адбылося, увязвае з літаратурай: «Сягоння ўсёй нашай літаратуры патрэбна «прайсці праз зону» і вярнуцца поўнай творчых сіл, каб надаць народнай трагедыі шырокі сусветны розгалас, паспрыяць пазбыцца яе жахотных наступстваў, сагрэць увагай спакутаванае чалавечае сэрца».

Гэты «праход», дарэчы, пачаўся ці не адразу, калі ўсе (не, не даведаліся, бо праўду доўга хавалі ад народа)... здагадваліся, што нясе з сабой Чарнобыль. Адным з першых адгукнуўся на народную бяду Іван Пташнікаў, стварыўшы апавяданне «Львы». Яно датавана 1987 годам, адразу было перакладзена на некалькі моў. Апавяданне стала хрэстаматыйным (хочацца нават сказаць — класічным — без намеру пакрыўдзіць каго-небудзь з іншых аўтараў). Перачытваючы твор, кожны раз па-новаму ўспрымаеш тое, што выказаў пісьменнік, і кожны раз здзіўляешся, наколькі пераканаўча і праўдзіва ўзноўлены ім маштаб чарнобыльскай бяды. І не праз лёс чалавека, а праз лёс «братоў нашых меншых».

Працытую пачатак твора: «Д'жукі бла́жыла. Яму выварачвала нутро і язык,— язык рабіўся доўгі, выцягваўся з рота, чырванеў, як агонь, слаўся на траву і на жоўтыя

ў цвеце кунатыя адуванчыкі, і з яго цякла зялёная сліна — пенай. Калі блага адпускала, яго адразу хапаў кашаль — сухі, дзяркаты, глыбокі, ад яго падцінала духі, спірала ў вузкіх, маладых яшчэ сабачых грудзях — Д'жукі не было яшчэ і двух гадоў,— і ён тады задыхаўся ад сухой гарачкі, якая паліла ў горле і востра пахла растаптаным палыном і ёдам».

Гэта не толькі боль Д'жукі, а і боль усяго жывога, што трапіла пад уздзеянне радыяцыйных промняў. І наш з вамі боль — таксама ад усведамлення, што чалавек, на жаль, не можа саўладаць з падобнай бядой, каб цалкам адкараскацца ад яе.

Так, як напісаў пра Чарнобыль І. Пташнікаў, ніхто іншы не здолеў. Пра гэта гаварылася крытыкай ці не адразу пасля апублікавання апавядання ў «ЛіМе». Мінулі гады, з'явілася нямала іншых твораў, аднак лепшым з лепшага ў прозе застаюцца і сягоння «Львы» Івана Пташнікава. Пра чарнобыльскую бяду пакуль што, бадай, не сказана глыбей і праўдзівей.

Хоць, несумненна, напісана нямала добрых твораў. Найперш згадаю выдатнае апавяданне Андрэя Федарэнкі «Бляха», што таксама атрымала шырокі водгалас і было перакладзена на англійскую мову. Аднак гэтае апавяданне не столькі пра Чарнобыль і яго наступствы (разумею, што тэматычны падзел для сапраўднага твора не прымальны, але ў дадзеным выпадку без гэтага не абысціся), колькі пра Чалавека, які, калі ён чалавек, застанецца ў любым выпадку ім. Я свядома слова чалавек у дачыненні да Бляхі пішу з вялікай літары. Бо «толькі пасля Чарнобыля Бляха пазнаў, што і ён чалавек». Як ні дзіўна, але гэта і на самай справе так. Значыць, на сподзе душы было ў Бляхі тое добрае і чалавечнае, чаго не заўважалі іншыя. Драмала да пары да часу, а калі адкрылася, то, як высветлілася, не ўсе і ведалі, хто ж такі Бляха. І смерць яго — адна з тых несправядлівасцей, якіх так шмат на зямлі. Апусціўся чалавек аднойчы, і кожны гатовы кінуць у яго каменем.

Ды і паспрабуй разбярыся, дзе пралягае мяжа між дабром і злом. Асабліва, калі вызначыць яе табе самому не дадзена, бо ты толькі выканаўца волі іншых. А ў такім становішчы апынуўся герой апавядання Барыса Пятровіча «А травы там высокія...» Сяргей, старшыня калгаса загадаў якому «зваліць пару гектараў» у зоне адчужэння. А тут — міліцыянеры. Без віны вінаваты Сяргей, але адказваць усё роўна давядзецца: «У машыне другі міліцыянер тонкім чырвоным шнурам звязаў Сяргею рукі, сеў

побач. «Жыгулі» крануліся. Сяргей азірнуўся. На дарозе застаўся асірацелы трактар з паднятай угору касілкай. Вецер лёгенька пагойдваў яе. І Сяргею здалося, што трактар развітваецца з ім, махае ўслед рукою...»

«Сенакос у канцы красавіка» Віктара Казько, «Майдан» Івана Кананові́ча, «Бамжы» Міколы Капыловіча, «Вяртанне ў радыяцыю» Леаніда Левановіча, «Толькі мёртвыя не вяртаюцца» Івана Чыгрынава — творы розных жанраў: публіцыстычны роздум з лірычнымі адступленнямі, апавесць-быль, мастацка-дакументальныя навелы, апавяданне, драматычны абразок. Ды хіба ў жанры справа? Галоўнае — наколькі гэта напісана па-мастацку дасканала і шчыра. Публікацыі ў кнізе (не толькі названыя вышэй) пераконваюць: планка мастацкасці трымаецца высока.

І, можа, найлепшае пацвярджэнне таму — паэтычныя творы, якія склалі другі раздзел зборніка. Адкрывае раздзел нізка вершаў Эдуарда Акуліна:

Радзіма!
Слязу наўпотай
змахну за цябе ў маленні...
Не стань для майго Народа
зонаю адчужэння.

Побач творы Міхася Башлакова, Анатоля Грачанікава, Анатоля Зэкава, Алы Канапелькі, Уладзіміра Марука, Уладзіміра Паўлава, Сяргея Панізніка, Алеся Пісьмянкова, Паўла Шруба, Віктара Яраца... Усіх і не пералічыш, аднак нельга не згадаць Міколу Мятліцкага. Калі ў прозе першынство, так сказаць, належыць Івану Пташнікаву з яго «Львамі», дык у паэзіі пра чарнобыльскую бяду лепей за Міколу Мятліцкага не сказаў ніхто. Многае залежыць і ад таленту, аднак дапамагло тое, што паэт добры дзесятак разоў пабываў у чарнобыльскай зоне, днямі жыў у сваёй роднай хаце ў вёсцы Бабчын, у вёсцы, якой па сутнасці няма. Ды толькі — не для ягонага сэрца:

Кут мой забыты, безабаронна
Зорыш пагаслых крыніц вачыма.
Некаму ты —
Ачужэлая зона,
Сэрцу майму ты да скону —
Радзіма!

Не ачужэлая зона для М. Мятліцкага Бабчын. Пра гэта даведваешся з кнігі «Палескі смутак». Гэтая ж тэма гучыць і ў наступнай яго кнізе «Бабчын». Лепшае з напісанага раней і апошнім часам — на старонках гэтай анта-

логіі. Сярод твораў і пранізлівы да болю верш «Дзівасіл», прысвечаны «светлай памяці Веры Сямёнаўны Палтаран».

Пра тое, як «раны Чарнобыля чорна крывавяць», паэма Кастуся Жука «Галгофа». Пра нашу агульную бяду, што абрынулася нечакана-негадана і ад якой нікуды не дзецца. І паэма Сяргея Законнікава «Чорная быль» (у кнізе змешчаны ўрыўкі з твора) — пра гэта ж. У С. Законнікава асабліва моцныя публіцыстычныя моманты. Але для абодвух паэтаў першачарговае жаданне не проста канстатаваць маштабы трагедыі, а і даць маральную ацэнку таму, што адбылося. Абедзьве паэмы народжаны моцным выбухам пачуццяў, калі нельга маўчаць. У С. Законнікава вельмі да месца фальклорныя эпіграфы, што ўдала спрацоўвае на мастакоўскую задуму — сказаць пра Чарнобыль як пра бяду ўсяго народа.

У трэцім раздзеле пераважаюць матэрыялы публіцыстычнага характару — артыкулы, нарысы. Праўда, асобныя з іх маглі б быць змешчанымі і ў папярэдніх. Для прыкладу, «Запіскі аб радыяцыі» Барыса Сачанкі, дакументальныя навелы Святланы Лобач «Тройчы з зямлі сыходзім» просяцца ў першы раздзел, бо перад намі ўсё ж дакументальная проза. Зрэшты, гэта прыватнасці. Калі напісана нешта значнае, яно чытаецца і адпаведным чынам гучыць, дзе б ні стаяла.

Знайшлося месца ў зборніку і меркаванням вучоных, якія склалі заключны, чацвёрты раздзел. Добра вядомыя згадкі В. Лягасава «Мой абавязак расказаць пра гэта...», урывак з дакументальнай аповесці Р. П. Гейла і Т. Хаўзера «Апошняе папярэджанне, спадчына Чарнобыля», развагі В. Несцярэнкі «Горкая праўда аб выніках чарнобыльскай катастрофы для Беларусі»... Тут жа — артыкул І. Кеніка «След катастрофы» з лічбамі, напісанымі самой трагедыяй. А яшчэ ўвазе чытача прапанаваны многія дакументы, што доўгі час былі засакрэчаны, паколькі партыйныя і дзяржаўныя чыноўнікі ўтойвалі ад народа праўду пра Чарнобыль.

Як голас сумлення, якое не можа драмаць, калі над краінай адчуваецца гаркавы прысак радыяцыі... Як голас душы, спакутаванай па праўдзе... А яшчэ як голас народнай бяды (невыпадкова так і названа прадмова І. Шамякіна — «Голас народнай бяды») успрымаецца кніга «Прайсці праз зону». Гэта кніга — грамадзянскі ўчынак. Гэта кніга — чарнобыльскі дакумент, хай шмат якія тво-

ры, змешчаныя на яе старонках, і з'яўляюцца мастацкімі. Дакумент, бо тое, пра што расказваецца, не народжана шчодрай аўтарскай фантазіяй, а ўзята з самога жыцця. З паслячарнобыльскага жыцця! А яшчэ, што немалаважна, убачана пісьменнікамі, навукоўцамі падчас іх асабістага праходжання праз зону. Яшчэ да таго, як да такой цяжкай, пакутнай і гэткай патрэбнай дарогі яны запрасілі чытача. Цалкам апраўдана, што гэтая чарнобыльская анталогія выклікала такі шырокі грамадскі рэзананс. Адбылося некалькі прэзентацый зборніка. Аднак Дні беларускай літаратуры на Гомельшчыне, прысвечаныя яго выхаду, не былі чарговым мерапрыемствам з шэрагу іншых. Яны проста не маглі не адбыцца там, дзе прайшлі,— у Мазырскім, Хойніцкім, Брагінскім і Нараўлянскім раёнах. Гэта ж раёны — «чарнобыльскія». І калі на Мазыршчыне ўздзеянне «мірнага атама», на шчасце, не такое адчувальнае, дык што казаць, для прыкладу, пра Брагінскі раён, калі нават у самім Брагіне ўзровень радыяцыі такі высокі, што двойчы праводзілася адсяленне. Ды і сама зона, уваход у якую адгароджвае звыклы ў тутэйшых мясцінах шлагбаум, пачынаецца амаль ля самага Брагіна. А Нараўлянскі, Хойніцкі раёны?! І ад такой сумнай рэальнасці нікуды не дзенешся. Як і нельга забываць, што і «ачужэлая зона» — частка нашай Радзімы.

Ініцыятарам правядзення Дзён стаў М. Мятліцкі. Яго прапанову ўхваліў дырэктар выдавецтва «Мастацкая літаратура» Серафім Андраюк, а галоўнае — паразуменне было ў Міністэрстве па надзвычайных сітуацыях Рэспублікі Беларусь. Міністр І. Кенік, які ці не лепш за іншых ведаў, што значыць паспяховае вырашэнне чарнобыльскіх праблем, ахвотна пайшоў насустрач. А паколькі ў самога было вельмі шмат неадкладных спраў, даручыў арганізацыйныя моманты ўзяць пад сваю адказнасць памочніку В. Протчанку. А Валерый Захаравіч — душа чалавек. Таму не толькі даручэнне выканаў, а і сам праявіў вялікую зацікаўленасць, каб Дні сталі не проста чарговым, няхай і важным мерапрыемствам, а дапамаглі жыхарам чарнобыльскай зоны адчуць маральную падтрымку. Праз мастацкае слова, прамоўленае шчыра. Праз кнігу, якая варта таго, каб пра яе ведалі як мага больш людзей. А, як вядома, цяпер з паступлennем літаратуры ў глыбінку, тым больш у чарнобыльскія мясціны, вялікія цяжкасці. Таму і вырашана было ўзяць з сабой некалькі соцень экземпляраў зборніка, каб падарыць яго школам, бібліятэкам.

А яшчэ была прынята пад увагу адна важная акалічнасць — у пацярпелым Хойніцкім раёне знаходзяцца і родныя мясціны народнага пісьменніка Беларусі, вялікага песняра Палесся, творцы з сусветным імем Івана Мележа. Таму выдавецтва «Мастацкая літаратура» выдзеліла для Дзён кнігі Івана Паўлавіча «Людзі на балоце», «Подых навальніцы», «Завеі, снежань...», якія таксама было вырашана падарыць, у тым ліку і музею І. Мележа ў яго родным Глінішчы.

Адкрыццё Дзён адбылося ў Мазырскім педагагічным інстытуце. У актавай зале сабраліся студэнты, выкладчыкі. Да прысутных звярнуліся ці не ўсе ўдзельнікі паездкі, а гэта ўжо згаданыя С. Андраюк, М. Мятліцкі, а таксама С. Законнікаў, А. Пісьмянкоў, М. Башлакоў, С. Лобач, Н. Рыбік, С. Явар, К. Жук і іншыя. Многія выступоўцы нагадвалі заключныя радкі з прадмовы І. Шамякіна да кнігі аб тым, што ўсёй беларускай літаратуры патрэбна «прайсці праз зону».

Былі і выступленні мазырскіх выкладчыкаў Г. Дашкевіч, Л. Пралжовіч, Н. Аксёнчык і іншых. Яны таксама поўніліся чарнобыльскай трывогай (як слушна сказала наконт гэтага Н. Аксёнчык: «Мы знаходзімся не пад Скарынавым сонцам, а пад зоркай Чарнобыля»), але ў іх прысутнічала думка, што якой бы цяжкой ні была рэальнасць, а жыць трэба, і не проста жыць, а і дбаць аб пабудове беларускага дома. Таму і закраналіся ў выступленнях пытанні нацыянальнага Адраджэння, гаварылася аб захаванні роднай мовы, аб паважлівым стаўленні да яе. Тым самым Дні літаратуры як бы і выходзілі за межы сваёй асноўнай тэматыкі. Ды гэта зразумела і цалкам апраўдана. Мы не проста павінны выжыць у складаны і цяжкі час, а выжыць менавіта беларусамі. З усведамленнем сваёй нацыянальнай годнасці. З разуменнем багатай гісторыі. З разуменнем, што калі штосьці не можа зрабіць невялікая супольнасць людзей, дык гэта па сіле ўсяму народу, усёй нацыі. Пры адной, безумоўна, умове, калі народ не будзе забываць аб уласных каранях, сваіх вытоках.

А якраз пра гэта згадваў у сваіх творах, найперш у «Палескай хроніцы», І. Мележ. Дарога ў Глінішча стала і магчымасцю прайсці, праехаць сцежкамі мележаўскіх герояў. Проста дзіву даешся, наколькі добра ведае М. Мятліцкі творы свайго знакамітага земляка. На якую гадзіну ператварыўшыся ў гіда, ён падрабязна расказваў пра герояў мележаўскіх раманаў, згадваў іх прататыпаў, назы-

ваў тыя населеныя пункты, адкуль яны родам. Ды і не толькі пра вёскі расказваў. Для яго ж у тутэйшых мясцінах усё да болю знаёмае, блізкае, бо неаднойчы наведваўся ён і ў Глінішча, і ў суседнія вёскі. Як і ў Юравічы таксама. Праўда, гэта ўжо тэрыторыя Калінкавіцкага раёна. Туды не маглі не заехаць удзельнікі Дзён. Як не маглі і не пазнаёміцца ў мясцовай школе з музеем, у якім сабрана вельмі шмат унікальных экспанатаў, якія тычацца гісторыі не толькі самога мястэчка, а і Беларусі ўвогуле. Справа ў тым, што непадалёку ад Юравіч археолагі знайшлі найстаражытнейшую стаянку першабытнага чалавека на тэрыторыі нашай дзяржавы. Жылі тут людзі 20—25 тысяч гадоў да нашай эры.

І ўсё ж уражанне ад наведвання музея ў Глінішчы было не менш прыемнае. Тым больш што многія ўдзельнікі Дзён упершыню завіталі сюды. А паколькі сярод іх былі і тыя, хто меў мажлівасць неаднаразова сустракацца з Іванам Паўлавічам, дык гучалі і ўспаміны пра гэтага выдатнага пісьменніка і цудоўнага чалавека. Асабліва прачула гаварыў, як шмат значыў Мележ у яго лёсе, наколькі дапамог у цяжкія хвіліны, Г. Шупенька.

За дзень жа да наведання мележаўскіх мясцін была іншая паездка — у Бабчын. У родную вёску М. Мятліцкага — у вёску, якая дзякуючы таленту гэтага самабытнага паэта сёння добра вядома не толькі па ўсёй Беларусі, а і за яе межамі.

Гэта было вяртанне ў вёску, што даўно не чуе чалавечага голасу. І ў вёску, якая жыве, бо пра родны Бабчын М. Мятліцкі пранікнёна расказаў у многіх сваіх вершах, найперш тых, што змяшчаліся ў яго кнізе «Палескі смутак», а таксама новых, што паступова становяцца старонкамі чарговай паэтавай споведзі аб болі, смутку і спадзяванні, што Беларусь выжыве ў скрушны паслячарнобыльскі час. Як і некаторыя ранейшыя вершы, так і многія з новых пісаліся ў матчынай хаце. У маўклівай, магільнай цішыні пісаліся. Адзін на адзін з самотай і адзінотай. Калі М. Мятліцкі, прыехаўшы ў чарговы раз у Бабчын, заставаўся тут на ноч-другую. Сам-насам з думкамі сваімі. Сам-насам з трывогай. І сам-насам з жаданнем гаварыць праўду пра Чарнобыль, пра сваіх землякоў, а, адштурхоўваючыся ад іх лёсаў, пра лёс усёй Беларусі.

Пазарасталі пустазеллем сцежкі маленства. У чалавечы рост буяе яно і ля роднай хаты. А яна маўкліва глядзіць пустымі аканіцамі на тых, хто завітаў сюды. Быццам

хоча паскардзіцца на свой лёс. Як і іншыя хаты, што стаяць абапал колісь гаманкой бабчынскай вуліцы.

Скупая мужчынская сляза кропляй сцякае па твары Міколы. Камяк падступае да горла кожнага. А Я. Хвалей прыгадвае, як за які год да чарнобыльскай катастрофы гасцяваў у М. Мятліцкага. Надвор'е тады было слотнае, у дарозе прамерзлі, дык адразу забраліся на печ. А цяпер печ вось-вось гатова разваліцца, правісла ў хаце столь... І толькі як напамінак аб тым, што некалькі часу назад тут жылі людзі,— начоўкі ля самага акна.

— Мяне немаўлём купалі ў іх,— на твары М. Мятліцкага з'яўляецца ледзь прыкметная ўсмешка. Ён на нейкае імгненне забывае, дзе знаходзіцца: — А што, калі забраць іх? — Але ўсмешка як неўспадзеўку з'явілася, гэтаксама нечакана знікла. Суровая рэальнасць напамінае аб сабе:

Сухавеем пабіты, дажджамі нябёс.
Жоўты цвет на сцяжынах маленства парос,
Адбіраючы вочы таемнай красой,
Мыты самаю чыстай, сцюдзёнай расой,
Жоўты цвет...
Ля бяроз... Ля панылых магіл.
Дзівасіл...
Адзічэлай зямлі дзівасіл...

Чэрвень — самы пачатак цвіцення дзівасілу. І сям-там ля вуліцы яго жаўтаватыя кошыкі паспелі распусціцца. Якраз у гэты час і пачынаюць зрываць сцяблiны, каб выкарыстоўваць у якасці лекаў ад шмат якіх хвароб. І зрывалі, і засушвалі. Але то да Чарнобыля, а цяпер...

Я знайшоў адзінотны, жаўцяны твой цвет.
Жоўта-жоўта зірнуў гэты ядзерны свет,
Промнем хіжым крануўся аціхлых палёў,
Ў косы смутных бяроз стужку зыркую ўплёў.
Залачаў ад яго стромы прыпяцкай схіл.
Дзівасіл...
Адзіноты маёй дзівасіл...

Развітанне з хатай, як развітанне з чалавекам... Калі яшчэ давядзецца спаткацца. І ўсё ж хаты не людзі: яны, нават памерлыя, могуць прыняць гаспадара. Праўда, калі вёскі яшчэ не пахаваны. У гэтым сэнсе Бабчын «жыве», а побач з вёскай знаходзіцца Палескі радыяцыйны запаведнік. Працуюць вучоныя, спрабуючы разгадаць, да чаго яшчэ можа прывесці радыяцыя, назіраюць за жыццём жывёл, раслін у чарнобыльскай зоне. А колькі вёсак на Беларусі даўно засталіся пад зямлёй?! Засыпаны ёю, каб тым самым хоць неяк зменшыць уздзеянне радыяцыі на

ўсё жывое ў наваколлі. У Хойніцкім раёне, праўда, пахавана толькі адна вёска, а ў Брагінскім — сем. З шэрагу іх Пецькаўшчына... Аб тым, што тут некалі жылі людзі, нагадвае невялікі слупок. На ім пазначана назва населенага пункта, засведчана, што ў Пецькаўшчыне было 29 двароў, жыло 85 чалавек. Людзей адсялілі, а вёску ў 1987 годзе пахавалі.

Каб не гэты слупок, дык наўрад ці можна было б здагадацца, што не так даўно тут жылі людзі. Хіба што аб гэтым яшчэ нагадваюць паваленыя вялізныя дрэвы ды адзічэлыя яблыні, на асобных з якіх сустракаецца лістота памерам з... далонь. І ўвогуле, у тутэйшых мясцінах прырода жыве ў больш імклівым, раней не бачаным рытме. Паблізу ад дарогі можна было ўбачыць статак дзікоў, а калі ехалі назад, дык, нікога не баючыся, на ўзбочыне сядзела ліса...

Удзельнікі Дзён абавязкова наведваліся да прадстаўнікоў мясцовых улад. У прыватнасці, адбылася зацікаўленая гаворка са старшынёй Хойніцкага райвыканкама А. Акушкам. Дзякуючы Алегу Рыгоравічу, у раёне робіцца вельмі шмат, каб хоць неяк аблегчыць жыццё людзей. Не абыдзены ўвагай і праблемы культуры. Прынамсі, была аказана падтрымка ў правядзенні выстаўкі твораў У. Гардзеенкі. Уладзімір Цітавіч тутэйшы — нарадзіўся ў вёсцы Клівы. І не месяц, не два знаходзіцца ў родных мясцінах. Вынікам гэтых кантактаў яго з землякамі і сталі многія творы, у тым ліку і тыя, што выкарыстаны ў якасці ілюстрацый да кнігі «Прайсці праз зону». У. Гардзеенка прымаў самы актыўны ўдзел у правядзенні Дзён. А пасля запрасіў пазнаёміцца з самой выстаўкай. Праўда, у гэты дзень адбывалася закрыццё экспазіцыі. Ды ўсё ж мы выкарысталі мажлівасць далучыцца да твораў, напісаных пэндзлем мастака, які, як і пісьменнікі, «прайшоў праз зону», каб сказаць праўду пра Чарнобыль і мовай выяўленчага мастацтва.

Сярод удзельнікаў Дзён знаходзілася і прэзідэнт дзіцячага фонду «Сакавік» М. Міцкевіч. Марыю Міхайлаўну надзіва цёпла сустракалі прысутныя. Не ў апошнюю чаргу і таму, што гэтая сімпатычная маладая жанчына з'яўляецца ўнучкай народнага песняра Якуба Коласа. Але М. Міцкевіч ці не больш за іншых удзельнікаў паездкі працавала, а калі канкрэтней, дык вырашала, каго з дзяцей сёлетнім летам накіраваць за мяжу на аздараўленне. І вынікам паездкі засталася задаволеная. Да той тысячы дзяцей, якіх

фонд «Сакавік» сёлета ўзяў пад сваё крыло, дабавілася яшчэ больш за 20 хлопчыкаў і дзяўчынак. Паедуць сем чалавек на аздараўленне з Брагінскага раёна і 14 — з Юравіч.

Былі яшчэ шмат якія сустрэчы — і ў Хойніках, і ў Брагіне, і ў Нароўлі. І падчас кожнай адбывалася прэзентацыя кнігі «Прайсці праз зону». Наведаліся ўдзельнікі і да Прыпяці, ад якой да Чарнобыля кіламетраў сем.

Кожная чарговая сустрэча — і дзесяткі пакінутых экземпляраў, якія ж, канечне, не застануцца незапатрабаванымі. Ды і як жа інакш, калі падобнай літаратуры так не стае, а яна гэткая неабходная. Як і няма сумнення, калі пачнецца новы навучальны год, па ёй настаўнікі правядуць і літаратурныя вечары, і чытацкія канферэнцыі. Гэта ж не проста кніга, а кніга (дарэчы, як і іншыя «чарнобыльскія зборнікі», а яны выходзілі ў той жа «Мастацкай літаратуры»), што пачынае па сутнасці паслячарнобыльскую старонку ў нашай літаратуры. Лепш, зразумела, каб яе не было. Але калі ёсць, дык трэба ставіцца да яе з належнай увагай.

Што і засведчылі Дні беларускай літаратуры на Гомельшчыне. А яшчэ яны пераканалі, што для сумленных творцаў на гэтай ніве шырокае поле дзейнасці. Асабліва, калі прадстаўнікі розных жанраў аб'ядноўваюцца. А аб'ядноўвацца ёсць дзеля чаго і ў імя чаго.

Верыцца, што з цягам часу стане папулярнай песняй «Дзівасіл» М. Мятліцкага. А ў час паездкі яна гучала неаднаразова. С. Лобач брала ў рукі мікрафон і спявала тое, што знаходзіла водгук у сэрцы кожнага:

Так замётна шугаюць былыя гады.
Я па сцежцы знаёмай вярнуўся туды,
Дзе буслiныя крылы — у высях святла,
Дзе шчаслівая казка трымцела-жыла.
Колькі гора чутно мне з узмахамі крыл!
Дзівасіл...

*Мінск — Мазыр — Хойнікі — Брагін — Нароўля, чэрвень 1996-га*

Час няўмольны ў сваёй хадзе, а асабліва хуткаплынны паслячарнобыльскі. Вось ужо на календары 2001 год: 15 гадоў з дня катастрофы, якая, у гэтым сёння ніхто не сумняваецца, стала катастрофай мінулага стагоддзя. Ды і наўрад ці нешта падобнае па сваёй разбуральнай сіле, яе наступствах было на працягу двух тысячагоддзяў, што

адносяцца да нашай эры. А яшчэ раней, магчыма, і было. Прынамсі, катастрофа, звязаная са знікненнем цэлага мацерыка, які цяпер называем Атлантыдай, а ў існаванні яго вучоныя ўсяго свету ўсё больш упэўнены.

Ды то адбылося вельмі і вельмі даўно. А чарнобыльская катастрофа — гэта радок з біяграфіі і кожнага з нас. Незалежна ад таго, калі чалавек нарадзіўся: у чарнобыльскую эру ці ў паслячарнобыльскую. Ці, увогуле, напаткаў гэтае няшчасце ў сталым узросце. Нам пастаянна памятаць пра тое, што адбылося. І жыць не толькі спадзяваннямі на лепшае, а і з усведамленнем, што ніхто не ведае, як павернецца яго лёс у гэты час, калі «мірны атам» ператварыўся ў злавесную сілу. Гэта не значыць, што трэба панікаваць. Аднаго нельга забываць: у прыродзе, у свеце ёсць узаемасувязі, патлумачыць якія наўрад ці калі-небудзь удасца. Гэта тычыцца і Чарнобыля. Канечне, адбылася найвялікшая тэхнагенная катастрофа, але як быць з той палыновай зоркай, што абавязкова павінна была ўпасці на Зямлю?

Страшнае і тое, што «мірны атам» настолькі шчыльна ўвайшоў у наша жыццё, што адмовіцца ад яго не так і проста, як падаецца на першы погляд. Здавалася б, можна толькі радавацца: столькі размоў вялося аб неабходнасці закрыцця Чарнобыльскай АЭС і, нарэшце, гэта адбылося. І ў той жа час не да апладысментаў. Правільней, услед за імі з'явіліся новыя праблемы. З закрыццём чарнобыльскіх энергаблокаў без працы засталіся сотні высокакваліфікаваных спецыялістаў. Аварыя, як вядома, згубіла горад Прыпяць, а што будзе сёння з другім «атамным» горадам? Каму сёння патрэбен Славуціч! Больш таго, Чарнобыльская АЭС, выпрацоўваючы электраэнергію, зарабляла грошы і на ўтрыманне саркафага. Дзе іх знайсці сёння Украіне?

Атрымліваецца як бы зачараванае кола. Але, зноў жа не будзем забываць, яно ўзнікла не само па сабе, а з'явілася ў выніку непрадуманай дзейнасці — з той часіны яшчэ, калі, дбаючы толькі аб першапачатковых выніках, запускалі АЭС, не думаючы, чым гэта адгукнецца заўтра.

Відавочна, што да тэмы Чарнобыля літаратуры давядзецца звяртацца яшчэ вельмі доўга, закранаючы самыя розныя аспекты яе. Урэшце, гэта відаць і па гэтай кнізе, якая выйшла ўслед за першым зборнікам «Прайсці праз зону» і ў якой ёсць новыя аўтары. Прыемна, што ў гэтым шэрагу і народны пісьменнік Беларусі Іван Навуменка,

а слова такога прызнанага майстра пра Чарнобыль вельмі важнае. Дый і пісьменнікі маладзейшыя таксама пішуць па-свойму хораша. Інакш і нельга — чарнобыльская тэма з тых, да якіх нельга падыходзіць з халодным сэрцам, за якія нельга брацца з абыякавай душой.

Асабліва радасна, што працягвае сваю працу ў гэтым кірунку Мікола Мятліцкі. Дарэчы, за сваю новую кнігу паэзіі «Бабчын» ён у 1998 годзе быў удастоены звання лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь імя Янкі Купалы. І, як бачым, ён па-ранейшаму працуе над новымі творамі, сярод якіх многія чарнобыльскай тэматыкі. І піша так, як наўрад ці можа пісаць хто-небудзь іншы. Бо за кожным радком — боль спакутаванай душы. За кожным радком — веданне паслячарнобыльскіх рэалій не па чутках. А ўсё таму, што «прайшоў праз зону». І неаднойчы ўпэўніўся, што «палыновай зямлі дзівасіл», калі любіш гэтую зямлю па-сапраўднаму, здатны надаць сілы і ўпэўненасці.

## *Мікола Мятліцкі*

### НА ПОЛІ СТРАТ

Падступяцца наступнікі-стагоддзі
Няспешлівай хадою, спакваля,
І жніўным днём зашчодра жыта ўродзіць
Тут, дзе ляжыць пад цэзіем зямля.

Блакіт над хваляй пружыстай заднее.
Разлівам руні зноў уп'ецца зрок.
І між сцяблін зялёных засінее
Жыцця нязгасны промень — васілёк.

У жыце будзе сцежка пратаптана
Насустрач шчасцю мройнаму, вясне.
Юнак на ўзмежку поля закахана
Пад зоркамі сяброўку прыхіне.

Пачуе салаўіныя рулады
І сэрца безбаязнага біццё.
І новыя зямныя далягляды
Адкрые тут,
На полі страт,
Жыццё.

ЗМЕСТ

## 1
## СПОЛАХІ ЗАРАНІЦ

## З дарог зоны

Прайсці праз зону. Кн. 2. Проза, паэзія,
П68 публіцыстыка / Уклад. І. Бутовіч. Маст. В. Шкаруба.— Мн.: Маст. літ., 2001.— 558 с., [12] л.: іл.
ISBN 985-02-0517-2.

26 красавіка 2001 года — пятнаццатая гадавіна аварыі на Чарнобыльскай атамнай станцыі, самай трагічнай катастрофы мінулага стагоддзя. У зборнік «Прайсці праз зону. Кніга другая», які з'яўляецца хвалюючым працягам чарнобыльскай тэмы ў беларускай літаратуры, увайшлі лепшыя творы паэзіі, прозы, драматургіі і публіцыстыкі, створаныя аўтарамі пасля многіх вандровак у зону адчужэння аварыі, а таксама творы пачынаючых беларускіх літаратараў, каму працягваць чарнобыльскі летапіс у новым стагоддзі.

УДК 882.6-8(082)
ББК 84(4Беи)6

*Літаратурна-мастацкае выданне*

**ПРАЙСЦІ ПРАЗ ЗОНУ**

Кніга другая

Проза, паэзія, публіцыстыка

Рэдактар
*М. М. Мятліцкі*

Мастацкае афармленне
*А. І. Цароў*

Мастацкі рэдактар
*Л. М. Рудакоўская*

Тэхнічны рэдактар
*Т. М. Сокал*

Карэктары
*Л. А. Дзядзюля, Н. І. Міронvчык*

Здадзена ў набор 13.06.2001. Падпісана да друку 06.08.2001.
Папера афсетная № 1. Фармат $84 \times 108^1/_{32}$. Гарнітура Тып Таймс.
Афсетны друк. Умоўн. друк. арк. 29,40 + 1,26 укл.
Улік.-выд. арк. 29,49. Тыраж 2039 экз. Заказ 1132.

Падатковая льгота — Агульнадзяржаўны класіфікатар
Рэспублікі Беларусь АКРБ 007-98, ч. 1; 22.11.20.300.

Выдавецкае рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства
«Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта Рэспублікі
Беларусь па друку. Ліцэнзія ЛВ № 3 ад 11.09.2000.
220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства
«Паліграфічны камбінат імя Я. Коласа».
220005, Мінск, вул. Чырвоная, 23.

